# НОЧЫ НА ПЛЯБАНСКІХ МЛЫНАХ

## *Містычная аповесць*

> Магчыма, я памыляюся, але мне заўсёды здавалася, што на дарозе, па якой возяць мёртвых, нават трава і дрэвы мяняюць колер.
>
> *Густава Адольфа Бекер*

Гэты дом пабудаваў вар’ят у вар’яцкім месцы.

І не было лепшага дому і лепшага месца ў гэтым вар’яцкім часе.

Агонь дабраўся да срэбнай стужкі, якая далікатна абвівала свечку з белага духмянага воску, выробленага няйначай пчалінай каралевай (хаця не, каралевы не выробляюць воску, нават такога белага). Стужка адразу сціснулася, пачарнела, выяўляючы сваяцтва не з высакародным металам, а з паперай, цярплівай, як прыроджаная паслугачка, і гэткай жа пакорлівай любому гаспадару... Ад яе лісліва пацягнуўся струменьчык чорнага смярдзючага дыму, нагадваючы няшчыры клічнік напрыканцы палітычнага лозунгу.

— І гэта вясельныя свечкі! — дакорліва прамовіла Дарота, гасячы пацямнелай мельхіёравай лыжкай для гарбаты бліскучую паперку і спрабуючы ададраць яе рэшту ад васковага сцябла.— Уявіце сабе, як гэткі дым выглядае падчас вянчання!

— Як папярэджанне наіўным,— змрочна сказаў пан Беларэцкі, лысаваты брунет у акулярах на вяровачках, былы стыпендыят Імператарскай Акадэміі, фальклярыст і аматар прыватнага вышуку.— У кожнай красе падчас выпрабавання вогненнай стыхіяй выяўляецца дамешак... З пахам самага звычайнага, жывёльнага страху за сваё існаванне. А ўрэшце,— пан Беларэцкі павярнуўся ўсёй сваёй худой, нязграбнай постаццю ў бок вакна,— у нас дзесьці быў яшчэ цэлы жмуд пахавальных свечак. Ты, Уладзе, прыносіў...

Высокі юнак з прыгожым ганарыстым тварам, які сядзеў ля акна, апрануты ў паношаны сурдут, азваўся леным голасам, у якім адчуваліся інтанацыі шчырага прыхільніка чытацкае манеры беларускага хлопца з Вільні Шверубовіча (вядомага ў Імперыі як Васілій Качалаў).— Былі недзе і пахавальныя... Пашанцавала ж прайсціся побач царквы, якую пад склад экс-пра-пры-... Госпадзе, гэта ж вымавіць немагчыма... Два пакункі ля камісарскіх калёсаў і

падабраў, няхай Бог даруе. Вясельныя свечкі і пахавальныя. Пахавальныя, здаецца, Даротка ў камоду паклала...

Дарота павярнулася, бліснула вялізнымі цёмнымі вачыма, у якіх калісьці наведвальнікі вечароў Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў бачылі люстраванне вобразаў Рафаэля ды Батычэлі.

— Ніякіх пахавальных свечак! Гэта... Гэта ўжо занадта. У адрозненне ад вас, спадар, тэатральныя эфекты не шаную.

— Спадарыня лічыць за лепшае ўжыць лучыну? — з'едліва прамовіў Улад і дадаў з уздыхам: — Урэшце, калі хто-небудзь з нас не ўладкуецца на працу, пяройдзем і на лучыну.

Пан Беларэцкі пагардліва хмыкнуў наконт самой думкі ўладкавання на працу. За акном плесканулася вада, нібыта дом быў вялізным караблём...

Улад прыціснуўся лбом да шыбы, угледзеўся ў цемру.

— Не спадае паводка...

— Вось і добра...— стамлёна прамовіла Дарота, разліваючы ў парцалянавыя кубкі напой з водарам ядлоўцу, верасу і восеньскіх яблыкаў — і дакладна з названага й звараны.— Значыць, у нас ёсць яшчэ некалькі дзён. А потым...

Яна змоўкла, бо тое, што будзе потым — ведалі ўсе... Дом былога дырэктара рэальнай вучэльні, Даротавага бацькі, драўляны старасвецкі будынак з мансардай і разьблёнымі калонамі, пацямнелы ад часу, нібыта твар рамізніка, забярэ новая ўлада дзеля, вядома ж, справядлівых патрэбаў працоўнага люду. Да апошняга кіраўнікі рэальных вучэльняў не залічваліся. Пан дырэктар даўно перабраўся да сваякоў у Лошыцу, а дачка вырашыла застацца. Зладзіўшы своеасаблівую камуну са сваіх сяброў, якіх час гэтаксама адарваў ад берагоў, загайдаўшы на халодных хвалях... Ды яшчэ бацькаў стрыечны брат, пан Беларэцкі, што з'ехаў з Пецярбургу, пакінуўшы на дарогах ваеннага камунізму валізы, паліто і веру ў справядлівасць, прыбіўся да маладой кампаніі...

Хвалі паводкі ля Плябанскіх Млыноў таксама былі халодныя — Свіслач і Няміга, разліўшыся, ператваралі цэнтр мястэчка ў сапраўдную Венецыю, і човен менчука, звыклага да пераменлівага настрою губернатараў і стыхіяў, слізгаў побач з дахам вагону конкі, які ледзь быў відзён над бруднымі хвалямі... Вось і гэты дом у чарговы раз зрабіўся незалежным востравам — а тыя, што сабраліся тут, умелі цаніць часовую волю... Яны нават адпусцілі па сівернай вадзе адзіны стары човен — каб не было спакусы.

— Наш каўчэг яшчэ не даплыў да Арарату! — з мансарды спускаўся чарнявы хлопец, трымаючы ў руках стос старых газетаў, знямелае рэха старога свету, якое больш аніхто не хоча пачуць.— Таму не забывайце, што маё імя — Ной, і з гэтае прычыны мусіце прызнаваць мяне за капітана.

Ной кінуў газеты на падлогу, і яны, глуха шаргатнуўшы, бяссіла сцішыліся, нібы спадзеючыся пакорлівым маўчаннем выклікаць шкадобу да свайго лёсу.

— На растопку... А дзе там Зося падзелася? Зося! Цябе што, прывіды на мазурку запрасілі?

— Іду, іду... Хвалюешся, як рамізнік ля амэрыканскай клюбы...

Па лесвіцы імкліва спускалася тоненькая рудая дзяўчына ў брунатнай сукенцы, перашытай з гімназічнай форменнай, але зусім не падобная да мігдалавай гімназісточкі — кароткая стрыжка, у прыжмураных вачах — зялёны агонь, як у рыскі, а рукі, такія тонкія і далікатныя — у драпінках, нібыта ад гульняў з капрызлівымі кацянятамі. У руках дзяўчына трымала два бронзавыя падсвечнікі.

— Вось! Хачу, каб у гэтую ноч было светла, як на старасвецкім бале!

Улад памкнуўся быў устаць, каб перахапіць цяжкую бронзу з дзявочых рук, але стрымаўся і знарочыста абыякава ўтаропіўся ў цёмную шыбу.

Як ні пярэчыла цемнавокая Дарота, але пахавальныя свечкі, на гэты раз з жоўтага, як мумія, воску былі знойдзеныя, пазбаўленыя чорных стужак і запаленыя...

Насельнікі дому пасярод паводкі ўселіся вакол стала. Верасовая гарбата, сухары, святло пахавальных свечак і вецер за вокнамі... Што яшчэ трэба маладым, каб забыцца на несправядлівасці віхурнага часу?

— Пан Беларэцкі, раскажыце якую-небудзь жахлівую гісторыю! — папрасіла Зося.

Фальклярыст зірнуў светлымі вачыма з-пад трэснутых акуляраў.

— Чым страшнейшы час — тым прыемней слухаць выдуманыя жахі... Нібыта цемра ў параўнанні з яшчэ большай цемрай на хвілю падаецца святлом. Але ўмова: расказваем усе, па чарзе.

Улад лена запярэчыў:

— А калі я ніякай містыкі не ведаю? І ўвогуле матэрыяліст...

Беларэцкі толькі пасміхнуўся:

— А фантазія нашто, малады чалавек? Вы ж — артыст, у ценю на сцяне мусіце ўбачыць і Атэла, і Жыгімонта Аўгуста... Міфы, паданні, легенды — гэта паветра, якім дыхае кожнае места. Гэта вільготны мох на сценах камяніцаў, што ўспаўзае па іх, нібыта праказа. Павуцінне ў кутах замураваных тры пакаленні таму пакоях, вільгаць, якая па кроплі точыцца з чорнага зводу сутарэння, вымыўшы ў каменнай падлозе яміну, дзе можа схавацца вялізная рапуха... Гэта ўсюдыісна і невынішчальна... Я ведаю выпадкі, калі нехта прыдумваў легенду пра сваё места, а яна спраўджвалася, і ў сутарэннях самавітага купецкага дому выяўляўся замураваны шкілет, а на вежу кожны год, у адзін і той жа час, прылятаў белы голуб...

— І няўжо ў гэтым забытым Богам мястэчку, з маленькімі бруднымі вулкамі ды лужынамі, глыбокімі, што капялюх наглядчыка за могілкамі, дзе ліхтароў меней, чымсьці камяніцаў, вы паселіце рамантычныя легенды? — недаверліва спытаў Ной.— Я вырас тут, але руіны, на якіх мы гулялі малымі, нагадвалі адно пра неахайнасць ды няшчасны лёс укрыжаванага на шляхах гісторыі краю...

Фалькларыст задумна зірнуў за чорнае вакно.

— Неспазнанае зазірае нават праз гэтыя шыбы... Варта толькі ўгледзецца, прыслухацца... Няўжо вы, спадар Ной, ніколі не сутыкаліся з нечым надзвычайным?

Ной узварушыў даланёй кароткія чорныя кудзеры, нібыта прыспешваў ходу ўспамінаў.

— Ну, хіба што гісторыя са старой аптэкай...— няпэўна працягнуў ён.— Але я быў такі малы, што ўсё, відаць, пераблытаў у памяці.

— Усё адно, раскажы! — загадала рудая Зося.— А то строіш з сябе нейкага Базарава. А на тваіх карцінах фарбы казкамі шэпчуцца.

Ной кінуў хуткі позірк на дзяўчыну і наколькі можна было разгледзець у цьмяным святле пахавальных свечак, пачырванеў.

— Ну, добра. Толькі не смейцеся... У гэтай гісторыі я зусім не рамантычны герой, а звычайны непаўналетні блазнюк з мястэчка, у кароткіх штоніках і братавым пінжаку з зацыраванымі локцямі, з процьмай фантазій у дурной галаве...

— Расказвай, расказвай! — прыспешыла Зося, і Ной, вінавата ўсміхнуўшыся рудзенькай гарэзніцы, распачаў...

## Гісторыя пра старую аптэку

Усе ведаюць аптэку ў Траецкім... Тую самую, што па літасцівым прывілеі яснавяльможнага пана Аўгуста III адчыніў у 1748 годзе менскі радца пан Ян Давід Шэйба. Калі я быў малы, і часта бегаў у гэты стары будынак з пазелянелых ад часу камянёў,— здавалася, нібыта яго дасталі з марскога дна,— амаль ніхто там ужо не памятаў былых зельнікаў, што таўклі сухія кветкі і карэньчыкі ў мядзяных ступках, састаўленых на паліцах ля самае столі, ды пераганялі рознакаляровыя вадкасці па рэтортах з тоўстага, нібы калядны лёд, шкла... Мы прыносілі ў аптэку сабраныя па сметніцах, вымаленыя ў гаспадароў пустыя бутэлечкі ад кропляў ды мікстураў, зялёныя, сінія, памаранчыкавыя, праз якія так дзівосна і весела пазіраць на свет, і атрымлівалі свае медзякі, а ахвочыя — яшчэ і расповеды аптэкара Ёсафа... Ён быў ужо такі стары, што гаспадар не дазваляў яму разлічвацца з пакупнікамі — гэта рабіў маладзейшы аптэкар. Здавалася, Ёсаф жыве ў часе талераў і шэлегаў, забыты там, як дамавік у старой хаце. Ніхто не памятаў, калі ён пачаў працаваць у аптэцы, не было ў яго ані сваякоў, ані людзей, якія маглі назвацца ягонымі сябрамі. Жыў у катуху ў аптэчным сутарэнні, з маленькім акенцам ля самай зямлі, забраным кратамі, нібыта ў вязніцы, ды яшчэ заўсёдна завешаным фіранкамі. Паколькі з-за тых фіранак даносіліся розныя дзіўныя пахі, а часам выбіваліся пасмы смярдзючага дыму, можна было зразумець, што Ёсаф і ў сваёй кануры працягваў рабіць лекі. Рукі Ёсафа дробна трэсліся, здавалася, ён прасейваў скрозь пальцы нябачны пясок часу. Але — гэта я ўжо цяпер разумею — яго не звальнялі, бо меў асаблівы дар складаць адмысловыя адвары... Хоць ад прастрэлу, хоць ад меланхоліі, хоць дзеля адбельвання скуры або праяснення розуму нядбайнага гімназіста перад іспытам па лаціне. Як цяпер бачу Ёсафа ў цёмным куце па той бок прылаўка — акуляры, падвязаныя зашмальцаванымі вяровачкамі, вузкі цёмны твар, нібы выразаны мячом, нос у сініх прожылках, запалыя шчокі і падціснутыя ў нітачку вусны, чорная шапачка на лысай галаве, з-пад якой выбіваюцца рэдкія сівыя пасмы, падобныя да пер’яў хворага птаха... Схіліўся над ступкай, старанна расціраe яе змесціва цяжкім таўкачом, дадае, абрываючы з шорсткіх букетаў, падвешаных на сцяне, то лісцік дурнап’яну, то каліўца дзівасілу, то бязважкі пялёстак мечніку, то падсыпае з парцалянавага слоіка шчопаць вохкага парашку колеру мёртвай

вады... Варта было стаць каля старэчы — і ён пачынаў расповед, нібыта твой цень, упаўшы на яго, абудзіў саржавелы, але ўсё яшчэ дзейсны механізм. Расповеды паўтараліся, расквечваліся, пераліваліся дробнасцямі дэталяў, як расшыты перлінамі і каменьчыкамі гарсэт казачнай каралевы... Мы былі малыя і дурныя, і мала што запаміналі, адно падсмейваліся. Найчасцей Ёсаф расказваў пра Яна Давіда Шэйбу, першага ўладара аптэкі, і ягонага зельніка, якога таксама звалі Ёсаф. І вось што я магу згадаць... Паводле расповедаў Ёсафа, быў ягоны цёзка з 18-га стагоддзя смуглявы і чорнавалосы прыгажун, вучыўся свайму майстэрству ў Празе і Сарбоне, і невядома дзе яшчэ... Але, зазначаў са стоеным уздыхам апавядальнік, быў той Ёсаф не надта кемны, бо верыў, што чалавек можа ведаць болей, чым змесціцца ў сявеньцы, і заставацца шчаслівым... Каб нарадзіўся ён рыцарам — слаўны аказаўся б ваяр і кавалер. Але Ёсаф у дзяцінстве бегаў у кароценькай кашулі, босы, па бруднаму бруку мястэчка, і бацька ніколі не ўкладаў яму ў рукі дзяржальна мяча, адно толькі адпаліраваную да бляску ручку шаўцоўскага малатка. Ды Ёсаф, атрымаўшы залаты доктараўскі ланцуг на шыю і аксамітны плашч на шырокія плечы, не хацеў ані пра гэта помніць. Як быццам чалавек можа парваць зрэбную вяроўку свайго роду і ўплесці свой лёс у чужыя бліскучыя карункі. Расказвалі, што нават Аўгуст III, былы курфюст Саксонскі, у бытаванне сваё каралём Рэчы Паспалітае, пасылаў у аптэку Шэйбы па лекі ад атлусцення — яго вялікасць быў азызлы, як перастоеная дзяжа з цестам. Вядома, пагаворвалі, быццам не толькі звычайныя лекі рыхтуе Ёсаф, але ўцямны яму размовы зорак і зёлак, і карона вужынага караля зашытая ў ягоным чорным каптане, насупраць сэрца... І вось неяк на Піліпаўку наведаў Ёсафа яшчэ адзін вяльможны кліент, маршалак і староста менскі Завіша. Здарылася са славутым воем тое самае, што адвеку здараецца з мужчынамі, чые валасы перабблытала срэбнае павуцінне, зморшчын стала болей, чымся шнараў, а сэрца забылася пастарэць. І сэрца сваё гатовы ён быў пакласці пад востры абцасік ластаўкі-каханачкі, каб не баяўся, што яна і наступіць на яго пагрэбуе. Дачка лаўніка гарадскога магістрату Югася мела шаснаццаць гадоў, скуру бялюткую, шчочкі пунсовыя, вочы цёмныя, стан не таўсцейшы за цалю — усё, як вымагала мода часу ад прыгажунь. Здавалася, яна можа прабегчыся па каламутных хвалях Свіслачы, як месяцовы прамень. Адзіная загана мелася — на далікатным, самую крышачку кірпатым носіку штовясну праяўляліся,

як на пялёстку белай лілеі, рабацінкі — ганьба для шляхетнай паненкі. Дзе набываць прыціранні? Вядома, у аптэцы Шэйбы ў Траецкім. І панна Югася была там госцяй нярэдкай і жаданай, і разам з прыціраннямі, парфумамі, памадамі атрымлівала цэлы куфэрак вясёлых Ёсафавых жартаў, дзівосных расповедаў пра васіліскаў ды краснаолюдкаў і нават куртуазныя песенькі — і ад звонкага смеху паненкі, здавалася, узвіхурваліся ў бутэлечках і колбах рознакаляровыя адвары. А на што яшчэ мог спадзявацца бязродны аптэкар, адно развесяліць... Затое ўдовы Завіша меркаваў сябе жаніхом з жаніхоў, тым болей высакародныя шлюбы не дзеля ўзаемнае любові ладзяцца. Але чуткі хадзілі, што трох сваіх жонак замардаваў ён, дый пяцёра дарослых дзяцей, пільнуючых спадчыны, не былі надта вабнай аздобай жаніха. Ды яшчэ, магчыма, панна Югася мела схільнасць да кагось маладзейшага. Вось і звярнуўся Завіша да Ёсафа, каб у прыціранні для паненкі дадаваў прылюбнае зелле. Маршалкам аптэкары не адмаўляюць. Але нешта не дапамагалі зёлкі Ёсафа прысушыць юнае сэрца... Словы паненка сказала заляцанніку ссівеламу жорсткія: маўляў, як не сівізна гэтая, ды не зморшчыны, дык чаму б не палюбіць такога слаўнага ваяра? Але пакуль ён падобны да спечанага яблыка, няхай са свіслачскай русалкай любіцца, бо ў той вочы з туману, усё роўна не разгледзіць як след.

І вось уночы па загаду Завішы прывялі Ёсафа, узнятага проста з ложка, у адной кашулі, у Менскі замак — яго руіны засталіся там, дзе зліваюцца Няміга і Свіслач. Маршалак мовіў адно: не выйдзеш адсюль, пакуль не згатуеш зелле, якое верне мне маладосць. Дарэмна кляўся Ёсаф, што не пад сілу чалавеку павярнуць час назад, і чорныя коні бога Хронаса стопчуць любога, ніводзін смяротны не змусіць іх ступіць убок ад каляіны, выбітай на Шляху Продкаў. Нічога не слухаў Завіша. І ўзяўся Ёсаф за справу. Цэлы тыдзень шчыраваў ён у сутарэннях замка, выходзячы толькі для таго, каб паглядзець з вартавой вежы на зоры, і падслухаць іх размовы, і знізаць прывідныя каралі іх шляхоў... І аднойчы працягнуў Ёсаф маршалку бронзавы кубак, у якім дымілася падобнае да вадкага металу зелле... І не было пэўнасці ў ягоных вачах. Завішу давялося пажыць у каралеўскіх палацах, дзе нават падлога высланая здрадай ды атрутай, і ратуе толькі ўвесьчасная асцярога, і загадаў аптэкару: «Выпі сам. А заўтра, калі зелле не спадманнае, вып’ю я».

Ёсаф асушыў кубак. Аптэкара пасадзілі ў самы далёкі кут сутарэння і паставілі ахову. Назаўтра туды прыйшоў Завіша. І ўбачыў у зыркім святле паходняў, што з каменнай падлогі падымаецца незнаёмы стары... Ад поўначы да поўначы валасы Ёсафа зрабіліся сівымі, скура зжаўцела і зморшчылася, вусны, яшчэ ўчора ўладныя ды пульхныя, сцягнуліся ў нітку, спіна сагнулася...

У страшэнным гневе стаўся маршалак. Дарэмна Ёсаф крычаў, што не вінаваты, што проста не паспеў давесці да ладу свой напой... Завіша загадаў біць аптэкара няшчадна бізунамі і выпаліць на ягонай спіне і грудзях першыя літары ягонага імя і слова «здраднік». І заключыць у вежу да смерці, бо яна, зразумела, такому старэчы ў патыліцу дыхае, як найлепшы кат.

Казалі людзі, што смуглявы Ёсаф сам быў закаханы ў паненку Югасю, таму не дапамог Завішу... Але хіба можна ўсцерагчы шыпшыну на ўзмежку чужога поля? Па навакольных вёсках пайшла пошасць... Выкошвала людзей, як п’яны касар — траву, пакідаючы асобныя лапікі, не разбіраючы, дзе высокія сцяблiны, дзе юныя парасткі... Менчукі ў страху чакалі, калі бяда зойдзе ў горад. Палілі вогнішчы з ядлоўцу і палыну ля брам і на скрыжаваннях, пільна аглядалі кожнага, хто хацеў зайсці ў горад — ці не нясе заразу, або можа сам і ёсць — перакінутая зараза? Месцічы расказвалі, што бачылі пошасць у выглядзе прыгожай дзяўчыны, што махала з могільніка ў бок горада чырвонай хусткаю... Другія сцвярджалі, што яна з’яўлялася як жанчына з каровінымі нагамі на тройцы вараных коней, і чамусьці ўвесь час нюхала табаку з чорнай табакеркі. Іншыя бачылі, як худая кабета, сіняя, як пуп, хадзіла па Свілачы, нібы па сцежцы — ясная справа, у халеру і жаба не квакне, будзе засуха. Нейкую жабрачку забілі камянямі ля Татарскага канца — у небаракі было крывое вока... І шапталіся на Верхнім рынку, і на Ніжнім, і на Малочным, і на Рыбным, што на мастках праз Нямігу, нібыта самы надзейны сродак спыніць пошасць — падпільнаваць, хто захварэе першы, і закапаць яго жыўцом...

Пра тое, што захварэла юная дачка лаўніка, суседзі даведаліся ад прыслужніцы... Назаўтра дзяўчыну хавалі на Залатой Горцы. Чамусьці ў зачыненай труне. Бацькоў на пахаванні не было...

Пошасць усё-ткі прыйшла ў горад, сабрала сваю даніну... І пасля ўжо ніхто не мог дакладна расказаць, як усё чынілася падчас смяротнага страху, які кажа свае законы. Над магіламі ахвяраў пошасці не было ані моцы, ані жадання ставіць знакі... Але над

магілай паненкі Югасі ўсё-ткі паклалі каменную пліту з надпісам: «Цвіла ружа, не дасталася нікому, тольку Госпаду адному».

Усё мінае, прамінула і пошасць... Дамініканцы пранеслі горадам драўляную выяву святога Роха, апекуна захварэлых, аднойдзеную па снабачанні мнішкі ў развалінах кляштара, і жыццё пачало круціць свае жорны... Завіша ацалеў і з'ехаў у Варшаву. Каб праз год памерці на каралеўскім застоллі — шляхціц на балях мусіў піць, пакуль не зможа ўстаць, а ў маршалка і гады, і сэрца хворае... А старым сябе вызнаваць не хацеў. А можа, спадзяваўся заглушыць віном сардэчны боль? Так і зваліўся пад стол з недапітай чараю...

Прамінулі гады. У Менску адчыніліся забітыя дошкамі шыбы выклятых хваробаю дамоў, пацягнуліся на гандлёвыя пляцы купецкія вазы... Успомнілі ўлады і пра вязняў менскага замку. За час пошасці вартаўнікі змяніліся, і цяпер ніхто не ведаў, кім быў старэча ў згнілых лахманах, што невядома як выжыў у цёмных лёхах. Ніхто не памятаў ягонага злачынства, і раз Божы Бізун не пакараў яго, вязня выпусцілі на волю, як пускаюць з ланцуга старога сабаку — паміраць, праганяючы далей ад хаты.

А як ён усе гэтыя гады хацеў памерці! І тады, калі думаў, што здарыцца, калі каханая ўбачыць яго цяперашняга, і тады, калі ведаў, адчуваў, што яна памірае — а ён мог бы выратаваць, калі б апынуўся побач... Любы чалавек на ягоным месцы ўжо даўно памёр бы. Але смерць забылася на Ёсафа, яна быццам не пазнавала яго, як старая класная дама знарочыста не пазнае былога вучня, што некалі скраў ейныя рамантычныя лісты часоў далёкага юнацтва і, рагочучы, зачытаў аднакласнікам... Ёсаф зразумеў, якое зелле ён зварыў, у чым была хіба — яно адбірала маладосць, але давала вечнае жыццё. Навошта?!! Шукаць адказу на гэтае пытанне ў яго ставала часу. Ніхто не ведае, дзе цяпер Ёсаф... Але, хутчэй за ўсё, ён намагаецца знайсці зелле, якое дазволіць яму вярнуць увагу смерці, і сустрэцца з каханай...

Вось такую гісторыю паўтараў з дня ў дзень стары Ёсаф з аптэкі ў Траецкім, і тоўк, тоўк у ступе вохкія зёлкі... Я спрабаваў намаляваць яго вуглем на кавалку кардону, але мне яшчэ не хапала майстэрства. Каб маляваць такіх, як Ёсаф, трэба мець цвёрдую руку і чуйнае сэрца. Я не ведаю, ці валодаю гэтым і сёння. А вось пазней, калі я ўжо хадзіў у студыю да Кругера, адзін раз бачыў сярод карцін настаўніка Ёсафаў партрэт... Аптэкар быў намаляваны ў стракатай усходняй

апратцы, але я пазнаў яго… Настаўнік назваў карціну «Агасфер». Я ніколі пазней яе не бачыў і нічога пра яе лёс не ведаю.

Аднойчы я прыбег у аптэку з чарговымі бутэлечкамі і не пачуў знаёмага пагруквання таўкача. Ёсафа ў куце за прылаўкам не было… Малады аптэкар спакойна паведаміў, што стары гэтай ноччу памёр, яго рыхтуюць да пахавання…

Ці трэба казаць, што я пабег да маленькага падвальнага акенца. На гэты раз фіранкі былі адсунутыя. Першае, што я ўбачыў — цела, што ляжала на стале. У катуху, як я і ўяўляў, грувасціліся бутэлечкі і рэторты, снапы сухіх траў і груды каменьчыкаў, высілася нешта падобнае на перагонны куб. У печцы з прыадчыненымі дзверцамі яшчэ цепліліся вугалі, а на вугалях — я добра разгледзеў гэта, бо печка стаяла ля акна — ляжала трэснутая шкляная пасудзіна з рэшткамі цёмнай вадкасці. Дзве кабеты, жабрачкі з начлежнага дому, якія звыклі падрабляць падобным чынам, пераапраналі нябожчыка па звычаі ў свежую кашулю. Яны сцягнулі з яго вопратку, і… я пабачыў на ягоных грудзях шнары ад апёкаў, якія складаліся ў слова «здраднік». І яшчэ ініцыялы — «І.Д.Ш.»

Ёсафа, па ягоным запавеце, пахавалі на Залатой Горцы. А я паступіў у рамесную вучэльню і перастаў хадзіць у аптэку ў Траецкім.

Ной скончыў свой расповед, і вінавата ўсміхнуўся.

— Ну вось бачыце, нічога асабліва містычнага…

— Значыць, рабацінкі — ганьба для паненкі,— з’едліва прамовіла Зося, дакрануўшыся да свайго носіку.— Ну-ну… Я табе згадаю гэта, Ной, калі наступны раз запросіш танчыць.

— Вось цікава, я таксама калісь забягаўся ў тую аптэку па лакрычныя ледзяшы, але ніякага Ёсафа не памятаю,— прамовіў Улад.— Можа, я проста не пазнаў твайго Агасфера?

Ной гнеўна павярнуўся да сябра:

— Ты што, думаеш, я гэта ў кніжках вычытаў?

Дарота прымірэнча прамовіла:

— Урэшце Улад мог заходзіцца ў аптэку ўжо пасля смерці старога. А дарэчы, калі пашукаць на Залатой Горцы магілу панны Югасі?

— Я шукаў і знайшоў,— спакойна і проста сказаў Ной.— Каменная пліта… Амаль пайшла пад зямлю, у паглыбленнях надпісу вырас мох, і здаецца, што літары зроблены зялёным аксамітным пасакам. «Цвіла ружа, не дасталася нікому, толькі Госпаду аднаму». Больш нічога, ні імя, ні году… А магілы Ёсафа я нідзе не напаткаў, хаця і пахавалі яго не так даўно.

— Цяпер не хапае некалькіх дэталяў, каб расповед можна было залічыць да каляднага,— зазначыў Улад.— Варта, каб прывід Ёсафа з'яўляўся ў куце аптэкі ў Траецкім і тоўк у прывіднай ступе зёлкі... Або каб ступа на верхняй паліцы пачынала звінець у дзень ягонай смерці.

— А на Залатой Горцы пачалі з'яўляцца дзве прывідныя постаці, у абдымку ды са свечкамі,— насмешна прамовіла Дарота.— Кіньце дурное. Гаварыць аб прывідах — наклікаць бяду. Я Ною веру, але — ніякай містыкі. Быў стары аптэкар, выжыў з розуму, блытаў казкі і ўласнае жыццё... Можа, з кантрабандыстамі калісь звязаўся, ці з якімі нігілістамі, вось і зарабіў шнары...

— Хто б мог чакаць ад такой вытанчанай паненкі гэткага рэалізму! — пасміхнуўся малады артыст.

Дарота кінула на яго раздражнёны позірк:

— Ёсць рэчы, якімі не гуляюцца, спадар. Каб не людская дурная цікаўнасць, можа, не было б сёння гэтай паводкі...

— Ага, панна Дарота робіць закіды на нейкую таямнічую гісторыю,— ажывіўся пан Беларэцкі.— Зрабіце ласку, юная гаспадыня, распавядзіце.

Дарота трохі засмуцілася.

— Ну, гэта не мая гісторыя... Гэта расказваў бацька. І тое — каб напалохаць мяне, малую, каб я не капрызіла і не затрымлівалася на панадворку дацямна.

— Раскажы, Даротка! — запатрабавала Зося ў сяброўкі, і тая, кінуўшы насцярожаны позірк на прыгажуна Улада, які падрыхтаваўся слухаць са сваёй заўсёднай упэўненай усмешкай, пачала...

### Гісторыя пра Плябанскія Млыны

Я не ведаю, чаму людзі так любяць страшныя гісторыі. Вядома, усе прагнуць цудаў. Без веры ў цуда душа сляпая, нібы начны матыль. Але вельмі часта ў пошуку незвычайнага мы ляцім, як тыя матылі, не да зор, а на агеньчык свечкі альбо газоўкі... І з тым жа сумным вынікам, што і для сапраўднага матыля. І не трэба пасмейвацца нада мной — я ведаю, што вы і так лічыце мяне занадта... разважлівай. Што зробіш? Я расла ў сям'і настаўнікаў, дзе слова «маральнасць» гучала часцей, чым слова «свята». Усе ведаюць, што паводкі бываюць у нас з-за Плябанскай плаціны. Пабудавалі яе дзеля млыноў... Адзін належыць дамініканскаму касцёлу, другі — архіерэйскаму дому. І закінутыя даўно млыны, але горад так і не змог

прыбраць плаціну, якая ператварае раку ў гніючую сажалку, бо і касцёл, і царква запрасілі за сваю маёмасць гэтулькі, што гараджане паўвека збіралі грошы на выкуп. Але ёсць і іншае вытлумачэнне. Бо калісьці менавіта паўз гэтае месца плыў па рацэ абраз Маці Боскай Менскай... Супраць цячэння, са спаленага Кіева, кінуты ў ваду татарынам. Месцічы знайшлі абраз у Траецкім, бо раніцай над берагам з'явілася дзіўнае святло. Дасюль святыня перахоўваецца ў мінскіх храмах, і апякуецца нашым горадам, і, дасць Бог, будзе апекавацца вечна... Тым больш гавораць, што маляваны абраз рукою самога апостала Лукі. Калісьці княгіня Друцкая, вельмі пабожная, замовіла для абраза дзівосны аклад — са срэбра, упрыгожаны каштоўнымі камянямі. Можна, вядома, разважыць — навошта тыя каштоўныя аклады, калі для верніка галоўнае не бляск камянёў, а лік святога, і Багародзіца не ў кароне і срэбных шатах, а басанож па зямлі хадзіла. Але любая ахвяра, дадзеная з верай і любоўю, не будзе адвергнутая. Нават бедны блазан, які, не маючы што прынесці ў дарунак Прасвятой Дзеве, пачаў паказваць перад ёй сваё грэшнае мастацтва і заслужыў ад яе апладысменты — драўляная скульптура зварухнулася. Так, людзі заўсёды спадзяюцца на цуд. Спадзяваліся і нашыя продкі, калі да гораду набліжалася войска татарскага цемніка Менглі-Гірэя. Але нашыя продкі ведалі і тое, што трэба бараніць сваю радзіму да апошняга. Напярэдадні па горадзе прайшлася пошасць, вояў не хапала, і надзей на выратаванне было менш, чым вады ў прысаку. Жанчыны, і мяшчанкі, і шляхцянкі, шчыльна падвязвалі валасы белымі хусткамі і дзялілі месцы на абарончых валах, дзеці, нават самыя малыя, глядзелі на іх сухімі вачыма і сцягвалі каменні ў кучы — не для гульні, а для абароны. Дымы далёкіх вогнішчаў, быццам хвасты чорных лісіц, хісталіся ля лесу — там спыніліся ворагі. Тады ноччу ў царкве княгіня Друцкая — ці то паводле снабачання, ці так спрарокаваў юрад на паперці, а ў такое верылі неабвержна,— з малітваю дастала з акладу святога абраза чатыры каштоўныя камяні — смарагд, хрызаліт, бірузу і чырвоны карбункул, паклала кожны камень у срэбны куфэрак і паслала давераных людзей, каб тыя закапалі камяні ў чатырох канцах горада. Пакуль тыя камяні будуць у зямлі, ніякі вораг горад не панішчыць. Самы каштоўны і прыгожы, чырвоны, як золак, камень — карбункул — закапалі ля Плябанскіх Млыноў... І горад на той раз ацалеў — прыйшла дапамога... Праўда, зацішак доўжыўся нядоўга. Захоплівалі наш горад рускія, шведы, палякі, немцы... Відаць, прыбралі хціўыя рукі закапаныя святыя

камяні. Але рубін каля млыноў заставаўся... Таму і горад не знікаў, адраджаўся зноў і зноў. Не ведаю, якім чынам, але пра скарб даведаліся. І што б вы думалі? Знайшліся людзі, што пачалі яго шукаць! Некаторыя з-за верніцкага імпэту. Бо невядома было, ля якога млына святая рэліквія: ля таго, што належаў касцёлу, або ля таго, што належаў праваслаўнай царкве. А які гэта быў бы доказ праўдзівасці канфесіі! Абодва млыны дружна малолі муку, адна вада круціла іх колы, і ніхто не дзяліў хлеб на лепшы і горшы ад таго, на якіх жорнах было змолата зерне... Але людзі, пакуль іх не змеле на сваіх жорнах смерць, дзеляцца і дзеляць, і заўсёды знаходзяць падставу для нянавісці. Ну а іншыя, зняверцы, і каталікі, і праваслаўныя, смеючыся над забабонамі, проста хацелі пабагацець. Капалі таемна, крадма, шнырылі ля вадзяных колаў, заглядвалі ў скляпенні, шукаючы срэбнага куфэрку з карбункулам... Але заўсёды былі і тыя, хто даражыў запаветамі продкаў і гатовы быў бараніць святое любой цаной. Таму неаднойчы нараніцу воды Свіслачы прыбівалі да берага мёртвае цела з рассечанай мечам галавой. І пачалі гаварыць, што млыны — месца небяспечнае, што там па начах жыве нячыстая сіла, і вадзянікі круцяць іх колы, не зважаючы на святыя малітвы. Але пра якія млыны так не гавораць? Прайшло дзвесце гадоў ад таго часу, калі княгіня Друцкая дастала з рызы святога абраза чатыры камяні. На адным з млыноў — ніхто не памятае, на якім — шчыраваў пабожны і ціхмяны млынар. Быў ён дужы, як усе млынары, бо лёс іхні — усё жыццё насіць цяжкія мяхі, і, нягледзячы на ціхі нораў, мог абараніць свой млын. І дачка ягоная была ціхмянай і пабожнаю... Мне вельмі хацелася б сказаць, што яна была прыгожай, але гэта не так. Яе вочы былі моцна скошаныя, і млынароўна, відаць жа, лічыла, што лёс яе прадвызначаны гэтак жа, як прадвызначаны ён у разбітага збанка... Хаця што такое жаночая прыгажосць? Вось камусьці з венцаносцаў імпануе тонкі стан, і няшчасныя дзяўчаткі ад маленства зацягваюцца ў гарсэты, аж ссоўваюцца рэбры, і ад немагчымасці напоўніцу ўздыхнуць прыгажуні штогадзіну трацяць прытомнасць... Тым самым пацверджваючы міф, якія яны слабенькія ды пяшчотныя, быццам крылцы матылька... А раней цягам стагоддзяў імітавалі цяжарнасць — бо камусьці з вяльможных паноў спадабалася менавіта гэта... Палюбоўніца французскага караля на шпацыры змацоўвае прычоску карункавай падвязкай ад панчохі — каралю падабаецца, і вось дамы, адна перад адной, грувасцяць сабе на галаву вежы з карункаў, дадаючы каркас з

дроту, кветкі, птушкі... Прычоска — на паўгода, спаць на адмысловых падушках-зэдлічках, часалкі для галавы — ганяць «жыўнасць», не шкодзячы прычоску.

Так што я не ведаю, ці была млынароўна сапраўды такой непрыгожай, як захавалася ў паданні.

Млынар цяжка захварэў... Пасля таго, як вераб'інай ноччу пасядзеў на беразе, замест таго, каб хавацца ад навальніцы і залевы ля хатняга агменю. Такі ўжо быў звычай у млынара — па начах гуляць па беразе ракі. Перад смерцю ён сказаў дачцэ, якая ўчарнела ад гора: «Ты не застанешся адна. І справа мая не загіне. На трэці дзень пасля майго пахавання да цябе прыйдзе жаніх. Ён скажа: «Блаславі цябе маці Божая Менская»... Слухайся гэтага чалавека».

І сталася так. Той, хто раптам пасватаўся да млынароўны, быў сапраўдны шляхціц, рыцар, які прайшоў не адну вайну, увесь у шнарах, як дзверы піўніцы... Шляхціц, які бярэ шлюб з простай ды яшчэ касавокай — гэта было нечуванае дзіва... Адны гаварылі, што жаніх — яго звалі Даніла — звар'яцеў. Нездарма перад гэтым у манастыр прасіўся. Рыцар — ды ў мніхі! Другія казалі, усё ад галечы. Не прывёз Даніла з вайны поўныя рукі сыгнетаў — адны толькі раны... Таму і ў манастыр прасіўся... Так млынароўна атрымала прыгожага і высакароднага мужа. Малілася на яго... Ветрыкам слалася пад ногі. Як быццам бы пакорлівасць можа спарадзіць каханне — яно ж, як іскры, высякаецца пры сутыкненне двух вартых...

Даніла амаль не глядзеў на жонку. Усе ночы праводзіў ён не на ложы, побач з ёю, а на беразе Свіслачы. І меч свой з сабою неадменна браў... І калі часам унізе па цячэнні гайдалі хвалі мёртвае цела бадзягі — каму была справа, хто рассек нябогу галаву? Жыццё чалавечае не каштавала і шэлега... Але млынароўна не задумвалася над гэтым. Яе свет быў — яе любы муж, які не глядзеў на яе. І яна шчыра верыла, што віной таму яе касыя вочы. Так і ўяўляю: ідуць пляцам з кірмашу, наперадзе змрочны плячысты мужчына з упартымі халоднымі вачыма, за ім, укруціўшыся ў плашч і нізка нагнуўшы галаву, дробным крокам спяшаецца жанчына. Яна абедзьвюма рукамі прыціскае да сябе цяжкі кошык, а нехта абавязкова крычыць ёй у спіну дражнілку... І аднойчы, у час першых веснавых дажджоў, калі Даніла вярнуўся пад раніцу на млын, яго чакала жахлівае відовішча: жонка нерухома ляжала пасярод пакоя, уся ў крыві, рука сціскае вострае шыла... А вочы выкалаты.

Упершыню жаль да няшчаснай дзяўчыны крануў сэрца воя... Але млынароўна ўжо схаладнела.

Даніла выйшаў на бераг Свіслачы, дастаў меч і пачаў раскідваць ім вільготную зямлю ля самага млынавога кола... І вось ужо ён стаіць, і поўня робіцца чырвонай ад каменя ў ягоных руках. Размахнуўся Даніла — і кінуў бясцэнны камень у ваду. Хвалі на нейкі момант напоўніліся барвай, потым згаслі, пачарнелі... І раптам узняліся, пагрозна зашумелі...

Так пачалася страшная паводка, якой не памяталі дагэтуль. І тыя паводкі будуць паўтарацца, пакуль на дне Свіслачы ляжыць святы карбункул, чырвоны, як сонца на захадзе, камень...

— Дык усё-ткі пад якім млынам быў закапаны карбункул — архіерэйскім ці касцёльным? — пацікавіўся Улад, які, здавалася б, не вельмі ўважліва слухаў Дароту.

Тая пацiснула плячыма:

— Ніхто не ведае...

У акулярах пана Беларэцкага люстраваўся агеньчык пахавальнай свечкі, нібыта агнём гарэлі ягоныя інтэлігенцкія вочы.

— Цікава, гэта даволі распаўсюджаны ў свеце, так званы магістральны сюжэт. Нешта падобнае я чуў у Англіі, пра тры кароны, якія кароль саксаў загадаў закапаць на ўзбярэжжы краіны — нібыта ў якасці ахоўнага талісману ад нарманаў... Што, дарэчы, не перашкодзіла нарманам захапіць Англію і асіміляваць саксаў.

— Бацька казаў, што ў добрае надвор’е з мосту можна разгледзець, як у вадзе блішчыць карбункул...— задумліва прамовіла Дарота.— І калі-небудзь з’явіцца рыцар, які яго дастане і верне на абраз Маці Божае Менскай...

— Тады спадзе паводка, і сюды заявіцца камуністая навалач,— здзекліва прамовіў Улад.

— Чаму адразу «навалач»? Не трэба агулам абражаць людзей, якія змагаюцца за добрую ідэю,— ускінуўся Ной.— Ідэя рэвалюцыі справядлівая. Няўжо ты хацеў бы, каб тут раскашаваліся чарнасоценцы з нагайкамі? Проста кожная добрая ідэя, нібы карабель — ракавінамі, абрастае дурнямі, якія ўсё псуюць.

— Вось гэтыя дурні і выставяць нас на вуліцу... А мяне яшчэ і расстраляюць, як сына арыстакрата...— дадаў Улад.

Зося фыркнула:

— Таксама мне, вялікі арыстакрат твой бацька... Начальнік паштовага аддзялення, чыноўнік дзясятага класа... А што, палякі, якія за адно беларускае слова садзілі, або немцы, былі лепшыя за тых камуністаў? А можа, твае эсэры, з якімі быў звязаўся? Добра, бомбу кінуць ні ў кога не паспеў...

Пан Беларэцкі здзіўлена зірнуў на маладога чалавека.

— Вы былі эсэрам?

Улад прыкусіў губу.

— У эсэраў свае вартасці... Прынамсі, усё сумленна — навалач мусіць адказваць за свае гнюснасці... А ў бальшавікоў я і сам паверыў быў — пакуль не разагналі наш з’езд.

Ной упарта патрос галавой.

— Вось пабачыш, усё наладзіцца! Прынамсі, не будзе такога, як было — калі я, габрэйскі хлопчык, каб паступіць у гімназію, мусіў вывучыць літаральна на памяць дзесяць падручнікаў, каб не даць сябе «зрэзаць»...

Улад сумна ўсміхнуўся.

— А помніш, як мяне выкладчык граматыкі лупіў лінейкай за тое, што я назваў сябе беларусам? А пасля, дома, яшчэ і бацька дадаў... А я проста ўбачыў выступленне трупы Буйніцкага, і зразумеў, што гэта — маё, мая мова, мой народ... Настаўнік у школе крычаў, што я мушу ганарыцца тым, што я — рускі. А бацька крычаў, што мы — палякі, народ слаўны і горды. А я паказваў яму нашу сямейную рэліквію — прывілей на маёнтак, падпісаны каралём Жыгімонтам Аўгустам, чытаў: «І датоле дзяржаці з ласкі гаспадарскай маець за ўласным вызнаннем».., і пытаўся: якая гэта мова? Польская? Руская? І сышоў з дому. Бо займеў тое, што даражэй за любое багацце — радзіму...

— Та-ак, не хутка яшчэ прагучыць адказ на словы Купалы «Ці доўга будзе нам заломам Варшава панская і царская Масква»...— прагаварыў Андрэй Беларэцкі.— Мы ўсе хутчэй жывем паводле слоў Гарэцкага: «Я ня ведаю, хто мне свой і хто чужы. Я дзяржуся дзікога неўтралітэту і ашукваю тых і гэтых і самога сябе... І адна палова яго, каторая разумела белых, маўчала, зьнямела. І другая палова яго, каторая разумела чырвоных, вымагала...»

— Не разумею гэткіх хістанняў,— прамовіла Зося.— Гэта ўсё ад лішку. Ад багацця... Хаця... здараюцца выключэнні. Вось карбункул, пра які расказвала Дарота... Патрымаць у руках такі камень — гэта вартае, можа быць, усяго жыцця!

Ной, пачырванеўшы, вымавіў:

— Калі б ён толькі існаваў, я б паспрабаваў дастаць яго для цябе.

— Ты і плаваць не ўмееш, спадар,— перабольшана ласкава вымавіў Улад.— Але патануць табе не давядзецца: Даротка ў нас выдумшчыца.

— Так, шкада, што гэта толькі казка...— расчаравана прагаварыла Зося.

Дарота кінула хуткі позірк на Улада, моўчкі павярнулася і сышла ў іншы пакой.

— Пакрыўдзілася, ці што? — недаўменна прагаварыў Улад.

Між тым дзяўчына вярнулася і, ні на кога не гледзячы, паставіла на стол маленькі куфэрак з пацямнелага ад часу срэбра.

— Вось... Бацька казаў, гэта знайшлі, калі будавалі наш дом.

Пан Беларэцкі першы ўзяў у рукі рэліквію.

— Ну і ну... Шаснаццатае стагоддзе. Няйначай... І герб, калі я не памыляюся, Друцкіх...

Фалькларыст адкінуў вечка.

— Так, тут мог знаходзіцца камень... Або пярсцёнак... Нешта невялікае і каштоўнае.

Моладзь згрувасцілася, зазіраючы ў куфэрак, унутры якога з чатырох бакоў былі прымацаваныя драты, якія, падобна, мусілі ўтрымліваць у цэнтры нешта невялікае.

— Значыць, карбункул існуе! — ускрыкнула Зося, і водсветы полымя свечкі заскакалі ў яе зялёных вачах, быццам вадзяныя зоркі ў вачах русалкі.

— Я скажу, што было насамрэч...— прагаварыў пан Беларэцкі, крывячы тонкія вусны.— Быў старажытны куфэрачак... І буйная фантазія майго сябра, твайго, Дарота, бацькі, які лічыць, што задача творчага чалавека — ствараць міфы для сваёй радзімы, каб рабіць яе гісторыю цікавай. Нібыта яшчэ адна казка дапаможа вярнуць залаты век.... Які, аднак, быў і залаты, і крывавы, і попельны... Попел менскіх пажарышчаў таксама дадаўся да крыві тае эпохі.

— Калі хочаце ведаць, я сама бачыла, як блішчыць чырвоны камень якраз насупраць віхлы, што там, на беразе, пад мастом...— у голасе Дароты звінела крыўда.

— За гэты час любы камень апынуўся б пад тоўстым слоем твані,— заўважыў Улад.

Але Зося капрызліва ссунула бровы.

— Вось цудоўнае выпрабаванне для якога-небудзь рыцара, які спадзяецца заслужыць любоў сваёй дамы!

Ноя нібы падкінула спружына.

— Я дастану гэты камень!

Улад падняўся няспешна і нібыта лена, але ў ягонай худой паставе адчувалася ўпартая сіла.

— Калі нейкае чырвонае шкельца і ляжыць на дне гэтай рачулкі, яго знайду я.

Дарота прыціснула далоні да вуснаў, з адчаем гледзячы на артыста... А Зося... А Зося раптам рассмяялася — і не было літасці ў яе смеху... Бо не ведае літасці дзяўчо, якое ўпершыню, са здзіўленнем і таемнай радасцю, адчула сваю ўладу над моцнымі мужчынамі.

Цёмныя вочы — Ноя і сінія — Улада сутыкнуліся... Як спрадвеку сустракаліся позіркі двух, якія кахаюць адну... І якія ўпершыню гэта зразумелі.

— Ага, давайце на пошукі, уюнашы, у ноч, у холад і ў дзівосны час дыктатуры пралетарыяту,— насмешны голас пана Беларэцкага прагучаў, як халодная вада на галаву бuяша.— А вы, паненка, асцярожней з фантазіямі...— У словах фальклярыста, звернутых да Зосі, адчуваўся метал.— Не з усім на гэтым свеце можна гуляцца. Паверце мне, як старому чалавеку...

Рудавалосая гарэзніца трохі збянтэжылася, нават у святле пахавальных свечак была заўважная чырвань на яе шчоках.

— Падумаеш, а што я такога сказала... Ды не трэба мне той карбункул...

Пан Беларэцкі ўжо не ўсміхаўся.

— Гісторыя ведае выпадкі, калі дастаткова было слова, і гарады патаналі ў крыві... Дарэчы, каб не цноты адной юнай менчанкі, у нашай ратушы не было б і прывіда...

Улад і Ной перасталі свідраваць адзін аднаго позіркамі, сумеліся і нават прыселі, здагадаўшыся, што зараз пачуюць чарговую страшную гісторыю. Абодва стараліся не глядзець на Зосю, толькі Дарота кінула на сяброўку пякучы позірк і задала спакойнае пытанне:

— Але ж, пан Андрусь, у Менску няма ратушы... Яе даўно зруйнавалі.

— Ведаю...— Пан Беларэцкі адкінуўся на крэсле, нібыта рыхтуючыся чытаць доўгую лекцыю.— Зруйнавалі ратушу па асабістым загадзе Мікалая I, каб не нагадвала гораду пра Магдэбургскае права ды былыя вольнасці... Але ж месца, дзе яна стаяла, у часе і прасторы не змяняецца... І захоўвае памяць пра былыя падзеі.

## Гісторыя пра Менскую ратушу

А здарылася гісторыя, пра якую я вам распавяду, у авантурным 18-м стагоддзі, як яго вычварна мянуюць, «век плашча ды кінжала»... У беларускім звычаі была шляхецкая шабля. Або шастапёр — булава, якой раструшчвалі на двубоях косткі. Страшнейшая, чым меч, зброя. Бо згодна традыцыі, пакуль не паказвалася дастаткова крыві — гэта значыць, каб Нямігай лілося,— двубой не перапынялі. А ад удару булавы крыві мала. Вось і ўзнікла, так бы мовіць, пакаленне прабітых чарапоў... Аднымі з характарных асобаў эпохі, безумоўна, былі браты Валадковічы, нашыя землякі — адсюль, з Меншчыны. Асабліва даўся ў знакі сучаснікам Міхал — піток, буяш, дуэлянт і аматар жаночага полу... Не дзіва, што ў магната Кароля Радзівіла зрабіўся Валадковіч улюбёным сябрам і таварышам па ігрышчах ды несамавітых выхадках. І ніхто не насмельваўся пярэчыць гэтаму боўдзілу і прапойцу, бо з Радзівіламі вадзіцца — усё роўна што цалавацца з Пацалуйным мостам у Траецкім... І вось напярэдадні Святадухава дня, які завецца ў нас Дзяды, Валадковіч праязджаў праз Менск, пакінуўшы гораду на памяць разгромленую карчомку і трох параненых шляхціцаў-менчукоў. Вечарэла, і коннік спяшаўся выехаць за гарадскія вароты, каб да змрочнага лістападаўскага вечара даехаць да бліжэйшай падарожнай карчмы. Дзесьці напрыканцы Зыбіцкай вуліцы, якраз там, дзе Свіслач робіць пятлю, стаяў каменны двухпавярховы дом з высокімі зялёнымі аканіцамі, якія заўсёды былі зачыненыя. Расказвалі, што калісьці ў гэтым доме жыў купец з прыгожай дачкой. Да дзяўчыны сватаўся бедны шляхціц, і, не ведаю, як ужо акрутна трэба было ўчыніць з тым хлапцом, але напярэдадні яе вяселля з іншым — багатым — адвергнуты кавалер схапіў дзяўчыну ў абдоймы і разам з ёю ўтапіўся. Пасля будынак выкупіў іншы купец, і хаця калядоўшчыкі, валачобнікі, жабракі і мніхі, шчыруючы на вялікія святы, ні разу не атрымалі з гэтага дому і найменшай міласціны, час ад часу з-за зачыненых аканіцаў даносілася музыка і гукі вясёлай бяседы. Паколькі магістрат лічыў, што тут усё ў парадку, ніхто і не думаў соваць нос за суседскі плот... Тым больш дом карыстаўся не вельмі добрай славай.

Дык вось, ехаў Зыбіцкай вуліцай Міхал Валадковіч з двума амантамі-сябрукамі. Шапка набакір, дыяментавы «гуз» ззяе, як поўня, рука ў бок упіраецца, але гатовая вокамгненна ўхапіцца за дзяржальна шаблі — вось яна, найлепшая сяброўка шляхціца, дрэмле

ў похвах, як маланка ў хмары, не ўгадаеш, не ўпільнуеш, калі зблісне прагай крыві. Калі ў доме з зялёнымі аканіцамі расчынілася акно, рука пана Міхала дакранулася да дзяржальна, але тут жа пацягнулася да шапкі — пачціва прывітацца, як і належыць шляхціцу... Бо з вакна глядзела на Міхала самая прыгожая жанчына з усіх, якіх ён калі-небудзь бачыў... А бачыў ён усялякіх прыгажунь — і ў Варшаве, і ў Вільні, і ў Нясвіжы... У апошніх промнях вечаровага сонца бледны твар незнаёмкі свяціўся, як снег. Зялёныя вочы насмешна пазіралі з-пад тонкіх, выгнутых, як абрысы крылаў чаіцы, броваў, і замест напудранага парыка галаву панны вянчала ўкладзеная каронай чорная каса. І сукенка была чорная, з дарагога тонкага аксаміту. Паненка, не хаваючыся, пільна разглядала рыцара, з чаго той выснаваў, што райская птушачка ляціць проста ў сіло. Пан Міхал ужо трымаў у роце, як перліну, першае галантнае слова, але прыгажуня гучна вымавіла с неверагоднай насмешкай:

— Страхаморца!

Што азначала не больш, не менш, як баязлівец. І зачыніла акно.

Пан Валадковіч нейкі час выяўляў з сябе хвашчоўскага ёлупа, не ў змозе ўцяміць абразу. Яго — яго! — назваць баязліўцам! І хто? Белагаловая! (так, спадарства, у Вялікім Княстве называлі ўсіх кабетаў, нават з такімі чорнымі валасамі, як у дзёрзкай незнаёмкі з вуліцы Зыбіцкай). У абразы былі сведкі — два аманты Валадковіча з некаторай трывогай чакалі, у які «няіставы» ўчынак выплюхнецца ягоны гнеў. Першае, што зрабіў пан Міхал — пачаў з лаянкай калаціць у вароты злашчаснага дому. Але за высокім, абабітым жалезнымі палосамі, плотам не было ані гуку, ані руху. Дом стаіўся, нібыта ў ім валадарыў пыл. Дый што паробіш, калі і адчынілі б — на двубой выклікаць дурную кабету? У вачах Валадковіча яшчэ свяціўся яе па-незямному прыўкрасны твар, і голас — як звон дамаскага ляза...

Пачынала цямнець, і пан Міхал паддаўся на ўгаворы і адправіўся прэч з праклятага гораду... Але прага помсты кроіла ягонае сэрца. Калі не можа ён узяць уладу над прыгажуняй, возьме разам з ейным горадам! Не адгародзіцца ніякімі платамі.

І вось жаўнеры сардэчнага Міхалава сябра Караля Радзівіла ў Менскай ратушы, у зале, дзе сабраўся магістрат... І паны радцы, стойваючы гнеў, прымаюць «баламута» Валадковіча ў кіраўніцтва горадам...

Дунін-Марцінкевіч не дарэмна пісаў, што Менск наш скрозь весяленькі... Дадаў Міхал Валадковіч весялосці нашаму месту. Ніхто

не адчуваў сябе абароненым — ні прыгожая паненка, ні пан суддзя, ні нават ксёндз у касцёле... Не тое, што мужыку ці мешчуку, але і шляхціцу мог загадаць на месцы сто і адну нагайку ўсыпаць — норма такая ў Валадковіча была... Ксяндзу Аблачынскаму адпомсціўся за тое, што той выкрываў у Марыінскім ягонае п'янства — прывёў падчас імшы на плошчу цыганоў з медзвядзямі ды малпамі, ды выкаціў бочку віна... Вось табе і казань атрымалася — як піша Крашэўскі, «нешта звінела, бубнела, мэкала, трубіла, пішчэла, смяялася самымі нязвычнымі галасамі». Не баяўся пан Валадковіч нікога, нават Госпада... Аднойчы секануў мечам па стале, за якім засядаў менскі суд, ды распяцце рассек... Мніхі-дамініканцы на пахаванне ішлі — насілкі адабраў, музыкам загадаў граць пахавальны марш, а сам ішоў і спяваў... Але гучней за цыганскія спевы і барабаны гучэў у ягоных вушах пагардлівы голас: «Страхаморца!» Вядома, шукаў Валадковіч тую прыгажуню... І не ведаў, што яму больш прынесла б задавальнення — збіць яе альбо абняць? Яна ж дакладна тут, у горадзе... То на імшы ў прытворы на імгненне свяціўся яе бледны твар, то ейны сыльвэт мільгаў за вакном ратушы... Валадковіч кідаўся — але ніколі не мог яе дагнаць. Нічога, калі назірае — значыць, неабыякавая... Няхай пэўніцца, што нічога на свеце не баіцца Валадковіч. Таму, калі пана Міхала ў чарговы раз паклікалі на суд у ратушу, а дабразычлівцы паслалі папярэдзіць — радцы згаварыліся асудзіць на горла, да смерці, Валадковіч не захацеў уцякаць, не схацеў нават папярэдзіць свайго магутнага апекуна... Ён прыйшоў на суд, і паводзіўся яшчэ больш буйна, і мільгацелі за спінай стрывожанага натоўпу зялёныя вочы... Калі буяша скруцілі і прыкавалі ланцугамі да сцяны ў скляпенні ратушы, ён лаяўся і жартаваў... І ў нянавісці суддзяў меўся дамешак страху, як у старым віне — корсткі прысмак дубовай драўніны, з якой была зробленая бочка... Нават калі прыйшоў той самы ксёндз Аблачынскі, каб паспавядаць асуджанага перад смерцю — той не пажадаў каяцца, страшэнна лаяўся і блюзнерыў, нібыта лічыў усё, што адбываецца, дурным жартам. На нейкі час злачынцу пакінулі аднаго. І тады да яго прыйшла Яна... У цёмнай сукенцы, з укладзенымі на галаве чорнымі косамі, быццам карона царыцы ночы, і з такімі дзёрзкімі зялёнымі вачыма, што Валадковіч, можа, упершыню ў жыцці адчуў, як сэрца слабне ад чужога пагляду... Яна падышла блізка-блізка, угледзелася ў твар палоннага і ціха, заспакоена прамовіла:

— Ну вось, і скончыліся твае страхі. Цяпер ты будзеш маім.

Валадковіч забыўся нават на тое, каб запярэчыць, што ён не ведае страху, ірвануўся ў ланцугах, каб абняць прыгажуню, яе косы ўпалі ўніз, самі расплякліся чорнымі хвалямі, у іх мільганулі зялёныя стужкі... Ці сцяблінь? Вусны наблізіліся да вуснаў... Якая яна халодная... Як зімовая вада. Вочы, у якія апантана зазіраў Валадковіч, пачалі глыбець, як віры, іператварыліся ў прагалы... Цёмныя, як раскапаная магіла. Пах вярбены змяніўся пахам рачной цвілі... І рыцар нема закрычаў, бо гэта было страшней за смерць.

Тыя, хто прыйшоў расстрэльваць адчайнага шляхцюка, расказвалі, што ён чамусьці быў увесь мокры — нібыта на яго лінулі вадой з вядра... І нібыта ўзрадваўся прыходу катаў... І смяяўся, нават калі першая куля патрапіла ў ягоныя грудзі.

Ніякай жанчыны ў сутарэннях, дзе адбыўся патаемны і хуткі расстрэл, вядома, ніхто не ўбачыў. Пасля пачалі расказваць, што дух пана Міхала адправіўся на вышэйшы суд нераскаяным і не можа пакінуць зямлі... І ягоны прывід сумна паглядаў з вокнаў ратушы цягам стагоддзяў... І калі тую ратушу нашыя нашчадкі адбудуюць — ён зноў будзе там.

Пан Беларэцкі скончыў аповед і пацягнуўся да кубка з астылай гарбатай.

— Ну а зараз пан Андрусь стане нас запэўніваць, што дзяўчына, якая абразіла Валадковіча, была свіслацкай русалкай,— насмешна пракаментаваў Улад.

Фалькларыст паставіў кубак на стол і паважна адкінуўся ў крэсле.

— Каментаваць міфы як рэальныя падзеі нельга,— прамовіў ён павучальным тонам,— адзінае, у чым я перакананы, што ў аснове кожнага міфа, падання, легенды сапраўдныя падзеі, але часта скажоныя да непазнавальнасці, як адлюстраванне ў імклівым ручаі. Страшэнная трагедыя ператвараецца ў вясёлую казку пра Калабка. І, наадварот, за самымі таямнічымі і рамантычнымі легендамі хаваецца нешта будзённае і нават камічнае. Ведаеце, гэтак ідзеш па лясной сцежцы і бачыш проста перад вачыма дзівосныя каралі з напоўненых залатым святлом перлінаў... Аж сэрца зойме ад незямной прыгажосці. Прыгледзешся — а гэта звычайнае павуцінне, пакрытае расой... Ды яшчэ дохлая казюрка ў ім вісіць.

— Ну, наконт дохлай казюркі замест рамантычных караляў гэта мы ўсе спазналі...— прамармытаў Улад, і чуйнае вуха Зосі ўлавіла за

няўцямнымі словамі таямніцу, як вопытная гаспадыня па першым вуркатанні вару пазнае, што гарбату трэба здымаць з агню.

— Уладзе, ану расказвай, што зараз успомніў! Мы ж дамаўляліся — ніхто не адмаўчыцца.

Малады чалавек паціснуў плячыма:

— Вы будзеце расчараваныя. Ні двубою за чароўную даму, ні сустрэчы з прывідам я не перажыў. Мая гісторыя, вядома, будзе тэатральная.

### Гісторыя пра начны спектакль у Менскім тэатры

Здарылася гэта са мною, калі я яшчэ свята верыў у рамантыку і ў тое, што тэатр — сапраўдны храм. Я пасварыўся з бацькам і сышоў з дому. Два гады заняткаў у студыі давалі падставу верыць, што жыццё маё складзецца цікава і слаўна, не горш, чым у маленькага, аднойдзенага сапраўднымі бацькамі, лорда. Тады ў нашым гарадскім тэатры іграла антрэпрыза пана Г. Не самая горшая, як я пасля ўпэўніўся, але і нічым не лепшая за іншыя местачковыя трупы. Герой-палюбоўнік з увесьчасна напудраным тварам і завітымі, як у Антыноя, кудзеркамі (ён паласкаў горла мятнай мікстурай — дзеля прыемнага паху і мяккасці голасу); гераіня, падобная да высушанага аеру, у якім жыве крыклівая птушка бугай; субрэткі з вуснамі сардэчкам і марай пра шчодрага і непатрабавальнага купца першай гільдыі; комік з фіялетавым носам; сівагаловы «высакародны бацька» з надзвычайным уменнем лаяцца з дапамогай медыцынскіх тэрмінаў, кшталту «Ах ты клісцір няшчасны, трахеатамію тваю перытаніт»... Гэта быў свет штучны і прыўкрасны, грубы, прыніжаны — і высокі. Свет блазнаў і фігляраў, далучаны да вышэйшых ісцін. Касцюмы іспанскіх грандаў з грубага паркалю, упрыгожаныя распушанай вяроўкай і апырсканыя залатой фарбай... Кардонны месяц на прэнце і сасновая вада, якой палівалі сцэну перад кожным спектаклем, каб не ўздымаўся віхурай вечны пыл... Я блытаўся за кулісамі, стараючыся як найчасцей патрапіць на вочы рэжысёру, пану Рэўзару, мажному, як старасвецкі буфет, дзядзьку з неверагодна пышнымі вусамі і сінім аксамітным бантам замест гальштуку, і быў неверагодна шчаслівы, калі мне давяралі патанчыць у натоўпе нямецкіх сялянаў, што сустракалі свайго герцага з крыжовага паходу, альбо пастаяць з пыльным, як вясковая дарога ў сухмень, апахалам ля трона ўсходняга цара. Атрымліваў я такія капейкі, што каб не пусціў мяне

таварышаваць Арцёмка Растаргуеў, артыст на другіх ролях і горкі прапойца, туліўся б я ў начлежцы ў Траецкім… Так, са шкляным богам здраджвалі пані Мельпамене многія ейныя служкі… Трупа страчвала чальцоў, як рота на поле бойкі. Тым больш час быў трывожны, пачыналася вайна, у горад увесь час сцягваліся вайсковыя часткі, што давала тэатру публіку, але не дадавала веры ў будучыню. Адсутнасць тае веры спраўджвалася знікненнем у горадзе цукру, солі і мукі. Нават свечкі стала не купіць… Некалькі артыстаў мабілізавалі… Мне было сямнаццаць, але выглядаў я на ладнага дзецюка. І мне паступова пачалі даручаць ролі са словамі. Што, акрым гонару, давала права на атрыманне дадатковага селядца ў пайку. Божа, як я ганарыўся і хваляваўся, як ночы цалюткія паўтараў ролю перад люстэркам… Асабліва мне падабалася іграць ролю вартавога ў «Гамлеце». Таго самага, які распавядае прынцу аб з'яўленні прывіда. На гэтым мой удзел у спектаклі не заканчваўся, я мяняў бутафорскую кірасу на камзол альбо расу і ператвараўся то ў прыдворнага на каралеўскім бале, то ў мніха, які ідзе за труной Афеліі, то ў воіна, які прыехаў з таямнічым Фартынбрасам… Адзін раз я нават быў самім гэтым Фартынбрасам, калі выканаўца ролі прыняў у антракце кактэйль, адным з састаўных якога была высокаякасная старадарожская самагонка. Вядома, я марыў пра славу… Ну не можа быць, каб ніхто не звярнуў увагу, як я раскаціста вымаўляю «р» у слове «пр-рашу» і горда закідваю галаву… І калі аднойчы мае марэнні спраўдзіліся, я нават не здзівіўся. Самавіты пан з чорнымі, завітымі ў колцы вусікамі, у такім элегантным шэрым касцюме ангельскага сукна, што, здавалася, сышоў з паштоўкі, пасля чарговага прадстаўлення перахапіў мяне за кулісамі з кампліментамі майму артыстычнаму тэмпераменту і тонкаму псіхалагічнаму малюнку ролі… Незнаёмец размаўляў па-руску з лёгкім акцэнтам. Чарнявы, тэмпераментны… Француз? Італьянец? Іспанец? Вядома, у душы я з усім, што прамаўляў мой гарачы прыхільнік, пагаджаўся, хаця дзесьці на ўскрайку свядомасці сядзеў, як ушчэнт збяднелы карчмар на ганку пустой карчмы, сумніў: ці праўда ў маім «пр-рашу…» вібрыравалі сусветныя эфіры? Але мы, нават пасталеўшы, ахвотней верым у прыемнае, чым ва ўласныя сумнівы.

— Ці хочаце вы, малады чалавек, сыграць Гамлета?

Ну хто б у сямнаццаць гадоў ад такога адмовіўся! Верагодней карасцелю адмовіцца ад яловых шышак, а гарадавому ад гербавай бляхі. Але далей пачалося дзіўнае. Мяне прасілі сыграць гэткі

монаспектакль, прамовіць самыя знакамітыя маналогі дацкага прынца, і не дзе-небудзь у прыватным тэатрыку, перад клумбай-жонкай і прышчавымі пляменнікамі, а тут, на сцэне тэатра... Але — уночы. Памяшканне будзе дзеля гэтага выкупленае ў дырэкцыі. Публікі чакаецца не шмат, але самая што ні на ёсць выкшталцоная і дасведчаная. І за гэта — сто рублёў ганарару. Шалёныя грошы. Здаралася, увесь збор нашай трупы за вечар не дасягаў гэтае мяжы. Укладзеныя ў маю руку дваццаць пяць рублёў авансу падбадзёрвалі, просьба нікому не расказваць пра меркаваны начны спектакль выглядала адкрыта падазрона, быццам курыныя пер'і на пысе хатняй коткі. Вядома, усё тлумачылася маім талентам, ад якога знаўцы хочуць атрымаць асалоду без усялякіх перашкодаў.

— Гэта ваш вялікі шанец, малады чалавек! — даверліва сакатаў вусаты пан.— Згаджайцеся! Запэўніваю, што ніякага злога замыслу тут няма, і ні ў якую ганебную справу вас не ўцягваюць. Ну, вы ж прыроджаны артыст!

І сунуў мне яшчэ дзесяць рублёў.

Я вярнуўся ў свой катух на Францысканскай. Мой таварыш валяўся на ложку п'яны і ціхі, як фаршыраваная рыбіна. Я хадзіў з кута ў кут, быццам навязаны баранчык, і мроіў, нібыта ў гарачцы. То закулісны пан бачыўся мне падступным Мефістофелем, то высакародным Гарунам-аль-Рашыдам... Нарэшце я схапіўся за томік Шэкспіра, як касцельная дэвотка за ружанцы, і паспрабаваў уявіць сябе Гамлетам... І — уяўленне зацягнулася да апоўначы... Цяпер мне проста невыносна карцела паказаць камусь дасведчанаму ўсе гэтыя аднойдзеныя позы і інтанацыі, усе жывапісныя драпіроўкі плашча, замест якога я выкарыстаў коўдру... У дзверы пастукалі. Не стану хаваць — я скалануўся ад містычнага жаху. Арцёмка замыкаў, закруціўся на ложку... Я не стаў яго растурхваць, тым больш лягчэй было прымусіць размаўляць качан капусты, і, набраўшыся смеласці ад Гамлета, расчыніў дзверы. Так пачаліся мае начныя прыгоды.

Да тэатру мяне давезлі ў закрытым экіпажы, пустым, як галава субрэткі, але з абабітымі аксамітам сядзеннямі. Я крадма вышукваў дзе-небудзь выяву герба — вядома, каралеўскага або, на горшы выпадак, княскага, але акрым вытанчаных раслінных арнаментаў з мосенжу не знайшоў нічога адметнага. У такіх карэтах герояў звычайна выкрадаюць... Але мяне высадзілі на прыступках тэатра, і зараз жа падхапіў пад локаць вусаты знаёмец.

— Мы вельмі вам удзячныя... Хутчэй, хутчэй, рыхтуйцеся...

Мы амаль подбегам увайшлі ў будынак, там да нас кінулася дама ў сукенцы з чорнага шоўку, з валасамі, таксама падобнымі да чорнага шоўку. У цьмяным святле газавай лямпы, якая асвятляла калідор, я разгледзеў тонкія арыстакратычныя рысы... І зноў думкі пра таемнае жыццё князёў і каралёў палезлі ў галаву. Вялізныя цёмныя вочы жанчыны блішчэлі незразумелай трывогай, ледзь не адчаем. Яна хутка загаварыла высокім голасам, які, здаецца, перарываўся ад гора. Вусаты адказаў ёй... Ну вось хоць гэта высветлілася — італьянцы! Я разбіраў асобныя словы, якія заселі ў памяці з оперных арый: «далорэ» — здаецца, боль... «падрэ» — бацька, альбо, можа, святар, «рагацца» — хлопчык... Гэта што, пра мяне? Ну так, пра мяне... Дама змоўкла і пачала з недаверам вывучаць маё аблічча, можна было б сказаць, бесцырымонна, каб не тая трывога і горыч, якія ахутвалі незнаёмку, як водар куста язміну. Італьянка нешта спытала ў вусатага, я зразумеў, сумняецца, ці спраўлюся. Але вусаты энергічна замахаў рукамі, паляскаў мяне па плячы. «Сі, сі...» Залапатаў нешта, напэўна кшталту «Самае тое, не бойся, хлопец-ураган»...

Дама, перырывіста ўздыхнуўшы, сышла, кінуўшы мне на развітанне дзіўны позірк, адчайна-ўмольны, і вусаты пацягнуў мяне далей.

— Толькі, вельмі вас прашу, нічым сябе не стрымлівайце. Дайце волю свайму тэмпераменту, грайце ў поўную сілу, імправізуйце! — мармытаў мой спадарожнік мне на вуха, і я пачынаў патроху шалець ад усяго гэтага.

За кулісамі мяне чакала адчыненая грымёрка першага героя і касцюм дацкага прынца.

Электрычнасць у тэатры не была ўключаная, і сцэна асвятлялася, як даўней, свечкамі. Ніколі не забуду гэты спектакль. Наўрад мне ўдасца перажыць калі-небудзь такое неверагоднае хваляванне і натхненне, падагрэтае небяспечнай таямніцай. Я вылецеў у прывіднае святло сцэны, адчуваючы сябе Кінам, Сальвіні і Качалавым у адной асобе. «Быць ці не быць — пытанне вось у чым!» Вядома, нават у апантанасці роляй я крайком свядомасці прагнуў агледзець публіку. Яе сапраўды было няшмат. Сем чалавек сядзелі ў першым радзе партэра. Так, відовішча ледзь мяне не збянтэжыла. Вялізная чорная прорва залы, незвычайная цішыня, водбліскі агню на тварах гледачоў... Вось мой вусаты імпрэсарыё, вось — знаёмая чароўная дама. Нейкая пажылая кабета ў капелюшы ўвесь час падносіла да

вачэй хустачку, як я пасля вырашыў, расчуленая маёй ігрой. Увогуле, цяжка ўявіць больш удзячную публіку. Усе сачылі за кожным маім рухам, вельмі сур'ёзна і засяроджана, нават не перашэптваліся. Але мая ўвага адцягвалася на старога ў сурдуце, які сядзеў пасярод кампаніі... Я заўважыў, што на яго скіроўваліся час ад часу позіркі ўсіх, запытальна-ўстрывожаныя. Выглядаў старэча, як праўдзівы Гарпагон, фанабэрысты, аскетычны скупеча. Прыгажуня італьянка сядзела побач з ім і час ад часу пяшчотна гладзіла па руцэ, нібыта прасіла быць больш паблажлівым. Ага, значыць, вось ён і ёсць, мой галоўны крытык!

Я паддаў тэмпераменту. Мой Гамлет насіўся па сцэне, як прывід у «чароўным ліхтары». Усе прыдуманыя перад люстэркам позы, узмахі і ўзвівы — фортэ, фортэ, фартысіма! Стары пень сядзеў у крэсле, нібыта праглынуўшы пожаг, яго вочы глядзелі проста наперад, не міргаючы, нібыта ён паказваў, што не хоча мяне бачыць. Між тым старую пані так праняло, што яна аж заплакала, панурыўшы галаву. Яе рыданні дадалі мне сілаў. Я ўскінуў рукі і загаласіў:

«Я яе любіў, як сорак тысяч брацціяў!»

І мае намаганні займелі нарэшце плён. У вачах старога палыхнуў сапраўдны агонь. Маўклівы дасюль крытык затросся, затузаўся, ускочыў з месца і пачаў нешта выкрыкваць па-італьянску, жэстыкулюючы рукамі не горш за майго Гамлета. Астатнія таксама паўскоквалі, неяк дзіўна зашумелі...

Зараз жа на сцэну ўскочыў вусаты, яго твар свяціўся ад радасці. Ён схапіў мяне за плечы і літаральна выштурхнуў за кулісы.

— Грацыё, грацыё...— прыгаворваў ён з непадробным пачуццём.— Вы — грандыёзо! Вялікі артыст! Мы вам так удзячныя! Ваша ігра — сапраўдны цуд. Вы ўвойдзеце ў гісторыю тэатра!

Я пачуваўся агаломшаным і шчаслівым. Вусаты праводзіў мяне ў грымёрку, дапамог пераапрануцца — ён, гэты важны, выкшталцоны пан, падаваў мне мой зношаны пінжак, як прыслуга! Мяне ўсадзілі ў той самы экіпаж і зноў папрасілі пакуль нікому не расказваць пра начны спектакль, маўляў, інача я сапсую свой лёс, які абяцае быць бліскучым.

Ужо пад'язджаючы да дому, я агледзеўся, што ў маёй кішэні — капэрта з двума сотнямі рублёў.

На наступны дзень маё захапленне ўласным поспехам прыгасла, і ў галаву палезла зусім іншае. Падрабязнасці прыгоды здаваліся ўсё больш і больш дзіўнымі. Хто была тая маладая італьянка, чаму ўс-

трывожаная і заплаканая? Можа, старэча — ейны нялюбы муж, і яна спадзявалася расчуліць яго ўзнёслымі словамі Шэкспіра? А можа быць, я патрэбны, каб выканаць ролю чыйгосьці двайніка? Наследніка знакамітага роду, дафіна, інфанта ці як там яшчэ? Я быў пэўны, што прыгода будзе мець працяг. Можа, запросяць на першыя ролі ў які-небудзь знакаміты тэатр? Таемна выкрадуць? Або... Не стану хаваць, уяўленне малявала салодкія рамантычныя сітуацыі, у якіх адну з галоўных роляў выконвала тая, што назвала мяне смешным словам «рагацца». Я захоўваў таямніцу, але пачаў вучыць італьянскі, а заадно заняўся французскай барацьбой і бегаў у цір у Губернатарскім садзе, так што кожная бляшаная качка ў тым ціры мае на сабе выбоіны ад маіх драбінак.

Прайшло тры месяцы. Я па-ранейшаму распавядаў дацкаму прынцу пра з'яўленне прывіда старога караля і сустракаў у гурце пейзан пераможнага герцага. Аднойчы, калі я прыйшоў у тэатр, рудзенькая субрэтка, мадэмуазэль Ніні, альбо проста Нінка, папярэдзіла: «Рэжысёр ізноў у жалобе... Пастарайся не трапляцца яму на вочы з вясёлай пыскай». Сапраўды, на лацкане пінжака пана Рэўзара ў чарговы раз красаваўся чорны бант. Трэба патлумачыць гэтую традыцыю нашай трупы. Пан Рэўзар з'яўляўся ў жалобе са страшнаватай рэгулярнасцю. Напачатку я думаў, што ў пана часта паміраюць родзічы. Але старажылы патлумачылі, што калі памірае якісь вялікі артыст, пан Рэўзар лічыць сваім абавязкам спраўджваць па ім асабістую жалобу. І гора таму, хто не адгукнецца спачуваннем.

Таму цяпер, пачуўшы пра жалобную стужку на рукаве Рэўзара, я пабег да Панаса Панасавіча, памочніка рэжысёра, які кінуў выгодную кар'еру адваката дзеля вар'яцкай службы ў тэатры, быў чалавек добры і незвычайнай эрудыцыі, і стаў яго распытваць, хто з тытанаў на гэты раз атрымаў ангажэмент на нябёсныя ролі... Пачуўшы прозвішча — італьянскі трагік М* — збянтэжыўся... Панас Панасавіч, аддany Мельпамене аж да прыгоннага стану, зразумеў мае ваганні і ўскіпеў, як зялёная гарбата. Як я магу не ведаць геніяльнага артыста! Я пакорліва папрасіў прасвятлення...

— Трагік М* дзесяць гадоў як пакінуў сцэну,— пачаў расповед Панас Панасавіч з непадробным імпэтам і піетэтам.— Сярод ягоных роляў — і Атэла, і Радрыга, і Дон Карлас... Але самая ўлюбёная роля, якая прынесла яму славу — Гамлет. Кажуць, ён усё жыццё адточваў яе, нешта мяняў, дадаваў... Пан Рэўзар, шчаслівчык, бачыў яго ў гэтым спектаклі. Мне не давялося... Бедны, бедны М*... Так, юнача,

артыст павінен плаціць высокую цану за сваё натхненне. Багі не даруюць тым, хто прамаўляе іх словамі на зямлі. Не хацелася б мне пра гэта распавядаць... Вялікія свету гэтага мусяць заставацца ў памяці нашай у бляску і велічы. Але... Што ж, табе карысна ведаць... У апошнія гады ў М* развілася нервовая хвароба. Нешта накшталт каталепсіі. Ён нечакана ўпадаў у паралюш, рабіўся, як лялька... І ніякія дактары не маглі вывесці яго з гэтага стану. Але аднойчы знайшлі рэцэпт: аказваецца, М* магло прывесці да прытомнасці сузіранне спектакля «Гамлет»... Але толькі тады, калі яго ўлюбёную ролю асабліва пагана выконвалі. Праўда, з цягам часу гэта дзейнічала ўсё слабей. Жонка і дачка, апошняя, дарэчы, сама цудоўная актрыса, да якіх толькі дактароў не звярталіся. Кажуць, незадоўга да смерці вазілі хворага, нягледзячы на ваенныя падзеі, у Маскву. Напэўна, і праз Менск праязджалі. Эх, каб я пра гэта ў час даведаўся — паглядзець на вялікага М*!

Панас Панасавіч застаўся бедаваць, а я пацiху сышоў... Дзякуй Богу, у мяне хапіла гумару ўсміхнуцца над сітуацыяй... Хаця рана на самалюбстве аказалася балючай. З надзеяй на багатую спадчыну ці прэм’ерства ў вядомым тэатры я развітаўся... Затое валодаю італьянскай мовай і французскай барацьбой. Не кажучы ўжо пра ўменне цэліць у бляшаных качак.

Гісторыя, расказаная Уладам, прымусіла ўсіх шчыра рассмяяцца і на некаторы час забыцца на страхоцці.

— А я думала, ты гэткі самазакаханы прэм’ер,— з нечаканай шчырасцю прамовіла Зося.— Ведаеш, а ты, напэўна, больш спадабаўся б мне ў той час, калі быў наіўны і верыў у цуды.

Улад знямеў і адвярнуўся да акна, відаць, каб ніхто не заўважыў, як чырвань кінулася да шчокаў... А Дарота з перабольшанай абыякавасцю загаварыла, гладзячы тонкімі пальцамі звычайны парцалянавы кубак, нібы гэта было кацяня.

— А я бачыла цябе, Уладзе, у ролі Арыеля ў п’есе «Бура»... Гэта было... здорава.

Улад з уздыхам прамовіў:

— Было адзін раз. Захварэў выканаўца, вось мяне і апранулі ў залацісты парык ды белы хітон... Палову словаў не ведаў, суфлёр ледзь не надарваўся, шэпчучы. Ну і арыя, вядома... Лепей не згадваць.

— Ну чаму ты так пра сябе? — у голасе Дароты гучэў непадробны боль.— Я пасля тры разы бегала на той жа спектакль, каб цябе ўбачыць. Але былі ўжо іншыя выканаўцы.

Зося фыркнула, як раззлаванае кацянё:

— Ну, Даротка, а я ўсё думала — чаму ты мяне на гэтае занудства цягаеш...

— Калі занудства — дык чаго не адмаўлялася? — Дарота падціснула вусны і ад гэтага яшчэ больш зрабілася падобнай да віктарыянскай класнай дамы.

— Чаму не адмовілася? — павольна перапытала Зося і мройна адкінулася ў крэсле.— Таму што... таму што... я была дачкой швачкі, у якой твая маці замаўляла аксамітныя сукенкі і карункавыя блузкі, і без цябе патрапіць у тэатр, ды яшчэ ў партэр — гэта было мне не па грашах.

Дарота густа пачырванела.

— Зося... Хіба між намі калі-небудзь узнікалі такія... пытанні? Як сёння кажуць — класавыя? Ды мне ніколі ў галаву не прыходзіла, што я ў нечым... іншая...

— А шкада, што не прыходзіла,— у голасе Зосі раптам загучэла нешта жорсткае: — А вось мне даводзілася часта думаць пра падобныя рэчы... Напрыклад, каб ніхто ў класе не заўважыў, што ў мяне адзінай не тонкія, шаўковыя, як у вас, а старыя вязаныя панчохі.

— Дзяўчаты, не сварыцеся,— умяшаўся пан Беларэцкі.

Але тут жа падаў голас Ной:

— А нікуды ад класавых пытанняў не дзенешся. Таму што рэвалюцыя ўсіх зраўняе. І тым, хто мусіць нешта страціць, цяжэй за іншых... Параю адно: не варта шкадаваць па тым, што было.

Дарота прагаварыла:

— Хіба мне шкада? Калі б тут зладзілі нешта вартае, ды дзеля беларускай справы... Я б з радасцю сама аддала гэты дом. Але ж тут будзе нейкая чарговая ўправа.

— Не «нейкая», а камітэт па справах адукацыі! — з выклікам прагаварыла Зося.

Улад выказаў агульнае здзіўленне:

— А ты адкуль ведаеш? Працаваць там, ці што, збіраешся?

— А чаму б і не? — Зося агледзела ўсіх зялёнымі дзёрзкімі вачыма.

Пан Беларэцкі павольна прагаварыў:

— А яна ўжо згадзілася на гэтую працу... Праўда, Зося?

У доме на хвілю запанавала маўчанне.

— Ну і што?

Вусны Дароты дрыжэлі.

— Я не маю права цябе дакараць..

Зося горда ўскінула галаву, яе валасы нібыта іскрыліся рудым агнём.

— Дакараць? За што? За тое, што я збіраюся працаваць дзеля асветы свайго народу? Вы тут, як слепакі, спалохаліся першага халоднага вятрыска. Калі адбываюцца перамены — гэта заўсёды пакутліва, але калі не зламаецца вонкавая, цвёрдая абалонка — не пакажацца жывое, датклівае цела часу. Трэба толькі перацярпець боль. Колькі мы марылі пра рэвалюцыю? І вось — мары, вашыя ж мары, збываюцца. Ствараецца акадэмія... Доўнар-Запольскі, Карскі, Лёсік, Ігнатоўскі — яны ж зусім розныя, з рознымі перакананнямі. Але працуюць разам, на стварэнне Беларусі. Вам, пан Беларэцкі, варта стаць побач з імі. Улад, замест таго, каб удаваць рамантычную расчараванасць, прасіўся б у трупу Галубка. Вядома, ролю Гамлета табе там не дадуць. Але гэта беларускі тэатр!

Ной захоплена ўсміхнуўся ў адказ.

— Згода, Зося! Нам ёсць на што спадзявацца.

— Можа быць, на з’яднанне Беларусі? — сумна прамовіў Улад.— Гэта ж ганьба якая — падзялілі край напалам, усе маўчаць... Карацей, «Кавалі другія, а ланцуг той самы — песні ўсе старыя неаджытай гамы...» Фабіяна Шантыра расстралялі, хоць ужо такі бальшавік быў — замест штандару насі. На Украіне паэта Грыцко Чупрынку да сцяны паставілі... У Расеі — Мікалая Гумілёва, які пра мурынаў ды прынцэсаў пісаў...

— Гэта неабходныя ахвяры,— няўпэўнена сказаў Ной.— Помніце, Майсей сорак гадоў вадзіў свой народ па пустцы, бо тыя, хто пасталеў у рабстве, не маглі стаць вольнымі і мусілі памерці. Але гэта часова. Універсітэт жа ствараецца... І мастацкая вучэльня ў Віцебску працуе... Кандзінскі горад распісвае у канструктывісцкім стылі.

Пан Беларэцкі сумна глядзеў скрозь акуляры на энтузіястаў.

— А вам ніхто не расказваў, як шаноўнага Доўнар-Запольскага студэнты кіеўскага ўніверсітэта зняволілі ў ягонай кватэры, нібыта прыслужніка царызму? Усе сябры і знаёмыя разбегліся... Тых нешматлікіх, хто наважваўся наведаць прафесара, затрымлівалі, абшуквалі... У мяне адабралі нават аловак і нататнік. Толькі цуда — дакладней, адна адданая прафесару вучаніца, якая здолела

«прарвацца» да мясцовага камісара — ўратавала прафесара ад расстрэлу. Вось дзе парадваліся недарaслі, якія ў свой час атрымалі ад строгага выкладчыка «нездавальняюча»... Пакуль што паслугамі «спяцоў» новыя ўлады карыстаюцца... Але — паглядзіце — гэта ненадоўга. Што пачалося крывёю — крывёю скончыцца.

Дарота адвярнулася да акна, хаваючы хваляванне.

— Усё-ткі я веру, што сумленныя ды таленавітыя... такія, як мой бацька, заўсёды будуць патрэбныя.

Беларэцкі паківаў галавою:

— А як толькі патрэба ў іх адпадзе... Вымруць, як цмокі. Або вынішчацца... Я сябе так і адчуваю ў гэтым часе — як апошні, стамлёны чаканнем смерці, цмок...

— Дарэчы, цмокі ж вадзіліся ў Свіслачы! — падаў голас Улад.— Замежнікі, дзівуючыся, занатоўвалі, што менчукі трымалі ў сваіх дамах замест якіх мопсаў чорных тлустых яшчарак футаў пяць даўжынёй.

— А я аднойчы бачыў з мосту ў Траецкім, як нешта падобнае да такой яшчаркі або змяі слізганула пад вадой, нібыта душа грэшнага тапельцы...— прамовіў Ной.

— І колькі сідру ты перад гэтым выпіў у майстэрні? — насмешна папытала Зося.

А Дарота зноў моўчкі павярнулася і выйшла ў другі пакой... Грукнулі дзверцы шафы... І вось перад вачыма ашалелай кампаніі пасярод стала на драўляным пастаменце паўстаў самы сапраўдны цмок... Праўда, невялікі — з сярэдняга сабаку. Чорная луска, нават на выгляд — моцная, нібы панцыр сярэднявечнага рыцара, пашча пагрозліва разяўленая, а вочкі — як жывыя — з чорнага паўпразрыстага шкла з жоўтымі іскрынкамі пасярэдзіне.

— Слухай, а што ў вашым доме яшчэ такое вось... ёсць? — амаль з багагавейным жахам спытаў Дароту Улад.— А то проста страшна робіцца. Раптам хто раскажа казку пра мёртвую галаву — а ты і прынясеш яе... На талерцы, як Саламея...

Даротава абурэнне кашчуннымі словамі ніхто не пачуў — усе, нават пан Беларэцкі, кінуліся разглядаць і мацаць цмока. Пільны погляд выяўляў, што чучала вельмі старое, месцамі луска асыпалася...

— Бедненькі...— Зося пагладзіла свіслацкага цмока па чорнай спіне. На хвілю падалося, што ён завуркоча і замахае хвастом — Ной і Улад, напрыклад, мяркуючы па іхніх паглядах, паводзіліся б менавіта гэтак.

— А мне бабуля расказвала, што на Высокай гары, там, дзе цяпер Юбілейны рынак, жыў цмок самых што ні на ёсць еўрапейскіх памераў,— паведаміў Ной.— І харчаваўся, як належыць — прыгожымі дзяўчатамі. Пакуль не натрапіў на тую, у якой меўся баявіты жаніх. Усадзіў меч у цмокава чорнае сэрца... Але і сам быў смяротна паранены. Так іх апусцілі ў Свіслач — і цмока, і рыцара ў крышталёвай труне. Мы ў дзяцінстве ўглядаліся ў тое месца, і, здаецца, бачылі — на дне, з твані ўздымаюцца цмокавы рэбры...

— Вечна цмок ва ўсім вінаваты...— прабурчэў Беларэцкі.— Толькі аднойчы я чуў больш справядлівую выснову, лірнік спяваў на Ніжнім рынку: «Скуль узяўся той святы Юры ды забіў нявіннага цмока»...

— А што здарылася з рыцаравай нявестай? — папыталася Дарота.

Ной паціснуў плячыма.

— Пра гэта гісторыя маўчыць. Або так і засталася нявестай, або выйшла замуж за іншага... Якія яшчэ варыянты?

— Я ведаю гісторыю пра адну нявесту... Толькі не надта вясёлую,— прамовіла Зося.

— Ну вось і раскажы! — узрадваўся Улад.— А то ўсе ўжо нешта распавялі, а вы, паненка, толькі з цмокам лашчыцеся.

Зося раззлавана фыркнула, але расповед пачала.

## Гісторыя пра залатагорскую нявесту

Аднойчы да маці прыйшла заказчыца. Здарылася гэта цёмным восеньскім вечарам, калі голае голле дрэў адчайна цягнецца да шыбаў, і апошнія мокрыя лісты, сарваныя ветрам, стукаюцца ў шкло, нібыта самагубцы. Заказчыца была сухой і паважнай немкай нявызначанага ўзросту, у пляскатым капелюшы с маленечкім вэлюмам, нечакана задзірыста адкінутым набок — відаць, вецер пастараўся. Немка агледзела нашу кватэру, якая служыла адначасна і майстэрняй, але немагчыма было анічога прачытаць на ейным трохі мужыкаватым твары: ці яна пагарджала нашай беднасцю, ці нічога асаблівага ў змушанай сціпласці кватэры не бачыла? Заказ быў нечаканы: вясельная сукенка! Не, не для яе самой — наведніца нават пакрывіла вусны ў іранічнай усмешцы,— а для дачкі яе гаспадароў, шаснаццацігадовай дзяўчыны. Вось і меркі ўсе ўжо знятыя — на аркушыку запісаныя...

Маці мая разгубілася — дагэтуль ёй не даводзілася шыць вясельныя сукенкі. Процьма швачак, аднак, менавіта гэтым і

займаюцца... Тым болей за грошы, якія госця прапанавала, можна было замовіць строй у самым шыкоўным атэльe на Губернатарскай!

— Разумееце, фрау, мы не хацелі б звяртацца ў вядомае атэльe! — крыху няёмкім голасам адказала немка.— Нам патрэбна, каб убор быў пашыты за двое сутак, фасон, упрыгожванні — усё на вашае ўгледжанне. І... каб пра гэта вы асабліва нікому не распавядалі.

Аванс быў літаральна ўсунуты ў матчыны рукі...

— А дзе адбудзецца вянчанне? — паспела толькі спытацца матуля.

Немка трохі прамарудзіла з адказам:

— У касцёле на Залатой Горцы, фрау. Я прыйду па заказ у суботу раніцай.

Ці трэба казаць, што маці паставілася да замовы з пэўнай насцярогай, і лічыла, што ўвязалася ў нейкі грэх, а я — наадварот — з захапленнем. Вядома, я ўсё ўявіла да драбніцаў. Верная прыслуга заказала вясельную сукенку для сваёй маладой гаспадыні, якая наважылася на забаронены бацькамі шлюб... Гэта будзе таемнае вянчанне. Жаніх, вядома, немаёмасны. Але страшэнна прыгожы, таленавіты і адважны. І сама паненка не менш прыгожая і адважная... Як мне хацелася, каб сукенка атрымалася як мага лепей! Але маці і так завіхалася напоўніцу — яна была сапраўды выдатнай швачкай... Каб менш старалася дагадзіць заказчыкам — дык, можа, не ўбілісяб пасля тыя сухоты. Бялюткі шоўк з вытанчаным узорам з лілеяў, карункі, ружачкі з атласу... А мне ўсё здавалася, што, каб яшчэ пару дзён — якую прыгажосць можна было б стварыць! Я абмётвала швы ўсю ноч — я ж гадоў з пяці, як толькі навучылася трымаць у руках іголку, дапамагала маці, таму цяпер ненавіджу ўсялякае шытво і вышыванне. Прыўносіла ў фасон свае фантазіі — дзе дадам перлінак, дзе прызбяру карункі, так, як бачыла ў краме на Ратушнай плошчы... Напрыканцы, калі ўжо ўсё было гатова, я падышла да белай прывіднай постаці — у святле свечкі здавалася, што сукенка на кагосьці апранута, і белая постаць вось-вось зрушыцца з месца... Я яшчэ раз ва ўсіх драбніцах уявіла, як заўтра апране гэты ўбор, хаваючыся ад свету, прыгожая бледная дзяўчына, як выйдзе з чорнага ходу да экіпажа, дзе ўжо чакае жаніх — можа быць, гусар, нашчадак збяднелага роду, можа, малады паэт... У касцёле — нікога, акрым сведкаў, ніякага пышнага вяселля... І мне захацелася яшчэ чым-небудзь дадаць бляску таемнаму вянчанню. Я зняла з шафы матчын куфар для ўсялякіх бліскучых драбніцаў, сапраўдную скарбніцу Аладына, з брошкамі, кветкамі, барсэткамі, дастала лілею

са штучных перлін — у дзяцінстве я любіла ёю гуляцца, і прышпіліла яе на карсет сукенкі, там, дзе сэрца.

Але калі я нараніцу прачнулася, аказалася, што сукенку ўжо забралі — я прапусціла самы цікавы момант, калі можна было паназіраць, параспытвацца... Маці толькі сказала, што прыйшла тая самая немка — ні свет, ні зара, заплаціла — і знікла...

І трэба ж было такому стацца, што назаўтра маці дастала з шафы свой зялёны куфар і пачала перабіраць бліскучыя цацкі — спатрэбілася нейкая пацерка для чарговай кофтачкі... Чамусьці ў матчыным голасе, калі яна спытала пра лілею, была сапраўдная трывога... Я, вядома, не стала нічога хаваць — бо не бачыла нічога кепскага ў сваім учынку. Але... Аказваецца, брошку падарыў маёй бабулі мой дзед, яна была на вясельнай сукенцы маёй маці... Карацей, я спляжыла сваю спадчыну (цана якой пяць капеек, як я пракаментавала ў думках), і яе належала вярнуць разам з дарагімі ўспамінамі.

Маці па-сапраўднаму ўзрушылася, спрачацца было бескарысна... Урэшце мне дзесьці ў душы і самой было цікава зноў дакрануцца да гісторыі з таемным вяселлем. Варта ўявіць сябе Натам Пінкертанам — не смейцеся, я тады старанна збірала ўсе гэтыя брашуркі народнай бібліятэкі з прыгодамі вялікага сышчыка — і таямніца раскрыецца. Немка сказала, што вянчанне мусіла адбыцца ў Залатагорскім касцёле ў суботу. Значыць, я даведаюся імёны жаніха і нявесты.

Але ў касцёле сухенькі служка з вострым, як дзюба, носам гэтак жа суха і востра паведаміў мне, што ніякага вянчання ў суботу ў касцёле не было. Я разгубілася, а потым западазравала востраноса ў няшчырасці: вядома ж, вянчанне таемнае... Але асцярожныя роспыты прыкасцёльных бабулек таксама анічога не далі...

— Ну якое ж вянчанне, дзетухна! — ледзь не са спачуваннем прамовіла сухенькая бабулька ў чорнай хустцы, падобная да манашкі.— Адпявалі ўчора... Такую ж маладзенькую дзяўчынку. Як ты...

Другая бабулька, у старасвецкім каптуры, з падслепаватымі, але ўсё яшчэ сінімі вачыма, мітуслівая, як лясная птушка, умяшалася:

— Так, так, прыгожанькая такая дзяўчынка... Анёльчык... Часта сюды хадзіла... У вясельнай сукенцы хавалі, дык яна, як каралеўна, ляжала. Уся ў кветках, у карунках. Пальчатачкі белыя-белыя. Сукеначка з фальбонамі, тканіна ўся ў лілеі... Бедная дзяўчыначка... Паслізнулася на мосце, што праз Лошыцу, упала — а там калы ў дно панатыкалі... Гэта няйначай Лядашчік акруціў, злы дух.

— Не Лядашцік, а русалкі! У Лошыцы русалкі водзяцца! — заспрачалася другая бабулька.

— Якія русалкі ўвосень? Лядашцік! Шэўрадзь гэты аднавокі асабліва жанчын ненавідзіць і дзяўчатак, паглядзіць вокам сваім — і розум скручвае... Чаго б дзяўчаці з мосту падаць?

Тым часам другая старая пачала доўгае, нібы восеньскі вечар, разважанне пра тое, каго Гасподзь паклікае да сябе першым, але я амаль ужо гэтага не чула. Усе мае фантазіі разляцеліся, як пялёсткі штучнай ружы, з якой няўмелая рука сарвала нітку... Шчаслівая нявеста, жаніх прыгажун... А насамрэч казачная шаўкова-карункавая гожасць і матчына брошка — тут, побач, пад слоем зямлі, вільготнай і цяжкой, як сама незваротнасць. Цяпер зразумела чаму звярнуліся да беднай швачкі, а не ў моднае атэлье — ніхто не хоча азмрачаць настрой заказчыц, якія могуць даведацца, што побач з іхнім сымболем шчасця шылі ўбор для нябожчыцы. Чуткі ў мястэчку разносяцца хутка...

Я павольна пайшла на могілкі. Апошняе залатое лісце сыпалася на магілы... Сапраўды, Залатая Горка... Я ўспомніла пра іншы залаты дождж, які тут сыпаўся, калі сто гадоў таму тут балявала халера і збірала ахвяры не меней, чым чума. А як па мне, дык лепей чума, або, як у гэтай няшчаснай дзяўчыны, недарэчны выпадак, чым паміраць ад, прабачце, разладу страўніка. Людзі адчаяліся і не ведалі, як спыніць пошасць. Набіваліся аж па дах у стары драўляны храм на Залатой Горцы... Пасля, вядома, нехта сказаў, што калі храм, Божы дом, такі бедны і цесны, гэта вялікі грэх... І ці не таму Гасподзь прагневаўся і папусціў пошасць? Нейкі доктар — а іншыя кажуць, ксёндз,— выйшаўшы з касцёлу, разаслаў на зямлі свой плашч і кінуў на яго першыя залатыя манеты... Другія прыхаджане паспяшаліся таксама ўнесці ахвяру — і хутка на плашчы вырасла залатая горка... Як па мне, збудавалі б на тыя грошы шпіталь, закупілі добрых лекаў, зладзілі водаправод, каб менчукі не бралі ваду з гэтай памыйнай ямы — Нямігі... Што ж, цяпер я магла лічыць, што і наша сям’я зрабіла свой унёсак у Боскае месца ў выглядзе фамільнай брошкі...

Я блукала між магілаў і, мусіць, сама нагадвала прывід у цьмяным лістападаўскім свеце. Ага, вось узгорак, спрэс завалены кветкамі... Партрэт пад шклом, у драўлянай рамцы: гэткая наіўная гімназістачка, са здзіўлена прыўзнятымі бровамі, кірпатым носікам і прыадкрытым ратком, які, відаць, любіў смяцца, і коскі ўкладзеныя на галаве гэткімі бублікамі... Праставатае, наіўнае, вельмі звычайнае

аблічча. Не маёй кампаніі паненка, ясна. Караліна-Марыя Шыманская-Рэпка. Бедную, напэўна, з-за гэтай «рэпкі» дражнілі ў гімназіі... Я ўявіла, як Караліна-Марыя ляжыць зараз вось тут, у зямлі, у сшытай намі сукенцы, з брошкай у выглядзе лілеі на грудзях... Прылучаная да тых глыбіняў — ці высотаў — спазнання, ад якіх я, эмансіпэ і натуралістка, аддзеленая кожнай клетачкай свайго фізічнага цела... Але заплаціць за гэтае спазнанне тым, што легчы ў гэтую сырую зямлю... Ведаеце, я не сентыментальная істота, але раптам мне зрабілася так шкада гэтай — няхай не вельмі інтэлектуальнай пры жыцці — дзяўчынкі, што я горка расплакалася — па ёй, па сабе... Па сваёй гаротніцы-маці — не так шмат у той у жыцці радасцяў і добрых успамінаў, каб пазбаўляць дарагіх сэрцу дробязяў. Што я ёй патлумачу наконт брошкі-лілеі? Падумаць толькі — тая ляжыць у нейкім метры ад мяне! Але недасяжней, чым была б на месяцы. І я ў адчаі пачала ў думках звяртацца да незнаёмай мне нябожчыцы... Уявіце сабе — прасіла яе вярнуць мне тую брошку, тлумачыла, як будзе перажываць мая маці. Угаворвала асцярожліва, як угаворваюць маленькае дзіця, што схапіла вельмі дарагую і дужа крохкую рэч... Я нават апусцілася на калені... Не ведаю, колькі часу прамінула — я схамянулася, калі буйны кляновы ліст, мокры і халодны, нібыта даланя тапельца, ударыў мяне па шчацэ. Я знаходзілася ў такім знерваваным стане, што гатовая была прыняць гэта за нейкі знак. Ліст апусціўся проста на букет дарагіх аранжарэйных фіялак, якія мерзлі ў беларускім лістападзе, як усходнія прыгажуні, і я пацягнулася адкінуць ад іх жоўтага нахабу. На земляным насыпу між кветак нешта бліснула... Я адсунула стракатыя пялёсткі... І ўбачыла брошку ў выглядзе лілеі.

Сказаць, што я была агаломшаная — не сказаць нічога. Мяне быццам абдало ільдзяной вадой, сэрца абарвалася, нібы я скочыла з адхону. Ну а вы, што б вы падумалі на маім месцы? Ніякіх рацыянальных тлумачэнняў у мяне не мелася. Проста нябожчыца пачула маю шчырую просьбу і вярнула памятны знак. Я дрыжачымі пальцамі ўзяла брошку — так, гэта была яна, голка, вядома, расшчэпленая... Радасць ад нечаканай знаходкі патанала ў містычным жаху. А калі тая, што вярнула брошку, зараз тут, побач са мной? Я ж так яе клікала... Я непаслухмянымі вуснамі прамовіла «дзякуй», паднялася і рушыла, змушаючы сябе не бегчы — яна ж можа пакрыўдзіцца... Маліцца... Выратуе адно — шчыра маліцца... Замоўлю за Караліну-Марыю імшу... Чым бліжэй я падыходзіла да брамы, да

пазбаўленага містычнасці мітуслівага местачковага жыцця, тым больш ува мне выспявала ўдзячнасць і яшчэ нешта незвычайна ўзнёслае, быццам крылы раслі… Не ведаю, як далей павярнуўся б мой лёс — здараюцца імгненні, якія фармуюць чалавека, як рукі майстрыхі цеста,— калі б не выпадак… Які прыняў аблічча дурня Генуся. Генуся ведала ўсё мястэчка. Худы і прыгорблены, быццам вечна нёс на сабе мех з мукой — Генуся часам, калі ён быў не вельмі шалёны, бралі на працу на млын. Рот прыадкрыты, зубы — наперад, у вачах светлая каламуць, на носе вечная кропля… Ну, што я апісваю — вы самі мусіце ведаць, як выглядае класічны местачковы дурнячок… І вось гэты Генусь падслепаватым каршуком кінуўся на мяне… Дакладней, на брошку-лілею, што я несла перад сабой у руках, як прыгаршчу святой вады.

— Не тваё! Не тваё! Аддай! Злодзейка! Злодзейка! — верашчаў Генусь, спрабуючы выхапіць у мяне з’яўленае са свежай магілы ўпрыгожванне. Я ўварочвалася, як ад гарэзлівага шчанючка, але… містычны жах мой яшчэ пабольшаў. Адразу палезлі ў галаву легенды пра юрадаў ды блажэнных, надзеленых дарам прароцтва… Каб адкінуць насланнё, закрычала першае, што прыйшло ў галаву:

— Сам злодзей!

Генусь нечакана змоўк, нібыта яго выцялі, перагнуўся напалам і жаласна заенчыў… У яго ных няўцямных, як далёкая травеньская бліскавіца, словах я нарэшце ўгледзела сэнс, як у віры ўгледжваюць апошняе выйсце. Брошку забраў з труны Караліны-Марыі Генусь, паколькі небарака быў закаханы, як толькі можа быць закаханым немаёмасны дурнячок у паненку з добрага сямейства. А паклаў на магілу ці таму, што паненка стала яму з’яўляцца ў снах, ці нехта сказаў, што забіраць нешта з труны вялікі грэх, а Генусь быў надта пабожны — гэтага я ўжо не разабрала дакладна… Я ледзь здушыла істэрычны смех. Падумайце толькі — калі б я выпадкова не напаткала небараку, у мяне б жыццё па-іншаму склалася! І сёння, магчыма, была б я якой-небудзь сястрой Ганорыяй, і перабірала б ружанец замест жывых кветак… Я пакінула брошку на могілках. Яна ўжо была мёртвай — нават рэчы робяцца мёртвымі, дакранаючыся смерці… І маці дасюль думае, што яе каштоўнасць дасталася шчаслівай нявесце… Не збіраюся яе разупэўніваць. Але… ведаеце…Часам я шкадую, што больш ніколі не давядзецца перажыць тое незвычайнае адчуванне, нібыта таямніца сусвету ляжыць у маіх далонях.

Зося скончыла расповед і задумліва глядзела на свае рукі, быццам уяўляла ў іх брошку ў выглядзе лілеі.

Улад паціснуў плячыма:

— Думаю, Серапіёнавыя браты збэсцілі б тваю гісторыю. Мала таго, што ніякай містыкі, дык яшчэ і гумару бракуе. І не страшна, і не смешна.

Зося бліснула зялёнымі вачыма — халодная маланка.

— Страшаць баязліўцы, смешаць няцвёрдыя ў сабе... У маіх акулярах няма ні ружовых шкельцаў, ані чорных, дый увогуле акуляраў не маю. Прымаю жыццё, якім ёсць. Калі вам не хапае тэатральнага рэквізіту, пашукайце ў каго іншага.

Улад сумеўся.

— І ўсё-ткі так нельга... Памятаеш, у «Беларускай хатцы» паказвалі батлейку? Апошняга, можа, батлейшчыка ў Менску знайшлі... Лялькі аднавілі... Дык «ідэйна правідловая» частка гледачоў пачала гарлаць, што гэта перажыткі і рэлігійная прапаганда, засмуцілі беднага дзядка-батлейшчыка, якога ў свой час жандары ганялі... Што ж гэта будзе, калі мы адмовімся ад прыгожага, ад гульні, ад карнавалу? Ад гісторый пра прывідаў і цмокаў? Чалавека робіць адрозным ад жывёлы не тое, што неабходна, а тое, што залішняе... Тое, што не прыносіць відочнай карысці. Музыка, спеў, паэзія, вытанчаныя краты на балконе палаца, разныя ліштвы на сялянскім доме, вышыўка на рушніку...

— Сустрэчны вецер эпохі садзьме гэта, бы карункавы капялюшык з паненкі, што ўселася на пляцоўцы імперыялу,— жорстка запярэчыў Ной, які ўвесь гэты час ляпіў з наплаканага пахавальнымі свечкамі воску маленькіх яшчарак.— Малевіч намаляваў свой чорны квадрат — і гэта дзверы, за якімі пачынаецца невядомы, але адзіна магчымы шлях наперад. Нішто не паўтараецца... Фараонаў малявалі толькі ў профіль, у трагедыях не маглі ў якасці галоўных герояў выступаць слугі, жанчыны не мелі права з'яўляцца на сцэне... Хто цяпер запатрабуе таго ж?

Улад спахмурнеў, звычайная іронія пакінула яго.

— Ты кажаш пра прагрэс у мастацтве, але мне свет, дзе пануе чорны квадрат, уяўляецца застрашлівым. Будынкі ў выглядзе вялізных шэрых скрынак з квадратамі вокнаў, песні ўсе з адной бязглуздай фразы і прымітыўнага рытму, і адна газета на ўсіх, дзе тлумачыцца, якія ўсе шчаслівыя... Ведаеш, калі Платон прыдумляў

сваю ідэальную дзяржаву, то хацеў прыблізна такога... Усе мусілі танчыць і спяваць, якія яны шчаслівыя, а паэтаў належала забіць.

— Ведаеце, калі гэтая адзіная газета і адзіная песня будзе на беларускай мове, я згодны і з такой сумнай прышласцю,— задумліва прамовіў пан Беларэцкі.— Але нешта мне падказвае, што спрошчаны да простакутнікаў свет не змесціць нашую цудоўную, неспазнаную беларускую Атлантыду — яна толькі пачынае ўздымацца з мутных хваляў забыцця, з-пад усялякай набрыдзі... А тут не самабытнасць вымагаецца, а ўніверсальнасць... Кіёк замест галінкі...

— Вы проста... стары,— кінуў Ной.— Вы не разумееце, што чалавецтва ідзе да ўзаемаразумення — да аднае мовы.

— А прырода — да аднае кветкі, аднога дрэва і аднога куста,— насмешна вымавіў Беларэцкі.— Альбо з'явіцца ўвогуле на ўвесь свет расліна: белы кветка-дрэва-куст...

— А чаму белы? — разгублена папыталася Дарота.

— Таму што ўсе колеры, змяшаўшыся, утвараюць ідэальную бель... Але ў жыцці рэдка здараюцца чыстыя колеры. Без дамешка... Таму, я думаю, патэнцыйная ідэальная прырода будзе шэрай.

Улад, відаць, уявіў гэтую прышласць, не вытрымаў і рассмяяўся. Ад гэтага аблічча ягонае на хвілю страціла заўсёдны насмешна паблажлівы выраз — вызірнуў цікаўны і дурасліва-наіўны падлетак... Дарота нават таксама нясмела ўсміхнулася, гледзячы на маладога артыста, як на асветленыя сонцам неверагодна лёгкія аблачынкі, на якіх уяўляецца прыўкрасны замак вечнага святла і спакою... Пан Беларэцкі задумліва глядзеў на дзяўчыну, на яе ўсмешку, і ў шкельцах ягоных акуляраў скакала полымя свечкі.

— Старыя майстры лічылі, што ў аснове прыгажосці — звілістая лінія... Любы просты шлях — няпраўда і штучнасць. І не заўсёды тое, што наўпрост прыцягвае — прадвызначана табе... Мы — усяго толькі маленькія ліхтарыкі, якія вісяць на нябачным дроце праз цемру. Кожны бачыць толькі праз уласнае святло. І ніхто не бачыць дрота, на якім мы вісім... І толькі мудры можа вылічыць — дзе заканчваецца дрот... І толькі наіўны адчуе — хто яго навязаў... Ведаеце гісторыю з ліхтарамі на свяце ў графа Любанскага?

— Не, пан Андрэй,— ажывілася Дарота.— Раскажыце — а то кінуліся ў філасофію, нібы шкаляры ў вазачку з цукатамі.

Чучала цмока зірнула на расказчыка чорным гузікам з жоўтай іскрай у цэнтры, і пан Беларэцкі пачаў расповед.

## Гісторыя пра Лошыцкі прывід

Было гэта ў адзін з маіх прыездаў на бацькаўшчыну гадоў пятнаццаць таму. Яшчэ жыла мая жонка, але ўжо не магла ездзіць са мной з-за хваробы. Таму і настрой у мяне быў не надта... Але пачак выяўленых рукапісаў сямнаццатага стагоддзя, яшчэ адно шкельца ў разбіты вітраж гісторыі маёй радзімы, мог змусіць мяне да падарожжа нават у чысцец. Я не захацеў злоўжываць гасціннасцю сяброў і, паколькі мог сабе дазволіць, зняў прыстойны нумар у гатэлі «Еўропа», якраз калі там пачаў выступаць венскі дамскі аркестр. Як грае згаданы аркестр, я так і не паслухаў, затое рукапісы выкупіў.

Я ўжо збіраўся ад'язджаць, абкружаны арэолам старажытных літараў і водарам цвілай паперы — найлепшым у свеце для кніжнага чалавека,— але атрымаў запрашэнне на баль да графаў Любанскіх. Фраза проста з калонкі свецкай хронікі... Насамрэч я не быў такой важнай птушкай, каб граф Любанскі нешта пра мяне ведаў. Так, прафесар, але занадта малады, да таго ж займаецца гэткай падазронай справай, як фалькларыстыка... А там любая старадаўняя песня здольная абрынуць чарговую ідэалагічную вежу, як цуда-рыба, усплываючы, змывае са сваёй спіны вартыя жалю хацінкі часовых прыблудных жыхароў. Але ўсё-ткі я прадстаўляў Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт, і ў мяне была Дзямідаўская прэмія, а ў Менску два гады таму зачынілі Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў. Зачынілі так, як робяць заўсёды — безапеляцыйна, жорстка, з прыгожай фармулёўкай,— каб народ зразумеў: немагчыма было не разагнаць гэтых злыдняў, што намагаліся парушыць звыклы парадак і вырваць з рукі гімназісткі абаранак, а з рукі жабрака — кайстру. На свяце ў гонар дня народзінаў пані Ядвігі Любанскай мусіў прысутнічаць губернатар горада Мусін-Пушкін... І невялічкая дэлегацыя мясцовай творчай інтэлігенцыі, узмоцненая мною, меркавала падысці да яго наконт аднаўлення Таварыства.

Пасля нядаўніх рэвалюцыйных падзеяў, залітай крывёю курлоўскага расстрэлу прывакзальнай плошчы, у мяне асаблівых ілюзіяў на лаяльнасць уладаў не было. Да таго ж мой настрой не пасаваўся да баляў. Але — я лічыў сябе абавязаным падтрымаць землякоў. Дый пан Любанскі славіўся гэткім эксцэнтрычным дэмакратам-арыстакратам. Хадзілі чуткі, што ён дае грошы эсэрам. А ягонае захапленне роварамі... Велатрэк, зладжаны ў Лошыцы... Дзівосны сад...

І вось я стаяў, прыціснуты да псеўдамармуровай калоны, абвітай псеўдаплюшчам Лошыцкай сядзібы, аглушаны духавым аркестрам і нашэптваннямі ў самае вуха аднаго з арганізатараў зніклага таварыства, і шчыра мроіў апынуцца як мага далей... Што мне да мясцовых плётак? Яўстафій Любанскі, мажны вусач, сапраўды не хаваў мілосных адносінаў да сваёй юнай пані. Ядвіга, у дзявоцтве — Кіневіч, была дачкой правадыра мазырскай шляхты і гадоў на сямнаццаць маладзейшая за мужа. Беласкурая, цемнавокая, зграбная... Рухалася, як ласка па снезе. Спешчанае дзіця... Сакатала, смяялася, ганарыста закідваючы галоўку з акуратна ўкладзенымі ў высокую мудрагелістую прычоску цёмнымі валасамі. Мне пані Ядвіга нагадала гераіню верша Міцкевіча «Сыны Будрыса». Памятаеце: белая, як смятана, чорныя вочы, рухавая, нібы котка. Пан Яўстафій прывёз ёй з Японіі дзівоснае дрэўца — магнолію кобус, яе яшчэ называюць маньчжурскім абрыкосам. Яна цвіце раз на год. Падоранае дрэўца цвіло менавіта ў дзень народзінаў пані. Відаць, з гэтае нагоды пані Любанская апранулася ў нешта страката-экзатычнае, што мусіла на ейную думку перадаваць японскі дух... Наконт палюбоўнікаў пані версій мелася — як наконт паходжання санскрыту. Паказвалі мне на самога губернатара, Мусіна-Пушкіна, і на графа Чапскага, уладальніка знакамітых бровараў... Смешна — яны былі нашмат старэй за пана Яўстафія.

Я не вельмі ўслухоўваўся ў так званую «свецкую балбатню», успамінаючы сваю Надзею, якая зараз, напэўна, сумна сядзіць ля акна з відам на брудную Мойку... Дарэчы, ты, Дарота, вельмі нагадваеш мне маю Надзею... Тыя ж вялікія задуменныя вочы, чысты высокі лоб, нібыта створаны для высокіх думак... Але — я адхіліўся. Між тым над Лошыцай, як дым ад таемнага купальскага вогнішча, згушчаўся прыцемак, і пачаўся адзін з сюрпрызаў вечарын — загарэліся гірлянды электрычных кітайскіх ліхтарыкаў, падвешаныя на верандзе і ў садзе. Пані Ядвіга ў сваёй стракатай шаўковай сукенцы з шырокімі рукавамі, як трапічны матыль, павольна паднялася на цяпер ярка асветленую круглую пляцоўку з невысокай балюстрадай — на ёй звычайна іграў аркестр. Пан Яўстафій стаяў непадалёк ад мяне — я заўважыў яго позірк, скіраваны на жонку. Бог ты мой, якое каханне! З амаль кашчунным захапленнем і незразумелай тугою... Калі на свеце бывае такое каханне, свет ніколі не скончыцца, і ніколі не скончыцца ў ім боль і пралітая кроў.

Прыслужнікі вынеслі расцягнуты на шастах экран з белай паперы — напэўна, дарагі гатунак рысавай,— і паставілі перад пляцоўкай, так, што схавалі яе ад вачэй глядачоў. Раптам усе ліхтары згаслі, але ў той жа момант за экранам запаліўся яркі сафіт... На белай паверхні экрана вымалявался амаль неверагодна дакладны цень пані Ядвігі... Цяпер пані трымала ў адной руцэ японскі парасон, у другой — веер, і вытанчана рухалася пад музыку. Гледачы запляскалі ў ладкі, вітаючы гэткі нечаканы тэатр ценяў. І зноў запаліліся ліхтары, і зноў згаслі...

Жывыя карціны змянялі адна другую. Танцаўшчыцы згіналіся ў экзатычных фігурах танца, самураі біліся на мячах, «рабілі» сабе харакіры... Цемра змянялася святлом, цені — фарбамі. Відовішча зачароўвала, так што нават я — дасюль сорамна — на нейкі час забыўся на тую, што думала пра мяне за сотні вёрст адсюль... І зноў згаслі ліхтарыкі... І на асветленым экране паказалася чарговая карціна — пацалунак жарсці... Чалавек у касцюме самурая, плячысты і высокі, цалаваў прагна, уладна... Каго? Так, гэта была пані Ядвіга. Немагчыма было зблытаць ейную паставу, прычоску, узорыстую сукенку... Дзве цені, злітыя ў адно, застылі на экране, і гэтак жа застылі гледачы... Гэта была больш чым гульня.

Запалілася святло... Экран прыбралі, размовы патроху аднаўляліся... Вядома, вочы ўсіх — ці патаемна, ці адкрыта — шукалі герояў драмы... Пан Яўстафій, аднак, не выглядаў узрушаным, ён па-ранейшаму ветліва ўсміхаўся, час ад часу падносіў да вуснаў кубак з віном... Можа быць, ён быў пасвечаны ў незвычайную містыфікацыю? Але калі Любанскі павярнуўся, я заўважыў, як на яго скроні б'ецца жылка... Проста — скронь, сівая скронь немаладога моцнага мужчыны. І цяжкая, упартая пульсацыя — нібы знутры хоча вырвацца неверагоднай моцы шал... І гэтае відовішча чамусьці ўразіла мяне больш, чым калі б Любанскі зараз учыняў харакіры, як героі тэатра ценяў. Я азірнуўся. Пані Ядвіга, па-ранейшаму вясёлая і гарэзная, прахаджвалася між гасцямі. Навошта яна гэта зрабіла? Я дасюль не магу зразумець. Памучыць старога мужа, які яе абагаўляў — як маленькія дзеці мучаюць бацькоў, схаваўшыся і доўга не адклікаючыся на крыкі? Ці хацела намацаць тую мяжу, за якой яе спыняць — некаторым не смакуе жыццё без адчування такой мяжы, без супраціву і забароненасці... Або гэта была проста юная пагарда да ўсіх забаронаў і забабонаў, сцверджаная першым сапраўдным каханнем? Але хто ён, герой раману?

Я мімаволі абводзіў вачыма натоўп, вылучаючы маладых, высокіх, гожых... Можа, гэты — у афіцэрскім мундзіры, з падвітымі колцамі вусікамі? Або вунь той, у белым сурдуце, падобны да антычнага бога са сваімі завітымі кудзеркамі? Ці... той музыка, што стаіць збоку ад бліскучага натоўпу, апусціўшы скрыпку, і ў ягонай паставе — амаль што пагарда? Колькі такіх цікаўных позіркаў скрыжоўвалася ў той вечар у садзе Лошыцкай сядзібы... Прынамсі, справы аднаўлення Менскага Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў цікаўнасці не выклікалі ні ў кога. Так званы свет... Людзі, што жылі на гэтай зямлі, як прыхадні, не пачуўшы яе, не паспрабаваўшы зразумець яе душу.

Я вярнуўся ў гатэль з прыкрым адчуваннем калекцыянера, якому дасталася атрутная архідэя, і ад яе загінулі іншыя экзэмпляры. Так, усё-ткі слова «каханне» мае больш старажытнае паходжанне, чым «любоў»... Каханне — гэта яшчэ з санскрыту. У гэтым слове адгукаецца пракаветнасць — паганскія капішчы, ахвяраванне, смерць... Бог ты мой...

Праз два месяцы я атрымаў ліст з Менску — сябар, які і завабіў мяне на злашчасны баль, распавядаў, як узрушыла ўсіх месцічаў смерць пані Ядвігі Любанскай. Нібыта ноччу пайшла яна чамусьці да Свіслачы, спусцілася па стромым адхоне, села ў лодку... А лодка перакулілася... Так і знайшлі пані назаўтра ў рацэ. Аўтар пісьма відавочна лічыў, што справа нячыстая. І неадменна ў ёй замешаны стары Любанскі. Інакш навошта гэты дзіўны загад адразу па пахаванні — замураваць вакно ў пакоі пані Ядвігі? Цела загадаў запаяць у свінцовую труну і паставіць у Лошыцкай капліцы... І з’ехаў адразу ж на Каўказ...

Праз год я зноў-такі выпадкова, з ліставання даведаўся, што пан Яўстафій на Каўказе памёр... Але што мне было да чужых смерцяў, калі смерць стаяла ў галавах блізкага мне чалавека? Ах, Надзея мая, Надзея Раманаўна...

На радзіму я змог наведацца толькі гады праз тры. Ужо з чорнай стужкай на рукаве і на сэрцы. Пабыў тыдні са два ў бацькоўскім доме, у Ігуменскім павеце, вылучыў пару дзён на гасцяванне ў Менску. Чамусьці пацягнула мяне ў Лошыцу. Я марудна ішоў прысадамі, дзівячыся таўсціні дрэў, асабліва цішыні, якая ў гэтых мясцінах, і думаў пра тое, што, мабыць, калісьці было тут паганскае мольбішча — колькі я бачыў іх парэшткі, заўсёды нейкая гнятлівая атмасфера. Нібыта праклятыя багі ўсё яшчэ чакаюць новае крыві... Што на беразе Нямігі ў Менску, што на Дзявочай гары ў Вілейскім

павеце, што тут... Асабліва, відаць, наводзіла на гэтую думку ўсведамленне, што ў глыбіні парку стаіць капліца са свінцовай трунай пані Ядвігі Любанскай.

Кусты чапляліся за мой пінжак адрослымі галінамі. Пасля смерці пана Яўстафія на ўсё тут пачала класціся пячатка занядбанасці. Паціху цямнела... На Лошыцкіх млынах часам, здаецца, рабавалі... Але я не хваляваўся: звык насіць з сабой рэвальвер, а рамізнік, чарнявы мужычок з вымаўленнем рэчыцкага Палесся, мусіў чакаць ля брамы хоць да раніцы — я не пашкадаваў грошай. Раптам я спыніўся ля дзіўнага дрэўца — на яго таненькіх, але нават на выгляд цвёрдых, як жалеза, галінках, між рэдкіх шчыльных і цёмных лістоў свяціліся белыя кветкі... Буйныя, нібы выразаныя з паперы, у прыцемку яны здаваліся ненатуральнымі. Нібыта прыклеенымі... Я нават пакратаў за пялёсткі — нібыта павітаўся за бязважкую руку з Мятлушкай. Унізе святлела масянжовая шыльдачка. Я прыгнуўся і разабраў надпіс: «Магнолія кобус»... Так званы «маньчжурскі абрыкос», які квітнее ў дзень народзінаў пані Ядвігі Любанскай! Нібы наяве, я зноў убачыў дэкарацыі былой драмы: кітайскія ліхтарыкі, белая балюстрада, абвітая зелянінай, папяровы экран, цені на ім... Насмешны шэпат і пазвоньванне келіхаў... Позіркі, позіркі... Жылка пульсуе на сівой скроні пана Яўстафія Любанскага...

Я прыўзняў вочы да поўні, якая пад акампанемент маіх мрояў паспела ўсплысці з глыбіні вечара... На амаль белым яе дыску выразна бачыўся сілуэт... Жаночая постаць у сукенцы з шырокімі рукавамі, з высокай прычоскай, з веерам у руцэ... Так, сапраўдныя прывіды з'яўляюцца не па замове. Колькі разоў я марыў хоць гэтак жа, ценем убачыць сваё страчанае шчасце — але дарэмна... Я, хрысціянін, зайздросціў Жыгімонту Аўгусту, які скарыстаў паслугі чарнакніжніка Твардоўскага, каб выклікаць прывід каханай... І ніколі б не збаяўся схапіць — няхай цень — у абдоймы... Толькі той, хто дайшоў да мяжы адчаю і нават зазірнуў туды, за мяжу, зразумее мяне. Але тут... Цёмны сілуэт на поўні... Я, вядома, паспрабаваў пераканаць сябе, што гэта проста абстрактныя плямы, з якіх маё ўяўленне складае постаць. Многія ж бачаць на месяцы зайца, або братоў Каіна і Авеля... Я трос галавой, заплюшчваў вочы, нават націснуў на яблык вока — усё рэальнае мусіла на нейкі час расплысціся, падваіцца, а прывід — не, бо ён жа ўспрымаецца не зрокам, а хворым уяўленнем! Дарэмна, усё падваілася, расплылося... І зямля зрушылася пад маімі нагамі раней, чым я ўсвядоміў, што сыходжу... Максімальна хутка, каб не назваць

гэта самому сабе панічнымі ўцёкамі. Вось што значыць чужыя прывіды... У Таўрыдскім Гурзуфе мяне вадзілі да кіпарысу, у якім нібыта жыве дух Аляксандра Пушкіна. Кіпарыс расце пад вакном сядзібы Раеўскіх, дзе гасцяваў паэт і складаў вершы, гледзячы на маладое дрэўца. І нават занатаваў у дзённіку пра незвычайныя сяброўскія пачуцці, якія абуджае ў ім зялёны сусед, і пакінуў там жа містычнае прароцтва, што вернецца сюды, каб сузіраць чароўнае наваколле. У шатах кіпарыса прыезджым паказваюць два сілуэты: Пушкін, кучаравы, з бакенбардамі, абдымае паненку ў старасвецкай сукні... Дык вось, той кіпарыс выклікаў у мяне гэткія ж гідкія, цяжкія пачуцці, што і згаданыя месцы паганскіх мольбішчаў. Цяпер да спіса магу далучыць Лошыцу і магнолію кобус.

Пасля мне расказвалі, што сілуэт пані Ядвігі можна ўбачыць у Лошыцы на фоне поўні, толькі калі там цвіце гэтае прывіднае дрэўца. Яшчэ — што прывід белай жанчыны бачылі над ракой у тым месцы, дзе патанула пані Ядвіга, а хтосьці назіраў, як яна гуляе між дрэваў, сядзіць ля капліцы, у якой пастаўленая ейная свінцовая труна... Тэатр ценяў... А для мяне мараль усёй гэтай гісторыі такая. Каханне — гэта ад пракаветнага... Інстынктыўнага... Магчыма, дастаткова проста любові і павагі? Хіба не мела любові дачка мазырскага двараніна Кіневіча да свайго мужа? Каб не ейная распешчанасць — не загінулі б абодва. Сямнаццаць гадоў — не самая вялікая розніца... Дый... дваццаць тры, як, скажам, між мною і вамі, шаноўная Дарота,— таксама не шмат. Галоўнае, калі б дзяўчына была разважлівай і сур'ёзнай... А духоўная еднасць, можа, вартая палкага кахання. Тым болей у суровы няпэўны час... Як вы думаеце, Дарота?

Пан Беларэцкі ўтаропіўся ў дачку сябра скрозь акуляры, і непрамоўленае нібыта чулася ў працятым пахавальнымі свечкамі паветры.

Дзяўчына сумелася.

— Я... я не ведаю. Мне здаецца, што каханне вартае таго, каб чакаць яго... у адказ.

— А калі не дачакаешся? — Андрэй Беларэцкі жаласліва ўсміхнуўся.— Усё жыццё — назіраць, як ля яго цяпла грэюцца іншыя... А табе — толькі водсвет... Хіба не лепей — стварыць сям'ю... З чалавекам, якога ведаеш, якому верыш?

Ной чамусьці нервова рагатнуў, а Дарота перавяла позірк на Улада. Той адразу адвёў вочы...

— І ўсё-ткі — няхай лепей хоць водсвет.

Гэтыя словы Дарота амаль прашаптала.

Зося фыркнула:

— Таксама мне, рамантыка... Рэвалюцыя перамагла — вось дзе рамантыка! Хутка сям'я як адзінка грамадства ўвогуле знікне. А дзяцей гадаваць стануць камунай.

Пан Беларэцкі нават перажагнаўся:

— Няшчасныя дзеці...

— Ты, Зося, яшчэ ўспомні тэорыю камісаркі Аляксандры Калантай пра тое, што задавальванне юру мусіць быць не складаней, чым выпіць шклянку вады,— раздражнёна прамовіла Дарота.

— Дарэчы, я нядаўна корпаўся ў архівах, а там чаго толькі не напаткаеш. Дык таварыш Калантай, падобна, з роду спалячаных беларусаў Калантаёў,— задуменна прамовіў Беларэцкі.— Калісьці прозвішча гучэла як Карантай, ад слова «кароткі»... Мне часам здаецца, што беларусы вылепленыя з воску — гэтак лёгка прымаюць любыя формы пад сонцам часу — абы не быць самімі сабою... Эх, сапраўды, як казаў адзін мой старэйшы калега — каб хто загадаў беларусу быць беларусам, не было б лепшага беларуса... А так... Дакладна па словах Купалы:

«Там чутна: «Беларусь», там — «Незалежнасць!»<br>
А там — «Паўстань пракляцем...» Ну а мы?<br>
Мы ў страху... дум крутня.. разбежнасць...<br>
Без толку крыллем хлопаем, як цьмы».

Адна са свечак замігцела ў апошнім жаданні жыць — і згасла, ператварыўшыся ў брудную лужыну воску. Мокры вецер ударыў у шыбы, так што астатнія, яшчэ жывыя, агеньчыкі рванулiся ўбок... Стары дом, стоячы па драўляныя калені ў сакавіцкай вадзе, зарыпеў, ціхутка загаласіў, нібы ў прадчуванні смерці. Пяцёра людзей у ім змоўклі, туга адгукнулася ў іх сэрцах.

— Скончыцца паводка, сыдзем адсюль... І кожны з нас пойдзе ў свой бок,— прагаварыў Ной.— І, магчыма, ніколі мы больш не сустрэнемся, а можа быць, камусьці станецца лепш не сустракацца...

— Што ты такое гаворыш? — устрывожылася Дарота.

— Ён гаворыць праўду,— змрочна патлумачыў Беларэцкі.— Нам выпала жыць у часы пераменаў. А гэта, згодна кітайскай прымаўцы, найгоршы лёс. Ніхто яшчэ не ведае, дзе варта быць, хто пераможа... Магчыма, нехта з вас будзе кіраваць дзяржавай... Нехта адап'е ад атрутнага кубка славы... А потым сустрэнемся ля адной сцяны — у

вышчарбінах ад куль... І, магчыма, у кагосьці ў руках будзе рэвальвер, а ў кагосьці — пустэча безнадзейнасці.

— Ну, вы й нагаварылі тут, дзядзька Андрэй,— бесклапотна рассмяялася Зося.— Нават цмок спалохаўся... Пачакайце, мы яшчэ запросім вас на выставу Ноя...

— На якой будуць твае партрэты, Зося! Ты... ты дазволіш мне намаляваць цябе? — Ной глядзеў на дзяўчыну з такой трывогай і напружаннем, нібыта яна, як дачка Жыжаля, зараз зварухне вейкамі, і агонь спаліць сэрцы.

— Малюй, што мне, шкада...— адказала Зося перабольшана абыякавым голасам.

Але Ной не захацеў пачуць гэтай абыякавасці і з удзячнасцю дакрануўся да рукі прыгажуні — лёгка, як да аблачынкі... Але рука мастака здрыганулася, нібыта ён сапраўды дакрануўся да агню...

— А вось мае шляхетныя продкі малявальшчыкаў лічылі за дворню,— лена прамовіў Улад.— Праўда, відачынцаў ды блазнаў яны лічылі за яшчэ ніжэйшае саслоўе — як у Індыі каста недатыкальных. Так што я ў іх вачах — ізгой... Вылюдак... Моцныя людзі, уладары свайго часу не любяць вымыслаў. Нядаўна вычытаў верш нейкага пачаткоўца Кудзелькі пад назвай «Скокі на могілках»:

«Годзе плакаць і вам над Рагнедаю,
І, зірнуўшы ў мінулае, цяжка ўздыхаць...
Новы дзень хай вам казку паведае,
Чыю ў песнях усхваліваць раць.»

Проста дзеля нас парада.

Ной скрывіўся:

— Ну, гэта толькі па юначай маладосці можна рэкнуць... Гэты Кудзелька пад імем Міхась Чарот сам рамантычных вершаў панапісваў. І ніводнай уладзе не прыдзе ў галаву, скажам, заараць могілкі або пабудаваць на магілах тэатр.

— Мы яшчэ не ведаем, на што здольная гэтая ўлада.— Пан Беларэцкі падняў каўнер сурдута. Нібыта яму стала холадна. У шыбы ўдарыў вецер, і дом затрашчаў, зашапталіся па ягоных вуглах цені, нібыта паветнік — страшная шасцікрылая птушка — выявіў у гаспадарцы недагляд і цяпер грозіць нядбайнаму гаспадару.

Улад таксама сцепануўся, нібы ад сіверу.

— Партрэт свой не кожнаму можна даверыць пісаць. Выявы, зробленыя асабліва старанна, могуць быць проста небяспечнымі для сваіх арыгіналаў...

— Што ты выдумляеш? — азваўся Ной.— Партрэт Дарыяна Грэя ўспомніў?

Малады артыст адмоўна паківаў галавой.

— Ды не... Нават мой знаёмы скульптар распавядаў, што калі здымае з каго гіпсавую маску, дык асабліва чуйным асобам пасля гэтай працэдуры дрэнна, нібыта пасля крывапушчання. Паспрабуй сфатаграфаваць або намаляваць індзейца або бедуіна — палічыць, што ты яго забіць хочаш... Вунь у мінулым стагоддзі вылавілі ў моры неверагодна прыгожую драўляную скульптуру, якая ўпрыгожвала калісь нос карабля. На скульптуры знайшлі надпіс: «Аталанта»... Пакуль давезлі да берага — карабельны штурман застрэліўся ад кахання да гэтага кавалка драўніны. Потым засіліўся наглядчык музея, у які яе змясцілі... Кажуць, праседжваў перад Аталантай дні і ночы, вачэй не адрываючы... Я сам ведаю падобную гісторыю — ад бацькі.

Дарота паставіла перад Уладам новы кубак з гарбатай.

— Асцярожна, кіпень. Ну вось, казала ж, не хапайся... Апёкся, як малы. Зараз табе, Ной, налью. А пакуль, Улад, распавядзі, калі ласка, сваю гісторыю. Мастацтва і містыка лепей, чым палітыка.

Улад ізноў дакрануўся да гарачага кубка кончыкамі пальцаў, памаўчаў...

— Ну што ж, магу распавесці.

## Гісторыя пра статую з сутарэнняў дома Ваньковічаў

Кожны менчук ведае, хто такія Ваньковічы. Інсургенты, масоны, авантурысты — як толькі пра іх не трапалі языкамі нядобразычліўцы. Патрыёты, ваяры, паэты і мастакі — казалі прыхільнікі. Гадоў пяць таму, падчас беспрытульнага блукання ў тэатральна-эсэраўскіх марах, і мне, у ліку іншых бедакоў-беларусаў, давялося разжыцца капейчынай «Установы ўзаемнай дапамогі роду дваран Ваньковічаў».

Вядома, найперш успамінаецца вялікі Валенцій, мастак з гэтага роду, які маляваў Пушкіна і Міцкевіча і памёр на руках апошняга ў Парыжы... Беларускамоўныя вершы Міцкевіча знішчылі сваякі. Карціны Валенція Ваньковіча развезлі па свеце... І беларусы зноў ні

пры чым, як дуб да жолуда. Дык вось, болей паўстагоддзя прамінула ад часоў чарговага паўстання супраць імперыі, у якім, вядома, бралі ўдзел і Ваньковічы. Асабліва вылучаўся сын Валенція Ваньковіча Ян Эдвард. Працаваў ён ляснічым, меў маёнтак у Сляпянцы. Але ворагі ведалі яго як інсургента па мянушцы Ляліва, і хто, як не ляснічы, мог зрабіць свой атрад нябачным у пушчы? І коннік быў ён такі, што нагадваў кентаўра... Менавіта гэта адной лістападаўскай ноччу — хоць вока выкалі — выратавала яго ад пагоні. Але не ад цяжкой раны... Ляснічы зваліўся з каня на адной з ускраінных вулак Менску — што ж, на кожнага ёсць ягоная куля, і верагоднасць сустрэчы з ёй не болей пралічаная, чымся сустрэча з сапраўдным каханнем. Конь, ашалелы ад доўгага намёту, не спыніўся, страціўшы седака... Ян Эдвард дарэмна спрабаваў нешта разгледзець у непрагляднай, як саван, цемры, прашытай халоднымі ніткамі дажджу. Мёртвы сон горада. Ні ліхтара, ні нават агеньчыка лампады... Вось, здаецца, каменны ганак нейкага дома. Але дзвярэй няма — сцяна... Ці знойдзе паранены інсургент прытулак, ці адсюль пачнецца яго шлях да пятлі? Ян адчуваў, што сцякае крывёю. Хоць трохі б святла... У гэтым горадзе былі дамы, стукацца ў якія Ваньковіч не хацеў нават паміраючы. Крэсіва інсургент заўсёды мае пры сабе... Слабы агеньчык асвяціў каменную сцяну ў цёмных рагах, вакно з зачыненымі аканіцамі... Здаецца, вугал Францысканскай? Агонь змрочна люстраваўся ў цёмнай лужынцы, што ўтварылася ля параненага пляча... Яну здалося, што сама ноч хіснулася перад вачыма, як адлюстраванне на паверхні бяздоннага віра... Як ён саслаб... Не заўважыў адразу... Вось жа — дзверы. Апошнім намаганнем інсургент стукнуў у іх... Перад тым, як страціць прытомнасць, падалося: дзверы расчыніліся, з іх пацягнула дзіўным пахам — як быццам адчыніўся стары-стары куфар...

Паранены ачуняў у ложку — вялізным, як Грунвальдскае поле, і цвёрдым, як зямля таго поля. Разныя калоны з чорнага дрэва, якія мусілі падтрымліваць зніклы балдахін, страшэнна нагадвалі калоны ўсыпальніцы. І пакой быў вялікі, пусты і цьмяны. Са шчылін аканіцаў прабівалася туманістае святло. І нібыта з гэтага святла да ложка наблізілася постаць. Ян убачыў бледны гожы твар, вялікія вочы, сумныя-сумныя, аж сэрца зашчымела ад болю, што ў іх люстраваўся... Потым Ваньковіч так і не змог успомніць, у што была апранутая дзяўчына — але дакладна, што ў чорнае, і нават гук яе голасу знік з памяці — хаця яны размаўлялі... Шматкроць ён спрабаваў яе

намаляваць — заўсёды меў з сабой нататнік з алоўкам. Карона цёмных кос над высокім белым ілбом... Горка падціснутыя вусны, нос з вытачанай гарбінкай, зламаныя бровы. Вочы светла-шэрыя... Адзін куточак роту трохі прыўзняты, і ад гэтага выраз твару незразумелы: спачуванне? Насмешка? Ванькові не даведаўся ні імя паненкі, ні хто яна. Хаця ўчынку незнаёмкі не дзівіўся — многія шляхцянкі зладжвалі лазарэты для паўстанцаў у сваіх маёнтках, насілі жалобу па загінулых, хаця гэта адмыслова забаранялася, і па асабістым загадзе менскага губернатара за з'яўленне на людзях у чорнай сукенцы належала заплаціць штраф у 50 рублёў срэбрам.

Ішлі дні, а Ян усё нікога не бачыў, акрым сваёй таямнічай гаспадыні. Патроху ён пачаў уставаць, хадзіць па пакоях — усе цёмныя, пустэльныя. Спрабаваў адчыніць хаця б адно акно — але ці ён так саслаб, ці шыбы былі зусім нерухомыя ад старасці... Што ж, нельга дакараць за перасцярогу тых, хто рызыкуе жыццём дзеля высакароднай справы. Магчыма, дом лічыўся закінутым, і не варта было, каб выпадковы мінак заўважыў, што ў ім нехта жыве. Праўда, дом, відаць, знаходзіўся зусім наводшыбе — з-за вокнаў і вечна вільготных муроў не далятала ніводнага гуку, як у магіле. Але жандары правяралі нават закінутыя дамы...

— Толькі кроў і агонь адчыняць дзверы гэтага дома,— супакоіла гаспадыня, і Ян у чарговы раз патануў у яе вялізных вачах колеру шэрага сакавіцкага неба. Так, гаспадыня не памыляецца — вораг сюды не ўвойдзе, не праліўшы крыві. Зброя пры інсургенце. І шабля, упрыгожаная адзіным, але затое вялізным дыяментам — спадчына прадзеда. І пісталет, праўда, без набояў... Але Ян чамусьці быў пэўны, што ў гэтым доме знойдзецца і порах, і кулі... Аднекуль жа браліся на стале хлеб і віно, і іншыя няхітрыя стравы, смаку якіх таксама не памятаў. Размовы між госцем і пані нагадвалі веснавыя ручаіны — то хаваюцца пад снегам, то зноў блішчаць на сонцы, то прыпыняюцца, цяжка перакочваючы каменьчыкі. Ян расказаў пра сябе ўсё... І пра першае няўдалае каханне, і сваю мару паўтарыць славу бацькі — стаць мастаком... Пра лемпарда, апошняга ў гэтых краях, які аднойчы патрапіў на прыцэл Янавага ружжа — але паляўнічы так і не наважыўся націснуць на курок, і дазволіў лясному волату ў плямістым жоўтым футры, старому, але ўсё яшчэ пагрознаму — сысці, каб сустрэць смерць, годную апошняга з роду, смерць на волі. І пра лясных птушак з сінімі пёрамі, што хаваюцца ў зарасцях глогу і крычаць галасамі немаўляцяў, пра русалак, што гушкаюцца на

сплеценых галінках бярозаў, і варта пакласці пад дрэвам барану — русалка ўблытаецца ў яе валасамі і будзе табе слугаваць... Калісьці Ян хацеў злавіць такую... Але — навошта злоўленае каханне? Хіба яго параўнаеш з такім — якое нараджаецца цяпер у ягоных грудзях, выспявае, як перліна ў сваёй ракавінцы, ад першай пясчынкі, што ўчыніла непераходны боль, і абрастае, павольна і непазбежна, усё новымі слаямі перламутру, павялічваецца і ззяе, і ўсё больш вярэдзіць душу і баліць...

Ян і гаспадыня моўчкі блукалі па паўцёмных пакоях. Іх павольныя рухі нагадвалі старажытны прыдворны танец — без дотыку рук, з узаемнымі цырымоннымі паклонамі, з прыхаваным агнём — прынамсі, у грудзях Яна ён палаў... Як палаў ліхтар у яго руцэ, калі па крутых цёмных прыступках яны з гаспадыняй спусціліся ў сутарэнні дома. Аб гэтым папрасіў Ян — бо сутарэнні былі і пад домам ягоных продкаў на Валоцкай, ля менскай Саборнай плошчы. Яны існавалі яшчэ да таго, як Ваньковічы пабудавалі свой дом, і дзе заканчваліся — ніхто дасюль не зведаў. Казалі, што зямля пад усім цэнтрам горада — як у мурашніку... Што ж, Ваньковічы карысталіся сваімі сутарэннямі неаднойчы... Цёмнымі вузкімі лазамі прабіраліся на таемныя спатканні з іншымі змоўшчыкамі, уцякалі з аблогі, хавалі зброю... Але тут, у гэтым доме, сутарэнні выглядалі іначай. Высокая столь, пасярэдзіне — тоўстая каменная калона... Гаспадыня абшчаперыла яе, прыклалася да каменя лбом:

— Паслухай...

Ян таксама прыхінуўся да калоны з другога боку. Глухі гук — быццам пад зямлёй нехта біў вялізным молатам па вялізным кавадле, і ад udaraў уздрыгвалі нават каменная падлога і калона.

— У кожным горадзе ёсць такое месца,— ціха прагаварыла гаспадыня.— Сэрца горада... Магчыма, гэта волат Менеск усё яшчэ круціць свае жорны і перамолвае камяні — іначай яны будуць расці і запоўняць усю зямлю. А можа, гэта б'юць крыніцы — кроў зямлі. Выпусці яе дарэшты — і зямля памрэ. А можа, гэта барабаны, якія склікаюць падземную варту — ведаеш, пад кожным горадам ёсць свая падземная варта?

— Я ведаю толькі адно — я кахаю цябе,— прашаптаў Ян і асцярожна паклаў далонь на руку гаспадыні, прыціснутую да каменя калоны. Якія халодныя пальцы... Тонкія бровы пані выгнуліся, нібыта ў недаверы.

— Гэтае сутарэнне памятае гісторыю аднаго палкага кахання...

Прыгажуня адышла ад калоны і пачала расповед тым жа ціхім голасам, нібыта хтось мог падслухаць:

— Гісторыя, старая, як гэты свет... Тут жыў купец з трыма дочкамі. Две родныя, адна прыёмная. Да паненак узялі гувернанта. Ніхто не падумаў пра тое, што малады чалавек занадта гожы для таго, каб браць яго ў дом, дзе жывуць дзяўчаты. Усе трох марылі аб адным. Каханне дасталося толькі адной з іх, няроднай. Старэйшыя даведаліся, што сястра змовілася ўцячы з каханым. Яны звязалі шчаслівіцу шаўковымі шалікамі, замкнулі ў гэтым сутарэнні і пабеглі за бацькам. І якраз пачалася паводка. Свіслач разлілася... Сутарэнне затапіла. Вось і ўсё... Калі жаніх, дарэмна прачакаўшы, прыйшоў сюды і ўбачыў труп, які плавае ў цёмнай вадзе... Норавы тады былі яшчэ больш дзікімі чым цяпер. Ён забіў абодвух сёстраў — забіў кінжалам мізэрэкордзія, адмысловым кінжалам, якім дабівалі паваленых рыцараў у шчыліну паміж латамі і шлемам. А потым павесіўся. Таксама тут, у сутарэнні. Страшна і банальна, праўда?

Незразумелая ўсмешка кранула тонкія вусны дзяўчыны. Ян пацягнуўся да яе... І зноў свет расплыўся ў яго вачах... Ванькові ачуняў толькі ў ложку — як яна, бедная, яго сюды выцягнула з сутарэння? Можа, у доме ёсць яшчэ нехта?

Але праверыць не атрымлівалася. Пасля свайго прызнання Ян аслабеў. З цяжкасцю падымаўся, каб прайсціся па пакоі... Затое цяпер кожны вечар да яго ложка падыходзіла гаспадыня, каб пацалаваць у лоб. Пасля гэтага наставаў цяжкі сон... Цяжкі — бо ўсё больш вярэдзіла думка пра тое, што робіцца там, за зачыненымі ваканіцамі. Як ён мог так надоўга забыцца пра свой доўг перад айчынай, перад таварышамі? Ці паведаміла гаспадыня ім, што ён жывы? Чым далей, тым усё больш сумніў апаноўваў Яна, і да ягонага кахання прымешвалася атрута. Ён кахаў — і баяўся гэтай бледнай прыгажуні, усё больш баяўся дотыку яе вуснаў да свайго гарачага лба. У начных трызненнях прывідныя водарасці апляталі яго, ён захлынаўся ў вадзе. Не, так далей невыносна. Урэшце ён з роду тых, хто не здраджваў радзіме нават дзеля кахання. Толькі б адчыніць дзверы... Усё часцей прыходзіла жахлівая думка: гэта палон... Няўжо ён патрапіў проста ў рукі тых, з кім змагаўся? Але ж яна выратавала яму жыццё... Цяпер яна мусіць яго адпусціць! Усё роўна ён вернецца — як вяртаецца навязаны на ланцуг звер... На ўсе роспыты і просьбы адказ — няпэўная ўсмешка, пацалунак... А калі настойваў — яе твар па-дзіцячы зморшчваўся, з горла вырывалася жаласнае рыданне... А

вочы зноў напаўняліся болем. Так што рабілася сорамна за недавер. А потым — зноў апаноўваў жах, што гэта — назаўсёды. Гэты паўцёмны пакой, блытаныя размовы, асцярожныя крокі... У Яна не было сілаў нават узвысіць голас. Рана ж загаілася, а ў яго ўсё яшчэ адчуванне, што траціць кроў... І яшчэ... Толькі цяпер Ян усвядоміў, што ў доме няма абразоў. Толькі выява крыжа — простая, з чорнага дрэва — над дзвярыма, назаўсёды, магчыма, зачыненымі для госця. Як яна казала? Гэтыя дзверы адчыняюць толькі кроў і агонь? Можа быць, у гэтых словах зусім іншы сэнс? Крыві, калі Ян патрапіў сюды, было дастаткова. І ён жа тады, калі ўпаў на брукаванку, запаліў агонь перад сцяной, у якой, магчыма, і праўда! — не мелася дзвярэй!

Калі дзяўчына прыйшла пацалаваць яго перад сном, Ян зрабіў выгляд, што моцна спіць, павярнуўшыся тварам да падушкі. Гаспадыня доўга стаяла над ім, Ян адчуваў яе пільны позірк. Дыханне ў таго, хто спіць, роўнае і глыбокае. Толькі б не зварухнуцца, не ўздыхнуць перарывіста... Яшчэ крыху — і не вытрывае. Але амаль бязгучныя крокі аддаліліся ад ложка. Ян пачакаў яшчэ трохі і ўзняўся. Чаму ўсё-ткі яна, калі была ворагам, не схавала яго шаблю?

Перад дзвярыма без засоваў, без адтуліны для ключа, Ян высек агонь... Паперка, выдзертая з нататніка, з чарговай намаляванай алоўкам выявай гаспадыні дому, скурчылася, пацямнела. Пялёсткі агню варушылі яе на падлозе, нібы прагныя кузуркі. Час... Ванькові агаліў левую руку да локця і паласнуў шабляй. Агонь і кроў! За спінай пачулася нешта падобнае да тонкага жаласнага плачу. Дзверы не адчыніліся, але нібыта сталі празрыстымі, як балотны туман. І Ян ірвануўся туды...

Ён зваліўся на брук перад ганкам апусцелага дома. Цьмяная раніца позняй восені падалася яго адвыклым ад святла вачам сляпучай, як само сонца. Недзе працокалі капыты... Відаць, рамізнікі пачалі працу. Заплакала дзіця... Яму азваўся сярдзіты заспаны жаночы голас. Ляснічы ўзняўся. Так, гэта быў яго свет, яго горад, яго гора... І яго доўг. Колькі ён прапусціў? Тыдзень жыцця? Месяц? Або праляцелі гады?

Ён нават не азірнуўся на таямнічы дом. Як не азіраюцца на гатовага стрэліць у спіну былога сябра.

Паўстанне захлыналася ў крыві. Імперыя не жадала саступаць і найменшую частку сваёй улады. Таму душыла ўсіх паслядоўна і бязлітасна. Паўстанцкі камандзір Лялiва зноў стаўся пагрозай ворагаў. Але ці трэба тлумачыць, што бледны твар незнаёмкі бачыўся

яму і ў сне, і наяве, і ніводная жанчына не магла нават крыху прыпадобніцца ёй. Гэта было ганебна — але часам Яну рабілася так балюча, што ён шкадаваў, чаму назаўсёды не застаўся ў доме на Францысканскай. Ну, пра подзвігі жывапісаць не стану... Я не маю здольнасцяў баталіста. Атрад Яна біўся на Падляшшы і на Брэстчыне... Яго зноў паранілі, і некаторы час ён хаваўся ў сутарэннях менскага маёнтку Ваньковічаў — інсургенты вырашылі, што найменш шукаць будуць навідавоку. Балела рана на плячы, але наймацней балела рана нябачная. Кожны вечар, калі Ваньковіч клаўся ў ложак, яму здавалася, што над ім схіляецца танклявая постаць, і халодныя вусны кранаюць лоб. Чаму яна не пакіне яго ў спакоі? Там, у сутарэннях радавога дома, Ян і зрабіў прыгожую мармуровую статую. Каго яна выяўляла — зразумела... Статуя не прадназначалася для чужых вачэй. Ян пахаваў яе там жа, у сутарэннях. Прачытаў над ёй малітву... І нібыта адчуў сябе вызваленым. Потым з дапамогай пісьменніцы Элізы Ажэшкі, з якой доўга сябраваў, з’ехаў за мяжу. Яшчэ паваяваў у Галіцыі, потым перабраўся ў Парыж. Расейскія ўлады забралі маёнтак у Сляпянцы, падчас вобыску знікла самае каштоўнае — партрэт Аляксандра Пушкіна пэндзля бацькі Яна, Валенція Ваньковіча. Партрэт, якім так захапляліся сучаснікі... Магчыма, дасюль прыўкрашае кабінет якога-небудзь жандарскага чыноўніка. Ян Ваньковіч дажыў амаль да нашага стагоддзя. Не ведаю, ці трывожыў яго прывід чароўнай панны з дома на Францысканскай, але мармуровая статуя дасюль — у скляпеннях дома Ваньковічаў. І я не хацеў бы быць тым, хто яе выкапае. Ну а дом на Францысканскай, спытаеце вы... Ёсць, чаму не. І ганак маецца перад глухой сцяной. Але дом зусім не закінуты — на першым паверсе ажно чатыры маленечкія крамкі: табака, зеляніна, канцылярскія прыналежнасці і вырабы з бляхі. На другім паверсе туляцца сем’і гаспадароў, як семкі ў пераспелым гарбузе. Бялізна развешаная на вяроўках, працягнутых ад вакна да акна, дзеці равуць, кабеты верашчаць. У сутарэннях — склады: бочкі, скрынкі, джамалунгмы вёдраў і бляшаных тазікаў... Гісторыя пра купца і яго трох дачок пацверджваецца гарадской хронікай. Але насельнікі дома відавочна ў прывідаў не вераць. Вядома, ніхто з іх не спрабаваў адчыніць неіснуючыя дзверы агнём і крывёй... Дый я таксама спрабаваць не буду.

Улад змоўк, і ў цішыні ўсе пачулі трэск — дагарала яшчэ адна свечка, і агеньчык кноту крануў вільготную паверхню стала. Дарота хуценька задзьмула паміраючы агонь.

Пан Беларэцкі парушыў маўчанне:

— Сённяшнія дэкадэнты страшэнна любяць гісторыі пра вампіраў ды ламій.

— І праўда,— зазначыў Ной.— У нас на выставы прыходзіла адна мастачка-акварэлістка, якая пускала пра сябе чуткі, быццам яна вампірша. Прыйдзе — страх глядзець: з набеленым тварам, абведзенымі чорным вачыма і бранзалетам на назе, а іклы напільнікам завостраныя... Каб гэтыя іклы ўсе бачылі, яна ўвесь час падымала верхнюю губу, як пабітая котка. А на вуснах — чырвоная фарба. А пачалося ўсё з таго, што нейкі шлемізул рэкнуў ёй наконт асабліва пікантнай бледнасці ейнага твару... Мне расказвалі, калі яна цалавалася, дык абавязкова да крыві.

Усе рассмяяліся.

— Прызнайся, на сабе паспрабаваў? — спытаўся Улад.

Ной затрос галавой:

— Ведаеш, у мяне ўсё-ткі ёсць нейкі... мастакоўскі густ.

— Карацей, табе падабаюцца іншыя,— зазначыў Улад нечакана змрочна, і часовыя насельнікі дома пасярод паводкі змоўклі, нібыта было сказана нешта небяспечнае.— Што ж, мая маці гаварыла, што каханне — гэта танец... Складаны танец дваіх, дзе амаль немагчыма захаваць раўнавагу — адзін робіць крок наперад, другі на крок адступае... Адзін схіляецца, другі выпростваецца... Потым наадварот... Няверны рух — і ўсё парушана, цені разышліся, маскі зляцелі на паркет, чырвонае канфецці сэрцаў храбусціць пад абцасамі.

— Я ўявіла сярэднявечную паванну, якую мы танчылі на вечарыне...— ціха прамовіла Дарота.— Паванна на смерць інфанты — так, здаецца, гэта называлася?

Улад, нібыта адганяючы жуду, страсянуў густымі валасамі, ускочыў і схіліўся ў танцавальным па перад Даротай.

— Паванна!

— А як жа без музыкі? — запярэчыла Зося.

Але Дарота ўзнялася, і пачаўся дзіўны танец — у цішыні, у цёмным пакоі, у мігценні свечак... Павольна, паважна... Адзін за адным усе, нават Андрэй Беларэцкі, далучаліся да гэтых скокаў, нібыта да пахавальнай працэсіі... Ніхто не ўсміхаўся, не гаварыў, не спрабаваў напець матыў, толькі рухі зліваліся ў адзіным рытме. Надышла частка

паванны, якая называецца капрыёль, калі танцоры імітуюць скокі коней. Цені ўсё хутчэй слізгалі па сценах, людзі схіляліся і выпростваліся, мяняліся партнёрамі... Дыханне пачашчалася... Рукі не спяшаліся перарываць дотык да рук...

Калі не можаш сказаць — танчы...

Калі немагчыма крычаць — танчы...

Калі побач смерць — танчы... Як танчаць аблокі і агонь, як танчыць сама зямля ў абдоймах ветру...

Улад схапіў Зосю ў абдымкі, пан Беларэцкі затрымаў руку збялелай Дароты ў сваёй руцэ...

Стук у дзверы перабіў шум дажджу і спыніў вар'яцкі танец.

Няклікаaccount гасцей было трое. Яны ўвайшлі разам з дажджом, ветрам і трывогай. Вада сцякала па востраверхай шапцы-шлеме галоўнага. Малады твар, шырокі ў выліцах, светлыя прамыя бровы і пагляд чалавека, які не сумняецца, як не створана сумнявацца ружжо за яго плячыма. Двое другіх, адзін у сялянскай світцы, другі ў салдацкім мундзіры са спаратымі пагонамі, трымалі ружжы напагатоў, і на тварах іхніх толькі насцярога і боязь... Сумесь, якая робіць людзей забойцамі.

— Больш у доме нікога няма?

Зося падскочыла да прыхадня, запунсавеўшы.

— Прывітанне, таварыш Аляксандр.

Госць ледзь заўважна кіўнуў галавою:

— Добры вечар, таварыш Зося. Ты тут... забаўляешся, гляджу.

Андрэй Беларэцкі раптам рассмяяўся. Нядобра рассмяяўся, суха.

— Малайчына, дзяўчынка. Будзеш камісаршай.

Зося з прыкрасцю азірнулася:

— Ну нашто вы так, пан Беларэцкі.

— А ў вас, пан, дарэчы, дакументы ёсцека? — зараз жа холадна адгукнуўся Аляксандр, і фалькларыст сцепануўся, як ступіўшы басанож у халодную ваду.

— Калі вам не брыдка — то пакажу свой пашпарт яшчэ з царскай Расеі,— Беларэцкі пакорпаўся ў кішэнях пінжака, і на свет паказалася пакамечаная паперка.

Але прыхадні нават не дакрануліся да яе.

Аляксандр абвёў светлымі вачыма пакой:

— У вас тут утульненька... Нават свечкі ёсць. Вунь колькі. А ў горадзе па картках свечкі атрымліваюць.

— Буржуі...— прабурчэў чалавек у салдацкім шынелі.— У іх тут немавед чаго прыхавана.

— Заўтра нацыяналізуем, апрыходуем,— раўнадушна прамовіў Аляксандр.

Зося кінула хуткі вінаваты позірк на сяброўку, але Дарота маўчала, нагнуўшы галаву.

— А вось ці ёсць тут прыналежныя да контррэвалюцыйнай арганізацыі сацыял-рэвалюцыянераў? — Госці шчыльней узяліся за ружжы, запанавала маўчанне.

Дарота ўскінула галаву:

— Тут няма палітыкаў. Мы проста... расказвалі казкі.

— Ну так,— пацвердзіла Зося,— пан Беларэцкі — прафесар, ён вывучае фальклор... Абрады ўсялякія, легенды. Песні народныя. Гэты хлопец, Ной — мастак, вельмі добры. Дарота — настаўніца, як і я, толькі я прыродазнаўчыя навукі выкладаю, а яна — мовы. А Улад — артыст...

— Артыст, кажаш? — Аляксандр кіўнуў галавой у бок Улада.— А хіба не ты казала, што ён эсэр?

— Няпраўда! — голас Зосі задрыжэў і зрабіўся танюткі, як апошні кужаль.— Як ты можаш, Саша... Я табе даверылася... Гэта ж між нас дваіх размова вялася. Расказвала жартуючы... я ж не думала... І не эсэр ён даўно... Так, дзівак, валацуга...

— А рэвалюцыя жартаў не любіць,— прыхадзень пачаў, здаецца, весяліцца.— Не сцы, Зойка, ворагаў трэ вынішчаць, тады і зажывем у ліманадзе,— і павярнуўся да Улада.— Ну, ты, рукі падымі...

Двое наставілі на Улада свае ружжы, бразнулі затворы, як магільныя лапаты аб вечка труны. Улад павольна ўзняў рукі. На яго бледных шчоках загарэліся чырвоныя плямы. На Зосю ён стараўся не глядзець. А тая адчайна крычала, тузаючы знаёмца за рукаў:

— Саша, Сашачка, ну зразумей жа... Гэта памылка. Гэта ўсё сябры. Беларусы. Таленавітыя, сумленныя... Рэспубліцы яны патрэбныя. Ну няхай яны... твае... апусцяць ружжы... Як жа мне далей жыць — з гэткім...

На апошніх словах голас дзяўчыны сарваўся на шэпт.

Аляксандр уладна абняў яе, страсянуў.

— Якая ты яшчэ... несвядомая. Ворага выкрыць — не сорам. Ворага выкрыць — пачэсна. А сведкі муляюць, гэта я разумею... Ну я ж сказаў, не сцы, дзеўка, я ўсё ўладжу. Сведкаў аніякіх не будзе.

І павярнуўся да знерухомелых людзей.

— Усім — на выхад!

— Дык човен толькі адзін, камандзір! — прахрыпеў прыхадзень у сялянскай світцы. Ягонае горла абкручваў брудны шалік, зроблены, падобна, з царкоўнае парчы.— У човен толькі пяцёра сядуць.

Аляксандр пацiснуў плячыма:

— Значыць, астатнія самі паплывуць. Ну...

І імгненна, як палёт кажана, выхапіў з кішэні рэвальвер.

Зося паспрабавала адвесці ягоную руку:

— Сашачка, не трэба!

— З імі хочаш? Дурніца! Яны — буржуі. А ты — пралетарка. Выбірай, з рэвалюцыяй ты або не?

Зося разгублена маўчала, перарывіста ўсхліпваючы.

— Была адна гісторыя на беразе Свіслачы,— скрозь зубы прагаварыў Беларэцкі.— Пабіліся з-за красуні два шляхціцы... Сплываюць крывёю, адзін другому і кажа: «Што ж мы, абодва памром, а панне нашай самотнай жыць... Пайшлі, пакуль на нагах, да яе — няхай выбера, каму памерці. А другі перавяжа свае раны і спазнае шчасце». Прыйшлі да дому панны, барваю шлях паліваючы — а з яе акна трэці, шчаслівы, вылазіць... Карацей, памерлі ўсе,— не зусім лагічна завершыў расповед пан Андрэй.

— Шкада, я не намалюю цябе, Зося,— ціха прагаварыў Ной і ўсміхнуўся.— З-за мяне можаш не пакутваць сумленнем. Ты не вінаватая.

І ступіў да дзвярэй...

— Пачакай, Ной! — Зося намагалася супакоіцца.— Добра. Добра, Саша. Я ўсё зразумела. Так. Гэта гонар. Я не саромлюся сведкаў. Няхай яны застаюцца. Забяры толькі таго, хто вам патрэбны.

Аляксандр шырока ўсміхнуўся:

— Падобна, нам патрэбныя ўсе. Нешта надта падазроныя ў цябе сябры, Зойка. Вядома, дзеўкай поўная вуліца, але жонкай поўная толькі печ, у хату з вуліцай не заходзяць. Адчыняй дзверы, кучаравы! Чаго стаў!

— Гэтыя дзверы адчыняць толькі агонь і кроў,— прагаварыў Улад, ірвануўся і, падаючы, скінуў на падлогу пахавальныя свечкі. Стрэлы, віскат... Агонь пабег па абрусе, па парцьерах... Загарэліся старыя газеты, раскіданыя абы-як па падлозе... А потым пралілася кроў...

І дзверы расчыніліся.

Для кожнага — свае.

...Чырвоны карбункул свяціўся ў чорных халодных хвалях, толькі што вызваленых з-пад лёду. Мастак пазіраў з моста ў Свіслач. Шматкі газетнага ліста белымі матылямі кружлялі над вадой, апускаліся на хвалі. Самае месца для несправядлівых слоў. А пачыналася ўсё так добра... Персанальная выстава, замова на роспісы для Дому селяніна... Абстракцыянізм — рука імперыялізму. Выкармыш, вылюдак, вораг... Словы пазбаўляліся звычайнага сэнсу. Божа мой, ну чаму ён не можа маляваць як усе — партрэты важдзей, шчаслівых калгаснікаў, стаханаўцаў... Спрабаваў жа — не так, занадта трывожна, занадта складана... Карціны, мусіць, ужо вывезлі з майстэрні. Цікава, разбяруць па лецішчах альбо спаляць? А куды вывезуць яго, іх стваральніка? Самае страшнае — гэта ўжо ён ведаў — заступацца і нават спачуваць ніхто не стане. Ён сам яшчэ нядаўна пераконваў сябе, калі даведваўся пра арышты знаёмых: гэты, недарэка, нарабіў памылак... А той, мабыць, і праўда замаскаваны вораг. А гэты, ясна, невінаваты. Але — разбяруцца без нас, выкруціцца, апраўдаецца. Цяпер прыйшлі па яго. Карбункул свяціўся праз хвалі. Самы час паспрабаваць дастаць...

Бліскучая зала Дома прафсаюзаў узарвалася апладысментамі. Дырэктарка ўзорнай дзіцячай выхаваўчай калоніі, зграбная, з каротка стрыжанымі рудымі валасамі сыходзіла з трыбуны, шырока ўсміхаючыся. Даклад быў добры. Правільны даклад. Але справы двух пяцікласнікаў учора зніклі. Бедныя Палінка ды Алесь. Дзеці ворага народа. Яна, выпраўляючы колішнюю памылку юнацтва, ратавала такіх дзяцей, як магла. Чым яны вінаватыя? Мяняла прозвішчы, перапраўляла гады нараджэння. Вучыла, як адказваць: сірата, бацькоў не памятаю... Намеснік па камсамольскай рабоце, нядаўна прысланая з Уралу, учора нешта намякала — пранюхала, паразітка. Што ж, рана ці позна...

Чалавек у ватоўцы, са спакутваным чорным тварам, сядзеў на драўлянай вакзальнай лаўцы, спрэс парэзанай ножыкамі. Худы вузельчык ляжаў ля ног, абутых у прывіды колішніх чаравікаў.— перавязаныя вяровачкамі, дзіркі заторкнутыя газетамі.

— А што гэта, грамадзянін, у вас за газетка тырчыць?

Чалавек звыкла паслухмяна ўзняўся, рукі самі скляліся за спінай. Адзін з патрульных нахіліўся. Тузануў за край паперы, што паказваўся з чаравіка незнаёмца.

— Ты... ты гэта што? Партрэт таварыша Берыі бэсціць? Ану, дакументы!

Чалавек дрыготкай рукой дастаў з-за пазухі паперкі.

— А-га, вяртаемся з месцаў далёкіх. Вызвалены за актыўны ўдзел у агітбрыгадах. Артыст, значыць... Камандзіраваны ў Віцебскі тэатр... Хто гэта ў вас такі добранькі ў начальніках? Разбярэмся, гніда! Ану, пайшоў...

— Гэтая рэформа правапісу не адпавядае самой прыродзе нашай мовы,— голас загадчыцы кафедры, высахлай кабеты з рана пасівелымі, калісьці чорнымі, косамі, укладзенымі каронай, быў ціхі, роўны, зусім пазбаўлены эмоцыяў. Але прысутных апаноўваў жах, нібыта яна нема крычала.— Набліжэнне да расейскай мовы — не той шлях, на якім наша нацыянальная культура можа напоўніцу раскрыцца. Бо кожная мова — жывы арганізм, які развіваецца па сваіх законах, і культурны чалавек мусіць берагчы ўсе мовы свету, не даваць ім знікаць і страчваць самабытнасць. Тым больш мы, беларусы, мусім ганарыцца сваёй мовай, на якой пісаліся Статут Вялікага Княства Літоўскага і прадмовы Скарыны, і захоўваць яе.

Два маладыя выкладчыкі, кідаючы адзін на аднаго насцярожаныя позіркі, паспешліва занатоўвалі словы куратаркі. Адзін з іх мусіў паспець дакласці куды трэба першым, і тым выратавацца.

Над верасовай пусткай гарэла вострая зорка, цені Дзікага Палявання слізгалі над зямлёй... Андрэй Беларэцкі здушыў крык і кінуўся бегчы ў лаўжы, што цямнелі побач. Цяпер ён не мог бегаць так хутка, як у маладосці. Ды і вочы, саслабелыя ад працы над неразборлівым почыркам сярэднявечных перапісчыкаў, нават поўню бачылі ў выглядзе светлай расплывістай плямы — нібыта паркалёвы каптур закінуты ў печку. Дом на Плябанскіх Млынах рабіўся сумным паданнем, ператвараючыся ў попел.

— Стой, гад! — Стрэлы за спінай ужо не турбавалі. Светлая беларуская будучыня была тут.

*2006*

# СКОКІ СМЕРЦІ

*Гатычны раман*

Свет добры. Свет мяне паўторыць.
Ну а не свет — дык Беларусь.
Мне досыць.

*У. Караткевіч*

Яны круціліся ў вар'яцкім карагодзе вакол ратушы ўжо дзясятую гадзіну. Неба зрабілася чырвоным, як распаленае жалеза. Цяжкі дым вогнішчаў, якімі адпалохвалі пошасць, слаўся па бруку, нібыта душы, што дарэмна праглі перад смерцю апошняга прычасця, не хацелі пакідаць зямлю...

— Ю-ры, Ю-ры, па-ра-туй!.. Ю-ры, Ю-ры, па-ра-туй!..

Выкрыкі былі ўжо мала падобныя да чалавечых. Анэта адчувала, што з яе надарваных грудзей выходзіць толькі хрыплы свіст. У моманты прасвятлення ўсведамлялася, якія халодныя рукі ў тых, хто побач: справа — худы і светлы, як трыснёг, мніх-мінарыт, у бурым плашчы са спічастым каптуром; злева — сівагаловы мечнік Лаўрын, у якога нядаўна памерла ўся сям'я... І ў таго, і ў другога далоні — як ільдзяныя абцугі. Нібыта цябе трымае сама смерць... А хіба не так? Нехта паспрабаў вырваць Анэту з людскога кола...

Голас Богуша гучаў зусім побач:

— Ачніся! У імя Госпада! Пайшлі дадому!

Не, не ў змозе чалавечай спыніць гэтыя скокі... Імчаць, імчаць па коле... Але яна не можа... Не можа больш... Упасці... Стаць зямлёй... Пылам пад чужымі нагамі...

На царкоўнай званіцы ўдарыў звон — няўмольна-ўладарна. І карагод закруціўся з новай сілай.

— Ю-ры! Ю-ры! Па-ра-туй!

Пошасць прыйшла ў Старавежск з восеньскім ветрам, перавітым сівым павуціннем, з горкім пахам верасу, і як павуцінкі бабінага лета, паляцелі лёсы ў невядомы вырай, пакідаючы жывым адчай збуцвелай лістоты. Спыняліся млыны, пераставалі стукаць молаты кавалёў, абміналі горад шаноўныя купцы, і тыя, хто застаўся жывы, не мелі чым прывязаць душу да цела... Вялікі князь абяцаў дапамогу. За гэта горад мусіў расплаціцца часткай волі. Але пра старавежцаў суседзі нездарма казалі: «Хоць лоб медны, але ж мур каменны», ды яшчэ

пляткарылі, як старавежцы сеялі ваўчыныя зубы вакол студні, каб выраслі пакрытыя поўсцю вoі, ці пра тое, што ў падзямеллях гарадскіх цякуць мядовыя крыніцы, і што кожны старавежац умее апоўначы шапкай злавіць чырвоную мятлушку, каб смажыць блінцы на яе незгасальным агні. Пасланцы Вялікага князя атрымалі «гарбуза». Ды, пакуль яны ўгаворвалі ўпартых месцічаў прымірыцца з князем, сталася яшчэ горш — за пошасцю пачаўся шал... Карагод смерці.

Біскуп, дасланы ў Старавежск Вялікім князем, спалохана і трохі грэбліва назіраў з вакна ратушы за шаленцамі, трымаючы ля носу ладанку з зёлкамі.

— Прасвяты Божа, што рабіць? Палова магістрату скача... Настаяцель храма! Цэлы дзень сядзім тут, як у аблозе... Можа, паслаць варту — спыніць іх?

— Бескарысна,— Гервасі Бернацоні, лекар Вялікага князя, што прыехаў разам з біскупам, абыякава скрывіў тонкія вусны.— Я бачыў падобнае шмат разоў. У Фларэнцыі гэта называецца скокі святога Гюі. У Эльзасе — скокі святога Віта. У Кёльне шаленцы звярталіся да святога Ёгана... Тутэйшыя, ліцвіны, заклікаюць святога Юр'я... Я называю гэта скокамі смерці. Звычайна такое здараецца, калі пошасць забірае больш за палову жыхароў места.

Адна з жанчын шалёнага карагоду ўпала. Двое смельчакоў з варты падбеглі і адцягнулі кабету — яна была нібыта спруцянелая, толькі ногі ў збітых да дзірак кабцях усё яшчэ тузаліся, усё яшчэ працягвалі смяротны танец ды з вуснаў, на якіх засохла шэрая ад пылу пена, вылятаў ціхі хрып:

— Ю-у-у-ры-ы...

— Божы праклён...— пакорліва прашаптаў біскуп.

Бернацоні скептычна пацiснуў плячыма.

— Хто кажа — праклён, хто — наадварот...— Лекар прымружыў чорныя жорсткія вочы, углядаючыся ў рух на пляцы.— Дзвесце гадоў таму маленькі пастух з Клоэ пачуў голас з неба і павёў тысячы дзяцей у крыжовы паход, адваёўваць Святую зямлю... Яны гэтаксама скакалі і крычалі, прарокавалі і круціліся да знямогі. А Папа іх благаславіў, як абранцаў Божых.

— Дзеці — бязвінныя істоты,— важка прамовіў біскуп.— Яны бліжэй да анёлаў, чымся мы, грэшнікі... Святы Дух часцей гаворыць праз іх.

Бернацоні паківаў галавой і прамовіў з перабольшанай ветлівасцю:

— Праўда, мне нехта расказваў, тых блаславёных вашым Папам дзетак генуэзскія купцы пагрузілі на караблі і завезлі на турэцкія рынкі рабоў.

Біскуп зразумеў прыхаваную насмешку, але змаўчаў. Адкрыта пярэчыць Гервасію Бернацоні не наважыўся б ніхто: усе ведалі, што пры Вялікім князі ён больш чым лекар — таемны дарадца. З'явіўся пры двары яшчэ тады, калі князь звязаўся з ерэтыкамі-гусітамі і нават пляменніка паслаў па чэшскую карону... Тады і панаехала розных — мніхаў-раскольнікаў, худых, як бізун, з фанатычна палаючымі вачыма, вучоных шарлатанаў са змяінымі ўсмешкамі... Прага ўяўлялася біскупу вялікім Бабілонам. Бернацоні шмат гадоў жыў у тым вяртэпе, і чым займаўся, добраму хрысціяніну лепш не ведаць. Лекар сапраўды ён выдатны. І тлумач дзіўны, мабыць, нават на мове латафагаў гаворыць...

«Вось толькі на мове анёлаў табе, браце, не гаварыць»,— помсліва падумаў біскуп.

— І ўвогуле, чаго вы так пераймаецеся? — працягваў Гервасі.— Я разумею, у гэтай краіне такое ўпершыню... Вы не ведаеце, што гаварыць новай пастве... Але каб не скокі, было б горай. Пошасць і шаленства — справядлівае пакаранне за гардыню. І своечасовае.

Біскуп з жахам зірнуў на смуглявы, у прыцемку бронзавы, твар лекара.

Бернацоні холадна ўсміхнуўся:

— Толькі не кажыце, святы айцец, што не ведалі пра невымерную гардыню гэтага горада — стацца ліцвінскай Генуей... Вялікі князь думае, як захаваць сваю дзяржаву, як прымірыцца з братам, як адбіць татараў і русічаў — яму не да выбрыкаў «вольнага места». Успомніце, як Вашая правялебнасць паводзілася мінулым днём, калі добрыя месцічы сабраліся пад гэтым вакном ды пачалі гарлаць сваё «Ганьба!» ды патрабаваць веча! Да таго ж, прыхільнікаў Папы ў горадзе не шмат... Ці не вы мяне прасілі неяк утаймаваць гарлапанаў?

Біскупа перасмыкнула.

— Я зусім не ўяўляў, што гэта станецца так... Гэта... больш падобна на жахлівае чараўніцтва.

Бернацоні раздражнёна запярэчыў:

— Калі б гэтыя людзі ўжо не мелі ў сабе душэўнай хваробы, ім не пашкодзіла б нішто... І я, не варты, імчаў бы зараз з вамі да Вялікага князя з вялікай ганьбай...

— Але ў коле апынулася і некалькі нашых вояў!

Бернацоні холадна ўсміхнуўся:

— Што ж, небаракам не пашанцавала... Але калі чалавек апынаецца ў нядобры час у нядобрым месцы, хіба і ў гэтым няма праявы Божае волі? Гасподзь разбярэ на Судзе, хто праведны, хто грэшны. І Ён сам выбірае інструменты, якімі выконваецца Ягоная воля. Так што не дратуйце сваё сумленне, Ваша правялебнасць, гэта было неабходна. Падайце знак, каб паставілі вакол пляца варту, абвясціце скокі Божым праклёнам і чакайце.

Карагод трохі суцішыў рух. Яшчэ некалькі чалавек упала. Мніх заенчыў і паспрабаваў вырвацца з кола... Але зноў ударыў звон, і яму азваліся гадзіннікі ў ратушы — Бернацоні паўсюль вазіў за сабой сваю каштоўную калекцыю, нечуванае цуда для Старавежска. Тут нават на ратушу гадзіннік не сабраліся паставіць, як зрабілі гарадзенцы. Не да гадзіннікаў было гарадской радзе — войны бясконцыя... Толькі адбілі русічаў — татары... Вялікі князь даніны патрабуе, кароль польскі зманьвае да Кароны... Усім патрэбны слаўны Старавежск, усе хочуць садраць з ягонае ратушы белы штандар з чырвоным, нібыта ўзыходзячае сонца, коннікам...

А ў Бернацоні гадзіннікі, як у каралеўскіх палацах — падобныя да маленькіх храмаў, аздобленых рознымі фігурамі... І цэлых дванаццаць. Тахкаюць, нібыта кузні хохлікаў. Калісьці біскуп не супраць быў адзін займець. Але хіба пражскі прыхадзень падорыць... Не вымяняў і на велізарны аметыст у аправе з белага золата (у біскупа была свая слабасць да прыгожых рэчаў). Але цяпер, калі біскуп ведае моц гэтых гадзіннікаў, нізавошта не згадзіўся б трымаць такі ў сваім доме.

Між тым небаракі, апантаныя скокамі, нібыта гукі падагналі іх, закруціліся з новай моцай.

Сонца зусім схавалася за цёмным вострым абрысам царквы. У водбліскаах вогнішчаў, якія гарэлі на ўсіх кутах пляца, імкліва рухаліся злавесныя цені. Важкі залаты ланцуг, сведчанне доктарскага звання, цьмяна пабліскваў на грудзях княжскага лекара.

— І колькі гэта будзе доўжыцца? — з роспаччу прамовіў біскуп.

— Пакуль яны ўсе не памруць,— спакойна адказаў Гервасі.

— Анэта! Ачніся! Анэ-та!

Я страсянула галавой, пазбаўляючыся шматкоў жаху. Зноў задрамала на працы. Ну не прывыкла я ўставаць а пятай раніцы, спадарове. І зноў гэты сон! Хаця рэальнасць была таксама непрыветнай. Кнігі, якімі я гандлявала, стракацелі вакол, нібыта

экзатычныя птушкі... Якія там птушкі — не ўсе з іх маглі прыпадобніцца нават да чучала, на якое паляўнічыя ловяць даверлівых крылатых ахвяраў...

— Анэта! Спіш, як на лекцыі! Вось дык сустрэча! А я думаю, чаго даўно тваіх артыкулаў не бачна. У бізнес падалася!

Аркадзь, колішні аднакурснік, гладкі і вясёлы, як новы парцалянавы гляк, усміхаўся на ўсе зубы. Не люблю, калі знаёмыя бачаць мяне за новым заняткам. Была журналістка — стала гандлярка... Наймічка...

І тут стракатае царства кірмашу на хвілю для мяне абязгучылася, быццам я нырнула пад ваду. Прычынай таму быў спадарожнік Аркадзя, сінявокі брунет у чорным швэдары, на погляд некаторых (а калісьці і мяне), досыць сімпатычны.

— Прывітанне, Ганна.

— Прывітанне, Юрась.

Спадзяюся, у маім голасе было дастаткова льдзінак. З былымі мужамі трэба размаўляць голасам Снежнай Каралевы.

А Юрась здорава змяніўся... У плячах стаў шырокі, а вусны, калісьці па-юнацку пульхныя, усмешлівыя, сурова сціснутыя. На шчацэ з’явілася некалькі шнараў. І валасы коратка стрыжэ, гэткі непаслухмяны цёмны «вожык» атрымаўся — а калісьці хадзіў з доўгімі валасамі, як паэт эпохі рамантызму. Толькі вочы па-ранейшаму сінія, і бровы прамыя, сыходзяцца ўпарта над пераноссем. Недагледжаны нейкі... Рукавы швэдару даўжэзныя, джынсы працёртыя... Але на руцэ блішчыць заручальны пярсцёнак (ператвараюся ў старую дзеўку, якая імгненна і зайздросна заўважае падобныя дэталі). Адзінаццаць гадоў, як апошні раз бачыліся. Дый колькі мы па-сапраўднаму былі разам — смешна прызнацца. Здараецца, букет хрызантэмаў даўжэй прастаіць... Студэнцкае вяселле, так бы мовіць. Ідыётка... Не, каб прыняць заляцанні Аркадзя, сына загадчыцы сталоўкі, была б сёння такой жа дагледжанай і не стаяла б за кніжным прылаўкам.

— Нармальна, Анэта. Ты хоць кніжкі прадаеш, а я з унітазаў пачынаў,— Аркадзь, відаць, заўважыў, што я бянтэжуся.— Так-так, сем гадоў таму я сантэхніку вазіў з Польшчы. Пасля магнітафоны з Нямеччыны... Потым аўто ганяў ажно з Галандыі.

— А цяпер што возіш? — змрочна запыталася я.

Страшэнна злавала, што Юрась моўчкі глядзеў убок, нібыта баяўся падняць на мяне вочы.

Аркадзь шчыра зарагатаў:

— Цяпер нічога вазіць не трэба! Таму што нерухомасцю займаюся. Не-ру-хо-мас-цю! Другім прадаю, сам купляю. Я цяпер усё роўна што князь — замак маю!

Юрась спадылба кінуў на сябрука скептычны позірк, і Аркадзь раздражнёна ўдакладніў:

— Ну не замак, не замак... Вежу. Але дзе? У Старавежску, на пляцы! У цябе яшчэ вялікі артыкул пра гэтае мястэчка быў, памятаеш?

Яшчэ б не памятаць! Пасля гэтага артыкула мяне і пагналі з газеты. Аркадзь ззяў, як дзіця, якому купілі дарагі канструктар. Кабета ў жоўтым мешкаватым пінжаку адсунула гасцей ад майго прылаўка, каб пагартаць таўшчэзны том ілюстраванай «Энцыклапедыі эзатэрычных сімвалаў». Але я не расхваліла ёй «захаплядьны трактат таемных ведаў», а пачала распытваць Аркадзя з былой журналісцкай «хваткай»:

— Чакай, як табе маглі прадаць ратушу? Гэта ж гістарычны помнік!

— Вядома, гістарычны,— задаволена згадзіўся былы аднакурснік.— Чатырнаццатага стагоддзя пабудова. Але ты ж сама пісала, у якім яна жахлівым стане, развальваецца. Даху няма. Унутры — дрэвы растуць. Яшчэ крыху — засталася б груда камянёў. Раённае кіраўніцтва радуецца, што збылі. Каму справа?

— Ну хаця б мясцовым краязнаўцам! — абурылася я.— Сама з імі сустракалася. Зацятыя...

Аркадзь толькі пацiснуў плячыма.

— Знайшла сілу — «краязнаўцы»... Вялікіх падзей з той вежай не звязана, партызаны ў ёй штаб не ладзілі... А я адрэстаўрую і адчыню шыкоўны гатэль і рэстаран. Турыстычны комплекс будзе! Вакол запаветныя лясы, на паляванне ды рыбалку з усяго свету людзі ездзяць. А ты, Анэта, дарэчы, не думаеш працу мяняць? Мне добрыя менеджэры патрэбныя. А ты ж у нас на курсе «зорка» была. Самая таленавітая. Да таго ж мовы ведаеш... З тваёй польскай ды нямецкай можна хоць у амбасаду перакладчыцай!

У былыя часы я б зацялася і пачала абараняць гістарычны помнік ад чарговага нуворыша... Але юначы рамантызм даўно сышоў з мяне, як пазалота з вокладкі забытай пад дажджом кнігі... Дый Юрась ранейшы нават рукі б не падаў чалавеку, які перарабляе вежу чатырнаццатага стагоддзя на турыстычны комплекс. «Вернем свае

фальваркі, вернем лясы і паркі, і калісьці непазбежна мы адродзім усю краіну...»

Ага, адраджаем... Забяспечваем польскімі ўнітазамі і расейскай бульварнай літаратурай...

Кірмаш гуў, як мора ў ракавінцы, прыкладзенай да вуха, то сціхаў, то мацнеў, і нельга было зразумець, дзе ягонае сэрца. Кабета ў жоўтым пінжаку адышлася, так і не адшкадаваўшы грошай на «Энцыклапедыю эзатэрычных сімвалаў».

— Дзякуй, Аркадзь, за прапанову... Але...

Аркадзь не пакрыўдзіўся.

— Добра, падумай. Вось табе мая візітоўка... І ты тэлефончык скажы, а то знікнеш у сваёй звычайнай манеры — моўчкі і бясследна, як Снягурка.

Я атрымала з панскіх рук візітоўку з залатымі літарамі і... гербам. Вось табе і сын загадчыцы сталоўкі! У абрысе шчыта, падобнага да ваценца ў дэкарацыі мальераўскай п'есы — вежа. Сапраўды заманулася Аркадзю Баркуну князем стаць.

— А ты, Юрась, таксама гандлюеш? — як мага больш абыякава спыталася я.

— Я рэстаўратар,— ціха прамовіў мой былы муж, нарэшце на мяне зірнуўшы.

Мне не ўдалося схаваць здзіўлення.

— Ты ж на журфаку вучыўся!

— На журфак мяне бацькі ўладкавалі, быццам не ведаеш,— Юрась усміхнуўся ранейшай юнацкай усмешкай.— Які з мяне журналіст. Гульню ў словы я не люблю. Калі мяне адлічылі — я не сумняваўся, што правільна. Адслужыў у арміі, скончыў Віцебскую мастацкую вучэльню, працую вось...

— Ён проста занадта сціплы,— дакорліва сказаў Аркадзь.— Юрась у нас — знаны спецыяліст. Я і сам з ім раюся, і кліентаў сваіх скіроўваю. Дарэчы, пра птушак... А ці не паспяшацца нам, сябра? Спознімся... Ну, Анэта, рады быў пабачыцца. Тэлефануй!

Юрась прамовіў сваё «бывай», і ўладальнік вежы пацягнуў яго ў бок лесвіцы, дзе быў антыкварны салон. Апоўдзень там чакаўся аўкцыён.

Я зноў уладкавалася на сваё крэселка за прылаўкам. Прыйшла восень, самотная, пакрыўджаная, адгарадзілася ад свету халоднымі кратамі дажджоў і лістабоем. Рудых заўсёды крыўдзяць, а я — таксама рудая, як восень... І такая ж самотная. Хацелася схавацца,

скруціцца клубком, як кацяняці... Што я зрабіла са сваім жыццём? Вось — з'явіўся чалавек, які — маё першае каханне, і нічога асаблівага ў душы... Вядома, нешта зварухнулася, абарвалася ў грудзях — але разбітае акно выклікала б болей эмоцыяў.

Прыкмецілі мы адно аднаго яшчэ на першым курсе. Я была гэткай самаўпэўненай дзяўчынкай з рудой касой да пояса і страшэнна баялася выявіць сваю «правінцыйную», як я лічыла, сарамяжлівасць, нешта зрабіць «не па-сталічнаму» (і колькі глупстваў зроблена з-за гэтага!). А Юрась Дамагурскі быў трохі няўклюдным гарадскім юнаком з доўгімі кудламі, старасвецкай выхаванасцю ды начытанасцю. Усе ведалі, што Юрасёў бацька — мовазнаўца, і не дзівавaліся, што Юрась размаўляў паўсюдна на мове. А я вырасла на раманах Караткевіча, маці мая выкладала беларускую літаратуру і як найвялікшыя рэліквіі збірала кнігі з аўтографамі беларускіх паэтаў... Таму калі на лекцыях выкладчык пачынаў расказваць, напрыклад, пра гераічнае змаганне беларускага народа з Напалеонам, Юрась гучна згадваў пра Радзівілаў, якія былі на баку французаў, а з другога кута аўдыторыі я задавала сваё пытанне пра вызвольны полк Княства Літоўскага, які французы набіралі на нашых землях. Выкладчык нерваваўся, а мы лічылі сябе ледзь не інсургентамі.

На другім курсе паслалі нас «на бульбу». І неяк вечарам Юрась павёў мяне на ўскраіну вёскі — з кім яшчэ мог падзяліцца адкрытым цудам? Над зарасцямі шыпшыны ўздымаўся чорна-сівы ад часу слуп, наверсе якога, нібы старажытны трохкутны капялюш, красаваўся разьбяны дах. Ніжэй мацавалася круглая рама з раслінным узорам — птушачкі на галінках, драўляныя ружы — нібы вянок. Майстар дзівосны... Нават счарнелая, патрэсканая разьба ўражвала.

— Гэта аброчны крыж! — усхвалявана распавядаў Юры.— Тут калісьці праходзіла дарога... На крыж навязвалі ручнікі, каб шлях быў лёгкі. Папярочную перакладзіну адламалі... Бачыш, тут яна мацавалася. І распяцце садралі, варвары... Толькі абрамленне засталося. А гэта ж сямнаццатае стагоддзе, не пазней!

Юрась гладзіў, нібыта жывое, счарнелае дрэва.

— Аднавіць можна! Якая прыгажосць!

Я таксама дакранулася да слупа — яго паверхня была цёплай і шурпатай, нібы спрацаваная далоня...

Юрась паклаў сваю руку на маю... На небе запаліліся першыя зоры...

— А яны цалуюцца ў кустах, смаркачы!

Выкладчыца рускай літаратуры, нашая «бульбяная куратарка», захлыналася ад абурэння.

— Ганна! Я думала, ты сціплая прыстойная дзяўчына! А ты — распусніца! Косы, бач, запляла, а сама...

Словы ляцелі ў мяне, нібы камякі бруду і, здавалася, пакідалі відочныя сляды. Ды яшчэ тут, каля старажытнага крыжа, на які малілася столькі пакаленняў вандроўнікаў! Я залілася слязьмі ад знявагі. І тады Юрась цвёрда прамовіў, што я — ягоная жонка, і ён нікому не дазволіць мяне абражаць. Пазней аказалася, што гэта былі не проста словы, а план помсты і ўратавання майго гонару. Як Юрасю ўдалося ўгаварыць мяне на авантуру — мусіць, я была надта знерваваная.... Але я аддала яму свой пашпарт. Назаўтра Юрась пайшоў у сельсавет, не ведаю, у колькі яму гэта абышлося, але... нас распісалі. Увечары мой нечаканы муж з'явіўся да выкладчыцы з нашымі пашпартамі, у якіх стаялі новенькія штампы. Дзеля словаў прабачэння, якія мая крыўдзіцелька, высахлая да свісту старая дзеўка, выціснула з сябе, варта было згаджацца на гульню ў нявесту...

Але гульня зацягвалася. Нас чакала вяртанне ў горад, вучоба, гаворка з бацькамі... Напачатку гэта было нават весела — бацькі Юрася, «пераварыўшы» навіну, перасялілі да сябе ягоную бабулю, і мы апынуліся ў ейнай кватэры. Як я пасля зразумела, сваякі майго мужа былі пэўныя, што гэткі маланкавы шлюб мог адбыцца толькі з прычыны цяжарнасці нявесты. Сваёй маці я нават не стала нічога паведамляць — абавязкова захацела б зладзіць у нашым мястэчку вяселле. Мы з Юрасём па-сапраўднаму сталі мужам і жонкай, гэта было цудоўна... Для першай шлюбнай ночы купілі пунсовага атласу — прасціны з казачных ветразяў! А яшчэ Юрась прачытаў, як рэжысёр Параджанаў упрыгожваў пакой для Марыны Уладзі і Уладзіміра Высоцкага — і гэтаксама выклаў усю падлогу апельсінамі, а між іх расставіў запаленыя свечкі... Шчаслівы ўзрост, калі аздобы даюць адчуванне шчасця. А яшчэ — воля! Незалежнасць! Можна ўсю нядзелю валяцца ў ложку і есці цукеркі. Можна тыдзень складваць нямыты посуд у кошык. Можна ўсю ноч дзе-небудзь блукаць.

І не спаслала Неба нам ані кахання, ані цярплівасці...

Ды і завошта былі б нам тыя вялікія дарункі? Юрась штовечар бавіўся то ў рыцарскім клубе, то ў майстэрні знаёмага мастака. А калі заставаўся дома, то важдаўся з нейкімі старымі жалязякамі, падабранымі на сметніцы, каб потым урачыста запаліць іржавы прымус або завесці будзільнік, які тахкаў, быццам трэслі гарох у

жалезным вядры. Асабліва Юрась ганарыўся памятым, парэпаным гадзіннікам-«цыбулінай», які рамантаваў цэлы месяц, і які, па словах майго мужа, належаў калісьці Вацлаву Ластоўскаму... Чаму менавіта Вацлаву Ластоўскаму — уцямных доказаў я не атрымала, але Юрась толькі злаваўся, калі я выказвала сумніў, і прычапіў да гадзінніка ледзь не якарны ланцуг, які звешваўся з кішэні ягонай джынсоўкі, нібыта адтуль збіраліся ўцякаць зняволеныя карузлікі. А я хадзіла па літаб'яднаннях ды тэатрах, а пад'есці бегала да цёткі Алі, мамінай стрыечнай сястры, якая жыла непадалёк і апекавалася «беднай студэнтачкай»... Восеньскія дажджы закрэслівалі вокны празрыстымі кратамі, ноччу болей не было відно зорак... А старажытны гліняны кубак, з тых, што Юрась прыносіў у дом і прымушаў піць гарбату толькі з іх, каб адчуць повязь са шляхетнымі продкамі, трэснуў у маіх руках, і я абварыла калена. Мяняцца, прырастаць адно да аднаго не было ні жадання, ні сэнсу. Пасля чарговай сваркі — Юрась занёс мае ўлюбёныя касеты нейкаму сябруку, ды яшчэ на мае крыкі па-хлапечы тузануў за касу — я запхнула рэчы ў сумку і вярнулася ў інтэрнат. А назаўтра падала на развод... Калі мы разышліся, на падаконніку нашай кватэры яшчэ ляжала некалькі падвялых апельсінаў нашай першай шлюбнай ночы.

Пад канец года былога мужа адлічылі з журфаку. Юрасёва абыякавасць да маёй улюбёнай прафесіі злавала яшчэ больш, чым ягоная звычка паўсюль насіць з сабой уключаны дыктафон, з якога чуліся хрыпатыя спевы Шалкевіча або лірычныя трэлі Данчыка. «Мне чужых краёў не трэба...» Яшчэ на лбе сабе зрабіў бы татуіроўку: «I love Belarus». Легкадумны ёлуп! Не хачу мець з ім нічога агульнага! Сяброўка ўгаварыла мяне «згубіць» пашпарт. Я заплаціла штраф і атрымала новенькі дакумент, без аніякае згадкі пра «памылку жыцця». Мяне паслалі на год на стажыроўку ў Польшчу, потым я выйграла ў конкурсе на лепшы краязнаўчы рэпартаж і патрапіла на два месяцы ў Германію... А па вяртанні мяне запрасілі ў прэстыжную газету. Карацей, удалая творчая кар'ера дапамагла забыцца на ўсе колішнія захапленні.

А цяпер я спрабую забыцца на ўдалую творчую кар'еру.

Як добра, што няма пакупнікоў... Залы амаль пустыя. Вядома, выручкі не будзе. Затое можна яшчэ падрамаць. Толькі б зноў жахі сярэднявечныя не прымроіліся.

— І шмат ты, даражэнькая, такім чынам нагандлявала? — голас Кацярыны Пятроўны, гаспадыні маёй «гандлёвай кропкі», дрыжэў ад праведнага гневу. Я ўсхапілася.

— Ды пакуль нічога...

— Не дзіўна,— Кацярына Пятроўна, падцягнутая брунетка ў белым джынсавым касцюме ў ружовыя кветачкі, маладзейшая за мяне на два гады, агледзела прылавак.— А чаму не выклала «Энцыклапедыю эзатэрычных сімвалаў»? Яе добра купляюць.

Я зірнула на кнігі і схаладнела. Шыкоўнае выданне знікла. Няўжо кабета ў жоўтым пінжаку пастаралася?..

Гаспадыня, відаць, заўважыла мае хваляванні і дзелавым тонам спытала-сцвердзіла:

— Скралі?

— Не ведаю...

— Затое я ведаю, што ты працуеш у мяне апошні дзень.

Дома я заварыла гарбаты з шыпшыны. Гарбата з адмысловых пакецікаў з выявай ружовай кветкі на цэтліках атрымлівалася бляклай, як дым, і нясмачнай. Але за словам «шыпшына» ў мяне ўзнікала столькі прыемнага, хвалюючага, значнага, што я не збіралася пераходзіць на іншыя напоі. Цяпер можна было сесці ў мой улюбёны фатэль, падкурчыўшы ногі, і ўявіць, быццам нічога, акрамя гэтага фатэлю, кубка з гарбатай і рэпрадукцыяў старажытных гравюраў на сценах у свеце не існуе.

На адной з гравюраў быў увасоблены тыповы для XV стагоддзя матыў — з вакна вежы высунуўся шкілет, у адной руцэ яго — каса, у другой — вагі. І маладая вядзьмарка з валасамі, распушчанымі па ветры, ляціць у начным небе, пад поўняй, чый круглы твар падзелены на дзве паловы — цёмную і светлую....

Дарэчы, трэба зняць гэтую карціну — з-за яе, відавочна, мае жахлівыя сны. Павешу Рэнуара і буду сніць парыжскія кавярні.

І жыццё трэба змяніць таксама. Правільна маці гаворыць — нельга жыць у ракавінцы, калі ты не смоўж. Кажуць, характар чалавека выяўляецца толькі ў экстрэмальных сітуацыях. Вось у вас падае з рук кубак з гарбатай. Адны яго маланкава падхопяць, няхай і абальюцца пры гэтым, другія знерухомеюць на імгненне, дазваляючы кубку разбіцца, а некаторыя — адразу ж адскочаць убок, як ад гадзюкі. Ды яшчэ і з пакою ўцякуць, запэўніваючы сябе, што там ніякага разбітага кубка на падлозе няма, і ўвогуле сёння яны гарбаты не пілі.

Я належу да апошніх.

Не было майго шлюбу, не было журналісцкай працы, не было «гандлёвай кропкі» з кнігамі...

«Мяне няма», як сцвярджае адзін філосаф.

Чаму ж тады мне так дрэнна?

Таму, спадарыня, што табе трыццаць гадоў. Што ты ўсё жыццё кідаеш тое, што варта ратаваць. Таму што можна пачаць з унітазаў, а скончыць вежай чатырнаццатага стагоддзя. А можна пачаць з вежы, а скончыць...

Няхай маім першым крокам з ракавінкі, у якой я замкнулася ад непрыветнага свету, будзе гэты тэлефонны званок... Я набрала нумар, напісаны на візітоўцы з залатым гербам з выявай вежы.

— А хто пытаецца Аркадзя Мартынавіча?

Голас дзелавы, ані жывой ноты. Напэўна, патрапіла на сакратара. Я назвалася. Потым давялося тлумачыць, па якой справе тэлефаную... І пра тое, што сустрэла Аркадзя Мартынавіча выпадкова, першы раз за дзесяць гадоў. І што ёсць сведка размовы, наш аднакурснік Юрый Дамагурскі. Паступова я пачынала раздражняцца. Бач, якая служба бяспекі ў Баркуна пільная! І ўрэшце рэшт — Аркадзь Мартынавіч падысці не можа! Але я не паспела абурыцца, як прагучала тлумачэнне.

— Баюся, што працу вы не атрымаеце. Аркадзь Мартынавіч памёр.

— Як... памёр?!! Я ж з ім уранку размаўляла!

Мой суразмоўца пагардліва засмяяўся:

— Бывае, грамадзяначка. Для гэтага адной хвілі хапае. Быў чалавек — няма чалавека. Дарэчы, скажыце на ўсялякі выпадак свой тэлефон.

Я не зусім зразумела, навошта, але паслухмяна прадыктавала.

«Он выбыл первым из круга нашего. Поэтому в молчанье мы выпьем за него». Аляксандр Сяргеевіч Пушкін. «Маленькія трагедыі», «Баляванне ў час пошасці».

Гудкі тэлефоннай трубкі змусілі мяне ачомацца. Пасля належных філасофскіх разважанняў я — такая ўжо эгаістычная чалавечая прырода — вярнулася да сваіх праблемаў. А я ўжо настроілася, што буду мець грашовую працу... Добра хаця, за кватэру наперад за год заплочана. Канец жніўня, а праз чатыры месяцы...

Адрынуць дурную ганарлівасць, забыцца на крыўду і вярнуцца ў журналістыку? Гэта ўсё роўна што ў дрыгву... У дзяржаўнае выданне больш не пайду. Палітыкай займацца таксама не хачу. Хіба ў якую-

небудзь забаўляльную газетку, дзе можна схавацца за псеўданімам, і аніхто з былых знаёмых, і тым больш чытачоў не атаясаміць мяне з колішняй скандальнай журналісткай Ганнай Барэцкай... Буду шчасліўіць беларускага чытача звесткамі, які чарговы лімузін купіў расейскі папсовы «зайчык»-перарастак Кіркораў... Можа, гэта і ёсць мой сапраўдны ўзровень? Мой апошні каханак, мастак-марыніст, гэтак і лічыць. Якая там «скандальная журналістка»! Не перабольшвай сваё значэнне, даражэнькая. На сапраўдны скандал ты здольная гэтак жа, як варона да грымотаў. А можа, падацца куды-небудзь перакладчыцай? Выкладаць нямецкую або польскую не вазьмуся, а вось турыстаў вазіць...

Я ўявіла сябе з нейкай турыстычнай групай у якасці гіда... Бабулькі з перманентам, стамлёныя жыццём бізнес-мамы з дзецьмі-падлеткамі, бесперастанныя ўспышкі фотаапаратаў, а дзе тут памяняць валюту, а колькі можна праз мытню правесці спіртнога... І мяне перасмыкнула.

Абставіны патрабавалі не гарбаты з шыпшынай, а моцнай кавы. А пасля кавы мяне пацягнула да пісьмовага стала. Я вывернула яго шуфляды. Рукапісаў, як восеньскага лісця... Інтэрв'ю, артыкулы, вершы... Усё ў накідах, усё — нікому не трэба... Як і восеньскае лісце.

У цьмяным святле золку пляц вакол ратушы нагадваў поле пасля бойкі. Дым слаўся над брукам, на якім ляжалі нерухомыя целы. Бернацоні асцярожна пераступаў праз іх, з халоднай цікавасцю ўглядаючыся ў твары, аднолькава скрыўленыя пакутлівай грымасай — вочы вырачаныя, нібыта ад жаху, зубы выскаленыя ў апошняй усмешцы. Смерць добра павесялілася гэтай ноччу. Што ж, рана ці позна яна забярэ ўсіх, шкадаванне недарэчы. Раптам пачуўся нягучны стогн — і на тле мёртвай цішы гэта было гучней за ўдар звону. Бернацоні рэзка павярнуўся. Скрозь дым бачылася — нехта сядзеў, абняўшы рукамі калені і трохі пагойдваючыся. Гервасі наблізіўся. Дзяўчына... Лекар бачыў яе сярод танцуючых. Прыгожая, як радавітая венецыянка. Сукенка з дарагога чорнага шоўку ператварылася ў лахманы, белыя карункі нагадвалі брудную пену на паверхні генуэзскага заліву. Залацістыя косы расплаліся, вочы абведзеныя цёмнымі кругамі нечалавечае стомы... Але самі вочы разумныя, тужлівыя. Раптам дзяўчына зірнула на Гервасія, і ён, звыклы да людскога болю, нечакана для сябе скалануўся.

Як яна выжыла? Гэта неверагодна... Апошнія восем гадзінаў хуткасць карагода была такая шалёная, што не вытрымала б сэрца нават у дужага воя. А гэтае кволае дзяўчо...

— Што з намі здарылася?

Голас — як шамаценне сухой травы. Але — яна не толькі выжыла, яна пры розуме!

Бернацоні нахіліўся да дзяўчыны.

— Як цябе завуць?

— Анэта... Анэта Ляскевічанка.

— Хіба ты не танчыла разам з усімі?

Дзяўчына абхапіла галаву тонкімі рукамі, памаўчала.

— Я была ў карагодзе... Я думала, што памру... І не хацела паміраць. Мяне цягнулі... Я падала... А потым — вырвалася.

— Што вярнула цябе да свядомасці?

Анэта апусціла галаву, залатыя валасы ўпалі на калені.

— Не памятаю... Мне трэба да Богуша... Багуслава Радчыца... Ён мой жаніх...— зусім ціха прамовіла дзяўчына, і Бернацоні зразумеў, што яна можа страціць прытомнасць. Як добра, што варта нікога сюды не пускае. А пошасць у хуткім часе забярэ ўсіх, хто яшчэ можа задаць пытанні.

Унікальны выпадак! Ён мусіць вывучыць яго — дзеля навукі і... сусветнага парадку. Калі дзяўчына змагла выжыць у карагодзе смерці, вытрымае і доследы, якія даўно трэба было здзейсніць.

Бернацоні ўладна загадаў:

— Пакажы свае ногі. Не саромся, я лекар.

І ў пацверджанне дакрануўся да залатога ланцуга. Анэта, памарудзіўшы, прыўзняла край сукні... Так, хадзіць гэтая дзяўчына не зможа яшчэ з месяц... Але калекай не застанецца. Выдатна...

— Я дапамагу табе.

Бернацоні накінуў на дзяўчыну свой плашч і падхапіў яе на рукі. Ніхто не бачыў, як ён зайшоў у вежу.

Я неўразумела глядзела проста перад сабой, на сцяну, абклееную белымі ў тонкую брунатную палоску шпалерамі (каб гэта была мая кватэра, я паклеіла б проста белыя)... Заснула за пісьмовым сталом! Непрыстойна прыгожы эпізод для пісьменніцкай біяграфіі. Толькі я не прэтэндую на званне пісьменніка. Журналіст цягнецца да літаратуры, як архітэктар да выяўленчага мастацтва... Вечная нязДзейсненасць ды незнішчальная вера, што табе дадзеныя крылы, толькі чамусьці не

распроствающца... Званок у дзверы, які мяне, відаць, і пабудзіў, не змаўкаў. Я пайшла адчыняць, кінуўшы па дарозе сярдзіты погляд на гравюру, якая спрыяла маім начным жахам.

Зірнула праз дзвярное вочка... На пляцоўцы стаяў Юрась.

За нейкі ашмётак хвілі я паспела пераканаць сябе, што выглядаю цалкам спакойна, прычасацца і спырснуцца рэшткамі французскай парфумы.

Юрась, у адрозненне ад мяне, не падумаў пра знешні выгляд. Твар змучаны, вочы пачырванелыя, у тым жа швэдары, у якім я бачыла яго на кірмашы. Такі... звычайны мужчына. І чым ён калісьці мяне прывабіў?

— Можна зайсці?

Я моўчкі адышлася ўглыб калідору. Юрась павольна ступіў цераз парог... І ў мяне з'явілася адчуванне, што аб нябачную ракавінку, у якую схавалася маё жыццё, стукнуў каменьчык. Я ледзь не закрычала: «Што табе тут трэба?»

Былы муж абвёў вачыма небагаты пакой, адрывістым жэстам прыгладзіў стрыжаныя, але ўсё гэтак жа непаслухмяныя валасы (ага, таксама бянтэжыцца!), яшчэ больш збянтэжыўся, калі заўважыў у куце скураныя пантофлі майго апошняга бойфрэнда, дакладней, чарговага няздзейсненага Вялікага Кахання.

— Прабач, што патурбаваў... Ды яшчэ так рана... Але ты ведаеш, што ўчора здарылася.

— Ты... пра смерць Аркадзя? Жах... А ад чаго ён памёр?

Юрась пільна зірнуў на мяне.

— А табе хіба ніхто не сказаў?

— Не... Выглядаў здаровым. Можа, аварыя?

Мужчына, у якога ператварыўся мой колішні знаёмы юнак, адмоўна пакруціў галавой.

— Яго забілі.

— Што?!! — той Юрась мог падобным чынам пажартаваць.

— Забілі, калі вяртаўся дадому. У пад'ездзе,— цярпліва патлумачыў гэты Юрась.— Застрэлілі.

Мне зрабілася млосна. Мой маленькі, спакойны, няяркі свет распаўзаўся, як сатлелы сувой.

— Чакай, я ж яму ўчора званіла... Гаварыла з сакратаром...

Дамагурскі нявесела засмяяўся:

— Які сакратар... З табой размаўляў следчы. А я ў гэты час сядзеў у куце пакою ў якасці сведкі. Мы ж з Аркадзем разам вярталіся. Хачу спытаць у цябе пра тое-сёе...

Я зразумела, што Юрасёў візіт не мае лірычна-настальгічнае мэты, і гэта значна ўсё спрашчала. Таму я зварыла моцнай кавы і нават паставіла на часопісны столік два гліняныя кубкі, якія да гэтага пару стагоддзяў праляжалі ў зямлі менскага гарадзішча. Юрась аценіў — пакруціў у руках, як найвялікшую каштоўнасць, і нават дакладна вызначыў час, калі гэтыя пасудзіны ўзніклі з гліны. Потым паказаў на мае гравюры:

— Не ведаў, што ты аматар змрочнасцяў сярэднявечча. Адкуль?

— Са Старавежску. Калі збірала матэрыял для артыкула, мне мясцовы краязнавец падарыў, Пётр Піліпавіч Калейка. Ён выявы гэтых гравюраў у нейкім італьянскім альбоме знайшоў. Нібыта гэта ў Старавежску намалявана. Я асабіста сумняваюся...

Юрась ледзь не ўскочыў з крэсла.

— Ды я ж да цябе менавіта з нагоды твайго артыкула і прыйшоў!

Я спахмурнела.

— Прабач, але я лічу за лепшае сваё журналісцкае мінулае не згадваць.

Юрась вінавата паглядзеў на мяне сваімі абуральна сінімі вачыма.

— Я не пытаўся б, калі б не думаў, што смерць Аркадзя была звязаная са Старавежскам і яго ратушай.

Я недаверліва хмыкнула. Юрась цярпліва патлумачыў:

— Мой багаты сябрук вельмі сур'ёзна да сваёй вежы ставіўся. А пачалося з таго, што дзед Аркадзя, былы партыйны дзяяч, пакінуў у спадчыну ўнуку дом у Лошыцы, і там на гарышчы Аркадзь знайшоў паўразваленую скрынку. Гэта аказаўся вельмі стары гадзіннік, з бронзавай скульптурай — смерць адсякае галаву цару. Гадзіннік Аркадзеў дзед вывез перад вайной са Старавежску, дзе быў старшынёй камбеду. Відаць, спадабалася «ідэйная» скульптура. Напачатку наш аднакурснік не звярнуў увагі на знаходку, яго нашмат больш зацікавілі дзедавы калекцыі срэбных лыжак ды нямецкай парцаляны ў стылі «кіч»... Але я патлумачыў спадчынніку, колькі каштуе гадзіннік пятнаццатага стагоддзя, «рарык», як кажуць антыквары... Тут на дзясяткі тысячаў даляраў лік ідзе. А калі яшчэ механізм цэлы — дык і да сотні тысячаў можа «дагнаць». Вось тады Аркадзь зацікавіўся. Даведаўся, што гадзіннік знайшлі ў лёхах старавежскай ратушы, разам яшчэ з адзінаццаццю такімі ж. А тыя

адзінаццаць нейкі паручнік вывез у Польшчу... Тут пачаў Аркадзь і сваім радаводам цікавіцца. Відаць, нацярпеўся ў дзяцінстве, расказваў мне, як яго, сына кухаркі (гэта пасля яна загадчыцай сталоўкі зрабілася) дражнілі «булкаедам» ды прасілі «звары харчо». Баркуны, маўляў, старавежская арыстакратыя, апошні з роду мусіць аднавіць сваю княскую годнасць... Зацяўся не на жарт. Хаця дзед ягоны не дарэмна старшынёй бядняцкага камітэту быў — галота. Але Аркадзь, па-мойму, шчыра верыў, што і ратуша калісьці належала Баркунам, і гадзіннікі ў лёхах, і сам Старавежск... Збіраў дакументы пра гэтыя гадзіннікі... Шукаў, дзе яны зараз... Выкупіць хацеў.

— Хіба ён быў такі багаты? — засумнявалася я.

— Ды мне самому дзіўна...— сказаў Юрась.— У мяне ўражанне, што ён апошняе гатовы быў аддаць. Два гадзіннікі адсачыў, выкупіў за шалёныя грошы... Потым выйшаў на след нашчадкаў таго паручніка, збіраўся ў Варшаву... Крэдыты браў, акцыі распрадаў нейкія... Ды не паспеў паехаць.

— Ты лічыш, усё гэта мае дачыненне да ягонай смерці?

Мой былы выпадковы муж трохі памаўчаў, а пасля замест адказу зазначыў:

— А я ўяўляў, Анэта, ці заплятаеш ты яшчэ косы. Аказалася — так. І яны такія ж залацістыя. Цудоўна.

Я раззлавалася: гаварыў бы проста — «рудыя». А то — «залацістыя»... А каса ў трыццаць гадоў — можа, таму, што кабета перастала думаць пра сваю знешнасць. Услых я прамовіла, зразумела, іншае.

— Яшчэ пару гадоў таму ў мяне была кароткая стрыжка, і я фарбавалася ў чорны колер. А ты па-ранейшаму не здольны выказвацца проста і лагічна.

Юрась вінавата ўсміхнуўся:

— Прабач... Я не ведаю, якая тут сувязь, але апошні час Аркадзь гаварыў і думаў толькі пра гадзіннікі са Старавежску. Маўляў, яны «жывая легенда». Калі, вядома, так можна сказаць пра механізмы.

— І мне распавядалі легенду,— успомніла я.— Быццам у ратушы калісьці замуравалі смерць разам з гадзіннікамі.

Юрась задумліва працягваў:

— Аркадзь марыў праславіць сваю вежу на ўвесь свет... А для гэтага патрэбны быў яркі міф. Разумееш, калі б Брэм Стокер не сачыніў гісторыі пра Дракулу, не было б плыні турыстаў у Румынію. Але для міфа патрэбныя рэальныя падзеі і постаці, як для стварэння

Дракулы спатрэбіўся ваявода Улад Цэпеш, які прыбіваў няўгодным шапкі да галоў цвікамі. Беларуская гісторыя багатая і на асобы, і на падзеі... Але іх стагоддзямі затоптвалі ў пыл забыцця і вучоная набрыдзь, і свае манкурты. Паспрабуй, збяры з аскалёпкаў... Я ўпэўнены — Аркадзь здолеў нешта знайсці. Або быў на шляху да разгадкі. Неаднойчы паўтараў мне, што надыдзе час — дзякуючы вежы і яе гадзіннікам ён мільёнамі засыплецца. Наш з табой, Анэта, аднакурснік не быў надта інтэлектуальным чалавекам. Не быў ён і добрым. Я ж ведаю — з кліентаў, якіх пасылаў да мяне, браў пяцьсот даляраў, а мне ўлучаў пяцьдзясят. Але я не веру, што ён мог забіваць нават за сваё будучае княства. І... я быў побач, калі яго застрэлілі.

А я і не ведала, што ён можа выглядаць такім сур'ёзным... Хаця і тады быў зацяты. Так, час усіх пазначае сваёй кіпцюрыстай цяжкой лапай... Я зноў утаропілася на шнары на Юрасёвым ілбе, на шчацэ. А калі Юрась пацягнуўся, каб паставіць кубак, і рукаў швэдара ссунуўся, аказалася, што такія шнары на ягонай руцэ ад запясця да локця. Ад ляза, ці што? Я чула, наркаманы рэжуць вены падчас ломкі... Але не твар жа!

Былы муж, нібыта пачуў мае думкі, правёў далонёй па зраненай шчацэ:

— І ўсё-ткі, Анэта, прабач за настырнасць, я хацеў бы даведацца гісторыю твайго знакамітага артыкула. А то мне адны чуткі дасталіся.

Я ўздыхнула.

— Хваліцца асабліва няма чым. У Старавежск я прыехала ў камандзіроўку па лісце чытача, таго самага Пятра Піліпавіча Калейкі, які мне гравюры падараваў. Раённае начальства пералавіла мяне на папярэдняй станцыі, запрасілі з аўтобуса ў машыну, усю дарогу пільнавалі, каб у мяне не было кантактаў з мясцовымі «дысідэнтамі»... Начытвалі на дыктафон нудныя справаздачы... Я была неспрактыкаванай дзеўчынёхай, але пэўная ўпартасць мне ўласціва...

— Вельмі пэўная,— не стрымаўся ад каментару былы муж.

Я сярдзіта зірнула на яго і працягвала:

— Ну дык вось... Я ўсё роўна прарвалася «ў народ», і абураныя краязнаўцы мне нагаварылі... Гарадскую ратушу на той час занеслі ў спіс гістарычных каштоўнасцяў. Дзяржава давала на аднаўленне вялікія сродкі. А мясцовае кіраўніцтва ў злосці: раён заняпалы, школкі гібеюць без рамонту, у калгасах зарплаты няма чым выдаваць... А тут у нейкія развалiны ўбіваць жывую капейку!

Начальства можна зразумець... Карацей, знаходзілі тым грашам лепшае прымяненне.

— І ты пра гэта напісала сумленна і дасціпна, так?

— Напісала...— уздыхнула я.— Са сваім дурным энтузіязмам, і з непахіснай верай, што ратую свет...

— І што? Мясцоваму начальству «нагарэла»?

— Ага... Чакай... Гэта я пасля ўсвядоміла, што падобныя нахабствы без самавітай падтрымкі не ўчыняюцца. Раптам выклікае мяне наша рэдактарка Клара Сцяпанаўна і на ўвесь свой «трубны глас» абвяшчае, што я — ганьба для журналістыкі. Няправераныя факты, надуманая сенсацыя... І з-за мяне газеце даводзіцца кленчыць перад адміністрацыяй Старавежска.

— Чаму? — здзівіўся Юрась.— Ратуша сапраўды развальвалася!

— Ага... — паныла пацвердзіла я.— Толькі яе тэрмінова перавялі ў разрад помнікаў мясцовай значнасці. Сказалі — памылілася папярэдняя камісія, пераацаніла тую вежу... Так што гарадское кіраўніцтва цяпер мела ўладу даваць або не даваць сродкі на аднаўленне не надта патрэбных гораду руінаў.

Юрась толькі галавой пакруціў:

— Нішто сабе...

А заручальны пярсцёнак на яго руцэ не новенькі... Падрапаны... Я паныла ўсыпала ў сваю астылую гарбату яшчэ дзве лыжкі цукру, нібыта спадзявалася падсаладзіць успаміны.

— Пакаяльны артыкул, які ад мяне вымагалі, я ўсё-ткі не напісала. Ну, падрабязнасці не буду... Агульнарэдакцыйны сход, абураныя лісты чытачоў... Звольнілі мяне з паскуднай фармулёўкай. І што цікава — яшчэ нядаўна ў некалькіх выданнях былі са мною вельмі мілыя і пераманьвалі на працу, а тут перасталі пазнаваць... Так гэта сталася мне агідна, што я дала сабе слова — з журналістыкай пакончана. Калі нельга сумленна... Калі няма справядлівасці... Дык не хачу ў гэтым быць.

Цені ад фіранкі, зробленай мною з карункавага покрыва ад рытуальнага ўбору крышнаітаў (знаходка сэканд-хэндаўская), варухнуліся на сцяне, быццам нейкі Буда дакорліва паківаў галавой. Юрась паставіў кубак на стол і сцішана ўздыхнуў, быццам баяўся пабудзіць цяжкахворага. І загаварыў гэтак мякка-асцярожліва.

— Можа быць, ты ўсё-ткі паспяшалася рабіць такія... незваротныя высновы? Паўсюль ёсць сумленныя людзі... Можна было паспрабаваць пазмагацца, пайсці ў недзяржаўныя выданні... Нават калі б ты

звярнулася да мяне — я абавязкова нешта прыдумаў бы. Не паверу, што ўсе адмовілі ў дапамозе.

Я раздражнёна зірнула на госця. Паспеў ператварыцца ў зануду.

— Значыць, я кепскі журналіст. І правільна зрабіла, што кінула не сваю справу.

Юрась зноў неяк дзіўна ўздыхнуў:

— Ну, добра, давай вернемся да Старавежску. Артыкул твой я памятаю. А вось — што туды не ўвайшло? Успомні, можа, нешта звязанае з той вежай, падалося дзіўным?

Дзіўным! Ды там усё было дзіўным! Я, нібыта наяве, убачыла сцяну вежы — аблезлая пабелка, у выбоінах іржава-чырвоная цэгла — як брудны бінт, адарваны ад раны. Абгрызены часам верх будынку — два вострыя зубцы, між імі — вялізны прагал... У чорных вачніцах вокнаў — голле дрэваў, што выраслі ўнутры, на адкрытым небу падмурку... Быццам вязні цягнуць рукі. Як на карце Таро з Вялікіх Арканаў — вежа, у якую ўдарыла маланка. Пакаранне за гардыню.

— Ну, напрыклад, на сценах не было ніякіх надпісаў,— прагаварыла я.— На закінутых будынках якіх толькі крамзоляў не сустрэнеш, ад «Саша плюс Маша» да рокерскай сімволікі. А тут — нічога! Ні звонку, ні ўнутры... І смецця таксама не было. Нават пабітых бутэлек...

— Чаму ж так? — зацікавіўся Юрась.

— Баяцца той вежы. Абыходзяць, як магілу вісельніка. Нават мяне адгаворвалі ўнутр заходзіць.

— І чым тлумачылі?

— Рэха старых забабонаў. Памятаеш легенду, як смерць у ратушы замкнулі? Дык нібыта і цяпер смерць там. Хто ў вежы пабудзе — гамон... Ці звар'яцее, ці памрэ ў хуткім часе. Так што згодна старой легендзе — я ўжо на парозе таго свету, і за клямку ўзялася,— пажартавала я.

Але Юрась застаўся сур'ёзным, нават занадта.

— Праз мае рукі праходзіць шмат старых рэчаў. Вакол некаторых таксама — таямнічыя гісторыі. Але я пераканаўся, што ў кожнай такой нібыта бязглуздзіцы — рэальная аснова.— Юрась трохі адкінуўся на спінку крэсла, так што пыльны сонечны прамень слізгануў па ягоных валасах — аднак сівее мой госць! — і працягваў: — Пару гадоў таму прынеслі мне куфэрачак на рэстаўрацыю. З чырвонага дрэва, італьянская праца 16 стагоддзя... Шашалем паедзены, расколаты — з мінулай вайны валяўся на гарышчы.

Валяўся, бо славу меў, быццам няшчасці прыносіць. То за каралём Сасам нейкая свякруха з дапамогай яго ад непажаданай нявесткі пазбавілася, то жонка здрадніка-мужа пакарала... Цяперашні ўладальнік маёмасць продкаў на гарышчы знайшоў і над забабонамі пасмяяўся. Маўляў, для будучай ягонай жонкі, аматаркі антыкварыяту, лепшага падарунка няма. А я стаў рэстаўраваць, і пад накрыўкай знайшоў хітрае прыстасаванне. Калі націснуць адразу на дзве кветкі ў разьбе накрыўкі, з адной з іх на імгненне высоўваецца шып... Маленькі, незаўважны... Але ўсё яшчэ востры. Можна здагадацца, што калісьці на ім была атрута. У сярэднявечнай Італіі такія смяротныя забаўкі былі справай звычайнай.

Пылінкі танцавалі ў промні апошняга восеньскага сонца, і ніякае маўчанне не магло адняць весялосці ў гэтых вечных мізэрных танцораў. Юрась нібыта вагаўся перад тым, як сказаць нешта важнае. Ну, пачынай жа...

— Паслухай... Калі табе патрэбная праца... Ці не згадзілася б ты вярнуцца да тэмы ратушы? Аркадзева жонка, Ліля, вядома, зараз у горы... Але цвёрда абвясціла, што ўсе планы забітага мужа спраўдзіць. І першае — выдасць кніжку пра гісторыю старавежскай ратушы.

— Аркадзя яшчэ не пахавалі — а яна пра гэта думае?! — абурылася я.

— Не дзівіся, Анэта,— усміхнуўся аднымі вуснамі Юрась.— У іх, «крутых», такі свет... Без сантыментаў. Дык вось, Ліля прапаноўвае табе дзве тысячы даляраў за падрыхтоўку тэксту.

Ён што, трызніць? Юрась, зразумеўшы мой недавер, спяшаючыся, патлумачыў:

— Толькі не падумай, што гэта падман. Проста яна хоча, каб усё было зроблена да сарака дзён па смерці Аркадзя, каб атрымаўся гэткі падарунак нябожчыку... На вокладцы Баркуноў герб, унутры — Баркуноў партрэт. Ну і ў тэксце — аб памерлым, ягоны клопат пра гістарычныя помнікі. Каб атрымалася невялікая кніжачка. Удава збіраецца раздаваць яе гасцям на саракавінах. І Аркадзю — ушанаванне, і, магчыма, спонсары знойдуцца дзеля будаўніцтва. Калі ты згодная — заўтра пад'едзем па аванс. У нас з табой усяго месяц на працу.

— «У нас»? — удакладніла я не вельмі ветла.

— Мяне Ліля просіць гадзіннікі адрэстаўраваць,— патлумачыў мой былы муж.— Каб для тваёй кніжачкі сфатаграфаваць іх ва ўсёй красе. Ну і табе дапамагу...

— Паслухай, даражэнькі... Колькі цябе ведаю, ты заўсёды ўцягваў мяне ў авантуры, якія заканчваліся для мяне кепска.

Юрась сядзеў моўчкі, гледзячы ў пусты кубак. І выглядаў вельмі няшчасным. Раптам ён ціха спытаў:

— Анэта, чаму ты болей не выйшла замуж?

Ну вось, пачаліся сентыментальныя размовы, якіх мне меней за ўсё хацелася. Я ўклала ў адказ як мага болей сарказму:

— Не хвалюйся, не з-за цябе.

Ён ізноў панурыўся, нібыта мой адказ быў яму непрыемны. А на што ён разлічваў? Што я ўвесь гэты час па ім плачу? Вось маё апошняе Няспраўджанае Каханне, мастак-марыніст (уяўляеце, жыць на Беларусі — і маляваць выключна мора!), абдрапаў маё даверлівае сэрца грунтоўна... А гэты — за дзвярыма душы. А за прапанову дзякуй... Дзве тысячы даляраў — год пражыць...

Я правяла Юрася да дзвярэй, радуючыся, што ўдалося не выйсці за рамкі дзелавога візіту. Раптам мой былы муж нязграбна ўпаў перада мной на калені, ды яшчэ — ілбом у падлогу. Аж грукнула. Я адскочыла назад. А Юрась глуха прагаварыў, не падымаючы галавы:

— Прабач мне, Ганна. Я даўно мусіў гэта зрабіць. Столькі думаў — не наважваўся. Вось так — на калені... Вінаваты перад табой... Позна зразумеў, што ў шлюб — не гуляюцца. Каб не я — у цябе б жыццё іначай склалася.

Я не жартам раззлавалася. Дарэчы, і падлога нямытая, што зараз ён убачыць на сваіх нагавіцах.

— Ану, кінь выдурвацца! Можна падумаць, ты мяне спакусіў ды выгнаў, а я слязьмі залівалася, сыходзіць не хацела. Калі памятаеш, я першая дзвярыма бразнула. І між іншым, не шкадую. А гледзячы на такія фокусы, дык проста радуюся, што гэткі... цуд даводзіцца цярпець нейкай іншай.

Юрась моўчкі падняўся (на каленях засталіся выразныя плямы бруду, сведчанне маёй негаспадарлівасці), цырымонна пакланіўся, усё гэтак жа апусціўшы вочы, і сышоў. Цікава, як ён патлумачыць жонцы, дзе гэта поўзаў на каленях? Але я не збіралася распытваць яго пра сямейныя справы. Вось так — без сантыментаў — з гэтым дзіваком можна.

Анэта стаяла на падлозе, выкладзенай белымі і чорнымі мармуровымі плітамі... Нібыта фігура ў шахматах, і зараз волатава рука працягнецца, каб пераставіць яе на іншую клетку...

А хіба не так на самой справе?

Анэта не памятала, колькі яна жыве ў гэтай вежы. Месяц? Два? Год? Усё жыццё? Нібыта нікога на свеце больш няма, акрамя насельнікаў ратушы — Бернацоні, яго сакратара, нізенькага, амаль карузліка, чарнявага Энрыка, прыслугі Марцэлі ды яе самой, Анэты... А тое, што было раней — сон...

Не, Богуш не сон... Сінія вочы, што глядзелі з такой любасцю, іх злучаныя рукі і словы блаславення, прамоўленыя бацькам...

Анэта ведала, што і бацька, і... Багуслаў памерлі. Пошасць... Чорная Смерць... Пан Гервасі абяцае, што не дасць прыйсці сюды Чорнай Смерці. У пакой кожны дзень прыносяць абярэмі свежага ядлоўцу... Вохкія свечкі напаўняюць пакой цяжкім водарам. Пан Гервасі кожны дзень ходзіць у горад, выконвае загад Вялікага князя — лекуе тых, каго можна лекаваць, тлумачыць, як змагацца з пошасцю. І не баіцца захварэць. Не дзіва — Анэта бачыла, на якія цуды ён здатны... Жалеза ў ягоных руках гнецца, нібыта васковае... Свечка запальваецца без агню. На чыстым пергаменце з'яўляюцца літары, напісаныя чырвонай фарбай. Раней Анэта падумала б — вядзьмак і заклікала б да Прасвятой Дзевы і апякункі сваёй, Святой Ганны, каб выбавіцца ад нячыстае сілы. Але вунь яны, выявы Прасвятой Дзевы, і Святой Ганны, і Архангела Міхаіла, барацьбіта з нечысцю, і самога Госпада нашага... І пан Гервасі беспакарана глядзіць у іх цёмныя вочы і нават хрысціцца. І крыж носіць, у якім часцінка Жыватворнага Крыжа Гасподняга... Але ж толькі святы затворнік можа спадзявацца на анёльскую дапамогу, каб рабіць цуды... Варта паглядзець на лекаравы калігі з даўжэзнымі, як буслава дзюба, насамі, набітымі дзеля захавання формы мохам, расшытыя перлінамі і каштоўнымі камянямі, на жупан з княскага ядвабу з дыяментавымі гузікамі — якая тут адсланёнасць ад свецкіх звабаў! Праўда, княскі лекар кажа, што яго цуды — зусім не цуды, а навуковыя досведы. Але Анэце ўсё роўна страшна і тужліва, нібыта яна трапіла ў ваўчынае логвішча і мусіць прывыкаць да ваўчынага духу. Чаму ён трымае тут яе? Чаго хоча? Гвалту? Дачку шляхціца ў Вялікім Княстве Літоўскім не можа беспакарана згвалціць нават князь, а не тое што бязродны іншаземны лекар... Ды нічога падобнага на пажадлівасць не мільгае ў вузкіх чорных вачах Бернацоні. Толькі цікаўнасць... Як да дзівоснага звярка. Ён часта размаўляе з ёю. Загадвае рабіць незразумелыя рэчы. Напрыклад, кладзе на стол два маленькія шарыкі — белы мармуровы і чорны з нефрыту. Кажа

ўзяць белы... Анэта выконвае — яна не наважваецца аслухацца. «Паглядзі ўважліва, ты памылілася, ён чорны»,— сурова гаворыць пан Гервасі і пільна глядзіць у вочы Анэце. Так пільна, што ў той злёгку кружыцца галава, і нават пачынае здавацца, што шарык, які яна трымае, сапраўды чорны. Вось Богуш пасмяяўся б над ёй... «Я ўзяла белы»,— нясмела кажа Анэта. «Не, чорны... Пакладзі яго і вазьмі белы...»,— упарціцца лекар. Але Анэце не смешна ад бязглуздай дзіцячай гульні. У роце — прысмак медзі. «Прабачце, але ў маёй руцэ белы шарык... А там — чорны...»,— шэпча. Словы вымаўляюцца цяжка, нібыта ілжэ. Пан Гервасі раздражнёна ўстае, нешта мармыча на незнаёмай мове... Але дзяўчына адчувае, што ён злуецца не на яе, а на сябе. Назаўтра ўсё паўторыцца... Навошта? Як добра было б сысці дадому... Але вокны і дзверы іхняга дому, напэўна, забітыя, і пазначаныя белым крыжам. Дом, куды заходзіла Чорная Смерць.

Яна паўсюль... Пошасць... Паветра вакол вежы атручанае. Ёдкі дым паўзе ў вокны, прабіраецца скрозь шчыліны ў свінцовых рамах, у якія ўстаўленая падфарбаваная ў чырвань і лазурак слюда. Можа, у адным з гэтых вогнішчаў згарэлі целы любых Анэце людзей. Гарлаюць вароны. Людскі крык і плач чуваць усё радзей. Толькі б’е звон на званіцы, і тахкаюць гадзіннікі лекара. Вось яны, стаяць па кутах пакоя. Ростам з Анэту, на кожным, нібыта нетутэйшы твар, бліскучы масянжовы круг, падзелены на дваццаць чатыры часткі. Па ім павольна, здаецца, марудней за рост травы, рухаецца стрэлка... Унутры — круцяцца дзіўныя колцы, зубчастыя, страшнаватыя, быццам зменшаныя прылады для катаванняў. Але гадзіннікі вельмі розныя. Вось на тым званар-карузлік кожную гадзіну б’е бронзавым малатком у маленькі звон... На тым — рухаюцца ў круглым акенцы мядзяныя зоры, Месяц і Сонца з абыякавымі, раскосымі, нібыта ў татарскіх ханаў, тварамі. А на тым — Смерць з касой пазначае кожную гадзіну ўдарам сваёй страшнай зброі аб пакорліва нахіленую галаву Цара Ірада — пра тое, што гэта пракляты біблейскі цар, сведчаць выявы мёртвых немаўлятак ля ног забойцы.

Анэта аглядае пакой, да якога зараз звузіўся яе свет, нібыта бачыць у першы раз і спадзяецца заўважыць нешта новае. Па чатырох кутах ля столі — расфарбаваныя галовы блазнаў... На знак таго, што ў гэтай зале можна бесклапотна весяліцца. Яшчэ нядаўна тут збіраліся на бяседы паны радцы, сярод якіх — і бацька Анэты, сядалі на гэтыя чорныя цяжкія лавы, што зараз састаўленыя ўздоўж

сценаў, за магутны стол, які, вядома ж, не быў пусты... (Стол па загадзе лекара вынеслі — але як гэта ўдалося? Хіба на часткі распілавалі?)

А над дзвярыма — барэльеф Белай Ружы. Знак маўчання. Тое, што было тут прамоўлена, не мусіла пераказвацца за межамі пакою. Sub rosa dictum. Сказана пад ружай.

Анэта павольна — ногі яшчэ баляць — падыходзіць да гадзінніка, на якім — Святое Сямейства. Калі гадзіннік адлічвае час, анёлкі над Прасвятой Дзевай пачынаюць рухацца. Дзяўчына працягвае руку, каб дакрануцца да аднаго з анёлкаў, усмешлівага, кучаравенькага...

— Я прасіў не чапаць мае гадзіннікі,— суровы голас лекара змусіў дзяўчыну здрыгануцца, сціснуцца, як ад хрышчэнскай сцюжы. Бернацоні наблізіўся бязгучна, як воўк.— Ніколі не падыходзь да іх без майго дазволу.

— Даруйце...— Анэта адступіла ў бок ложка. Лекар працягнуў руку да гадзінніка, нешта скрануў... І анёлак паднёс да вуснаў пазалочаную трубу, бронзавы малаточак ударыў у бронзавы шчыт... Бом-м-м... Келіх з венецыянскага шкла на стале задрыжэў, заспяваў тонენька і адчайна, нібыта паміраючая мятлушка.

— Што ты адчуваеш, калі гучаць мае гадзіннікі?

Дзяўчына падняла на свайго апекуна ясныя сінія вочы.

— Тугу...

Бернацоні паблажліва ўсміхнуўся. Ён хадзіў ад гадзінніка да гадзінніка, нешта папраўляў у іх, беражліва і амаль закахана, як у шлюбным убранні нявесты. І гаварыў, гаварыў са сваім дзіўным акцэнтам, часам пераходзячы на незнаёмыя мовы. Апошнім часам такія размовы здараліся ўсё часцей... Нібы ад страшэннай адзіноты чалавек дзеліцца набалелым з немаўлём, якое не зразумее сказанага, але ўсё-ткі — слухач.

— Гук — гэта моц, якой чалавек яшчэ мусіць авалодаць... Піфагор казаў пра музыку сфер, якая кіруе сусветам... Ён чуў, як рухаюцца зоры! Вы лічыце, Ерыхонскія трубы — выдумка? Трубы, ад гуку якіх рассыпаліся сцены... Аднавокі маўр у Перуджы, які гандляваў шклянымі пацеркамі, шаўковымі паясамі і амулетамі са скуры Левіяфана, распавядаў пра разваліны Ерыхона... Ён бачыў камяні двух яго сценаў — знешняя ўпала вонкі, другая — унутр... Так не бывае ні ад землятрусу, ні ад нападу. У Падуі я чуў, як крычыць ламія, галодны дух, які высмоктвае кроў і душу... Ад яе крыку вар’яцеюць. Нават у мяне пацямнела ўваччу, і падалося, што ў маім

жыцці ніколі больш не будзе радасці. Правядзі пергаментам па нешаляванай дошцы... І ад ціхага шкрогату скаланешся, быццам цябе драпаюць кіпцюры лемпарда, і рот напоўніцца слінай, як ад лімону... Ты ведаеш, што такое лімон, сіньярыта? Адкуль... У яго смак няспелага агрэсту. А колерам ён нагадвае сонца Фларэнцыі... Мія кара Фларэнца...

Бернацоні тужліва зірнуў у акно, за якім згушчалася вечаровая цемра.

— Насамрэч чалавек вельмі лёгка губляе розум. У мінулым годзе я ўбачыў на полі шмат спарынні. Вашыя сяляне не адкідаюць хворыя каласы... Ім патрэбнае кожнае зерне. А спарыння выклікае відзежы і шал... З яе рабілі адвары гуны перад тым, як ісці ў бойку. Я сказаў князю — будзе пошасць і шаленства сярод тваіх людзей... «Злая корча». Ён пасмяяўся. Мне было дзесяць, калі я залез на самую высокую званіцу... Ударыў звон — а я якраз стаяў наверсе... Каб звон упаў, то я апынуўся б у ім, як хрушч у чарцы. Свет закруціўся вакол мяне, дона... І сцізорык, які выпаў з маёй кішэні на каменныя пліты, пачаў дрыжэць і звінець, і паволі паварочвацца... І я, малы недарослы невук, прыдатны толькі на тое, каб таўчы зёлкі для майго сіньёра аптэкара, назаўсёды зразумеў, што ёсць сілы, якіх мы не ўсведамляем, але авалодаўшы якімі, можам рабіць цуды.

— Пан лекар, а вы маглі спыніць наш карагод?

Бернацоні ўздрыгнуў і паглядзеў на дзяўчыну з недаверлівым здзіўленнем, быццам пытанне прагучэла з вуснаў статуі.

— Не, я не маю моцы абрынуць чалавека ў цемру ці выцягнуць з цемры на святло. Гэта — Божая воля. Але многія апынаюцца ў паўзмроку, на няпэўнай мяжы між святлом і цемрай. Вось тады...

Лекар абарваў сказанае і пасуровеў.

— Ты яшчэ слабая, дона... Ідзі ў свой пакой і кладзіся ў ложак. Я прышлю да цябе Марцэлю з адварам.

Стукат гадзіннікаў пагрозна гучнеў, нібыта набліжалася карэта Смерці, запрэжаная дванаццаццю жалезнымі коньмі...

Першае, што я зрабіла, калі прачнулася — паглядзела ў акно. Гэта каб хутчэй забыцца пра свае цьмяныя і блытаныя сны ў гатычным стылі. Але дробны восеньскі дождж — не самы лепшы пейзаж дзеля паляпшэння настрою.

У доме Аркадзевай удавы пра паскудны дождж і абрыдлыя лужыны на вуліцах забывалася адразу. Здаецца, гэты стыль

называецца ампір... Як у песні Грабеншчыкова: «И золото на голубом...» Любяць жа нашыя багацеі гуляць у радавую арыстакратыю. На гэтым урачыстым фоне Ліля Баркун у чорнай сукенцы, шчыльна па фігуры, выглядала як віцэ-міс прыгажосці... Дагледжаная і пакрыўджаная, што не галоўная міс. Цёмнае бліскучае «карэ» валасоў, тонкія бровы ганарліва выгінаюцца, вусны дакладна абмаляваныя, і ніжняя губа ледзь заўважна наперад — прыкмета ўладарнае натуры... І ніводзін афіцыянт не наважыўся б падаць такой пані нават трохі астылую каву... У твар не ліне, але даб'ецца, каб нядбайны застаўся беспрацоўным.

Твар са звыкла нейтральным выразам... Дакладна такой яна была ўчора на пахаванні. Хіба пад вачыма напухла... Я, праўда, стаяла далёка, за спінамі натоўпу, але чула, як жанчыны шапталіся, асуджаючы ўдаву, што не плача, не галосіць. Цікава, як яны з Аркадзем пазнаёміліся? У іх было рамантычнае каханне?

— Трэба, каб вы напісалі за тры тыдні,— голас магнаткі дрыжэў, як у звычайнай кабеты ў горы. Усё-ткі каханне было, вырашыла я.— Вось аванс...

Маладзён у элегантным шэрым касцюме з жалобнай стужачкай на рукаве падаў мне канверт. Удава адвярнулася да стала, на якім у чорнай рамцы стаяў партрэт памерлага, прагаварыла:

— На сорак дзён збяруцца ўсе, успомніць Аркадзя... Ваш тэкст у друкарню трэба здаць праз месяц.

— Я пастараюся...

Ліля працягвала, гледзячы на партрэт:

— Усё павінна быць так, як хацеў Аркадзь. Прыгожая гісторыя пра вежу. Муж верыў, што яго продак быў рыцарам і бараніў ратушу ад ворагаў. І пра гэта каб згадвалася... Пра гадзіннікі... Столькі грошай на тыя гадзіннікі ляснулася! А я яшчэ сварылася...— Удава сутаргава ўсхліпнула — мне падалося, што зараз яна заплача, і чужое гора выплюхнецца перада мной, як гарачая кава з упушчанага кубка, абварыць, пазначыць чарнатой... І ні ў якім разе нельга адкаснуцца, захіліцца. Але Лілія Пятроўна перамагла сябе і загаварыла зусім падзелавому:

— Гадзіннікі ў пакоі на другім паверсе. Іх фотаздымкі павінны быць у кнізе... Юрый, вы, як спецыяліст, усё і раскажыце пра іх шаноўнай Ганне. Алекс, праводзь.

...Яны стаялі ля сценаў пакоя з бела-залатымі шпалерамі, нібыта старыя, параненыя рыцары, што вярнуліся з крыжовага паходу і

патрапілі на каралеўскі баль, дзе іх ніхто не памятае, у іхнія подзвігі не верыць, і іх іржавыя латы і пасечаныя цёмныя твары аніяк не стасуюцца з бліскучым прыдворным светам. Гадзіннікі...

Але гэта ўсё яшчэ былі пагрозныя рыцары часу... Іхняе маўчанне здавалася поўным дакору. І... я іх ужо калісьці бачыла. Гэтыя груవасткія скрынкі з металу і дрэва, з дзівоснымі фігуркамі...

— Чаму яны такія вялікія?

— Вялікія? — Юрась у сваім старым чорным швэдары гэткі ж недарэчны тут, як і «рыцары часу», засмяяўся. На шчасце, ён зноў нагадваў нармальнага чалавека, у меру цікаўнага і іранічнага, і ў ногі кідацца мне не збіраўся.— Гэта на погляд сучаснага чалавека — вялікія... А на час свайго стварэння яны былі — як ноўтбук у параўнанні з колішняй ЭВМ, што займала цэлы пакой. Тады ж механічныя гадзіннікі толькі пачыналі ўваходзіць у моду. Зазвычай карысталіся клепсідрамі, вадзянымі гадзіннікамі, або гнамонамі — сонечнымі... Былі нават пераносныя сонечныя, маленькія, з яблык. Пясочныя таксама меліся. Іх насілі прывязанымі стужкай да нагі трохі ніжэй калена. Напэўна, гэта быў асаблівы шык. Вогненныя гадзіннікі ўжываліся...

— Гэта як? — не зразумела я.

— Свечкі з нанесенымі на іх дзяленнямі,— патлумачыў Юрась.— Нават у князя Вітаўта ў пакоях гарэла такая свечка — велізарная, на цэлыя суткі... І калі згарала адно дзяленне — гэта значыць, прайшла гадзіна — слуга абвяшчаў пра гэта на ўвесь палац...

Я падышла да гадзінніка, падобнага да маленькага гатычнага храма. На цыферблаце з жоўтага металу — дваццаць чатыры дзяленні, гатычныя літары замест лічбаў...

— Ой, усяго адна стрэлка засталася...— пашкадавала я.

Мой былы муж усміхнуўся.

— Хіба не заўважыла — у іх усіх адна стрэлка. Гадзіннікавая. Так было прынята. Хвілі тады ніхто не лічыў — навошта? Ну а простым месцічам ці сялянам — якія там механізмы! Царкоўны звон ды свойскі певень... Калі напачатку 15 стагоддзя ў многіх гарадах пачалі з'яўляцца вежавыя гадзіннікі, велізарныя, дарагія, дыхтоўныя — гэта была падзея.... А такія, пакаёвыя, якія можна пераносіць, маглі сабе дазволіць толькі самыя багацеі.

— А адкуль іх, дванаццаць, узялося ў Старавежскай ратушы?

Юрась схіліўся ля бакавой сценкі аднаго з гадзіннікаў, на якім смешны чалавечак у кароне ўкленчыў перад кашчавай постаццю з

касой. Я зноў адзначыла, што левая палова твару майго былога ў тонкіх шнарах, пры першым поглядзе амаль не заўважных.

— Вось гэта той, самы першы, Баркуноў гадзіннік. Я яго рэстаўраваў. Зірні...

На чорным дрэве — выпалены надпіс: BERNACCONI.

— На астатніх гадзінніках — тое самае,— патлумачыў Юрась.— Думаю, што менавіта па гэтым знаку можна адсачыць гадзіннікі з вежы.

— Кляйно майстра? — Я з павагай правяла рукой па паверхні, адпаліраванай часам, кранула жалезнага званара, які рыхтаваўся ўдарыць малатком у бронзавы звон, але, відаць, ужо колькі стагоддзяў так і не мог узняць свой малаток...

— Хутчэй, прозвішча ўладальніка,— азваўся Юрась.— Гадзіннікі — розных майстроў. Гэты, са смерцю і каралём — з Чэхіі. А вось тыя два, адзін са Святым Сямействам, другі з грыфонам — з Нюрнберга. Хто такі Бернацоні — я не ведаю. Але зразумела, што прывёз ён сюды свае гадзіннікі, а вывезці не змог. Схаваў у лёхах старавежскай ратушы. Аркадзь, дык той, відаць, гісторыю Бернацоні раскапаў. Але чамусьці мне нічога не расказваў.

Я асцярожна дакранулася да бліжэйшага з гадзіннікаў. На ім лёталі анёлкі з абсечанымі крыламі і вышчарбленымі тварыкамі — нібыта перахварэлі страшнай сярэднявечнай хваробай. Каму яны адлічвалі час? І ці шчаслівы быў той час?

— Вось тут звесткі пра кожны экспанат,— акуратны малады чалавек з жалобнай стужкай на рукаве пінжака працягваў празрыстую зялёную тэчку з паперамі.

«Чорны Ганс»... Гадзіннік са шпіндзельным пускавым механізмам, невядомы майстра, Любэк, 15 ст. Корпус букавы, разьба. Ударны механізм — скульптура бронзавага званара. Цыферблат масянжовы. Гіры свінцовыя на вяроўцы з авечых кішак...»

— Што?.. — адарвалася я ад папераў.— Чаму з авечых кішак?

— Таму што звычайныя вяроўкі расцягваліся. А гэтыя — сама бачыш, дасюль цэлыя. І драўніна бука — таксама трывалая, найчасцей яе майстры ўжывалі.

«Святое Сямейства... Гадзіннік механічны... Невядомы майстра, Нюрнберг, 15 ст. Корпус букавы, разьба, пазалота...»

Раптам за дзвярыма пачуліся крокі і нечыя галасы. У пакой увайшла Ліля з усмешлівым самавітым панам у элегантным касцюме. Усмешка пана была вытрымана-спачувальная... Але сам ён больш быў

падобны да шоўмэна — чарнявы, каржакаваты, як старасвецкая шафа з пукатымі дзверцамі, рысы твару буйныя, голас нізкі, як дуда. Так і здаецца, што зараз схопіць цябе за рукаў і выцягне на сярэдзіну залы, адказваць на непрыстойна-жартаўлівыя пытанні... І мне неадольна захацелася схавацца за адзін з гадзіннікаў. Але было позна.

— Ганна Барэцкая! Якія людзі! Юра-аська! Зноў разам, як на першым курсе! Малайцы!

— У нас з Анэтай проста дзелавая сустрэча, Віталь Аляксандавіч,— нейкім афіцыйным голасам паведаміў Юрый, нібыта адхрышчваўся ад ганебнага ўчынку. Мяне нават «зачапіла»...

— А-а, а я думаў, у цябе, так бы мовіць, рэзкі паварот жыцця...— расчаравана працягнуў госць, нібыта збіраўся быць нашым сватам.— Ну, даражэнькія, усё роўна рады вас бачыць.

Давялося вітацца, выцерпець абдымкі і прапахлы тытунём і каньяком пацалунак у шчочку... Віталь Янчын ніколі не адрозніваўся далікатнасцю. Затое ніхто і не думаў зваць яго па бацьку, нягледзячы на розніцу ва ўзросце. Ён усіх — на «ты», і да яго — «Віталь». І тады, калі ён выкладаў нам тэорыю журналістыкі і баяў на лекцыі непрыстойныя анекдоты, і калі я рабіла з ім гутарку для сваёй газеты пра дабрачынную акцыю тытунёвай фірмы, прадстаўніком якой на Беларусі ён быў прыладзіўся. А пасля надрукавання гэтай гутаркі Віталь абяцаў выдраць мае рудыя валасы і зрабіць з іх шчотку для ўнітаза... Яго фірма закупіла для музея калекцыю карцінаў. Я падчас уручэння моўчкі абуралася — набыта на грошы, якімі нашыя людзі аплочваюць сваю згубную звычку! Але апісала ўсё сумленна. Ды пільнае маё начальства выкрэсліла ўсе згадкі пра падазроную фірму. Атрымалася, што калекцыя карцінаў з'явілася ў музеі нейкім цудам. А мецэнаты прэс-канферэнцыю ладзілі, журналюгаў шампанскім паілі... Зразумела, вінаватай засталася я. Цяпер, падобна, на былых прэтэнзіях пастаўлены крыж.

— Ганначка стане пісаць пра Аркадзя, так, Ліля? Цудоўны выбар! Гэтая дзяўчынка напіша, як мае быць! — каб не патрэба захоўваць жалобны выраз твару, жыццярадаснасць струменілася б з Віталя, як вада з рэшата.— А ты, Юраська, значыць, усё па-ранейшаму пакутуеш? Вось жа «пашанцавала» табе, беднаму...

Віталь звяртаўся да майго мужа, як да цяжкахворага, змоўніцкім шэптам. Юрась збялеў і, апусціўшы вочы, сказаў нечакана цвёрда:

— Гэта мая справа, Віталь Аляксандравіч.

Я са здзіўленнем пераводзіла вочы з аднаго на другога, спрабуючы здагадацца, пра што гаворка.

— Ну, ну, не крыўдуй... Ты малайчына. Выпаў крыж — нясі... Ведама...

Апошняе прагучала трохі фальшыва. Я нічога не распытвала пра асабістае жыццё майго былога мужа, а тут, відаць, мелася нейкая таямніца. Але мне не атрымалася на гэтым засяродзіцца. Удава абвяла рукой вакол.

— Вось яны, гадзіннікі з вежы.

Віталь пацокаў языком:

— Ай-яй, даўніна якая... Антыкварыят! Хаця ў калекцыі Пятра Апанасавіча ёсць некалькі вельмі падобных. Ды вось хоць бы нядаўна з Польшчы прывёз цэлы фургон гадзіннікаў — і вялікіх, як гэтыя. І малых... Нават цыферблат ад вежавых...

Юрась шапнуў мне:

— Гэта ён пра Калыванава... Прэс-сакратаром у яго працуе.

Нішто сабе прыладкаваўся! Калыванаў — расейскі магнат, меў тут сумесныя прадпрыемствы. Удава дужа зацікавілася пачутым:

— Аркадзь марыў, каб сабраць усе дванаццаць гадзіннікаў!

Наш былы выкладчык спачувальна паківаў галавой:

— Пётр Апанасавіч твайго мужа вельмі паважаў. Не сумняюся, што, калі ў яго калекцыі выявяцца патрэбныя экзэмпляры — падорыць. Шырокай душы чалавек...

Лілія Пятроўна перарывіста ўздыхнула:

— Як было б цудоўна — сабраць усе дванаццаць, паставіць у вежы, і каб яны ішлі... Аркадзь мне тысячу разоў пра гэта казаў, а я не прыслухоўвалася...

Голас яе перарваўся. Госць спачувальна дакрануўся да яе пляча.

— Не плач, Ліля... Паспрабуем арганізаваць...— і дастаў сотавы. Пасля нядоўгіх перамоваў радасна паведаміў:

— Я ж казаў — шырокай душы чалавек! Гадзіннікаў старых у яго сотні з дзве. І маленькія, і большыя за гэтыя... Калі не знойдзем дакладна з вашае вежы — дык падбяруцца падобныя. Галоўнае, каб дванаццаць! І каб на вечарыне ў памяць Аркадзя яны цікалі!

Юрась запярэчыў:

— Можа не атрымаецца ўсе адрамантаваць.

— Э! Не праблема! — Віталь схаваў сотавы ва ўнутраную кішэню пінжака.— У Пятра Апанасавіча ў катэджы пад Старавежскам майстэрня па рамонце антыкварных аўтамабіляў. Апошні віск тэхнікі

— абсталявана. Гадзіннікі, калі трэба, таксама там рамантуюць — з калекцыі ў катэджы. А калі яшчэ ты, Юрась, возьмешся — дакладна адладзім!

Ліля запытальна зірнула на Юрася. Той пакруціў галавою:

— Не ведаю... Пашкоджаныя скульптуры, вядома, за месяц не адновіш... Хіба збольшага. А механізмы, у прынцыпе, тады рабілі на вякі...

— Ну вось і бярыся неадкладна! — уладарна загаварыў Віталь.— Фігуры — бог з імі, пасля дапрацуеш. Галоўнае — каб цікалі. Якіх дэталяў не хапае — ты толькі намалюй, за суткі зробяць. Пяць тысячаў баксаў гарантую, калі атрымаецца. Вось што... Гэтыя скрынкі ўсё адно трэба ставіць у вежу... Напачатку завязём іх у майстэрню, і Юрась разбярэцца, што да чаго, складзе «чароўную дванаццатку». Ён жа — майстар-цуда! І Ганначку з сабой возьмем — будзе там пісаць, фатаграфаваць... Усе архіўныя дакументы, якія трэба, даставім. А на саракавіны ўрачыста адчынім у ратушы музей імя Аркадзя Баркуна. Я праязджаў учора, зірнуў — там ужо ўсё амаль расчысцілі, трэба толькі вокны зашкліць. Пятро Апанасавіч прафінансуе. Дый мы ўсе скінемся. Усе ж пад Богам ходзім... У Калыванава пару гадоў таму таксама нейкі гад страляў. Не любяць у вялікім бізнесе сумленных людзей... Вось пра што пісаць трэба было,— гэта Віталь дакорліва кінуў мне на развітанне.

Мы ехалі ў звычайным гарадскім тралейбусе, і раскоша Баркунова дома здавалася мне прыснёнай. За вокнамі мчаліся агні начнога гораду, быццам згубныя балотныя агеньчыкі. Уяўляю, якімі нечувана прыгожымі здаюцца гэтыя падсвечаныя фасады дамоў на сталічным праспекце якой-небудзь дзяўчынцы з Аляхновіч, дзе ўзімку трэба вучыцца ў школе, не здымаючы футра, а ўвечары гэтая дзяўчынка стаіць разам з усімі месцічамі на чыгуначнай станцыі і выглядае, калі прывязуць цыстэрну саляркі, якая хоць на нейкі час верне цяпло ў кватэры... А міма, не спыняючыся, пралятаюць цягнікі далёкага накірунку, вокны якіх гараць нетутэйшымі прыветнымі агнямі... Як цікава было б гэтай дзяўчынцы, якой магла б быць я, ехаць у гэтым тралейбусе вось тут, на задняй пляцоўцы, і разглядаць залітыя святлом дамы...

Але я развучылася радавацца таму, што жыву ў вялікім горадзе. Юрась зацята маўчаў, абапершыся локцямі на парэнчы і ўглядаючыся ў збягаючую назад бліскучую чорную стужку мокрага асфальту. Чорны швэдар на локці зацыраваны... Няўжо так мала зарабляе сваёй

рэстаўрацыяй, што на куртку сабе не агорае? Я ведала, што Юрасёў бацька памёр. Але ж нібыта і рэстаўратары такога палёту не жабруюць... Напэўна, проста не сочыць за сабой. Так, немагчыма паверыць, што калісьці між мною і гэтым мужчынам былі нейкія... іскры цікаўнасці.

Паўпусты тралейбус пагрукваў, нібыта развальваўся. Я на хвілю ўявіла, што так можа выглядаць сучасны Харонаў транспарт. Вось прыпыніўся, каб прыняць у сябе новыя памерлыя душы...

Раптам Юрась азірнуўся і ўвесь напружыўся, і нібыта між намі ўпала нейкая сцяна. Ён пільна глядзеў на дваіх, што ўвайшлі ў сярэднія дзверы і ўсаджваліся на адно з абабітых карычневым, скрэмзаным шматлікімі непаўналетнімі пасажырамі дэрмацінам, сядзенне. Высокая худая дзяўчына ў чорным скураным плашчы і капелюшы і хлопец у джынсоўцы. Неахайныя пасмы валасоў амаль закрывалі яго твар. Пара была дзіўная. Не п’яныя, але рухаліся неяк нязграбна, нібыта толькі што, пасля доўгага блукання, выйшлі з цемры сутарэнняў на сляпучае святло. Юрась ірвануўся да іх, нават нічога мне не патлумачыўшы. Я бачыла, як ён схіліўся над дзяўчынай, нешта ціха ёй сказаў, пасля пацягнуў за руку да дзвярэй. Я здагадалася, што хутчэй за ўсё прысутнічаю пры сямейнай разборцы, і з прыкрасцю адвярнулася.

— Адкасніся...— голас дзяўчыны быў гучны, але нейкі санлівы.

— Стэла, дадому! Уставай!

Бач, які ўладарны! Я зноў кінула пагляд у іх бок... Юрась падвёў дзяўчыну да дзвярэй. Дзіўна, але хлопец, з якім тая зайшла ў тралейбус, нават галавы не павярнуў. І тут Юрасёва кабета паглядзела на мяне... Божа, якая прыгажосць! Эльфійская князёўна... Твар бледны, як парцаляна, і худы, з тонкімі рысамі, вочы вялізныя, бліскуча-цёмныя... І чорныя прамыя пасмы валасоў звісаюць з-пад капелюша, нібыта невыпадкова, а нейкі мастак доўга падбіраў, як іх укласці, каб падкрэсліць незвычайную, нейкую трагічную і хваравітую гожасць уладальніцы. Я глядзела на ўсе вочы, забыўшыся на прыстойнасць. Тралейбус спыніўся. Дзяўчына ўсміхнулася — горкай, імгненнай усмешкай, і выйшла ў ноч і восень, у суправаджэнні ўнуранага, напружанага Юрася, які, дарэчы, нават і не зірнуў у мой бок...

Я ніколі не зайздросціла дзяўчатам, якія былі прыгажэй за мяне. Зайздрасці не было і цяпер. Але... нейкая туга. Так, дзеля гэткай жанчыны можна сцярпець усё... І дараваць здраду, і цярпліва

дабіваецца кахання. А мне застаецца гэты паўпусты тралейбус, мокры асфальт, што ляціць за вокнамі, быццам чорная рака, і ўсе лістапады, па якіх я буду блукаць — сама, сама, сама...

Белы анёл біўся ў вітражнае акно, адчайна прасіўся ў пакой. Напэўна, гэта была проста птушка, скрозь слюдзяныя падфарбаваныя пласцінкі можна было разгледзець толькі што белая. Але ў тым паўсне, у якім жыла Анэта, чаму б не з'явіцца анёлу? Вокны адчыняць забаранялася. Але анёлам адмаўляць нельга. І нават птушкам — бо гэта стварэнні Божыя. Шыбы з цяжкасцю паддаліся... Над галавою Анэты імкліва праляцела нешта светлае... Дзяўчына не разгледзела крылатага госця, бо ад струменю свежага паветра, што ўварваўся з вуліцы, галава закружылася так, нібыта вярнуўся шалёны карагод. Анэта мімаволі падалася наперад, ухапілася за падаконне, каб не ўпасці... Горад ляжаў перад ёю, нібыта скалечаны вой. Чорнае голле дрэў (няўжо такая позняя восень?)... Дым ад вогнішчаў... Зусім няма людзей... А яшчэ нядаўна на гэтай плошчы віраваў стракаты натоўп. Які крык падымаўся, калі на плошчы збіралася капа — сойм, каб вырашыць нешта важнае. Вароны тады не наважваліся і блізка падлятаць да горада. А ў звычайныя дні тут можна было пачуць самую розную гаворку, і выбраць сабе ў шматлікіх лаўках з вясёлымі навязлівымі гандлярамі каралі з чэшскага шкла або персіянскую хустку, пералівістую, як вясёлка. Старыя бурчэлі — маладая паненка добрага роду бегае па горадзе адна. Але гарэзе Анэце, адзінай дачцэ пана Варавы Ляскевіча, дазвалялася больш, чым яе сябрынькам. Татусь звык размаўляць з ёю як з роўнай, і Богуш не стаў бы замыкаць сваю «белагаловую» ад гасцей, як пан войт. Праўда, войтава жонка, чарнабровая маскавіцянка Марыя, сама хавалася, калі ў дом прыходзілі мужчыны. Войт Марка Доўмель, бацькаў добры сябра, апраўдваўся — у такіх звычаях вырасла. Варта было паглядзець на пачварныя ўборы тае Марыі, што рабілі яе падобнай да вялізнай падушкі — ні шыі не відаць, ні стану — каб зразумець, што за звычаі ў ейнай Масковіі. Войцісе ж такое апрануць, як тутэйшыя шляхцянкі носяць — грэх.

Анэта любіла выбіраць сабе ўборы... Яны з Богушам зараз хадзілі б па гэтай плошчы разам, і яна купляла б сабе падарункі да вяселля. Тонкі ядваб, зялёны, як першае бярозавае лісце... Гафтаваныя перлінамі чаравічкі, у якіх гэтак вольна бегаць-слізгаць па нацертай воскам да вадзянога бляску падлозе... Рукавічкі са срэбнага

дзівоснага футра... Богуш ні ў чым ёй не адмаўляў. Навошта даражыцца, калі заўтра ці нават сёння на горад могуць напасці крымчакі, ці шведы, ці маскоўцы, і знікне кароткая радасць... Богуш заўсёды біўся ў першых шэрагах, яе слаўны рыцар... І ейная зялёная стужка была ў яго на шлеме. Іх каханне і нарадзілася ў бойцы... Богуша і Анэту сасваталі яшчэ малымі. Але дзяўчына зусім не была ў захапленні ад задзірастага хлапчука з непакорлівымі цёмнымі віхрамі...

Ён паехаў у Кракаўскі ўніверсітэт, вярнуўся... У стракатых штанах і дзюбастых чаравіках са званочкамі на насах. З плоймай лацінскіх выказванняў, якія ўстаўляў да месца і не. На бацькавы ўгаворы Анэта капрызіла: «Не хачу замуж за гэтага боўдзілу! З яго ж усе смяюцца!»

Пад сцены Старавежска прыйшлі татары. Да Вялікага князя паслалі па дапамогу. Але пакуль княскае войска падыдзе, даводзілася спадзявацца толькі на свае сілы. Богуша прынеслі ў ратушу, дзе зладзілі лазарэт, калі напад быў ужо адбіты. Вялікі князь так і не прыслаў войска ў непакорлівы горад, што не прымаў ягонага войта і заключаў гандлёвыя дамовы з ягонымі ворагамі. Ганец вярнуўся са словамі: «Каму служыцьме, у таго і дапамогі прасіцьме».

А Старавежск не служыў нікому.

Паважныя воі расказвалі пра геройствы маладога Радчыца і шкадавалі, што такі добры ваяр памрэ. Анэта нахілілася над параненым... Ён быў зусім бледны, валасы прыліплі да скрываўленага лба. Раптам веі задрыжэлі, бліснула сінь вачэй... Ён пазнаў яе. І... паспрабаваў усміхнуцца. Каб падбадзёрыць сваю палахлівую дзяўчынку. «Не плач, Анэта, а то жабы ў пакоі развядуцца». Яна хутчэй адгадала, чым пачула яго ўлюбёную дражнілку.

І ўспамін пра тую ўсмешку на збялелых ад болю вуснах дасюль прымушае сэрца сціскацца...

Тады ён выжыў... Было кароткае шчасце. Анэта ведала — Богуш абраў бы лепей смерць ад варожага мяча, чым ад хваробы... Але пані Смерць дыспутаў не ладзіць.

Няма болей Багуслава Радчыца...

Сцелецца над брукаванкай горкі дым, карычневая лістота ўжо не шасціць, прыбітая дажджамі да зямлі. Толькі дзіўныя застрашлівыя постаці вартаўнікоў па краі плошчы. Захутаныя ў цёмныя плашчы, што напінаюцца зброяй, твары да вачэй абвязаныя белымі палотнамі — як у сарацынаў...

— Анэ-эта-а! — зноў мсціцца далёкі голас Богуша...

Цёмныя постаці ўнізе зварухнуліся, зрушыліся...

Моцныя рукі адштурхнулі дзяўчыну ад акна.

— Дурное дзяўчо! Пошасць прыходзіць з паветрам!

Бернацоні злосна зачыніў шыбы, нібыта за імі стаілася сама смерць. Шоргат крылаў прымусіў яго азірнуцца. Белы голуб сеў на плячо лекара. Анэта са здзіўленнем убачыла, што суровы твар італьянца прасвятлеў ад радасці. Бернацоні схапіў птушку, нешта адвязаў ад яе лапкі, няўважна падкінуў птушку ўверх, і тая, спалохана пакружляўшы, села на адзін з гадзіннікаў... Анэта здагадалася, што голуб прынёс чаканыя весткі. Можа, ад самога Вялікага князя. Відаць, бедная птушка зблудзіла ў смярдзючым дыме і не даляцела да адмысловага акенца на гарышчы. Але ўсё-ткі шкада, што прыляцеў не анёл.

Раптам Бернацоні раздражнёна ўскрыкнуў:

— Маледэтта! Я мушу гібець тут аж да пачатку посту! Ну які ёлуп увёў у вушы Яго Вялікасці, што гэтае панішчанае, няшчаснае мястэчка мае волю да супраціву! Ды тут яшчэ сто гадоў не будзе моцы нават зладзіць начную варту! А, гэта, відаць, Яго правялебнасць, шаноўны біскуп, пастараўся...

Анэта скаланулася. Чужынец казаў пра яе горад, пра яе ўлюбёны, вольны Старавежск.

— Наш горад аджыве! — дачка радцы не магла змаўчаць.— І пошасць была. І пскавічы нас палілі, і крымскі хан... Старавежск можна параніць. Але нельга забіць.

Бернацоні прымружыў вочы, нібыта дзяўчына знаходзілася ад яго далёка-далёка.

— Вось як, бамбіна... Ты любіш свой горад? Магчыма, ты любіш яго нават так, што можаш за яго памерці?

Анэта з выклікам паглядзела ў цёмныя вочы лекара.

— Многія больш вартыя за мяне аддавалі жыццё за гэты горад.

У вачах італьянца не заўважалася насмешкі.

— Так, дона, так... Велічыня чалавека суразмерная таму, за што ён здольны памерці. Гэта можа быць усяго толькі ягоны дом, з нажытымі ім дабром і дзецьмі, з улюбёнай ружовашчокай матронай, а можа быць — ягоны народ... Яго вера... Яго Гасподзь... Калі ж нехта больш за ўсё на свеце даражыцца сабою — ён такі малы, што вочы Неба абмінаюць яго, як нявартую парушынку... У цябе вялікая душа, дона.

Лекар адышоўся і працягваў разважаць, нібы спрачаючыся сам з сабою:

— А вось усё чалавецтва... Якое ёсць, якое будзе. Стракатае, забыўлівае, асуджанае знішчаць самое сябе, як скарпіён у коле вугалляў... Ці варта паміраць за чалавецтва? Хіба можна ашчасліваць яго — усё? А, дона?

Анэта спалохана паціснула плячыма — у такія хвілі Бернацоні нагадваў ёй вар'ята...

— Не ведаеш? Вось і я не ведаю... Калі для адных гэта будзе шчасцем, для другіх — жахам... Няхай ашчаслiўленых станецца больш... Але, магчыма, тыя, хто застаўся ў абдзеленай меншасці, больш вартыя? Адзіна вартыя? — Лекар падышоў да гадзінніка з фігуркай смерці, што адсякае галаву каралю, дакрануўся да застылага ў жаху бронзавага ўладара, які ўкленчыў перад страшнай госцяй.— Калі я толькі яшчэ вучыўся лекаваць, і замест залатога ланцуга на маёй шыі заўсёды матлялася хустачка чарговай прыгожанькай сіньёры, што засумавала ў высакародным замужжы,— вох, які я быў блазнюк! — я засвоіў, што часам, каб выратаваць чалавека, трэба адняць ад яго цела невылечна хворую частку. Гэта балюча, і чалавек застанецца калекам... Але ён будзе жыць. Здараецца, варта пазбавіцца добрага, разумнага, памяркоўнага караля, каб яго народ змог паўстаць супраць ворагаў. Пральецца шмат крыві, але краіна ажыве. А калі дзеля шчасця краіны належыць ахвяраваць адным горадам... Гэта праўдзіва? А, дона?

Анэта разумела, што ад яе не чакаюць адказу. Разважаць пра такія складаныя рэчы з дзяўчынай... Але яна адказала.

— Гэта бязбожна!

— Вось як? — Бернацоні быў угневаны.— Не табе судзіць. Мая любая Італія ляжала ў руінах, таму што кожны горад хацеў быць асобным каралеўствам, і ўсе ваявалі з усімі.

Але Анэта крыкнула, нібыта глыток свежага паветра вярнуў ёй былыя сілы, аж галуб спалохана ўзляцеў пад скляпеністую столь.

— У нашым горадзе жылі шчаслівыя людзі! Мы нікога не чапалі. Толькі бараніліся. Гасподзь выпрабоўвае нас, але не дасць знікнуць! Я не хачу болей слухаць вашыя гадзіннікі! Я хачу выйсці з вежы! Можа быць, нехта з маёй сям'і жывы...

Так, яна больш не сядзе сярод яго гадзіннікаў, ад голасу якіх то млосна, то непрыстойна весела, нібыта ад чары віна... А лекар пытаецца пра яе адчуванні і нешта падлажвае ў хітрых механізмах... Дае выпіць адвар... І зноў заводзіць гадзіннікі.

— Ніхто, акрамя смерці, не чакае цябе,— лекар гаварыў вельмі спакойна.— Ты застанешся тут, пакуль не прыедзе новы войт, прысланы князем. Тады я перадам цябе пад ягоную ўладу. А зараз — час піць адвар...

У пакой, нібыта падслухоўвала пад дзвярыма, увайшла рыкунння, ключніца Марцэля, высокая немаладая кабета з тварам, нібыта выразаным з дрэва, з глыбока запалымі вачыма, падала дзяўчыне кубак з чырвонага венецыянскага шкла. Чырвоны колер мусіў дадаваць сілы зёлкам.

— Не!

Бернацоні толькі прыўзняў бровы.

— Той, хто адмаўляецца лячыцца — грашыць, бо лекара стварыў Бог. Пі!

— Не буду! Ад вашых напояў я нібыта ў воблаку...

— Ты што, думаеш, я цябе атручваю? — усміхнуўся лекар.— Глядзі...— Ён адпіў з кубка.— Бачыш? Гэта ўсяго толькі зёлкі. Ну!

Марцэля паднесла кубак проста да вуснаў Анэты, зірнула ненавісна... Адкуль гэтая нянавісць? Дзяўчына адчула: не вып’е — увальюць у рот... Як вар’ятцы... Прысмак чорнай арабіны... Звязвае ў роце...

— Правядзі сіньярыту ў яе пакой.

Анэта павольна рушыла ў маленькі пакойчык, хутчэй — нішу, завешаную цяжкім сінім палатном, якая межавала з гасцёўняй. Услед даляцеў вясёлы голас лекара:

— Ты яшчэ не з усімі маймі гадзіннікамі пагутарыла, донна!

— Не хачу-у-у!

— Не хачу-у-у!

Эльфійская каралеўна па імені Стэла адчайна, як спалоханае дзіця, тузанула Юрася за рукаў.

— Ты нікуды не паедзеш!

Я сядзела ў машыне Віталя Аляксандравіча, якая мусіла адвезці нас у Калыванаўскія ўладанні, да старавежскіх таямніцаў, і рабіла выгляд, быццам мяне больш за ўсё на свеце цікавіць шэрая цагляная сцяна за акном. Чаго кабета ўсхадзілася? Можа, да мяне раўнуе? Каб яна ведала, наколькі беспадстаўна. Юрась між тым пакорліва выйшаў з салона. Нешта не памятаю, каб ён гэтак жа слухаўся маіх капрызаў. Я зірнула. Яны стаялі наводдаль, абодва ў чорным, як дзве пацямнелыя ад часу статуэткі на засланым залацістым абрусам стале. Юрась нешта гаварыў, супакойваў, гладзіў жонку па бліскучых, як

чорны шоўк, валасах, а Стэла ўсё гэтак жа адчайна чаплялася за яго. Нарэшце спадар рэстаўратар палез у кішэні сваёй паношанай курткі, дастаў грошы... Стэла прагна схапіла іх, палічыла... І зноў нешта адчайна загаварыла. Юрась адмоўна пакруціў галавою. Раптам жанчына замахнулася на яго, Юрась перахапіў яе тонкую руку, здавалася б, занадта далікатную нават для таго, каб рваць кветкі... Мінакі пачалі зацікаўлена азірацца. Я разгублена назірала за брыдкай дзеяй.

— А нічога не паробіш,— меланхалічна пракаментаваў Віталь, які сядзеў наперадзе, побач з шафёрам, маўклівым маладым чалавекам у скуранцы, з чорнымі прылізанымі валасамі і вузенькімі вусікамі на манер акцёраў нямога кіно.— З такімі хоць па-добраму, хоць па-злому — вынік адзін...

Кіроўца няспешна азірнуўся, ацаніў сітуацыю — відаць, паедзем не хутка, уздзеў навушнікі плэера і загайдаўся ў толькі яму чутным бадзёрым рытме. Маўляў, мая справа маленькая, разбірайцеся, паны, самі.

А Юрась раптам прыціснуў да сябе Стэлу, якая рвалася з яго рук, і моцна пацалаваў... Яна прыціхла, абхапіла яго тонкімі рукамі... Потым Юрась крыкнуў у бок машыны:

— Пачакайце мяне хвілінаў дваццаць!

І павёў некуды сваю нервовую прыгажуню.

— І навошта гэта яму? — шчыра азваўся Віталь. І распавёў мне гісторыю Юрасёвага шлюбу.

...Мой былы муж не любіў журналістыку, затое цягнуўся да мастакоўскага свету, як грэшнік да крыжа. Вось у адной вясёлай майстэрні, сярод недамаляваных карцінаў і старажытнай керамікі Юрась і напаткаў сваю Стэлу. Таленавітую і дзіўную. Будучы рэстаўратар — ён вучыўся на другім курсе вучэльні — не спяшаўся сыходзіць з майстэрні, якая і належала чароўнай Стэле — бацька, вядомы мастак, паспрыяў. Настрой гаспадыні між тым сапсаваўся. З ейных цёмных самотных вачэй без дай прычыны паліліся паэтычныя слёзы... Астатняя публіка неяк вельмі хуценька разбеглася... Мусіць, ведалі, які «цырк» пачнецца. І Юрась атрымаў задавальненне напоўніцу. Наркаманка са стажам у час «ломкі». Калі Юрась зразумеў, што за лекі вытанчаная Стэла збіраецца ўпароць сабе ў вену, учыніў «мудра» — выхапіў шпрыц ды выкінуў праз акно. Мастачка паспрабавала адправіцца ўслед за сваім «ратункам»... Юрась з апошніх сілаў утрымліваў яе на падаконні, а прыгажуня несамавіта

лаялася... Ды яшчэ трапіўся ёй пад руку мастыхін — вострая металёвая лапатка, якой счышчаюць фарбу з халста... Вось так і ўпрыгожыліся твар і рукі майго былога мужа шнарамі.

Дзесьці пад раніцу дзяўчына апрытомнела... І што першае зрабіў Юрась, парэзаны вострым лязом, як пасля бойкі з тузінам адмарозкаў? Правільна, прапанаваў выйсці за яго замуж. Ясна, чаму: збіраўся стаць выратавальнікам. Але нават гэты легкадумны рамантык не ўяўляў, з чым сутыкнецца.

Ён пераспрабаваў усё. Звычайных дактароў і гіпнатызёраў, вазіў да святароў, аднойчы ўгаварыў пажыць разам у скіце дзесьці ў Карэліі... Але вера мелася толькі ў ім. Звярнуўся аднойчы і да былога выкладчыка. Віталь якраз ладзіў чарговую рэкламную кампанію свайго гаспадара — хоспіс ды наркалагічны цэнтр.

— Ніхто ёй не дапамог і не дапаможа,— зазначыў мой суразмоўца.— А без «дозы» загнецца... Вось Юрась і зарабляе на «дурноту».

— Ён купляе жонцы наркотыкі?!! — жахнулася я.

Віталь меланхалічна паціснуў плячыма:

— Калі не выбрацца з балота, застаецца квакаць. А шкада хлопца! Светлая галава, хаця з дзівацтвамі. У палітыку палез, калі гэта было яшчэ модна. За адным апазіцыянерам партфель насіў... Пасля пасварыўся... Каб яму добрага дарадчыка ды кіраўніка — абапіраючыся на такіх людзей, адказных, палкіх — шмат можна дасягнуць. Але ж вось — згас чалавек, звузіўся... Я такіх лёсаў шмат бачыў.

Ад пачутага мне зрабілася ніякавата. Ніколі не мела блізкіх стасункаў з наркаманамі. Ведала, што ў Менску яны збіраліся ў кавярні «Пінгвін», цяпер перарobленай у безаблічную рэстарацыю з марскім назовам. А мой сябра паэт вадзіў мяне па маленькіх кавярнях... Я запомніла з неахайнай купкі заўсёднікаў «Пінгвіна» дзяўчыну з нібыта размытымі дажджом рысамі твару, у якой хіпоўскую павязку на галаве ўпрыгожвалі рыбацкія мармышкі. Вочы ў дзяўчыны з мармышкамі былі светлыя, і здавалася, з нейкай празрыстай плёнкай... Сябра грэбліва патлумачыў: «наркаманка». Але да Стэлы грэбліва ставіцца я не магла.

Юрась моўчкі сеў у машыну. У яго быў такі твар, што ў мяне скаланулася сэрца. Як ён яе кахае... А чаму не? Хворых і няшчасных, ад каго адны клопаты, часам кахаюць куды глыбей і адданей, чым здаровых ды ўдалых.

Кіроўца ўсё гэтак жа моўчкі зняў навушнікі і завёў машыну. Я так і не зразумела, чуў нашы размовы гэты прылізаны хлопец, або не? Ідэальная прыслуга.

Калыванаўская сядзіба, як я і чакала, была абкружаная высозным бетонным плотам. Сосны палахліва спыніліся перад ім раўнюткім шэрагам. Можа, гэта рэшта «савецкага» выхавання, але да такіх платоў у мяне трывалая агіда... А калі бачу, як перада мной бязгучна раз'язджаюцца жалезныя вароты, ахоплівае дурны дзікі страх — нібыта штурхаюць у турэмную камеру...

Восеньскі дзень кароткі, яго твар ужо цямнеў ад стомы. Але пейзаж за жалезнымі варотамі быў падсвечаны нізкімі — нібыта для гномаў — круглымі ліхтарамі, і бачыўся выразна і адначасова прывідна. Рэшткі старой брамы... Дзве мармуровыя багіні па абодва бакі дарогі вартуюць прысаду; адна трымае ў руцэ аліўкавую галінку, другая — меч. Але час адняў у велічных каменных постацяў антычны бляск. У адной багіні не хапала рукі, у другой адбіты нос... Здавалася, што па гэтых абшарпаных, патрэсканых статуях абавязкова поўзаюць смаўжы...

Я не магла пазнаць, што за дрэвы сашчапілі ў прыцемку над дарогай свае пазбаўленыя лісця густыя галіны — нібыта ведзьміныя валасы, выпрастаныя ветрам і залітыя святлом поўні. Але гэтым волатам, відаць, была не адна сотня гадоў. Фары машыны высвечвалі каржакаватыя сівыя ствалы. Мы ехалі зусім павольна, і мяне ўразіла цішыня вакол... Нішто сабе маёнтак! Раптам паказаўся яшчэ шэраг статуй. На п'едэсталах узвышаліся постаці, падобныя да рымскіх імператараў. Гэтыя скульптуры яшчэ больш пацярпелі ад часу. На некаторых пастаментах засталіся толькі ногі невядомых герояў... Дарога вільнула ўбок, і я нарэшце ўбачыла рэзідэнцыю пана Калыванава. Не падобна да жытла алігарха. Двухпавярховы дом з чатырма калонамі, з вострым дахам і вежамі па кутах. Зусім не цацачная падробка, на якія я нагледзелася. Гэты будынак паглядаў на нас нібыта з-пад старасвецкага капелюха — гэткі састарэлы, але ўсё яшчэ ганарысты шляхцюк...

— Людвісарава,— шапнуў мне Юрась.

Вось яно што... Маёнтак славутых магнатаў... А я лічыла, што ён зруйнаваны. Праўда, непадалёк у прыцемку бялелі самотныя калоны, нібыта разгубленыя тым, што больш не трэба падтрымліваць цяжар даху... Відаць, новыя гаспадары аднавілі толькі частку палаца.

Але ўнутры дома нічога не нагадвала пра старасвеччыну. Пунсовыя дываны, белыя сцены, а на іх — яркія і стракатыя, нібыта спадніцы аперэтачнай Сільвы, пастэлі ў металёвых рамках. Ды яшчэ мёртвае зыркае святло лямпачак, падобных да вачэй робата.

— Ну, вось і дома! — Віталь Янчын шырока разводзіў рукамі, нібыта ўсё бачанае належала яму. Двое мужчынаў у аднолькавых швэдарах колеру кавы з малаком і з аднолькавымі квадратнымі сківіцамі і пляскатымі баксёрскімі насамі ветліва ўсміхаліся. Той, што быў вышэй, з кароткімі рудымі валасамі, паказаў рукой налева.

— Вось па тым калідоры вашыя пакоі. Вячэра а восьмай, гаспадар абяцаў прыехаць, так што пазнаёміцеся.

Голас яго нагадваў трамбон, на якім звар'яцелы музыка спрабаваў сыграць партыю флейты. Такім голасам добра крычаць: «Выходзіць па аднаму! Рукі за галаву!» Другі мужчына, каржакаваты і чарнявы, гэтак жа ветліва дадаў:

— Уладкоўвайцеся, і што трэба для працы — адразу нам кажыце. Дамовіліся? Я — Анатоль. А гэта — Ігар.

У пакоі меліся кандыцыянер і камп'ютар. Але мне было так трывожна, што замест таго, каб раскласці прывезеныя рэчы, падпарадкаваць сабе чужую прастору, я проста села на канапу, пакрытую белай атласнай коўдрай, і так і праседзела амаль гадзіну, перабіраючы ў думках падзеі апошняга часу, нібыта пацеркі з чорных перлінаў... І я амаль жадала, каб нітка, што звязвала іх, парвалася, і нешта назаўсёды згубілася ў бездані забыцця. Але нітка часу рвецца толькі разам з жыццём.

Другі паверх выглядаў зусім інакш, чым першы. Відаць, наверсе былі панскія пакоі, а ўнізе — для «абслугі». У панскіх стаяла антыкварная мэбля, на сценах — дываны, на іх — зброя... А ў сталовай — абедзенны стол з матавага цёмнага металу, і нават без абруса. Адны сурвэткі, звязаныя з тонкіх ільняных нітак. У металёвай паверхні люстраваліся лямпачкі, і здавалася, што посуд зараз паплыве. А на мне замест вячэрняй сукенкі — стары швэдар... Добра, што і Юрась выглядае гэткім жа «бедным сваяком». Затое, у адрозненне ад мяне, пра гэта зусім не думае.

— Гэта праўда, Ганна, што вы можаце прачытаць за гадзіну пяцьсот старонак тэксту?

Голас Пятра Калыванава быў гэткі ж рэзкі, востры, як аблічча. Расейскі магнат нагадваў мне, як ні дзіўна, Скарамуша — драўляную ляльку з італьянскага вулічнага тэатра: нос і падбароддзе — як

шчыпцы, чорныя вочы маленькія, але жудасна пранізлівыя, валасы зачасаныя назад — толькі стракатага раздвоенага каўпака не хапае. На экране тэлевізара магнат выглядаў больш мажным, прыемна паўнаватым, скрадвалася вуглаватая, небяспечная вастрыня. Вакол гэтага чалавека нешта адчувалася... Сказаць — «сіла» — неяк па-джэдаеўску... Сказаць «харызма» — па-газетнаму... Цяжка было ўявіць, што з ім можна спрачацца. Аднак ён нечакана шмат ведае пра мяне...

— Магу чытаць і хутка... Але насамрэч мне падабаецца цешыцца з тэксту. Калі тэкст, вядома, гэтага варты.

Мой адказ не быў надта ветлівы ад таго, што я страшэнна бянтэжылася.

— Вы валодаеце польскай і нямецкай,— працягваў гаспадар нібыта чытаў маё дасье.— І ў вас своеасаблівы талент следчага. Мне расказвалі, як вас пакінулі без нагляду на паўгадзінкі ў кабінеце судовага архіва, а пасля вы напісалі артыкул, цытуючы напамяць дзясяткі дакументаў з таго кабінета. Гаспадара якога, дарэчы, пасля гэтага звольнілі. Журналісты неперабарлівыя ў сродках, га?

Калыванаў па-змоўніцку падміргнуў мне.

— У мяне было ўсяго дваццаць хвілінаў,— буркнула я.— А справа тычылася вывезеных з мясцовай царквы каштоўнасцяў, якія ў розныя эпохі па чарзе прыўлашчвала начальства. Я не люблю, калі бароняць чыноўных злодзеяў.

Калыванаў раптам шчыра засмяяўся, але ягоны смех падтрымаў толькі Віталь Янчын. Потым магнат пачаў свідраваць позіркам Юрася.

— Гэта вы адладзілі музычны куфэрак жонкі Саксаганава? Быў пару месяцаў у іх у гасцях, хваліліся... Мілая такая штучка. Лялечны тэатрык у мініяцюры. Складана было рамантаваць?

Юрась пасміхнуўся:

— «Складана!» Ды там ніводнай цэлай дэталі не засталося. Фігуркі рухаюцца на некалькіх ярусах, спектакль разыгрываюць, а дэталі медныя, усе рассыпаліся. Паўгода важдаўся.

— Добрая праца! — сур'ёзна пахваліў Калыванаў.— Саксаганскі за куфэрак дваццаць кавалкаў аддаў, і ніхто адладжваць не браўся. Нават у Швейцарыі. Я заўсёды казаў, што славянскія самародкі ўсіх замежных свяцілаў у лапці абуюць. Колькі талентаў хоць бы за гэтым сталом! — Калыванаў агледзеў прысутных.— Вось гэты паважаны чалавек, Зміцер Патапавіч — прафесар фізікі. А таксама знаўца

любой найтонкай электронікі. Без дапамогі Зміцера Патапавіча гэты дом даўно б заняпаў....

Сівы старэча ў акулярах з круглымі і тоўстымі, нібы два ледзякі, лінзамі ветліва кіўнуў мне з другога канца стала.

— А той прыемны малады чалавек у белым пінжаку — спецыяліст, так бы мовіць, па мазгах,— працягваў гаспадар прадстаўляць гасцей. «Спецыяліст па мазгах», сапраўды вельмі прыемны бялявы хлопец, які сядзеў насупраць, прыветна памахаў рукой.

— Завіце мяне Макс.

— Ужо прабачце, пераняў я на Захадзе звычку ўвесь час карыстацца паслугамі псіхолага,— ветліва патлумачыў Калыванаў.— Справа Макса — папярэджваць канфлікты, выслухоўваць скаргі, сачыць за здароўем насельнікаў гэтага дому... Ну, Віталя Янчына ўсе ведаюць,— магнат павярнуўся да нашага былога выкладчыка, які сядзеў злева ад яго.— Арганізатар геніяльны...

Янчын трохі няшчыра ўсміхнуўся — вядома, я таксама б пакрыўдзілася: ані слова пра творчыя здольнасці.

— А таленты гэтых маладых людзей я нікому не раіў бы выпрабоўваць на справе.— Калыванаў паказаў на ахоўнікаў, што выстраіліся ля сцяны ганаровай вартай, нібыта хваліўся чарговай калекцыяй.

Магнат пачакаў, пакуль афіцыянт (ці як ён там у панскіх дамах называецца, можа, як пры каралеўскім двары, падчашы?) разалье па келіхах напоі, і падняў свой келіх уверх.

— За вашыя поспехі! Заўтра раніцой — зноў да гадзіннікаў, сябры. Прымусьце іх загаварыць. У вас для гэтага ёсць усё — талент, час, грошы... Прафесар распавёў мне, што ўзніклі складанасці з рамонтам, нейкія там старажытныя сакрэты, але я веру, што вы справіцеся. На саракавінах па маім сябры гадзіннікі мусяць працаваць дакладна так, як у пятнаццатым стагоддзі! Дакладна так!

Здаецца, нічога дзіўнага не было сказана. Толькі я заўважыла, як прафесар скрывіў вусны — з’едліва так, нядобра скрывіў. І мне стала зноў трывожна. Я зірнула на Юрася і сустрэла ягоны спакойны пагляд. Чаму я ўсхадзілася? Даюць добрую працу — рабі. Што я, пра тыя гадзіннікі не напішу, пра вежу? А пра Аркадзя, беднага, дык проста грэх не напісаць. Але пастукванні посуду аб металёвы стол не спрыялі майму спакою, а хутчэй нагадвалі непрыемнае — напрыклад, як зубны ўрач перабірае ў маленькай бліскучай місачцы інструменты.

Мне чамусьці падумалася, што свае дзве тысячы мне давядзецца адпрацаваць напоўніцу.

Войска Вялікага князя ўязджала ў горад няспешна, без асаблівай урачыстасці. Мо з сотню чалавек моўчкі назіралі за шыхтам, стоячы ля дамоў, вокны якіх былі забітыя накрыж. Яркія ўборы прыхадняў нібыта ганьбілі жалобную цёмную вопратку гараджанаў. На цнатліва белай паверхні першага снегу заставаліся чорныя сляды, і здавалася, што чужынцы нясуць за сабой гэтую чарнату, вядуць яе ў апусцелы горад, чые вуліцы былі яшчэ нечапана белымі. Чуваць было толькі, як стукаюць па бруку падковы коней ды пабразгвае вупраж. Ды яшчэ — вар'яцкае «Хе-хе-хе» княскага блазна Карэйвы, хударлявага, пачварна сагнутага ў крук — блазан і на кані сядзеў не па-людску, а амаль лежачы, у адмысловым сядле, падобным да залачоных ночваў. Усё княства ведала, што Карэйва пасмейваецца ўвесьчасна, нібы жаба квакае. Сагнула Карэйву пасля таго, як пабыў у лёхах замка аднаго з магнатаў, ды не як госць. За што небараку гэтак каталі, ніхто не ведае. Розум востры, наколькі можа быць вострым ва ўбогага вар'ята, і блазан умеў пацешыць сваіх гаспадароў. Але, можа, менавіта гэтае пахехекванне ўрэшце надакучыла Вялікаму князю, які падарыў былога ўлюбёнца пану Лаўрыну Рожы — новаму войту Старавежску. Вось і ён, Рожа, у срэбным жупане, у гарнастаях і дыяментах. Аблічча шырокае, спрэс у шнарах. Прабіўся да высокай пасады нялёгка, не з багацеяў. Ад простага воя шлях прайшоў. Княскі хорт, гатовы перагрызці горла за гаспадара нават святому. Побач — ягоны верны хорт, соцкі Баркун, падобны да мядзведзя. Гэты не меў літасці, напэўна, нават да ўласнае калыскі.

Чужынцы ехалі праз горад. Некаторыя старавежцы шапталі скрозь сціснутыя зубы праклёны... Ляцяць каршукі на падлу... Іншыя — іх было больш — пазіралі з надзеяй. Хіба горай будзе? А раптам — да лепшага новая ўлада? Самім усё роўна не акрыяць.

Перад уездам на пляц з ратушай, там, дзе пачыналася варта, выстаўленая Гервасіем Бернацоні, гасцей чакалі. Ацалелыя ад пошасці і скокаў смерці радавітыя гараджане жадалі перамоваў. Лаўрын абвёў вачыма тых, хто перагарадзіў яму шлях: тузіны тры... Няшмат вас, панове. Погляд звыкла вылучыў тых, хто заслугоўваў увагі. Малады шляхціц з чорным віхорам, які выбіўся з-пад шапкі з дыяментавым «гузам», глядзіць дзёрзка, непакорліва; таўсматы пан з

доўгімі сівымі вусамі і прыжмуранымі, нібы ад нянавісці, вачыма. І руку ўпёр у бок, а другая на дзяржальне шаблі...

— Вітаем у нашым горадзе пасланцаў Вялікага князя!

Бач, гаспадары аб’явіліся! Лаўрын грозна нахмурыўся.

— Я ваш новы войт. Увечары я вас выслухаю. А зараз — сыдзіце з дарогі.

Вочы маладога шляхціца гарэлі сінім халодным полымем, нібыта зоры ў мароз.

— Наш горад яшчэ жывы! І ягонае магдэбургскае права не адмененае! Ёсць сем чалавек з гарадской рады. Вось — бурмістр, пан Варава Ляскевіч.

Сівавусы ганарыста кіўнуў галавой.

— Ляскевічы заўсёды абіраліся ў раду. Яе ж абірала капа, веча... А рада абірала войта. І не іначай.

Шляхта за спінай сівавусага ўхвальна загула.

Лаўрын пасміхнуўся ў вусы. Бач, вадзіцца ўздумалі... Але заядацца не выпадала. Рожа быў стары ваяка, пры княскім двары за трыццаць гадоў нагледзеўся ўсялякага... Уменне весці перамовы не менш важна, чым жалезная пальчатка на руцэ, якой трымаеш цяжкі меч. Рожа няспешна злез з каня — хай бачаць, што ён не вораг. Але прыніжацца таксама нельга — стопчуць адразу.

— Хіба ў Старавежску гэтак прынята вітаць гасцей? — цяпер голас новага войта гучаў мякка, як поступ коткі, што падбіраецца да птаха.— Вялікі князь хоча дапамагчы вашаму гораду ў бядзе. У яго няма інакшых мэтаў.

Хрыплы смех блазна Карэйвы парушыў урачыстасць словаў.

— Хе-хе-хе! Схіліце хвост ды пад мост, ягамосці! Важныя ў вас госці! Паздароў, Божа, паноў, што няма ні коней, ні кароў, адныя мігдалы нябёсныя, дый тыя зямлёй пахнуць. А мы вам пернікаў прывезлі. Смачныя, княскія! Хе-хе-хе!

Новы войт злосна зірнуў на блазна — што з дурня возьмеш.

— Мне загадана ягонай мосцю ўсяляк ратаваць і адбудоўваць горад, спрыяць, каб ён зноў насяляўся і гандляваў, і прымнажаў славу княства.

— І пастаўляў князю вояў для патрэбных толькі яму звадак! — выкрыкнуў сінявокі рыцар.— І аддаваў на княскі суд, хто князю не ўгодзіць! У халопы месцічаў запішаце.

— Магдэбургскае права ў нас ніхто не забярэ! — крыкнуў стары шляхціц.

— А навошта князь свайго біскупа прысылаў? — азваўся яшчэ адзін.— Мы не папісты! Гэта толькі князь можа веры мяняць, як вужака — скуру. Ганьба!

Рожа нават брывом не зварухнуў на дзёрзкасць. Яшчэ не час. Між тым дзесьці ў канцы вуліцы пачуліся радасныя выкрыкі. Лаўрын задаволена пасміхнуўся, нават не азіраючыся, ведаў: гараджане ўбачылі абоз, які ехаў за войскам — калёсы, гружаныя мяхамі з зернем, бочкамі з медавухай... Цяпер горад аддаңы князю. І фанабэрыстыя шляхцюкі, якіх абышла сваёй увагай нават смерць, застануцца пры сваіх крыўдах і без усялякае моцы. Такія ёсьцека ў кожным горадзе, які належыць князю. Гэта нават добра — вось яны, гарладзёры, крычаць, пустасловяць, а велікадушны ўладар ім дарує ад магутнасці і справядлівасці сваёй. І просты нямудры чалавек ведае: бяда, калі гэтыя задзіракі да ўлады дабяруцца. І яшчэ больш любіць магутнага справядлівага князя. І заўсёды ёсць каго звінаваціць у нястачах і бедах дзяржавы. Услых Лаўрын прамовіў, аднак, іншае.

— Мы — адзін народ, пане-браце. Слова гонару — я буду бараніць вольнасць Старавежску гэтак жа, як вы, панове.

— Хе-хе-хе! — зноў зайшоўся хрыплым смехам кручок-Карэйва, і рэхам прагучэла карканне варон, што кружылі над пляцам, быццам чорныя багі смерці пяшчотных сняжынак, якія апускаліся на горад.

Не, сапраўды, ад гэтага дурня варта пазбавіцца...

— Кожнае каліўца волі дарагое ліцвінскаму сэрцу,— сурова прамовіў сівавусы.— Таму без супрацыву не вытапчацца ніводнае. Чаму дасланы князем лекар Бернацоні не пускае нас да ратушы?

— Італіец — вядзьмак! — выкрыкнуў нехта са старавежцаў.— Гэта з-за яго пачаўся шал! Ён д’ябальскія скрынкі сюды прывёз!

Пан Ляскевіч падняў руку і спыніў крыкі, што ўсчаліся пры адной згадцы пра лекара.

— Мы не можам звінаваціць пана лекара ў нашых пакутах, бо доказаў не маем. Мы ведаем толькі, што апошнім часам пан Бернацоні выратаваў шмат хворых, што міласэрна адведваў дамы, пазначаныя смерцю, куды шмат хто не насмеліўся б занесці і кроплі вады ці кавалка хлеба нават дзеля выратавання ўласнае душы. Але выявілася, што лекар гвалтам трымае ў вежы дзяўчыну... Магчыма, гэта мая дачка Анэта.

Голас Ляскевіча здрыгануўся. Рожа недаверліва хмыкнуў:

— Адкуль такія звесткі?

— Пан Багуслаў Радчыц бачыў дзяўчыну ў акне ратушы.

Сінявокі шляхціц ступіў наперад:

— Гэта была яна, Анэта! Мая нявеста! Я пазнаў бы яе нават тады, калі б яна ператварылася ў аблачыну ці ў птушку!

Рожа прымірэнча падняў далоні.

— Добра, добра, не гарачыцеся, пане-браце! Тут з'ясаваць патрэбна. Што за дзяўчына, ці сваёй воляй там, ці ёсць яна ўвогуле... Вядома, гвалт над паненкай — ганьба. Князь такога не даруе. Калі лекар у падобным вінаваты — адкажа горлам. Будзеце мець ягоную галаву на палі. А пакуль прашу ягамосьцяў саступіць дарогу.

— Мы пойдзем з вамі ў ратушу! — гэта крыкнуў Багуслаў. Рожа, не спяшаючыся, сеў на каня і толькі тады адказаў, амаль ласкава, як несвядомым дзецям тлумачаць, чаму нельга хадзіць далёка ў лес.

— На жаль, пакуль не прыбудуць у Старавежск мошчы Святога пакутніка Віта, пакуль на пляцы наш шаноўны біскуп не зладзіць чын выгнання шатана, пакуль не пройдзе хросны ход вакол ратушы ды ўсяго горада,— вялікі князь загадаў нікога са старавежцаў на пляц не пускаць. Каб не ўзбудзілася зноў шаленства. Так, панове, падумайце самі, што, калі вы зноў паляціце карагодам? Вы ж маглі падхапіць тое насланнё! Наблізіцеся да вежы, тут вас мара і апануе.

— Хе-хе-хе! І будуць панове скакаць, скакаць, танчыць, як лялечкі на вяровачках...— пранізлівым голасам пракрычаў Карэйва. Старавежскія шляхцюкі, амаль усе, апусцілі вочы, згодна заківалі, і застарэлы страх лёг ценем на іхнія твары. Як лёгка кіраваць тымі, хто аднойчы смяротна спалохаўся. Малады Радчыц і сівавусы Ляскевіч яшчэ нешта крычалі, абураліся, але соцкі Баркун падаў знак, і старавежцаў ветліва, але рашуча адсунулі ўбок. Частка княскіх вояў засталася, каб узмацніць ахову, а новы войт са світай рушыў да вежы, над якой усё яшчэ лунаў сцяг незалежнага горада — са срэбным коннікам на барвова-белым полі.

— Хе-хе-хе! — вар'яцкі смех блазна слаўся над пляцам разам са смярдзючым дымам ад вогнішчаў. Чорныя сляды разразалі напалам бялюткае покрыва першага снегу.

— Анэ-эта! — адчайна крычаў малады шляхцюк, ірвучыся праз ахову да ратушы.— Анэ-эта!

— Анэ-эта!

У дзверы настойліва стукалі. Я падхапілася з ложка. Сэрца шалёна білася. Спатрэбілася некалькі хвілінаў, каб прыпомніць, што я

знаходжуся ў маёнтку Пятра Калыванава, а за дзвярыма гучыць голас Юрася.

— Анэта, уставай! Праз пяць хвілінаў сняданак!

Мог бы і раней мяне пабудзіць... Добра, што я даўно ўжо не марную час на касметыку. Запляла касу, улезла ў джынсы і швэдар... І, замест таго, каб ірвануцца да свецкага жыцця, павольна падышла да акна... Унізе чарнелі дрэвы старога парку. Ноччу першы снег прыцярушыў зямлю, і голле скрыжоўвалася на белым фоне, як саржавелая зброя. Але ў гэтым адчувалася не злосць, а нейкая безнадзейнасць, нібыта самі драўляныя воі ведалі, што іх бітва даўно не мае сэнсу, і пераможцаў не будзе. Ды аднойчы дадзенае слова гонару змушала іх зноў і зноў сыходзіцца ў змаганні.

Калісьці гэта быў вельмі прыгожы парк. Сцяжынкі між роўна падстрыжаных кустоў утваралі ромбы і віньеткі, і лёгка было ўявіць, як па іх рухаюцца-плывуць пані і паненкі ў доўгіх сукнях, падобных да перавернутых чарак з каляровага шкла. Дзіва, што новым гаспадарам хапіла густу не вынішчаць старыя прысады. Дарэчы, наўрад ці ўзрадаваліся б былыя гаспадары, інсургенты і патрыёты, што ў іхніх сценах атабарыўся расеец, ды яшчэ, здаецца, замяшаны ў брудныя палітычныя справы... Калыванаў якраз і з’ехаў займацца палітыкай, губернатарам нацэліўся стаць.

Гадзіннікі стаялі ў памяшканні цокальнага паверха, аніяк не падобным да музейнае залы. Хутчэй да велізарнай лабараторыі. Прынамсі, незразумелай мне апаратуры тут мелася багата. У другім канцы пакоя, дзе цямнелі вялікія, нібыта гаражныя, дзверы, зблiснуў лакавы бок старога аўтамабіля... Ах так, Віталь казаў пра майстэрню па рамонце антыкварнай тэхнікі... Аркадзевы гадзіннікі я пазнала адразу — яны стаялі ля сцяны і нагадвалі цяпер не рыцараў, а палонных. Прафесар Зміцер Патапавіч ледзь не носам тыцкаўся ў кожны з іх, аглядаючы. Астатніх гадзіннікаў было дзясяткі тры... Адны падобныя да маленькіх храмаў, другія — простыя і змрочныя, як труны, трэція — нібыта дзіцячыя забаўкі. Юрась так і кінуўся да іх, нібыта да аднойдзеных сардэчных сяброў. Я заўсёды зайздросціла тым, хто займаецца сваёй улюбёнай справай, хаця і сама калісьці была сярод такіх шчаслівуцаў. Цяпер — толькі назіраць... Вось Юрась пяшчотна дакранаецца да старога дрэва... Вось ён нешта заўважыў на бакавой сценцы, і пагляд зрабіўся, як лязо. Прыгаворвае скрозь зубы... Упэўнена адчыняе дзверцы механізма, асцярожна кратае нешта ўнутры... Прысутныя, уся «доследная каманда» на чале з

Янчыным, моўчкі назіралі за ягонымі рухамі, нібыта родзічы хворага чакалі прысуду цуда-лекара. Нават прафесійна-іранічны «псіх» Макс пасур'ёзнеў. Нарэшце Юрась павярнуўся да нас. Твар ягоны ззяў, як ва ўдалага рыбара.

— Можам павіншавацца! Гадзіннікі з вежы — усе тут! Вось гэты, з караблём... Гэты, з крыжам і ружамі... І той, чорны, з рыцарам... Калыванаў усе ў Польшчы за адным разам купіў, так? Я каталог аўкцыёну бачыў. Не паспеў Аркадзь паўдзельнічаць... Наконт гадзінніка з месяцам я не ўпэўнены, надта ж пашкоджаны, але хутчэй за ўсё — і ён належаў таемнаму Бернацоні...

Ахоўнікі, знаёмыя нам ужо Ігар і Анатоль, кінуліся паводле Юрасёвых указанняў перастаўляць патрэбныя экспанаты. Лішнія гадзіннікі беражліва і паспешна, як паважаных, але надакучлівых гасцей, адпраўлялі за дзверы. Урэшце ў пакоі іх засталося дванаццаць... Віталь Янчын абняў былога вучня.

— Дружа, ты геній! Каб ты ведаў, які кавалак працы зараз адолеў!

Юрась асцярожна вызваліўся з абдоймаў.

— Гэта мог зрабіць для вас любы антыквар.

— А нам любога не трэба! — Янчын захіхікаў, але абарваў смех і амаль строга дадаў.

— Цяпер прафесар патлумачыць вам тое-сёе. Дасць, так бы мовіць, агульны накірунак.

Зміцер Патапавіч наставіў на нас свае акуляры-лінзы, нібыта сумняваўся, што мы можам нешта зразумець з ягоных слоў, і загаварыў гэткім жа занудным, як усё ягонае аблічча, голасам.

— Высновы мае носяць пакуль гіпатэтычны характар. Дык вось... Перад намі доказ таго, што стэрэатыпы наконт прагрэсу — усяго толькі ілюзія. Нашыя продкі валодалі такімі сакрэтамі тэхнікі, якія нам толькі сняцца. Нічога новага, панове, мы не вынаходзім. Толькі ўспамінаем тое, што было добра вядома прашчурам. Гэтыя гадзіннікі маюць сакрэт, які пакуль я раслумачыць не магу.

Прафесар паставіў на маленькі столік насупраць гадзінніка «Чорны Ганс» звычайную шклянку, перамераў рулеткай адлегласць, пасунуў шклянку на пару міліметраў, яшчэ... Нешта пакруціў унутры гадзінніка. Металічны званар падняў свой молат і ўдарыў у звон... Гук быў нечакана пранізлівы, непрыемны, аж зубы занылі... Званар ударыў яшчэ раз, яшчэ... Раптам шклянка на стале пачала тонка вібрыраваць.

— Вось так,— прафесар пераможна абвёў усіх паглядам, нібыта давёў складаную тэарэму.

— Ну і што? — сярдзіта прагаварыў Янчын.

Прафесар здзекліва зірнуў на Віталя скрозь свае лінзы.

— Для вас, можа, і нічога дзіўнага, а вось для навукоўца — надзвычай. Вось што пра гэтыя гадзіннікі гаворыцца ў адным старажытным дакуменце...— Прафесар дастаў з кішэні зашмальцаваны, складзены ўчацвёра аркушык, падобны да ліста ад колішняй каханай, які носяць пры сабе і перачытваюць, настальгуючы. Зміцер Патапавіч разгарнуў ліст і зачытаў: «І які б сасуд, шкляны, або парцалянавы, ні паставіць у іх кола, ён будзе разбіты іх голасам».

— Ну, гэта казкі...— пракаментаваў Юрась.

— Прафесар, аднак, не зазлаваў, толькі ўсмешка зрабілася пагардлівай.

— Запэўніваю вас, што гэта абсалютна магчыма. Я бачу ў гэтых механізмах мноства прыстасаванняў для рэгуляцыі вышыні гука, утварэння рознага віду вібрацыяў. Гэта ўсё роўна як аркестр з невядомых нам інструментаў. Вялікія спевакі маглі голасам шклянку разбіць... Шаляпін, Каруза... Вось такая наша задача — каб гадзіннікі і сёння маглі разбіваць шкло.

Янчын шумна ўзрадваўся.

— І праўда, якая рэклама! Турысты валам папруць, каб паглядзець на такі фокус!

— А дапаможа нам спадар Юрась, які адладзіць старажытныя механізмы, і шаноўная Ганна,— бялявы псіхіятр адвесіў мне галантны паклон.— За гэтыя дні мне ўдалося здабыць тое-сёе па гісторыі Старавежска і асобе Бернацоні. Ды яшчэ Лілія Пятроўна перадала дакументы і кнігі, якія збіраў яе муж. Мы папросім вас, Ганна, як мага хутчэй прагледзець паперы і вылучыць усё, што тычыцца незвычайных падзей у Старавежску і вакол гадзіннікаў. І — пачынайце пісаць свой тэкст. Ігар праводзіць вас у кабінет.

Чарнявы ахоўнік ветліва паказаў на дзверы ў другім канцы майстэрні. На парозе я азірнулася. Юрась стаяў на каленях перад гадзіннікам з драўляным грыфонам, разглядаючы яго нутро... Я ўспомніла, як былы муж не так даўно стаяў на каленях перада мной...

Пакой, які мусіў часова стацца маім кабінетам, быў шыкоўны. Камп’ютар з выхадам у сусветнае сеціва, паліцы, застаўленыя энцыклапедыямі і даведачнай літаратурай на любы густ, на стале —

таксама папяровая гара. Што значыць — вялікія грошы! Пры адным паглядзе на стос ксеракопіяў і рукапісаў у мяне затахкала сэрца, нібыта я дагнала сарваны ветрам капялюш. Людвісараўскі летапіс у польскім перакладзе! Арыгінал ужо два стагоддзі лічыўся зніклым, і нават ягоны пераклад, зроблены напрыканцы 18 стагоддзя варшаўскім археографам, які жадаў, каб каштоўны гістарычны дакумент належаў выключна польскай гісторыі, быў рэдкасцю. Прынамсі, старавежскія краязнаўцы расказвалі мне пра кнігу, дзе напісана пра іхні горад шмат цудаў, як пра міф.

Пра Старавежск у летапісе сапраўды згадвалася часта. Праўда, складаўся гэты летапіс ужо ў 16 стагоддзі, і тое, што было раней, перадавалася па чутках. Першая згадка тычылася таго, што ў 1423 годзе на горад абрынулася «Божая кара», і палова месцічаў вымерла ад пошасці. Я ўспомніла гравюру, што вісела ў мяне дома. Што ж, у гэты час падобнае адбывалася па ўсёй Еўропе… Старавежск так і не акрыяў пасля бяды. Хаця перад Вялікай Пошасцю супернічаў з самымі магутнымі гарадамі свету і фактычна ўяўляў з сябе дзяржаву ў дзяржаве — быў час, калі кроілася карта кантыненту, больш магутныя ўладары падміналі пад сябе маленькія вольныя княствы, і наадварот, князі, якія адчулі моц, аддзяляліся ад сюзерэнаў, утвараліся ліліпуцкія каралеўствы і новыя імперыі… Шанец даваўся кожнаму.

Старавежск гістарычна, відаць, быў асуджаны стаць часткай вялікай дзяржавы. Але ж месцічы, якія жылі ў багатым вольным горадзе, напэўна, пра гэта не ведалі, і наўрад паверылі б, каб хто пачаў ім тлумачыць. Цікава, што вольнасць і моц Старавежска палягалі не на ганарлівасці ўдзельнага князя, які бярэцца «ў рожкі» з больш магутнымі. Горад уяўляў з сябе нешта падобнае да арыстакратычнай рэспублікі — самая плённая для гандлёвага места ўлада. Але з сярэдзіны 15 стагоддзя пачаў пераходзіць з рук у рукі ўлюбёнцаў Вялікага князя. Ну а ў Рэчы Паспалітай, а пасля — Расейскай імперыі гісторыкі амаль перастаюць згадваць пра заняпалае мястэчка і ягоную былую славу.

Знайшлася і легенда пра ратушу.

Прыйшла ў горад Смерць. А каб ніхто яе не пазнаў, прыняла аблічча прыгожай дзяўчыны з валасамі, як золата. І ўсе, хто бачыў яе, беглі за ёй «няістава» і паміралі, і вялікі «лупеж», здабычу залатавалосая смерць сабрала ў Старавежску. І толькі апоўначы заходзіла яна адпачыць у вежу. Роўна на адну хвіліну, пакуль б'е звон

на царкоўнай званіцы. Тады паставілі ў вежу дванаццаць «дзыгароў», гадзіннікаў, якія маглі гучаць, як царкоўны звон. І, як толькі смерць у чарговы раз зайшла на адпачынак, «з апостальскім блаславеннем» пачалі яны званіць адзін за другім, і са смерцю «шаленства вялікае ўчынілася», і не ведала яна, калі праміне апоўнач, і не магла выйсці, пакуль гадзіннікі б’юць. Уваход у вежу з малітваю і асвячэннем замуравалі.

Легенду гэтую чула я і раней, хаця з меншымі падрабязнасцямі. Нейкім пракаветным жахам веяла ад яе... Былі тут некаторыя дэталі, што не стасаваліся з адцягненым палётам народнай фантазіі. Залатыя валасы смерці, «дзыгары», якія існавалі, як высветлілася, цалкам рэальна... Не варта забывацца, што ратуша — гэта сімвал волі, магдэбургскага права... Менскую ратушу знеслі па асабістым загадзе расейскага цара Мікалая I менавіта для таго, каб не нагадвала гараджанам пра былыя вольнасці і незалежнасць...

Рэальна існаваў і Баркуноў славуты продак, соцкі Баркун. Ён прыехаў у Старавежск разам з войтам са смешным прозвішчам Рожа, якога прызначыў кіраваць горадам Вялікі князь. Было гэта адразу пасля Вялікай Пошасці. Я хуценька пачала накідваць для артыкула Аркадзеў радавод, не шкадуючы рамантычных адценняў. Дадавала і звесткі з Аркадзевай біяграфіі, клапатліва раздрукаванай у некалькіх асобніках — мецэнат і фінансавы геній. Што ж, святая справа — сказаць добрае слова пра нябожчыка. Трэба ж такому здарыцца: толькі сустрэліся праз адзінаццаць гадоў — і некралог пішу. Бедны Аркадзь. Юрася падтрымліваў, мне дапамогу абяцаў. Дый так, лічы, дапамог, хоць вось у такіх трагічных абставінах — столькі грошай зараблю, жыву на ўсім гатовым у нечувана шыкоўных умовах... Я ўспомніла, колькі разоў Аркадзь, калі быў старастам нашага курса, дапамагаў мне хаваць «сачкаванне» з лекцыяў, як частаваў мяне на кожным перапынку булачкамі — пакуль я не звязалася з Юрасём... І ў маім тэксце з’явіўся яшчэ адзін вытанчаны эпітэт пра высакароднага мецэната.

А вось наступная папка змусіла мяне ўздрыгнуць. Гэта быў перакладзены на сучасную нямецкую мову стос пратаколаў Пражскай інквізіцыі 1437 года. Судовая справа Гервасі Луіджы Бернацоні, абвінавачанага шматлікімі сведкамі ў вядзьмарстве. Уладальнік гадзіннікаў!

Я ніколі раней падобных дакументаў не чытала. Нават у гістарычных раманах кшталту «Тыля Уленшпігеля» «садысцкія» старонкі

прагортвала. Што ж, праца ёсць праца... Але ўжо праз дваццаць хвілінаў я ледзь не самлела. Паказанні сведкаў нагадалі блёкат. Хаця падсудны нікога не назваў сваім смяротным ворагам — гэта быў адзіны спосаб адвесці чыесьці паказанні,— але жывёльная нянавісць, магчыма, спароджаная страхам, лучылася з кожнага слова. Не дзіва — сведкі, відаць, шчыра верылі, што няшчасны лекар можа адным паглядам аддаваць чалавека ва ўладу нячыстага. Нават на суд яго прывялі з чорнай павязкай на вачах.

«Мы, суддзі і радцы, уважаючы вынікі працэсу, які вядзецца супраць цябе, Гервасі Бернацоні, лекарскага звання, фларэнціец, які жыве ў Празе, прыйшлі да высновы, што маецца дастаткова доказаў таго, што ты займаўся валхваваннем і чараўніцтвам, і супраціўнымі Богу чарамі, з дапамогай вядзьмарскіх машынаў змушаў людзей слугаваць сабе і Д'яблу і быў верным наступцам ерэсіярха Яна Гуса, праклятага Святой Царквою. Мы маем таксама сведчанні, што пятнаццаць год таму ты, Гервасі Бернацоні, быў абвінавачаны ў валхваванні і вядзьмарстве святой інквізіцыяй горада Фларэнцыі, але ўцёк ад расследвання і справядлівага суда. Таму ўладай, дадзенай нам Госпадам, пастанаўляем, каб аддаць цябе допыту пад катаваннем. Мы абвяшчаем і пастанаўляем, што ты мусіш быць катаваны сёння ж, у тры гадзіны папоўдні».

Пратаколы фіксавалі ўсё з вар'яцкай падрабязнасцю. Гэтак жа, як будзе рабіцца на нашай зямлі праз пяцьсот гадоў. Перад допытам падсуднаму тры дні давалі толькі святую ваду з кропляй воску ад грамнічнай свечкі. Потым распранулі і агледзелі яго цела ў пошуку знакаў д'ябла, якія надзялялі ведзьмакоў моцай вытрываць катаванні. Мніхам падаліся падазронымі некалькі плямак на плячах, і іх адразу праверылі распаленым жалезам. Лекар адчуў боль, і падазрэнні наконт плямак былі прызнаныя беспадстаўнымі. Потым падсуднага пагалілі — лічылася, што праз валасы д'ябал таксама падтрымлівае сувязь з ахвярамі. Каб пазбавіцца валасоў да самых каранёў, галаву аблілі спіртам і падпалілі. Потым паклалі пад пахі і на спіну падсуднага кавалачкі серы і таксама падпалілі. Потым кат звязаў яму рукі за спінай вяроўкай і падвесіў яго за тую вяроўку да столі... Гэта у славянаў называлася «дыба». А паколькі на ўсе ўгаворы лекар «няістава ўпарціўся», каты прывязалі да яго ног чыгунныя грузы і пакінулі вісець на выкручаных руках да вечара... Але, мабыць, досыць... Пытанні кшталту «Ці прызнаеш ты, Гервасі Бернацоні, што ў трэцюю ноч пасля Вялікадня праляцеў у вялікім чорным гаршку над

домам шаноўнага купца пана Гамулкі, і ад таго ў пані Гамулкавай пачаліся заўчасныя роды, і нарадзіла яна чарнявае д’ябалятка, падобнае да цябе» перамяжаліся цытатамі з Бібліі («чыя душа схіляецца да магаў і валхвоў, і з імі блудзіць, супраць таго хачу я ўзняць меч свой і нізрынуць са статку народа свайго»). А таксама дэталямі пра вывернутыя суставы, струменьчыкі крыві з-пад пазногцяў раструшчаных пальцаў і стогны катаванага. Ад якога, аднак, не дабіліся ні слова прызнання віны. Як несумненная праява д’ябальскага ўплыву было адзначана, што катаваны не крычаў і не плакаў, толькі «стагнаў, падобна зверу».

Гэты Бернацоні быў, відаць, магутнай асобай. Пра Яна Гуса, свайго колішняга патрона, ды Гераніма Пражскага, спаленага вучня Гуса, паўтараў: — «Яны былі Божыя людзі». Уяўляю, як лютавалі каты. Звычайныя, перапалоханыя людцы, якія шчыра верылі, гэтак жа, як іх паслядоўнікі наступных стагоддзяў, што робяць святую справу і адзінаборнічаюць не са спакутаваным зняможаным вязнем, а з магутным таемным ворагам. У камеру да Бернацоні манахі заходзілі абавязкова па некалькі чалавек, прычым спінай уперад, мелі пры сабе соль, асвечаную ў Вербную нядзелю, і штохвілі хрысціліся і чыталі малітвы.

Бернацоні спалілі толькі праз год ад пачатку працэсу. Ён так і не раскаяўся.

Я прагартала свае выпіскі. Самае цікавае для мяне тычылася паказанняў сакратара Бернацоні, нейкага Энрыке, які, «паглядзеўшы на прылады для ўразумлення», цалкам прызнаў і сваю віну, і свайго гаспадара, і нагаварыў столькі, што вогнішча мусіла распаліцца ад аднаго Божага гневу. Асабліва пра «д’ябальскія машыны, якія пан паблюзнерску прыпадобніў апосталам», і якія «званілі голасам д’ябальскім», і пан вазіў іх за сабою паўсюль, а потым згубіў па волі Божай у далёкім барбарскім горадзе.

Напэўна, гэта і былі старавежскія гадзіннікі. Энрыке сцвярджаў, што гаспадар-вядзьмак нікога да тых машынаў не дапускаў, наладжваў іх сам. Ставіў у кола, «апосталамі называючы», і такім чынам утвараў «уваход у чысцец», і адтуль вылятала нячыстая сіла, якая крышыла ўсё навокал. У тыя моманты пан загадваў усім, хто быў у доме, закладваць у вушы васковыя шарыкі. Але ўсё роўна «туга на душы» змушала ліць слёзы раскайвання. Бернацоні некалькі разоў загадваў свайму сакратару садзіцца між гадзіннікаў, але той кожны раз губляў прытомнасць ад іх «д’ябальскага звону».

Сакратара прыгаварылі толькі да пажыццёвага заключэння. Па святах ён мусіў «хадзіць у тыя дамы, дзе грашыў, і бічаваць сябе», а таксама бічаваць сябе перад уваходам у кожны храм, і насіць на адзежы нашытыя «шафранавыя крыжы» на знак свайго ведзьмакоўскага мінулага.

Я не надта верыла ў злавесную сілу лекаравай механічнай калекцыі. Яшчэ нядаўна на вуліцах Еўропы мінакоў ахоплівала масавая істэрыя ад відовішча страшнай прылады — парасону, або жанчыны ў нагавіцах. Ну а паравоз або аўтамабіль увогуле маглі напалохаць да смерці. Лекар проста апярэджваў свой час. Вядома, фокус з сасудамі, якія самі па сабе разлятаюцца на кавалкі, мог напалохаць каго заўгодна. Хаця ці так ужо гэта неверагодна? Мая сяброўка, самавітая сямейная кабета (у адрозненне ад мяне), жонка ваеннага і маці дваіх сыночкаў-мацакоў, расказвала, як яе малодшанькі любіў у дзяцінстве барабаніць. Стукаў аднойчы палачкай па стале, на якім красавалася ваза, купленая гаспадарамі падчас службы ў Чэхіі, стукаў, стукаў... А ваза раптам і разляцелася на драбнюткія кавалачкі — як рассыпалася! «Рэзананс...»,— тлумачыла сяброўка, падрослы сынок якой барабаніць ужо ў самадзейным рок-гурце.

Я адсунула паперы і зняможана апусціла галаву на стол. Чаму людзі такія лютыя адно да аднаго... Як мне цяпер пазбавіцца ад жахлівых карцінаў, што раздзіраюць уяўленне? Відовішчы сярэднявечнай інквізіцыі змяняліся сюжэтамі з сутарэнняў НКВД. Ян Гус, Геранім Пражскі... Беларускія паэты і пісьменнікі Алесь Дудар, Валерый Маракоў, Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка... Пяцьсот гадоў — і ўсё тое ж: ахвяра курчыцца ў невыноснай пакуце, каты нязмушана абедаюць у суседнім пакоі... Нават катаванні не змяніліся. Божа, будзь літасцівы да майго розуму... Мне здавалася, падыму галаву — а нада мной, як на малюнку Гойі, грувасцяцца пачвары мінулага...

— Ну што, Ганначка, начыталіся?

Псіхолаг Макс стаяў проста за маёй спінай і белазуба ўсміхаўся. Вось ёлуп, павінен жа разумець згодна сваёй прафесіі, што нельга гэтак да людзей падкрадацца, бы кадук апоўдні... Макс, аднак, згасіў мой гнеў тым, што паставіў перада мной кубак кавы і спакусны бутэрброд. Я раптам адчула, што страшэнна галодная — гадзінаў пяць, мусіць, прамінула!

— Сілкуйцеся... Я ведаю, дакументы не з простых. Дазвольце, прысяду?

Шэрыя вочы псіхолага глядзелі вельмі сур'ёзна і даверліва.

— Цікава, якія сны вам сняцца? Напэўна, часта бачыцца мора?

— Чаму вы так вырашылі? — здзівілася я, адпіваючы каву, зусім някепска звараную.

— Мора — сімвал ініцыяцыі асобы, жаданне прыняць сябе такім, якім ёсць, даведацца пра сябе ўсё, і боязь гэтага. Мне здаецца, у вас яшчэ шмат ад падлетка, Ганна. Пошукі месца ў жыцці...

Напэўна, гэта былі крыўдныя словы, але Макс прамаўляў так шчыра, мякка... Я толькі буркнула:

— Апошнім часам не запамінаю сваіх сноў. Помню толькі, што сніцца вежа. Але калі вы зараз пачнеце мне тлумачыць, што, паводле Фрэйда вежа — фалічны сімвал, то...

Макс бесклапотна засмяяўся. Цікава, ён маладзей за мяне ці равеснік? Прынамсі, Юрась выглядаў старэй за яго гадоў на пяць.

Я патроху супакойвалася. Матава-ружовыя сцены, са століструменіць роўнае зыркае святло, ціхенька гудзе камп'ютар, на інтэрнэтаўскім сайце б'ецца смешнае маленькае сэрцайка нейкай рэкламы... «Цісні сюды!» Ад сярэднявечча — далей не прыдумаеш. Нават не верылася, што гэтыя сцены захоўвалі памяць аб трох стагоддзях. Я распавяла Максу аб вычытаным і яшчэ раз адчула ягонае нявыказанае здзіўленне — чаму гэта я пры сваіх уменнях сяджу без працы. Відаць, ён усё-ткі някепскі псіхолаг, калі не выказвае сваё здзіўленне ўслых. Толькі з павагай пракаментаваў.

— Сёння вам павінны прысніцца горы. Сімвал жыццёвага поспеху.

Цікава, напэўна, жыць са спецыялістам па псіхалогіі. У іх сем'ях бываюць сваркі ці не?

Юрась абдымаў гадзіннік з караблём... Выглядала гэта смешнавата, нібыта ён збіраўся з ім танчыць. Насамрэч, вядома, Юрась спрабаваў замацаваць унутры нейкую дэтальку... Відаць, гэта ўдалося, бо калі ён адышоўся, гадзіннік раптам ажыў... Жоўты пляскаты металічны карабель на ім зварухнуўся, загайдаўся, і пачуўся звон... Пранізлівы, журботны... Непрыемны голас у гэтых гадзіннікаў. Не дзіва, што ў іх нядобрая слава. Але на тварах прафесара і Макса было напісанае замілаванне, нібыта яны слухалі салаўіны спеў.

Рэстаўратар стамлёна правёў рукой па твары.

— Ну вось і ўсё… Адкуль можна патэлефанаваць? Мне тэрмінова…

Макс паслужліва прапанаваў свой сотавы, і Юрась ледзь не подбегам рушыў за дзверы. Я зразумела, каму ён будзе званіць… І, гледзячы ў прыгорбленую спіну рэстаўратара, што знікала за дзвярыма, нарэшце прызналася самой сабе, прызналася тужліва, з раскайваннем, чаму так лёгка згадзілася сюды паехаць.

І яшчэ раз згадала пра гэта ўвечары, калі былы муж запрасіў мяне на шпацыр. Вядома, яму спатрэбіўся «доктар Ватсан», каб выказаць свае гіпотэзы.

— Не думаю, што міліцыя разгадае, хто забіў Аркадзя. Бачыш — я нібыта галоўны сведка, а мяне ні разу больш не выклікалі… З'ехаць сюды дазволілі. Ясна, што за забойствам Аркадзя — вялізныя грошы. Я не веру, што гэта — Калыванаў, гэта было б занадта проста. Дорыць калекцыю Лілі, дый Аркадзь перад ім саломай слаўся,— разважаў Юрась. А цяжкі туман, якому не хапала халоднае моцы стаць шэранню, плыў у прыцемку над кустамі, заблытваўся ў голым голлі дрэваў, і нібыта сачыў за намі тысячамі сівых вачэй. Прынамсі, мне ўвесь час хацелася азірнуцца. А можа, тут ёсць прывіды? Цікава, што за людзі хадзілі некалькі сотняў гадоў таму па гэтых дарожках, і ці былі яны шчаслівей за нас?

— Гадзіннікі, вядома, незвычайныя,— працягваў думку мой былы муж, нібыта сам сябе пераконваў.— Але хіба настолькі, каб дзеля іх забіваць? А што ў Калыванава аказаліся ўсе астатнія гадзіннікі з вежы, мяне не здзівіла — яго пасланец тады закупіў усе лоты, выстаўленыя ў Варшаве, ад куфэрка да фамільных партрэтаў. Нават частку сапраўднага вежавага гадзінніка — цыферблат у два чалавечыя росты! Новы маёнтак ля Закапанэ абстаўляе «пад старажытнасць», але з мясцовым каларытам. Чарговы магнацкі закуп. Да таго ж Аркадзь мусіў разумець, што сам усе гадзіннікі выкупіць не здолее. Дарма, што яны без каштоўных аздобаў, але лік — на мільёны ідзе.

— А ці не падазрона, што да гадзіннікаў запрасілі не абы-каго, а прафесара? — заўважыла я, змушаючы сябе не глядзець на Юрасёў твар, падсвечаны нізкімі ліхтарамі. У такой падсветцы выразна бачыліся шнары, паходжанне якіх я цяпер ведала.

— Які там прафесар! — уздыхнуў былы муж.— Я пытаўся ў Янчына… Сапраўды, калісьці дзед быў «свяцілам», але даўно «з'ехаў з розуму» і лекцыяў не чытае. Здаецца, нешта падобнае да вечнага рухавіка вынаходзіў. У тонкасцях розных там працэсараў ці

эквалайзераў разбіраецца, як павук у павуце, жыве тут «з падачы» Янчына ўжо колькі гадоў, у перапынках між «дурдомамі». Зладзіў Калыванаву адмысловую сігналізацыю... Праўда, у механіцы я лепей за прафесара разбіраюся...

Я не схавала іроніі.

— У акадэмікі цэліш?

Юрась не пакрыўдзіўся.

— Я проста адчуваю старажытныя рэчы... Нібыта бачу, як іх рабіў стары майстра. А гэтыя гадзіннікі не аднаго ўладальніка памянялі. Іх спрабавалі рэстаўраваць, пазамянялі дэталі... Карпусы перарабілі. Усё роўна што пазлы рассыпалі. Тут інтуіцыя патрэбная, каб аднавіць, як было.

Мы ішлі па прывідных прысадах у тумане, падзеленым ліхтарамі на светлыя і цёмныя плямы, і размаўлялі, як і калісьці. Гэткая сустрэча даўніх, патрапаных жыццём сяброў, якая ні да чаго не абавязвае, не становіцца ні працягам, ні ўтварэннем новых адносінаў, а проста — прыемная настальгія, усё роўна як пагартаць запылены альбом з фотаздымкамі...

— Яна некалькі разоў была амаль вызваленая! — гэта Юрась расказваў пра Стэлу — пачаў сам, я, вядома, не пыталася. Відаць было, што ён увогуле пра свае праблемы не звык размаўляць. Таму я проста моўчкі слухала, апусціўшы вочы і баючыся спудзіць гэтак патрэбны яму момант шчырасці.

— Я не ведаю, адкуль яна брала тое дзярмо... Наркотыкі... Клялася, што — усё, больш ніколі... І сачыў я за ёй, нават замыкаў... А прыйду пасля працы — у яе ўжо вочы блішчаць гэткім вадзяністым, ненатуральным бляскам, і зрэнкі — з макавінку... А яна такая даверлівая, такая таленавітая... Вось — пакінуў яе адну, цяпер не магу... Хвалююся... Можа, варта было б паспрабаваць яе сюды прывезці? І грошы тэрмінова трэба — дамовіўся з адным лекарам, пакладзе яе на месяц у сваю клініку, нейкі новы апарат вынайшаў для ачышчэння крыві... Як усё далёка... Мае мары, глабальныя клопаты — пра лёс Беларусі, матчыну мову, ратаванне гістарычнай праўды... Госпадзе, а я ж гатовы быў жыццё аддаць за такія смешныя і непатрэбныя большасці рэчы, як мова — нібыта праз маю смерць людзі пачалі б разумець, што яна прыўкрасная і адзіная... Або каб Крыж Еўфрасінні Полацкай вярнуўся на Беларусь — сапраўдны, а не адноўлены... Нібыта невядома, што ён дзесьці ў сховішчах Расіі... А цяпер мяне хвалюе толькі адно — што я адказваю за чыюсьці бедную

хворую душу, і не магу яе ўратаваць... Можа, маё «прыватнае» існаванне і правільнае? Чаго б я быў варты, калі б вёў да волі свой народ і забываўся, што мая любая жанчына застаецца рабыняй? Тым больш расчараваўся я ў палітычных гульнях, пабачыўшы зблізку... Прыгожыя лозунгі не гарантуюць сумлення. А калі я ратаваў старую рэч, вяртаў яе з часткай нашай гісторыі — гэта быў мой унёсак... Але занадта часта я адчуваю сябе здрайцам...

Калі мы наблізіліся да маёнтка, які ў прыцемку здаваўся пагрозліва змрочным, нібыта патрывожаны ад векавога сну зачараваны волат, Юрась раптам пацалаваў маю руку.

— Дзякуй...

— За што? — прашаптала я.

— За тое, што слухала. За тваё ўважлівае маўчанне — яно часам больш дарагое, чым пустыя словы шкадобы і парады. За тое, што пасля ўсяго, што я з табою зрабіў, ты яшчэ не ненавідзіш мяне...

І пайшоў у свой часовы пакой, няшчасны, трывожны, чужы... Госпадзе, ён усё яшчэ дакарае сябе за нашу юначую гульню ў шлюб... А я?..

— Ты звар'яцеў, лекар! — Лаўрын Рожа злосна расхаджваў па пакоі з белай ружай над уваходам.— Гэта, магчыма, у тваёй Фларэнцыі паненку можна прывалачы за валасы на свой ложак. Але ў нашай дзяржаве за гэта караюць горлам!

Бернацоні сядзеў у крэсле з высокай драўлянай спінкай, скрыжаваўшы на грудзях рукі, знізаныя каштоўнымі пярсцёнкамі, і спакойна пазіраў на новага войта.

— Я не зрабіў гэтай дзяўчыне нічога кепскага. Наадварот — выратаваў жыццё. Але яна была ў шалёным карагодзе, яе розум пашкоджаны. Магчыма, яна дасюль апантаная.

— Дык нашто яна табе? — выкрыкнуў Рожа, спыніўшыся проста перад італьянцам.— Зараз жа адышлі яе прэч, у кляштар!

Ад крыку Рожы, здавалася, усхадзілася нават вада ў шклянцы на стале. Але Бернацоні і брывом не зварухнуў.

— Гаспадар даў мне даручэнне... Ведаеш, якое... Прывесці гэты горад да пакоры. Любым спосабам! Любым! Разумееш, Рожа? Дзеля вялікай мэты, якую раскрыў перада мною Вялікі князь, можна пераступіць шмат. І я буду служыць яму, што б для гэтага ні спатрэбілася. Я бачыў сваю любую Італію, якая ляжыць на скрыжаванні свету, разбітая на дробныя аскалёпкі пыхай яе князёў.

Кожны горад імкнецца да вольнасці, кожны князёк хоча стаць каралём... А ворагі прыходзяць і нішчаць краіну па частачках, не сустракаючы супраціву. Больш за тое — заўсёды знаходзяць памагатых у суседніх гарадах... Дзічэюць розумы, чарсцвеюць сэрцы... У Італіі пакуль няма вялікага чалавека, які аб’яднаў бы яе, змясіў, як цеста, у адзін кавалак, з якога атрымаецца хлеб — няхай спечаны на крыві і слязах. Вам, ліцвінам, пашанцавала.

— А пры чым тут Ляскевічава дзеўка? — Рожа наблізіўся да лекара ўшчыльную, перайшоў на даверлівы шэпт.— Ну паслухай... Мы адзін аднаго не першы год ведаем. Табе што, гэтак раптам закарцела жаночай плоці?

Бернацоні халодна засмяяўся:

— Я даўно ўжо зацугляў свайго Амура, і юр ніколі не заглушыць ува мне голасу розуму. Проста гэтая кволая, хворая дзяўчына валодае моцай, якую я не мог знайсці і ў дужых мужчынах. Яна дапамагае мне... у маіх доследах.

— Адладжваць твае чортавы гадзіннікі? — крыва пасміхнуўся Рожа.— Я чуў, што для спраў цемры патрабуецца чыстая душа цнатліўкі. Ніколі не разумеў, чаму князь паблажлівы да чараўнікоў.

Бернацоні рэзка ўзняўся:

— Я не чараўнік, Рожа. Я табе ўжо колькі гаварыў. Я — хрысціянін, проста Бог даў мне болей клёку і ведаў, чым табе. І на дзяўчыне я выпрабоўваю адвар, які, можа, выратуе аднойчы і твой розум ад шаленства. Мае гадзіннікі ахвяраў не выбіраюць, як не выбірае паводка. Таму не пашкодзіць мець ад іх... супрацьяддзе.

Твар Рожы перакрывіла застарэлая нянавісць, але войт стрымаўся.

— Добра. Князь загадаў мне быць з табой у лучнасці і слухацца тваіх парадаў. Я абвяшчу, што дзяўчыны ў вежы няма. А ты паклапаціся, каб мае словы сталіся праўдай. Мяне не тычыцца, як ты гэта зробіш. Тут глыбокія лёхі, у камінах можна распаліць вялікі агонь. Калі цела пасячы...

Бернацоні бліснуў вачыма.

— Я не хачу забіваць яе!

Рожа сціснуў сківіцы.

— А я больш за ўсё хацеў бы паднесці паходню да твайго вогнішча, вядзьмак, бо з-за цябе рызыкую сваім вечным выратаваннем. Тое, што ты зрабіў гэтаму гораду, не можа быць іншым, як справай цемры. І толькі дзеля свайго князя я трываю... Але маё цярпенне не вечнае. Дзяўчыны ў вежы — няма! Ты зразумеў?

Сказаў, нібыта абрынуў магільную пліту — і выйшаў.

...Анэту пабудзіў нечы здзеклівы смех проста над вухам. Яна расплюшчыла вочы і ўскрыкнула: над ёй схіліўся нечы звыродлівы твар. Запалыя шчокі, пакрытыя цёмнай шчэццю, рот, ашчэраны ў дзікай усмешцы, глыбокія вочы... Але не насмешныя, а хутчэй тужлівыя...

— Хе-хе-хе...

Анэта ўскочыла, прыкрываючыся коўдрай.

— Хто вы?

Мужчына ў дзіўнай стракатай адзежы адышоўся ад ложка, але застаўся з нізка схіленай спінай, сагнутай абаранкам.

— Прывітанне, дзяўчына, якая танчыла са смерцю... Хе-хе-хе... А ты смелая, белагаловая...

— Хіба можа чагосьці баяцца той, хто танчыў са смерцю? — Анэта ганарыста зірнула на госця.— Але хто вы?

Прыхадзень, усё гэтак жа не разгінаючыся, галава амаль ля каленяў, дзіўнай падскокваючай хадой прайшоўся ўправа, улева, пазіраючы на дзяўчыну.

— Хто я? Адказаць на гэтае пытанне не так проста, паненка. Кожны з нас у гэтым свеце мае шмат лічынаў. Бачыла, як на карнавале: зараз ты — кароль, праз імгненне — блазан, а пасля — сама смерць... І твая лічына падае ў куфар разам з пунсовай спадніцай акрабаткі і бізуном дзеля змірэння плоці... Я — ніхто, мая панна, і таму я магу быць усім. Хе-хе-хе...

Анэта глядзела на худы твар госця, на якім, нібыта хвалі, мяняўся выраз. Што ён — плача? Смяецца? Гневаецца? Што азначае ягонае прыйсце? Нягледзячы на ганарыстыя словы, страх мімаволі запаўзаў у сэрца, варушыўся вострай ільдзінкай...

— Цябе прыслаў пан Бернацоні?

— Бернацоні? — насмешна перапытаў незнаёмец.— Не, мая даражэнькая. Твой гаспадар толькі думае, што яго вядзьмарства ўсёўладнае... Але і за ім ёсць незаўважныя вочы і вушы. Як за кожным, хто мае хоць маленькую — але ўладу. Цяпер ад мяне засталося мала, паненка. Я — смех, вочы і вушы ўладароў. Але што ўладары — без мяне? Хе-хе-хе!

Анэта гнеўна зірнула на прыхадня.

— Пан Бернацоні не гаспадар мне. Я — вольная шляхцянка!

— Хіба? — іранічна прагаварыў госць.— І ты можаш ісці, куды хочаш? Баюся, што цябе няма больш, чым мяне, ясная паненка.

Вусны дзяўчыны здрыгануліся, нібыта яна стрымлівала плач.

— Калі прыедзе новы войт, я папрашу ў яго абароны!

— Хе-хе-хе! Новы войт ужо прыехаў. Думаю, ён наўрад ці дапаможа табе. Хіба ты не служыш разам з ведзьмаком-лекарам ягонаму цёмнаму гаспадару? Іншаму князю?

Вочы госця спадылба пільна ўглядаліся ў вочы дзяўчыны. Тая з годнасцю сустрэла ягоны пагляд.

— Я ніколі не буду служыць цемры. Хутчэй памру.

— Што ж, магчыма, табе давядзецца адказаць за свае словы, паненка... Магчыма...

Нешта падобнае да шкадавання мільганула ў цёмных вачах мужчыны, ён адвярнуўся... Спіна ягоная ўсё гэтак жа была сагнутая ў крук, і Анэта зразумела, што ён і не можа яе выпрастаць. Дзяўчыне падалося, што незнаёмец зараз знікне гэтак жа таямніча, як і з'явіўся. І яна назаўсёды застанецца ў гэтым пакоі са схаваным дошкамі акном, ва ўладзе страшнага лекара. Анэта адкінула пострах і схапіла прыхадня за кашчавую руку.

— Паслухайце... Малю вас імем Госпада нашага, Ісуса Хрыста... Дапамажыце мне выйсці адсюль. Я магла б адправіцца ў кляштар... Усё роўна мае блізкія памерлі. Я буду маліцца за вас усё жыццё!

Раптам за дзвярыма пачуліся крокі. Нехта набліжаўся да дзвярэй пакоя, у якім была замкнутая Анэта. Нечакана сагнуты ў крук незнаёмец спрытна падскочыў, як каціны цар Варгун, прыладкаваўся на невялікім выступе над скляпеністымі дзвярыма, нібыта пачварная скульптура, і прыклаў да тонкіх вуснаў палец на знак маўчання. Анэта лягла на ложак і заплюшчыла вочы. У дзвярах павярнуўся ключ... Марцэля прынесла сняданак. Анэта не зварухнулася, пакуль тая ставіла на стол прынесенае. Імгненні, пакуль рыкуння чагосьці чакала — магчыма, хацела ўпэўніцца, што дзяўчына спіць,— падаліся вечнасцю... Нарэшце Марцэля нешта прасіпела скрозь зубы і выйшла. Зноў бразнуў замок. Незнаёмец лёгка саскочыў на падлогу, абапершыся аб яе рукамі, нібыта сапраўды каціны цар.

— Хе-хе-хе... Ну і кабета... Яна падобная да Марэны... Яе варта, як пудзіла Марэны-смертухны, утапіць у першай лужыне за вёскай. А ты, паненка, падобная да Ядзеркі... Чула — ёсць такія марскія каралеўны, з залатымі валасамі, ідуць — перад імі коціцца дыяментавая раса. Мая дзяўчына таксама была падобная да Ядзеркі. І таксама замест расы былі слёзы.

— Ляскевічы не плачуць! — прамовіла Анэта. Але прыхадзень працягваў, як не чуючы.

— Калісьці мая спіна не была сагнутая ў кола, паненка. І мяне кахала самая лепшая дзяўчына ў свеце. Але ў яе мелася сямёра братоў. А спадчына на ўсіх — адна! Па законе сястры вылучаецца чацвёртая частка спадчыны ў пасаг, незалежна ад таго, колькі братоў. Уяўляеш, як пабяднелі б яны? Агата мусіла заставацца старой дзеўкай... Але каб не здрада пахолка — мы з'ехалі б, і нас абвянчалі б, і... Хе-хе-хе! Маю спіну ламалі цэлы год, паненка... Цэлы год я штохвілі маліў аб смерці. Цяпер магу сказаць, што і я танчыў з кашчавай. Чаму яна выпусціла маю руку? Не ведаю... Але мне ўсё яшчэ часам здаецца, што я скачу ў яе карагодзе.

— Ты дапаможаш мне? — з надзеяй спытала Анэта.

Дзіўны госць толькі ашчэрыўся ў вар'яцкай усмешцы:

— Як можна дапамагчы таму, хто так блізка пазнаёміўся са смерцю? Ты просіш волі... А ты ведаеш, што такое воля? Сабака, які ліжа сляды свайго гаспадара, лічыць сябе вольным... І пакусае кожнага, хто вызваліць яго ад гаспадаровай палкі... Дзе твая воля, паненка? Цябе няма.

Госць дастаў нейкую прыладу, спрытна павярнуў у замку і — выслізнуў з пакоя. Анэта глядзела на зноў зачыненыя дзверы, і роспач сціскала яе ў сваіх халодных абдоймах.

— Адпусціце мяне! Адчыніце!

Анэта стукала ў дзверы, не чуючы ўласнага крыку.

— Я хачу дадому!

* * *

— Я хачу дадому!

Пранізлівы жаночы крык змусіў мяне падскочыць на ложку.

Нейкі час я здранцвела сядзела, прыслухоўваючыся да шуму ў калідоры. Нарэшце падышла да дзвярэй, асцярожна прыадчыніла... Прыгажуня з чорнымі валасамі, раскіданымі, нібыта ў іх жыў ветрык, раздражнёна тузала Юрася за рукаў швэдара. Твар мужчыны не быў ані ўгневаны, ані раззлаваны... Проста сумны і безнадзейны, як водбліск ліхтара ў восеньскай лужыне.

— Ну што ты маўчыш, як стод!

Ён усё-ткі прывёз сюды жонку...

Я зачыніла дзверы і прытулілася да іх. Што я мушу рабіць? Выйсці, мірыць, суцяшаць? Ніколі не лезу ў чужыя справы. Але Юрася было так шкада...

— Пані, я магу вам дапамагчы? — голас Макса гучэў і жыццярадасна, і спачувальна, і даверліва... Я з палёгкай уздыхнула. Няхай прафесіяналы займаюцца сваёй справай. А я магу зноў застацца ў сваёй ракавінцы.

Але падчас сняданку аніхто не сказаў бы, што з кабетай вытанчанай прыгажосці нешта не так. Кармілі нас цяпер не ў шыкоўнай гаспадарскай гасцёўні, а ў пакоі для абслугі на першым паверсе, за шэрымі пластыкавымі столікамі. Я апынулася побач са Стэлай і Юрасём. Гаворка за сталом лунала, як матылёк. Стэла ветліва ўсміхалася, дасціпна падавала рэплікі... Яна была бездакорнай... Напачатку я мімаволі кідала пагляд на доўгія рукавы ейнай чорнай сукенкі, элегантна-артыстычнай, і з жахам уяўляла на белай, далікатнай скуры сляды ўколаў... Але хутка я на гэтыя асацыяцыі забылася. Ёсць людзі, якіх мне лёгка прызнаць больш значнымі за сябе. Яны, не заўважаючы, ператвараюць прастору ў мільёны тоненькіх павуцінак, што сыходзяцца на іх. Талент, якім я не валодаю. А Стэла — валодала напоўніцу. Калі яна глядзела на мяне, у яе вачах не было і ценю злосці або паблажлівасці... Можа, хіба трохі адчуджанасці. Я гадала, ці ведае яна, што Юрась калісьці называўся маім мужам...

А пасля я ішла калідорам і пачула, як нехта весела смяецца. Перад адным з эркерных вокнаў мелася невялікая круглая гасцёўня, нібыта альтанка — шырокая канапа, часопісны столік, пальмы. Добрае месца для спатканняў... Юрась і Стэла стаялі на канапе на каленях, Юрась быў распрануты да пояса, а жонка старанна малявала на яго целе складаны тонкі ўзор. Рэстаўратар перашкаджаў, намагаючыся пацалаваць руку, што трымала пэндзлік. Бесклапотны смех нібыта ахутваў пару празрыстым павуціннем пяшчоты. Я застыла, схаваная прыцемкам калідору, і маё сэрца нечакана для мяне разбівалася на маленькія аскалёпкі, нібыта тонкі лёд, па якім цяжка крочыць мінак. Няўжо я такая зайздросная да чужога шчасця? Тым больш ведаю, наколькі яно ў гэтых людзей крохкае і хвіліннае, як жыццё заблукалай у хату сняжынкі.

Ты марыш пра шчасце, якога здабыць не ўдалося?
Упалі гады на зямлю, як пустое калоссе...

І што засталося? Паперы не вартыя вершы?
І вечная прага быць першым. І вера: «Я першы...»

А потым я стаяла на пляцы Старавежска, перад адноўленай ратушай, нібыта з дыснееўскага мульціка — белая, бліскучая, з новенькімі пластыкавымі вокнамі і чырвонай металачарапіцай, і Пётр Піліпавіч Калейка, былы настаўнік гісторыі, крычаў на мяне, зрываючы голас:

— Як вам не сорамна! Вы — і на баку тых, хто нявечыць адзінае, што засталося ад нашай гісторыі! Былое начальства хаця не руйнавала, гібеў паціху будынак у чаканні лепшых часоў. А Баркун ваш загадаў нават падмурак разабраць і наноў, з нейкай сінтэтыкі скласці. А тут кожны каменьчык — каштоўнасць! А можа, вам гэта падабаецца, як боўдзілам з райвыканкама? «Прыгожанька»?

Калейка тыцнуў кавенькай у напрамку вежы, туды, дзе над дзвярыма красаваўся ўсімі фарбамі Баркуноў герб.

— Ганьба! Ды за такое забіць мала! І з музея ваш гаспадар усё забраў — за капейкі... Крамы для турыстаў будуюць, рэстараны... Апошнюю капліцу ўчора знеслі. Планіроўку пляца незваротна парушылі. Дзе могілкі мо тысячу гадоў — падземны гараж... Падлеткі чарапамі ў футбол гуляюць. Людзі гінулі, каб гэты горад абараніць! А ён сам пад ногі кладзецца. Баркуны, Калыванавы... Гэтай навалачы адно трэба — грошы зарабіць. Баркуноў у гэтым горадзе ніхто добрым словам не згадае. Дзед гэтага вашага багацея Аркадзя паспеў яшчэ да вайны ворагаў народу навыкрываць. Дырэктар школы, сумленнік, беларус шчыры, з-за яго ў Сібіры згінуў. А цяпер унучок сваіх дабротаў Старавежску дадаў, хай Бог яму на тым свеце даруе. Не хачу з вамі больш размаўляць! Самі шукайце звестак для лжывых артыкулаў.

І пакульгаў у сваім доўгім шэрым паліто, у капелюшы з абвіслымі брыламі, рассякаючы вільготнае паветра, нібыта патрапаны ў бурах, але ўсё яшчэ ваяўнічы карабель...

— Мы проста робім сваю працу,— пераконваў мяне і сябе прыгнечаны Юрась, пакуль мы вярталіся назад у маёнтак.— Аркадзь, вядома, учыніў сапраўднае барбарства. Калі б я ведаў, умяшаўся б... А я ўпёрся ў свае справы. Ведаю, не апраўданне... Але... я ж як у акварыуме жыву, прапускаю праз сябе ўсё тую ж ваду, у якой меней і меней кіслароду. Аркадзь запэўніваў, што будоўлю выдатныя

замежныя спецыялісты вядуць. Я веру, ён лічыў, што робіцца як найлепей.

Я моўчкі глядзела, як за акном машыны мільгаюць голыя дрэвы, нібыта пакараныя грэшнікі. А я ж думала, што за святую справу ўзялася... Што Аркадзь сапраўды гораду дапамог... Як жа цяпер быць? Артыкул перапісваць? Ад працы адмовіцца? Ну... можа, не так усё страшна, як дзед на плошчы крычаў? Усё-ткі... турыстычны бізнес... Пабагацее мястэчка... Я сама сабой пагарджала за баязлівыя думкі і спробу схавацца ад патрэбы прымаць непрыемныя рашэнні. Адвыкла я ад такога максімалізму. Вось Калейка і ягоныя аднадумцы — захавалі былую зацятасць... А можа, да смерці Аркадзя і датычныя тыя, хто лічыў ягонае абыходжанне з гісторыяй злачынствам?

— Чытаў я адзін беларускі дэтэктыў, у якім забіваюць вучонага за тое, што меў намер напісаць кнігу з выкрыццём народнай беларускай міфалогіі,— змрочна азваўся на маю гіпотэзу Юрась.— Але ў жыцці забіваюць з-за таго, што скраў бутэльку гарэлкі, падрапаў аўто, не пазычыў грошы... А вось з-за разбуранай вежы ці знішчанага кургана — нават пысу не наб’юць.

А ў былым уладанні Людвісараў Стэла, такая чужародная ў чорным строі на фоне лагодна-ружовых сценаў калідора, зусім не падобная на тую вытанчаную кабету, з якой я размаўляла за сняданкам, і на гарэзную мастачку з гасцёўні перад эркерным акном, чагосьці лаялася на Янчына. І Віталь, пачырванеўшы, спрабаваў схавацца за дзвярыма свайго пакоя.

— Ты ж быў яго сяброком! Ты ведаеш, што мне трэба!

І Юрась зноў кінуўся супакойваць, угаворваць, пакутваць... А я зноў глядзела ў акно, на голыя дрэвы і кволы снег, і хацелася неадкладна з’ехаць. Схавацца, адасобіцца, каб нічога не бачыць і не чуць... Што я тут раблю? Навошта сюды прыехала?

Ды дзеля грошай, даражэнькая... Прызнайся нарэшце самой сабе, што проста прадалася. Месяц працы — за цэлы год бесклапотнага існавання...

— Не чапайце мяне! Пусціце!

Голас Стэлы зрываўся, як струны скрыпкі, якая цэлы век праляжала ў нейкіх лёхах.

Вар’ятоўня! Але ж я нічога не зmяню... Хутчэй зрабіць тое, што ад мяне патрабуецца... Тысяча даляраў на дне валізы, мой аванс — чым не падстава для цярплівасці?

Але цярплівасці мне заўсёды бракавала...

І нараніцу я ўзялася за паперы, як рупная гаспадыня за пустазелле — толькі шамацелі... Баркунова біяграфія ўзнікала на маніторы камп'ютара, як палац з мармуровымі калонамі. Я супакойвала сваё сумленне тым, што нічога не напісала пра «выдатную рэстаўрацыю»... Што ж, колькі людзей лічылі сябе сумленнымі толькі таму, што прамаўчалі, не далучыліся да агульнага гарлання ўхвалаў. Вось толькі час іхняга маўчання не пачуў.

Затым радок за радком высноўвалася стракатая гісторыя Старавежска з ягонымі легендамі... А вось што тычыцца калекцыі гадзіннікаў, тут зразумела не да канца...

Я ўявіла тую эпоху. Позняе сярэднявечча. На самым парозе Адраджэння... Пошасць, спусташыўшы амаль усю Еўропу, пазбавіла чалавека страху смерці, якім была напоўнена свядомасць ранейшых пакаленняў. Нядаўна я была на рыцарскім фэсце, моладзь узнаўляла старажытныя танцы... Сярод іх «танец смерці». Прыгожы. Павольны... Адзін за адным танцоры выходзяць з кола... Павінна ўяўляцца, што жывыя ў гэтым танцы чаргуюцца з мерцвякамі... Але чароўныя дамы і рыцары ў пашытых з парцьераў касцюмах, з мабільнымі тэлефонамі ў кішэнях задаволена ўсміхаліся, відаць, не надта ўдумваючыся ў застрашлівы сэнс танцавальных фігураў. А між тым калісьці гэтыя скокі былі абавязковым і нялёгкім рытуалам. Чалавек прывучаўся жыць са сваёй смерцю. Адчуваць побач з сабой агіднага мерцвяка, у якога ў любое імгненне пératворыцца сам. «Кожны вучыцца танцаваць гэты танец. Непазбежны для мужчынаў і жанчын гэты лёс. Смерць не шкадуе ні вялікіх, ні малых»,— са змрочнай іроніяй пісаў сярэднявечны тэолаг Герсан. Ён налічыў дваццаць пяць асобаў у гэтым танцы... Кароль, блазан, мніх, высакародная дама, купец, рыцар, шкаляр, лекар, біскуп, самадайка...

— Проста мы вельмі мала ведаем пра псіхічныя захворванні,— патлумачыў мне Макс, які заявіўся ў мой кабінет з нязменным кубкам кавы.— Я перакананы — яны заразныя... Як грып. Яшчэ прыхільніцы Вакха бегалі па вуліцах Афінаў і Рыма ў святарным шале, яны маглі разадраць на кавалкі мінака... Гэтак і абышліся з Арфеем, дарэчы.

— Міфічным спеваком?

— Ну чаму ж міфічным...— Макс даверліва паклаў сваю руку на маю.— У кожнага міфа — рэальная падбіўка.

Што ён, заляцацца да мяне ўздумаў? Я без асаблівай далікатнасці прыбрала руку. Макс не паказаў крыўды, нават трохі адсунуўся і нязмушана працягваў:

— Арфей быў рэальнай асобай, паслядоўнікам культу Апалона, паганскім святаром... Культы Апалона і Вакха-Дыяніса не тое што варагавалі, але былі двумя процілегласцямі. Апаланічнае натхненне — дыянісійскі шал... Прасветлены сакральны роздум — і інстынктыўная жарсць... У сярэднявеччы эпідэміі псіхічных захворванняў ахаплівалі не тое што тысячы — сотні тысяч людзей, цэлыя гарады. У 1374 годзе ў італьянскім горадзе Аквісграна скакалі ўсе: і старыя, і дзеці, і цяжарныя жанчыны. Тыя, хто танчыў, мелі аднолькавыя відзежы — напрыклад, святых, або раскрытае, як сіняя брама, неба... З'яўлялася агіда да чырвонага колеру, да вострых прадметаў... Гэтая манія распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе, дайшла да Кёльна, Страсбурга, Меца... Тыя, хто выжыў у скоках, ішлі да магілы святога Віта, па ацаленне... А манія падарожжаў! У 1212 годзе маленькі пастушок з Вандома абвесціў, што да яго з'явіўся Бог. Малеча звёў за сабой у крыжовы паход 30 тысячаў дарослых мужчынаў! А манія прароцтва сярод дзяцей! Уяўляеце — стрыгункі па восем-дзевяць гадоў сотнямі прарокуюць і прамаўляюць такія паэтычныя і ўзнёслыя словы, што даступныя рэдкаму філосафу. А эпідэмія флагелянтаў — натоўп, які крочыць па вуліцах і збівае сябе бізунамі! Дзень, два, месяц! А паляванне на ведзьмаў — яно ж не проста так узнікла. Тысячы жанчын вар'яцелі на тым, што адчувалі зносіны з нячыстай сілай. І ў падмурку ўсяго — страх... Страх смерці...

— Усё, хопіць...— я нават кубак адставіла.— Добра, што мы не ў сярэднявеччы жывем.

— Вы так думаеце? — Макс весела прыжмурыў шэрыя вочы.— Чалавек не змяніўся ад таго часу, як адкусіў ад вядомага яблыка. Што з ім адбывалася — тое і адбываецца, толькі ў іншым выглядзе. Хіба не нагадваюць сярэднявечныя эпідэміі харэі паводзіны натоўпу дзе-небудзь на рокерскім фестывалі? А ўспомніце канцэрты «Бітлзаў», або якой «Аббы»... Ці палітычныя мітынгі... Уключыце сёння тэлевізар — і перад вамі вынікі масавых псіхозаў.

— І, магчыма, іх прычыны,— падала я рэпліку, рашуча падымаючыся з крэсла.— Прабачце, я стамілася...

Юрась і прафесар стаялі перад гадзіннікам з драўлянымі фігуркамі Адама і Евы і чагосьці напружана чакалі. Замест яблыка Ева працягвала свайму нехлямяжаму мужу, загорнутаму ў

вінаградную галінку з гіганцкімі лістамі, металічны кубак... Такі вялікі ў параўнанні з маленькай фігуркай Евы, што ў рэальнасці мог раздушыць яе. Раптам з кубка выбліснула змяя...

— Боммм...

Мужчыны пераможна заўсміхаліся, я нават пазайздросціла, што не маю дачынення да іх перамогі.

Макс абняў за плечы даследчыкаў.

— Самы час паведаміць — Пётр Апанасавіч тэлефанаваў са Швейцарыі, прасіў перадаць — за кожны адрамантаваны гадзіннік вам прэмія па пяцьсот даляраў!

— Дзякую...— ніякавата прамовіў Юрась, а прафесар расплыўся ва ўсмешцы.

— Прывітанне Пятру Апанасавічу! Гэта вялікі чалавек, сябры! Вялікі! За ім — будучыня! Каб вы ведалі...

— Прафесар, мы ж дамаўляліся...— дакорліва прамовіў Макс, і стары дзівак сумеўся і паслухмяна замоўк.

Гадзіннік працягваў цікаць, гучна, натужна, нібыта яго жалезнае сэрца пераадольвала з кожным ударам супраціў пяці з паловай стагоддзяў...

— Усяго чатыры гадзіннікі засталіся няспраўныя! — радаваўся Макс.— Заўтра будуць гатовыя ўсе дэталі, што вы, Юрась, заказалі... І замену вяроўкам з авечых кішак прывязуць... Не сумнявайцеся — не горш будуць!

Але Юрась сумна ўздыхнуў:

— Нешта «затармазіў» я з рамонтам...

— А што здарылася? — захваляваўся Макс.

— У майго маладога калегі цікавая тэорыя,— крыху раўнівым голасам прамовіў прафесар.

— Ну якая там тэорыя...— прамовіў Юрась.— Проста я зразумеў, што кожны гадзіннік біў як бы на сваёй ноце, яны — як музычная гамма, ад самага нізкага да самага высокага гуку. Але мацаванні пятнаццатага стагоддзя засталіся толькі ў трох гадзінніках. Калі б мне ведаць, у якой паслядоўнасці яны стаялі,— я б мог вылічыць, як было зладжана ў астатніх...

Макс захваляваўся.

— Зараз я распараджуся, каб прывезлі яшчэ якія дакументы... Усё, што можна, што тычыцца гадзіннікаў таго часу...

І збег. Прафесар пасунуўся за ім, мармычучы нешта незадаволена.

Я наблізілася да Юрася, які моўчкі, неяк тужліва ўглядаўся ў фігуркі Адама і Евы. Я заўважыла, што ў чорнавалосай Еве, з доўгімі, раскіданымі, нібы ад ветру, валасамі было нейкае падабенства са Стэлай... Цікава, чаму яна сёння так ціха сядзіць у сваім пакоі? Можа, выпрасіла... «дозу»?

Я абвяла вачыма пакой — што тут было пры колішніх гаспадарах? Памяшканне для прыслугі? Збройня? А можа, катавальня? Вунь якая скляпеністая столь, акенцы — маленькія, у самым версе, праз такія не ўцячэш... Апошні з Людвісараў, які жыў тут, быў паўстанцам Каліноўскага, а пасля зняволення звар'яцеў. Ці не таму гэтыя таўшчэзныя сцены працятыя вар'яцтвам, і нават з-пад сучаснай акрылавай фарбы нібыта цягне пахам плесні, буцвення, застарэлага жаху і тугі? Захворванні душы заразныя... Можа быць, і Юрась?.. Я загаварыла на больш цікавую тэму, пастараўшыся, каб мой голас гучаў як мага больш па-дзелавому.

— Паслухай, гадзіннікі і ў летапісе, і ў пражскіх пратаколах параўноўваюцца з апосталамі. Мусіць, таму, што іх дванаццаць. Продкі шмат значэння надавалі магіі лічбаў. Яшчэ падобна, што гадзіннікі лекар ставіў у кола. Можа, паспрабаваць суаднесці іх з імёнамі апосталаў? Тады і здагадаемся, як былі расстаўленыя.

Юрась уздрыгнуў і адвёў позірк ад фігуркі Евы, што таксама, як і Адам, была цнатліва захутаная ў расфарбаваныя зялёным вінаградныя лісты.

— А гэта вельмі падобна на праўду! Ты малайчына, Анэта. Сапраўды, на гадзінніках столькі рознай сімволікі...

Я прыгледзелася да чорнавалосай драўлянай фігуркі.

— Паслухай, а чаму ў руках Евы — кубак са змяёй? Можа, гэта мусіць нешта азначаць?

Юрась задумаўся.

— Змяя — зразумела, з біблейскай легенды... А кубак — можа, пацір, сімвал страчанай чысціні? Або жаночага пачатку?

Я з жалем пабачыла, што вочы майго былога мужа яшчэ не страцілі сусветнай тугі, таму загаварыла амаль насмешна.

— Ты ж захапляўся старажытнай міфалогіяй... Ну, напруж мазгі — кубак са змяёй... Нешта з алхіміі? Знак золата? Іртуці?

Юрась страсянуў галавой.

— Чакай... Неяк жа я рэстаўраваў абраз... Там было такое... Ну так, кубак са змяёй — сімвал апостала Іаана! Ты разумееш — апостал Ян! А ты ж казала — Бернацоні называў гадзіннікі імёнамі апосталаў!

Я ўзрушылася, атрымаўшы нечаканае пацвярджэнне свайго інтэлектуальнага бляску.

— А так было ў традыцыі. Кожны звон храма меў сваё імя, атрыманае ад святара падчас абраду асвячэння. У пачатку 18 стагоддзя ў менскі марыінскі касцёл з Каралеўца прывезлі звон, які меў нават імя і прозвішча — Ян Салагуб, такі вялізны, што не маглі ўсцягнуць на вежу. З яго адлілі два званы, адзін назвалі Якуб — у гонар біскупа Якуба Дадэркі. А ў касцёле Святога Роха на Залатой горцы меліся званы Леанард, Стэфан і Браніслава...

— Адкуль ты ведаеш? — здзівіўся Юрась.

— Ды пісала неяк артыкул пра рэстаўрацыю старога горада... А ў мяне ж памяць «стэнаграфічная»...

Юрась падышоў бліжэй да гадзінніка, прыгледзеўся да паціру ў руках Евы.

— Значыць, імя гэтага гадзінніка — Ян... Трэба тэрмінова знайсці які міфалагічны слоўнік, паглядзець сімвалы іншых апосталаў...

Слоўнік мы знайшлі на паліцы ў маім часовым «кабінеце», нават старонкі былі яшчэ склееныя — не мелася ў гэтым доме тых, хто хацеў бы даведацца, што такое Гадэс або Ураборас. Дапамагала і кніга Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», якую мы з Юрасём ведалі ледзь не на памяць. Ненавіджу тых, хто спрабуе прадставіць нашага вялікага рамантыка слабавольным п’яніцам. Вы напішыце столькі, колькі ён, без наяўнасці, акрамя таленту, сталёвай волі! А ўтрымайце столькі энцыклапедычных звестак у прапітых мазгах! Як там у Пушкіна... «Врете, он и низок не так, как вы...»

Карабель са скрыжаванымі мачтамі аказаўся знакам апостала Тадэвуша.

А вось пакуль мы здагадаліся, што на гадзінніку са Святым Сямействам сімвалам апостала з’яўляецца піла, што прыхінулася ля Святога Іосіфа як знак ягонай цяслярскай справы — давялося добра памучыцца... Добра, што піла была пазалочанай і надта выразна зроблена для другараднай дэталі. Калі нашыя здагадкі дакладныя, гэты гадзіннік называўся Якуб Алфееў.

Пад нагамі Смерці, якая адсякала галаву цару Іраду, былі пазалочаныя выявы трох нажоў — адзін пад двума; яны сімвалізавалі апостала Баўтрамея.

Месяц і сонца плылі па бляшаным шчыце, яго падзяляла напалам высокая дзіда, унізе якой быў трохкутнік... Мы вырашылі, што ён падобны да плотніцкага вугольніка і разам з дзідай паказвае на

апостала Фаму, Тамаша, які не паверыў у Божае Уваскрэсенне, пакуль не сунуў пальцы ў ягоную рану.

Крыж, абвіты ружамі і абкружаны анёлкамі, мы доўга не маглі вытлумачыць. Пакуль не атаясамілі два кругі ўнізе з боханамі хлеба. Крыж і два боханы паказвалі на апостала Піліпа.

Затое выявы трох ракавінак пад нагамі Чорнага Рыцара кідаліся ў вочы адразу: дзіўнае спалучэнне, пры чым да Рыцара ракавінкі? Праўда, пасля мне прыйшло ў галаву, што сярэднявечны чалавек бачыў бы тут логіку: рыцар — пілігрым Крыжовага Паходу, такіх пазнавалі па ракавінках, прымацаваных да капелюша... А ў апостальскай сімволіцы тры ракавінкі азначалі Якуба Зеведзеева.

Каб зразумець сімволіку званара, не трэба было лезці ў энцыклапедыі. Звон, у які мусіў біць маленькі званар, быў упрыгожаны знакам «Х». Нахілены крыж, сімвал Андрэя Першазванага.

Грыфон вартаваў тры кашалькі, якія мы адразу прынялі за бутоны кветак. Прывітанне ад апостала Мацея, які, як вядома, быў мытарам...

Льва я вытлумачыла як знак евангеліста Марка, але Юрась запэўніў мяне, што Марк не быў сярод дванаццаці апосталаў... Драўляны леў, пагрозна ўзняўшы рэшткі шырокай лапы, вартаваў кнігу і рыбу, сімвалы апостала Сымона....

Скульптура анёла з трубой была вельмі пашкоджаная. З цяжкасцю разумелася, што два незразумелыя кручкі, што віселі на колцы на фоне пазалочанага воблака — гэта рэшткі ад двух ключоў апостала Пятра.

Нарэшце застаўся апошні гадзіннік. Можна было і не аглядаць яго. Выразаная з дрэва кашчавая фігура ў расе, з нізка нахіленай галавой і скрыжаванымі на грудзях рукамі, стаяла на рассыпаных манетах... Юда-Здраднік.

— Уладальнік не хацеў, каб сімвалы адразу чыталіся,— зазначыў Юрась.— Галоўныя аздобы — зусім іншыя... Але мы малайцы! Аркадзь быў бы шчаслівы! Хаця... Я веру, што зараз ён бачыць нас і радуецца.

Мой былы муж нават стаў падобны да ранейшага юнака, у вачах заскакалі гарэзлівыя агеньчыкі. Ён чынна пакланіўся гадзінніку:

— Вітаем вас, пане Якуб! Даруйце, што дасюль не змог даць рады вашае гаспадарцы... Але ваша цэвачнае колца, якое самым падступным чынам трэснула напалам, заўтра ж будзе верна і

старанна служыць вам. Гэта абяцаю я, пан Юрый Дамагурскі, майстар гадзіннікавы, і ўсялякай антыкварнай справы знаўца...

А далей, пад мой рогат, падышоў да наступнага экспаната:

— О, вельмішаноўны Ян, дазвольце заўважыць, што пані Ева, якой вы даверылі пачэсную справу трымаць ваш святы сымболь, пацір з мудрай змяёю, самым непрыстойным чынам згубіла палову аднаго з вінаградных лістоў, што хаваюць ад пажадлівых вачэй ейную спакусную, хаця і выразаную з дрэва, плоць... Вядома, асоба гэткага паважнага ўзросту, як вельмішаноўная пані, наўрад учыніла гэтак па легкадумнасці, хутчэй на цноты шаноўнай пані сягнуў нейкі зламыснік, безэцнік і блудзяга. Але не турбуйцеся, шаноўны пан Яне, я, антыкварыятных спраў майстра, самым далікатным чынам і не бавячыся прыкрыю цудоўныя калені пані Евы адрапараваным вінаградным лістом...

Я радасна ўключылася ў гульню, але дзверы расчыніліся, і ў пакой увайшоў Макс.

— Прыемна чуць ваш смех, сябры! Зрабілі чарговае адкрыццё, праўда?

Я была ўжо гатовая падзяліцца «апостальскімі звесткамі», але Юрась чамусьці паспяшаўся сцвердзіць:

— Нешта вымалёўваецца, але мы пакуль не гатовыя выказацца канкрэтна. Трэба дадумаць, сфармуляваць...

Я разгубілася. Ну што ж, калі Юрась пакуль гаварыць не хоча, відаць, варта памаўчаць і мне... Макс быў сапраўдным прафесіяналам — ягоная ўсмешка не страціла шчырасці. Хіба цень раздражнення мільганула ў вачах.

— Што ж, працуйце... Будзем чакаць. Пётр Апанасавіч вернецца праз два тыдні, яму і раскажаце... Тады і Ліля Пятроўна прыедзе — палюбавацца на калекцыю.

Калі я ішла ў свой пакой, убачыла ў канцы калідора, перад акном, постаць у чорным... Стэла нешта хутка малявала на аркушы паперы, замацаваным на маленькім эцюдніку. Я ціха наблізілася... Гэта быў малюнак пастэллю. Прысады, што нагадвалі сівых вядзьмарак з ускудлачанымі валасамі, шэраг мармуровых калонаў, што падпіралі неба... Незвычайныя колеравыя спалучэнні, адметны густ... Рука мастачкі вадзіла па паперы каляровай крэйдай упэўнена і рэзка, нібыта сцірала нейкую павуціну, што схавала іншы, цудоўны і прыўкрасны, свет... Я незаўважанай паціху сышла ў пакой. Пачула яшчэ за спінай ціхі пяшчотны голас Юрася, які звяртаўся не да мяне:

— Ну як ты, Зорачка?

Правільна, Стэла перакладаецца як «зорка»... У мяне нават рэўнасці больш не было. Нельга ж раўнаваць да зоркі! Тым больш калі ты сама — шкельца, здольнае толькі люстраваць...

Але вытанчаныя параўнанні мне ў галаву не прыйшлі, калі я ўвечары зайшла ў пакой з невялікім басейнам — трэба ж было скарыстацца з шыкоўнасцяў дому,— і ўбачыла Стэлу на падлозе ля душа, у самым куце. Юрасёва «зорка» сядзела, закінуўшы галаву, і яе дробна трэсла... Вочы страшна запалі, на твары блішчэлі кроплі поту, нібыта яна толькі што ўцякала ад уласнай смерці... Я разгубілася:

— Стэла! Вам нядобра? Паклікаць Юрася?

Вочы жанчыны спыніліся на мне, але мяне яна не бачыла.

— Аркаша! Дай мне гэта! Аркаша! Ну хоць адну! Сволач, я ж ведаю, што ты хочаш! Але спярша — дозу... Ну хоць адну! Юрась адпрацуе... Ён у нас добры...

Гэты хрыплы голас было немагчыма слухаць. Я патрэсла Стэлу за худое плячо:

— Я не Аркаша... Я — Ганна Барэцкая. Памятаеце мяне? Пастарайцеся ўстаць... Я правяду вас да вашага пакоя.

Стэла апусціла галаву, нібыта паламаная лялька, здавалася, побач упалі нябачныя ніткі, за якія вадзіў яе злосны лялькавод. Прасцей за ўсё было паклікаць ахоўнікаў або Юрася... Але мне не хацелася, каб гэтую жанчыну ўбачылі ў такім прыніжэнні. Магчыма, ёй было ўсё роўна... Але я не хацела з гэтым змірыцца. Кінула на нейкі пуфік прыхоплены з сабой пухнаты ружовы рушнік і пакет з гумавымі пантофлямі і нязграбна падхапіла Юрасёву жонку пад пахі... Якой яна была худзенькай і лёгкай, нібыта лясная птушка...

Больш за ўсё я баялася, што яна пачне адбівацца і крычаць. Але Стэла паслухмяна ішла, і нават спрабавала гэта рабіць без маёй дапамогі. Юрася ў пакоі не было. Гадзіннікі рамантуе... Я ўсадзіла Стэлу на канапу... А што цяпер? Я чытала пра паводзіны наркаманаў... Стэла, відаць, адчула маю боязь і падняла вочы — я з палёгкай убачыла, што свядомасць хоць трохі вярнулася да яе.

— Дзякую... Вы не бойцеся... Зараз — гэта не найгоршае...

Я патроху пачала адыходзіць да дзвярэй — магчыма, мне яшчэ ўдасца паплаваць у басейне да вячэры...

— Чым вам яшчэ дапамагчы?

— Мне мог дапамагчы толькі адзін чалавек... Калі было зусім дрэнна — ён з’яўляўся, нібыта адчуваў... Яго больш няма... Хаця часам мне самой хацелася забіць яго...

Голас Стэлы гучаў гэтак санліва, быццам вось-вось перарвецца. Але мне раптам зрабілася горача ад здагадкі:

— Вы пра Аркадзя Баркуна? Гэта яго вы клікалі?

Стэла паспрабавала прыгладзіць рукой растрапаныя валасы, але непаслухмяныя пальцы толькі зблытвалі чорныя пасмачкі.

— Так, Аркадзь Баркун... Добразычлівы такі сябар... Багаты... Душэўны...— голас Стэлы гучаў горкай іроніяй.— А Юрась зусім не разбіраецца ў людзях, яго толькі лянівы не падмане. Хто-хто, а вы ж павінны гэта ведаць, Ганна... Дурань ён, Юрась... З самай горшай разнавіднасці — старанных дурняў. Вось і прыліпае да яго ўсялякая навалач. Хаця мне грэх асуджаць — на маім шляху навалачы траплялася яшчэ больш... Мне было шаснаццаць, а бацькаваму сябруку, вядомаму мастаку — за сорак... Ён прапанаваў дапамагчы «адчыніць браму натхнення». І зрабіў мне першы ўкол з «натхненнем»... А потым пацягнуў у ложак. А я доўга яшчэ верыла, што гэтак раблюся вялікай мастачкай! Але вы мяне шкадаваць не ўздумайце — вам недасяжныя тыя вяршыні і тыя глыбіні, якія адкрыліся мне! Я нізавошта не адмовілася б ад гэтага спазнання! — на твары Стэлы раптам загарэлася хворая чырвань, вочы фанатычна заблішчэлі, голас узвысіўся.— Ведаеце, я — Ева, якая дарэмна працягвае надкусаны яблык спалоханаму Адаму... Як на карціне Святаслава Рэрыха... Вы любіце Рэрыха-малодшага, дарэчы? Я дык люблю больш, чым старэйшага, Мікалая, той у сваіх карцінах хаваў веды за абрысамі гор і аблокаў. А Святаслаў выказваецца адкрыта, няхай наіўна, дзесьці — мовай кічу. Але яго пасланні ўцямныя і канкрэтныя! Не трэба баяцца адкусіць ад яблыка! Не трэба баяцца волі!

Раптам твар Стэлы стаў шэры, як мокры гіпс. Яна млява махнула рукой у бок дзвярэй.

— Ідзіце... Зараз пачнецца не вельмі эстэтычнае відовішча...

З мяне было досыць. Я бегма рушыла ў падвал, дзе ля гадзінніка з таемным імем Піліп завіхаліся Юрась і пан прафесар. Рэстаўратар толькі зірнуў на мяне, на мой збянтэжаны твар, і адразу пабег да сваёй «зорачкі».

Я ўстрывожана гадала, ці ведаў Юрась, хто даваў Стэле наркотыкі? Ён жа казаў мне, што не ведае. Але калі яна трызніла пры мне, напэўна ж, здаралася і пры мужы. Для чаго Баркун гэта рабіў? Няўжо

быў гэтым... Як яго... Дылерам? Дыгерам? Не падобна... Са спачування? Але ж ён з’яўляўся ў тыя моманты, калі Стэла, паводле словаў Юрася, была амаль гатовая «завязаць»... Хутчэй, проста хацеў мацней прылучыць да сябе даверлівага сябрука. Юрась браўся за любую працу, каб зарабіць грошы дзеля ратавання жонкі... Ну вылечылася б Стэла, зажылі б яны больш-менш шчасліва, нарадзілі дзіця, і Юрась пасылаў бы да пана Хута ўсялякія сумніўныя заказы і сумніўных кліентаў... Падобна, што Баркун яшчэ і пэўную плату з прыгажуні браў... Так бы мовіць, «натурай». Я ўспомніла круглае, аптымістычнае Аркадзева аблічча, яго чырвоныя, тлустыя вусны, і мне зрабілася нядобра... Нібыта адчыніла ўлюбёны куфэрак з упрыгожваннямі, а там — пачварны павук. А калі Юрась гэта ведаў, ці не мог ён сам пакараць сябра? Служыў у арміі, значыць, страляць навучыўся... Ці заплаціў за нечы стрэл?..

Невыносна так думаць... Я накінула на сябе куртку і, забыўшыся на вячэру, пабегла з дому, патлумачыўшы чарняваму ахоўніку Ігару, што стамілася і хачу прагуляцца. Дзіўнаваты пагляд Ігара ў мой бок вытлумачыўся, калі я выскачыла за паслужліва расчыненыя перада мной дзверы. Халодны дождж, аздоблены шматкамі паміраючага снегу, абняў мяне, здавалася, са шчырай радасцю — ідаць, і не спадзяваўся, што нейкая істота ў такую шарую гадзіну захоча падзяліцца з ім сваім цяплом. Зараз жа са мной звёў знаёмства і вецер — магчыма, ён лічыў гэта пацалункамі, але атрымаліся сапраўдныя поўхі, ад якіх мае шчокі знямелі. Я падняла каўнер сваёй курткі і хуткім крокам пайшла між белых плямаў ліхтароў, абы далей, абы ніхто не бачыў...

Чамусьці я зварочвала на сцяжынкі, па якіх мы з Юрасём не хадзілі — нібыта не хацела сустракацца з ягонымі слядамі... Вярэдзіла раздражненне — ну навошта ён зноў з’явіўся ў маім жыцці! Дапамагчы захацеў... Правільна Стэла сказала — старанны дурань... Хутчэй, хутчэй скончыць сваю працу — і выбірацца адсюль! Засталося ўсяго нічога — сфатаграфаваць гадзіннікі, расставіўшы па крузе. А быў у іх нейкі сакрэт ці не, і які — ну каму справа праз пяцьсот гадоў! Я ўжо не тая дзяўчынка, што гатовая была адразу ж ехаць у глухую вёску, спрачацца, угаворваць, дашуквацца — бо там мог захавацца ліст расстралянага паэта... Цяпер я працую на людзей, якім нашая гісторыя — толькі дыванок пад дзвярыма рэспектабельнай фірмы... Калісьці я з пенай на вуснах даказвала, што ніколі не напішу таго, што не думаю, што ў мяне ёсць прынцыпы і

духоўныя каштоўнасці... А вось зараз напісала дваццаць старонак пра тое, якім высакародным мецэнатам быў чалавек, які зруйнаваў старажытную вежу і даваў наркотыкі жонцы сябра... А Юрась? Наколькі змяніўся ён? На што ён здольны сёння? Вось яшчэ нядаўна я думала пра яго з жалем, з нейкім хваляваннем, а варта было западозрыць у злачынстве — і я ўнутрана аддзяліла сябе ад яго, здрадзіла яму... Не кахала я нікога ў жыцці, і мусіць, гэтага і не адбудзецца. Не валодаю я такім талентам... Каб — «і ложа, і пошасць адны на дваіх»...

У прыцемку нешта бялела. Я зразумела, што дабрыла да калонаў, якія засталіся ад зруйнаванай часткі палаца. Спатыкаючыся аб камяні і карэнне, я пайшла да гэтых сведкаў былой славы маёнтка... За калонамі святлела нешта, падобнае да маленькага храма. Альтанка! Таксама з калонамі, толькі меншымі, а галоўнае — з дахам! Самотны ліхтар асвятляў яе прывідным, сляпым святлом. Круглая, нібыта куфэрак, і нават рэшткі сценаў ёсць — між калонамі калісьці былі вітражы... Я паднялася па разваленых прыступках, ледзь не ўпаўшы. Сховішча ад ветру і дажджу ненадзейнае, але ўсё-ткі — абарона... Цікава, хто сядзеў у гэтай альтанцы пару стагоддзяў таму? Мне не было на што прысесці, я проста прыхінулася да адной з калонаў і паспрабавала ўслухацца ў сябе...

— Бомммм!..

Што гэта? Гук даносіўся з боку дома. Нібыта сотні маленькіх званоў гралі п’есу звар’яцелага музыкі. Гэта ж гадзіннікі! Юрась амаль усе адладзіў... А гадзіннікі ўсё білі і білі, і нават тут, у альтанцы, за сцяной ветру і дажджу, ад гэтага звону рабілася невымоўна тужліва, нібыта дзесьці ты пакінуў дарагое, апошняе, і калі неадкладна не памчышся туды, яно знікне, ужо знікае, і ўсё астатняе жыццё станецца пустым, як мёртвы вулей...

Гадзіннікі змоўклі... Але з дома пачуўся жудасны крык — ці чалавека, ці звера... Я яшчэ шчыльней прыціснулася да халоднай калоны. Крыкі паўтараліся праз роўны прамежак... Ды што ж гэта такое? Здавалася, прайшла вечнасць, пакуль яны сціхлі... Я асцярожна рушыла ў бок дома... І якраз паспела ўбачыць, як ахоўнікі і Макс садзяць у джып прафесара Зміцера Патапавіча. Прафесар рухаўся, як лялька, я толькі заўважыла, як у святле ліхтара бліснулі яго акуляры... Джып з’ехаў, і вакол запанавала жудасная цішыня... Толькі дождж барабаніў па блясе перад пад’ездам, ды калацілася маё сэрца, як маятнік сапсаванага гадзінніка...

З дзвярэй майго пакоя выходзіла тонкая постаць, захутаная ў чорны шаўковы халацік з чырвонымі драконамі. Стэла шукала мяне? Што здарылася?

— Проста мне стала страшна... — ціха патлумачыла мастачка, прытрымліваючы на грудзях крысо халата.— Гэты жахлівы звон... Юрась некуды пабег...

Стэла выглядала напружанай. Зрэнкі яе вачэй былі так павялічаныя, што вочы здаваліся чорнымі. Старажытныя рымлянкі спецыяльна для гэтага капалі сабе ў вочы аканіт, сок шалею, або красаўкі. Напэўна, лічылі, што гэта дадае ім таямнічасці. У мяне ж — пакідала адчуванне хворасці.

— Ну дык заходзьце да мяне,— запрасіла я. Але ў канцы калідора пачуўся голас Юрася.

— Стэла! Ну чаму ты выйшла з пакоя?

Мастачка раздражнёна скрывілася, але пакорліва пайшла да мужа.

Што яго зараз чакае — істэрыка або... чарговы сеанс бодзі-арту? Каб трохі перавесці думкі на іншы лад, я збегала ў вестыбюль, да шкляных шафаў, набітых ілюстраванымі часопісамі. Хапанула стос з самага верху... Самы час пачаць знаёміцца з бульварнай, чыста жаночай, прэсай. Ляжала ў ложку, гартала стракатыя, бліскучыя старонкі... Мяне настолькі не тычыўся свет, які з іх паўставаў — касметыка, панчохі, практыкаванні для фігуры — што нават вярталася іронія... Раптам я замёрла: дзесьці я бачыла гэтую мадэльку з нагамі даўжэй за восеньскі вечар, абцягнутымі панчохамі ў чорную сетачку, у гарэзнай спадніцы не больш за ліст гарлачыка, у капялюшыку і паласатым мужчынскім гальштуку на голае цела... Ды гэта ж Ліля! Баркунова ўдава! Вось табе маеш... Баркун жаніўся на мадэльцы... Ну, прынамсі, падобна, што ён не памыліўся так, як Юрась.

Хаця хто сказаў, што каханне, няхай з прымешкам горычы і безнадзейнасці, гэта памылка?

* * *

Мілавіца ззяла над цёмным вострым абрысам храма, нібыта ап’янелы бойкаю вой пусціў стралу ў неба, і яна прарвала чорны аксаміт смугі, за якой палае вечны блакітны агонь. Зусім не падобны на згубны агонь, падораны смяротным... У водблісках паходні, якую трымаў Богуш, твары людзей здаваліся злавесна змрочнымі, нібыта

гэта была чарга да Харонавай пераправы, калі гнеў, слёзы, як і колішняя весялосць, ужо нават не ўспаміналоцца. Але Богуш не верыў, што душы апошніх старавежцаў сталіся збуцвелай лістотай, што спяшаецца схавацца пад халодным снегам часу.

— Панове рада, мы павінны ісці на вежу! Гэта наш горад, нашая вольнасць. Няўжо шляхта дапусціць, каб прышлыя гвалтавалі яе нявестаў і дачок! Мы нападзем знянацку і раскідаем гэтых бенкартаў, як шалупінне, і вернем наш маястат!

— І ўсе загінем,— падаў голас руды маладзён з перавязанай хусткай шчакой.— І дзеля чаго? Ведама, ты за нявесту хочаш адпомсціць. Але ж войт сказаў — яе там няма! І я яму веру.

— І я веру! — адгукнуўся стары шляхціц у жупане, аздобленым палыселым лісіным футрам, з мячом, дзяржальна якога ўпрыгожвалі дыяменты, вялікія, як вока сарны, за кожны з якіх гаспадар мог набыць тузін сабаліных футраў.— Не стане Лаўрын спагадаць італійскаму нехрысцю. Мы з Рожай побач пад Грунвальдам біліся. Гэта — рыцар!

— Пан Рожа можа і не ведаць, што Бернацоні паланіў Анэту! — запярэчыў Богуш, і яго вочы — нават у цьмяным святле паходні было відаць — запалалі гневам.— Слова гонару — я бачыў Анэту ў акне вежы! Заўтра ж я прарвуся туды з мячом і здабуду праўду з іхніх паганых вуснаў! Рушым! Нас не так ужо мала — тут мо з паўсотні, а калі сабраць усіх, хто можа зброю трымаць — сотні дзве набярэм...

— Ты думаеш, усе, хто застаўся жывы, пойдуць за табой? — іранічна спытаў стары шляхціц.— Памыляешся. Паглядзі — у горад з'язджаюцца новыя насельнікі. Едуць майстры, едуць купцы... Пустыя дамы ачышчаюцца ад пошасці і сустракаюць новых гаспадароў. Калі мы ўсчнем новую бойку, што станецца? Зноў пустэча? Ты забыўся, што на Старавежск у любы дзень могуць напасці татары, што карачунскі князь ужо дасылаў сваіх выведнікаў... Кажуць, у пушчы бачылі іх атрад. Вычэкваюць, як каршукі. Хто абароніць горад, калі ўнутры яго пераб'юцца? Не займайся пашчаваннем, звадай, Радчыц... Радуйся, што Бог злітаваўся над табою і даў перажыць пошасць...

— А ці тая пошасць не з дапамогі паганага лекара пачалася? — гнеўна ўскрыкнуў Богуш.

Шляхта загула...

— Праўда, як прыехаў паганец — адразу шалёны карагод затанчыў... Без ведзьмака не абышлося...

— Ну дык што, панове рада,— адчайна спытаў Богуш,— мы пойдзем на вежу?

— Не...— прагучаў сумны голас, і ўсе ўражана змоўклі. Бурмістр — пан Варава Ляскевіч, падышоў да Радчыца, паклаў яму на плячо цяжкую, натружаную ў шматлікіх бойках, руку.— Прабач, сыне... Так, я быў бы рады назваць цябе сынам,— голас старога рыцара здрыгануўся.— Але, відаць, ужо не станецца... Ты так і не навучыўся думаць, што вынікае з тваіх дзеяў. Не заўсёды першае парыванне — лепшае! Я веру Лаўрыну Рожы. Я таксама быў на Грунвальдзе. І, калі Лаўрын прысягае... Маю дачку паклікаў да сябе Гасподзь. Таму не варта дабіваць горад, Богуш. Мы павінны застацца жывыя і ў свой час прыйсці на сойм, і каб нашыя зноў патрапілі ў раду і там змагаліся за вольнасць горада.

Паны ўхвальна зашумелі, не слухаючы больш адчайных заклікаў маладога рыцара.

— Панове рада... Вашая вольнасць... Ваш гонар... Слова маё... Анэта жывая! Анэта ў вежы!

Мілавіца абыякава ззяла над цёмнымі вострымі дахамі места, не зважаючы на рэдкія агні ўнізе, якімі людзі спрабавалі адваяваць у начы кавалачак свайго жыцця.

— Вядома, паненка ў вежы... Хе-хе-хе... Дзе ж ёй яшчэ быць?

Госць падышоў так ціха, нібыта не на чалавечых нагах. Старавежцы рассунуліся ўбок, прапускаючы ў кола, асветленае паходняй, скурчаную хударлявую постаць.

— Ты бачыў яе? — голас Радчыца гучаў амаль умольна.

— Бачыў. Лекар трымае яе ў малым пакоі па левую руку ад соймавай залы.

Таму, хто абрынуты ў цень, прыемна часам стацца каменьчыкам, ад якога ідуць вялікія кругі па вадзе. Карэйва, выскаліўшыся, слухаў крыкі вакол.

— Значыць, Рожа зманіў мне? — сурова спытаў Ляскевіч. Карэйва пакруціў галавой.

— Хе-хе-хе... Войт нічога не ведае. Бо дзяўчына — апантаная.

Пры апошніх словах блазна людзі ўстрывожана змоўклі.

— Ты маніш! — Радчыц сунуў камусьці сваю паходню і схапіўся за дзяржальна мяча.— Ты маніш, як сапсаваны варган!

— Хе-хе-хе! — у смеху Карэйвы гучала пагроза.— Не забывайся, вельмішаноўны, я — рыцар. І шляхецтва мяне аніхто не пазбаўляў. І

хаця твая спіна прамейшая за маю, меч я выхопліваю хутчэй, чымся ты, смаркач.

— Пан Радчыц, ахалонь! — стары шляхцюк адсунуў Богуша ад прыхадня.— Кажы, як ёсць, блазан!

Карэйва агледзеў цёмныя твары старавежцаў, на якіх скакалі чырвоныя адбіткі полымя.

— Бачыў я дзяўчыну, якая танчыла ў шалёным карагодзе і выжыла. Яна ўжо не такая, якой вы памятаеце яе. Лекар вылечыў ейнае цела, каб зрабіць дапаможніцай у сваіх вядзьмарствах. І войта не прасіце... Хто ведае, магчыма, лекар ператварае дзяўчыну ў котку ці ў птушку... Загадае пан Лаўрын абшукаць пакоі — а дзяўчыны няма... Хе-хе-хе... Супраць лекара войт без дазволу Вялікага князя не пойдзе. Вырашайце самі, што будзеце рабіць, панове... Я сказаў...

Цёмная постаць знікла ў начы.

— Хто пойдзе са мной раніцою на вежу? — закрычаў Богуш.

— Я, вядома...— пан Варава стаў побач з маладым рыцарам.— Хто з намі?

Азвалася з дзясятак шляхціцаў. Але большасць не хацела біцца за апантаную. У кожнага меліся свае памерлыя, свае дарагія, што не маглі ачомацца ад хваробы... А змагацца з чарамі — справа святароў. Зорка Мілавіца сыпала халоднае блакітнае сяйво на невялікую купку людзей, што не хацелі разлучацца са смерцю. Пан Варава сумна абвёў іх вачыма. Самыя лепшыя і сумленныя... Гэта значыць, што хутка на іхняй зямлі такіх застанецца яшчэ менш.

— Дзякую, панове... Як развіднее, мы пойдзем на пляц і станем патрабаваць ад Рожы аддаць маю дачку і пакараць лекара. А калі ён не паслухае... Нам застанецца слаўна памерці.

Богуш сурова звёў бровы і падняў да Мілавіцы вочы, гэткія ж сінія, як яе святло, нібыта заклікаючы ў сведкі.

— Я абяцаю, пан Варава, што войту давядзецца прыслухацца да нашых словаў. Любым коштам! Але прашу пачакаць яшчэ дзень.

— Што ты задумаў? — спытаў пан Варава. Але Радчыц толькі ўпарта бліснуў вачыма.

— Праз дзень, на досвітку, мы збярэмся тут і вернем сваю вольнасць!

Малады рыцар рэзка павярнуўся і сышоў. Мілавіца глядзела яму ўслед.

* * *

— Іх будзе тры тузіны… Не больш…

Дзве постаці шапталіся ля акна вежы. У прывідным святле далёкіх зорак відаць было толькі, што адзін з суразмоўцаў — каржакаваты, вялікі, другі — сагнуты ў крук.

— Нашто ты гэта зрабіў?

— Тс-тс-тс… Забыўся, што табе сказаў Вялікі князь?

— У мяне памяць не адбіла. Я мушу выконваць усё, што ты кажаш. Але я не разумею…

— Хе-хе-хе… Нашто табе ўсё ведаць і разумець, войт… Для гэтага ёсць я… Смешны, бяскрыўдны, усюдыісны… Князю не патрэбныя ведзьмакі, якіх усе ненавідзяць, Лаўрын. Князь хоча стаць каралём, яму трэба літасць папы… А Бернацоні, калі ты не ведаеш, уцёк у Прагу з Італіі, бо яго абвінавацілі ў чараўніцтве. Ерэтыкі і валхвы, нават калі яны саслужылі сваю службу, мусяць сысці ў цемру, не плямячы светлы воблік уладара. Няхай бунтаўнікі ўвойдуць у вежу… Хе-хе-хе… Няхай заб'юць лекара… А твае людзі заб'юць іх.

Каржакаватая постаць адхінулася ўбок.

— Я ведаю многіх старавежцаў… Гэта слаўныя рыцары…

— Хе-хе-хе! Кожнаму быў дадзены выбар! Тыя, што прыйдуць — самі абралі смерць і шлях здрады. Гнілы зуб варта вырваць. Князь наш створыць вялікае і моцнае каралеўства, на вякі. А я — князеў нявартыі слуга… Каб не ён — я знік бы, скалечаны, абрабаваны, без сэнсу ў жыцці… Ты пахіснуўся ў вернасці сваёй, Рожа?

— Хутчэй згіну.

На нейкі час запанавала цішыня, нібыта двое прыслухоўваліся, ці ноч пакорліва паглынула прамоўленыя словы, ці не ператварыліся тыя словы ў нешта асобнае, жывое і агіднае, як вужакі…

— А што рабіць з дзеўкай, калі лекар яе не заб'е?

— Хе-хе-хе… Ты аддасі яе мне…

Каржакаватая постаць пагрозна варухнулася. Шэпат ледзь не ператварыўся ў крык.

— Ах, ты юрлівая пачвара…

— Ціха, ціха…— зашаптаў прыгорблены.— Нікому не дам забіць небараку. І сам не пакрыўджу. Я адвязу яе ў Вільню, у кляштар. І маетнасць паненкі не замай! Князь апякуецца сіротамі…

* * *

Анэта ў каторы раз чытала псалом... «Акрапішы мя ісопам, і ачышчуся, амыешы мя, і пачэ снега ўбялюся... Вздаждзь мі радасць выратавання Твайго і духам Уладарным сцвердзі мяне... Навучу беззаконныя шляхом Тваім, і нечасцівыя да Цябе звернуцца...»

Промні кволага лістападаўскага сонца, што прабіваліся скрозь шчыліны між дошак, якія захіналі акно, ледзь маглі асвятліць стары пергамент. Буквіцы, выведзеныя дзесьці ў кляштары няспешнай рукою мніха, яшчэ ззялі барвай і пазалотай, нібыта восеньская лістота. Анэта не хацела думаць, што пройдуць гады, а можа, вякі, і гэтыя фарбы паблякнуць, выцвітуць, як тая лістота, і святая кніга таксама ператворыцца ў пыл... Страшна было пра гэта думаць... Але смерць усё яшчэ танчыла навокал, і нагадвала — няма нічога вечнага на зямлі... Словы, што ты прамаўляеш — застануцца. А вусны, якімі ты іх прамаўляла, літары, па якіх слізгалі твае вочы, ты сама, гэтая вежа, гэты горад ператворацца ў пыл. Як усе, каго любіла...

У траўні яны з Богушам змовіліся і ўцяклі ў лес на таемнае святкаванне Клескуна. Святар заклікаў на казані ў царкве супраць таго, каб гараджане хадзілі на паганскія святы. І бацька забараняў. Але Анэта і Богуш былі такія маладыя, гэта здавалася гарэзнаю гульнёй, якую Усемагутны Гасподзь прабачыць... Калі Анэта была малая, нянька расказвала ёй пра Клескуна, вясёлага і разгульнага хлапца, ён жыў калісьці на небе і вадзіў месяц, седзячы на ім вершкі. То светлым бокам паверне яго, то цёмным... Але неяк адлучыўся Кляскун да каханай дзяўчыны, і Пярун абрынуў яго за гэта на зямлю... Толькі адбітак твару юнака на Месяцы можна разгледзець...

Як было дамоўлена, Анэта вылезла праз акно, і яны з Богушам пабеглі, выбіраючы непрыкметныя сцежкі, зважаючы наводдаль у яркім святле поўні самотныя постаці, што гэтак жа, хаваючыся, кіраваліся да лесу. Блакітнае сяйво залівала голле соснаў і высокую траву... І, вядома, менавіта Богушу надзелі на галаву вянок з травеньскіх кветак, і ён на цэлую ноч стаў Клескуном, і ніводная дзяўчына не магла яму, павадыру Месяца, у гэтую ноч адмовіць... Але Богуш глядзеў толькі на Анэту. Яны круціліся ў карагодзе, і не мела значэння, хто ты — князь або халоп, хрышчаны ў імя Святога Духа або паганец, і спявалі: «Кляскун, Кляскун, клясь, клясь...»

Сяйво месяца і водар зёлак, зоры ў траве ці раса... Сплятаюцца рукі, зліваюцца цені... І сплятаецца побач у траве кубло залатых змей... Ці не стаў шалёны карагод смерці расплатай за той, у

травеньскім лесе? Як пасля лаялі іх, блазнюкоў, бацькі — не ўдалося схаваць свой учынак. Анэта два тыдні прасядзела дома, пад замком, у малітвах... «Акрапі мя ісопам, і ачышчуся...» Як расплаціўся за свае легкадумныя паводзіны Богуш — Анэта ніколі не распытвала. Але, мусіць, яму давялося горай, чым ёй. Сама яна шчыра пакаялася, і з жахам уяўляла, як незваротна для яе магло скончыцца баляванне на паганскім свяце, і каму служаць насамрэч падчас гэткіх ігрышчаў... Яна старалася не ўспамінаць пра тую чмуту... Толькі часам, начамі, водар далёкай травеньскай начы ўзгадваўся салодкай грахоўнай трывогай...

Цяпер у Анэты хаця б ёсць на памяць адбітак твару прыўкраснага юнака на Месяцы...

Дзверы пакоя расчыніліся. Лекар захінаўся ў зялёны плашч, падбіты сабаліным футрам, нібыта яму было холадна. Анэце раптам зрабілася страшна — бо госць глядзеў кудысьці праз яе, нібыта яна была празрыстым кавалкам лёду.

— У гэтым горадзе больш нельга заставацца.— Бернацоні падціснуў вусны, і Анэта раптам зразумела, што ён устрывожаны і ўсхваляваны, як ніколі.— Зоркі паўсталі так, што прарочаць няшчасце, агонь, боль...

— Дык адпусці мяне! — дзяўчына не пракрычала гэтыя словы, а прашаптала, і яны нібыта адразу бяссільна ўпалі на падлогу, як мокры снег.

— Вакол мяне скача смерць...— горка прамовіў Бернацоні, зноў звяртаючыся нібыта да самога сябе.— Я ператварыў яе ў сваю служку, пасадзіў на ланцуг, як злога сабаку, і яна здабывала мне патрэбнае... А можа, гэта яна трымала мяне на ланцугу? Колькі можна беспакарана слугаваць смерці? Пераступі праз тысячы тысячаў наўцоў — і аб нейкага, тысяча першага, спатыкнешся. Я загадаю спакоўваць мае гадзіннікі, донна. Дзякуючы табе, яны больш ніколі не схібяць. Ты паедзеш са мной.

— Куды? Навошта? — Анэта адчувала, што пачынае дробна дрыжэць, быццам шклянка на стале ад бою гадзінніка, і, шукаючы дапамогі вышэйшых сілаў, паклала руку на раскрытае Евангелле.

— У вялікі свет, маленькая дзікунка... Да вялікіх ведаў.

— Я не паеду,— Анэта намагалася, каб у голасе не прагучала і ценю боязі.— Ты страшны, акрутны чалавек, лекар... Ты знішчыў волю майго горада. Ты знішчыў маю волю...

Бернацоні сумна ўсміхнуўся.

— Воля, воля… Ты зноў гаворыш пра тое, чаго не ведаеш. Успомні абарончыя валы вакол твайго горада… Магутныя, высокія… А ты ведаеш, хто іх насыпаў? Каго магістрат гвалтам пасылаў на «валовую работу»? Бедакоў, што не маглі выплаціць «падымнае», непачцівых жанчын, што пайшлі ў самадайкі, калі іх дзеці з голаду пухлі, лёзных людзей, свавольных рамеснікаў… Прыйдзе жабрак у вашае слаўнае места — а яго «на вал», капай зямлю пад дажджом ды бізуном цівуна… Запярэчыць шавец або рымар супроць цэхавога майстра — на вал… Як ты думаеш, для гэтых людзей твой Старавежск таксама — вольны горад?

Анэта разгублена маўчала. Бернацоні лёгка прайшоўся па пакоі, нібыта лемпард.

— Воля… Скуль ты можаш ведаць пра волю, жывучы ў гэтым забытым Госпадам куце… Тут цябе адно што заб'юць, як апантаную. А ты можаш мне яшчэ дапамагчы.

— Я не хачу дапамагаць табе ў тваіх чарах! — запярэчыла Анэта.

— Зноў ты пра чараўніцтва, маленькая дзікунка…— раздражнёна сказаў Бернацоні.— Мне патрэбны адвар, які я яшчэ не склаў да канца. Мая праца не скончаная, і твая таксама. Я выведу цябе адсюль незаўважна. Рыхтуйся…

— Я застануся!

Але дзверы ўжо зачыніліся.

* * *

Я сядзела, бяссіла апусціўшы галаву на стол, завалены паперамі. Тахканне адрэстаўраваных Юрасём гадзіннікаў у суседнім пакоі малявала ў маёй беднай галаве выразную карціну: хвілі падаюць жалезнымі кроплямі на каменную падлогу, падскокваюць, коцяцца, сутыкаюцца, як більярдныя шары, і вось ужо ўся падлога засыпаная імі, бліскучая звонкая гара вырастае да столі, вось-вось засыпле мяне халодным важкім цяжарам… Так і ў беднага прафесара мазгі «паехалі»… Як патлумачыў за сняданкам Макс, чарговае абвастрэнне шызафрэніі. А цяпер са мной нядобрае…

Псіхічныя захворванні сапраўды заразныя…

— Што з вамі, дарагая паненка?

У голасе Макса, здавалася, гучала непадробная трывога… Гэта было нашмат лепш, чым ягоны звычайна бадзёры тон. Я падняла галаву, правяла далонямі па твары, сціраючы начныя жахі. І

нечакана загаварыла пра тое, што аніяк не хацела з некім абмяркоўваць.

— Скажыце, гэта праўда, што калі сны паўтараюцца, гэта прыкмета шызафрэніі?

Калі Макс і здзівіўся, то змог гэта не паказаць. Ён прысеў побач на офіснае шэрае крэсла і іранічна ўсміхнуўся.

— Калі б вы ведалі, колькі ў кожным з нас таго, што ўрачы ў розны час лічылі сімптомамі шызафрэніі, вы б здзівіліся. Людзі проста палохаюцца ўсяго, на іх погляд, незвычайнага, асабліва што тычыцца ўласных адчуванняў. А ёсць такая з’ява, як галюцыянацыі ў зусім здаровых — напрыклад, калі прачынаешся... Расплюшчваеш вочы, а ўзоры на шпалерах ажываюць, ці бачыш у іх чыесьці аблічча... Я, дарэчы, часта сню адны і тыя ж сюжэты. Праўда, калі верыць Юнгу ды ягоным паслядоўнікам, то тых сюжэтаў усяго некалькі на калектыўную падсвядомасць чалавецтва.

Макс прыязна пазіраў на мяне, пакручваючыся ў крэсле. Позірк шэрых вачэй з доўгімі вейкамі то гарэзны, то даверлівы... Светлыя валасы ўкладзеныя ў мастацкім непарадку з дапамогай геля. Шэры гольф, светлы пінжак, нагавіцы з акуратна выпрасаванымі стрэлачкамі... Стыльны мужчына. Разумны і іранічны. Мімаволі ўспомніўся Юрась з ягонымі працёртымі на локцях швэдарамі, вечнымі джынсамі і няшчаснасцю. Як добра, што былы муж так і застанецца для мяне былым... Разам з усімі сваімі жыццёвымі няўдачамі.

— Ганна, прабачце за нахабства, але што за сны вы бачыце?

Макс, не дачакаўшыся ад мяне добраахвотнага працягу спавядання, падахвочваў да шчырасці. Што ж, ён, відаць, не такое чуў...

— Сніцца сярэднявечча... Нібыта я — дзяўчына, якую замкнулі ў вежы. Але ўсё так сцерта... Як у кепскім фільме. Танныя дэкарацыі, танная рамантыка... А момантамі — рэальна, аж да жаху. Памятаю, у маіх снах ёсць блазан з сагнутай спінай... Ён увесь час смяецца. Злая жанчына з цёмным, сухім тварам... Прыгожы рыцар, якога да мяне не пускаюць. А яшчэ нейкі ці доктар, ці астролаг у цёмным... Часам гэта ўсё прывязваецца да рэальнасці — доктар здаецца мне тым самым Бернацоні, якому належалі гадзіннікі... Вежа — Старавежскай ратушай... Праўда, апошнім часам забываю, што сніла... Толькі ўражанне застаецца — змрочная готыка. Прачынаюся ўся змучаная...

Я змоўкла, баючыся падняць вочы на пана псіхолага. Ягоны вясёлы смех змусіў мяне падняць вочы. Макс нахіліўся да мяне.

— Вашыя сны — проста падарунак... для падручніка па псіхааналітыцы. Такія... тыповыя. Дакладней — архетыповыя. Не буду нагрувашчваць вас тэрмінамі, але, скажам, блазан падобны да Трыкстэра, аднаго з архетыпаў, апісаных Юнгам. Ён увесьчасна крыўляецца, не добры і не злы, але можа парадзіць, дапамагчы... Ці ўчыніць брыду. Так?

Я моўчкі кіўнула галавой. Макс усміхнуўся і працягваў:

— Доктар у чорным — безумоўна, гэта Персона... Тая частка вашай асобы, якую вы лічыце галоўнай, і якая насамрэч — вашыя забабоны, ваша няздзейсненае славалюбства, жаданне добра выглядаць у вачах іншых... Ён вамі камандуе, вы — у ягонай уладзе, хочаце вызваліцца, але вам не хапае моцы... Так?

Я заспяшалася сказаць самае патаемнае, што мяне мучыла.

— Ну калі я не звар'яцела... Можа, я ўспамінаю нешта... з мінулага жыцця?

Макс загаварыў нечакана сярдзіта:

— Ну не чакаў ад вас такога... Адразу выкіньце падобны блёкат з галавы. Рэінкарнацыя... Душа паслухмянага баабаба перасяляецца ў крэветку. Як вы можаце ў такое верыць? Вось жа на вас срэбны крыжык... Вы хрысціянка?

Я вінавата апусціла галаву.

— Хрысціянка... Але мне страшна... Я не разумею, што са мной адбываецца...

— Тое, што з усімі, хто доўга хаваецца ад сваіх праблемаў,— гэтак жа сярдзіта сказаў Макс.— Гэтыя праблемы знаходзяць іншую форму, каб дастукацца да свядомасці. У вашым выпадку — праз сны. У іх непазнавальна змяняецца знаёмая рэальнасць, сінтэзуецца з некалькіх вобразаў — адзін. Вы бачыце сябе замкнёнай у вежы... Гэта з-за артыкула пра вежу ў вас пачаліся непрыемнасці? Прабачце, але мне тое-сёе пра вас расказваў пан Янчын.

— Так...

— І ў жыцці вы не знайшлі годнага выйсця з сітуацыі. Вось вам і сімволіка... Вечарам прыходзьце да мяне ў кабінет, гэта на другім паверсе. Пагаворым, падумаем... Ігар, наш ахоўнік, правядзе да мяне.

На другі паверх пасля ўрачыстага абеду ў дзень прыезду мы ніколі не хадзілі. Нашае месца — у былых пакоях для прыслугі. Але нават з-за цікаўнасці патрапіць на «панскі паверх» да «псіха» ісці не збіраюся.

Вось скончу сваю працу — і дахаты... Хай Юрась адзін важдаецца... Цікава, ён праўда, як сказаў мне за сняданкам «чалавек небяспечнай прафесіі» Ігар, паехаў разам са Стэлай у царкву на нядзельную службу? Такі вернік стаў... Што ж, няхай Гасподзь дапаможа ім абодвум... І мне б не пашкодзіла паехаць з імі. Калі я апошні раз была ў царкве? На Вялікдзень, мусіць. Не дзіва, што цемра сабралася на душы...

Так, вырашым апошнюю загадку. Няхай Аркадзь выявіўся цынічным нягоднікам, але — кінуць працу, адмовіцца ад грошай? Калісьці я б так і зрабіла, нават з-за адной знявечанай вежы. Але цяпер не знаходзіла ў сабе стрыжня, які б утрымаў мяне ад жадання схіліцца перад абставінамі. Хаця мне ўсё менш падабалася, што гаспадары цікавіліся адно доследамі з гадзіннікамі, тым, што я пра іх перакладала, перапытвалі, прыспешвалі, кантралявалі, а пра Аркадзя нібыта і забыліся.

Я расклала на стале паперы з запісамі. Мы маем дванаццаць гадзіннікаў. Кожны названы ў імя аднаго з дванаццаці апосталаў. У якой чарговасці звычайна згадваюцца вучні Госпада? Так, як іх паклікаў Гасподзь? Першымі былі Пётр і яго брат Андрэй, рыбары... Пасля — зноў браты, Якуб Зевядзееў і Ян. Потым — Піліп, Баўтрамей, Тамаш, мытар Мацей, Якуб Алфееў, Тадэвуш, Сымон, і апошні — Юда... Ці магла быць іншая чарговасць? Я яшчэ раз прайшлася па інтэрнэтаўскіх сайтах, трапляючы то на форум прыхільнікаў готыкі, то да акварыумістаў: «Мая залатая рыбка ляжыць на баку, вочы вырачыліся, а хвосцік падкурчаны...» І нарэшце на сайце аматараў эзатэрыкі напаткала табліцу, дзе кожны апостал звязваўся з пэўным знакам задыяка. Чарговасць была трохі іншай... Пётр — Авен, Андрэй — Цяля, Якуб Зевядзееў — Блізнюкі, Ян — Рак, Тамаш — Леў, Якуб Алфееў — Дзева, Піліп — Вагі, Баўтрамей — Скарпіён, Мацей — Стралец, Сымон — Казярог, Тадэвуш — Вадалей, Юда — Рыбы... Да таго ж усё ўвязвалася са стыхіямі, рэчывамі, колерамі, каштоўнымі камянямі... Гэта, вядома, блюзнерства. Асабліва для сярэднявечнага хрысціяніна. Што было важней для Бернацоні — слова Святога Пісання або астралогія? Я ўявіла лекара... Падобным да таго, чорнага лекара маіх сноў. Пранізлівы погляд чорных вачэй, строгія вусны... Амаль Калыванаўскае аблічча! Уявіла, як ён зацята паводзіўся падчас допытаў інквізіцыі... Сярэднявечная Прага — горад магаў. Лекар на той час абавязкова мусіў быць і астролагам. Як там у вершы Максіма Багдановіча:

Скарына, доктар лекарскіх навук,
У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры.
Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук
Скарыны п’е адвар пан земскі пісар хворы.

А Бернацоні быў не шараговы лекар... Значыць, і вядомы астролаг. І наш Вялікі князь напэўна зацікавіўся ўменнем пражскага італьянца чытаць зоры. Таму, калі ўжо Бернацоні даў гадзіннікам імёны апосталаў, мог прывязаць іх і да знакаў задыяка...

Бразнулі дзверы. Юрась зайшоў у мой кабінет. Сінія вочы з-пад прамых броваў глядзелі проста, адкрыта... Не, не можа быць, каб гэты чалавек быў забойцам! Дамагурскі маніць не ўмеў. Калі б сапраўды давялося ўчыніць смяротны грэх — спакутваўся б, як Радзівон Раскольнікаў... Хаця нешта яго вярэдзіць... Але ж зараз, наколькі я яго ведаю, ён мне пра гэта раскажа.

— Табе шмат засталося працы? — ён чакаў адказу з незразумелай мне трывогай.

— Лічы, скончыла! — пераможна заявіла я і распавяла пра сваю задыякальную гіпотэзу. Юрась кіўнуў галавой, але неяк без асаблівага энтузіязму.

— Так і было... Ты малайчына! Ведаеш, Стэлу адправіў дадому... Сама папрасілася. Нават згадзілася ў клініку заўтра ж пайсці. Я быў заплаціў грошы за першы курс лячэння, маці адвядзе яе... І цябе добра было б дадому адправіць...

Я раздражнёна глядзела на ягоную схіленую галаву з цёмным вожыкам, прысыпаным на скронях сівізной, на сашчэпленыя рукі са збітымі на костачках пальцамі — механік...

— Я не бандэроль, каб мяне адпраўляць.

Юрась падышоў да дзвярэй, чамусьці зазірнуў за іх — што, думае, нібыта нас падслухоўваюць? — і ціха прагаварыў.

— Ведаеш, што Зміцера Патапавіча ўчора забралі ў клініку?

— Ведаю. Чарговы прыпадак шызы. Ну і што?

Дамагурскі трывожна ўздыхнуў.

— Прафесар усё казаў, што блізкі да разгадкі, што пан Калыванаў будзе задаволены, нёс нейкую ахінею пра сусветны парадак, які без Калыванава прападае... Дарэчы, я даўно заўважыў, што ні прафесар, ні гэты лялечны Макс мне шмат чаго не расказваюць... Я адрамантаваў амаль усе гадзіннікі. Дык вось, Зміцер Патапавіч і

вырашыў, што ўжо можна праводзіць эксперымент. Прыйшоў сюды ўвечары, сам, нікому нічога не сказаўшы, паставіў гадзіннікі на бой, вакол сябе шклянкі, чаркі... Тут, у падвале, яго і знайшлі. Мне гэта не падабаецца. Не для добрай справы Бернацоні ладзіў свае д'ябальскія машыны.

Я паціснула плячыма.

— Гукі ад іх непрыемныя... Але ж нездаровы чалавек ад іх звар'яцеў. Не перабольшвай.

Юрась зноў панурыўся.

— Ведаеш, дай мне твой спіс, як гадзіннікі расстаўляць...

Я рассмяялася:

— Хочаш за Зміцерам Патапавічам адправіцца?

Але былы муж жарту не падтрымаў, узяў з маіх рук аркуш і пайшоў корпацца ў старадаўніх жалязяках.

У маім так званым кабінеце вокнаў не мелася, і ад таго мне ўвесь час мроіўся позні вечар і прыцемак стомы і безнадзейнасці... Таму ў светлым калідоры маёнтка — лістападаўскае сонца было нечакана шчодрым, як скупеча перад смерцю,— я ледзь не засмяялася ад радасці. Воля! Макс таксама радасна ўсміхнуўся, беручы тэчку з маім артыкулам і дыскету.

— Цяпер справа за лепшымі дызайнерамі! Я зараз жа адашлю гэты тэкст Ліліі Пятроўне, думаю, яна пачытае, не бавячыся... Так што пачакайце з ад'ездам да заўтра — можа, будуць якія заўвагі. Дарэчы, тая літаратура, што вы карысталіся... Вы пакінулі апошнія пераклады ўрыўкаў, што тычацца Старавежска, Бернацоні і гадзіннікаў?

— Так. Усё ў асобным файле, і раздрукоўкі ёсць.

— Тады адпачывайце, дарагая! А ўвечары ўсё-ткі зайдзіце... Пагаворым. Паверце, я някепскі спецыяліст!

Макс на імгненне прыабняў мяне за плечы і пайшоў, пакінуўшы на памяць пах дарагой парфумы... Відаць, і з кліентаў бярэ дорага... А тут — халява. Але я ўсё-ткі не збіралася ёю карыстацца. Калі мне захочацца да споведзі, я лепш у царкву пайду.

Я ніколі не вызначалася ахайнасцю, таму за два тыдні мой пакойчык змог дастаткова да мяне прыстасавацца. Цікава, якая-небудзь пакаёўка альбо лёкай, якія жылі тут у даўнейшыя часы, мелі права вось гэтак кінуць мокрую куртку на крэсла ці загрувасціць паперамі стол? Я скідвала ў сумку рэчы, разважаючы, ці зняць мне па вяртанні ў сталіцу новую кватэру, ці заплаціць

ранейшай гаспадыні, ці, можа,— калі раптам заплоцяць больш, чым абяцалі — выкупіць які катух? Можна грошай дапазычыць. Маці аддала б назапашанае, цётка… А я на сталую працу пайду… У якое-небудзь задрыпанае перакладчыцкае бюро, дзе не паглядзяць, што ў мяне няма лінгвістычнай адукацыі.

Я пачала намацваць канверт з запаветнай тысячай, па-стараславянску, здаецца, «цьмой», гэта ж трэба — цьма грошай! — але мая цьма кудысьці завалілася. Што ж, сама вінаватая… Напхала рэчы абы-як. Я вывальвала па частках змесціва сумкі, паўтараючы постмадэрновы верш расейскага паэта Вазнясенскага: «Матьматьматьматьма…» Нарэшце ўсе мае рэчы апынуліся на ложку. Куды ж я падзела канверт? Больш-менш цярпліва перагледзела ўсё — пустую сумку, рэчы, пакой… Са мной гэта не можа здарыцца — колькі разоў даводзілася паўтараць сабе гэтую фразу. Памятаю, на занятках ізастудыі ў доме культуры майго мястэчка мы рабілі выцінанкі. Я можа цэлы месяц выразала з чорнай паперы карункавы ўзор — русалкі, водарасці, рыбкі. Заставалася гэтую прыгажосць прыклеіць на светлы фон. Кіраўнічка раздала нам слоікі, быццам са смятанай — адмысловы клей… І папярэдзіла, што ў адным са слоікаў можа быць фарба. Як мы смяяліся над магчымым няўдачнікам! Як гэта пераблытаць фарбу і клей! Пакуль я, прамазваючы ў каторы раз сваю выцінанку непаслухмяным белым рэчывам, не ўсвядоміла, што смяяцца зараз будуць з мяне…

Пакамечаная, спэцканая выцінанка апынулася ў сметніцы. У ізастудыю я больш не хадзіла.

Цяпер, падобна, мне заставалася зрабіць выгляд, што ніякага авансу я не атрымлівала. Уяўленне малявала неверагодныя карціны маёй нягегласці, у якія адразу ж верылася. Я выпадкова выкідваю канверт з тысячай даляраў. Я перахоўваю яго некуды і забываюся куды… Разявака…

У дзверы пастукалі. Ну што вам трэба? Мяне няма… Юрась за дзвярыма вымавіў:

— Анэта! Выходзь, трэба перамовіцца… Ну калі ласка…

Гэты, падобна, не адчэпіцца. Я адчыніла дзверы. Юрась толькі зірнуў на мой твар:

— Што здарылася?!

З мяне ніколі не выйдзе ані свецкая дама, ані самавітая чыноўніца. Я чытала пра нейкага малюска, у якога ўсе вантробы звонку. Гэтак жа і ўсе мае эмоцыі. Не надта эстэтычна. Але я

пастаралася прамовіць як мага больш весела — што, напэўна, выглядала вартым жалю:

— Ды вось, сунула кудысьці свой аванс... Не магу знайсці.

Юрась уважліва паглядзеў на мяне і неўразумела перапытаў:

— Ты што, прыцягнула сюды грошы, якія табе заплаціла Ліля?

— А куды мне было іх падзець? — раззлавалася я.— У чужой кватэры пакінуць? І ўвогуле я пра гэта не задумвалася.

Дамагурскі пастараўся схаваць неадабральнае здзіўленне — урэшце, сам такі! — і захацеў падрабязнасцяў... Калі апошні раз бачыла канверт, хто да мяне заходзіў, ці зачыняла дзверы... Твар ягоны ўсё змрачнеў і змрачнеў.

— Прабач, мне трэба патэлефанаваць...

І пабег некуды. Я ледзь не заплакала ад крыўды — і на ягоную няўвагу, і на сябе, і на лёс... Кінулася на ложак, накрыты коўдрай з белага атласу, і пачала шкадаваць сябе. Не ведаю, колькі часу мне ўдалося аддавацца гэтаму плённаму занятку, здаецца, спынілася на думцы пра ўтульную хацінку могілкавага вартаўніка, як магчымае месца працы,— але раптам дзверы без стуку расшугнуліся, і ў пакой уваліўся Юрась. Былы муж, напяты, як быццам яго нехта збіраўся ўдарыць, глядзеў у падлогу.

— Не перажывай, Ганна. Грошы табе вернуцца ў бліжэйшы час. Убачымся заўтра, а пакуль выкінь гэта з галавы. Усё, да пабачэння.

Я нічога не разумела.

— Ты што, з’язджаеш?

Юрась па-ранейшаму глядзеў у падлогу.

— Трэба ў Мінск падскочыць. А ты ідзі, павячэрай. Павер, усё будзе добра. Гэта проста... непаразуменне.

І пайшоў. Я ў разгубленасці сядзела на ложку. Юрась што, ведае, куды падзеліся мае грошы? Чаму ён вяртаецца ў Мінск? Раптам мне стала горача ад раптоўнай здагадкі. Стэла! Яна ж аднойчы выходзіла з майго пакоя. Жанчына, у якой дзве асобы — цёмная і светлая... Так, яна магла ўзяць канверт. І, відаць, падобнае здараецца не першы раз. Вось прыкрасць...

Мы вячэралі ў маленькім пакоі з эркерным акном. Макс, якому Юрась, відаць, нешта патлумачыў, выбраў для мяне з рэпертуару сваіх усмешак самую зычлівую. Я абвяла вачыма кампанію. Ахоўнікі, чарнявы Ігар і руды Анатоль, у аднолькавых брунатных швэдарах, елі моўчкі, ні на кога не гледзячы. Трэці ахоўнік, таўстун, нібыта барэц сумо, відаць, быў «у каравуле». Я ведала, што ў доме ёсць яшчэ людзі

— дзве пакаёўкі, немаладыя кабеты, падобныя да настаўніц, шафёр, які прывёз нас сюды, прылізаны хлопец з тонкімі чорнымі вусікамі, як у артыста нямога кіно Макса Ліндэра. Яшчэ нейкі мужык, нібыта адстаўны ваенны, сачыў, каб лямпачкі гарэлі, і карціны віселі на сваіх цвіках... Нехта гатаваў нам есці, мыў бялізну... Толькі цяпер я пачала ўсведамляць, як гэта складана — мець маёнтак. Як там «Літоўская гаспадыня» раіла: «Кожны з лёкаяў і слуг мусіць выконваць пэўную частку работы. Напрыклад, адзін адказвае за буфет... Другі лёкай мусіць прыбіраць пакоі, падмятаць і наглянцоўваць падлогу. Калі ў доме госці, кожны гасцявы апартамент даручыце аднаму з чалядзінцаў...» Карацей, мы былі «ахмістрыні, дзеўкі і чэлядзь у фальварку». Але ў абслугі таксама мелася свая іерархія, і «ніжэйшы» яе клас харчаваўся ад нас асобна. І ў гэтым доме відавочна не ўхвалялася «балбатня». Мае спробы загаварыць з кімсьці з «персаналу» на больш асабістыя, чым брудны накоўдранік, тэмы выклікалі толькі ветлівую ўсмешку. Цяпер паводзіны шафёра, які падчас драматычнай сцэны між Юрасём і Стэлай ды расповеду Янчына трымаўся нібыта будысцкія малпачкі — «Не бачу, не чую, не гавару» — падаваліся мне цалкам адпаведнымі. Абслуга была вышкаленая. Магу паспрачацца на сваю рудую касу — усе, за выключэннем, мабыць, аховы, ад якой патрабаваліся зусім іншыя якасці,— з вышэйшай адукацыяй і веданнем моваў.

Пасля вячэры Макс зноў запрасіў да сябе на сеанс халяўнай псіхатэрапіі. Але я і так ужо перад ім занадта навыяўлялася...

Я блукала па цёмных прысадах Людвісараўскага парку, расплёхваючы нагамі позднюю восень, што ўвасобілася ў куламесу збуцвелай лістоты, бруду і мокрага снегу, і адчувала сябе рачной платкай, якую міласэрныя дзеткі выпусцілі ў сіняе мора. Нібыта і вады багата, і ежы... А няма ў маёй крыві пякучай солі, да якой звыклі ўсе тамтэйшыя... Хаця я мушу Юрасю быць удзячнай. Дзе б яшчэ такую выгодную працу знайшла? Пры ўспаміне пра Юрася мне зрабілася неяк тужліва. Я не сумнявалася, што ён верне мне грошы. Пазычыць, свае аддасць, але верне. А што, калі ягоная «зорачка» іх патраціла? А ёй жа на лячэнне трэба... Абыдуся я без тых грошай, калі што... Скажу — пачакаю, пакуль пабагацее...

Я кіравалася да альтанкі з калонамі. Але з прыцемку да мяне выплыў светлы сілуэт. Макс, у белым стыльным паліто, трымаў над сабой вялізны парасон, які ў святле ліхтароў здаваўся срэбраным.

— Вы заўсёды блукаеце пад даджом без парасона?

Я неахвотна спынілася.

— Які гэта дождж? Хутчэй, вільготны туман. Я і не заўважыла...

Макс галантна захінуў мяне ад драбнюткіх, як камарыны подых, кропель.

— А вы так і не прыйшлі да мяне на прыём... Ну што ж, добраахвотнасць тут — святое. У мяне для вас добрыя навіны. Лілія Пятроўна прачытала ваш артыкул. Ёй усё спадабалася, ёсць толькі некалькі нязначных правак. Паглядзіце, каля вашага камп'ютара тэчка... Дарэчы, а чаму вы пра гадзіннікі напісалі так сцісла?

— Сцісла?! — абурылася я,— ды ў мяне пра гэтыя гадзіннікі дзесяць старонак!

Макс неяк надта шчыра засмяяўся, беручы мяне пад руку і скіроўваючы ў бок дома.

— Вы ўсё цудоўна зрабілі! Проста калі ў старажытнай рэчы схаваны нейкі сакрэт, гэта заўсёды прыцягвае турыстаў. А ў Ліліі Пятроўны і Пятра Апанасавіча вялікія планы наконт турызму. Прафесар, шкада, не паспеў разабрацца... Вось вы б і напісалі ўсё, што думаеце. Няхай домыслы. Хіба Юрый не расказваў вам нічога наконт сваіх здагадак пра сакрэты гадзіннікаў?

Я асцярожна вызвалілася ад далікатнага дотыку «псіха».

— Думаю, пра важданні Дамагурскага з механізмамі вы ведаеце больш за мяне. Я ўсё роўна ў гэтым нічога не разумею.

— Ну, можа, наш майстар фантазіраваў пры вас, распавядаў пра старажытныя таямніцы?

Я пачала злавацца.

— А вы спытайце ў яго самога. Цікаюць вашыя гадзіннікі, фігуркі рухаюцца... Што вам яшчэ трэба? Казкі ўсё гэта — пра шклянкі, якія разбіваюцца.

Мы падыходзілі да мармуровых скульптураў, што выстраіліся ўздоўж дарогі. Антычныя героі кепска вытрымалі бойку з часам. Скульптар быў не настолькі таленавіты, каб бязрукія, безгаловыя паставы захавалі паважнасць. Праўда, было гэтай паважнасці тут усё роўна непараўнальна больш, чым яе мелася ў гіпсавых скульптурах піянераў і фізкультурнікаў у парку майго роднага мястэчка. Хаця — калі пашанцуе прастаяць тым фізкультурнікам яшчэ сто гадоў, невядома, з якім пачуццём будуць глядзець на іх нашыя нашчадкі? Можа, таксама з настальгіяй і павагай?

Мы параўняліся з пустым п'едэсталам, на якім засталіся толькі мармуровыя ступакі ў сандалях. Макс спыніўся.

— Пра што вы думаеце пры гэтым відовішчы?

— Гэта нейкі тэст? — азвалася я.

— Ну хутчэй асабістая цікаўнасць.

Я ўгледзелася ў знявечаны мармур.

— Я думаю пра тое, што мы — аднадзёнкі, людзі свету аднаразовага посуду і аднаразовай культуры. Продкі, шматкроць болей вартыя за нас, аддавалі жыццё, каб здабыць глыток волі. А іх абылгалі і забылі. Думаю пра тое, што так і не напісала кніжку гістарычных эсэ, як збіралася. Пра старавежскую ратушу, з якой Баркун зрабіў тое ж, што тутэйшыя барбары — з гэтым помнікам. І пра тое, што ад нас не застанецца нават такога п’едэстала.

— Нішто сабе! — Макс іранічна пакруціў галавою.— Рамантыка ды заклапочанасць глабальнымі праблемамі найчасцей ужываюцца з інфантыльнасцю і няздольнасцю вырашаць праблемы прыватныя.

— Гэта мой дыягназ? — холадна спытала я.

— Гэта вашая недасведчанасць,— усміхнуўся Макс.— Ну куды вы выйшлі з-пад парасона? А скульптуры гэтыя колішні гаспадар маёнтка, апошні з магнатаў Людвісараў, загадаў паставіць у гонар сябе самога. Усе статуі мелі ягоны твар. Вось такі... рымскі цэзар з-пад Старавежска.

— Гэты чалавек, якія б ні меў смешныя слабасці, браў удзел у паўстанні, рызыкаваў жыццём... Не дзеля сябе — яны, інсургенты Каліноўскага, ведалі, што іх справа безнадзейная. Дзеля годнасці, гістарычнай справядлівасці, дзеля волі...

— Вось вы якая пасіянарная,— спакойна прамовіў Макс.— Але воля — гэта толькі мара. Вы ўсвядоміць не можаце, наколькі чалавек зняволены сам у сабе. І вызваліцца ад сябе вельмі цяжка.— Макс гаварыў без насмешкі, нават з сумам.— Я ведаю гэта на ўласным прыкладзе. Мая маці працавала прыбіральшчыцай у школе, у якой я вучыўся. Мне заставалася альбо змусіць усіх паважаць мяне праз агрэсію, праз дзёрзкасць, або змірыцца, стаць вечнай «шасцёркай»...

— І які шлях вы абралі?

— Я пачаў вывучаць свае страхі і знішчаць іх адзін за другім. Загаварыць на роўных з багатым хлопчыкам... Заваяваць самую прыгожую дзяўчынку... Адказаць вясёлым жартам на крыўдную дражнілку... Я сам сябе зрабіў, адбіваючы па кавалку ад панцыра, у які закаваў мяне лёс. І я ведаю, што гэта магчыма, хоць і вельмі цяжка. Перастаньце ж і вы баяцца самой сябе сапраўднай. Дайце сабе волю.

Макс пяшчотна дакрануўся да майго пляча. Срэбны парасон над намі быў падобны да альтанкі для рамантычных спатканняў... А чаму б і не? Я не святая... Хаця выхаванне ў сям'і, дзе ніколі не было мужчынаў — маці, бабуля і я (мужчыны лічыліся нечым варожым і непатрэбным) адбілася... Маланкавы шлюб з Юрасём яшчэ больш умацаваў перакананне ў ненадзейнасці «двухногіх пеўняў бяз пер'яў» і патрэбу ў «сур'ёзных адносінах». Не дзіва, што сур'ёзных адносінаў не атрымлівалася. Раман з малавядомым паэтам доўжыўся пяць гадоў... Паэт патрабаваў рыбных страваў і цішыні, калі прыходзіць натхненне. А потым сышоў да кабеты, якая выганяла яго пісаць натхнёныя вершы на кухню. Мастак-марыніст пратрымаўся са мною год. Паміж мастаком і паэтам быў яшчэ паляк, які прыехаў сюды вывучаць беларускую філалогію. Я нават пасялілася разам з ім у інтэрнаце... Можа, і дарэмна не з'ехала з тым Гжэсем у Польшчу? Хаця не так ён ужо і ўгаворваў. Мусіць, не мог даравацьмаёй упартасці наконт беларускай прыналежнасці Адама Міцкевіча, Яна Баршчэўскага ды іншых гістарычных персонаў, зацятая спрэчка наконт якіх сталася для нас гэтаксама звыклай, як вячэра. А навошта звязваць жыццё з чалавекам, які забяспечыць штодзённыя прафесійныя дыскусіі дома, дзе хочацца не толькі ногі, але і душу ўсунуць у мяккія цёплыя пантофлі? Ну а цяпер, падобна, маім чарговым «захапленнем» можа стаць псіхатэрапеўт...

Макс прысунуўся бліжэй, так што я амаль чула, як стукае ягонае сэрца... Роўна яно стукала... Я ўсёй сваёй ненармальна эмацыйнай істотай адчувала ўнутраны спакой майго спадарожніка, нібыта вялізны лядзяш. Ён жа насамрэч мною зусім не зацікаўлены, як удае! Навошта я яму патрэбна? Псіхатэрапеўт схіліўся блізка-блізка... Зараз я адчую дотык яго вуснаў... Не! Я адштурхнула «псіха» і рашуча выйшла з-пад парасона ў мокры туман.

— Прабачце, але я хачу як найхутчэй дапрацаваць свой артыкул...

Макс не выказаў незадавальнення і не спрабаваў мяне затрымаць.

— Што ж, ухваляю... Лілія Пятроўна будзе вам удзячная.

І ўжо калі я бегма адправілася ў бок сядзібы, крыкнуў услед:

— А каб пра сны не забывацца, трэба іх запісваць. Як толькі прачынаешся!

Але гэтай ноччу мае сны былі, відаць, такія журботныя, што ад іх у памяці засталося толькі адчуванне невыпраўнай страты...

А нараніцу зноў выпаў снег. Белы, пухнаты, ён больш не збіраўся раставаць і выпускаць на волю пераможаную чарнату зямлі і галля.

Ды яшчэ соннае лістападаўскае сонца час ад часу вызірала з-за кволых хмараў, нібыта пан, праязджаючы паўз нішчымную вёску, кідаў праз акно карэты, завешанае фіранкамі, жменькі дробных манетаў.

Я апошні раз прайшла праз майстэрню са старымі гадзіннікамі. Яны зноў маўчалі, спыненыя воляй іх цяперашніх уладароў, і ў гэтым маўчанні была пагроза. Рыцары смерці... Зайшла ў кабінет, які два тыдні быў маім. Заўвагі, што пакінула мне Баркунова ўдава, тычыліся толькі тэксту пра гадзіннікі. Дакладней, падрабязней... Пераклады даць асобна, слова ў слова. Ну што яны да гэтага антыкварыяту прычапіліся? Я і так напісала ўсё, што ведала. Перачытала яшчэ раз свой тэкст... Сусальнага золата на партрэце Баркуна хапала, і я суцешыла разварушанае сумленне тым, што, па-першае, пра мёртвых — або добра, або нічога, і, па другое, наконт аднаўлення вежы я выказалася дастаткова лаканічна. Ну вось і ўсё... Я сабрала паперы. Але не паспела сысці, як з'явіўся Юрась. Замест прывітання ён працягнуў мне цяжкі канверт:

— Вось твая тысяча, Анэта. Прабач, калі ласка, што давялося хваляваўцца. Я ж казаў — гэта непаразуменне.

Я моўчкі глядзела на былога мужа. Нешта з'явілася ў яго твары такое...

— Што адбылося?

Юрась, здаецца, паспрабаваў усміхнуцца. Але прыкідвацца ён ніколі не ўмеў.

— Пасля як-небудзь раскажу...

І памкнуўся сыходзіць. Я заступіла яму дарогу.

— Пачакай... Мне не вельмі патрэбныя зараз такія вялікія грошы... Можа, пазычыць? Стэле на лячэнне...

Аблічча Юрася дзіўна перасмыкнула.

— Дзякуй... Ты — лепшая ў свеце... Але нам пакуль хапае.

— Нядобра са Стэлай? — здагадалася я.— Яна дзе, у клініцы?

— У рэанімацыі,— глуха адказаў Юрась.

Аказваецца, мастачка, раптоўна пабагацеўшы, адразу ж кінулася набываць «натхненне»... І, вядома, «перанатхнялася». Яе паспелі завезці ў бальніцу, але ляжыць у коме. Юрася да яе нават не пусцілі. Толькі праз шкляную перагародку пабачыў Стэлу пад кропельніцай.

— Званіў Янчын, казаў, прывязе цуда-лекі, клініка — пад кантролем Калыванава, так што ўсё, што магчыма, зробяць... Стан небяспечны, але пакуль яна ў той клініцы — будуць ратаваць. Нейкі

новы ачышчальнік крыві ёй уводзяць. Лекі дарагія, дактары таксама... Усе мае зберажэнні... Бацькоўскія... Я ж думаў сёння з'язджаць... Усё роўна больш, відаць, нічога не вынайду. А тут... Гэтыя людзі — без сантыментаў. Перастану на іх працаваць — аддадуць Стэлу ў шараговую бальніцу... Праклятая праца...

— Чаму? — здзівілася я.— Ты ж заўсёды радаваўся, калі ўдавалася вярнуць да жыцця старажытныя рэчы, тым больш — гэта частка нашай гісторыі. І ўсяго адзін гадзіннік засталося адрэстаўраваць...

— Ды хіба гэта рэстаўрацыя? — з горыччу ўсклікнуў Юрась.— Мне ж не даюць аднавіць разьбу, дзівосныя аздобы... Галоўнае — каб гадзіннікі маглі разбіваць шклянкі ды чаркі на пацеху турыстам. Глупства нейкае... Ведаеш, гэта ж я знайшоў Зміцера Патапавіча, калі... калі ён захварэў. І я падабраў дакумент, які ён згубіў. Дакумент на нямецкай мове. Я не магу расчытаць...

Юрась працягнуў мне складзены ў чатыры столкі аркушык, пажаўцелы на згінах. Я разгарнула... Ксеракс ліста, пісанага, відаць, пяром на пергаменце. Гэта адсюль прафесар у дзень нашага прыезду зачытваў фразу наконт шкляных сасудаў... Старажытнанямецкая мова, літары, нібыта востраверхія каптурыкі гномаў. Палову словаў не разбяру. Але подпіс зразумелы: «Гервасі Бернацоні».

— Падобна, пятнаццатае стагоддзе! Каб перакласці, трэба да знаўцаў схадзіць. Але чаму ж ты мне раней не паказаў? Я б, можа, дадала нешта ў свой артыкул!

Юрась нахмурыўся.

— Ведаеш, не трэба, каб ведалі, што гэты ліст у мяне. Проста... па старым сяброўстве... перакладзі яго, калі ласка. Я табе патэлефаную заўтра ўвечары.

— Лепей дні праз тры,— удакладніла я.— Магу не паспець...

Юрась моўчкі кіўнуў галавой і паглядзеў на мяне сінім тужлівым позіркам, нібыта развітваўся назаўсёды.

— Бывай, Анэта. І прашу цябе — ніколі сюды не вяртайся. І з гэтымі людзьмі больш не звязвайся. Нізавошта. Што б табе ні абяцалі, чуеш? Я ўжо сам... сёрбаць буду.

І пайшоў, не патлумачыўшы свае дзіўныя перасцярогі. Ды што чакаць ад чалавека, у якога жонка паміраe?

Плату я атрымала «з накрыўкай» — паўтары тысячы. Плюс аванс... Але радасці не было. Гэтыя грошы датычныя да бяды са Стэлай... Гэта былі грошы за дамову з сумленнем, да іх быццам прыліпла мая мана. Прытым, як ні дзіўна, я так і не зразумела галоўны сэнс маёй працы.

Бо тое, дзеля чаго мяне наймалі — хутчэй выдаць кніжачку памяці Аркадзя Баркуна — нібыта гаспадароў перастала цікавіць. На мае роспыты, калі я ўбачу выдадзеную кніжачку, хто яе афармляе, у якой друкарні будуць друкаваць — гучалі няўцямныя адгаворкі. І зараз, ад'язджаючы, я раптам зразумела, што гэтая кніжачка ніколі не будзе выдадзеная.

І, гледзячы з акна шыкоўнага «джыпа» на высокі бетонны плот, які ўсё аддаляўся, аддаляўся, я не хацела думаць ні пра таямніцы, ні пра людзей, якія засталіся за ім... Але не магла пазбавіцца ад трывогі.

* * *

За гарадской сцяной закрычала сава, нібыта праклінала змрочны лістападаўскі золак. Адразу ж у муры расчыніліся малыя непрыкметныя варотцы, для віжоў і позніх гасцей. Для бяспекі яны былі выкаваныя з суцэльнага жалеза і зробленыя так высока, што даводзілася апускаць лесвіцу. Малады рыцар саскочыў на драўляны памост па той бок варотцаў.

— Хвала Госпаду, панове! Сёння мы пераможам!

Дзясяткі два ўзброеных людзей, што чакалі яго вяртання, ухвальна адгукнуліся. Але іх прыветныя крыкі змоўклі... Услед за рыцарам з праёму ў сцяне паказаўся барадаты вой у дзіўным востраканцовым шаломе, з двухбаковай сякерай, падобнай да Перуновага посаха. Прыхадзень вышчэрыў рэдкія зубы ва ўсмешцы, што мусіла азначаць прывітанне. За ім з варотцаў выбраўся яшчэ адзін у такім жа шлеме, яго русявая барада была даўжынёй у локаць... Потым яшчэ... Яшчэ... Чужынцы адзін за адным выпаўзалі з праёму ў сцяне, нібыта іх спараджала пекла.

— Богуш, хто гэта? — гнеўна спытаў стары рыцар.

Маладзён горда выпрастаўся.

— Гэта карачунцы. Яны дапамогуць нам прагнаць войска Вялікага князя.

— Што ты нарабіў, дурны, несвядомы блазнюк! — горка прагаварыў стары рыцар.— Вось цяпер — канец волі Старавежска... Няма больш нашага горада...

Але малады толькі пацiснуў плячыма.

— Вялікі князь з татарамі хаўрусаваў, з крыжакамі, а карачунцы ўсё ж — адзінаверцы.

— Не время балакать. Побъем псов неверных! — раўнуў правадыр карачунаў, узняўшы сваю сякеру. Чужацкія воі адказалі радасным крыкам. Богуш дастаў меч.

— Да вежы! У імя святога Юр’я!

— Здрада! Ганьба!— крычаў сівы старавежац, але яго ніхто не чуў.

Рожа страсянуў Карэйву за грудзі:

— Глядзі, што з тваёй хітрасці сталася! Карачунцы ў горадзе!

Блазан скрывіў бледныя вусны ва ўсмешцы.

— Хіба першы раз ты б’ешся супраць іх?

— Не першы... Але я не хачу, каб — апошні,— глуха прамовіў Рожа.— Іх не тры тузіны... Яны ўжо на плошчы! Чуеш? Можа, даць знак ваярам, што ў засоцы за цэркваю?

З вокнаў даносіўся гул апантанай бойкі. Крыкі болю, крыкі нянавісці, лязгат зброі — мова, на якой размаўляе ў часы сваёй весялосці Смерць. Блазан паматаў галавой, званочкі на ягонай шапцы азваліся недарэчна бадзёра.

— Няхай усё ідзе як замыслена. Хай увойдуць у вежу. А мы рушым лёхамі...

— Лёхамі? Куды? — разгубіўся войт.

— Хе-хе-хе...— загайдаўся Карэйва, і званочкі таксама засмяяліся.— Ідзі за мной, пан Лаўрын... Мне ўсе таемствы гэтага будынка ў Вільні яшчэ ператлумачылі. Кляйнодам Карэйваў клянуся — праз гадзіну павядзеш сваё войска на прыхадняў, і знікнуць яны разам са здрайцамі-бунтаўнікамі ў пекле, толькі ключыкі ў вогненнае мора аддадуць. Хе-хе-хе...

Лекараў сакратар Энрыке нешта горача тлумачыў Анэце на італійскай мове і цягнуў у залу з гадзіннікамі. Дзяўчына зайшла і скамянела ад здзіўлення: у цэнтры залы стаяў, укленчыўшы, лекар. Ён нізка апусціў галаву, і, падобна, маліўся. Анэта глядзела на ягоную прыгорбленую спіну і не магла паверыць, што гэта — той самы ўладны чараўнік, якога ўсе так баяліся. Але калі Бернацоні ўзняўся з каленяў і павярнуўся да дзяўчыны, на яго твары не было адчаю. Толькі рашучасць.

— Будзь побач, донна. Я не ведаю, што тут адбываецца, чыя злая воля стаіць на перашкодзе — але, павер, я змагу абараніць нас.

І прамовіў горка:

— Прасвятая Дзева, колькі разоў я даваў сабе слова, што гэтыя гадзіннікі будуць маўчаць...

— Чаму на плошчы бойка? На горад напалі? — Анэта не хацела паказваць боязі, але голас дрыжэў.

— Карачунцы,— коратка адказаў Бернацоні.— Віжы пра іх даносілі. Іх прыслалі на вывед. Атрад невялікі, мо сотня. Свержань былі разрабавалі, у Валатоўні двух чалавек пабілі. Так, зграя падлаедаў. Але яны патрапілі за гарадскія сцены, у іх ёсць у горадзе хаўруснікі...

— Шукай у сваім войску! Сярод старавежцаў здрайцаў няма,— запярэчыла Анэта.— А чаму ты не ўзброены, чаму — не там, дзе б'юцца? Нашыя рыцары ніколі не адседжваліся!

— Мая зброя — пры мне...— няўважна адказаў лекар, аглядаючыся па баках.— Добра, што не паспелі ўкласці гадзіннікі ў скрынкі.

Знізу даносілася гарланне чужынцаў: «Бей! Бей! Не пускай! Давай!»

Бернацоні ўладна крыкнуў:

— Анэта! Адчыняй шыбы! Хутчэй! І дзверы расчыні!

Лескевічанцы неаднойчы даводзілася быць разам са сваім горадам у аблозе, калі на мурах патрэбная дапамога ўсіх — жанчын, старых, дзяцей. Яна звычна, не перапытваючы і не марудзячы, кінулася выконваць загад, на першы погляд бязглузды — у расчыненыя вокны маглі паляцець стрэлы. Але падчас бойкі словы тых, хто кіруе абаронай, не важацца. І не ўспамінаюцца старыя крыўды. Калі выбіраць між войскам Вялікага князя і атрадам карачунцаў — дык лепей князь... Анэта ведала, што ейны бацька сказаў бы менавіта так.

— Усё гатова...

Бернацоні паправіў стрэлку на кожным з гадзіннікаў, размаўляючы з імі, як з жывымі.

— Вы першы, гаспадар мой Пятро... Вы — другі, гаспадар Андрэй... Трэцяе слова за вамі, гаспадар Якубе...

Цяпер усе гадзіннікі паказвалі розны час. Лекар адчыніў драўляны куфар і асцярожна дастаў круглую шкляную пасудзіну. Анэта толькі цяпер заўважыла, што падлога размаляваная крэйдай — ад гадзінніка да гадзінніка ішлі роўныя лініі, перасякаючыся ў падабенства зоркі. Бернацоні беражліва паставіў свой шар у кропку, дзе сустракаліся яны ўсе. Потым асцярожна апусціў у шкляны шар невялікі паўмесяц са срэбра, нібыта русалчын серп.

— Пакуль гадзіннікі павернутыя ад нас, тут, у сярэдзіне — самае бяспечнае месца. І не варушыцеся, пакуль гадзіннікі не змоўкнуць.

Лекар стаяў, збялелы і суровы. Энрыке паспешліва штосьці засоўваў у вушы, мармычучы малітвы. Анэту пачало калаціць ад

прадчування небяспекі... Яна разумела, што зараз зробіцца сведкай магутнага чараўніцтва. Ці не загубіць гэта яе душу? Каго, з якіх нетраў выклікае на дапамогу лекар? Бернацоні, відаць, зразумеў яе боязь:

— Выкінь з галавы ўсе думкі пра вядзьмарства, маленькая дзікунка... Гэта ўсяго толькі зброя... Праўда, магутная, смяртэльная зброя... Страшнейшая за грэчаскі агонь. Бо б'е не па целах — па розумах. І не разбірае, хто — вораг, хто — сябар.

— Дык усё-ткі з-за цябе — карагод смерці? Ты панішчыў наш горад? — закрычала ў жаху Анэта.

— Я зрабіў тое, што павінен быў зрабіць...— спакойна адказаў Бернацоні.— Голас маіх гадзіннікаў можа толькі прыспешыць тых, каго нянавісць або страх прывялі да мяжы з шаленствам. Тысячы людзей топяцца... Кагосьці з іх саштурхнулі ў ваду... Нехта з саштурхнутых не ўмеў плаваць... Чалавек можа толькі крыху, на паўкрока, дапамагаць Божай волі. Я таксама дапамагаю Божай волі. Ціха! Пачынаецца! Вітаю цябе, пані Смерць!

Анёл з цёмным драўляным тварам на адным з гадзіннікаў паднёс да вуснаў пазалочаную трубу, срэбныя аблокі за ім зварухнуліся.

Звонкія тужлівыя ўдары... Другі гадзіннік... Трэці... Удары, нібыта і не надта гучныя — звон на званіцы царквы біў куды мацней — нібыта сыпаліся ў адзін жалезны куфар. Анэце здалося, нібыта ўсё вакол яе дробна дрыжыць, на нейкі момант яна перастала чуць — толькі гэтае дробнае дрыжэнне ды ўдары ўласнага сэрца. Хацела зрушыцца, уцячы — але цела нібыта трапіла ў густы мёд.

— Госпадзе, выратуй! Прасвятая Багародзіца, памажы! Святы Юры, паратуй! Святы Юры, паратуй!

Анэта ўсвядоміла, што яе вусны зноў пачынаюць выкрыкваць малітву шалёнага карагода. Рукі зледзянелі — нібыта за іх зноў ухапіліся вар'яты-смяротнікі... Раптам срэбны серп у шкляной сферы зварухнуўся і пасунуўся ўправа. Яшчэ, яшчэ... Павольна, потым усё хутчэй закруціўся, нібы трэска трапіла ў вір. Вочы Бернацоні гарэлі перамогай адчаю — лекар святкаваў, нібыта паранены вой, якога ішлі зняволіць, а ён у апошні момант падмануў ворагаў — загнаў сабе пад рэбры асколак, здавалася, ужо бескарыснага, бяссілага мяча...

Вось чарга дайшла да апошняга гадзінніка. Фігура смерці на ім прыўзняла складзеныя ў малітве рукі, нібыта рыхтавалася ўдарыць нябачным мечам у манеты, што былі рассыпаныя пад яе нагамі... Трыццаць залатых манетаў.

— Анэ-эта!

Дзяўчына ўпала на калені... Яна вар'яцее!

— Анэта! Гэта я, Богуш! Я прывёў войска вызваліць цябе! Дзе ты, Анэта? Адзавіся!

Голас гучаў побач, дзесьці ў будынку.

Гэта не сон... Чараўнік падмануў яе! На ратушу напалі не ворагі, гэта ідуць свае, старавежцы! Богуш жывы! Але зараз ён страціць розум... З ім здарыцца тое, што з тысячамі іншых...

З яе нібыта ўпалі ланцугі. Дзяўчына маланкава кінулася да сферы, у якой круціўся срэбны паўмесяц, узняла і з сілай кінула яе аб каменную падлогу. Аскалёпкі пырснулі срэбным дажджом. Лекар гнеўна закрычаў, але Анэта ўжо бегла па калідоры ратушы, выкрыкваючы імя, якое не наважвалася паўтараць нават у думках, каб не вярэдзіць боль.

Яна падбегла да вінтавой лесвіцы, знізу па прыступках рыўцом падняўся рыцар... Яе рыцар... Ён схапіў яе ў абдоймы.

На хвілю для іх перастала існаваць усё.

— Я ведаў, што ты жывая... Што я вызвалю цябе... Ніякія чары нас не спыняць. Ты ведаеш, хвілю таму мне падалося, што настала вогненная ноч! Я нават забыўся, хто я...

За спінай рыцара навіслі цені. Анэта спалохана адхіснулася.

— Богуш! Карачунцы!

Рыцар пагладзіў дзяўчыну па залатых валасах рукою, на якой запяклася чужая кроў.

— Не бойся, яны — нашы хаўруснікі.

Анэта неўразумела глядзела на барадатых людзей у востраверхіх шлемах.

— Хаўруснікі? Дык гэта — тваё войска, Радчыц?

Багуслаў нахмурыўся.

— Не горшае за іншыя. Старавежцаў засталося мала... І не ўсе, хто выжыў, захавалі мужнасць воя. Чаму б карачунцам не памагчы нам выгнаць войска Вялікага князя? А ты схуднела, любая... Змучылася... Пакажы, дзе лекар! Я заб'ю яго!

Анэта глядзела на Багуслава, і боль разрываў ейнае сэрца.

— Богуш, пачакай! Каму будзе належаць горад пасля таго, як твае хаўруснікі пагоняць княскае войска?

Багуслаў нахмурыўся.

— І ты, як твой бацька... Пасля будзем думаць. Галоўнае — перамагчы! Дзе лекар?

— Пан Радчыц! Яго д’ябальскія скрынкі — там, у зале! — азваўся адзін з вояў.— А лекар, відаць, збег.

— Знойдзем падлюку. Пайшлі, Анэта...

Богуш ласкава паклаў руку ёй на плячо. Але дзяўчына ў жаху глядзела на аднаго з чужынцаў, які засоўваў за пояс адабраны ў кагосьці меч, упрыгожаны дыяментамі, вялікімі, як вочы сарны... Анэта разгледзела на лязе выбіты малюнак — вершнік на кані... Герб Старавежска... Што робіцца ў яе горадзе! Дабро і зло перамешваюцца ў страшным віры часу, але ўсё-ткі не робяцца адным, як не робяцца адным вада і воск. Вялікі князь прыслаў лекара з ягонымі д’ябальскімі машынамі, каб той дапамог прывесці горад да пакоры... Богуш прывёў карачунцаў, каб выгнаць лекара... Хтосьці са старавежцаў стаў на бок Богуша, другія, мабыць, б’юцца побач з воямі Вялікага князя супраць карачунаў... І ў выніку — свае забіваюць сваіх. Няўжо гэта з-за яе, Анэты? Госпадзе, як зразумець, дзе — праўда?

І дзяўчына раптам адштурхнула свайго жаніха і кінулася ўніз па лесвіцы. У гэтае імгненне з плошчы данёсся магутны крык:

— Святы Юры! Бі, бі! Святы Юры!

Войска вялікага князя выйшла з засокі.

— З вежы анікога не выпускаць! — крычаў голас Лаўрына Рожы.— Здрайцаў і ведзьмакоў не шкадаваць!

Над Старавежскам зноў поўз горкі дым, нібыта ён ніколі ўжо не сыдзе з гэтага горада.

* * *

Я з’ездзіла да маці — нарэшце магла дазволіць сабе прыстойныя гасцінцы. І хаця дармовыя ўрокі пра тое, як трэба жыць, і за каго мне лепш выйсці замуж, былі горш, чым колішнія ўрокі палітычнай эканомікі, але пры кожным поглядзе на ссівелыя матчыны валасы ў мяне сціскалася сэрца ад невыпраўнага пачуцця вінаватасці, і я адцягвала ад’езд. Можа, і праўда — кінуць той горад, дзе я так і не навучылася выжываць, перабрацца сюды, папрасіцца ў раённую газету...

Не, невыносна вярнуцца няўдачніцай. Дый маці сама паранейшаму мела планы наконт пераезду — колькі сябе памятаю, яшчэ бабуля была жывая, доўжылася гульня ў абмен нашай кватэркі ў самотным двухпавярховым панэльным доме сярод бульбяных «сотак»... Шукаліся па аб’явах варыянты. Ды не ў сталіцы ці якім абласным горадзе — а паэкзатычней... Напрыклад, у малдаўскім

Цірaспалі, або ва ўкраінскім Нікалаеве. Справа заканчвалася матчынай паездкай — паглядзець кватэру. Але на месцы абавязкова выяўляўся нейкі недахоп — побач заводская труба, або аэрапорт, ці дом крыва збудаваны... Я здагадвалася, што мы ніколі нікуды не пераедзем. Але ў нас заўсёды была надзея на Вялікія Змены ў жыцці.

Можа, таму я і не люблю цяпер ніякіх планаванняў.

Пасля таго, як былая аднакласніца прыйшла да мяне з бутэлькай «чарніла» аднавіць колішняе сяброўства і прадэманстравала ў ветлай усмешцы залаты зуб, і пачала распавядаць пра лупцоўкі мужа, і як на танцах у клубе парнулі Аньчынаму хлапцу пад скабы шылам, я вырашыла, што час з'язджаць...

І ў чарговы раз дала сабе слова — знайсці добрую працу, набыць у Мінску вялікую кватэру, перавезці туды маму...

І ўжо калі мы чакалі аўтобуса на прыпынку пад перакошанай, паржавелай шыльдай, на якой яшчэ красаваліся парэшткі мінулагодняй улёткі з кавалачкам глянцавай фізіяноміі раённага кандыдата ў дэпутаты,— адна ўсмешка, як ад Чэшырскага ката,— маці прамовіла:

— Ты, відаць, закахалася...

Я разгубілася. Чаму яна так вырашыла?

— Не пярэч, хіба я не бачу... Закахалася па вушы. І, як заўсёды, няўдала. Ды плюнь ты на яго, хто б ён ні быў! Знойдзеш лепшага. А то ўздыхае, пераймаецца... Шкода глядзець.

Я пачала абурана тлумачыць, што ўсё не так, але, бразгаючы ржавым начыннем, падышоў аўтобус.

А ўвечары патэлефанаваў Юрась. Увесь устрывожаны — дзе я падзелася? Было няёмка — я ж забылася на яго паперчыну са старанямецкім тэкстам. Нічога, заўтра ж перакладу... Пра тое, што адбываецца ў Людвісарава, з Юрася аказалася выцягнуць гэтак жа лёгка, як адабраць у райтвелера сваю пальчатку. «Нармальна», «Працую» — і ўсё...

— Паслухай, а ў якой бальніцы ляжыць Стэла? Можа, наведаць?

Юрась, здаецца, узрадваўся і ўсхваляваўся ад маіх словаў — дзівак, не мог сам папрасіць. Назву клінікі я чула ў нейкай рэкламе — «Медсервісцэнтр "Гіпакрат"». Будынак на ўскраіне, ля нядаўна заснаванай «рэзервацыі для багацеяў» — пасёлка шыкоўных катэджаў.

З трубкі ўжо хвіліны тры пішчэлі сігналы, нібыта ўся тэлефонная сетка спрабавала дакрычацца да маёй свядомасці. Але свядомасць

была замкнутая на філасофскім пытанні, справакаваным матчыным «прагнозам» пра мой эмацыйны стан: «Чым ёсць мае адчуванні да Юрася?» Вінегрэт выключны: шкадоба, цікавасць, некаторая рэўнасць (так, так, прызнайся ж), раздражненне, трывога... Бог ведае, што яшчэ... Толькі не каханне! Не, ніяк не каханне! Як там у Стэндаля: перыяд крышталізацыі, голая галінка, апушчаная ў саляны раствор, абрастае цудоўнымі ўпрыгожваннямі... Гэтак мусіць адбывацца з вобразам каханага. Паколькі я Юрася не крышталізую, няма неадольнага жадання бегчы да яго, быць побач, то...

Проста хворае ўяўленне — мне ўсё трызніцца, нібыта ён топіцца ў нейкай багне... Сам жа туды ўскочыў. Ды яшчэ мяне цягнуў...

Ды якая мне справа да чужога мужа? Жыла неяк без яго адзінаццаць гадоў, і амаль не ўспаміналa.

А тут яшчэ пазваніў былы аднакурснік, які цяпер працаваў у заняпалай беларускай газетцы, і прапанаваў працу... Відаць, справы былі ў іх зусім дрэнь — бо мяне меркавалася заманіць на пасаду не шараговага журналіста, а адразу — адказнага сакратара. Зарплата невялічкая...

— Затое ўсе творы твае выдрукуем! — горача абяцаў аднакурснік.— Зробім з цябе вядомую пісьменніцу! Карыстайся момантам...

Бедная літаратура, калі пісьменнікаў можна рабіць з такога... матэрыялу. А відаць жа, робяць.

Але я абяцала падумаць.

А пакуль паехала адведаць «зорачку»-Стэлу. Будынак клінікі ўвесь у чорным люстраным шкле, нібыта ўваход у іншае вымярэнне. Здавалася, праз гэтае шкло можна прайсці, як праз пералівістую, пругкую плёнку, і апынуцца ў сваім мінулым, дзе няма цяперашняга болю... Але ў гэтых сценах панаваў боль. Боль і страх працялі светлыя чысцюткія калідоры, струменілі з галагенавых свяцільнікаў, выпаўзалі нябачнымі смаўжамі з палатаў, абсталяваных па апошнім слове...

Да Стэлы Дамагурскай мяне не пусцілі. Рэанімацыя, цяжкі стан... Пост нумар чатыры. Але я ўявіла, што мне не будзе чаго распавесці ўсхваляванаму Юрасю, акрамя сухіх словаў рэгістратаркі... І пяцьдзясят даляраў Баркуновай удавы знайшлі сабе лепшую гаспадыню. Я заўсёды дзіўлюся — як у мяне прачынаюцца дзелавыя здольнасці, калі трэба вырашыць чужую справу... І наколькі я разгублена пачуваюся, калі трэба вырашыць сваю. Неяк на першым курсе мы з сяброўкай з дзіўным імем Пелагея стаялі ў чарзе па нейкую

касметыку — я яшчэ заспела эпоху чэргаў. Ахвотных было як маку, пачалі пагаворваць, што на ўсіх не хопіць...

— А ты памаліся, папрасі Бога, каб табе хапіла тушы і памады! — шчыра параіла Пелагея.— Я заўсёды так раблю...

Я ўявіла, як звяртаюся да Госпада з просьбаю пра памаду... І мне стала так сорамна! Ну здароўя прасіць... Цярплівасці... Мудрасці... А то — пушачку замежнай памады! І ўвогуле, дзеля такой нявартай рэчы я губляю свой час, злуюся, кідаю цень на душу... Карацей, сышла я з чаргі. Так і жыву... Чэргі абыходзячы.

Маладзенькая медсястра, спакушаная маёй паўсотняй, дала мне белы халат і шапачку і нават прымусіла начапіць марлевую павязку. У калідоры я ўсвядоміла, чым усё-ткі адрозніваецца прыватная клініка ад дзяржаўнай. Не чысцінёй і абсталяваннем, а... пахам. Відаць, тут спецыяльна ўжывалі вохкія мыйныя сродкі, таму што ў калідоры пахла хвояй. Я ўспомніла свае знаходжанні ў бальніцы, вялізныя скураныя пантофлі, падобныя да раздушаных чарапах, з накрэмзаным алейнай фарбай нумарам аддзялення... Фланэлевы халацік «эканамічнага колеру»... Смурод хлоркі і бальнічнай ежы... Фу.

— Ну вось, пост нумар чатыры...— прашаптала мне мая спадарожніца.— Заходзіць ні ў якім разе нельга. Туды, акрамя галоўнага ўрача і медсястры, прымацаванай да паста, нікога не пускаюць. Паглядзіце праз шкло на вашую сваячку... І пойдзем, пакуль ніхто не заўважыў.

Стэла ляжала на ложку, падобным да прылады для катавання. Антураж быў адпаведны... Сюрэалістычны. Трубкі, па якіх у яе вены пераліваласе нейкая празрыстая вадкасць... Страшны «гармонік», падобны да пачварна разрослай дзіцячай цацкі, рытмічна сціскаўся і распростваўся, ад яго ішоў гумавы шланг да маскі, што закрывала твар хворай... Штучныя лёгкія, здагадалася я. Збоку на экране беглі ламаныя лініі.

...Чорныя валасы, раскіданыя па падушцы, пакінуў ветрык... Але больш за ўсё мяне ўразіла рука Стэлы, у якую была ўторкнутая голка кропельніцы. Скура пажаўцелая, а пальцы нават з сінізной... Пазногці счарнелі...

— Кома,— прашаптала медсястра.— Такія, бывае, гадамі ляжаць. Адзін наш доктар лічыць, што яны ўсё чуюць, прымушае размаўляць, як з прытомнымі. А навошта? — Медсястра скрывіла сімпатычны тварык, на хвілю прыпадобніўшыся мульцяшнаму Трусіку.— Такіх хворых ведаеце, як персанал заве? «Гародніна!»

Што ж, я дапамагчы нічым не магу.

Унізе, у калідоры, што выходзіў у вестыбюль, я прысела ў самым цёмным куточку, каб трохі супакоіцца і пачакаць медсястрычку, якая, відаць, пачувала, што не цалкам адпрацавала свой ганарар і намовілася прынесці мне карысныя брашуркі пра наркаманію і яе наступствы, непрытомныя станы і падобныя сумныя рэчы.

У калідорах не было шматлюдна, але адчувалася звыклая працоўная мітусня. Удалечыні мільгалі фігуры ў белых халатах, нешта стукала.

— Цябе што, на чацвёрты пост прызначаюць, Кацярына? — пачуліся ціхія галасы з-за прыадчыненых дзвярэй побач, за якімі лілася вада і бразгалі невядомыя прылады.

— Не, на пяты.

— А-а, тады добра...

— А што такое?

— На чацвёртым пагана...

— Хворая зусім безнадзейная?

— Ды ўжо ж... Безнадзейней не бывае,— голас панізіўся да шэпту.— Мёртвая яна.

— Што?!!

— Ціха... Дакладна кажу — труп прывезлі з бальніцы хуткай дапамогі. Прыгожая такая дзеўка, з чорнымі валасамі. Наркаманка, ад перадазіроўкі загнулася. Фармалін ёй у вены напампавалі. А электроніка з суседнім боксам спараная.

— І навошта гэта?

— А ты меней пытайся... Камусьці трэба, каб гэтая дзеўка лічылася жывой. І ў мяне моцныя падазрэнні, што трэба гэта чалавечку не апошняму ў нашым паскудным свеце. Хто на чацвёртым пасту сядзіць — трайная аплата. За маўчанне. Але я кажу — не трэба мне дармовых грошай, лепей у гнілыя справы не лезці. Так што будуць прапаноўваць на чацвёрты — адкручвайся. Толькі выгляду не падавай, быццам нешта ведаеш. А то і ў нашай клініцы не адратуюць.

— А ты адкуль дазналася?

— Антонаўна, дай ёй Бог здароўя, папярэдзіла.

У калідоры пачуліся лёгкія крокі майго правадыра па медыцынскім пекле, уцялесненага ў асобе сімпатычнай медсястрычкі.

У маёй улюбёнай маленечкай кавярні, падобнай да куфра для перлінаў, замест перлінаў знаходзілася некалькі высокіх крэслаў, столік-палічка, тэлевізар пад столлю і бармен Жэня, які выдатна

гатаваў каву па-турэцку. Жэня нават «касіў» пад турка, па-пірацку павязваючы галаву чырвонай хусткай і апранаючы кашулі з пальмамі. Але ад гэтага бармен — дабрадушная паўнаватая фізіяномія, вейкі светлыя, нібы выгаралі,— нагадваў англійскага півавара. Джэк Ячменнае Зерне.

Тут быў утульны прыцемак, спіртное не прадавалася, а бармен прызнаваў толькі лацінаамерыканскую музыку (хаця лагічней было б — турэцкую), і тэлевізар на поўную гучнасць не ўключаў. «Ай-йа-ррырыба-йа-ррыба... Ё но сой марынэра, сой капітан...» Я не марак, я капітан — сцвярджаў невядомы лацінас, супадаючы ў памкненні адпавядаць сваёй выдуманай, прыснёнай Персоне з усім нашым грэшным светам... Толькі такія няўдачнікі, як я, могуць нудзець на адваротнае, здымаючы з сябе званне і лішнюю адказнасць.

Як я і спадзявалася, у кавярні, акрамя мяне, не было нікога. Па тэлевізары ішоў нейкі бразільскі серыял, перабіваючы задушэўнымі дыялогамі браваду самазванага капітана. Я няўважна паглядала на экран, дзе чарговая Анна-Марыя высвятляла з чарговым Маркам-Антоніем, што з імі было да страты памяці, і хто падмяніў іх дзіця, і дзе сапраўдны запавет багатага дзядзькі-плантатара. Я піла сваю каву, моцную, нібыта кроў цмока, глядзела ў шурпатую, стылізаваную пад старую драўніну, сцяну і спрабавала супакоіцца. Але на вочы ўвесьчасна наварочваліся слёзы. Я ўспаміналa, як тонкія рукі мастачкі луналі над карцінай, якая выпроствала свае фарбы з першароднага белага хаосу. Як я вяла амаль непрытомную Стэлу з душа, а потым яна мне расказвала пра карціны Рэрыхаў. І як яна малявала на целе Юрася казачныя ўзоры, нібыта хацела ператварыць яго ў казачнага героя, Юрась цалаваў яе, а я, незаўважаная, назірала і страшэнна раўнавала... Бедная Стэла... А яшчэ ў грудзях маіх варушыўся халодны страх. Я, здаецца, магла адказаць на пытанне з размовы медсясцёр — навошта ўтойвалі, што Стэла памерла. Каб Юрась працягваў думаць, што жонку трэба ратаваць, і працягваў працу над д’ябальскімі гадзіннікамі. Час ад часу прывязуць яго, пакажуць відовішча за шкляной перагародкай... Няўжо мой былы муж такі «незаменны кадр»? Я ўспомніла словы Калыванава пра тое, што «нашыя самародкі ўсіх замежных у лапці абуюць». Што ж, магчыма Юрась быў для гаспадароў нечым накшталт бабкі-шаптухі, да якой звяртаюцца пасля таго, як дыпламаваныя дактары аказаліся бяссільнымі. Я паведамлю яму пра Стэлу... Ён, вядома, адразу кіне працу і пачне гараваць. Ды яшчэ разборкі з гаспадарамі ўчыніць. Але

я не думаю, што людзі, якія здольныя на падобныя «інсцэніроўкі», яго так проста адпусцяць. Знойдуць іншыя «спосабы ўздзеяння». Выходзіць, лепей маўчаць...

«Вы яшчэ варыце бялізну? Значыць, мы ідзем да вас!» — аптымістычна заблагаў тэлевізар.

Па расейскай праграме пачаліся навіны. «Алігарх Пётр Калыванаў балатуецца на пост губернатара,— абвясціў дыктар у прыемных інтэлігенцкіх акулярах з тонкай аправай, за якімі хаваліся маленькія нядобрыя вочы.— Калыванаў — вядомы мецэнат, у яго перадвыбарчай праграме шмат увагі ўдзелена сацыяльнаму боку. Але ягоны праціўнік, вядомы пісьменнік Васіль Засенін, паводле папярэдніх апытанняў, карыстаецца ў насельніцтва вобласці нашмат большай папулярнасцю».

Калыванаў усміхаўся на адкрыцці нейкай дабрачыннай бальніцы, ягоны супернік прамаўляў нешта пра вялікую рускую нацыю перад купкай вельмі сур'ёзных людзей працоўнага выгляду.

Мяне перасмыкнула. Мецэнаты... Калекцыянеры... І яшчэ на Беларусі кавалак ухапіць хочуць. А Стэла ляжыць пад страшнымі апаратамі, і душа яе беспрытульная, можа, б'ецца ў белыя сцены мецэнацкай клінікі, як заблукалы матыль...

Чаму столькі клопатаў вакол старых гадзіннікаў? Няўжо іх сярэднявечныя таямніцы нечага вартыя сёння? З-за чаго пакутуе Юрась? Я адчувала, што разгадка ад мяне блізка, літаральна пад носам. Я прыжмурыла вочы і пастаралася прыпомніць свае сны, у якіх часта з'яўляліся гадзіннікі. Усплывалі нейкія адрывістыя малюнкі. Гадзіннікі стаяць у коле... Лекар гаворыць: «Гэта зброя...» Можа, дарэмна я не прыслухалася да парады псіхатэрапеўта Макса і не запісала сваіх сноў? А ў рэальным жыцці трэба было б яшчэ пашукаць дакументаў...

А ліст, што папрасіў мяне перакласці Юрась! Як я магла забыць! Неадкладна адшукаць маю былую выкладчыцу Галіну Сцяпанаўну...

Калі я развітвалася з барменам, той падарыў мне спачувальны позірк.

— Што, спадарыня, «прадынамілі» вас? Не сумуйце, такая красуня не павінна сумаваць. Каханне мусіць даваць насалоду абаім, іначай яно не вартае кубачка кавы.

Я злосна ляпнула дзвярыма кавярні. Якая яму справа...

Галіна Сцяпанаўна, як і калісь, па-еўрапейску падцягнутая, у старасвецкім сарафане і блузцы, з кароткай стрыжкай, толькі яшчэ больш ссівелая, сустрэла мяне строга.

— Рада бачыць вас, Ганна Іванаўна. Даўно не заходзілі. Год... восем, мусіць?

Погляд праз акуляры быў надта афіцыйны. Галіна Сцяпанаўна мела права сердаваць. У свой час я цэлы год хадзіла на ейныя курсы, а патрапіць туды было нялёгка. Галіна Сцяпанаўна — перакладчыцкі «ас», часта ездзіла за мяжу, займалася мастацкім перакладам. Я аказалася здольнай вучаніцай і дзякуючы Галіне Сцяпанаўне ўдзельнічала ў конкурсе, і апынулася на студэнцкіх курсах у маленькім нямецкім гарадку пад Берлінам. Год у Нямеччыне мог стаць вызначальным для ўсяго майго жыцця... Але я вярнулася, дала нырца ў журналістыку і на Нямеччыну забылася.

Убачыўшы ліст, Галіна Сцяпанаўна памякчэла. Усё-ткі прафесійны інтарэс.

— Цікавы дакумент. Надзвычай цікавы. Дарэчы, скапіраваны з арыгіналу, які захоўваецца ў Берлінскім гістарычным архіве. Пазнаю куточак іхняга штампа. Кажаце, працуеце над кнігай? Выдатна... Але баюся, што дакладна перакласці мне будзе цяжка. Пятнаццатае стагоддзе, дыялект...

Я ўпрасіла Галіну Сцяпанаўну, як магла, паспрабаваць перакласці зараз жа, ну хоць збольшага... Нават зрабіла спробу прапанаваць ганарар — але мая былая выкладчыца толькі кінула на мяне суровы погляд і пачала здымаць з паліцаў слоўнікі... Відаць, нешта ў маім выглядзе сведчыла наконт «справы жыцця і смерці».

Дзесьці праз гадзіну на аркушыку паперы быў запісаны тэкст, перасыпаны шматлікімі пытаннямі і пададзенымі ў дужках варыянтамі словаў.

— Чым так перакладаць, дык лепей не брацца...— абуралася Галіна Сцяпанаўна.— Гэта абсалютна непрафесійна! — былая выкладчыца не стала менш патрабавальнай да сябе. Але прачытала, што атрымалася.

«Яго высокасці курфюсту Фрыдрыху IV Нюрнбергскаму... Вартыя найвялікшага захаплення справы (дзеянні?) Вашай светласці... і жалю высілкі (злачынствы? учынкі?) вашых ворагаў... Я, доктар Бернацоні, які скончыў Падуанскую акадэмію з найвышэйшымі ўхваламі прафесароў, абазнаны ў лекарскіх навуках, і навуцы чытаць (прадказваць?) зоры, і ў механіцы, здольны рабіць усялякія механізмы і штукар-

ствы(?)... дзеля карысці святлейшых асобаў... знаходжуся ў нястачы і заняпадзе, бязвінна перасьледуемы ганіцелямі і паклёпы церпячы... Валодаю, па Божае літасці, сакрэтам, як мудраму абараніцца ад шматлікіх ворагаў, прыводзячы іх да шаленства, наканаванага ім іх грахамі (лёсам?)... Калі Яго высокасць курфюст дасць згоду вылучыць мне штогадовае ўтрыманне ў дзвесце дукатаў, і ахвяруе дзеля вырабу (стварэння?) маіх дзівосных (нетутэйшых?) механізмаў яшчэ тры тысячы дукатаў, праз два гады я буду мець гонар паказаць, як дзейнічаюць (ходзяць?) мае машыны, якія пачнуць адлічваць час смерці для ворагаў Яго высокасці... Машыны мае многа дзівосаў (вытвараюць?). Які б сасуд, шкляны або парцалянавы ні паставіць у іх кола, ён будзе разбіты іх голасам. І гэтак станецца са злымі намерамі. Я падару майму пану ўладу над тысячамі (паганцаў?), і ніхто не зможа зайсці ў замак, дзе будуць працаваць мае машыны, бо яго будзе цягнуць да сябе... (танец? карагод?). Застаюся ў чаканні Вашага найлітасцівага рашэння...

Гервасі Луіджы Бернацоні, доктар».

— А гэта досыць тыповы тэкст для таго часу,— задумліва пракаментавала Галіна Сцяпанаўна. Заўважыўшы маё здзіўленне, патлумачыла: — Такіх вынаходнікаў у Еўропе было пры кожным двары... Леанарда да Вінчы на працу наймаўся, таксама дадаваў «прэс-рэліз»: «У мяне ёсць планы мастоў, вельмі лёгкіх і трывалых, надта прыдатных да пераносу... Я знайшоў спосабы, як зруйнаваць любую крэпасць або іншае ўмацаванне, калі яно, вядома, не збудаванае на скале... У мяне ёсць чарцяжы для вырабу гарматаў, надта зручных і лёгкіх у транспарціроўцы, з дапамогай якіх можна раскідваць маленькія камяні падобна граду... Я магу стварыць катапульту, балісту ці іншую машыну здзіўляючай моцы...» і гэтак далей. Прапаноўваў своеасаблівыя правобразы танкаў, верталётаў, падводных лодак...

— І што, Леанарда праўда ўсё гэта рабіў? — спытала я.

— Ніводзін уладар яму не паверыў. І аўтару гэтага ліста, я думаю, адмовілі...

На развітанне Галіна Сцяпанаўна ўручыла мне новую праграмку сваіх курсаў.

— Хоць на сустрэчу з нямецкімі паэтамі прыйдзіце... Калісьці ж цікавіліся.

І, уздыхнуўшы, парушыла еўрапейскую этыку не лезці ў чужыя прыватныя справы.

— Такой сур’ёзнай дзяўчынай вы былі, Ганна. Разумею, маладосць, эмоцыі, пачуцці... Але галаву губляць нельга. Калі, вядома, у ёй усё-ткі прысутнічае нейкі інтэлект.

Мая ўстрывожанасць, пэўна, за літоўскую вярсту відаць...

Тым больш атрыманыя звесткі спакою не дадалі.

А ўвечары патэлефанаваў Юрась.

— Ну як там Стэла?

Я сабралася з духам і дала цалкам праўдзівы адказ.

— Падобна, яна ў тым стане, што і была...

Юрась памаўчаў і задаў другое, не менш крызіснае, пытанне.

— А ліст ты пераклала?

Мне зноў давялося напружвацца.

— Пераклала... Але я б хацела расказаць пра гэта пры асабістай сустрэчы.

Юрась зноў памаўчаў, але, калі загаварыў, голас ягоны гучаў зусім спакойна.

— А я б не хацеў, каб ты зноў сутыкалася з гэтымі людзьмі.

Я запэўніла, што маю сказаць нешта важнае.

— Ну, хіба на нейтральнай тэрыторыі? — няўпэўнена прамовіў Юрась.— Назаўтра я папрасіўся ехаць у Старавежск, глядзець, як гадзіннікі ў ратушы размяшчаюцца. Пастараюся там застацца адзін. Я не маю аніякага права цябе турбаваць... Але калі б ты пад’ехала на ранішнім аўтобусе...Там новая кавярня ёсць, насупраць вежы, з нейкай гатычнай назвай...

— Я прыеду.

Сказала — і сама здзівілася.

Таямніца выглядала небяспечна, быццам іржавы іспанскі бот. Як дзейнічалі гадзіннікі Бернацоні? Разбівалі розум, нібы шклянку? Быў у старажытным Мецы звон, з дапамогай якога каралі асуджаных. Прывязвалі да слупа на пляцоўцы званіцы, разгойдвалі доўгай вяроўкай язык звону... На дзясятым удары асуджаны страчваў слых, на сотым — у яго лілася з вушэй кроў. Дзвесце ўдараў — і чалавек назаўсёды ператвараўся ў «гародніну», як сказала б медсястрычка з клінікі «Гіпакрат». А яшчэ адзін звон, у іспанскім мястэчку Гарда, называлі «тарантэлай». Бо калі ён званіў, усім карцела прытанцоўваць. У старажытных кельтаў паэты-спевакі, філіды, лічыліся магамі, нават з маленства праходзілі дванаццацігадовае навучанне ў закрытых школах... Іспыт на званне майстра — выканаць тры песні: адну, ад якой плачуць, другую, ад якой смяюцца, трэцюю — якая

ўганяе ў сон. Была і адмысловая песня-праклён, гламдзікін. Каму яе спяюць — у таго на твары выскокваюць тры featнакаляровыя болькі — ганьбы, сораму і абразы. А далей — смерць...

Я зноў і зноў спрабавала ўспомніць нешта са сваіх сноў. Відаць жа, што мая падсвядомасць у «змрокавым стане» больш паспяхова разгадвала загадкі. Нібыта я і чорны лекар стаялі ў цэнтры кола... Але гэта, бадай, усё, што мне ўдалося прыпомніць.

* * *

...Анэта пазірае праз іржавыя краты на вялікакняскі суд, і ёй здаецца, што гэта не яна замкнёная ў клетку, а панове суддзі, а яна проста наблізілася, каб разгледзець іх... Біскуп паклаў руку на сэрца, нібыта моліцца... А можа, слухае, ці ёсць яно ў яго, сэрца? Войт Лаўрын Рожа сядзіць такі змрочны, быццам яго прызначылі кіраваць могільнікам. Затое соцкі Баркун пераможна пазірае вакол, не прыбіраючы рукі з дзяржальна мяча, нібыта чакае нападу. Магчыма, на гэтым мячы — кроў старога Ляскевіча і маладога Радчыца, змяшаная з крывёю чужынцаў...

— Я буду сведчыць супроць цябе,— цёмны твар Марцэлі — побач, па той бок кратаў. Анэта ўздрыгвае — ці не першы раз яна чуе, як Марцэля размаўляе? Дзяўчына доўгі час думала, што старая — нямко.

— Чаму ты так са мной? — ціха прамаўляе Анэта.— Я не зрабіла табе нічога благога...

Марцэля глядзіць на дзяўчыну амаль абыякава — у яе вачах няма радасці, як у вачах гаспадыні, што выполвае гожыя валошкі са сваёй грады. Толькі пэўнасць, што так трэба рабіць.

— Ваш род мусіць згінуць.

— Чаму?

Старая нейкі час моўчкі варушыць вузкімі вуснамі, нібыта словы прыліплі да іх.

— Я была жрыцай.

— Што? — Анэта яшчэ не страціла здольнасці здзіўляцца.

Марцэля жорстка крывіць вусны.

— Нашае капішча месцілася за дзве вярсты адсюль. І малады Ляскевіч прыносіў Лялі галубоў і маладзенькіх авечак, і іншыя дарункі, якія належыць дарыць багіні кахання. Лель яго звалі... Лель блакітнавокі...

Анэта здагадваецца, пра якія дары гаворыць Марцэля, і не можа ўявіць бацьку побач з аголенай маладой дзяўчынай — магчыма, гэтай

жа Марцэляй,— а вакол скача карагод, і грае шалёная музыка, і гудуць абцягнутыя ваўчынай скурай барабаны... Не, гэта немагчыма... Бацька — шчыры хрысціянін...

— Яго звабіла твая маці. Ён ахрысціўся і прадаў старых багоў. І прывёў на нашае капішча, пра якое ведалі толькі абранцы хрысціянскіх вояў... Я была зусім дзяўчынкай, і мяне пашкадавалі. Ахрысцілі... Далі іншае імя... І Ляскевіч узяў мяне ў свой дом прыслугай. А я была жрыцай! Я служыла толькі багам!

Твар жанчыны перакрывіўся нянавісцю. Анэта ўсвядоміла, што Марцэля не такая ўжо старая... А тая працягвала шаптаць, нібыта мінулагодні трыснёг варушыўся пад сіверам.

— Багі не даруюць. Яны пакаралі тваю маці... Яны — не я, бо іх воля праяўляецца ў зёлках, насычае іх жыццядайнай або смяротнай моцай. Я магла лёгка згасіць і тваё слабенькае жыццё — але волі багоў на гэта не было. Я сышла з вашага дому далей ад спакусы. А цяпер — усё будзе давершана.

Марцэля паклала руку на вялізны крыж, што вісеў на яе высахлых грудзях.

— Сёння я для ўсіх — праўдзівая хрысціянка, а ты — вядзьмарка! Запомні ж маё сапраўднае імя — і паўтарай яго, калі будзеш паміраць доўга і пакутліва: Марэна! Я — Марэна!

Апантаную дзяўчыну войт хацеў адправіць у кляштар. Але біскуп запярэчыў. Ён прыехаў адтуль, дзе з ведзьмакамі размаўлялі толькі на мове агню і жалеза. У зале войтаўскага дома, без белай ружы над уваходам, зусім не было відаць старавежцаў, якія ведалі б Анэту і заступіліся. Тыя, што ацалелі ад пошасці і шалу, і не пайшлі на вежу разам з карачунцамі, цяпер сядзелі па дамах, дзякуючы Госпаду за цуд, за падараваныя гады ў гэтым не лепшым са светаў, але не страшнейшым за смерць. Паміж горшым і яшчэ горшым заўсёды з'яўляецца маленечкі светлы пасак выбару, які дазваляе прымірыцца з сабой і светам. Не знайшлося рыцара, які б пайшоў дзеля вядзьмаркі на Божы суд — на рысталішча да смяротнага сыходу...

Але прысутныя былі ліцвіны, і ў іхнім звычаі не значылася смажаніна з чалавечыны. Хай прыедзе з Наваградка мітрапаліт, ён і рассудзіць... Біскуп зразумеў, што лепей саступіць. Але не ў тым, што прыслужніца шатану застанецца жыць і паганіць сваім дыханнем Божы свет. Як без ачышчальнага агню прывесці грэшную душу на суд да Госпада?

Княскі блазан Карэйва прапанаваў іншае... Замураваць вядзьмарку разам з д’ябальскімі гадзіннікамі ў вежы. Некаторыя казалі — лепей было б дзеўцы проста адсячы галаву і пахаваць асобна ад цела — каб не перакінулася мёртвая вядзьмарка ў вурдалака.

Вежа паслужыла зброяй нячысціка. Збеглы лекар ператварыў пачэсную ратушу ў котлішча злой сілы, у саміх мурах пасяліў сваё чараўніцтва — не адчысціш. Хто з добрых хрысціянаў насмеліцца рызыкаваць там сваёй вечнай душой? Праклятая вежа... Над ёй больш не лунаў сцяг вольнага горада, зачыненыя шыбы запячаталі знакамі святога крыжа. Дзверы заклалі цэглай і таксама накрэслілі крыжы. Ніхто болей, акрым начных ценяў, не мусіў заходзіць сюды, дзе ў скляпенні спачывалі д’ябальскія гадзіннікі Бернацоні, а побач — замураваная жыўцом маладая залатавалосая вядзьмарка.

Цемра... Акрапі мя ісопам, і ачышчуся... Цішыня...

Смерць, так доўга ты бегла за мной... Цяпер, калі ты не пудзіла, а жаданая госця, сядзіш наводдаль, не спяшаешся, і нават у адсутнасці святла я бачу тваю ўсмешку.

Калі доўга ўглядацца ў цемру, у ёй пачынаюць варушыцца шэрыя змеі... Залацістыя змеі... Чырвоныя змеі... Кубло, падобнае да таго, на Клескуновым свяце. Здаецца, нібыта водбліскі пякельнага агню трапляюць сюды. Вось гэтыя водбліскі ўсё ярчэй... Ярчэй... Нібыта ў каменную яміну падымаецца самое пекла...

Са студні высунулася рука, якая трымала паходню. Потым паказаўся звыродлівы насмешны твар. Княскі блазан Карэйва спрытна выскачыў з каменнай яміны.

— Ну, як, ці лягчэй было паміраць другі раз, Ядзерка?

Анэта, якая сядзела скурчыўшыся на халоднай падлозе, прамовіла, як у сне:

— Я не ведаю, ці я памерла... Ці жывая...

— Хе-хе-хе! — затросся блазан ад невясёлага смеху.— Што ёсць жыццё, і што ёсць смерць? Хвост і галава адной змяі. Я таксама калісьці памёр для людзей. Калі паміраеш для свету — набываеш волю, Ядзерка. Таму выбірай. Я магу адвезці цябе ў Кракаў. Няма каму пазнаць цябе, ты набудзеш новае імя, станеш вольнай і багатай і забудзешся на карагоды смерці. У маіх сілах зрабіць гэта для цябе — у памяць пра маё ўласнае страчанае каханне. Ёсць і другі шлях — уваскрэснуць у Госпадзе... Калі захочаш, я адвязу цябе ў кляштар, Анэта, як ты калісь прасіла.

Дзяўчына павольна ўзнялася.

— Я выбіраю шлях да Госпада.

Бывай, Старавежск, слаўнае вольнае места... Цябе больш няма... І мяне няма.

Я ніколі не вярнуся сюды.

* * *

Ратуша з яркім чырвоным дахам стаяла пасярод прыцярушанага снегам пляца, як на каляднай паштоўцы, і здавалася, нібыта з будынка зараз выйдуць «красналюдкі», гномы ў чырвоных шапачках ды весела запяюць на тырольскі манер...

Але ля вежы спыніліся тры іншамаркі, урачыстыя, нібыта шаўковы цыліндр ды фрак лорда віктарыянскай эпохі — ані драпінкі на бліскучай паверхні, трымайся на адлегласці, плябей. І сапраўды — ля спакусных машын не круцілася нават усюдыісная старавежская малеча.

Я стаяла на ганку нядаўна збудаванай кавярні, адной з тых, што мусілі абслугоўваць будучы натоўп турыстаў, і з-за абліцаванай шэрым каменем калоны назірала за гасцямі, што кіраваліся ў вежу. Калыванаў вёў пад ручку ўдаву Баркуна, захутаную ў чорнае футра, аздобленае белымі хвосцікамі не ведаю ўжо якой жывёлінкі. Квадратны Янчын, як заўсёды, энергічна размахваў рукамі, і нават здалёк быў чуцён ягоны нізкі голас. Элегантны Макс у белай дублёнцы... Вядома, былі і ахоўнікі вяльможных асобаў, усё тыя ж Ігар і Анатоль. Іхняе прызначэнне было відаць нават таму, хто першы раз іх бачыў, як адразу пазнаецца смяротнае прызначэнне зброі. А вось і Юрась... У нехлямяжай куртцы з паднятым каўняром, у светлай вязанай шапцы... Зусім інакшы сярод кампаніі. Небяспечна інакшы. У мяне зашчыміла ў грудзях. Юрась затрымаўся перад уваходам у вежу, агледзеў пляц... Мяне ён убачыць не мог, але падалося, што ягоны позірк запыніўся там, дзе я стаяла.

А мястэчка нібыта вымерла. Ніхто не пракладваў след па белым покрыве, нібыта баяўся зганьбіць ягоную чысціню. Над дахамі ўздымаліся раўнютка ў шэрае неба слупы дыму, і яго непаўторны пах вяртаў у местачковае дзяцінства.

А я не любіла сваё дзяцінства. Яно толькі лічыцца «залатой парой». Можа, у каго так і ёсць... Але насамрэч дзеці — істоты такія жорсткія, што часам назаўсёды пазбаўляюць адно аднаго самага галоўнага, што трэба для шчасця — пачуцця абароненасці і самапавагі. Таму я здушыла настальгію, развярнулася і тузанула дзверы пад шыльдаю з

намаляванай дзідай. На дзіду, як матылёк на шпільку, было насаджанае чыёсьці сэрца, а пад ёй красаваўся надпіс гатычнымі літарамі: «Верны Рыцар».

Краіна бязлітасных дам.

У кавярні таксама анікога. Інтэр'ер тыповы: абшытыя цёмным дрэвам сцены, люстэркі, прыцемак... Пры жаданні я магла ўявіць, што зноў апынулася ў маёй улюбёнай мінскай кавярні. Толькі бармен больш худы за Жэньку-пірата і без хусткі на галаве, замест лацінаамерыканскіх рытмаў нахабныя расейскія старлеткі выводзілі «Ой, люлі мае люлі...», а наведнікаў чакала некалькі драўляных столікаў з карункавымі абрусамі і штучнымі фіялкамі ў белых пластыкавых вазачках. Ды яшчэ — заяўка на еўрапейскасць — свечкі ў шкляных круглых падсвечніках. Бармен нават не паленаваўся запаліць свечку на маім століку... Відаць, засумаваў у адзіноце ды без справы. Я замовіла адразу два кубкі кавы і ўселася так, каб назіраць праз акно за вежай. Нарэшце дзверы пад рознакаляровым бліскучым гербам расчыніліся... Адна з постацяў аддзялілася ад групы і рушыла ў бок кавярні. Астатнія селі ў машыны і з'ехалі. Юрась ішоў сюды.

— Дзякуй, Анэта, што прыехала... Я таго не варты,— Юрась прыветна ўсміхаўся, але я проста фізічна адчула, які ён унутрана напяты. Аблічча выснажанае, між прамых броваў з'явілася ўпартая зморшчынка, позірк сініх вачэй цвёрды і нейкі адчайны... Як у камікадзэ. Ну і параўнанні лезуць у галаву...

Вогненны карузлік у шкляным падсвечніку гарэзна падскокваў, нібыта намагаўся выскачыць са свайго васкова-шклянога палону і выклікаць на дапамогу цэлае вогненнае войска. Я моўчкі паклала на столік ліст Бернацоні і аркушык з перакладам. Юрась гэтак жа моўчкі прачытаў. Твар ягоны быў каменны. Мяне нават закранула — няўжо не здзівіўся? Але ў любым выпадку мой былы муж вырашыў не выяўляць свае пачуцці. Ён працягнуў мне назад паперкі.

— Схавай і забудзься.

Гэта што, я дарэмна турбавала Галіну Сцяпанаўну?

— Паслухай, мне і так наша сустрэча нагадвае сустрэчу Шціра́ліца з жонкай у кавярні «Элефант», не хапае толькі адпаведнай музыкі.

— Дарэчы пра жонак...— неяк ненатуральна лёгка прагаварыў Юрась, не зважыўшы на маё абурэнне.— Як там Стэла?

Божа, што рабіць? Я так і не вырашыла, як будзе мудрэй... Змаўчаць? Намякнуць на праўду? Маё няпэўнае мыканне Юрась расцаніў, як кепскія навіны пра здароўе жонкі.

— Трэба мне найхутчэй адсюль выбірацца. Самому прасачыць, як там і што...— зазначыў рэстаўратар.— Але зараз вось — тапчуся на месцы... Я адчуваю, дзе якое колца было, як нацягваліся вяроўкі... Там — драпінка, там — цёмная плямка... Фігурка нахіленая... Усё роўна як малюнак па фрагментах дамалёўваю. Але гаспадары не здаволяцца, пакуль гэтыя клятыя гадзіннікі не пачнуць разбіваць шклянкі, як п’яны афіцыянт. Нешта ўжо атрымліваецца... Рэзананс моцны. Ды не хапае чагосьці, што мусіла з’ядноўваць усе гадзіннікі. Яны вельмі геаметрычна выверанныя, дэталі знаходзяцца на пэўных лініях прасторы, перасякаюцца, вымагаюць чарговасцяў... Мне засталося зусім трошкі, каб адгадаць загадку... А цяпер не ведаю, ці маю права яе раскрываць? А раптам гадзіннікі сапраўды — небяспечная зброя?

Я задумалася. Ці варта надаваць такое значэнне сакрэту лекара? Гэта ўсяго толькі легенды. Ведзьмакі таго часу, нацершыся аканітавай маззю, шчыра верылі, што лётаюць...

Агеньчык свечкі быў такі слабы, што люстраваўся ў кубках ледзь заўважнай светлай кропкай... Але часам дастаткова адной светлай кропкі, каб выйсці на шлях. У мяне пакуль такой не было. Усё здавалася нерэальным. Гэтае мястэчка, за волю якога гінулі пакаленні, магчыма, і маіх продкаў... У якім гібелі продкі, што выжылі ў бязлітасным часе, нібыта сухія травінкі, не зачэпленыя касой, зрэзаўшай гонкія сакавітыя сцяблiны... Нерэальным быў сённяшні халодны дзень — быццам прыхінаешся шчакой да зацягнутай бруднай шэранню шыбы чужога акна... І гэтая кавярня, падобная да правінцыйнага альбома, у якім выразаны з паштоўкі калядны зайчык суседзіць з рэпрадукцыяй Хруцкага... І чалавек насупраць, сумны і напяты, як рука воя на дзяржальне мяча... Вось заплюшчу вочы, усё знікне, і я прачнуся ў сваёй часовай кватэры з белымі ў брунатныя пасачкі шпалерамі, з копіямі старажытных гравюраў...

— Ты моцна кахаеш Стэлу? — дурное жаночае пытанне, за якое я адразу пачала сябе дакараць. Але Юрась, памаўчаўшы, адказаў з горкім спакоем.

— Усяго было... І кахання, і шкадобы.... А галоўнае, мабыць — пачуцця віны...

Я не магла змаўчаць.

— Перастань, ну ў чым твая віна?

Юрась сур’ёзна, тужліва паглядзеў на мяне.

— Думаю, што не мог ні пры якіх абставінах — а яны часам былі, як кіпень,— кінуць Стэлу, бо памятаў, што кінуў цябе. Я мусіў сплаціць грэх... Дасюль не да канца разумею, чаму ў нас з табой так усё атрымалася?

Я адвяла вочы.

— Вядома, спраўдзілася наша агульная легкадумнасць ды юначы эгаізм... Але акрамя таго... Успомні, хто былі мы, калі пазнаёміліся? Я — дзяўчынка з правінцыйнага мястэчка, для якой вялізная праблема, прабач, набыць калготкі. Ты — «хлопчык-мажор», са сталічнай элітнай сям'і, багаты, стыльны... Мог апельсінамі падлогу засыпаць. А я больш за ўсё на свеце ненавідзела становішча Папялушкі. Я ж чытала табе свае вершы. «Мне нічога ад моцных не трэба, хай гуляюць ва ўладу па-царску...» Карацей, мы бедныя, але гордыя... А ты, паводле тэрміналогіі маёй сям'і, буржуй... Чалавек іншага кола.

Мой былы муж разгублена правёў рукой па цёмных непаслухмяных валасах — гэты жэст у яго застаўся яшчэ ад таго часу, калі насіў доўгія кудлы.

— Я пра гэта не задумваўся... Ты ж такая... незалежная, прыгожая... Я да цябе падысці не наважваўся.

— Падышоў жа...

Юрась апусціў галаву, нібыта сабраўся падставіць яе пад рытуальную жменьку попелу.

— Божа, які я ідыёт...

Я ўздыхнула.

— Давай ужо праўдзіва — якія мы абодва ідыёты. І хопіць настальгіі. Усе гэтыя Калыванавы, вядома, навалач, але не будзем перабольшваць. Гадзіннікі сёння ў якасці зброі — так, цацкі... Ну будуць гаспадары забаўляцца, палохаць гасцей. Не ўсе ж гатовыя вар'яты, як прафесар. Зрабі выгляд, што ні аб чым не здагадваешся, адрамантуй — і ўцякай...

Юрась задумаўся.

— Слухай, ты ведаеш, дзе жыве краязнавец Калейка? Можа, ён распавядзе падрабязнасці, як знайшлі гадзіннікі...

Мястэчка ў нечым было падобнае да таго, у якім вырасла я — гэтак жа падзялялася на раён старых хацінак і «элітную зону», дзе збудавалі некалькі двухпавярховых «хмарачосаў». Толькі мелася ў Старавежску і тое, чаго не хапала ў мястэчку маім. Маё вырасла паўсотні гадоў таму дзеля прытулку нафтавікоў, якія шчыравалі на зараз мёртвым заводзе — бетонныя муміі труб, бязвокія пачвары

будынкаў, ашчэраныя ржавай арматурай... А тут гісторыя выпроствалася з-пад зямлі камянямі са стараславянскай вяззю, рэшткамі цаглянай агароджы, мармуровымі прыступкамі, што вялі на заснежаны падмурак... Досвед сотняў пакаленняў нібыта люстраваўся ў тварах месцічаў, якіх мы сустракалі па дарозе, праступаў з-пад іх рысаў простай мудрасцю часу. Мне нават падалося, што, каб нарадзілася я тут, не саромелася б свайго правінцыйнага паходжання, не было б у мяне «агіды глухамані», якую апісваў японец Акутагава. Калі на заходзе сонца раптам схопіць цябе за горла невымоўная туга, скруціць душу, як мокрую хустку — і трэба зараз жа бегчы адсюль туды, дзе сапраўднае жыццё, вырвацца, атрасаючы з сябе санлівую цішу, перавітую дымкамі з комінаў, аздобленую рэдкім сабачым брэхам. Калі далёкі свісток цягніка — усё роўна што пляма святла наверсе, якую бачыць тапелец. А тут, у Старавежску, была самадастатковасць, цэнтр, няхай ён урос у зямлю, як гэтая старая капліца, толькі верхні ярус з абламаным крыжам цямнее над сумётамі...

Звілістая рэчка падзяляла горад напалам, намыўшы за тысячы гадоў высокія адхоны. Дом Пятра Піліпавіча Калейкі аказаўся дзесьці ўнізе, над рэчкай, да яго трэба было спускацца пакручастай сцяжынкай. Мае абцасы падступна слізгалі, я ліхаманкава хапалася за голае вецце лазняку, якое сіратліва тырчэла з-пад снегу. Юрась, які спускаўся наперадзе, нясмела працягнуў мне руку. Нясмела — таму што памятаў, на якую водпаведзь мог нарвацца. Гэта мае сяброўкі, калі мы прыехалі ў нямецкі ўніверсітэцкі гарадок, дзівіліся, чаму прыстаўленыя да нашай групы хлопцы-гіды не кідаюцца дапамагаць замежным дзеўчынёхам несці цяжкія сумкі, расчыняць дзверы... А я заўсёды ведала, што нармальная феміністка такія знакі ўвагі лічыць за абразу, падкрэслены напамін пра сваю другаснасць, як слабейшага полу. «Сама-сама-сама!»

Дурніца...

Юрась дапамог мне спусціцца, беражліва падтрымліваючы на слізкіх месцах. Але пры гэтым пазіраў некуды ўбок. І я ведала, пра каго ягоныя думкі. І не насмельвалася нешта прамовіць, адчуваючы віну, нібыта нават дотыкам да яго рукі адбіраю нешта ў памерлай... Якая для яго — жывая. Адбіраю, бо мне нечакана прыемны гэты выпадковы дотык... Якая я нягодніца!

Мае экзістэнцыйныя выкладкі засталіся пры мне, Юрась, вядома, нічога не заўважыў... Затое нас заўважыў Пётр Піліпавіч Калейка. Ён моўчкі стаяў за варотцамі, умудраючыся ў сваёй ватоўцы, велізарных

валёнках і шапцы-аблавушцы выглядаць праўдзівым арыстакратам. Вусны, па-старэчы бяклыя, строга падціснутыя. Глядзіць з-пад насупленых сівых броваў, як на якіх акупантаў.

Не хутка апынуліся мы, не прабачаныя, але пераведзеныя са статусу злачынцаў у статус падазраваемых, у хаце Пятра Піліпавіча і займелі гонар пад незадаволенае ціканне «ходзікаў» з гірай-шышкай сузіраць старыя фотаздымкі, на якіх ратуша была яшчэ ў сапраўдным змрочным аблічча.

— Гадзіннікі знайшліся глыбока ў лёхах...— апавядаў Калейка, раскладаючы фотаздымкі, нібыта пасьянс, на белай цыраце з выявамі брунатных самавараў і бублікаў, што засцілала круглы старасвецкі стол.— Час быў стракаты. То немцы наступаюць, то расейцы, то бальшавікі... Як зграі ваўчыныя — прабягуць, паабкусваюць усё, што можна... Сёння аднаго ставяць да сценкі, ягоны ідэйны вораг радуецца. Заўтра вешаюць таго, хто ўчора радаваўся. І вось яны, ляжаць побач, на заараных могілках. Урэшце палякі прыйшлі, усходнія крэсы ўмацоўваць. Палова мястэчка акаталічаная. Па-польску намагаюцца «пшэкаць», на праваслаўных суседзяў — з пагардай: «Мужыччэ». Вось палякі і пачалі вежу абшукваць. Нейкі дурань данёс, што там бальшавікі зброю схавалі. Мой бацька яшчэ падлеткам бачыў... Разламалі падлогу, адразу думалі — труны ўнізе... Потым разабраліся: гадзіннікі. Стаялі ўкруг, страшныя, счарнелыя, нібыта спавядальні. Вежа — на ўзгорку, лёхі сухія, вось і ацалелі. У 39-м, калі саветы прыйшлі, польскі паручнік тыя гадзіннікі забраў, на калёсы — і звёз, як толькі страляніна ўсчалася. Адзін толькі гадзіннік пакінуў — яго Баркун, дзед вашага Аркадзя, прыўлашчыў, пакой камбеду прыкрасіць. На тым гадзінніку смерць каралю галаву адсякала. Здаецца, унуку той гадзіннік перайшоў... Бо наведваў мяне і той унук... Таксама пра гадзіннікі распытваўся. Ды яшчэ радавод свой удакладняў.

— Дык ягоны ж продак быў тутэйшым рыцарам, соцкім яшчэ ў 15 стагоддзі! — прадэманстравала я сваю эрудыцыю. Пётр Піліпавіч суха засмяяўся.

— «Рыцар!» Паслугачы і каты яны былі з пакалення ў пакаленне, у 19 стагоддзі адзін з Баркуноў паўстанцаў Каліноўскага вешаў. Род занепадаў, як Богам пакараны. Дзіва што Баркун стаў старшынёй бядняцкага камітэту — шчанюком яшчэ быў, але ўжо гарлапан, якіх мала. Так я вашаму Аркадзю і сказаў. Ён толькі дзвярыма ляснуў і пайшоў, як мыла з’еўшы.

— А ці не заўважылі ў тых лёхах, калі гадзіннікі знайшлі, чагосьці яшчэ, няхай нязначнай, дзіўнай рэчы? — настойліва спытаў Юрась.— Успомніце, калі ласка...

Калейка паціснуў плячыма.

— Ну каб я сам там прысутнічаў, дык нешта, можа, і згадаў бы. Але я тады яшчэ на свет не нарадзіўся. Вось студню бачыў, калі аднойчы ў маленстве залез у тыя лёхі. Атрымаў пасля ўдома лупцоўкі добрай. А яшчэ, бацька казаў, срэбны сярпок знайшоўся...

— Які сярпок? — напружана перапытаў Юрась.

— Ну Бог яго ведае... Скрутак ля гадзіннікаў валяўся, бацька дамоў цішком забраў. У скрутку і быў срэбны сярпок ды пабітае шкло. Звычайнае шкло, празрыстыя аскалёпачкі... Ад вазы нейкай, мусіць. Гэты сярпок потым маці ў вайну на авёс выменяла. І добра... Не хацелася б мець у доме нейкую рэч з праклятай вежы...

— А чаму яна праклятая? Няўжо вы верыце, што ў ёй сапраўды была замураваная смерць? — не выцерпела я.

Калейка памаўчаў, падціснуўшы вусны.

— Смерць з гэтай вежы сапраўды не вылазіць. У вайну там двух партызанаў расстралялі... У рэвалюцыю аднаго пана замкнулі, галоднай смерцю замардавалі... Пан, праўда, люты быў, жыў, нібыта прыгон ніхто не адмяняў — дзяўчатак вясковых у прыслугі наймаў, запалохваў, гвалціў... А ёсць і яшчэ нешта, даўнейшае.

Калейка павагаўся, ягоныя вочы падазрона прайшліся па нашых тварах.

— Вось...

Стары дастаў яшчэ нейкую папку. Я ўбачыла знаёмыя гравюры, а таксама некалькі новых. Былы настаўнік беражліва ўзяў адну з іх у рукі.

— Каму ні расказваў з гісторыкаў, на смех мяне падымаюць. Маўляў, не было такога на Беларусі... А я ўпэўнены — тут гэта адбывалася, вакол нашай ратушы. Параўнайце — той самы будынак, што і на фотаздымках!

На гравюры быў тыповы матыў XV стагоддзя — танец смерці. Узяўшыся за рукі, падскоквалі ў вычварным танцы малады мніх, дзяўчына ў шляхецкім строі, немалады таўстун са смешна вырачанымі вачыма і шкілет. Над каржакаватай вежай — сонца і месяц, з'яднаныя ў адзін абыякавы твар, расколаты напалам.

...Раскрыліся ізноў зямлі глухія нетры.

І блазан, і кароль — у скокі смерці — кроч!
Шалёны карагод кругі кругамі мерыць.
І ўсмешкі ўсё шырэй, бяздонней погляд воч.
І біскуп, і рабін, і вулічная дзеўка —
Не выдзерці з рукі скалелую руку —
Імчаць за кругам круг. Сатлелыя павекі
Не скрыюць ад вачэй пустых — апошні круг.
Нябачны барабан прыспешвае кружэнне.
Кашчавы дырыжор з бліскучаю касой
Свой аглядае баль. Ні жалю, ні ўзрушэння.
Такі вось насамрэч на могілках спакой.

Раптам Юрась рэзка выпрастаўся на жорсткім драўляным крэсле, нібыта яго хтось ударыў па спіне. Вочы сталіся зусім адсутнымі...

— Што з табой?

Рэстаўратар нейкі час усё гэтак жа пазіраў у невядомую далеч, а потым пачаў неяк паспешліва развітвацца з гаспадаром. Я таксама з няёмкасцю ўзнялася. Калейка схаваў гравюры, фотаздымкі і ўзняў выцвілыя, але ўсё яшчэ вострыя вочы на госця, што мармытаў падзякі...

— Дзіўлюся я з вас... Гісторыя — гэта не стос фотаздымкаў, якія можна тасаваць, укладаць у рамачкі, спальваць... Гісторыя можа забіваць і ўваскрашаць. А вы з ёю, як з уласным нататнікам... Упісаў нешта, выкрасліў...— Пётр Піліпавіч сумна ўздыхнуў.— Вось, нешта тут вынюхалі, будзеце выкарыстоўваць... Ды можа, гэта вас выкарыстоўваюць нейкія непадуладныя вам сілы, перастаўляюць, як пешак, па клетачках? А гуляеце вы з такімі фігурамі, што вас неадменна з’ядуць. Ну, Бог вам суддзя... І не забудзьцеся, Ганна, як абяцалі — артыкул пра вяртанне плошчы спрадвечнай планіроўкі! Сам у газету занясу!

Юрась ішоў па заснежанай сцежцы, пахмура гледзячы сабе пад ногі, і я не наважвалася парушыць маўчанне. Праз гадзіну я буду ехаць у аўтобусе, які адвязе мяне да звыклага жыцця. А Юрась вернецца ў Людвісарава, за высокі бетонны плот. Дзень паволі паміраў, і сцвердзіць ягоную смерць спяшаўся мароз. Снег парыпваў пад нагамі, але не жаласна, не гарэзна, а неяк трывожна... Нібыта ў нашыя сляды наступаў яшчэ нехта нябачны...

На падыходзе да царквы, звычайнай мураванкі з сінім какошнікам, з тых, што ўзводзіліся на нашае зямлі пасля здушэння паўстання 1863 году ледзь не ў кожнай вёсцы, Юрась рэзка спыніўся.

— Я зразумеў, як Бернацоні выкарыстоўваў свае гадзіннікі.

У голасе майго былога мужа не чулася радасці. Над царквою кружлялі вароны, нібыта ўзляцелі ржавыя крыжы з забытых могілак.

Юрась зачарпнуў шорсткага, як пясок, снегу і працёр ім твар у гарачцы.

— Вось і ўсё... Але ведаеш... Гэта страшна. Калі тое, што мне ўяўляецца, хоць трохі праўда... Паспрабую тэрмінова перавезьці Стэлу ў іншую бальніцу! Яна ж — закладніца ў іх... А я не магу ім усё расказаць... І ёю рызыкаваць не магу... Раней у такіх абставінах кулю ў лоб сабе пускалі, даруй, Госпадзе...

У яго адрывістых словах былі такія адчай і пакута, што я наважылася.

— Паслухай... Я не ўсё табе паведаміла...

І расказала Юрасю пра Стэлу.

Ён выслухаў мой няўпэўнены і блытаны, нібыта вязанне са спушчанымі петлямі, аповед з застылым выразам твару. Толькі сціснуў далоні ў кулакі, аж костачкі збялелі. Я думала, што ён мне не паверыць. А калі раптам паверыць... Па-першае, людзі маюць уласцівасць ненавідзець тых, хто паведаміў благое. У старадаўнасці ганца маглі і на палю пасадзіць... А па-другое — гора, слёзы... Я мусіла ўтрымаць былога мужа ад цалкам зразумелых сутычак з гаспадарамі. На пэўны момант мне падалося, што мае трывогі спраўдзяцца — Юрась страшэнна збялеў і прагаварыў скрозь зубы:

— Сволачы...

Ён даволі доўга стаяў і маўчаў, утаропіўшыся ў снег. Здавалася, у белай паверхні зараз з’явіцца яміна ад яго позірку... А ўжо я ледзь вытрымлівала пад цяжарам маўчання. Не хапала яшчэ зарумзаць самой, калі трэба дапамагчы чалавеку не выказваць гора. Але Юрасю, відаць, удалося здушыць пачуцці, ён адрывіста ўздыхнуў і падняў галаву.

— Прабач... Мне ўсё-ткі не вельмі лёгка пасля такой навіны... Хаця — якая там навіна. Ведаеш, я... адчуваў, вось ужо тыдзень адчуваў, што Стэлы няма. Між намі заўсёды цягнулася нейкая тонкая нітка. І вось — парвалася... Пустэча. Стэла... Але я ўжо столькі раз яе хаваў, аплакваў, развітваўся... Адгараваў сваё, мабыць... Усё, пайшлі на станцыю.

Аўтамабіль колеру мокрага асфальту спыніўся проста ля нас.

— Ну што, Юрачка, адпачыў, падумаў? Цяпер, я ўпэўнены, справа пойдзе на лад. Прывітанне, Анэта! Не забываеш сябра ў цяжкую хвіліну? Малайчына!

Янчын з заўсёднай шумнай прыветнасцю быў тут дарэчы гэтак жа, як рознакаляровыя паветраныя шарыкі на пахаванні. Ён ляпаў Юрася па плячы.

— Ну, ну, не сумуй... Паставім на ногі тваю Стэлу. Хутка яшчэ нейкія «прасунутыя» лекі на ёй паспрабуюць. А хочаш, з’ездзім заўтра ў бальніцу, паглядзіш на нябогу нашую...

Я глядзела на смуглявы твар Янчына, на ягоную спачувальную ўсмешку. І не магла паверыць, што гэты чалавек датычны да страшнай містыфікацыі. Баялася, што Юрась сарвецца. Але рэстаўратар моўчкі стаяў з застылым тварам. Янчын усё не змаўкаў.

— Слухай, ты ўжо ведаеш, як працавалі гадзіннікі? Галава ў цябе светлая, здагадаўся?

Юрась расціснуў збялелыя вусны.

— Ведаю.

Госпадзе, ён нават маніць не стаў!

— Вось малайчына! — Янчын зірнуў на мяне, нібыта заклікаючы ў сведкі.— Я заўсёды казаў, што вы ўдвух — сіла.

Ён відавочна думаў, што Юрась раіўся са мною наконт сакрэтаў механізму.

— Але, сябры мае, ёсць адна акалічнасць, пра якую вам варта задумацца...

Я здзівілася: смуглявы блазан, комік-буф некуды падзеўся. Цяпер Янчын глядзеў строга, нават жорстка.

— Слухайце мяне ўважліва, сябры. Фокус са шклянкамі, якія разбіваюцца — гэта далёка не ўсё, што калісьці маглі гэтыя механізмы. Я ведаю, вы абодва — патрыёты... А вы калі-небудзь задумваліся, што за чалавек гэты Калыванаў? Мы яго церпім, таму што супрацоўніцтва з ягонай фінансавай імперыяй прыносіць нашай дзяржаве карысць. Тут, у чужой краіне, ён паводзіць сябе сціпла, намагаецца трымацца ў рамках закону, ні з кім не сварыцца... Але насамрэч драпежнік. Не здзіўлюся, калі высветліцца, што менавіта ён стаіць за смерцю няшчаснага Аркадзя... Гэта ж ён Баркуну мадэльку падсунуў са свайго агенцтва, калі Баркун пачаў у сілу ўбірацца. Лілька і сачыла за Аркадзем, і пра ягоныя здагадкі наконт гадзіннікаў усё дакладвала, і на распродаж у Польшчы Калыванава навяла. Аркадзь, хай даруе ён мне на тым свеце, алею ў галаве меў мала, пра гадзіннікі і шклянкі

прачытаў — і вырашыў, што гэта атракцыён, якім яму дазволена будзе турыстаў забаўляць. А гэта ўсё роўна што бензапілою галіцца. Вось Калыванаў — той ведае, як падобныя сакрэты выкарыстоўваць.

Мы з Юрасём ашаломлена глядзелі на былога выкладчыка, спрабуючы зразумець ягоную метамарфозу. А ён гаварыў, як загадваў.

— Падумай сам, Юры, ну хіба можна такому чалавеку, чужынцу, аддаваць сакрэты нашай зямлі? Будзе нейкі канкрэтны плён ад старых гадзіннікаў, не — гэта здабытак нашай дзяржавы! Як вы ўжо зразумелі, я выконваю тут пэўныя абавязкі...

Мы з Юрасём абмяняліся позіркамі: Янчын — шпіён пры Калыванаве! Вось дык навіна!

— Я чалавек прамы. І скажу прама. Вы не павінны выдаваць сакрэт гадзіннікаў гэтаму магнату. Ты, Юрась, скажаш яму, што нічога не атрымліваецца,ператаміўся... У маіх сілах выцягнуць цябе адсюль.

— А далей што? — суха спытаў Юрась.

— Далей ты раскажаш усё, што ведаеш, нам... сваім...

Па абліччы Юрася нельга было вызначыць, што ён думае.

— Па-першае, Віталь, ты дарэмна пераканаўся, што Анэта хоць на дробачку ў нешта пасвечаная. Я заўсёды лічыў, што жанчыны ў тэхніцы не разбіраюцца, а Анэта тут проста тыповы прыклад. Я папрасіў яе прыехаць, каб яна пераклала для мяне адну паперку... Шкада, але і Анэце яна аказалася не пад сілу.

— Якую паперку? — жыва перапытаў Янчын.

— Аддай...— загадаў мне Юрась, і я паслухмяна працягнула Янчыну аркушык з тэкстам ліста Бернацоні.

— Бачыце, гэта я ў архівах Баркуна знайшоў... на старанямецкай мове,— спакойна патлумачыў Юрась.— А па-другое, мне не зразумела, для чаго вам... «сваім»... сакрэт скокаў смерці? Вы што, людзей збіраецеся гэтак разганяць?

Янчын рагатнуў.

— Здагадаўся, значыць, наконт скокаў... Людзей, кажаш? А выдатная была б карцінка для замежных журналістаў... Але занадта экзатычная. Не, сябра, сакрэту Бернацоні — калі, вядома, ён не міф, а нечага варты, і нашыя вучоныя змогуць яго «закілзаць» — ёсць прымяненне цалкам карыснае... Напрыклад, для змагання з міжнародным тэрарызмам. У гэтай справе любая дапамога — выратаваныя бязвінныя жыцці! Папрацуй на высакародную справу — і зоймеш пачэснае месца ў грамадстве. На дзяржаўную працу цябе,

як я разумею, не спакусіш... А вось сваю рэстаўрацыйную фірму будзеш мець.

Юрась не змяніўся ані рысачкай.

— Дзякую... Але куды мне — на пачэснае месца ў грамадстве... Я, падобна, прыроджаны маргінал.

Янчын раздзьмуў ноздры, як драпежны звер.

— Не раю гуляць у незачэпу. Ты, хлопча, нават не разумееш, у якую гісторыю патрапіў.

— У мяне свая гісторыя, Віталь,— спакойна адказаў Юрась.— І краіна ў мяне — свая... Хоць называецца гэтак жа, як твая, але — інакшая.

Янчын пачаў злавацца.

— Такія веды ўсё роўна што бомба з гадзіннікавым механізмам, і на які час прызначаны выбух — ты не ведаеш. Я табе адзіна магчымае выратаванне прапаную! Ты што, думаеш — незаменны? Не ты — знойдуцца іншыя разумнікі, усё разгадаюць. Толькі шкада, час страціцца.

Юрась задумліва глядзеў удалеч, дзе над шэрымі дахамі Старавежска, так і не зведаўшымі высакародную чырвань дахоўкі, згасала вечаровае неба.

— Вось і зноў напаткаў мяне мой лёс... Я думаў — на водмель вынесла... Водарасцямі абрастаю... А тут — рабі, калі ласка, чарговы экзістэнцыйны выбар. Ну што ж, паваюем. Чыста па-беларуску — адмаўчымся.

Спакойны іранічны голас Юрася раззлаваў Янчына.

— Не адмаўчышся, хлопча. Сядай у машыну. Паехалі.

Юрась не зварухнуўся.

— Ну!

Мой былы муж павярнуўся да мяне.

— Паехалі ў Мінск, Анэта... Нешта нецікавыя мне іхнія гульні...

І рушыў, не азіраючыся. Янчын нешта крычаў услед...

Але адысці далёка мы не паспелі. Яшчэ адна машына, белы джып, абагнала нас, прытармазіла.

— Не ўмеюць на гэтай зямлі абыходзіцца з творчымі людзмі,— Макс, як заўсёды, гаварыў даверліва і спачувальна.— Не звяртайце ўвагу, сябры... Віталь у нас чалавек гарачы, грубаваты...

Юрась непрыветна пазіраў на элегантнага псіхолага. Белая дублёнка ў колер джыпа і паляўнічая скураная шапачка Макса ў спалучэнні з выцвілай зялёнай Юрасёвай курткай вытворчасці

фабрыкі «Світанак» маглі быць ілюстрацыяй да артыкула пра сацыяльны падзел грамадства. Такія артыкулы я калісьці пякла, як блінцы, падсвядома верачы, што пасля прачытання маіх палемічных тэкстаў бедныя пабагацеюць, а багатыя перапоўняцца спачуваннем аж па залатыя ланцугі.

— Я больш на вас не працую,— змрочна паведаміў Юрась псіхолагу. Мне стала страшна. Але Макс толькі светла ўсміхнуўся і падміргнуў мне. Маўляў, таленты ўсе капрызлівыя...

— Дазвольце, дарагі Юрась, сказаць вам пару цікавых слоўцаў...

Макс узяў рэстаўратара пад руку і адвёў убок, туды, дзе з-пад снегу высоўваўся ржавы пагнуты крыж. Я з бояззю назірала за размовай. Раптам Юрась рэзка нахіліўся, як перагнуўся напалам... І пачуўся ягоны рогат. Рэстаўратар аж заходзіўся. Нават сеў у снег. Суразмоўца нейкі час разгублена стаяў над ім, потым рушыў да машыны. Твар Макса крывіўся сапраўднай злосцю. На мяне псіхолаг нават не зірнуў. Я кінулася да былога мужа... Ён сядзеў у снезе і смяяўся. Знайшоў час для істэрыкі.

— Ты ведаеш, Анэта, Макс таксама...— прагаварыў Юрась, намагаючыся супакоіцца.

— Што таксама? — неўразумела перапытала я.

— Таксама шпіён... Толькі, здаецца, расейскі,— скрозь смех прагаварыў Юрась.— Угаворваў мяне перайсці пад ягонае крыло...

— А ты што? — дрыжачым ад нядобрых прадчуванняў голасам спытала я.

— А я застаюся на гэтай зямлі, як вежа — у пушчы, або караблі на водмелях рэк, перасохлых даўно. Я тут, як у амфары спее віно. Вякі, як аблокі, над намі сплылі. Я ў белым маўчанні праданай зямлі,— выразна прадэкламаваў рэстаўратар.

— Паслухай, цяпер не час іграць у піянера-героя,— з трывогаю прагаварыла я.— Ну што ты іх злуеш?

— А я іх не злую,— раптам вельмі жорстка адказаў Юрась.— Я імі пагарджаю.

О, Госпадзе... Я пазнала ўласцівую былому мужу зацятасць. Калі ён рабіўся вось такім, то можна было чакаць любых, самых небяспечных, учынкаў. Лепей бы я яму нічога не расказвала... Я ў разгубленасці тапталася на сцежцы, Юрась сядзеў у сумёце, Стэла дзесьці ляжала ў бальнічнай палаце, а Старавежску было на ўсіх нас напляваць, ён быў старым, скалечаным і знявераным, і імкліва захутваўся ў змрочны зімовы вечар, як у пацёрты плед.

Хутчэй бы прачнуцца... Я гатовая была зноў апынуцца ў сваіх начных жахах. Але гэта была рэальнасць. У святле фараў, на фоне зімовага пейзажу яны пазіралі на нас з рознай ступенню злосці — Ліля, Калыванаў, Янчын, Макс... За нашымі спінамі стаялі ахоўнікі. Магчыма, на іхніх тварах таксама была злосць. Але наўрад — прафесіяналы не злуюцца. Можа быць, дзейсныя асобы, раз у кожнага — свой інтарэс, перагрызуцца, і ўпарты рэстаўратар не дастанецца нікому? Але раптам я зразумела, што ўсе гэтыя асобы ведаюць падбіўкі адно аднога, іх гэта задавальняе, усе гуляюць у адну гульню... Вядома, не супраць абыграць — але гульня ў іх адна... Танец смерці, дзе мы ўсе трымаемся за рукі з нябожчыкамі...

— Вось паганец,— адрывіста прамовіла Баркунова ўдава на адрас Юрася.— Аддзячыў, называецца, за маю дабрыню. Грошы заплацілі — рабі!

— Досыць з вас маёй працы. А старажытным сакрэтам месца там жа, дзе і старажытнай пошасці,— змрочна прагаварыў аблеплены снегам Юрась.— Вунь пачалі могілкі раскопваць, на якіх памерлых ад халеры хавалі дзвесце гадоў таму... І халера вярнулася. Гэтая зямля і так нацярпелася ад усялякіх эксперыментаў. Яшчэ адзін бізун вам патрэбны дзеля ейнага ўтаймавання? Не я вам яго дам.

— Малады чалавек, я чакаць не звык,— кінуў свае слова Калыванаў.— Вы праўда ведаеце сакрэт гадзіннікаў?

— Ведаю.

— Колькі вам за яго заплаціць?

Юрась паматаў галавой.

— Тут не аўкцыён. Сказаў жа — мая праца скончаная.

Мне зрабілася па-сапраўднаму страшна. Я не вытрымала і тузанула яго за рукаў.

— Ды раскажы ім, што ведаеш! Падумаеш, іржавыя цацкі! Няхай яны свае шклянкі лопаюць — ну якую «псіхатропную зброю» мог прыдумаць сярэднявечны блюзнер! Любы рок-канцэрт куды большую сілу мае. Куды там звону супраць ударнай установкі!

Але Юрась толькі прагаварыў.

— Анэта, а ты ідзі на станцыю. Праз паўгадзіны, здаецца, апошні аўтобус.

Я ў разгубленасці абвяла ўсіх вачыма і трохі адступіла ўбок... Сусвет патроху расколваўся на маленькія кавалачкі, якія ссоўваліся і складаліся ў іншы вітраж... Я з жахам усведамляла, што зноў унутрана адчужаюся ад Юрася, як тады, калі паверыла, што ён мог

забіць Баркуна. Так, напэўна, здараецца, калі нехта з блізкіх захворвае невылечнай заразнай хваробай, а твая любоў не настолькі моцная, каб перамагчы інстынкт самазахавання. Але няўжо мне дадуць сысці? Макс, у адказ на мае думкі, запытальна прамовіў:

— А вось яны ўдвух хадзілі да старога звадыяра, што на нас усё ў суд падае за перабудову вежы. Можа, ён што цікавае распавёў?

Юрась адказваць не збіраўся... Хіба ён не разумее, што яны пацягнуцца і да старога, пачнуць дапытваць? Давядзецца ратаваць усіх самой... Я пастаралася здушыць панічнае жаданне ўцячы, схавацца ў сваю ўяўную ракавінку і ніколі больш з яе не высоўвацца... І, намагаючыся гаварыць спакойна, распавяла пра візіт да Калейкі. Па расчараваных тварах я зразумела, што маё паведамленне нічога для іх не значыла. Чаму яны не запхнуць нас у машыны? Няўжо баяцца сведкаў? Сапраўды, да вечару Старавежск ажыў. Там-сям у прыцемку рухаліся сілуэты месцічаў. Некалькі кабетаў з правінцыйнай цікаўнасцю назіралі за нашай падазронай групай, асветленай фарамі машынаў, з-за плотаў сваіх двароў. А Юрась, гэта, відаць, адчувалі ўсе, быў гатовы ўчыніць сапраўдны «канцэрт»... Ці ўсё яшчэ спадзяюцца, што ён змірыцца? Юрась зірнуў на мяне і зноў — сваё.

— Анэта, я ж сказаў, ідзі на станцыю...— І патлумачыў прысутным: — Яна насамрэч нічога не ведае. Хопіць з вас адной Стэлы... У якасці майго гаранта.

Голас Юрася здрыгануўся. Я ўсвядоміла, што ён намагаецца схаваць, што ведае пра смерць жонкі — відаць, каб не пашкодзіць мне. Пры імені памерлай твар Баркуновай удавы перакрывіўся.

— З мяне тваёй Стэлы ўжо даўно хапае. Вось табе мазгоў заўсёды не хапала за сваёй сцервай усачыць. Дзе твае прынцыпы былі, калі твая сучка за дозу...

Калыванаў паклаў руку на плячо знерваванай удаве.

— Лілька, сціхні.

Вось як, Ліля Пятроўна была ў курсе мужніных авантураў? А Юрась, здаецца, не. Ён недаўменна глядзеў на Лілю, чый гожы твар нібыта пастарэў ад прыхаванай нянавісці.

— Хіба не ведаеш, што твая наркотка да Аркадзя бегала? Яна для яго, разумееш, «Шарман, шарман!», а я — падсцілка. Сволачы вы ўсе! Адразу скарыстаеце, а пасля...

Раптам Калыванаў рэзка сціснуў удаве горла... Мадэлька захрыпела, пачала хапацца за руку, што яе душыла... Магнат,

задаволены выхаваўчым эфектам, адпусціў істэрычную кабету. Ліля Пятроўна змоўкла, не выказваючы абурэння, толькі пацірала шыю. На твары яе больш не было нянавісці, толькі страх.

— З кабетамі адны клопаты,— даверліва прагаварыў магнат, звяртаючыся да Юрася.

— Яшчэ раз гавару — Анэта павінна паехаць дадому...— упарта паўтарыў Юрась.

— Я не магу цябе пакінуць...— дрыжачым голасам прагаварыла я. Але Юрась супакаяльна ўсміхнуўся.

— Ды не хвалюйся. Нічога са мной не здарыцца... А я вярнуся і адразу пазваню табе. І... прабач.

Я ў разгубленасці азірнулася. Я сыду, і для мяне гэты жах скончыцца... Вядома, Юрасю лепей, калі побач не будзе новай закладніцы. Ён хоча, каб я сышла... Толькі б адпусцілі! Маўчанне прысутных здавалася багнай, у якую я апускаюся ўсё глыбей, глыбей...

— Калі Анэта сыдзе... абяцаю паводзіць сябе... разумна,— раптам сказаў Юрась, гледзячы сабе пад ногі.

— Вось і выдатна...— узрадваўся Янчын.— Думаю, у такім разе з шаноўнай Ганнай мы можам развітацца. Я гэтую дзяўчыну ведаю. З ёю ніякіх клопатаў не прадбачыцца. Праўда, Ганначка?

Я кіўнула галавою. Якія там клопаты... «Скандальная журналістка» даўноператварылася ў смоўжыка. А можа, і заўсёды была ім, проста нейкі час мела магчымасць бяспечна паказваць свету рожкі?

Юрась памахаў мне рукой і рушыў да машыны.

— Дазвольце, праводжу? — зноў далікатна-ветліва звярнуўся да мяне Макс і нават паспрабаваў узяць мяне пад локаць.

— Дзякую, не варта...— дрыжачым голасам прамовіла я і пашпацыравала па сцежцы. Здаецца, ніхто за мной не гнаўся. Адышоўшы на больш-менш бяспечную адлегласць, я азірнулася. Машыны вырульвалі ў бок Людвісарава, святло фар высвечвала дарожкі на снежным покрыве... Усё далей, далей... Раптам маё сэрца сціснула такая туга, што я ледзь не заплакала...

«Сам вінаваты, сам вінаваты...»,— як заклён, паўтарала я ўсю дарогу да станцыі. І потым, калі за акном аўтобуса замільгалі начныя агеньчыкі, чыё прызначэнне — абуджаць у падарожных тугу і раптоўнае жаданне апынуцца вось там, дзе прыветна свеціцца чыёсьці акно, я не знаходзіла ўжо патрэбных слоў, каб апраўдацца.

* * *

Балея падымалася са дна студні, нібыта поўня выплывала з цемры... Сястра Агапа з цяжкасцю круціла калаўрот, і ланцуг звяно за звяном клаўся на цёмнае, бліскучае ад вільгаці і дотыкаў жалеза бервяно... Што ж, пакуты толькі дадаюць бляску трывушчым душам.

Ваду маглі насіць маладзейшыя сёстры... Яны з радасцю прынялі б гэтае паслуханне замест шанаванай імі сястры Агапы, але тая заўсёды адгаворвала матухну ігуменню: хто сказаў, што нам павінна ў гэтым жыцці быць лёгка?

Над крыжам манастырскага храма кружлялі вароны. А галубоў даўно не відаць... Не зносяць галубы, боскія птушкі, кроў і жалеза, і злосць людскую... А апошняга сталася ў свеце так шмат, што перахліствае за сцены манастыра, дзе павінна быць адно ціхае маленне...

Сястра Агапа падхапіла балею за дужку і паставіла на траву. Сэрца калацілася, як спудзіўшыся, што трэба працягваць зямны шлях. Манашка перахрысцілася... Гасподзь сам адмерае, колькі таго шляху засталося прайсці. Слабасці цела — не прычына, каб заўчасна спыняцца на адпачынак.

А ў браму манастыра зноў грукалі, і зноў чуліся нечыя сярдзітыя воклічы. Раней ля дзвярэй манастыра вісеў звон. Госць мусіў пазваніць у яго і пакорліва чакаць... Даўно абарвалі звон, дый драўляная брама абпаленая. На самым версе яе вось ужо месяц тырчэў абломак татарскай стралы, і сястры Агапе ўвесь час рабілася ніякавата пры поглядзе на тую стралу, нібыта брама была жывою істотаю, якой балюча.

У манастыр зноў прывезлі параненых вояў. Што паробіш, калі ў спаленым, разрабаваным горадзе адзіны прытулак — жаночы манастыр.... Да таго ж манашкі былі добрымі зельніцамі, самай лепшай — сястра Агапа. Шчырая малітва і сіла роднае зямлі, увасобленая ў зёлках, ратавалі тут многіх. Для гасцей мелася асобнае памяшканне, з келлямі больш вялікімі, чым у святых сясцёр.

Параненых было шасцёра, трое — рымскай веры. Адбіраць па веры не выпадала. Маладзенькі хлопчык, якому крывая татарская шабля ўспарола жывот, ужо не мог гаварыць, толькі таненька енчыў... Гэтаму парог таго свету ўжо рушніком накрыты. Светлавалосы вой з доўгімі вусамі сціскаў левай рукой тое, што засталося ад правай... Што ж, левай рукою таксама можна біцца. Калі будзе Божая воля, гэты застанецца жыць.

Астатніх сястра Агапа не паспела агледзець. Малады рыцар, гожы, як казачны каралевіч, у багатым, спэцканым пылам і чужой крывёй строі, пакланіўся старой манашцы пачціва, але з годнасцю, загаварыў па-польску.

— Пані добрая лекарка, мне казалі. Вы мусіце паглядзець майго бацьку. Калі дапаможаце, ваш манастыр разбагацее. Мой бацька — пан Баляслаў Радчыньскі, падчашы ягонай вялікасці Казіміра Ягелончыка.

Сястра Агапа моўчкі схіліла галаву.

— На ўсё Божая воля, пане. Золатам не купіш і адно здаровае вока.

Падчашы ляжаў на насілках, на якіх яго і прынеслі. Шырокія мяккія насілкі з аксамітным падушкамі падаліся гасцям больш зручнымі, чым каменны ложак келлі. Смуглявы твар старога воя, спаласаваны шнарамі, быў усё яшчэ прыгожы. Валасы ссівелі, але ўгадвалася, што калісьці былі яны цёмныя, густыя... Сястра Агапа асцярожна паклала вузкую сухую далонь на лоб хворага... Гарачка...

Адзін са слуг беражліва адхінуў край коўдры: на грудзях пана ляжалаануча, набрынялая крывёй. Дыханне хрыпла вырывалася з грудзей параненага...

— Калі гэта здарылася? — ціха спытала манашка.

— Трэцяга дня...

Сястра Агапа моўчкі паківала галавою. Позна... Усё невыпраўна позна...

Раптам рыцар расплюшчыў вочы, бліснула іх невыцвілая сінізна, і прагаварыў:

— Не плач, Анэта, а то жабы ў пакоі развядуцца...

І паспрабаваў усміхнуцца.

— Бачыш, я ўжо так блізка да брамы смерці, што нават не здзіўляюся нашай сустрэчы...

Манашка нахіліла галаву.

— Маё імя сястра Агапа.

— Кінь... Калісьці я гаварыў, што пазнаў бы цябе, нават калі б ты пераўтварылася ў воблака ці птушку... Ды хоць бы — і ў старую манашку.

Паміраючы рыцар і Божая нявеста глядзелі адзін на аднаго, угадваючы за скалечанымі часам рысамі светлыя воблікі юнацтва і мілосці. Сонца цягнулася да іх ласкавымі промнямі скрозь

рознакаляровы вітраж з выявай візантыйскага крыжа... У промнях бесклапотна танчылі пылінкі.

— Ты змяніў імя, Богуш... Ты змяніў веру...

Паранены заплюшчыў вочы.

— Што такое імя? Стужка ў валасах, сёння — залатая, заўтра — срэбная, а пазаўтраму яе накруціць на кашчавы палец смерць... Рыцар... мусіць заваёўваць славу... І адно моцны... заваюе яе. Высокую пасаду ў гэтай дзяржаве... можа заняць толькі... адзінаверац караля.

Рыцар стаміўся, гаворачы, і нібыта задрамаў. Сястра Агапа агледзела яго рану. Што ж, можна хаця б паспрабаваць аблегчыць боль. Накласці мазь... Вось так... А на краі раны, дзе ўжо счарнела, лісты арнікі...

— Не старайся, Анэта, мяне ўжо чакае архангел... Я думаю, што рыцара павінен сустракаць архангел з мечам, рыцар Божага войска... Мне нават здаецца, што я бачу водбліскі ягонага мяча.

Рыцар глядзеў на схіленую галаву манашкі, накрытую чорным покрывам.

— З-за цябе, Анэта, не магу з чыстым сэрцам на Божы суд ісці... Трэба ўсе крыўды на гэтым свеце пакідаць. А я прабачыць не магу, што ты ў вежы мяне адштурхнула. Я ў такім вары апынуўся... Рушыў, не разбіраючы нічога. Пакуль мяне не паклалі чужыя мячы... Што цябе прысудзілі замураваць у вежы, я праз месяц даведаўся, калі ад ранаў ачуняў. Я дасюль лічу, што, каб не ўцякла ты, мог бы цябе выратаваць! І мы былі б шчаслівыя!

— Ты прывёў у горад ворагаў...— прагаварыла сястра Агапа.

— Ворагаў? Сёння карачунцы — нашыя лепшыя сябры. Можа быць, заўтра яны зноў стануць ворагамі... Якая розніца? Я думаў, што ты не засталася са мной, бо чортавы лекар сапраўды цябе счараваў.

Нейкі час панавала маўчанне, толькі словы малітвы зляталі з вуснаў манашкі, як галубінае пер'е, падхопленае ветрам.

— Нахіліся...— папрасіў рыцар. Сястра Агапа паслухмяна наблізілася.

— Паслухай, ты ведаеш сакрэт лекаравых гадзіннікаў, праўда? Яны ў вежы стаяць, так?

Вочы Богуша хваравіта блішчэлі.

Сястра Агапа адхіснулася.

— Навошта яны табе?

— Гэта — моц... Сіла... Яна патрэбная сёння нашай дзяржаве... Ты магла б навучыць нас, як карыстацца гэтымі гадзіннікамі? Калі б татараў або шведаў прымусіць танчыць у смяротным танцы!

Манашка рэзка ўзнялася, перахрысцілася.

— Што ты гаворыш, Богуш? Выратуй Гасподзь душу тваю... Ты трызніш.

Пан Баляслаў зайшоўся ў пакутлівым кашлі, на ягоных вуснах паказалася кроў. Малады Радчыньскі забег у пакой.

— Пане бацька, знайшлі дамініканскага мніха! Ён прыме тваю споведзь.

Рыцар зірнуў на манашку і прахрыпеў.

— Ну што, Анэта, можа, сустрэнемся там?

Яна схапіла яго руку — хаця ў параненага была гарачка, рука халодная, нібыта льдзяная — сціснула... І ён сціснуў яе далонь... Як у скоках смерці... Цела старога воя пакутліва выпіналася, прабітыя грудзі хапалі паветра...

У келлю зайшоў мніх, падазрона азіраючыся на абразы схізматыкаў. Усе, акрым сына, пакінулі паміраючага.

Сястра Агапа горача малілася перад алтаром, асветленым толькі дрогкім агеньчыкам лампады.

...Акрапі мя ісопам, і ачышчуся...

Маладая чарнабровая манашка ўкленчыла побач, дачакалася, пакуль старэйшая скончыць малітву, і паведаміла:

— Падчашы памёр... А сын яго вас шукае. Кажа — нешта вы павінны яму расказаць, паводле бацькава запавету... Вы памерлага рыцара ведалі, сястра Агапа?

Старая манашка ўзнялася, перахрысцілася... Яе твар са слядамі былой гожасці быў суровы.

Скокі смерці не скончацца ніколі. Над гэтай зямлёю вечна будзе ляцець пачварны карагод, дзе ўсе трымаюць адзін аднаго за рукі, і нікому не даюць выслізнуць, вызваліцца, застацца на лапіку жыцця...

— Скажы маладому рыцару, што я дала абет затворніцтва і маўчання. Адгэтуль мае словы будуць толькі тыя, што я сэрцам прамоўлю да Госпада. І бачыць я жадаю толькі Госпада, калі ўдастоюся спазнаць яго духоўнымі вачыма. Амін.

Маладая манашка з бояззю паглядзела на суразмоўніцу, схілілася ў зямным паклоне і сышла.

Назаўтра келлю ў сутарэннях заклалі цэглай, пакінуўшы толькі адтуліну, каб падаваць затворніцы ежу.

Праз маленькае акенца келлі, пад самай столлю бачыўся сіні-сіні лапік неба і краёчак белага воблака, нібыта краёчак сцягу на вежы вольнага места.

Гадзіннікі, чорныя рыцары смерці, моўчкі стаялі ў сутарэннях... Яны чакалі, калі спатрэбяцца новаму ўладару, дастаткова смеламу, каб прызваць на дапамогу смерць.

* * *

За акном свяцілася маленькая злая зорка, як ваўчынае вока. Няўжо я спала? Зірнула на гадзіннік... Другая ночы. Але на сон забудзься. І не рабі выгляд, што зможаш вярнуцца да звычайнага жыцця. Як там Юрась? Я спрабавала ўпэўніць сябе, што ён змірыўся — а што застаецца яму рабіць? Усё роўна раскажа, і адладзіць...

Але каго я падманваю? Юрась ніколі не зважаў на разумныя, цалкам зразумелыя доказы. Ён жа зацяты... Ён жа да апошняга будзе трымацца...

Я ўпершыню адчувала гэткі боль, нібыта душа разрывалася ад тугі... А я думала, што горш, чым тады, калі сыходзіла з агульнарэдакцыйнага сходу, мне ніколі ўжо не будзе.

А што, калі я больш яго не ўбачу, Юрася? Як мне жыць з гэтым?

Я села на ложку і захуталася ў коўдру... Але было ўсё роўна холадна. Так холадна і самотна, нібыта я на скрыжаванні восеньскіх вятроў, і забылася, дзе мой дом.

...Што з ім зараз, з Юрасём?...

Пытанне нібыта сталася асобнай жывой, надакучлівай істотай, якая бязлітасна кусала і джаліла свядомасць.

Свет фараў прабегся па сцяне, нібыта прамільгнуў анёл, не пажадаўшы затрымацца і суцешыць.

Добра, уявім, я засталася... Сядзела б зараз з Юрасём у Людвісарава... Сапраўды, яшчэ горай яму зрабіла б.

Пайсці па дапамогу? Ха-ха-ха! Куды? Да Бэтмана і Робіна? Хіба толькі мульцяшныя супермены і могуць умяшацца...

Але я не магу так больш! Ракавінка, у якой я пражыла столькі гадоў, трэскалася знутры ад выбухаў майго болю.

Хаця пасля гэтай — праз адзінаццаць гадоў,— сустрэчы, ну што між намі было? Дотык рук... Юрась, вядома, адчувае віну перада мной — ён жа заўсёды бярэ на сябе ўсю віну. Я пэўная, што ён бы з радасцю аддаў за мяне жыццё. Але пра каханне да мяне, я думаю, і размова не ідзе. Юрась мае з-за каго пакутваць. А няўжо вось гэта,

што я зараз адчуваю, і ёсць каханнем? Якое ж яно... няўмольнае... балючае... Быццам нехта ўдарыў мяне па вачах промнем чароўнага ліхтара, і я з містычным жахам убачыла нейкі ланцуг — ці шаўковую вяроўку, як уяўляюць японцы,— якая нечакана прывязала мяне да другога чалавека, міма маёй волі. І кожная спроба аддаліцца — толькі боль...

Я падышла да акна, загарнуўшыся ў коўдру. Заснежаны двор, на белым асфальце ў святле ліхтара — дзве чорныя палоскі ад колаў машыны... Пагляд мімаволі скіраваўся да гарызонту, маленькі кавалачак якога, пасечаны сілуэтамі дрэў, праглядаўся між спінамі суседніх дамоў. Юрась дзесьці там... далёка... У цемры... Чаму я — тут? Мне трэба да яго! Не да таго, забаўнага юнака, майго выпадковага мужа, а да гэтага — сталага мужчыны, які зведаў гора і жарсць, і змог захаваць у сабе таямнічы агонь, які калісьці і прывабіў мяне... Які змушае яго зараз кідацца з дзідай на вялізны вятрак... Рыцар сумнага аблічча...

Што з ім зараз?...

Дон Кіхота нават звычайныя пастухі білі палкамі...

Я таксама думала, што магу змагацца з ветракамі. Але, аднойчы ўпаўшы з бязлітаснага нежывога крыла, страціла веру ў тое, што можна спыніць нават найвялікшымі ахвярамі гэтую махіну, раскручаную мільёнамі самалюбстваў, якая перамолвае лёсы людзей і дзяржаў, каханне і годнасць, розум і веру ў аднолькавую вязкую масу, прыдатную, каб ляпіць паслухмянае, зручнае грамадства. Не, сапраўдная барацьба вядзецца не на пляцах, а ў табе самім. А я заўсёды ўцякала ад сваіх праблем. Таму і сны не запамінаюцца, якія гэтыя ж праблемы ставяць. Зараз з памяці нібыта спаўзала сетка... Як наяве, убачыла ўсмешку Юрася, яго непакорлівую чупрыну, сіні ўпарты пагляд з-пад прамых броваў, шнары на шчацэ, абдрапаныя жалезным нутром гадзіннікаў пальцы... І як ён кланяўся перад гэтымі гадзіннікамі і звяртаўся да іх з жартоўнымі словамі...

Пане Ян з Адамам і Евай...

І тут жа ўсплылі ўбачаныя ў сне тыя ж выразаныя з дрэва Адам і Ева з кубкам і змяёй. Яшчэ не пашкоджаныя часам, у яркасці фарбаў і пазалоце...

Гадзіннікі стаяць у коле...

Лекар у чорным падыходзіць да іх...

Данс макабрэ... Фігуры смерці... Баркун, Стэла, Юрась — адзін за адным выходзяць з кола...

Не, толькі не Юрась!

Ну ўспамінай жа!

Я гатовая была раскалоць галаву аб сцяну, абы дастаць адтуль непаслухмяныя вобразы.

Ад напружання свет паплыў вакол у чырвоным тумане...

І я ўспомніла.

Засталося скамечыць адзінаццаць пражытых гадоў, як чарнавік. Ён не варты і аднога правільнага звонкага радка.

І я зрабіла ўчынак, які аніяк нельга было вытлумачыць логікай, але мне — маёй новай сутнасці — зразумелы. Падышла да люстэрка і рашуча абрэзала сваю рудую касу. Коратка, на самай патыліцы. Ускудлаціла рукой валасы... І праз знаёмыя рысы ў люстэрку нарэшце вызірнула даўно забытае дзяўчо з процьмай ілюзій і здольнасцю да ўчынкаў, невытлумачальных логікай. За акном развіднела... Дзень зазіраў у маё акно шэрым хворым тварам, на якім не мелася спачування.

Тэлефон Ліլі Пятроўны быў на візітоўцы.

Я сказала ўсяго некалькі словаў...

Праз дваццаць хвілінаў ля майго пад’езда стаяла машына. Перад тым, як выходзіць з кватэры, я прыхапіла з сабой канверт з далярамі.

Кіроўца, незнаёмы мне лысы мужчына, падобны да млынара, сядзеў моўчкі, глядзеў толькі на дарогу. І мне было не да размоваў. Яшчэ і яшчэ раз я пракручвала ў галаве вобразы, убачаныя ў снах... Я не спрабавала зразумець, адкуль яны прыйшлі... Калі гэта — усяго толькі мая хваравітая фантазія, блёкат, то... ну што ж, я ўсё роўна апынуся побач з Юрасём. Мой страх кудысьці знік, нібыта я перайшла мяжу, за якой нішто не мае значэння, акрым таго, што ў сэрцы.

Рассунуліся бетонныя вароты... Дзве каменныя багіні, абуджаныя ранішнім сонцам, зімовым, познім і халодным, праводзілі мяне белымі сляпымі вачыма. Ave, Людвісарава, morituri te salutant...

Яны ўжо чакалі мяне — Янчын, Макс, Ліля. Апошняя, як я цяпер ведала, прадстаўляла інтарэсы Калыванава.

— Ну што ён, наш майстра, табе расказваў? — накінулася на мяне былая мадэлька. Пад вачыма ў яе цямнелі кругі — перажывае... Гаспадарова даручэнне блага выконваецца. А гаспадар, відаць, прыспешвае. Але мяне цікавіла адно.

— Дзе Юрый Дамагурскі?

Янчын па-сяброўску паклаў руку мне на плячо.

— А вось Ганначка, як старому сябруку, мне ўсё і раскажа, а потым мы наведаем Юрася... Ты такая малайчына, што наважылася дапамагчы...

Макс белазуба ўсміхнуўся.

— Ну чаму ж менавіта вам раскажа, дарагі Віталь... Я, як прафесійны псіхолаг...

— Сціхніце! — Ліля так раўнула, што калі ў гэтым доме жыў дамавік, ён мусіў схавацца пад печку.— Перастаньце рваць коўдру на сябе, або ніхто нічога не пачуе... Дый ці ёсць яшчэ што чуць?

Баркунова ўдава (ці, можа, забойца?) сумніўна зірнула на мяне. Я страсянула падстрыжанымі валасамі, нібыта скідала апошнія рэшткі сумнення.

— Я тлумачыла... Я не магу нічога расказаць. У тэхніцы не разбіраюся. Толькі пакажу, што запомніла, на гадзінніках. Але найперш хачу бачыць Юрася!

Усе трое перазірнуліся. Бязмоўная рада ворагаў-хаўруснікаў...

— Дык пойдзем хутчэй, пакуль ёсць каго пытацца! — прыспешыў усіх Янчын.

Ахоўнік, падобны да барца сумо, паслужліва бег перад намі і адчыняў дзверы. Вось і знаёмы калідор да майстэрні... Я павольна спускалася па прыступках у паўцемры. Праз расчыненыя дзверы бачылася мірная карціна. Гадзіннікі, расстаўленыя ўздоўж сцяны, більярдны стол... Утульны агонь у каміне... Знаёмыя грамідлы Ігар і Анатоль сядзяць на вінтавых крэслах, ядуць свежыя вішні (самая магнацкая ежа ўзімку) і пстрыкаюць костачкамі ў нябачную мішэнь.

Пры нашым з’яўленні Ігар і Анатоль паслухмяна ўскочылі... Я паглядзела налева і ўбачыла іхнюю мішэнь... У мяне перахапіла дыханне. У куце тварам да сцяны стаяў аголены да пояса Юрась, нізка нахіліўшы галаву. Яго ўзнятыя рукі былі прыкаваны наручнікамі да нейкай трубы, а на спіне вугалем намаляваныя кругі. Відаць, у «мішэнь» трапляла нешта больш небяспечнае за вішнёвыя костачкі, бо спіна Юрася была ў парэзах і апёках.

— Што... што вы робіце...— толькі і змагла прамармытаць я.

Юрась павярнуў, наколькі мог, галаву, аблізаў скусаныя перасохлыя вусны.

— Ды вось, гуляем у святога Себасцьяна.

Голас яго гучаў глухавата, але спакойна, нават з іроніяй. Ён яшчэ жартаваў!

— Вылюдкі!

Я кінулася да «Себасцьяна». У вушах маіх шумела кроў, і я не адразу ўсвядоміла, што Юрась настойліва мяне дапытвае.

— Навошта ты сюды прыехала? Ты што, здурэла, Анэта? Я ж прасіў...

Нечая моцная рука адцягнула мяне на сярэдзіну пакоя. Макс пазіраў усё гэтак жа прыязна, хіба толькі на дне яго шэрых вачэй успыхвалі падазроныя агеньчыкі, як у ваўкалака.

— Ганначка, мы ўсе чакаем... Давайце папрацуем. Заўтра сорак дзён па Аркадзю Баркуну, у імя яго памяці мы павінны аднавіць старажытную карцінку.

Каб я не была ў такім жаху і гневе, засмяялася б, мусіць. Успомніў леташнюю байку...

— Вызваліце рэстаўратара!

Янчын грэбліва скрывіў тлустыя вусны.

— Паспеецца... Не заслужыў ён добрых адносінаў, ёлуп упарты. Давай, Анэта, паказвай... Мы ўсе дапаможам. Што ён з гадзіннікамі рабіў?

Юрась тузануўся ў сваім куце.

— Яна нічога не ведае! Адпусціце яе. Яна не мае ні да мяне, ні да гадзіннікаў ніякага дачынення. Зусім староннi чалавек.

Але на яго крыкі ніхто не зважыў. Толькі Янчын шырока ўсміхнуўся.

— Адхрышчваецца наш майстра ад сваіх пачуццяў. Ведаеш, Ганначка, мы тут учора яму адну ампулку ўкалолі... Ён столькі цікавага пра адносіны да цябе расказаў. Раман цэлы! Так што пашчыруй дзеля свайго рыцара,— і чамусьці дакорліва дадаў: — Та-ак... Рамантычную гісторыю распавёў... І гэта замест таго, каб расказаць пра тое, пра што пыталіся.

— Цэнзура свядомасці можа быць вельмі моцнай! — адразу пакрыўджана азваўся Макс, які, відаць, у словах Янчына ўчуў папрок на свой адрас.— Дарэчы, другая ампулка таксама не спрацавала.

Янчын, у чый гарод на гэты раз, відаць, ляцеў каменьчык, збіраўся быў сказаць нешта з’едлівае, але Ліля злосна крыкнула:

— Лухта вашая хімія! Не з таго пачалі, толькі час страцілі. «Вой, ды каб жа без бачных пашкоджанняў...» Калыванаў з такімі прыдуркамі — дзядоўскімі метадамі, і ні разу не схібіў. Адразу б мяне паслухалі. Давай, як цябе там, Анэта, паказвай, а то твайго рыцара сама пачну на кавалкі рэзаць. І пачну з «кавалка» самага інтымнага і дарагога.

Я абвяла вачыма пакой, спрабуючы засяродзіцца. Мне цяпер спатрэбяцца ўсе мае сілы. Позірк спыняўся на дэталях, якія не хацелася асэнсоўваць. На паверхні більярднага стала — плямы засохлай крыві... Абрыўкі правадоў... Нейкія жалезныя штыры... На падлозе — пустыя шпрыцы. І — я не памылілася — супрацьгаз.

Так, ночка ў Юрася выдалася нялёгкая.

Але, падобна, у ягоных катаў — таксама.

Як ён пакуль яшчэ трывае? Па прысутных бачна, што яны часова страцілі надзею разгаварыць майго зацятага былога мужа. Стаміліся... Часова... Каты таксама людзі, ім трэба адпачыць, забавіцца... Каб потым, з новымі сіламі — зноў за працу... Тым больш час працуе на іх, адбіраючы ў ахвяры сілы.

Але вочы тых, хто глядзеў на мяне, рабіліся ўсё менш і менш падобныя да звычайных чалавечых вачэй, і ўзгадваліся назвы тыпу «Зазірні ў вочы лемуру»...

Страху не засталося. Толькі гнеў і пагарда.

— Прыбярыце більярдны стол.

Ахоўнікі кінуліся выконваць, ледзь не збіваючы адзін аднаго з ног. Месца хапае... Майстэрня вялікая. Як школьны стадыён. Кола смерці лепей зладзіць вось там, падалей ад дзвярэй...

Я агледзела падлогу. Там-сям яшчэ былі бачныя лініі крэйдай, якія крэсліў Юрась. Што ж, думаю, я змагу паўтарыць.

Так... З'арыентавацца па баках свету. Задыяк... Лініі, па якіх паляціць смерць... Цяпер гадзіннікі... Ахоўнікі і Янчын з Максам уладкавалі кожнага рыцара смерці на ягонае месца. Я паправіла стрэлкі на гадзінніках. На кожным свой час. Свой парадкавы нумар. Гадзіннікі паўсталі гэтак жа, як вякі таму, і падрыхтаваліся да бітвы цемры з цемрай. Юрась, відаць, пачынаў верыць, што ў мяне ёсць нейкія веды, таму што стаў крычаць, каб я нічога не расказвала... Я не бачыла, што з ім зрабілі, відаць, ударылі ў жывот, бо крыкі змяніліся хрыплымі ўздыхамі-стогнамі...

Так, цяпер адна, але надзвычай важная, папраўка... Для нас з Юрасём — жыццёва важная...

Я загадала павярнуць гадзіннікі цыферблатамі вонкі. Калі мае сны хоць у нечым — праўда, то цяпер смерць будзе не сыходзіць з кола гадзіннікаў, а застанецца каля іх... Магчыма, прыхопіць і нас з Юрасём. Але ж — забярэ і іншых, датычных да таямніцы. Юрась гатовы знікнуць разам з гэтай таямніцай. Што ж, цяпер гатовая і я таксама.

Дамагурскі, відаць, паступова здагадваўся, што я раблю, бо прахрыпеў толькі:

— Асцярожна, Анэта...— і змоўк.

Як казаў Артэга-і-Гасэт, хто не спазнаў, як праймаюць дрыжыкі перад пагрозай часу, той не заглыбляўся ніколі ў нетры лёсу і толькі дакранаўся яго пяшчотнай абалонкі. Фраза, якую мы з парадыйнай велягурыстасцю паўтаралі перад тым, як зайсці ў кабінет здаваць іспыт.

Пяшчотная абалонка лёсу крывавіла. Час наблізіўся ўшчыльную, нібыта гіганцкі гадзіннік, і нахіліўся над намі вялізным цыферблатам з адной стрэлкай...

— Мне патрэбна вялікая круглая ваза з простага шкла. Чым бліжэй да формы шара, тым лепей. Можа, акварыум.

Яны зноў забегалі, замітусіліся, і хутка перада мной стала некалькі круглых вазаў, з якіх толькі што няўважна высыпалі памастацку выкладзеныя ракавінкі, сухія кветкі, штучныя перлінкі, каралавыя галінкі ды іншую дызайнерскую лузгу. Я выбрала вазу, якая падыходзіла па памерах, і паставіла ў цэнтр, там, дзе сыходзіліся ўсе лініі (быццам постмадэрновая метафара адсечанай галавы прарока).

— Ёсць у гэтым доме срэбны прадмет, падобны да сярпа? Нож, відэлец, лыжка, урэшце?

Сталовыя прыборы звонкай гарой ляглі на стол, нібыта здабыча банды злодзеяў, што вярнулася з вандроўкі па гаспадарскіх буфетах. Вось гэтая лыжка для кавы, доўгая, выгнутая, бадай, падыдзе найлепш. Я асцярожна апусціла яе ў вазу... Засталося завесці гадзіннікі.

Вось адзін пачаў тахкаць... Другі... Трэці... Дванаццаць жалезных вершнікаў смерці. Здавалася, нават паветра пачало звінець... Бом-м-м... Гэта падаў голас апостал Пётр. Пачаў біць другі гадзіннік... Трэці...

— Глядзіце, лыжка зварухнулася! — ускрыкнула Ліля Пятроўна. Усе, як я і спадзявалася, згрувасціліся вакол вазы, у якой сапраўды пачала вібрыраваць, паўзці, і вось ужо — паволі круціцца срэбная лыжка, нібыта трэска ў віры.

Вось загаварыў апошні гадзіннік, Юда. Кашчавая фігура ў расе на ім падняла складзеныя далоні ўгору, нібыта заклікала з нябёсаў пакаранне на грэшныя галовы.

Раптам адна з вазаў, якія мне не спатрэбіліся, разляцелася на кавалачкі. Людзі, што стаялі ў коле гадзіннікаў, пачалі віншаваць адзін аднаго... Яны не звярнулі ўвагі, што разбітая ваза стаяла не ў коле, як мусіла быць паводле пісьма лекара, а па-за колам... Але іх свядомасць, відаць, патроху імглілася... Як і мая. Я паволі адступала да Юрася, адчуваючы інстынктыўна, што толькі там выратаванне... Бліжэй... Бліжэй... Вось я ўжо побач з ім... А пакой нібыта гайдаецца... І звон... У вушах, у галаве, і нібыта душа ў такт з ударамі сціскаецца і пульсуе...

Я ўсё-ткі гэта зрабіла. Запусціла старажытную машыну смерці.

— Прыхініся да мяне! Чуеш, Анэта! Сюды, за мяне хавайся!

Голас крычаў зусім побач, але я не разумела сэнсу словаў. Шалёная, дзікая сіла цягнула мяне некуды... Пасля я ўсвядоміла, як добра, што Юрась быў прыкаваны наручнікамі. Хаця, можа, на яго, такога моцнага, і сіла гадзіннікаў не падзейнічала б. Яна — для слабых, ахопленых прагай смерці...

Юрась прыціснуў мяне да сцяны ўсім целам. Але я ўсё рвалася, мяне зацягваў вір... І толькі дотык да вуснаў вярнуў свядомасць. Юрась цалаваў мяне, нібыта хацеў у пацалунку аддаць усё сваё жыццё... І гэтая сіла аказалася мацнейшай за вар'яцкі вір. Цяпер для мяне існаваў толькі мужчына побач, яго гарачыя вусны, біццё яго сэрца, яго дыханне... Я ўчапілася за Юрася, нібыта тапелец.

Не ведаю, колькі мы так прастаялі. Час перастаў існаваць. Нарэшце я зразумела, што вакол — цішыня... Гадзіннікі змоўклі. Толькі нейкі дзіўны рытмічны шоргат і глухія выкрыкі. Я асцярожна адхінулася ад Юрася, вызірнула з-за яго пляча. Ногі мае падагнуліся ад убачанага... Юрась таксама паглядзеў назад і здрыгануўся:

— Прасвятая Багародзіца...

Ніколі не забудуся таго відовішча. Нават цяпер, варта мне заплюшчыць вочы, я магу аднавіць яго ў дэталях. Сашчэпленыя рукі, вочы, якія нібыта глядзяць унутр чэрапа, выскаленыя твары... Шалёны карагод вярнуўся. Цяпер для тых, хто скакаў у ім, не мела значэння, хто каму служыць, хто над кім уладарыць. З вуснаў, што не ведалі словаў малітваў, зрывалася нешта дзікае, падобнае на «Гу! Гу!»

— Як зняць наручнікі? — задыхаючыся, спытала я ў Юрася. Той, усё яшчэ не ў змозе адарвацца вачыма ад вар'яцкага відовішча, прамармытаў.

— Ключы дзесьці павінны быць... Можа, вунь там, на століку...

Дасюль не разумею, як мне ўдавалася нешта кеміць, дзейнічаць... Усё рабілася, як у сне, калі самыя неверагодныя, жахлівыя рэчы здаюцца натуральнымі. Пераадольваючы паветра, як дрыгву, я наблізілася да століка, на якім тыя, што гэтай ноччу ламалі волю непакорлівага майстра, расклалі свой немудрагелісты сняданак. Кававарка, кубкі з недапітай кавай, талерка з вішнямі, лусцікі з вяндлінай, бутэлькі з мінеральнай вадой, пачкі цыгарэтаў... Мне адразу ўспомніліся пратаколы допытаў інквізіцыі, дзе ў апісанні працэсу катавання ўвесьчасныя ўстаўкі пра тое, што каты зрабілі перапынак на «перакус». Сярод пералічаных мірных прадметаў валяліся іншага кшталту атрыбуты «вечарынкі»: ампулы і нераспакаваныя шпрыцы, металёвая штука, у якой я ўгадала электрашокер, яшчэ адна пара наручнікаў... На шчасце, былі і ключы.

Я адамкнула наручнікі. Юрась пахіснуўся і ўпаў. Але прыўзняўся, страсянуў галавой.

— Вады...

Я бегма прынесла яму бутэльку мінералкі. Юрась прагна адпіў, рэшткі выліў сабе проста на галаву. Абцёр твар і з цяжкасцю ўстаў на ногі. Дзякуй Богу, здаецца, можа ісці... У куце я падабрала скамечаны Юрасёў швэдар. Курткі вісяць унізе...

— Давай хутчэй адсюль! — я пацягнула Юрася за руку ў бок дзвярэй, стараючыся не глядзець на шалёны карагод.

Юрась быў памкнуўся за мною, але ў дзвярах затрымаўся, абапёршыся аб сцяну рукой, упрыгожанай, паўзверх старых шнараў, цэлай калекцыяй новых.

— Не, я не магу так сысці.

— Што ты тут забыўся? — знервавана спытала я.

— Разумееш, калі тое, што тычыцца гадзіннікаў, праўда... А я думаю, што гэта праўда... То гэтыя людзі будуць бегчы, пакуль не памруць.

— І... што?

— Я не магу гэтага дапусціць.

Я разгублена спынілася, гледзячы на выснажаны твар Дамагурскага, і з адчаем зразумела, што мае пярэчанні не будуць мець моцы. Але ўсё-ткі паспрабавала.

— Адкуль ты ведаеш, што яны памруць? Набегаюцца, паваляцца, адляжацца... Мне дык увогуле здаецца, што яны кожнае імгненне могуць апрытомнець. Што тады з намі будзе? Урэшце, яны з табой такое выраблялі... Чаму ты павінен пра іх клапаціцца?

Але Юрась зацяўся.

— Я павінен гэта спыніць.

О, Божа...

— Як толькі ты гэта спыніш, танец смерці пачнецца для нас.

Дамагурскі ўпарта звёў бровы.

— Я не магу дапусціць, каб яны памерлі.

— Паслухай...— Я пакутліва шукала выйсця.— Ну давай хаця б пачакаем, пакуль яны... не змогуць нас праследваць.

Рэстаўратар задумаўся.

— А... колькі часу павінна прайсці?

Я пастаралася гаварыць упэўнена, нібыта ведаю.

— Ну марафонскі забег колькі доўжыцца? Гадзінаў пяць? Шэсць? Праўда, гэтыя, у карагодзе, бягуць дужа хутка... Але, думаю, за гадзіну з імі нічога не здарыцца. У такіх... анармальных станах арганізм набывае надзвычайныя ўласцівасці. Праз гадзіну можна паспрабаваць... Затое яны нейкі час будуць недзеяздольныя, і мы зможам з’ехаць. Хаця нагадаю, што сярэднявечныя танцы смерці тым і вылучаліся, што шаленцаў не мог спыніць ніхто, ніякая сіла. І... што ты будзеш рабіць з таямніцай? Ці ты дарэмна тут геройстваваў, і ўсё роўна гэтай навалачы ўсё аддасі?

Юрась яшчэ раз зірнуў на карагод, што круціўся ў акружэнні цёмных пачвараў, якія нібыта здзекліва назіралі за шаленцамі, рашуча сказаў:

— Пайшлі... Я ведаю, што рабіць.

Мы падняліся на «панскі паверх». Юрась кіраваўся ў пакоі з Калыванаўскімі калекцыямі, толькі крыху пахістваўся, ідучы. Я ледзь паспявала за ім са старым швэдарам у руках. Праўда, апынуўшыся ля канапы, засланай белым мехам, Дамагурскі ўсё-ткі вырашыў дазволіць сабе выйсці з ваярскага стаіцызму і паваліўся. Я ледзь паспела падхапіць яго, каб зноў не ўпаў на падлогу, і дапамагла ўлегчыся на канапу.

— Нічога... Я зараз... — гэта Дамагурскі яшчэ спрабаваў пераканаць мяне і сябе, што ён у парадку. Ашалець...

Я пашнырыла па пакоі — тут Калыванаў, відаць, бавіў дольчэ фа ньентэ, гадзіны цудоўнага нічога-не-раблення, з дапамогай, акрым усяго іншага, шыкоўнай каробкі з нямецкім шакаладам і калекцыйных каньякоў. Ад каньяку Юрась адмовіўся. Бог яго ведае, што за гадасць у вены паролі, ад адной — свядомасць адключаецца, ад другой — цягліцы рве, нібыта абцугамі, аж суставы выкручвае,

невядома, як яно з алкаголем спалучыцца? Лепей выкарыстаць як антысептык...

Адкаркаваў чорную матавую бутэльку з залатымі літарамі, падняў і... выліў сабе на зраненую спіну.

Блазнюк!

Хвіліны, выйграныя намі ў лёсу, цягнуліся цэлае жыццё. Дэкарацыі адметныя. Пусты дом, набіты шыкоўнымі рэчамі — здавалася, патрасі яго, загрукае, як куфэрак з косткамі. У сутарэннях круцілася шалёнае кола, і цікалі сярэднявечныя гадзіннікі.

Юрась пацягнуў мяне за руку і змусіў прылегчы побач. Зусім блізка апынуліся яго сінія вочы, абведзеныя цёмнымі кругамі стомы.

— Адкуль ты даведалася сакрэт гадзіннікаў, малая?

— Прысніла...— абставіны, у якіх мы знаходзіліся, былі такімі фантастычнымі, што мой фантастычны адказ Юрася цалкам задаволіў.

— Чаму ты прыехала?

Я іранічна прыўзняла бровы.

— Здагадайся з трох разоў.

Ён, відаць, здагадаўся з першага. Таму што зноў пацалаваў мяне. Прысмак смерці надае пацалункам асаблівую моц. Калісьці я любіла вадзіць сваіх кавалераў падчас першага спаткання на старыя гарадскія могілкі. Выпрабаванне вытрымлівалі не ўсе. Дамагурскі, у прынцыпе, таксама... Заявіў мне, што цалавацца над чужою магілай — грэх, і звёў у суседні скверык... Які, па-сутнасці, таксама быў калісьці часткай могілак.

Госпадзе, што мы нарабілі адзінаццаць гадоў таму... Нас чакала нашае каханне, быццам шыкоўны святочны торт. А мы, як несвядомыя малечы, напярэдадні свята прабраліся ў гасцёўню і адхапілі па неахайным кавалачку з крэмавымі кветкамі, безнадзейна сапсаваўшы ўрачыстасць.

— Прабач мне, Анэта...— пакутліва прагаварыў Юрась.— Мушу прызнацца — гэта ж я з-за свайго эгаізму ўцягнуў цябе ў гэтую справу. Разумееш, убачыў цябе на кірмашы... Вось і закарцела неяк знайсці падставу для наступных сустрэчаў. Хоць права ніякага не меў у тваё жыццё вяртацца. Не магу сабе дараваць...

Я ўявіла, а што, калі б ён сапраўды не прыйшоў у маю хату... І не зведала б я страху і болю апошніх дзён, і было б у мяне ўсё ціха і спакойна... І мяне аж скаланула ад такога ўяўлення. Я пагладзіла

мужчыну па няголенай шчацэ са шнарамі і прамовіла словы, якія, была перакананая, не прамоўлю ніколі і нікому:

— А навошта мне жыць без цябе?

Бомм... Шкло ў шафах тонка задрыжэла. Гадзіннікі працягвалі старанна лічыць час, і ў іх галасах мне чулася злавесная радасць.

Юрась з цяжкасцю ўстаў, нацягнуў швэдар і рушыў да сцяны, упрыгожанай барвовым пухнатым кілімам, на якім была развешаная старажытная зброя — нібыта пакінутая пасля бойкі на залітым крывёй лузе. Павагаўшыся, Дамагурскі зняў з мацаванняў алебарду, такую самую, як у картачнага крыжовага валета. Начышчанае лязо блішчэла, як новенькае. Але, па маім перакананні, метал, які адбіраў жыцці, ніколі не будзе выглядаць звычайна. Лязо алебарды люстравала тыя стагоддзі, калі яно было зброяй смерці. І Юрась выглядаў, як сапраўдны рыцар... Апошні рыцар...

— Пайшлі ў майстэрню...

...Яны ўсё яшчэ беглі па коле, на вуснах — белая пена, хрыплыя галасы рытмічна выкрыкваюць нешта... Юрась падышоў да аднаго з гадзіннікаў, моўчкі паглядзеў у ягоны па-вар'яцку абыякавы масянжовы твар і з усяе сілы ўдарыў па ім алебардай.

Ніколі яшчэ антыкварыят не знішчаўся з такой апантанасцю. Юрась валіў гадзіннікі на падлогу, як смяротных ворагаў, адцягваў убок, разбіваў іх жалезныя вантробы... Я таксама дапамагала, як магла, узяўшы нейкі малаток. Дэталі пырскалі ва ўсе бакі, як дождж Апакаліпсісу. Ірваліся вяроўкі з авечых кішак... Каціліся званы, нібыта адсечаныя галовы... Хутка ціканне сціхла. А карагод усё танчыў. Я старалася не глядзець... Гэта было занадта жахліва... Але дэталі ўразаліся ў памяць. Ліля згубіла адзін туфель, на босай назе парвалася чорная ажурная панчоха, і мільгала яркай плямай ружовая пятка. Правае вока Макса чамусьці налілося крывёю... Шчокі тоўстага ахоўніка трасуцца, нібыта кашалёк у скупой руцэ...

— Што рабіць? — крыкнуў мне Юрась.— Як іх спыніць?

Я разгублена паціснула плячыма. Калі лунатыка раптоўна пабудзіць, ён можа і памерці...

Раптам Юрась наважыўся і з усяе моцы штурхануў таўстуна... Літаральна павіс на ім. А той нібыта не заўважае. Валачэ за сабой нечаканую перашкоду, як мядзведзь, у якога ўчапіўся малады хорт. Урэшце Юрасю ўдалося паваліць апантанага. Нейкі час таўстуна цягнулі за сабой іншыя, але рух запавольваўся. Людзі падалі, але іх ногі працягвалі танец, вусны нешта выкрыквалі...

Юрась пераступіў праз целы, узяў шкляны шар і бразнуў аб падлогу, як выпітую страмянную чарку.

— Усё… Дзякую за гасціннасць.

На развітанне я дастала з кішэні джынсаў канверт з грашыма і сыпанула зялёныя паперкі на пабітыя гадзіннікі.

Юрась зусім выбіўся з сілаў. Я ледзь змагла давесці яго да прыпынку… Але я ўжо ведала, што ніколі не пакіну гэтага чалавека. І гора, і пошасць, і ложак — усё напалам…

Гора хапала — пахаванне Стэлы. Юрась усё-ткі кахаў яе… Мне давялося ўзяць на сябе шмат клопатаў. Тым больш, што Юрасю рабілася блага, асабліва па начах, ён крычаў ад болю, трызніў… Відаць, наступствы тых «ампулак», што яму ўкалолі падчас допыту ў Людвісарава.

Цень Стэлы не стаяў між намі. Я проста часам адчувала, нібыта яна сумна назірае збоку, і яе цёмныя вочы блішчаць у начной шыбе не рэўнасцю або злосцю, а лагодным спачуваннем. Яна быццам разам са мной трывожылася за Юрася, як калісьці ён трывожыўся за яе. І дапамагала мне чакаць яго…

Я чакала яго ўвесь вечар… Гэта мусіў быць асаблівы вечар. Мы дамовіліся, што калі пройдзе сорак дзён пасля смерці Стэлы, ён перабярэцца жыць да мяне назусім.

Я сядзела ля акна ўсю ноч, і прамень фар кожнага выпадковага аўтамабіля нібыта разразаў маё сэрца на дзве палавінкі, а рыпенне снегу пад нагамі рэдкіх мінакоў здавалася землятрусам. Юрась не прыйшоў. Раніцай я пачала шукаць яго… Ніхто не ведаў, куды ён падзеўся. Ягоная маці паведаміла, што ён сапраўды сабраў увечары рэчы і пайшоў да мяне («знайшоў жа, да каго, хіба мала на ягоны век хапіла няўдаліц»,— чыталася ў заплаканых вачах маці).

Сваякі звярнуліся ў міліцыю… Але Дамагурскага так і не знайшлі, як не знайшлі забойцу Аркадзя. Я спрабавала ў адчайных пошуках выйсці на гаспадароў Людвісарава, але дарэмна. Калыванаў з’ехаў, даходзілі чуткі, нібыта ў Расіі яго спрабуюць засудзіць за грашовыя махінацыі. Баркунова ўдава таксама знікла, не зладзіўшы ані саракавінаў па забітым мужы, ані музея яго імя. Рэстаранчыкі і крамы на пляцы Старавежска абслугоўваюць дальнабойшчыкаў, а вежа стаіць пустая, пазірае сляпымі вокнамі-вачніцамі, як паднятая з саркафага мумія. Колькі я блукала вакол Людвісарава, спрабуючы нешта даведацца… Але там цяпер заўсёды цёмна і бязлюдна, нібы ў пустым склепе. Юрась знік бясследна.

Я дасюль яго чакаю.

Дарэчы, вярнулася ў журналістыку. Працую ў выданні, якое то зачыняць, то яно зноў адкрыецца пад іншай назвай. Але пасля гісторыі з гадзіннікамі я перастала чагосьці баяцца.

Не баюся і сваіх сноў. Нават навучылася іх запісваць іператвараць у літаратурныя творы. Іх друкуюць, чытачы хваляць, крытыкі не заўважаюць...

Часам, калі я ўключаю тэлевізар, не магу адагнаць думкі, што дзесьці побач з убачаным цікаюць гадзіннікі Бернацоні... Ляціць шалёны карагод... Трымаемся мы ўсе за рукі, жывыя і нябожчыкі, і кіруе нашымі скокамі нехта нябачны і бязлітасны, прагнучы ўлады. Але я ведаю, што заўсёды можна ўтрымацца ад шалёных скокаў. І не абавязкова для гэтага трэба хавацца ў сваю ракавінку. У кожнай ракавінцы — гучыць мора, у кожным камяні і ў кожнай валошцы — жыве Беларусь.

*2005*

## СТАРАСВЕЦКІЯ МІФЫ ГОРАДА Б*

### Артэміда і Актэон

> Прыўкрасны юнак Актэон выпадкова падглядзеў, як купаецца цнатлівая багіня Артэміда. Угневаная багіня ператварыла юнака ў аленя, і яго загрызлі ўласныя сабакі...
>
> *Старажытнагрэчаскі міф*

У горадзе Б* былі жанчыны, якія не выйшлі замуж таму, што ім не пашанцавала.

Былі там і жанчыны, якія не выйшлі замуж таму, што занадта многа хацелі ад будучага выбранніка.

Зрэдку сустракаліся ў горадзе Б* і такія жанчыны, што не выходзілі замуж прынцыпова.

А былі і такія, што заставаліся ў дзеўках па ўсіх трох прычынах: адразу не шанцавала, пасля многа хацелі і завяршылі прынцыпам. А апошні, як вядома, хаця і здольны служыць апірышчам кволай жаночай істоце, аднак яго не абуеш у пантофлі, не пачастуеш піражкамі з капустай і не раскажаш, які страшны сон табе сёння прысніўся.

Панна Канстанцыя, уладальніца багатай радавой сядзібы на ўскрайку горада Б*, непадалёк ад развалін замка, які калісьці, кажуць, таксама належаў продкам панны Канстанцыі, шанавала свае прынцыпы, хаця і не канчаткова адхінула акаляючы недасканалы свет. Але свет, замест таго каб быць ёй за гэта ўдзячным, назваў яе старой дзеўкай, пляткаркай і праўдзівай фурыяй. Што ж, справядлівасці ад горада Б* чакаць не даводзіцца!

Панна Канстанцыя горка падціснула вусны і кранула нагой цёплую цёмную ваду прысядзібнай сажалкі... Даруйце, Лебядзінага возера. Яго выкапалі па загаду паненкі ў рамантычным месцы, пад густымі шатамі старых дрэў, і нат пусцілі на люстраную паверхню лебедзя. Але няўдзячная птушка ўсяляк парывалася ўцячы з наканаванага ёй чароўнага куточка і нават з падрэзанымі крыламі ўхітрылася адтуль збегчы... Грэблівыя роспыты панны пацвердзілі яе здагадку, заснаваную на жыццёвым вопыце: лебедзь быў мужчынскага полу, значыць, падступнасць у яго ў крыві.

Панна Канстанцыя любіла плаваць у сваім Лебядзіным возеры па начах, у прывідным святле месяца, схаваная ад усяго свету густой засенню дрэў, высокай агароджай панскага парку і строгай дысцыплінай у асяродку панскай прыслугі. Пяшчотна плюскатала вада, галава паненкі пагойдвалася між лілеяў і гарлачыкаў, і — канешне ж! — віліся над гэтай галоўкай салодкія мары ды ўспаміны. Некалі, даўно-даўно, у пару квецені і гарэзных ветрыкаў... Ды мала што можа ўспомніць голая паненка ноччу ў сажалцы?..

Таемнасць і самота... Але мы не будзем сцвярджаць, што падчас гэтых амаль сакральных водных працэдур не мроіліся паненцы прагныя праклятыя вочы ў зарасніку вакол возера...

Сёння ноч была асабліва таемнай. Святаяннік па-змоўніцку падміргваў плямістымі жоўценькімі кветачкамі, пранізліва пахла мацярдушка, да самай вады збягала бліскучая, як фальшывы залаты, лотаць. Жаба, маленькая, пляскатая, быццам пусты кашалёк, нясмела падала голас — панна Канстанцыя ненавідзела жаб і загадвала іх вылоўліваць ды знішчаць. Худзенькі камар сеў на магутнае сцягно панны Канстанцыі. Плясь! І камарыная душа адляцела ў далёкі камарыны рай... Не, у пекла — адзінае на ўсіх крывасмокаў. Панна Канстанцыя кінулася ў абдоймы месячнай вады...

...Чараціла прыўзняў цяжкую галаву, у якой усё яшчэ пілікала скрыпачка карчомнага музыкі Гірша, каб паглядзець на велізарную качку, што плюхнулася ў панскую сажалку. Сапраўды, па вадзе рухалася нешта цёмнае, ад яго ішлі кругі, як ад чоўна... Чараціла памятаў яшчэ далікатэсны смак злоўленага тут і засмажанага на лясным вогнішчы лебедзя... Няпрошаны госць прыўзняўся над хмызнякамі... Затрашчалі галінкі...

Хведзька Чараціла ведаў жанчын. Дый з семінарыі выгналі Хведзьку менавіта за амурныя справы. Тым болей што трактаваў Хведзька кабет гэтак жа проста, як пляшкі гарэлкі. Можна нават смела сцвярджаць, што Хведзька бачыў кабет як у вопратцы, так і без. І мы можам зрабіць скідку толькі на тую акалічнасць, што Хведзька быў добра на падпітку і таму не распазнаў, што за істота рушыла на яго з чорнай панскай сажалкі, белая, вялікая, бясформенная... На абліччы істоты Чараціла разгледзеў толькі два чорныя прагалы на месцы вачэй ды трэці, круглы вялікі прагал — гэта не мог быць чалавечы рот — бо з яго не могуць вылятаць такія гукі...

Маленькая пляскатая жабка здохла ў адно імгненне — яе і без таго напалоханае сэрца не вынесла воклічу абражанай цнатлівасці.

Чараціла перахрысціўся. Чараціла паабяцаў Божай Маці, што ніколі ў жыцці не возьме больш гарэлкі ў рот... Чараціла заблагаў і кінуўся праз кустоўе прэч адсюль... А белая пачварына ляцела за ім ва ўрачыстым гневе — прыйшоў яе час! Яна дачакалася! Чараціла дабег да агароджы і, падаючы і абдзіраючы далоні, паспрабаваў пералезці цераз яе.

— Жучка, кусь! Жучка, кусь!

Залівісты сабачы брэх змяніўся Чарацілавым крыкам болю. Апошнім намаганнем Хведзька пераваліўся цераз агароджу і знік у невядомым напрамку, як маланка — не таму, што так хутка, але таму, што зігзагамі...

Панна Канстанцыя паважна абцерла сваю антычную плоць. Апошні бессаромны зірк месяца — і белае цела схавалася пад доўгай брунатнай сукенкай са шчыльнай ваўнянай тканіны, з зашпількамі пад горла.

«Гэта несумненна быў афіцэр,— чамусьці падумала панна Канстанцыя.— Такі бессаромны... Дзёрзкі... Шкада, што не было з сабою кінжала...»

Панна ўявіла, як эфектна было б прыставіць кінжал да сваіх белых грудзей і сказаць: «Лепей смерць, чым ганьба! Ніхто не возьме гвалтам тое, што належыць толькі мне і Госпаду!» Не, лепей было б кінуцца з кінжалам на гвалтаўніка: «Памры, няшчасны! Ты пасмеў падглядзець тое, што не наканавана для чалавечых вачэй!»

Камары жаласна пішчалі над вільготнымі валасамі панны Канстанцыі, акуратна сашчэпленымі рогавым грабеньчыкам. Свет быў цудоўны, хаця і небяспечны. Да канца жыцця заставалася сорак гадоў, восем месяцаў і адзін дзень. Быў шанц правесці іх у прыемных успамінах.

А ў душы карчомнага заўсёдніка Чарацілы навечна пасялілася незразумелая туга. Начное здарэнне ўспаміналася яму ўсё часцей і часцей, і мроіліся Чарацілу то белацелая русалка з прыветна працягнутымі рукамі, то расамаха, кудлатая, няшчасная,— за тое, што пры жыцці загубіла сваё дзіця, пасля смерці вымушаная існаваць у вадзе і палохаць выпадковых прахожых... І хаця Чараціла ніколі больш не наважыўся спакушаць лёс прагулкай у панскі парк, але палюбіў сядзець па начах на развалінах старога замка ці над лясной крынічкай і ўзірацца скрозь цёмныя карункі шатаў на зоры, і ў

неахайнай барадзе яго з першымі павуцінкамі сівізны пераблытваліся месячныя промні, а вусны шапталі незвычайныя пяшчотныя словы, якія не пачула і не пачуе ад Чарацілы ні адна зямная жанчына...

І тады з глыбіні Лебядзінага возера ўсплывала бела-блакітная лілея і расхінала свае пялёсткі, як покрыва багіні... А панна Канстанцыя круцілася на пуховай пярыне і паўтарала ў салодкай дрымоце: «Гэта несумненна быў афіцэр...»

## Апалон і Марсій

Фрыгійскі сатыр Марсій так добра граў на флейце, што насмеліўся выклікаць на спаборніцтва ў музычным мастацтве самога Апалона, бога Сонца і мастацтваў. Па меркаванні бальшыні слухачоў, Апалон перамог. Марсій быў жорстка пакараны за дзёрзкасць: Апа-лон загадаў жыўцом злупіць з яго скуру.

*Старажытнагрэчаскі міф*

Хто ў горадзе Б* не ведаў скрыпачкі Гірша! Гэта цяпер ніхто не помніць ні яе, ні ейнага ўладара — але ж сёння людзі не памятаюць і шмат чаго іншага! Нават Бога Усявышняга, які над усімі — беларусамі, палякамі, летувісамі, габрэямі...

А калі грала скрыпачка Гірша, за акном на сухіх галінках бэзу расцвіталі блакітныя кветкі, праз пыльныя шыбы прабіваліся то сонечныя, то месячныя промні, а карчмар Бурыга, выціраючы слёзы з абвіслых вусоў, бясплатна наліваў піва немаёмасным наведнікам. Вось што рабіў Гірш сваёй скрыпкай!

І ва ўсім горадзе Б* не знаходзілася ніводнага шалапута, ніводнай прапашчай душы, каб наважыцца пакрыўдзіць, падняць на смех гэтага няўклюднага старога габрэя, чыя галава ўяўляла з сябе гладкі бліскучы астравок лысіны ў пышным венчыку чорна-сівых, нібы прысыпаных попелам, кудзераў...

І Гірш ведаў сваю ўладу над людзьмі. І была Гіршава скрыпка голасам горада Б*, ягоным духам і ягоным сумленнем...

«Эх, каб гэтаму музыку ў свой час падвучыцца! Каб нехта апекаваўся ім, даў музычную адукацыю, вывеў у свет»,— бедавалі вучоныя людзі, якія зрэдзь траплялі ў карчомку, дзе іграў Гірш.

Але вучоныя людзі на тое і вучоныя, каб гаварыць пра тое, чаго не было, і тое цудоўнае, чаго не будзе.

Ніхто не помніць сёння Гірша і ягоную скрыпку... Але кожны ўладальнік музычнай энцыклапедыі можа пры жаданні разгарнуць яе на літары «п» і прачытаць пра выдатнага скрыпача Мікалая Паліванава, які нарадзіўся ў горадзе Санкт-Пецярбурзе, вучыўся ў вядомага педагога Макарыні, іграў у аркестры Марыінскага тэатра, пасля пачаў ездзіць з сольнымі канцэртамі, атрымаў у Парыжы «Гран-пры», у Мантэвідэа — «Залатую ліру», у Лондане — медаль св. Антонія, а ў Італіі — права даць канцэрт на скрыпцы, што належала Нікало Паганіні,— а такое права атрымлівае толькі лепшы скрыпач свету...

Мікалай Паліванаў па дарозе ў Варшаву спыніўся ў горадзе Б*. Якія прычыны змусілі ўлюбёнца сталічнай публікі пераначаваць у люксавым нумары двухпавярховага фарбаванага жоўтай крэйдавай фарбай гатэля горада Б*, гатэля з гучнай назвай «Эсперасьён», мы ўжо не даведаемся ніколі. Але губернатар горада Б* меў гонар прыняць у сябе выбітнага госця. Той, на жаль, не палічыў вартым гучання сваёй скрыпкі правінцыйны свецкі салон. І губернатар — няўжо можна дапусціць, што з нейкай нядобрай задумай? — расказаў заезджаму светачу пра старога габрэя Гірша і пра ягоную скрыпку. Спадар Паліванаў пакрывіў вусны, у чым можна было ўгледзець і пагарду, і насмешку, і недавер... Але і некаторую зацятасць.

Так Гірш сустрэўся з Мікалаем Паліванавым. Зала губернатарскага дома была паўнюткай, а пад вокнамі залы тоўпіўся ўвесь горад Б* — заўсёднікі Бурыгавай карчомкі, мешчукі і гімназісты, бабы-гандляркі і звонкагалосыя дзеўкі з мануфактуры па вырабе габеленаў... Горад Б* паставіў свой голас супраць голасу чужынскага, выпеставанага, купленага акадэмічнымі ўрокамі...

І вось праз шырокія вокны губернатарскага дома паліліся гукі Гіршавай скрыпкі, і расцвіў блакітнымі кветкамі бэз, хоць на дварэ канчаўся жнівень, і месяц апусціўся проста на дах, як звычайны паветраны шарык, і пакалыхваўся ў рытм музыцы...

А там, у зале, сотні вачэй былі скіраваныя на спадара Паліванава, ловячы найменшы зрух яго рысаў. І я не скажу, што гэтыя пагляды было прыемна і лёгка трываць. Але Паліванаў прывык вытрымліваць людскія пагляды, добрыя і нядобрыя, зайздросныя і раўнадушныя... Гледачы не заўважылі, як загарэўся ў ім святарны, адвечны агонь артыста, агонь, які прымушае быць лепшым, першым, непаўторным або памерці... Агонь гэты сканцэнтраваўся ў пальцах Паліванава, і яны, яшчэ знешне нерухомыя, гарэлі і праглі дотыку струнаў і смычка...

— Прынясіце маю скрыпку,— хрыпла сказаў Паліванаў, стараючыся не глядзець на Гірша, які стаяў з апушчаным смычком, і лысіна ягоная блішчэла ад поту, а рот усміхаўся ўсмешкай пераможцы.

Паліванаў стаўся вельмі сур'ёзным. Усмешка больш не крывіла ягоных вуснаў. Ён быў напяты і засяроджаны, і прысутныя, яшчэ не пачуўшы яго ігры, таксама зрабіліся сур'ёзнымі і напружанымі, бо адчулі, што будзе прышэсце цуду.

Не ведаю, як іграў спадар Паліванаў на сцэнах Парыжа і Лондана, але ўпэўнена, што ніколі не іграў ён так, як іграў у маленькім горадзе Б* па дарозе ў Варшаву. Вецер, магутны паўночны вецер уварваўся ў залу губернатарскага дома, і ўскудлаціў прылізаныя прычоскі мужчын і какетлівыя кудзеркі дам, і холадам праця́ў сэрцы слухачоў на вуліцы. А пасля гэты вецер — Бог ведае як! — зрабіўся вогненнай віхурай, і абпаліў засяроджаныя думкі, і прымусіў сэрцы біцца часта, як у злоўленай птушкі... І калі здавалася, што вось-вось ад гэтага агню, ад гэтага напалу выбухнуць напятыя пачуцці ў вар'яцкую вакханалію, вогненная віхура ператварылася ў іскрысты феерверк, у россып кветак, жывых і штучных, канфеці і серпанцін, і спявалася ў кожнай душы: «Добра жыць! Цудоўны Божы свет! Не трэба адчайвацца і злавацца — усё будзе добра!»

Але каб Мастацтва не скончылася на гэтай стракатай ноце, феерверк ператварыўся ў струмень жывой крыніцы — пяшчотны і вечны, празрыстую кроў зямлі... Піяна... піянісіма... І апошні ўзлёт смычка адправіў душы слухачоў у такія вышыні, дзе яны яшчэ ні разу не былі і пра якія будуць успамінаць — з тугой і надзеяй — да канца жыцця...

Буйныя кроплі поту сцякалі па вытанчаным твары сталічнага скрыпача. Паліванаў адчуваў прыемную спустошанасць чалавека, які аддаў усе сілы, усё, што мог, і нават крыху болей, каб выканаць сваю справу, і цяпер не меў чым папракнуць сябе.

Што ж, крыкі: «Брава, маэстра!», «Бравісіма!» не былі ў навіну для спадара Паліванава. Ён зноў зрабіўся халодным і крыху насмешлівым і праз гадзіну сядзеў на абабітым аксамітам сядзенні цягніка Масква — Варшава.

Пра Гірша не ўспомнілі. Ён прайшоў праз натоўп, прыгорблены, стары, хаваючы прыніжаную скрыпку пад крысом камізэлькі... Гэта скрыпка была голасам горада Б*, ягонай душой і сумленнем... Цяпер горад Б* страціў свой голас, бо даведаўся, што ёсць гучнейшыя...

І Гірш назаўсёды знік з горада Б*. Яго шкадавалі, шукалі, але потым забыліся, і ўжо ніколі за цьмянымі акенцамі Бурыгавай карчомкі не зацвіталі на сухіх галінках бэзу блакітныя кветкі.

## Арфей і Эўрыдыка

Каханая жонка вялікага спевака Арфея, чароўная німфа Эўрыдыка, загінула ад укусу змяі. Арфей спусціўся ў царст-ва памерлых душ і моцай свайго мас-тацтва пераканаў Аіда, уладара гэтага царства, адпусціць Эўрыдыку на зямлю. Але на зваротным шляху, ля самага выйсця, Арфей азірнуўся, каб паглядзець, ці ідзе за ім Эўрыдыка, што рабіць яму было забаронена. І Эўрыдыка назаўсёды знікла.

*Старажытнагрэчаскі міф*

Горад Б* меў уласны тэатр. Сталай трупы ў ім не было. Дый адбываліся на кепска габляванай сцэне найчасцей канцэрты духавога аркестра ды хору гарадскога таварыства гігіены і санітарыі. Крэслы ў зале прысоўваліся да сцен, на вызваленай пляцоўцы танчыла моладзь, і пад хуткімі чаравікамі храбусцела шалупінне ад семачак.

Але час ад часу горад Б* наведвалі гастралёры. Гэта былі тыповыя правінцыйныя антрэпрызы, з героямі-палюбоўнікамі, засыпанымі пудрай, якіх за паўгадзіны да спектакля трэба было гвалтам цягнуць з Бурыгавай карчомкі; з гераінямі, трыццацігадовымі худымі істэрычкамі, з субрэткамі, харошанькімі пульхнымі дзяўчынкамі, чые ружовыя губкі пахлі табакай і грахом... Гастралёры прывозілі ў горад Б* вечнага Шэкспіра, нязвыклую мітусню і водсвет іншага, рамантычнага і грэшнага свету... Горад Б* памятаў сваіх траіх ахвяр, прынесеных на алтар мастацтва: мадам Кунаковіч, якая збегла ад свайго мужа, уладальніка галантарэйнай крамы масье Кунаковіча, з ніжнегародскім тэнарам; пажарніка Карацупу, які зараз іграў на трамбоне недзе ў кракаўскім аркестры, і юную выпускніцу прыватнага пансіёна мадам Касіо Ксеню Чычаловіч. Ксеня мела пышныя светлыя валасы, вялізныя блакітныя вочы, тонкі стан, гнуткую постаць, характар веснавой ручаіны і жаніха Стася Гарбузака, сына ўладальніка піваварні горада Б*. Усё вышэй пералічанае, акрамя апошняга, Ксеня і звезла з сабою ў пошуках вобразаў французскіх раманаў і ўласнай няўрымслівай фантазіі.

«Ксенечка, птушачка мая!» — роў няшчасны Гарбузак, седзячы пад кустамі бэзу ля Бурыгавай карчомкі, і буйныя, як бутафорскія дыяменты, слёзы каціліся па ягоным круглым добрым твары і блішчэлі на пышных рудых вусах...

У выніку настойлівых росшукаў Ксеніных сваякоў горад Б* даведаўся, што Ксеня Чычаловіч, пяшчотная кветка беларускай правінцыі, скончыўшы паскораныя курсы дэкламацыі (10 урокаў — 5 рублёў 30 капеек), была прынята ў нейкую антрэпрызу на амплуа гераіні і знікла ў невядомым напрамку ў вірах гастрольнага жыцця з чужым імем і свойскай жыццярадаснасцю, выхаванай на здаровым паветры горада Б*.

...І паплыў па вадзе сухі букецік Афеліі, і дарэмна спрабавалі затрымаць яго прыбярэжныя чараты... Карацей, прайшло тры гады. Стась Гарбузак успадчыніў бацькаву піваварню і цяпер выпрабоўваў на наведніках Бурыгавай карчомкі новыя гатункі свайго піва... Акцёрская трупа, у якой блішчэла фольгавая зорачка Клелія Лебедзева, яна ж Ксеня Чычаловіч, пасля няўдалых гастроляў па расейскай глыбінцы апынулася ў горадзе Б*. Клелія доўга сядзела перад цьмяным люстэркам нумара трэцяга разраду гатэля «Эсперасьён», прыдзірліва вывучаючы свой воблік... З таго часу як пакінула пышныя сады і крывыя вулачкі горада Б*, яна схуднела, са шчок сышла здаровая правінцыйная ружовасць, затое вочы пабольшалі і ў іх з’явіўся таямнічы, крыху ліхаманкавы бляск. Клелія правяла пухоўкаю па задзірлівым носіку: нічога! Ёй ёсць чым уразіць горад Б*!

Тым болей што Гарбузак ніколі не меў звычкі хадзіць па тэатрах.

Але звычкі мяняюцца не радзей чым грошы на келіх піва. І Стась Гарбузак не прапускаў цяпер ніводнага прадстаўлення ў горадзе Б*. Ці то ён спадзяваўся, што аднойчы ўбачыць на тутэйшай, кепска габляванай сцэне сваю зляцелую птушачку Ксенечку, ці то сапраўды прыхінуўся да вар’яцкага і таямнічага свету Мельпамены...

І калі з-за куліс паказалася натуральная бландзінка Дэздэмона, Гарбузак сядзеў у другім радзе партэра і ягоны паласаты пінжак упрыгожвала буйная астра з бела-чырвонымі стракатымі пялёсткамі. Вы, напэўна, думаеце, што Гарбузак ускочыў са свайго сумленна аплачанага месца, што ён узмахнуў рукамі, зароў: «Ксенечка!» і кінуўся да сцэны... Прымітыўна думаеце. Гарбузак успрыняў з’яўленне сваёй мары спакойна і натуральна, як чалавек, які жадаў і верыў з такой моцай, што не меў і ценю сумневу ва ўдачы. Хіба

дзівіўся Майсей, калі воды Чэрмнага мора расступіліся перад ім? Гарбузак проста быў шчаслівы і штохвілі абціраў вялікай накрухмаленай насоўкай круглы чырвоны твар. Толькі калі чорныя рукі Атэла счапіліся на далікатнай шыйцы Ксені, Гарбузак не змог утрымаць гучнага ўздыху... Ксенечку трэба было ратаваць з небяспечнага пачварнага царства гастрольнага тэатра.

У маленькім пыльным пакойчыку-грымёрнай Дэздэмона спалохана ўглядалася ў заседжанае мухамі люстэрка. У цьмяным шкле адлюстравалася светлая палоска прыадчыненых дзвярэй, пасля мажная постаць піватара...

Пыхлівую ўсмешку прымадонны і гэтакі ганарлівы паварот галавы Клелія Лебедзева адрэпеціравала яшчэ на пачатку артыстычнай кар'еры... Але не паспелі сарвацца з яе вуснаў словы — гучныя і жорсткія, як, камячачы ў руках дарагі французскі капялюш, загаварыў Стась Гарбузак, і гаварыў ён проста і пераканаўча, як можна гаварыць толькі з каханай жанчынай, якую хочаш вярнуць, ці з панам суддзёю, які праз хвілю мусіць вызначыць табе прысуд.

— Ксенечка, птушачка мая! — казаў Гарбузак, і словы ягоныя мякка перакочваліся і блішчэлі, як марскія каменьчыкі ў празрыстай хвалі.— Тую альтаначку, дзе ты так любіла сядзець, усю абвіў дзікі вінаград; а на сажалцы пасяліўся цудоўны лебедзь — дзяўчаты любяць карміць яго хлебам і піражнымі. А я купіў трох выдатных коней ангельскай пароды; яны рудыя, з белымі грывамі і хвастамі. Памятаеш, мы ездзілі да развалін старога замка і ты чытала мне там вершыкі Барана і Шулера? У нас цяпер дзейнічаюць курсы дэкламацыі, твае сяброўкі Зося і Марыя займаюцца там і на Каляды будуць выступаць у дабрачыннай вечарыне ў жаночай гімназіі. Зноў адкрыецца каток. Памятаеш, як ты каталася там у святле ліхтара, такая тоненькая, лёгкая, і сняжынкі падалі на цябе, як белыя кветкі? А я купіў фартэпіяна, нямецкае, чорнае, бліскучае, і з яго кожны дзень выціраюць пыл. Яно чакае дотыку тваіх пальчыкаў. У Данусі і Карповіча нядаўна хрысцілі дзіцятка... Дачушку... А я купіў саксонскі парцэлянавы сервіз, на дваццаць чатыры персоны. Ён такі ўвесь белы, і ружовы, і блакітны, і там анёльчыкі, і налепленыя кветкі, і залатыя разводы... Пойдзем, Ксенечка, мой вазок стаіць каля тэатра. Ты па-ранейшаму любіш шакаладны торт і міндаль у цукры?

Ксенія Чычаловіч павольна, як у сне, прыўзнялася. Старая распусная вядзьмачка Мельпамена, якая прыкрываецца прыгожай маскай і людской цікаўнасцю, з прыкрасцю пакінула маленькую

грымёрную тэатра горада Б* і сваю ахвяру. Яблыневыя сады і месячныя ночы горада Б*, яго цэркаўкі і касцёлы, кавярні і карчомкі, драўляныя масткі і бэзавыя альтанкі паўсталі ва ўяўленні былой Дэздэмоны ва ўсёй сваёй натуральнай моцы і запатрабавалі да сябе яе душу. Гарбузак асцярожна ўзяў за руку амаль страчанае шчасце і павёў да выхаду з тэатра, працягваючы аднаўляць у словах салодкія рэаліі местачковага жыцця... Ксені было лёгка і спакойна, ёй нібы перадалася ўпэўненасць і вера амаль забытага жаніха.

— А яшчэ я прыдумаў новы гатунак піва,— сказаў Гарбузак.— Я назаву яго «Ксенечка» і зладжу вечарыну бясплатнай ягонай раздачы ў карчомцы Бурыгі... Якое піва, Ксенечка! Які водар!

У вачах Ксені, толькі што незамутнена-блакітных, успыхнулі дзве даволі неспрыяльныя для Гарбузака маланкі, вусны зноў падціснуліся. Прымадонна Клелія Лебедзева вырвала сваю руку з чырвонай лапы півавара Стася Гарбузака, развярнулася і пайшла ў свой свет, неўладкаваны, капрызны, таямнічы... Гарбузак, не верачы ў няшчасце, бег за ёй і нешта гаварыў, але словы яго больш не мелі моцы...

Клелія бегма вярнулася ў грымёрную і зачыніла дзверы на засаўку. Бедны Гарбузак застаўся з таго боку дзвярэй.

— Ну чаму, Ксенечка? Чаму ты так?

А Клелія кінула праз вузкае акно пагардлівы позірк на небрукаваныя краявіды горада Б*. «Пі-ва! Зноў тое праклятае піва... А я, дурніца, вушы развесіла! «Замак! Саксонская парцэляна! Каток!» А ўсё — на ўзроўні піва... Піўная каралева горада Б*... Бр-р-р...»

Няшчаснага Гарбузака прагнаў ад Ксеніных дзвярэй антрэпрэнёр, а назаўтра трупа, падобна звар’яцелай зграйцы птушак, паляцела шукаць свой вырай то на ўсходзе, то на захадзе, то на поўдні, то на поўначы... Гарбузак так і не змог зразумець прычыны свайго фіяска, і тэатральны свет назаўсёды застаўся для яго царствам небяспечным і нязведаным, дзе людзі знікаюць, як у багне, і якое не адпускае ад сябе ахвяр, як не адпускае багна...

«Трэба было сказаць ёй,— разважаў Стась за куфлем піва, якое так і не назваў «Ксенечкай»,— што я купіў гадзіннік з зязюляй і італьянскую карціну з голай багіняй...»

Праз год Гарбузак ажаніўся з паннай Зосяй, якая так і не скончыла курсаў дэкламацыі, і ў Бурыгавай карчомцы ўвесь вечар бясплатна пілі духмянае піва «Зосечка».

Як склаўся далейшы лёс Ксеніі Чычаловіч, мы не ведаем, як нельга ведаць таямніц іншага свету.

## Скрыня Пандоры

> Каб нашкодзіць людзям, багі Алімпа стварылі прыўкрасную жанчыну Пандору і надзялілі яе неўтаймоўнай цікаўнасцю. У доме мужа Пандоры знаходзілася скрыня, якую нельга было адчыняць. Пандора з-за сваёй цікаўнасці адчыніла яе і выпусціла адтуль у свет людскія хваробы, сваркі і звады.
>
> *Старажытнагрэчаскі міф*

Паштовае аддзяленне горада Б* месцілася ў аднапавярховым цагляным дамку, амаль схаваным пад шатамі старых ліп. Цяпер, перадкалянднымі маразамі, ліпы захуталіся ў высакародную шэрань — гэткія важныя пані, што нібыта зусім заштурхалі ў куток яснага марознага дня сціплы будыначак пошты.

А ў будынку паштмайстар пан Сікорскі ў атачэнні сваіх падначаленых разглядаў пасылку, дастаўленую з чыгункі ў чарговай партыі ранішняй пошты. Пасылка была адрасаваная настаўніку хіміі Капуцкаму, аматару незвычайных доследаў ад спірытычных сеансаў да археалагічных раскопаў. Пасылка сапраўды была вартая ўвагі: квадратная скрыня ў палову чалавечага росту вышынёй, шчыльна абцягнутая чорнай аксамітнай паперай, на якой ярка паблісквалі фольгавыя зоркі. Адправіцель падпісаўся лаканічна: «Брацтва “Гаўдэамус”». Паколькі было вядома, што настаўнік Капуцкі з’ехаў некуды ў Гародзенскую губерню да сваякоў, а ягоная халасцяцкая кватэра стаяла замкнёная, пасылка мусіла знаходзіцца ў сховішчы паштамта да вяртання адрасата.

— Пасылка як пасылка,— выгукнуў Сікорскі і прыгладзіў справа налева рэдкі чуб, зачасаны на раннюю лысіну.— Занесці ў сховішча і забыцца.

— Не кажыце, пане Сікорскі,— тужліва працягнуў служачы Карасюк.— Мне такой ніколі не дашлюць. Можа быць, там тэлескоп для назірання зорак — пан Капуцкі неяк расказваў пра такую прыладу на лекцыі ў клубе грамадзянскіх служачых. Калі гэты тэлескоп навесці на планету Юпітэр, можна ўбачыць на ім кольцы!

— Так-такі кольцы...— няўважна ўсумніўся Сікорскі, пагладжваючы чорную аксамітную абгортку пасылкі.

— А можа быць, там фанограф?— выказаўся другі служачы.— Мая жонка ездзіла да сястры ў Вільню, і там на кірмашы слухала фанограф, за дзве капейкі за сеанс. Апошнюю прамову Абрама Лінкальна, панове!

Тут з усіх бакоў пасыпаліся гіпотэзы наконт змесціва пасылкі, адна фантастычнейшая за другую.

— Усё! Сціхніце! — скамандаваў паштмайстар.— Пасылка адпраўленая па ўсёй форме, мы не маем права ўскрываць прыватную карэспандэнцыю. Мы дзяржаўныя служачыя і мусім выконваць свой абавязак дакладна. У сховішча! І каб я больш пра гэтую скрыню не чуў!

Аднак чуткі пра таямнічую пасылку папаўзлі па горадзе Б*. Хутка горад высунуў некалькі даволі цікавых версій, якія запэўнівалі, што ў Чорнай Скрыні набор мамантавых і дыназаўравых костак для гімназічнага палеанталагічнага музея; васковая фігура Напалеона ў сядзячым стане; егіпецкая мумія і нават — абсталяванне для запуску паветранага шара. Чорная аксамітная абшыўка пасылкі заблішчэла і паабцерлася ад бясконцых дотыкаў... Але найболей жарсці распалілася, калі настаўнік Капуцкі не вярнуўся ў належны час і даслаў кіраўніцтву гімназіі ліст, у якім паведамляў, што яму часова прапанавалі пасаду прыват-дацэнта ў Гарадзенскім медыцынскім універсітэце і ён затрымаецца ў Гародні яшчэ на месяц, а пасля, калі ўдасца, застанецца назусім.

— Ускрывайма пасылку! — падляцелі да пана Сікорскага ўсхваляваныя служачыя пошты.— Адрасат выбыў!

— Не маем права! — уздыхнуў Сікорскі.— Па-першае, Капуцкі яшчэ можа вярнуцца, а па-другое, калі ён не вернецца, мы абавязаны адаслаць гэтую пасылку на ягоны новы адрас.

Усведамленне, што яны, верагодна, не будуць прысутнічаць пры ўскрыцці Чорнай Скрыні і ўвогуле ніколі не даведаюцца, што там было, напоўніла душы прысутных невыказнай горыччу. І па горадзе папаўзлі чуткі іншага кшталту. У Чорнай Скрыні — зброя; дынаміт і бомбы; падпольная друкарня... Нарэшце самую арыгінальную версію прапанавала жонка паштмайстра пані Сікорская, што ў пасылцы расчлянёны труп настаўніка Капуцкага, а ліст ад яго імя падступна даслаў забойца, каб схаваць настаўнікава знікненне...

Хаця ключ ад сховішча Сікорскі насіў з сабою, аксамітная папера на пасылцы ў некалькіх месцах аказалася прадзертай. Але пад ёй

выявіўся слой чырвонага кардону. Пан Сікорскі доўга змагаўся з уласным грамадзянскім сумленнем, нарэшце ўзяў тонкі сталёвы нож для разразання паперы і рана ранічкай, пакуль не з'явіліся падначаленыя, забег у сховішча і праткнуў чырвоны кардон... Але нож праз якія два вяршкі наторкнуўся на нешта цвёрдае, якое нажу не паддавалася. Так было з усіх бакоў. У адчаі Сікорскі раскалупаў адну дзірку пашырэй: за чырвоным кардонам бачылася дрэва...

Капуцкі відавочна не збіраўся прыязджаць у горад Б* і на пачатку лютага запатрабаваў выслаць дакументы аб сваёй адстаўцы і пакінутыя рэчы, што змясціліся ў адным невялікім чамаданчыку. Самае жахлівае, што настаўнік (а цяпер прыват-дацэнт Гарадзенскага медыцынскага інстытута) выслаў свой новы адрас, абсалютна дакладны. Неатрыманая пасылка мусіла нераспячатанай адбыць на ранішнім цягніку разам з настаўнікавым чамаданам у Гародню.

Снег пад ліпамі быў даўно стаптаны. І вы дарэмна думаеце, што гэта зрабілі каляднікі. Жыхары горада Б* палюбілі пад вокнамі паштовага аддзялення абмяркоўваць версіі пра змесціва Чорнай Скрыні. Утварыліся нават своеасаблівыя партыі прыхільнікаў тае ці іншай версіі. Самай шматлікай была партыя егіпецкай муміі. Многа было і прыхільнікаў версіі пра мамантавыя косткі і тэлескоп. Нешматлікай, але напорыстай сталася партыя версіі пра расчлянёны труп. Яе ўзначальвала жонка паштмайстра.

Спрэчкі пра Чорную Скрыню вяліся і ў Бурыгавай карчомцы за кубкам гарбузакаўскага піва «Зосечка», і ў пакоях губернатарскага дома. Гімназісты мужчынскай гімназіі, дзе яшчэ нядаўна настаўнічаў Капуцкі, у бальшыні былі перакананыя, што пасылка ўтрымлівае нешта такое, чым аб'ектыўна мусіла карыстацца іхняя гімназія,— тэлескоп там ці косткі, ці абсталяванне для хімічных доследаў. І не адзін баявіты гімназіст спрабаваў прабрацца ў сховішча пошты, маючы ў кішэнях, ранцы ці ў руках злавеснае начынне ўзломшчыка — стамескі, свярдзёлкі, ломікі, нават порах і нітрагліцэрыну... Звестка, што Чорную скрыню адпраўляюць у Гародню, ускалыхнула ўвесь горад Б*. Пані Сікорская наляцела на свайго мужа з сапраўдным адчаем жаўнера, які ідзе ў апошнюю атаку.

— Толькі з-за тваёй упартасці пакутуе ўвесь горад! Няўжо нельга было адразу распакаваць тую клятую пасылку, і мы не трацілі б нервы, час і сяброўства.

— Але мы дзяржаўныя служачыя,— слаба абараняўся пан Сікорскі.— Мы не маем права... Ёсць інструкцыі...

— Чхала я на твае інструкцыі,— закрычала раз'юшаная кабета.— Калі вы дзяржаўныя служачыя, дык даўно павінны былі западозрыць нядобрае і выкрыць злачынства. Урэшце, запрасі жандараў, скажы, што ад пасылкі сыходзіць моцны трупны пах...

— Глупства...— мармытнуў Сікорскі.— Да таго ж Скрыня не надта цяжкая... Але...

— Але! — сцвердзіла пані Сікорская, і паштмайстар, адчуваючы раптоўную душэўную палёгку, паімчаўся ў жандармерыю горада Б*.

Ці варта казаць, што сховішча паштовага аддзялення не магло змясціць усіх жадаючых прысутнічаць пры ўрачыстым моманце адкрыцця Чорнай Скрыні, а ліпы вакол пошты страцілі не толькі высакародную шэрань, але і асобныя галінкі. Знутры вокны выглядалі, як вітрына крамы па распродажы расплясканых насоў і шалёных вачэй. Чорная абгортка, скрозь прадзертая і выпацканая, амаль страціўшая фольгавыя зоркі, зляцела ў адно імгненне, расшматаная мноствам рук. Той жа лёс спасціг скрыню з чырвонага кардону, што аказалася пад абгорткай, таксама прадзёртую і нават у адным месцы прапаленую. У кардоннай скрыні была фанерная, меншага памеру. Узмахнулі сякеры, і вачам прысутных адкрылася... яшчэ адна, меншая, скрыня з зялёнага кардону. Далей было: скрыня з кардону, абклееная фольгай; яшчэ адна скрыня з фанеры; скрыня з жоўтага кардону; скрыня з сіняга кардону ў гарошак; скрынка, абклееная паперай з анёлкамі, зоркамі і сняжынкамі, скрынка ружовая; скрынка блакітная, зноў чырвоная... Нарэшце ў самым цэнтры аказалася белая пляскатая скрыначка памерам з далонь, у якой ляжаў танны партабак і ліст з наступным тэкстам: «Дарагі Генусь! Віншуем цябе з Калядамі! Не забывай старых універсітэцкіх сяброў, наша брацтва за келіхам віленскага піва і вясёлыя калядныя жарты! Антось, Вітас, Рышард, Пятро, Анцыпар».

Пакой пошты быў увесь засыпаны каляровымі шматкамі паперы, кардону і трэскамі.

— За такія жарты па пысе трэба біць, панове,— разгублена сказаў пан Сікорскі.— Гэта ж прымушаюць працаваць дзяржаўных служачых, траціць сілы, энергію, нервы для перадачы такога паскудства...

Пані Сікорская моўчкі плакала. Народ разышоўся. І мы б не раілі ў гэты дзень, дый у бліжэйшыя дні, пану Капуцкаму з'яўляцца ў горадзе Б* нават з самымі лепшымі намерамі. Што праўда, ён і не з'явіўся. Хаця не быў вінаваты ў вышэйапісаных падзеях, як кажуць, ані сном, ані духам...

Пан Сікорскі прыгнечана ішоў дадому пад ручку з маўклівай жонкай. Службовы абавязак быў парушаны, таямніца аказалася насмешкай... І што цяпер рабіць з тым праклятым партабакам?..

Раніцай на ліпах вакол паштовага аддзялення горада Б* зноў з'явілася шэрань. Але хутка, хутка яна мусіла ператварыцца ў адліжны дожджык і ссыпацца ў набрынялы снег...

## Нарцыс і Рэха

> Прыўкраснага юнака Нарцыса пакахала німфа Рэха, якая была пазбаўленая дару мовы і магла толькі паўтараць чужыя словы. Нарцыс не ведаў кахання і прагнаў Рэха. Багі пакаралі пыхліўца: юнак закахаўся ва ўласнае адлюстраванне і загінуў. Рэха аплаквае яго да сёння.
>
> *Старажытнагрэчаскі міф*

У маленькай крамцы горада Б* пад вялікай зялёнай шыльдай з надпісам «Табак» найменш прадавалася тытуню. На крамных паліцах, акуратна засланых белай паперай з выцінанкамі па краях, ляжалі разынкі і арэхі, ружавела яблычная пасціла, паблісквалі шматлікія яркія «манэркі» — квадратныя бляшанкі з перцам, імбірам і чаем... На ніжніх, шырокіх, паліцах грувасціліся гаспадарчыя прылады — чыгунныя прасы, бязмены, газоўкі, сякеры ды іншае нерамантычнае начынне людскога побыту. У давяршэнне ўсяго на сценах крамы былі развешаныя хусткі з махрамі і ўзоры танных стракатых тканін на местачковы густ. Нарэшце, на прылаўку былі раскладзеныя канцылярскія прылады — стосікі сшыткаў, каляровыя і простыя алоўкі ў высокіх шклянках, гумкі, лінейкі, і запаўняла памяшканне сваім своеасаблівым водарам вялізная бочка селядцоў, што хавалася ў паўзмроку крамы.

Царавала ў гэтым стракатым царстве жыццёвай драбязы Ганулька, дачка ўладальніка. Ганулька мела сямнаццаць пражытых гадоў, ціхмяны нораў і ніякай адукацыі. Умела Ганулька тонка прасці, з густам ткаць, выбіраць бульбу, жаць жыта ды звонка пяяць і большую частку жыцця прабегала басанож па пыльных вулках горада Б* ды вакольных лясных сцяжынках, пакуль нядаўна ейны бацька ў выніку сумесных намаганняў учэпістага характару і эканамічнага мыслення не пабагацеў і не купіў гэтую краму, за прылавак якой, зноў

жа ў мэтах эканоміі, паставіў дачку. Апошняя ж, пры сваім ціхмяным простым нораве, успадчыніла ад бацькі матэматычныя здольнасці і ніколі не памылялася пры падліку фунтаў, штук і метраў. І хоць страшэнна нудзілася ў прыцемку бацькавай крамы, не мела і ў думках скардзіцца, бо пакорліва прымала жыццё такім, як ёсць. Што тычыцца знешнасці Ганулькі, дык у горадзе Б* цаніўся іншы тып прыгажосці — кірпаценькі носік, пульхныя ружовыя шчокі, пышныя белыя валасы... Але старажытны грэк ці і наш продак, што пісаў першыя абразы па візантыйскім ўзоры, не абмінуў бы ўвагаю Ганульчын вытанчаны сумны тварык...

У той веснавы дзень, калі змяшаны пах селядцоў і тытуню здаваўся асабліва агідным на фоне водару квітнеючых садоў, у дзверы пад зялёнай шыльдай увайшоў студэнт першага курса Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Мікалай Шпадаровіч. Пан Мікалай прыехаў на вакацыі да бацькі, доктара Шпадаровіча, загадчыка земскай лячэбніцы.

Мікалай грэбліва зморшчыў тонкі пародзісты нос (м-да, амбрэ...), няспешна падышоў да прылаўка і, гледзячы паўзверх Ганульчынай галоўкі з акуратна ўкладзенымі цёмнымі косамі, вымавіў:

— Папрашу тры сшыткі ў лінейку і просты аловак.

Ганулька заўсёды з трапяткой павагай ставілася да асоб, што куплялі ў яе пісьмовыя прылады. Але такога вучонага і прыгожага паніча яна бачыла ўпершыню... Мікалай Шпадаровіч, усё гэтак жа гледзячы паўзверх Ганулькі, прыняў з яе дрыжачых рук пакупкі і рэшту, прыўзняў на развітанне капялюш і знік у веснавым сонечным паветры.

І што яму, юнаму свецкаму льву, было да таго, што разам з дробнай рэштай да яго ў кішэню трапіла сэрца маленькай гандляркі з тытунёвай крамы горада Б*?

А цяпер мусім растлумачыць чытачу, якім чынам завітаў бліскучы малады чалавек у бедную крамку на ўскраіне горада. Мікалай Шпадаровіч быў паэтам. Прызнацца, ён з радасцю аддаў бы і месца ў прэстыжным універсітэце, і бацькоўскую шчодрую грашовую дапамогу, і будучае месца доктара за адно імгненне рамантычнай славы Франсуа Віёна, Фрыдрыха Шылера ці Адама Міцкевіча... Пра тое, што існуе нейкая літаратура на мясцовай гаворцы, пан Мікалай ведаў і нават аднойчы браў удзел у размове з двума мясцовымі настаўнікамі, якія даводзілі, быццам гэтая гаворка ёсць асобная, старажытная мова, што яе трэба развіваць, што трэба працаваць дзеля адраджэння

культуры гэтага народа, так званага беларусінскага. Можа быць, і так, але найбольш пан Мікалай ненавідзеў кляймо свайго правінцыйнага паходжання, ненавідзеў свой тутэйшы акцэнт, ад якога ўпарта пазбаўляўся, спрабуючы выдаць яго хаця б за польскі. Часам ён ненавідзеў нават уласнага бацьку: за тое, што той паходзіў са звычайнай мужыцкай сям'і, а галоўнае — што гэтага не саромеўся. І што яму было да гэтай зямлі, і яе курганоў, і яе паданняў, і палеглых за яе касіянераў, да яе пяшчотных і сумных песень, да яе папараць-кветкі і простага і адданага, як лясны ручай, кахання яе дзяцей, калі тэатры, рэстараны, багемныя кабарэ, літаратуразнаўчыя дыспуты і друкарні, дзе выдаваліся пульхныя томікі вершаў з залатымі абрэзамі, былі там, у чужых вялікіх гарадах. І каб трапіць у той Эдэм, зрабіцца там сваім, паважаным, знакамітым, трэба было стрэсці з сябе пыл горада Б* старанна і назаўсёды... І вось пан Мікалай штодзень адпраўляўся за горад, на рамантычныя разваліны замка, і складаў там вершы, успамінаючы Віёна і Шылера, Пушкіна і Лермантава і не ўсведамляючы, што натхненне яму можа даць толькі гэтая, пагарджаная ім, зямля, і ў замка гэтага была свая гісторыя, розная з той гісторыяй, якую вывучаў Мікалай у гімназіі і ўніверсітэце...

Вось па дарозе да замка і зайшоў Мікола Шпадаровіч у краму «Тытунь» па сшытак і аловак...

З некаторага часу Мікалай пачаў заўважаць у пару сваіх вечаровых экзерсісаў, што наводдаль часта круціцца нейкае дзяўчо — то збірае кветкі, то пляце з іх вяночак, то прысядзе і ціхенька запяе тутэйшую песню... Мікалай успрымаў гэтую з'яву, як успрымаў птушак, якія таксама пырхалі вакол яго. Але аднойчы ад асаблівага прыліву паэтычнага пачуцця Мікалай занадта націснуў на аловак... У кішэнях запаснога няма...

— Пану патрэбны аловак? — пачуўся нясмелы голас з-за спіны — як мышаня прапішчала.

Шпадаровіч схапіў працягнуты тонкай дзявочай рукой аловак і прадоўжыў запіс эпахальных радкоў, не заўважыўшы, як дзяўчына-дабрадзейка, збянтэжаная сваім смелым учынкам і невыказна шчаслівая, адразу кінулася бегчы ў недалёкі лясок, каб там расказаць адзінай сваёй сяброўцы, балбатлівай ляснай крынічцы, пра першыя, чыстыя, як крынічная вада, пачуцці...

Пан Мікалай нібы літасціва дазволіў дзіўнаватай дзяўчынцы знаходзіцца каля сябе і захапляцца сваёй персонай. Ганулька магла прыбягаць да замка толькі пасля закрыцця крамы і часам, прыбегшы,

не заспявала там свайго куміра — і раніцай яе падушка была мокрая ад слёз. Дзяўчына зрабілася забыўлівай і, даводзячы да шаленства бацьку, дапускала памылкі ў разліках.

Шпадаровіч прывык да свайго, як ён умоўна назваў дзяўчыну, «ляснога духа». Часам ён чытаў Ганульцы свае вершы, будучы ўпэўненым у захапленні слухачкі. Што ж, маўклівае, бескарыслівае захапленне прыемна кожнаму, і нават патрэбна. Але сустрэнь заўтра Мікалай Ганульку на вуліцы — ён і не пазнаў бы яе, настолькі мала займала яго яе асоба.

Аднойчы Ганулька не знайшла паэта на развалінах, хоць прыбегла нязвыкла рана. Прачакаўшы да цемнаты, дзяўчына ў трывозе рушыла да дома пана доктара. Дрыжучы ад сораму і страху, схавалася ў кустах бэзу і ўглядалася ў акно, з-за парцьераў якога струменіла цьмянае святло газоўкі. Раптам парцьеры рассунуліся, акно расчынілася, і паказаўся сам пан Мікалай, з ускудлачанымі валасамі, у расшпіленай кашулі. Мікалай раз’ятрана камячыў у далонях нейкую паперыну, пасля размахнуўся і шпурнуў яе з усяе моцы ў кусты, ледзь не трапіўшы ў Ганульку. Потым брудна вылаяўся па-расейску і зачыніў акно.

Ганулька асцярожна выйшла са свайго схованшча, падабрала выкінутую паперу і паспрабавала распрастаць — гэта быў ліст. Прачытаць, што там напісана, дзяўчына не магла, тым болей не магла папрасіць аб гэтым кагосьці. Ганулька разумела толькі, што ў яе куміра здарылася нейкая бяда і ліст мае да гэтага дачыненне...

Што магла зрабіць бедная Ганулька? Назаўтра, ледзь прычакаўшы, пакуль бацька дазволіць зачыніць краму, дзяўчына надзела самую лепшую сукенку з цёмна-зялёнай ваўнянай тканіны, з бялюткім каўняром-самавязам і такімі ж манжэтамі, зашнуравала высокія чаравікі і, чырванеючы (бо гэта быў грэх), узяла адну з бутэлечак з адэкалонам, прызначаных для продажу, і кранула нетутэйшым водарам за вушамі... Ганулька ясна не ўсведамляла, што будзе рабіць, але мела надзею, што словы захаплення і шкадобы, якія перапаўнялі яе, маглі спатрэбіцца сёння пану Мікалаю.

Мікалай Шпадаровіч вяртаўся дадому са спектакля заезджай тэатральнай трупы. Тэатрык быў варты жалю, трупа была бяздарнай, піва ў буфеце мела прысмак мыла, а зоры свяцілі абуральна ярка. Капялюш пана Мікалая быў крыху ссунуты на левае вуха, адкрываючы бездакорна прычасаны набрыялінены чуб; пад расшпіленым пінжаком паблісквала шэрая парча камізэлькі і шаўковы вузел

гальштука, блішчэлі панскія чаравікі і наверша моднай кульбачкі ў выглядзе галавы чорнага пудзеля. З-за кустоў вынырнула тоненькая постаць.

— Пан Мікола... Я толькі хацела сказаць... У пана Міколы такія вершы...

— Ве-ершы? — Шпадаровіч пагрозна наблізіўся да дзяўчыны.— Ты хто такая?

— Пан Мікола чытаў мне вершы... Там, у замку...

— А, «лясны дух»! Ты адкуль тут? Цікуеш за мной? Хто цябе выхоўваў? Хіба прыстойна паненцы чапляцца да незнаёмага мужчыны? Ат, што з іх узяць! «Дзяроўня!» А туды ж, «вершы»... У труне я бачыў тыя вершы з табой разам...

Апошнія словы пан Мікалай гаварыў ужо за зачыненымі варотцамі. Назаўтра ён з’ехаў да месца вучобы і ў горад Б.* не вярнуўся ніколі. Не прыехаў нават на пахаванне бацькі. Казалі, што ён выгадна ажаніўся з дачкой свайго прафесара, кінуў літаратурныя высілкі і трымае сваю клініку, дзе з задавальненнем лечацца багацейкі ад атлусцення, істэрыі ды астэніі.

Ганулька па-ранейшаму гандлявала ў бацькавай краме. І нават калі зрабілася сталай кабетай, маці пяцярых дзяцей, па-ранейшаму перахоўвала таямнічы кавалак паперы, спісаны словамі, што перакрэслілі жыццё і яе, і ейнага бажаства, і да самай сваёй смерці не даведалася сэнсу гэтых слоў.

А калі б змагла, дык прачытала б у запаветным лісце наступнае: «Уважаемый г-н Шподарович! Прочитал Ваши стихи, которые Вы мне прислали, как Вы изволили выразиться, на беспристрастный суд. Не обнаружил в них ни чувств, ни мыслей. Право, можно подумать, что вы живете под стеклянным колпаком в обществе нескольких романтических книжек. От всей души советую — займитесь полезным обществу делом и не тратьте душевный пыл и бумагу на гимназические литературные практикования».

Подпіс неразборлівы.

## Сідон і Траяніцы

Падчас Траянскай вайны грэк Сідон перабег да траянцаў і пераканаў іх увесці ў Трою драўлянага каня са схаванымі ў яго чэраве ахейцамі.

*Старажытнагрэчаскі міф*

У горадзе Б* было трое могілак — праваслаўныя, каталіцкія і габрэйскія.

І калі нехта сумняваўся ў тым, што тутэйшыя жыхары шануюць памяць продкаў, яму варта было прайсціся сярод крыжоў, пафарбаваных бронзавай фарбай, каменных анёлкаў ды каменных дрэў з абсечанымі галінкамі, пачытаць кранальныя надпісы ў вершах... А як урачыста ўспаміналі шаноўных памерлых у касцёле з жоўтай цэглы, драўлянай беленай царкве і аздобленай бурачковай кафляй сінагозе!..

Жыхары горада Б* любілі сваіх памерлых. Яны пілі за іх вечны супакой і куплялі ім штучныя кветкі. Што яшчэ могуць патрабаваць нябожчыкі ад жывых? Калі гэта не ёсць памяць, дык на якую халеру яна трэба, істэрычная слязлівая паненка?..

Пан Бурдэйка з’явіўся ў горадзе Б* спачатку ў выглядзе афішы. З платоў і сцен пазіраў мефістофельскага тыпу мужчына ў дзіўным квадратным капелюшы, з аднаго рога якога звісаў шнурок з кутасом. «Толькі адзін сеанс! — хорам чыталі цікаўныя жыхары горада Б*.— Вялікі медыум Альфонс Бурдэйка з асістэнткай Амандай Дэльмар! Галасы з таго свету! Завеса таямніцы прыадкрываецца!»

Хто расклеіў тыя афішы, і калі — сапраўды засталося за завесай таямніцы.

Тры дні ля касцёла, ля царквы і ля сінагогі жыхары горада Б* абмяркоўвалі нешараговую падзею, што мусіла адбыцца.

— Нізавошта не пайду! — крычала цётка Крыся, шаноўная ўдава ціхмянага ветэрынара Юзькі.— У Бібліі сказана — пакарай сідонскую вядзьмачку! Не пайду губіць сваю вечную душу! — і чорная, з блішчынкамі хустка цёткі Крысі ўзвышалася на сабраных у высокі вузел валасах, як востраў непадкупнай дабрадзейнасці.

— Звычайнае шарлатанства! — паблажліва тлумачыў наведнікам кавярні выкладчык мужчынскай гімназіі пан Вабішчэвіч, які любіў памарыць за філіжанкай кавы ў згаданай кавярні пра сваё таемнае каханне да гордай дачкі губернатара, вядомае ўсяму гораду Б*.— Наш былы супрацоўнік пан Капуцкі ўчыняў спірытычны сеанс. Пасадзіў усіх за круглы стол, прымусіў трымацца за рукі, запаліў эфірнага спірытусу, і пачуўся голас Напалеона. Высвятлілася, за парцьерамі стаяў настаўнік фізкультуры... Дурнота, панства! — рамантычныя тонкія вусікі Вабішчэвіча скептычна варушыліся.

— Тры рублі білет! Траціць такія грошы на ўсякае страхоццe! — пацiскала плячыма мадэмуазэль Гарабец, чарнявая незамужняя таўстуха, якая нядаўна перабралася ў горад Б* аднекуль з-пад Чарнаўцоў і адчыніла маленькую швейную майстэрню пад шыкоўнай шыльдай: «Пашыў элегантных сукенак і ўрачыстых касцюмаў».— Такія сеансы вельмі небяспечныя! На іх адбываюцца рэчы, невыносныя для слабых нерваў. Мой дарагі бацька, палкоўнік кавалерыі, не ўхваліў бы падобныя экзерсісы!

Меркаванню шаноўнага памерлага палкоўніка кавалерыі пана Гарабца, чые жыццё і смерць адбыліся, на жаль, па-за межамі горада Б*, нельга было запярэчыць...

І як вы думаеце, колькі прыйшло жыхароў горада Б* на падазроны сеанс пана Бурдэйкі?

Правільна, прыйшлі ўсе.

Невялікая зала Таварыства аматараў цвярозасці аказалася набітая людзьмі, якія з усіх сіл дэманстравалі адзін аднаму выразамі твараў, тонка разлічанымі жэстамі і шматзначным хмыканнем, што яны тут выпадкова і з вяршыні свайго навукова-прававерна̄га кругагляду паблажліва пазіраюць на імпрэзу.

Пан Бурдэйка аказаўся лысым і невысокім. Вакол яго адчувалася магутная аўра таннага адэкалону і слівянкі, якая яшчэ пару гадзін таму знаходзілася ў графіне рэстарацыі гатэля «Эсперасьён». Чатырохраговага капелюша з кутасом не было.

Выйшла на сцэну і немаладая мадам Дэльмар з пукам чорных страусавых пёраў на галаве. Яна ўселася на крэсла пасярод сцэны, і магнетызёр загаварыў.

— Шаноўнае панства! Прыемна бачыць, што ў горадзе Б* столькі прагрэсіўных людзей са смелым мысленнем...

Пасля кампліментаў гастралёр распавёў навуковае абгрунтаванне існавання бессмяротнай існасці чалавека, будову іншасвету, карысць зносін з ім і горача прапанаваў прысутным аднавіць у памяці тых жыхароў іншасвету, з кім хацелі б паразмаўляць. Выключна навуковавая тэрміналогія знізіла напружанне ў зале. «Біятокі», «экстрапаляцыя», «гіпермедыум» ды «кантактаванне» сваёй супакаяльнай незразумеласцю надавалі імпрэзе добрапрыстойны сэнс.

І ў гэтую падступную хвіліну кожны жыхар горада Б*, збяднелы на тры рублі, падумаў: «Чаму не?» або «Можа быць...»

— Вось вы, мадам,— звярнуўся магнетызёр да паважнай цёткі Крысі, чыя высокая прычоска пад чорнай хусткай з блішчынкамі

ўзвышалася ў першым радзе.— У вас, напэўна, ёсць у іншасвеце блізкі чалавек, якога пяшчотна любілі і з якім марыце злучыцца ў вечнасці... Вы хацелі б задаць яму некалькі пытанняў, пачуць ягоны голас?

Цётка Крыся ўздрыгнула. Вышыня ўдовінай велічы не магла пахіснуцца на вачах горада Б*. І цётка няўпэўнена хітнула галавой на знак згоды.

— Памятайце толькі,— злавесна папярэдзіў Бурдэйка,— што душы, якія прайшлі скрозь браму смерці, могуць непазнавальна змяняцца, але і выяўляць сваю сапраўдную сутнасць...

Медыум стаў за спінай мажной Аманды і пачаў рабіць імклівыя рухі над ейнай галавой з чорнымі пёрамі, быццам плыў супраць небяспечнай плыні. Пёры на галаве мадам Дэльмар калыхаліся, азызлы набелены твар застыў, падобна антычнай масцы, вочы заплюшчыліся. Замагільным голасам мадам апавядала, што яе душа аддзяляецца ад цела і саступае яго ўсім жадаючым вольным духам, якія будуць прамаўляць з яго нетраў.

Пан Бурдэйка абвясціў, што бачыць, як цела асістэнткі насяляе дух, выкліканы палкім жаданнем глядачкі з першага рада.

— Я тут, каханая жоначка! — Хрыплы голас, зусім не падобны на няўпэўнены тэнарок нябожчыка ветэрынара, чуўся не з крывава-чырвоных вуснаў мадам Дэльмар, а, здавалася, аднекуль з ейнага жывата.— Ты чуеш мяне?

Цётка Крыся жаласна ўсміхнулася, паспрабавала зірнуць па баках у пошуку падтрымкі, але сустрэлася з прагнымі цікаўнымі позіркамі і сумелася. А голас усё заклікаў:

— Жоначка мая! Ці чуеш мяне?

Цётка Крыся няўпэўнена вымавіла:

— Та-ак...

— Я сумую па табе, жоначка,— працягваў вяшчаць непазнавальны голас Юзькі.

А разгубленая цётка Крыся ўжо без унутранага супраціву прымала шматлікія прыгожыя словы, што прамаўляў нябожчык, які пры жыцці нічога падобнага не гаварыў, дый не ўмеў такога гаварыць. Часам дух памыляўся, напрыклад, калі расказваў, як часта дарыў каханай жоначцы кветкі,— праставаты Юзька быў да такога няздольны. Але цяпер ва ўяўленні ўдавы памерлы муж паўстаў іншым, і ўсе гэтыя словы пра кветкі і палкія пацалункі — вядома, усё было! Так, як марыла ў дзеўках! Усё было, проста яна забылася... І ветэрынар быў

не прыгорбленым лысаватым недарэкам, а стройным мажным мужчынам з тым менавіта позіркам, ад якога ў сапраўднай жанчыны салодка шчыміць у грудзях... І ад раптоўнага ўсведамлення, што гэты прыгажун, на якога яна мела выключнае права, цяпер бясплотны дух, які сядзіць у жываце медыумавай асістэнткі, цётка Крыся нечакана гучна ўсхліпнула...

Пан медыум зараз жа перастаў махаць рукамі над галавой Аманды і абʼявіў, што ў цела рэцыпіента можа ўсяляцца наступны дух... Вось, напрыклад, той, пра якога так настойліва думае гэты малады пан з вусамі... Пан Вабішчэвіч не паспеў запярэчыць, як з жывата мадам Аманды пачуўся голас, па ўсёй верагоднасці, той, пра каго думаў пан Вабішчэвіч. А думаў ён пра сваё таемнае каханне. Чаму прыгажуня Мэры, якая ў гэты час сядзела за піяніна ці кніжкай у адным з пакояў губернатарскага дома, прамаўляла да яго з таго свету,— Вабішчэвіч і не думаў, ашаломлены хваляй пяшчоты і палкага пачуцця. Аказалася, недаступная Мэры пакутуе без настаўніка Вабішчэвіча, думае пра яго ўвесьчасна і марыць злучыць калі-небудзь свой вечны дух з ягоным...

Цяпер духі пачалі змяняць адзін аднаго ў Амандзіным целе вельмі хутка. Ліхвяру Губерману, які пахаваў чатырох жонак, адна з іх (невядома, каторая) паабяцала адплаціць на тым свеце пяшчотай і клопатамі, якія мела ад яго на зямлі. Губерман збялеў і доўга выціраў вялікай клятчатай насоўкай узмакрэлы лоб. Па настойлівых просьбах прысутных мадэмуазэль Гарабец мусіла перамовіцца слоўцам са сваім шаноўным бацькам-палкоўнікам кавалерыі, пра якога кожны дзень чулі з вуснаў мадэмуазэль. Як апошняя ні аднеквалася турбаваць гэтак важны дух, ён зʼявіўся і самым кранальным чынам пачаў пераконваць дачку ў сваёй пяшчотнай любові, заклікаў адкінуць гонар і забабоны і не адвяргаць любячых яе блізкіх асоб і не ўпускаць свайго шчасця. Аднак мадэмуазэль Гарабец чамусьці не расчулілася і, ярасна абмахваючы маленькім веерам пачырванелы твар, сярдзіта глядзела на магнетызёра.

А духі зляталіся, як мухі на мёд. Яны былі красамоўнымі, дабрадзейнымі, велічнымі і перапоўненымі любоўю да жывых. Прысутных ахапіў хваравіты ажыятаж. Кожнаму хацелася прадэманстраваць, што яго памерлыя не горшыя за іншых. Пасля ўзбуджэнне змянілася бояззю. Спакушаныя жыхары горада Б* не ўсвядомілі, але адчулі, што неасцярожна наклікалі ў свой горад сотні мерцвякоў, якія дагэтуль спакойна займалі адведзеныя ім нішы і задавольваліся паніхідамі і вянкамі. Цяпер яны блукалі між жывых і

патрабавалі ўвагі да сябе. Мінулае рэстаўравалася, як царква, у якой фрэскі чатырнаццатага стагоддзя, суровыя, строгія, патрэсканыя, замазалі прыемнай воку белай крэйдавай фарбай, на якой добра глядзяцца выявы ружовашчокіх херувімаў з пазалочанымі кудзеркамі.

Але перш чым боязь прысутных выявілася вонкава, вопытны гастралёр перапыніў сеанс, вярнуў душу асістэнткі на законнае месца, яшчэ раз ухваліў прагрэсіўных жыхароў горада Б*, раскланяўся і знік назаўсёды разам з мадам Дэльмар і сакваяжам з грашыма...

Назаўтра горад Б* трэсла ад чутак. Перад царквой, перад касцёлам і перад сінагогай расказвалі, што цётка Крыся зрэзала ўсе ружы ў сваім гародчыку і занесла іх на магілу ветэрынара; што настаўнік Вабішчэвіч уварваўся ў губернатарскі дом з непрыстойнымі крыкамі; што ліхвяр Губерман зварочвае справу...

Адна мадэмуазэль Гарабец не каменціравала спірытычныя падзеі.

Горадам Б* уладарылі мерцвякі. Людзі міналі касцёл, сінагогу, царкву і карчму і накіроўваліся на могілкі. Там глядзелі на крыжы, каменныя слупы, папяровыя вянкі, але сувязь між звыклымі прыстойнымі атрыбутамі і тым невядомым, што было закапана пад імі, парвалася. Магілы нагадвалі пустыя коканы, а невядомыя істоты, што вырваліся з іх воляю праклятага гастралёра, лёталі над лопухамі і чарнабылам, над бялявымі галоўкамі дзетак і лысінамі паважных дзядзькоў, дасканалыя, вечныя, любячыя... Адчуванне было, як падчас спякоты на лясной сцяжынцы, калі да потнага цела ліпнуць авадні і павуцінне, зумкаюць над вухам камары, а ў вочы лезе нахабная машката...

І горад Б* пачаў вызваляцца ад свайго кашмару. У зале гарадскога тэатра сіламі выкладчыкаў мужчынскай гімназіі і рэальнай вучэльні арганізавалі лекцыю пра шарлатанскую сутнасць спірытызму. Пан Бурдэйка ды ягоная таўсматая пасія — проста шараговыя чэрававяшчальнікі, і ніякіх духаў яны не выклікалі, а гаварылі падрыхтаванымі фразамі, чаму сведчанне — шматлікія недарэчнасці. У храмах усіх канфесій асуджалі тых, хто спрабуе зносіцца з духамі, бо па сваёй грахоўнай зямной існасці дастане толькі візіту дэманаў. І ўрэшце нябесныя сілы спаслалі апошні аргумент — нумар губернскай газеты, у якім паведамлялася, што сярод ахвяр чыгуначнай катастрофы на станцыі Н* быў вядомы спірытуаліст Б-ка са сваёй жонкай і асістэнткай, з якой накіроўваўся на чарговыя гастролі ў Маларасію.

Вось вам і «вечная таямніца»...

Жыццё круціла свае нетаропкія жорны, і ўсё сталася друзам, тлом, ценем...

Нябожчыкі вярнуліся ў труны пад папяровымі вянкамі і вершаванымі надпісамі, у карчомцы застукаў келіх аб келіх: «Вечная памяць!»

Памерлыя страцілі голас, веліч і любасць, зноў зрабіліся звычайнымі, хворымі, лысымі, кульгавымі, звяглівымі, ілжывымі, слабымі... Нічым не лепшымі за жывых...

Ліхвяр Губерман ажаніўся пяты раз. Мадэмуазэль Гарабец нечакана атрымала спадчыну і пераабсталявала майстэрню, дзе цяпер некалькі мясцовых дзяўчатак страчылі пад яе наглядам на машынках «Зінгер», а сама мадэмуазель, трымаючы ў пульхнай руцэ з пярсцёнкамі кубак з гарбатай, другой раскладала бясконцыя пасьянсы «Піраміда» і «Магіла Напалеона». Пан Вабішчэвіч таксама ажаніўся — з дачкой выкладчыка лацінскай мовы, якую за вочы называлі Верка-Прышчэпка. А цётка Крыся ўдастойвала свайго ветэрынара папяровым вянком на Радуніцу ды паніхідамі ў вызначаныя памінальныя дні.

За вечны супакой у той год было выпіта ўтрая больш звычайнага. Вечная вайна мёртвага і жывога скончылася часовай эфемернай перамогай апошняга. Жыццё паказала бяззубай смерці ружовы язык і садрала з мінулага фальшывыя фальбоны...

Але...

Але ніхто не наважыўся б сцвердзіць, што горад Б* не шкадаваў аб тых нябожчыках, спароджаных у неабдымным чэраве шарлатанкі Аманды, што чорныя страусавыя пёры не ўскалыхваюцца час ад часу над ураўнаважаным местачковым жыццём... І што такое тры рублі ў параўнанні з вечнай прагай душы — жаданнем цуда і несмяротнасці...

P. S. Хадзіла яшчэ чутка, быццам былі прысланыя на пошту горада Б* у якасці часткі спадчыны чарнявай мадэмуазэль Гарабец шматлікія каробкі і скрыні і быццам быў там саквояж, надта падобны да таго, які бачылі ў руцэ спірытуаліста Бурдэйкі. А калі адчыніла мадэмуазэль вялікую круглую каробку, нібыта калыхнуліся там чорныя страусавыя перы... Але мадэмуазэль Гарабец з плачам схілілася над імі, так што пэўнасці ніхто даць не мог...

## Семела і Юпітэр

Аднойчы Юпітэр пакахаў зямную прыгажуню Семелу. Па намове раўнівай жонкі Юпітэра Юноны Семела папрасіла, каб каханы паказаўся ва ўсім бляску боскай славы. Невыноснае для зямных вачэй відовішча забіла Семелу.

*Старажытнагрэчаскі міф*

Калі ў гэтым недасканалым свеце ўсё-ткі сустракаюцца такія рэчы, як ружы, лебедзі, захад сонца на фоне разваліінаў старога замка горада Б* і мігдалавы торт, павінны ў ім быць і шчаслівыя людзі.

Хаця ружы, лебедзі і мігдалавы торт, не кажучы пра захад сонца, сустракаюцца куды часцей.

У горадзе Б* не было больш шчаслівага чалавека за паненку Аўгінню. Яна жыла ў прыгожым доміку з зялёнымі аканіцамі, яе бацька быў мудры сівагаловы брандмайстар, а малады муж — лепшы падначалены бацькі, бравы пажарнік Міхась Кудыка. Паненка — цяпер ужо пані — Аўгіння вязала самыя прыгожыя ў свеце карункі, людзі шанавалі яе рамантычную натуру і любілі за рахманы нораў. А які гародчык быў у Аўгінні! Не банальныя памідоры-бабы раслі там, а пераселеныя з лесу і выгану кветкі, якія жыхары горада Б* лічылі за звычайнае пустазелле. Ля плота ўзвышаўся царскі скіпетр, свяціліся дробныя кветачкі бабінага лета і чарнакораню, узбіраўся на сцены дома бружмель, калыхаў свой цёмны агонь скрыпень, трымцела пушыстае божае дрэўца і нават сядзела ля ганка нетутэйшая расліна самшыт — жалезнае дрэва...

Аўгіння называла мужа Мішэлем і была шчаслівай, нягледзячы на тое, што з дзяцінства мела вельмі кепскі зрок. Між навакольным светам і поглядам паненкі калыхаўся вясёлкавы туман. Гэта надавала яе хадзе рамантычную запаволенасць і няўпэўненасць. Але людзі былі такія добрыя, што зусім не злаваліся, калі Аўгіння, плывучы ў сваім тумане, натыкалася на іх ці блытала іх імёны. Ды і як можна было злавацца на гэтую асобу з пышнай прычоскай, упрыгожанай кветкамі, з вечнай усмешкай. Мішэль прыходзіў дадому, стомлены і мужны, цалаваў жонку ў шчаку і спажываў вячэру, прыгатаваную ўмелымі рукамі кухаркі Параскі. А юная пані Кудыка тым часам улагоджвала яго слых пераказам зместу чарговага рамана, прачытанага з дапамогай моцнай лінзы, і хуталася ў самавязаны белы шаль з кутасамі.

— Ох! Ах! Прабачце, калі ласка! — гэта пані Аўгіння выносіла мігдалавы торт з кандытарскай.

Чалавек, з якім на гэты раз сутыкнулася чароўная паненка, пах дарагім адэкалонам, а на твары яго паблісквала пенснэ. Аўгіння сарамліва ўсміхнулася. Незнаёмец уважліва паглядзеў на няўклюдную тубылку і далікатна ўзяў з яе рук каробку з тортам.

— Дазвольце, я крыху дапамагу вам. Не палічыце нахабствам — я тут чалавек выпадковы, выкраіў дзень заехаць пракансультаваць жончыну сваячку. Дазвольце пазнаёміцца — Самсон Рыгоравіч Іваноўскі, маскоўскі ўрач-афтальмолаг. Ну, калі прасцей — спецыяліст па захворванні вачэй. У мяне да вас некалькі прафесійных пытанняў...

Увесь вечар Аўгіння ўсхвалявана хадзіла па доме, наторкваючыся на шматлікія вазы з сухімі кветкамі, расстаўленыя ў кутах. Белы вязаны шаль спаўзаў з плячэй... Невялікая аперацыя, да таго ж бясплатная, як цікавы навуковы «прэцэдэнт», і Аўгіння раз і назаўсёды пазбавіцца ад сваёй блізарукасці. Аўгіння не наважылася распавесці пра атрыманую ад доктара прапанову ні паважнаму брандмайстру, ні заклапочанаму мужу... А як было б цудоўна паўстаць перад імі выратаванай Папялушкай! Растане плыткі туман, што не дае ёй любавацца прыгажосцю свету, і тады...

...Аднойчы раніцай белая столь, у незнаёмай сетцы трэшчын і пісягоў, абрынулася на Аўгінню... Паненка махнула рукой перад вачыма... Гэта — яе рука?! Аўгіння ўскочыла — галава круцілася, як ад першага веснавога ветру. Бы скрозь туман, успомніўся пакой павятовай бальніцы, недарэчная прысутнасць мясцовых дактароў, непрыстойна цікаўных і ўсхваляваных, боль, страх, расчараванне — і абяцанне перамен праз дванаццаць гадзін, калі скончыцца дзеянне абязбольваючых сродкаў...

Прадметы наступалі на Аўгінню, бязлітасныя ў сваёй канкрэтнасці. Яны рэзалі прастору вострымі абрысамі, адмяжоўваліся адзін ад аднаго цвёрдымі плоскасцямі і дыктавалі адлегласці. Гэта быў свет яркі, дакладны і жорсткі... «І прыгожы... Вядома, прыгожы!» Аўгіння кінулася да люстэрка...

Хто гэта? З вычварнай бронзавай рамы дзівакавата пазірала на яе блага прычасаная велікаротая асоба, бляклая, як начны матыль... Дотык бязлітаснага шкла пераканаў Аўгінню, што гэта... Не, гэтыя пачырванелыя вочы, запалыя шчокі — не яе!..

Слёзы на хвілю вярнулі звыклы вясёлкавы туман, у якім жыла паэтычная танклявая прыгажуня...

А вечарам прыйдзе Мішэль! Як мог ён кахаць яе, такую пачвару! Далоў — шаль, звязаны сляпой курыцай, далоў — шпількі і балотную сукенку! Колькі вакол безгустоўных рэчаў, якія па-дурному расстаўленыя!

Да танклявай жанчыны ў прыгожай бэзавай блузцы з вялікім карункавым каўняром, з акуратна падведзенымі вуснамі і вейкамі, з упрыгожанай кветкамі антычнай прычоскай падыходзіў каржакаваты няголены тып з чырвоным тупым тварам (а рот разяўлены), з вачыма юрлівымі і чамусь спалоханымі... Са скурай порыстай, вуграватай, тлустай... За ім сунуўся гэткі ж чырванатвары стары ў касцюме брандмайстра (два гузікі віселі на нітках), самазадаволены, з неахайнымі пукамі сівых валасоў у ноздрах і вушах... Бывай, мужны Мішэль! Бывай, вобраз ідэальнага бацькі!

Жорсткі жарт сыграў ты з беднай правінцыялкай, маскоўскі медычны бог!

Аўгіння схавалася ў сваім пакоі, дзе так недарэчна глядзеўся вялікі двухспальны ложак... Але і тут прадметы даставалі яе сваёй пачварнай канкрэтнасцю. На фотаздымку, які паставіў Мішэль на тумбачку, аказалася зусім не Аўгіння, а незнаёмая нахабная брунетка. У вазоне — поўна расцёртых недапалкаў і, не можа быць! — наплявана... А на куфэрачку, што падарыла лепшая сяброўка, які Аўгіння расчыняла кожны дзень, проста на накрыўцы надрапана дробнымі літарамі «дурніца»...

Людзі смяяліся са «слепурындалы», крамнікі недадавалі рэшту, бацька ледзь спіхнуў недарэку свайму падначаленаму, а той, куплены за пасаг і пасаду, суцяшаўся ў зіркатых прыгажунь горада Б*...

Аўгіння схавалася ў самы цёмны і засмечаны кут некалі чароўнага саду. Што цяпер? У кляштар? Проста пайсці — з дому, з горада, з жыцця? Аўгінні хацелася выдзерці свае вочы, вярнуцца ў плыткае шчасце няведання... Але зведаўшы аднойчы — ведаеш назаўсёды, на памяці драпіны не зацягваюцца, калі гэта — драпіны ад аскалёпкаў шчасця...

Над горадам Б* заходзіла сонца. Прырода не здрадзіла Аўгінні, бо не здраджвае ніколі. Дрыжэла прыўкраснае божае дрэўца, і на светла-зялёных лістах жывакосту адлюстроўваліся промні... А калі ў гэтым свеце ўсё-ткі існуюць півоні, захад сонца, лебедзі, мігдалавыя

тарты і жанчыны, якія ўсім прабачаюць, то не так усё безнадзейна, жорстка і несправядліва...

Празрысты, як вэлюм нявесты, смех растаў у лістах бэзавых кустоў... Што ж, дзяцей, якія будуць, яна ўбачыць не праз вясёлкавы туман...

Ніхто не ведае, якой моцай валодаюць рахманыя людзі. Аўгіння ўзнялася. Яна навучыцца жыць і ў гэтым свеце. І па-ранейшаму будзе адорваць усіх усмешкамі, і не стане заўважаць, як паблажліва крывяцца сустрэчныя. І не пераверне фотаздымак з нахабнай брунеткай.

Захад дагараў цёмным бэзавым агнём. Худзенькая жанчына з высока зачасанымі валасамі ціха падышла да свайго дома.

На ганку з нечым белым у руках перамінаўся з нагі на нагу бравы пажарны Міхась Кудыка, які сумеўся пад незнаёмым, ясным і пільным, позіркам жонкі.

— Ты не змерзла, гм-м, даражэнькая?

І працягнуў няўмела звязаны, са шматлікімі спушчанымі петлямі шаль.

Аўгіння памаўчала і лёгка кранула цёплымі кончыкамі пальцаў шчаку мужа.

— Мусіш пагаліцца, мілы...

## Узнясенне Ганімеда

Юпітэр скраў прыўкраснага юнака Ганімеда, сына траянскага цара, і зрабіў яго сваім віначэрпам на Алімпе.

*Старажытнагрэчаскі міф*

Ну каму якая справа да таго, што робіцца на заднім двары карчмы?

Зразумела, што месца гэтае не самае прыдатнае для рамантычных спатканняў, філасофскіх разважанняў ды сяброўскай гутаркі.

Тым больш калі наведвальнікі згаданай установы п’юць шмат піва...

Аднак задні двор знакамітай Бурыгавай карчомкі ў горадзе Б* не падпадаў пад такое вызначэнне.

Хаця б таму, што такога двара як бы і не існавала.

Цікаўнага сустракаў высокі шчыльны плот, спраўляць малую патрэбу ля якога перашкаджаў акуратны глыбокі раўчук. За плотам

бачыліся пышныя кусты бэзу — у адрозненне ад сухіх галінак пад вокнамі самой карчмы. Жыццё гэтай піцейнай установы падзялялася на дзве палавіны. З аднаго боку, так бы мовіць, з фасада, была непасрэдна карчма, зала, поўная наведвальнікаў, дзе гучала зухаватая музыка; сам пан Бурыга, паважны, вусаты, гучнагалосы; келіхі, штофы, разныя дубовыя сталы і лаўкі, вечны гуд ды гром.

А з другога боку... З другога боку ішло годнае сямейнае жыццё Антося Бурыгі, бо няма ў карчмара іншага дому, як карчма, і ў дзяцей яго не будзе... І ці дапамогуць тут платы, раўчукі і сабакі?..

Але пастараўся пан Бурыга, каб мяжа між двух яго жыццяў была як мага большай ды непранікальнай. І ніхто не бачыў цётачкі Марысі, заўсягдайкі царквы і кірмашу, на той палове ейнага дома, дзе пілося, лілося і спявалася. Не спяшалася яна ў якасці карчмаркі-весялухі да нецярплівых наведвальнікаў з пеннымі келіхамі, не сварылася на безграшовых аматараў гарэліцы, не падміргвала зухаватым музыкам, каб паддалі жарсці, каб заглушылі нечы тужлівы лямант аб незваротнай салодкай маладосці ды горкім сталым жыцці...

Хоць елі ды нахвальвалі наведвальнікі стравы, прыгатаваныя цётачкай Марысяй, але не была яна карчмаркай. Зумкала пчолкай на заднім двары, абгароджаным высокім плотам, гадавала свае кветнікі ды любага сыночка-званочка, кучаравенькага анёльчыка Данілку. А якім разумненькім ён рос! Ну хіба месца такому ў карчме!

І збіраў грошы Антось Бурыга, адкладваў старанна, каб не меў сынок патрэбы ў грэшным карчомным рамястве, каб выйшаў у людзі! Ды не тут, у горадзе Б*, а недзе там, дзе не карчомкі, а вялікія рэстарацыі з шырокімі люстранымі вокнамі, дзе жыве далёкі сваяк, стрыечны брат цётачкі Марысі, пан Квяткоўскі, які ходзіць у сурдуце і цыліндры, курыць тонкія, як саломіна, цыгарэткі, а на пытанні пра занятак з годнасцю адказвае: «Я, брат, чыноўнік высокага класа, служу на карысць грамадству».

А пакуль малодшы Бурыга рваў кашулькі-вышыванкі ў хмызняках, што на ўскраіне горада Б*, і ўзначальваў атрады непаўналетніх тутэйшых жыхароў у вечных хлапечых войнах ды іншых забавах, прыдумляць якія быў вялікі майстар.

Чатыры гады настаўнікі пачатковай вучэльні горада Б* перад тым, як увайсці ў клас, узносілі Госпаду малітву, каб сёння той неўтаймаваны, распешчаны карчмаронак ляжаў дома з ангінай. Але чырванашчокі Данілка вызначаўся добрым здароўем. І дацягнуў да скончэння вучэльні.

Тады пан Антось Бурыга надзеў пінжачную пару, абсалютна новую, і капялюш, і лакіраваныя чаравікі і паклаў ва ўнутраную кішэню пінжака тоўсты-тоўсты партманет. І пайшоў да дырэктара мужчынскай гімназіі горада Б* пана Вярэдзіча. Праз тыдзень пачыналіся ўступныя іспыты ў гімназію. Бедны пан Бурыга! Бедны дырэктар — столькі праклёнаў з вуснаў патомнага карчмара вытрывае не кожны.

І па граматыцы, і па арыфметыцы, і па Законе Божым юны Данііл Бурыга атрымаў адзнакі цвёрдыя, але незадавальняючыя.

Заставалася два шляхі. Казённая рэальная вучэльня і духоўная семінарыя. На жаль, навукі прыродазнаўча-матэматычныя, якім аддавалася перавага ў вучэльні, былі найменш даступныя інтэлекту Данілкі, а быць святаром... Антось Бурыга задуменна глядзеў на жыццярадасную фізіяномію сына і мімаволі скептычна хітаў галавой.

Заставалася спадзявацца на вышэйшую справядлівасць. І яна з'явілася — у асобе згаданага напачатку дзядзькі Квяткоўскага, пры цыліндры, сурдуце і тонкай цыгарэтцы. Пан Квяткоўскі паважна пацягваў густое піва швагра, адставіўшы мезенец з вялізным залатым пярсцёнкам, і паглядваў на сціпла расчасанага на прамы прабор Данілку. Той у новай вышыванцы ціхенька сядзеў у куце і чакаў вырашэння свайго лёсу, час ад часу крадма душачы неасцярожных мух.

— Добра, паедзе са мной! Уладкуем! — Муха вырвалася з кулака ўзрадаванага хлапчыны.

— Чалавекам будзе! — шчасліва плакала цётачка Марыся на базары і перад царквой у гаманлівым коле кабетаў.

А наведвальнікі Бурыгавай карчомкі шэптам паведамлялі адзін аднаму, што Данілка вучыцца ў самой Маскве, пад апекай дзядзькі, такога важнага пана, і сам будзе панам, і будзе ганарыцца ім горад Б* і асабліва гэтая карчомка... Дык вып'ем жа, спадарства, за здароўе нашых дзяцей, каб гэтак жа пашчасціла ім, як нашчадку карчмара!

І прыязджаў на летнія вакацыі ў родны горад паніч Данііл, і з кожным годам круглеў ён і мажнеў і блішчэў ягоны твар, а прабор у кучаравых валасах быў усё больш роўны і набрыялінены. Дзе там тыя вышыванкі! Сурдут, шаўковая кашуля з гальштукам, першыя вусікі, першыя цыгарэты! Хоць і каштавала тое вучэнне, вынікі былі наяве. Данілка з веданнем справы даваў бацьку парады па найлепшым ўладкаванні карчомнай справы, сам пераглядаў разліковыя паперы. Мова сталічнага навучэнца цяпер была перасыпаная элегантнымі

«чиво», «как-то так-то», «опридилённо». Да мясцовых дзяўчатак ён звяртаўся не інакш, як «мамзэлі», а да былых сяброў і ўвогуле незразумела-вытанчана: «Мон амі».

— Опридилённо, мон амі,— казаў Данілка ўважлівым слухачам,— ёсць у мяне там добрыя перспектывы. Дзядзька ўладкаваў каля сябе, как-то так-то і яго месца займу...

Што то за месца, чым займаецца Данілка ў горадзе, ніхто дакладна не ведаў, нават бацькі. Сам юнак адказваў няпэўна: «Мы па гандлёва-эканамічнай частцы». Але ж горад Б* не быў ізаляваны ад гэтага «вялікага свету». Вось і дырэктар мужчынскай гімназіі пан Вярэдзіч, што некалі не спакусіўся зместам тоўстага партманета карчмара, наведаў Маскву... «А можа, Данілку там сустрэне?» — марыў Бурыга і ўяўляў, як у нейкай важнай канторы спаткае ганарлівы дырэктар шыкоўнага Данілку, і сумеецца, і як з роўным прывітаецца...

Між тым прыехаў «на пабыўку» і сам Данілка, які ў свае васямнаццаць выглядаў на добрых дваццаць пяць.

— Вы, папа, зусім прагарыце,— ракатаў малады басок сына.— Што гэта за музыкі, вобче говоря, нейкія полечкі... Вы б заказалі сабе музычную машыну. Ручку пакруціў — і грае вальсу ці раманс. Вы, папа, ведаеце, што такое вальса?

Замілаваны Бурыга паслухмяна хітаў галавой, аднак і не думаў нешта мяняць у адладжанай гаспадарцы. Ён справядліва лічыў, што карчма горада Б* можа быць толькі такой, якой упадабалі яе многія пакаленні жыхароў, з усімі яе драўлянымі лаўкамі і штофамі, з яе традыцыямі і паданнямі: пра карчомнага скрыпача Гірша, які пераіграў заезджую сусветную знакамітасць, пра п'янтоса Чарацілу, які цалаваўся з русалкай і ад таго зрабіўся задумлівы, пра красуню Ксеню, па ад'ездзе якой піва ейнага жаніха, мясцовага півавара, тры гады гарчыла...

А як урачыста ішло сямейства Бурыгаў да царквы ў нядзельны дзень! Як важна шпацыравала маленькая кругленькая цётачка Марыся паперадзе сваіх мажных высокіх мужчын! І зусім недарэчы было сутыкнуцца ля царквы з дырэктарам гімназіі, і зусім незразумелым быў яго іранічны паклон у бок абсурдучанага Данілкі, і не да месца паблажлівыя словы:

— А, малады чалавек, не забываеце, так бы мовіць, родныя пенаты? Маскоўская служба клопатная, так-так... Ну ды кожнаму сваё...

Але яшчэ больш незразумелымі былі паводзіны Данілкі, які пры сустрэчы з панам Вярэдзічам памкнуўся ўцячы і, мабыць, упершыню ў жыцці сумеўся, зачырванеўся і страціў мову.

А на другі дзень зазбіраўся «на службу».

Ну не дурань жа быў Антось Бурыга! Змог жа ён утрымаць бацькоўскую карчму і ўладкаваць яе і прыбытак добры мець. І не маглі ў яго не ўзнікнуць некаторыя сумлівы наконт таямнічай вучобы-службы сыночка...

І аднойчы зачыніў Бурыга сваю карчму, на гора мясцовым заўсёднікам, і паехаў у далёкі горад Маскву, прытрымліваючы левым локцем тоўсты партманет у глыбокай унутранай кішэні пінжака. Што здарылася з шаноўным карчмаром у тым горадзе, дакладна невядома. З асобных выказванняў звычайна гаваркой цётачкі Марысі можна скласці толькі прыблізную карціну...

Тлум і гуд Масквы, пэўна, не здзівілі патомнага карчмара. А вось тое, што па адрасе, куды ён столькі гадоў адсылаў грошы, знаходзіўся рэстаран, здзівіла, і непрыемна. Пані з аголенымі плячыма, паны ў зграбных сурдутах знікалі за дзвярыма, якія паслужліва адчыняў барадаты дзядзька ў шыкоўным мундзіры. Адчыніў ён дзверы і перад карчмаром горада Б*.

— Просю за столік.— Малады чалавек у белай кашулі і шэрай шаўковай камізэльцы, з перакінутым цераз руку ручніком вынырнуў аднекуль збоку...

Так, так. Данілка служыў афіцыянтам у рэстарацыі, дзе метрдатэлем быў ягоны стрыечны дзядзька пан Квяткоўскі. І што з таго, што згаданы Квяткоўскі быў там жа ва ўсёй красе, пры чорным сурдуце, белай манішцы і лакіраваных чаравіках? Бурыга быў не дурны. Ён выдатна разумеў, што гэта — такі самы карчмар, як ён, ды яшчэ ў чужой карчме...

Да таго ж Бурыгу клікалі наведвальнікі з пашанаю — «пан», а Квяткоўскага ў яго сурдуце падзывалі паблажліва — «чалавек!».

Дзеля праўдзівасці заўважым, што дзядзька спрабаваў уладзіць Данілку некуды вучыцца і прабыў Данілка колькі часу ў сталічнай вучэльні... І не ў адной... Але навука тамтэйшая аказалася зусім непрабівальнай для правінцыйных мазгоў.

Затое ў навуцы карчомнай Данілка быў выдатнікам.

І хутка выпадковаму наведвальніку Бурыгавай карчомкі пачало дваіцца ўваччу: два карчмары, з аднолькавымі пшанічнымі вусамі на чырвоных тварах, у аднолькавых вышыванках сустракалі яго. Зблізку

ўсведамлялася, што адзін з карчмароў маладзейшы і больш жвавы і ў мове яго трапляюцца дзіўнаватыя слоўцы.

— Чіво-чіво? Гарэліцы? А вось рэкамендую вінь-шампань, не жадаеце?

— Не сцялі языком, студэнт! — грукатаў бас старэйшага карчмара, і малодшы пакорліва змаўкаў і падаваў аматару гарэлкі жаданую чарку, абавязкова перакінуўшы цераз руку бялюткі ручнік.

— Просю!

І што тыя платы і роўчыкі, якімі спрабаваў бедны Бурыга падзяліць сваё жыццё...

Эх, карчомка — са шкляным богам пабачыцца, каваную свінку купіць, як Марцін мыла, набрацца, усё забыць, і што не было, успомніць, і — грайце, музыкі, спявайце, музыкі, пра таго казачэньку, што паехаў за палі-лясы і не вернецца ніколі да дзяўчыначкі-галубы...

Стаіць карчма ў горадзе Б*, стаіць — і будзе павек стаяць такой, якой збудавалі яе прапрадзеды...

## Адысей і Сірэны

> Сірэны — паўптушкі-паўжанчыны, якія заманьвалі сваімі чароўнымі спевамі мараходаў на смертаносныя скалы. Толькі Адысей змог беспакарана паслухаць іх спевы, бо загадаў сваім сябрам заляпіць вушы воскам, а яго самога прывязаць да мачты.
>
> *Старажытнагрэчаскі міф*

Горад Б* цяжка назваць Венецыяй. Нават сіняй травеньскай ноччу, калі яго вулкі затапляе мора веснавога водару, а цёмная лістота бэзу і язміну са светлай пенай квецені і самаму беднаму ўяўленню нагадвае хвалі...

Не, ніхто і ніколі не параўноўваў горад Б* з Венецыяй! А між тым хіба дзесьці яшчэ на свеце ёсць такія галасістыя дзяўчаты, хіба дзесьці так працінае цёплае вечаровае паветра чыстая, як месяцовы прамень, песня? А зухаватыя хлопцы горада Б*, хіба не падобныя яны да венецыянскіх гандальераў, калі плывуць іх постаці ў святочных вышыванках ля прысадаў дома, дзе жыве асабліва прыгожая паненка, і лунае над імі вечная песня вясны і кахання, якая не змянілася ад часоў Саламонавых?

Так, горад Б* спяваў не менш (а цалкам магчыма, і не горш) за тую Венецыю...

Таму нікога не здзівіла, калі Апякунства народнай цвярозасці горада Б* аб'явіла аб стварэнні хора. Акрамя дабратворнага ўплыву песеннага мастацтва на тутэйшыя норавы, хор мусіў стацца крыніцай дабрачыннага збору сродкаў на падтрыманне тых жа нораваў на адпаведнай гордаму гораду Б* вышыні.

Друзлая сцэна летняга тэатра, на якой з прычыны працякання даху і правальвання пад нагамі дошак ужо гады тры не было ніякіх тэатральных імпрэзаў, з багавейлівасцю сустрэла пятнаццаць жаўронкаў горада Б*, самаадданых прыхільніц мастацтва і, вядома ж, народнай цвярозасці.

А самаадданае служэнне мастацтву (і тым больш цвярозасці) не можа не сустрэць водгуку ў шчырым недасведчаным сэрцы...

Тэлеграфнага служачага восьмага разраду Лютыся ніхто не назваў бы дасведчаным хоць у чымсьці, гэтак жа, як горад Б* не называюць Венецыяй. Нават Лютысяў бацька, тэлеграфіст са стажам, калі глядзеў на свайго нашчадка, які лена перацягваў з кута ў кут стосы паперы, а прыпухлыя, нібыта вечна заспаныя, вочы скіроўваў пры гэтым плённым працоўным працэсэ да столі, нават гэты вытрыманы, паважаны чалавек дасадліва стукаў худым кулаком па стале:

— Пакараў жа Гасподзь мяне, грэшнага, такім ёлупнем...

Бо не выяўляў Лютысь цікавасці ні да чаго карыснага, адно да калдуноў са смятанай. Скончыў ён чатыры класы рамеснай вучэльні і быў уладкаваны бацькам на ніжэйшую пасаду гарадской тэлеграфна-паштовай службы...

У летні тэатр гарадскога парку Лютысь трапіў таму, што пачаўся дождж, што ў кішэні была прыхаваная цыгарэтка і сустракацца ні з кім не хацелася. Бо ўсе сустрэчныя заўсёды нечага ад небаракі Лютыся хацелі — каб ён ветліва павітаўся, зашпіліў каўнер, распавёў, дзе быў учора апоўдні ці заўчора вечарам, і чаму ў яго такі адсутны выгляд... Не, лепш пасядзець у ціхім спакойным месцы...

Але на гэты раз месца не было ціхім... У сырым памяшканні, адбіваючыся ад збуцвелых сцен размытым рэхам, грымнулі галасы хору Апякунства народнай цвярозасці...

Лютысь хацеў быў збегчы, але чамусьці не змог. Яны ўсе былі тут, на сцэне,— і чарнявая паненка Анэля, і бялявая кірпаценькая Юзька, і рудая кучаравая Анця... Яны спявалі для яго, адзінага слухача, недарэкі Лютыся, і як спявалі! Райскія птушкі, аблокі з мігдалавага

крэму, залатыя купалы і кедр ліванскі паўставалі на прасторах Лютысевай душы!

Лютысь ніколі не быў у тэатрах, але ведаў, што пасля прадстаўлення трэба пляскаць у ладкі... Удзельніцы хору, заружавелыя, сціпла пакланіліся... Іхняя кіраўнічка, маладая жонка настаўніка літаратуры мужчынскай гімназіі, строга запатрабавала цішыні, узмахнула рукамі, і пад дзіравую столь ускрыліла новая песня...

Так Лютысь пачаў наведваць усе рэпетыцыі новага хору. Вядома, ён і раней чуў розныя спевы. І ад маці, і ад мясцовых дзяўчат... У параўнанні са спевамі хору гэта было што даматканая посцілка ў краткі перад крамным дыванком з чароўнымі пастушкамі ў гірляндах з ружаў... Хто прадугледзіць, як і калі прыгажосць пастукаецца ў ягоную душу? Харысткі пелі дзівосныя песні пра залатыя хмаркі і суровыя скалы, пра няшчасных сіротак і літасцівых пані, нарэшце, пра каханне, такое нябеснае і дасканалае, што Лютысь не разумеў і паловы слоў.

Харысткі хутка прывыклі да адданага паклонніка, які не стамляўся пасля кожнай песні біць у ладкі і так шчыра перажываў за кожную іхнюю ноту. Яго пасылалі купіць лядзенчыкаў ці піражкоў з капустай, прасілі прынесці бутэлечку сельтэрскай вады для чысціні голасу. Ніхто са знаёмых не пазнаў бы тут Лютыся — вечна санлівы, абыякавы твар гарэў такім энтузіязмам, што прыходзіць толькі да непаўналетняга юнака, які ўпершыню патрапіў на рэпетыцыю жаночага хору.

Дзіўна, але хаця Лютысь абагаўляў сваіх спявачак, кожная з іх паасобку як бы не цікавіла яго. Ні чарнявая Анэля, ні бялявая Юзька, ні нават рудая кучаравая Анця... А напэўна ж, кагосьці з іх ён сустракаў, і нават не раз, і па-за сцэнай летняга тэатру. Але яго абыякавы пагляд заўсёды кіраваўся міма, у тую кропку, дзе ззяюць залатыя купалы і спяваюць райскія птушкі... Дзе лунае звонкагалосы херувім з пятнаццаццю прыўкраснымі галовамі...

Вясна з усіх пор года мінае найхутчэй. Здаецца, толькі-толькі закружыла галовы, разгайдала сэрцы ў рытме першых дажджоў, а ўжо абсыпалася квецень і птушкі, прыгнечаныя сямейнымі клопатамі, суцішылі пошчак. Апякунства народнай цвярозасці ладзіла першую вечарыну па дабрачынным зборы сродкаў на... Гісторыя не захавала звестак, на што менавіта, але ж мы з вамі не сумняваемся, што гэта была вартая, плённая ў справе падтрымання народнай маральнасці мэта.

«Цвіком» вечарыны мусіла стацца выступленне хору.

Ах, як яны хваляваліся, як прасавалі бялюткія каўнерыкі і манжэты, а на спадніцы нечакана выяўлялася пляма, якую зараз жа спрабавалі вывесці з дапамогай солі і праса, а ў гэты час з кудзерак выпадала дзве папільёткі, а татка заўважаў, што папільёткі скручаныя з сённяшніх непрачытаных «Губернскіх ведамасцей», і ў давяршэнне брыдкая котка (ці малодшая сястрычка) скідала са стабурка парфуму... А ў горле невыносна казытала, і сціскала, і пякло...

Лютысь сядзеў у чацвёртым радзе амаль дыхтоўнага гарадскога клуба, у мундзіры тэлеграфнага служачага, зашпіленым пад самае горла, і паблажліва пазіраў на стракатую публіку. А публіка сапраўды была стракатай — акрамя актывістаў руху за гігіену, санітарыю і, вядома, народную цвярозасць, былі запрошаны прадстаўнікі таго самага народу — рабочыя з мануфактуры і бровара. Лютысю страшэнна не падабалася, што замест таго, каб стаіць дыханне ў чаканні цуду, многія перашэптваліся, перасмейваліся і нават рагаталі.

Але чаму яны не змоўклі, калі заспяваў хор?

— Блеюць, нібы козы някормленыя...— сярдзіта абазваўся нейкі грубіян за Лютысевай спінай.

Лютысь якраз вывучыўся акрым пляскання ў ладкі гучна крычаць «брава!» і «біс!». Але ўсё-ткі не так гучна, каб заглушыць усе незадаволеныя галасы, смех і свістанне. А хор між тым намагаўся з усіх сіл. І панна Анэля, і панна Юзька, і рудая Анця, вытанчана склаўшы белыя ручкі перад сабой, падобна мармуровым анёлкам на каталіцкіх могілках горада Б*, старанна выводзілі рулады пра залатую хмарку і пра бедную сірацінку...

— Ну колькі можна нудзіць? Яшчэ па праграме чытальнік і піяніст. А калі ж танцы? — абураўся несвядомы люд.

Але са сцэны пятнаццаць галасоў натхнёна зацягнулі раманс...

Так, пры поглядзе ў гэты момант на публіку гарадскога клуба самы мройнік пагадзіўся б, што горад Б* мала падобны да Венецыі. З-за куліс чырванатвары чытальнік з набрыяліненымі вусамі адчайна размахваў кнігай апавяданняў Чэхава на знак кіраўнічкі хору заканчваць выступ.

Вось і растаў цуд... Развеянае чараўніцтва... Хіба хопіць у кагосьці сілы захаваць свой чароўны востраў, калі любячыя бліжнія даходліва патлумачылі, што ён — толькі купінка пасярод свойскага балота? Яны ж такія клапатлівыя і разумныя, нашы бліжнія... Яны заўсёды аберагаюць нас ад непатрэбных, няхай і прыгожых, амарокаў.

На наступны дзень мусіла адбыцца чарговая рэпетыцыя. Сем самых стойкіх да жыццёвых няўдач паненак, якія сёння толькі і прыйшлі ў пусты летні тэатр, сумна зацягнулі пра залатую хмарку пад суровыя ўзмахі рук кіраўнічкі. Плач старазапаветнага прарока Ерэміі па зруйнаваным Іерусаліме і стогн наведніка Бурыгавай карчомкі па паўнюткім, перакуленым на падлогу куфлі піва — ніштo ў параўнанні з той нябеснай тугой, з тым тужлівым шкадаваннем, якімі трымцелі абражаныя грубай рэальнасцю галасы парадзелага хору Апякунства народнай цвярозасці. Вось апошні гук растаў пад дзіравым дахам. А магчыма, праз тыя дзіркі, на рапараванне якіх сквапная гарадская рада не выдзяляе сродкаў, узняўся той гук высока-высока, аж да нябеснага прастола, дзе спяваюць райскія птушкі на аблоках з міндалавага крэму...

І ці то з тых аблокаў, ці то з цёмнага кута сырога памяшкання летняга тэатра грымнула:

— Брава! Біс!

Верны Лютысь стаяў і зацята біў у ладкі, нязграбна прыціскаючы да сябе локцем вялікі букет хрызантэм.

І няхай дзесьці ў вялікіх бліскучых залах прымадонны з непамернымі бюстамі атрымліваюць ружы кошыкамі.

Хіба гэта прыгожа — ружы ў кошыку?

І хор аднавіў свае рэпетыцыі. І наважваўся на новыя і новыя выступленні... І сціплы тэлеграфны служачы восьмага разраду заўсёды сядзеў у чацвёртым радзе справа і крычаў свае «брава» і «біс» і шчыра перажываў за кожную нотку... І бегаў па асабістых просьбах па лядзенчыкі, а да Каляд і Вялікадня абавязкова атрымліваў цэлы стос сурвэтачак, вышытых незабудкамі ці галубочкамі. Так што Лютысева маці, гучнагалосая мажная кабета, разглядаючы прэзенты, расчулена выцірала слязу і думала: «Вылюднеў... Хутка жэніцца...»

Лютысь не зважаў, калі змяняліся харысткі ці калі чарговы знаўца падчас іх выступаў хапаўся за галаву. Ну і няхай хапаецца, калі гэта ў яго слабое месца!

Бо херувімы пяюць на грэшнай зямлі толькі для абранцаў. І нават у горадзе Б*.

## Ахілесава пятка

Герой Ахілес меў непаражальнае цела, за выключэннем пяткі. Сын цара Троі Парыс, які

не вызначаўся ваеннымі талентамі, забіў героя,
пацэліўшы яму стралой у гэтае адзінае
паражальнае месца.

*Старажытнагрэчаскі міф*

Калі сумленнаму абывацелю горада Б* не хапала ўласных праблем, ён пачынаў вырашаць праблемы грамадскія.

Праўда, сорамна прызнацца, гэткіх шчаслівых людзей у горадзе Б* жыло няшмат. Большасць абывацеляў корпалася ў сваіх штодзённых асабістых справах, нараджаліся, жаніліся, сварыліся, паміралі і ведаць не ведалі пра новыя павевы ў цывілізаваным свеце. Так-сяк дзейнічалі Апякунства народнай цвярозасці і Гурток аматараў драматычнага мастацтва, і то дзякуючы хору і танцавальным вечарынам. Несвядомы люд насяляў горад Б*!

Мадам Касіо, утрымальніца пансіёна высакародных паненак горада Б*, раздражнёна адклала на ампірны столік газету. Нават у горадзе Н* стварылі Таварыства абароны жанчын! А тут — суцэльны патрыярхат, цямноцце.

Мадам Касіо карысталася павагай усяго горада Б*. Калі насустрач імкліва рухалася ейная танклявая высокая постаць у чорнай сукенцы з пышным карункавым каўняром і манжэтамі, увенчаная купалам сапраўднага парыжскага капелюша, нават самы смелы служачы сельскагаспадарчага банка — а пра служачых гэтага банка гаварылі, што любога з сарочкі выведуць,— намагаўся збочыць, зрабіцца непрыкметным, як павуцінка бабінага лета. Абы толькі не наставіла мадам Касіо на цябе свой страшны ларнет, абы не сустрэцца позіркам з яе светлымі, як ільдзінкі, вачыма... Ну а зусім гора, калі скіруе на цябе мадам свой доўгі чорны парасон, калі прагучыць металёвае:

— Пра вашыя манэры, малады чалавек, я буду размаўляць з вашым рара.

Таму ліст па збіранні сродкаў на стварэнне ў горадзе Б* Таварыства абароны жанчын падпісалі і сам губернатар, і паліцмайстар, і нават дырэктар сельскагаспадарчага банка Шкудровіч. Там, дзе металёвы голас і ларнет былі менш дзейсныя, у бяспройгрышную бойку ўступалі серабрысты галасок і сарамліва-прамяністыя пагляды маладзенькай мадэмуазэль Нінель, выкладчыцы музыкі і спеваў пансіёна мадам Касіо. Мадэмуазэль Нінель, або ў сапраўднасці засцянковая шляхцянка Ніна Гаршкова, мініяцюрная сільфіда ў німбе штучных локанаў, пазірала на сумніўца справы

абароны жанчын з такім натуральным жахам, з такім немым дакорам увасобленай жаноцкасці, што самае каменнае сэрца мусіла здрыгануцца, а рука — пацягнуцца падпісваць ліст.

Ніхто не ўстаяў перад двайным націскам актывістак прагрэсу. Ніхто... Акрамя Базыля Магарыша, уладальніка невялікага, але працвітаючага конезавода. Ах, якія коні былі ў Магарыша! Сытыя, гладкія, шыракаспінныя, нібыта створаныя вазіць рыцараў у поўным узбраенні. Праўда, набывалі іх для куды больш празаічных патрэб. Але коні прыносілі не малы даход. І не дзіва — Магарыш, палкоўнік-кавалергард у адстаўцы, свету не бачыў за сваімі грывастымі ўлюбёнцамі. Ні вясёлыя сябрукі, аматары халасцяцкіх уцех, ні прыўкрасныя паненкі горада Б* з пасагамі рознай велічыні не маглі звесці Магарыша з ягонага суровага мужчынскага шляху. Часам ён і сам нагадваў неаб'езджанага рысака — чорныя валасы грывай, бакенбарды і вусы неймавернай велічыні, ноздры раздзімаюцца, ногі ў кавалерыйскіх ботах нецярпліва пераступаюць, а на твары напісана адно: кажы, чалавеча, якая патрэба, ды збаў мяне ад сваёй прысутнасці.

Але Магарыш, як уладальнік буйнога (у межах горада Б*) капіталу, не мог быць прамінуты ў працэсе збору сродкаў на новае таварыства.

Як пунсавелі шчокі ў мадам Касіо, калі яна шпаркім крокам у суправаджэнні зарумзанай мадэмуазэль Нінель выходзіла з дубовых варотаў Магарышавага дома! Напэўна, каб патрапіў у гэтае імгненне якісь небарака пад прыцэл лінзаў ейнага ларнета, спапяліўся б, як волас над свечкай.

Гэта была параза. Мадам Касіо збіралася друкаваць падпісны ліст за стварэнне Таварыства абароны жанчын у губернскай газеце разам з усімі сабранымі подпісамі... І сярод іх не будзе подпісу палкоўніка ў адстаўцы Магарыша! Палкоўнік славіўся не толькі дзікім норавам, але й тым, што мог шчодрай рукой адваліць грошай на карысную дабрачынную справу. Напрыклад, на палеанталагічны музей ці атлетычны гурток. Хадзілі чуткі пра незвычайныя акалічнасці ранняй адстаўкі палкоўніка. Нібыта быў ён западозраны ў сімпатыях да дзівакоў, што не надта любілі магутную імперыю, якая літасціва ўзяла пад сваё крыло тутэйшы край... Ды яшчэ меў палкоўнік дрэнны звычай згадваць былыя шляхецкія вольнасці гэтага краю ды сваіх ваяўнічых продкаў, што змагаліся пад іншым, забытым цяпер, штандарам... І ці то Магарыш адмовіўся аддаць загад у некага страляць, ці то сам пацэліў не ў таго...

«А з-за жанчыны, пэўна, гісторыя была, таму й не любіць жанчын»,— адмахваліся скептыкі. Але і яны пачціва кланяліся ды таемна зайздросцілі, калі Магарыш пралятаў па вуліцы горада Б* на сваім улюбёным чорным жарабцы.

Але за пятнаццаць гадоў існавання пансіёну ніхто не наважыўся спрачацца з ягонай дырэктаркай.

Горад Б* з цікавасцю чакаў сыходу двубою.

Ніякія спробы расчуліць сэрца конезаводчыка не ўдаліся. Ён не баяўся гарадскіх улад, не заляцаўся да кабет, не напіваўся, што выключала наяўнасць сардэчных сябрукоў, і не меў сваячак з цвёрдым характарам.

Заснавальніцы Таварыства аховы жанчын сабраліся ў класным пакоі пансіёна высакародных паненак. Між кавай і міндалавым печывам пагаварылі пра дзіцячыя яслі для немаўлятак працоўных кабет, між гарачым шакаладам і безэ пасварыліся наконт рэпертуару дабрачыннага хору. Калі прынеслі садавіну, усплыла непрыемнай плямай на вясёлкавы настрой прысутных праблема — ненавіснік жанчын Магарыш. Па горадзе Б* лётала ўжо некалькі ягоных з’едлівых выказванняў наконт «бабскай самадзейнасці».

— Мужчына — істота прымітыўная,— цвёрда сказала мадам Касіо.— Варта толькі добра падумаць і знайсці яго слабае месца. Згадайма, што наша таварыства клапоціцца не толькі аб жанчынах, але і аб дзетках. Калі гэтая асоба раўнадушная да становішча кабет, ці гэтак жа паставіцца да слёз нявіннага дзіцяці?

Нявіннае дзіця, якое належала ўключыць у чарговую дэлегацыю, знайшлося,— гадавалы малеча настаўніка прыродазнаўчых навук. Хлапчук быў слаўны, шчакасты. Ягоная маці падабалася мадам Касіо куды менш — мітуслівая кабета, якая ў нанятую мадам Касіо пралётку прыцягнула яшчэ й гэткую ж мітуслівую пудзеліху з мяшчанскай мянушкай Жужу.

Магарыш хаваўся ў сваім летнім доміку побач з канюшняй у прадмесці горада Б*, там, дзе ўвесну разлівалася мора яблыневай квецені. Мадам Касіо, быццам чорны карабель, праплыла па засыпанай жоўтым пяском сцежцы, рассякаючы духмяныя бела-ружовыя хвалі. У фарватэры за мадам, нібыта за флагманскім караблём, палахліва рухаліся мадэмуазэль Нінель, выкладчыкава жонка са сваім нашчадкам, прыбраным у карункавы каптурык неймавернай велічыні, і пудзеліха Жужу. Ля дзвярэй у логавішча жанчынаненавісніка караван прыпыніўся. Прыслужнік, былы панскі

дзяншчык, нізавошта не хацеў упускаць у дом спешчаную сабачку: маўляў, у пана жывуць здаровыя ганчакі. А ўладальніца пудзеліхі нізавошта не хацела пакідаць сваю ненаглядную Жужу адну на чужым двары ў падазроным асяроддзі. Мадэмуазель Нінель ахвяравала сабой і засталася сцерагчы знерваваную жывёлінку.

Мадам Касіо для баявітага настрою ўспомніла апошні выпуск сваіх пансіянерак, зацягнула разбэрсаныя пачуцці ў сталёвы гарсэт грамадзянскага доўгу і рушыла ў наступ:

— Не дзеля фанабэрыі і славы, а дзеля дзяцінства! Яно глядзіць вам у вочы, яно патрабуе вашай дабрадатнасці! Вы адмаўляеце ў ласцы бязвінным дзеткам, якіх Хрыстос загадаў шанаваць найперш, бо ім належыць Царства Божае! — Мадам тыцкала пальцам, абцягнутым чорнай пальчаткай, у бязвіннае дзіця, якое зацята спрабавала сцягнуць з сябе карункавы каптурык. Але бессаромны конезаводчык толькі іранічна хмыкаў ды паўтараў:

— Мадам, мая спецыяльнасць — коні. Я не разбіраюся ў жаночых клубах... Хіба што з націскам на другі склад.

Ад падобных удараў касы аб камень высякаліся іскры. Няшчасная выкладчыкава жонка туліла да сябе немаўля, нібыта хаваючыся за яго ад маланак, якімі шпурляліся багі-алімпійцы. І тут на двары адчайна завішчэла сабака, і адразу ейны віск падхапіў магутны сабачы хор.

— Стой, сабачка, стой! — лямантавала дзесьці мадэмуазэль Нінель.

— О, мая небарака Жужу! Я іду да цябе! — усклікнула пудзеліхіна гаспадыня, з мілабожным «О, мадам!..» сунула свайго дзіцёнка на рукі дырэктарцы пансіёна і выскачыла за дзверы.

У пакоі запанавала цішыня. Крыкі і сабачы брэх раставі ўдалечыні. Мадам трымала дзіцёнка перад сабой, нібыта амфару з рэдкім він ом. Няёмка прызнацца, але твар мадам Касіо чамусьці не выказваў замілавання. Магарыш таксама паглядаў на мілае дзіцятка, якое паспела сцягнуць набакір свой накрухмалены каптурык і агаліць круглую макаўку, прыкрашаную адзіным завітым чубком, з нейкім складаным пачуццём.

— У-а-а-а-а-у!

Дырэктарка ледзь не выраніла дзіцёнка. Палкоўнік у адстаўцы спрытна падтрымаў крыклівага госця на яе руках. А немаўля гарлала так адчайна, з такой крыўдай на гэты недасканалы свет!

— Супакойце яго, мадам,— раздражнёна буркнуў Магарыш.— Вы ж самі казалі, што бавіцца з такімі недарослямі — ваш грамадзянскі доўг.

— Я — дырэктар пансіёна для дзявіц,— цвёрда прамовіла мадам, робячы націск на апошнім слове.— Я не маю досведу ў выхаванні немаўлятак.

— Эк гарлапаніць,— дасадліва сказаў Магарыш і паклікаў дзеншчыка. Але той, відаць, таксама збег па сабачых справах, якія нагадвалі пра сябе аддаленым брэхам і жаночым віскам.

Мадам нязграбна гушкала падкідыша.

— А-та-та... Гэта ён вас баіцца. Дзеці адчуваюць нядобрых людзей...

— Перастаньце яго трэсці, ён і змоўкне,— адрэзаў Магарыш і наставіў на немаўля два пальцы казою: — У-цю-цю-цю-цю!

Малеча збрыкнуў нагою і патрапіў забаўніку ў тоўсты нос.

Магарыш ледзь стрымаў лаянку.

— Давайце яго мне. Ён жа мужчынскага полу. Я хутчэй з ім паразумеюся. А то, далібог, вушы закладае. Хлопец, любіш коней? Хочаш на коніку пакатацца?

Дзіцёнак адчайна супраціўляўся. Капялюш дырэктаркі, упрыгожаны страусавымі пёрамі, з’ехаў набакір і нарэшце зусім зваліўся ў суправаджэнні звонкага дажджу шпілек. Мадам Касіо расчырванелася, яе валасы, заўсёды сцягнутыя ў строгі вузел, рассыпаліся залацістымі локанамі. А вочы, не абароненыя ларнетам, былі такія разгубленыя... І светлыя... Так што ніхто не пазнаў бы з першага погляду мадам Касіо. Ды і суровага палкоўніка Магарыша, які скакаў па пакоі, трымаючы на плячах тоўсценькага капрызулю, у той час як мадам бегала за гэтай жывапіснай групай, падтрымліваючы малога кавалерыста.

— А вось мы на коніку... На коніку... Першы раз бачу кабету, якая не можа даць рады дзіцёнку! У вас што, ніколі не было ўласных дзяцей? — соп Магарыш.

— Можна падумаць, у вас цэлая куча спадчыннікаў! — агрызалася мадам.— Вы ўвогуле здзічэлі са сваімі коньмі! Цішэй, не скіньце малога! Я, прынамсі, стараюся нешта даць хоць чужым дзецям. А вы?..

— А мне часам здаецца, што коні больш вартыя шкадобы і разумення, чымсьці людзі. Ай, нешта за каўнер пацякло...

Калі вярнулася легкадумная маці з ускалмачанай пудзеліхай на руках, пакінуты ёю гэтак падступна дзіцёнак бесклапотна спаў на Магарышавай канапе, а паабапал яго сядзелі пан Магарыш у

турэцкім халаце і мадам Касіо без капелюша, хаця з падабранымі зноў у вузел валасамі.

— Прабачце, прабачце, але на Жужу напала зграя злосных грубых дварнякоў!

Мадэмуазэль Нінель таксама прапішчэла ў сваё апраўданне:

— Я нічога, нічога не змагла зрабіць! Іх адагналі толькі вадою!

Мадам Касіо годна ўздзела капялюш, акуратна закалола яго шпількамі.

— Думаю, наш візіт скончаны.

Мадэмуазэль Нінель са здзіўленнем глядзела на ружовыя плямы на шчоках мадам і гадала, ці ўдалося ейнай ваяўнічай кіраўніцы дамагчыся патрэбнага.

Пан Магарыш сур'ёзна пазіраў на маўклівую дырэктарку:

— Да сустрэчы, мадам.

Толькі шчаслівая супруга выкладчыка прыродазнаўчых навук была цалкам паглынутая сваімі праблемамі і нічога не заўважала, спрабуючы адначасова супакоіць і раззлаваную пудзеліху, і абуджанага ад салодкага сну і невымоўна гэтым пакрыўджанага сынулю.

Калі жыхар горада Б* не мог даць рады сваім клопатам, ён абмаўляў клопаты сваіх суседзяў. І такіх выпадкаў у горадзе Б* чамусьці было амаль столькі ж, колькі жыхароў. Таму канец халасцяцкага жыцця конезаводчыка Базыля Магарыша абгаворваў увесь горад.

Адны шкадавалі небараку — узяць за сябе такую мегеру! Другія дзівіліся — якім шляхам пракралася ў кавалерыйскую душу падступнае пачуццё? На гэтае пытанне маглі б, напэўна, адказаць непаўналетнія наведнікі ясляў для дзяцей працоўных кабет горада Б*, але, на жаль, яны яшчэ не ўмелі размаўляць.

## Пігмаліён і Галатэя

> Скульптар Пігмаліён зрабіў з мармуру прыўкрасную дзяўчыну Галатэю і закахаўся ў яе. Багі паспачувалі яго вялі-каму каханню і ажывілі статую. Галатэя зрабілася жонкай Пігмаліёна.
>
> *Старажытнагрэчаскі міф*

Горад Б*, улюбёны мой горад Б*! Як часта сумую па тваіх брукаваных вулках, і нават небрукаваных, што ператвараюцца падчас дажджоў у суцэльную куламесу. Так што даводзіцца

прыстойным паненкам ахвяраваць чысцінёй сваіх высокіх чаравікаў на шнуроўцы, на далікатна выгнутых абцасіках...

А паненкам належыць ступаць па кветках і аблоках! Чарговая брудная лужына надарыла мокрым кляймом модныя, у жоўта-зялёную клетачку, нагавіцы настаўніка малявання жаночай гімназіі горада Б* пана Рамуальда. О, правінцыя! Дзе твая паэзія?

Але чароўныя цёмныя вочы дачкі дырэктара сельскагаспадарчага банка горада Б* Зоф'і Шкудровіч, пышнацелай, беласкурай багіні Зоф'і, партрэт якой мусіў да ейнага васямнаццацігоддзя папоўніць галерэю сямейных партрэтаў Шкудровічаў, несумненна тояць у сабе бездань рамантыкі! Бездань жарсцяў і тонкіх адчуванняў тояць яны! Варта толькі абудзіць усе гэтыя бездані — бо, незапатрабаваным у мешчукоўскім шкудровічаўскім асяродку, суджана спаць ім доўга і безнадзейна. Каб не ён, вольны мастак...

Пан Рамуальд самазадаволена падкруціў свае тонкія вусікі, якія зазвычай тапырыліся, як у жука, і зноў патрапіў штыблетам рыхтык у велізарную лужыну. Але ад узрушэння нават не заўважыў гэтага, як не заўважыў бруднай ніягары, што зноў папаўзла па нагавіцах, як не заўважаў шалапуцтва сваіх вучаніц, як не заўважае насмешак цёмнага навакольнага люду: «Ромка-мазідла аптэкарскі па лужынах шыбуе, як з вяселля».

Бо гэта якраз і ёсць уласцівасць праўдзіва творчага чалавека — бачыць тое прыўкраснае, чаго яшчэ няма, і не заўважаць таго паскудства, што ёсць навокал. І ёсць, на жаль, гэтак адчувальна...

Як, напрыклад, жаніх прыўкраснай цемнавокай панны Зоф'і, руды таўсматы Ганька, спадчыннік мануфактурнай фабрыкі. Сядзіць гэтае ўвасабленне банальнасці на канапе, сонна прымружыўшы вочы, назірае, як пад натхнёным пэндзлем пана Рамуальда (які на самай справе сапраўды ёсць сын мясцовага аптэкара, называны ад нараджэння Ромкам) вымалёўваюцца на шэрым паркалі антычныя рысы нявесты... Але хіба ён ведае нават такое слоўца — антычныя!

Ах, як ненавідзеў пан Рамуальд сямейныя партрэты Шкудровічавага роду! Са сцен гасцёўні пазіралі пысы, што нагадвалі пра поўныя кубельцы і скарбонкі, канкрэтнае здароўе і ўстойлівую псіхіку. Няўжо белыя пальчыкі з ружовымі пазногцікамі панны Зоф'і калі-небудзь зробяцца гэтак жа падобнымі на сасіскі, знізаныя пярсцёнкамі... Не, такога нельга дапусціць! Нездарма ж панна Зоф'я хадзіла два гады таму на курсы дэкламацыі да сталічнага артыста, што застрануў у горадзе Б* з прычыны тэрміновага апусцення

кішэняў. Значыць, гарыць у ейнай душы іскрынка мастацтва! Толькі распаліць яе...

Дасканалая эрудыцыя дазволіла пану Рамуальду скласці дакладны план абуджэння духоўнай сутнасці панны Зоф'і. Штовечар дапазна бедны мастак сядзеў у сваім улюбёным фатэлі, са спецыяльнай сетачкай на набрыялінeных вусах, скручаных у колцы, і на валасах, падзеленых раўнюткім праборам, моўчкі варушыў вуснамі, час ад часу ускрыкваў нешта незразумелае, кшталту: «О, багіня! Успомнім вялікага Леанарда!» Старэнькі аптэкар Лёйза, уздыхаючы, выходзіў са свайго пакоя і асцярожна ставіў перад мройным сынам шкляначку з мікстурай «Сад маёй бабулі», самым надзейным сродкам ад меланхоліі. Пан Рамуальд адным глытком выпіваў пякучую вадкасць з прыемным ментолавым пахам і нецярпліва махаў бацьку рукой.

— Ромка, а Ромка, цёця Аліцыя звала ў госці ў суботу. Мурачка прыйдзе, памятаеш, такая рудзенькая, вясёленькая?

Пан Рамуальд абурана хмыкаў, і бацька, пахітваючы галавою, ішоў у свой закуток, застаўлены рознакаляровымі бутэлечкамі, рэтортамі і прабіркамі. А пан Рамуальд працягваў інтэлектуальную падрыхтоўку да чарговага сеанса пазіравання, дакладней, да лекцый, што суправаджалі іх. Ад біблейскіх матываў, «Найвышэйшай Саламонавай песні» і Вірсавіі размова перайшла на гісторыі Абеляра і Элаізы, Дантэ і Беатрычэ, Рамэа і Джульеты, паралельна апісваліся жыцці гераічных жанчын — Гіпатыі, старажытнагрэчаскай жанчыны-астранома, закатаванай цемрашаламі, Жанны д'Арк, выратавальніцы Францыі, мясцовай лекаркі Саламеі Пільштыновай, што лячыла і жонак султана, і расійскую царыцу. Панна Зоф'я не заканчвала гімназіі, хаця бацькі паспрабавалі неяк аддаць яе ў лепшы прыватны пансіён горада Б*, які трымала строгая мадам Касіо. У летапісе горада Б* не захавалася дакладных звестак, ці то сама далікатная паненка запрасілася дахаты ад жахлівых цяжкасцей навучання ў пансіёне, ці то цярплівая мадам Касіо, хаця і звыклая да капрызаў багатых бацькоў і іхных дзетак, не вытрывала паводзін мілай Зосенькі, але доўгі час любячыя бацькі наймалі для сваёй кветачкі гувернантак. Прычым мяняліся яны кожны год, а то і па некалькі разоў на год. Бібліятэка Шкудровічаў складалася з некалькіх соцень тоўсценькіх, аднолькавага памеру томікаў у такіх прыгожых, дарагіх вокладках, што разгортваць іх лічылася відавочна залішнім. У выніку пан Рамуальд меў справу з цнатліва чыстай паненчынай свядомасцю, не сапсаванай інтэлектам, што давала яму магчымасць

прыўносіць у вядомыя сюжэты плён уласнай фантазіі, асабліва ў аповеды пра сваё навучанне ў Санкт-Пецярбургскай рысавальнай школе.

Выснова з усіх расказаных гісторый, аднак, мелася адна: каб выратаваць жывую душу, належала вырвацца з мяшчанскага асяродку, знайсці роднаснага сабе ўзнёслага спадарожніка (каго ж, як не яго, пана Рамуальда?) і рушыць па жыццёвым шляху, усыпаным кветкамі і церніямі, да зораў ці куды ўжо патрапіць дайсці-даляцець акрыленым асобам.

Хаця б да бліжэйшага вялікага горада, дзе, несумненна, сапраўдны мастакоўскі талент знойдзе сабе прызнанне, а ягоная мадэль будзе праслаўленая гэтак жа, як улюбёная булачніца Рафаэля, увасобленая ў бессмяротных вобразах мадоннаў.

І далібог, Рамуальдавы прамовы давалі плён. Панна Зоф'я нават перастала падчас сеансаў есці разынкі і душыцца ад смеху пры поглядзе на мастаковы закручаныя колцамі вусы і пышны аксамітны бант-гальштук. Праўда, па-ранейшаму заставалася бязмоўнай, як праўдзівая мармуровая багіня. Але яе вочы гаварылі лепш за ўсялякія словы! Ах, як шматзначна пазіралі яны на пана Рамуальда! Ды што казаць, калі нават руды Ганька больш не засынаў на сеансах пазіравання нявесты.

І вось сёння — апошні, рашучы дзень! Як ні адцягваў пан Рамуальд момант завяршэння партрэта, далей цягнуць было немагчыма. Некалькі заключных мазкоў — і срэбранікі Шкудровіча перакрыюць аптэкарскаму сыну доступ да банкаўскай спадчынніцы.

Пані Зоф'я пазіравала, як заўсёды, у абабітым сінім аксамітам фатэлі, у белай шаўковай сукенцы з карункамі, як марская пена. Увесь тавар сярэдняй велічыні ювелірнай крамы пайшоў на ўпрыгожванне шыі, рук, вушэй, прычоскі ды іншых дэталяў паненкі, так што багацце роду Шкудровічаў мусіла быць годна адлюстраваным і на партрэце яго апошняй прадстаўніцы. Руды Ганька сціпла сядзеў на крэсле ў куце і пакручваў у тоўстых пальцах дарагі залаты гадзіннік. Праклятыя сімвалы багацця!

Пан Рамуальд крануў ружовай фарбай шчаку намаляванай багіні. Сёння ці ніколі!

Так, ніколі больш у Шкудровічавым доме не гучалі такія палымяныя, узнёслыя аповеды пра найвышэйшае пакліканне чалавека, водпаведзь праклятаму багаццю і паныламу існаванню ў мешчукоўскім свеце. Фарба капала з пэндзля на чаравікі мастака, на

бухматыя дываны з ружамі — хіба гэтыя ружы можна параўнаць з сапраўднымі! Набрыяліненыя валасы пана Рамуальда ззялі, як паверхня канцэртнага раяля, вусы перасталі завівацца калечкамі і зноў ваяўніча натапырыліся.

— Да чаго мне патрэбны цяпер альбом Рубенса! Я зверыў бы адценні і ўдасканаліў бы свае апошнія праўкі... Як бы мне гэты альбом атрымаць найхутчэй? Бачыў яго ў бібліятэцы, на ніжняй паліцы. Ён такі вялікі, у жоўтай вокладцы, на ім так і напісана — Рубенс. Прыслуга можа зблытаць, а я не настолькі вольна пачуваюся ў гэтым блаславёным доме...

О, як хітра, як доўга і дасканала адпрацоўваў пан Рамуальд гэтую фразу! Высокае пачуццё, несумненна, абудзіла ягоную здольнасць да тонкіх інтрыг. Прасцяк Ганька паслухмяна падняўся і падыбаў шукаць альбом таемнага Рубенса. Нарэшце настала рашучая хвіліна — сам-насам... Дамова на апошняе спатканне — і...

— О, панна Зоф'я! Не патрэбна ўжо лішніх словаў, сёння апоўначы ваш верны рыцар будзе чакаць вас ля ганка, што на заднім двары, ля куста чырвоных парэчак. І не трэба браць з сабою ані дыяментаў, што ёсць слёзы беднага народу, ані золата, бо яно заплямлена чужым потам і крывёю... Хіба што трохі, на першыя затраты, ну там, кватэру наняць, фарбы алейныя купіць...

Панна Зося некалькі разоў шмарганула доўгімі вейкамі і нізкім голасам вымавіла:

— Шо?!

Пан Рамуальд крыху разгубіўся. Абуджаная прыгажосць мусіла адказваць крыху іншымі словамі і, прынамсі, больш распаўсюджана... Але яна саромеецца, ну, так! О, гэтая непараўнальная дзявочая сціпласць!

Пан Рамуальд аж пераступіў ад хвалявання тонкімі нагамі, абцягнутымі тканінай у зялёна-жоўтую клетачку, нібыта зладзіў вытанчаную фігуру прыдворнага танца, і схапіў паненку за абцягнутую карункавай пальчаткай ручку:

— Я з самымі сумленнымі намерамі, панна Зося! Памятаеце, як Алена Фоўрман трымала пэндзлі свайго мужа, мастака Рубенса? І мы з вамі... Вы са мной...

Панна Зоф'я выдзерла з мастакоўскіх слабых рук сваю руку і прыўзнялася:

— Ты шо, мазідла, п'яны? Цэлы месяц галаву тлуміў усялякай лухтой — Кліпатры, Ляізы, Біятрычы... Гаварыла татусю, каб не

скупідомнічаў, наняў нармальнага мастака. Еканомія, еканомія... Галадранцаў усялякіх толькі ў дом і пушчаць! Татусю, татусю! Шо скажу!

Панна Зося грэбліва штурханула небараку Рамуальда, як прадмет мэблі, і, пазвоньваючы ювелірнымі ўпрыгожаннямі, шырокімі крокамі пакінула імправізаваную майстэрню.

Пан Рамуальд агаломшана сядзеў на раскошным Шкудровічавым дыване з несапраўднымі ружамі, не ў моцы ўсвядоміць сваю паразу.

— Пан Рамуальд, вось ён... Рубенс! Здаецца, той самы, глядзіце!

Таўсматы Ганька пачціва нахіліўся над павержаным мастаком з тоўстай кнігай у руках.

Аптэкарскі Ромка высмаркаўся ў свой аксамітны бант-гальштук і павольна падняўся:

— Не трэба... Нічога ўжо не трэба...

— Вы... скончылі партрэт?

— Так... Скончыў...

Пан Рамуальд хацеў ужо выйсці з пакоя, як Ганька заступіў яму дарогу.

— Стойце, пан Рамуальд! Я мушу вам сказаць... Чуеце?

Пан Рамуальд ачомаўся... Чаго трэба гэтаму мільёншчыку? А, біць будзе... Рамуальдава галава мімаволі ўцягнулася ў плечы. А Ганька працягваў усхвалявана гаварыць:

— Я зразумеў! Я хачу вырвацца з гэтага балота! Грошы — тло, нішто, зло! Наш асяродак — гэта асяродак крывасмокаў і бур... бюргераў, а чалавеку патрэбна духоўная воля! Пачаць жыццё спачатку ніколі не позна!

Адбылася нейкая памылка... Нешта пераблытана... Пан Рамуальд нясмела ўсміхаўся і спрабаваў прасунуцца да дзвярэй. Але Ганька ўзвышаўся на ягоным шляху, як Галіяф.

— Вы адкрылі мне вочы, пан мастак! Вы ведаеце, я таксама... Ну так, па-дылетанцку, вядома... Але малюю. Што тая Зоська, яна дурная, нічога не разумее. Усе Шкудровічы дурні. Нізавошта не ажанюся з гэтай таўстухай. Ніякай паэзіі. Заўтра ж — у Парыж, на мансарду! Як вы там казалі, фіялкі Марма... Манра...

— Манмартра...— аўтаматычна падказаў пан Рамуальд.

Ганька ўзрушана схапіў яго за руку:

— Вы столькі гаварылі пра сяброўства між мастакамі... Дзяліцца апошняй скарынкай... Эксперыментаваць з колерам... Можа, і вы са мной? Там дзяўчынкі... Грызеткі... На тым Мармары...

— Манмартры...— зноў падказаў пан Рамуальд і нарэшце ўсвядоміў увесь трагізм становішча.— Не! Не хачу! Нічога не хачу! Ды адчапіцеся ж ад мяне!

Пан Рамуальд працерабіў сабе шлях да рэтырацыі і кінуўся прэч з праклятага дома, дзе ён так падмануўся, дзе згаслі ягоныя мары, як згасае свечка ад трапнага пляўка. І нагавіцы ў жоўта-зялёную клетачку зноў беспардонна пляміла густая брунатная вадкасць з лужын горада Б*.

Шкудровіч так і не заплаціў за партрэт дачкі.

Ганька назаўтра збег у Парыж. Бацькі доўга бедавалі, што занадта патуралі сыну і ён з’ехаў з глузду. Шле дзіўныя лісты, спрабуе адмовіцца ад спадчыны. Ад цудоўнай мануфактурнай фабрыкі, якая дае гарантаваны даход!

Праўда, сваяк губернатара, які пабываў у Парыжы, казаў, што Ганька, хаця і жыве як нейкі шалапут і нават адгадаваў бараду і доўгія патлы, нешта такі малюе і нават ягоныя карціны купляюць. Хаця адны дурні іх купляюць — бо зразумець, што менавіта на тых карцінах намалявана,— немагчыма, адны пісягі. Сваяк нават парыжскую газетку прывозіў, дзе маленькімі літарамі ў адным абзацы было набрана нешта пра Ганькавы карціны. Відаць, не самае ўхвальнае. Але, як ні кажы, трапіць у парыжскую газету...

Панна Зоф’я выйшла замуж за ўладальніка піваварні горада Б*, самавітага маладога чалавека, які знешне нагадваў збеглага Ганьку, асабліва целаскладам.

Пан Рамуальд па-ранейшаму выкладаў у жаночай гімназіі маляванне і піў мікстуру «Сад маёй бабулі».

Але ніколі больш не браў прыватных заказаў.

## Геракл у Адмета

Аднойчы Геракл спыніўся ў свайгосябра, цара Адмета, у якога нядаўна памерла жонка Алкесціда, выкупіўшы сваім жыццём жыццё мужа. Даведаўшыся пра такую акалічнасць, Геракл, расчулены гасціннасцю Адмета, спусціўся ў падземнае царства і прымусіў Таната, бога смерці, вярнуць Алкесціду ў царства жывых.

*Старажытнагрэчаскі міф*

Наўрад ці ведалі ў багатых дамах-камяніцах горада Б* Мамоньку-шлопака.

Дый такога слова — «шлопак» — няма ў вучоных кнігах.

Але ў прадмесцях горада Б*, у маленькіх дамках пад засенню ліп і яблынь прыходу шлопака радаваліся ўсе. Таму што цэлы вечар у хаце будзе пераказ навін — што цікавага адбылося ў суседніх мястэчках, што і пачым прадаецца на кірмашах, куды лепш ісці, каб купіць новыя калёсы ці парсючка, дзе ў свеце пачалася вайна ці прайшоў землятрус... Карацей, кожны просты жыхар горада Б*, які з прычыны непісьменнасці ці ў мэтах эканоміі не выпісваў газет — а такіх было сярод мешчукоў прадмесцяў пераважная большасць — мог атрымаць ад шлопака ўсе цікавыя яму звесткі. А шлопак ніколі нічога не прасіў — пакормяць дык пакормяць, пусцяць пераначаваць дык пусцяць. Але прытулак і частунак меў заўсёды.

Адкуль быў родам Мамонька — ніхто не ведаў, здавалася, ён вечна хадзіў па навакольных вёсках і мястэчках. Нават узросту ягонага нельга было вызначыць — гэткі празрысты, без расліннасці на твары, дробны чалавечак. «Божы чалавек»,— гаварылі пра Мамоньку некаторыя, але іншыя ім пярэчылі: «Хіба Божы чалавек швэндаецца па базарах?» Божы чалавек пяе псалмы і прадае кіпарысавыя крыжыкі ды цудадзейныя абразкі. А Мамонька і выпіць не адмовіцца, калі паднясеш. Але, што праўда, у торбачцы Мамонькі заўсёды ляжала Святое Пісанне — таннае выданне для простага люду, у шэрай папяровай вокладцы, з жыццяпісам Аляксея, Чалавека Божага, і малітоўнікам у дадатак. Калі побач не было сведак, шлопак даставаў запаветны томік і ўслых, па складах, чытаў, задумваючыся над непадсільнымі простаму розуму фразамі.

Але безумоўна, што пры поглядзе ў светлыя-светлыя, дабрэнныя вочы шлопака, даверлівыя да дурасці, а можа — да святасці, кожны мімаволі траціў насцярогу. Мамонька заўсёды выконваў мноства дробных даручэнняў — перадаваў з вёскі ў вёску, з мястэчка ў мястэчка чужыя пазыкі, невялікія гасцінцы і лісты. Пры Мамоньку не саромеліся абмяркоўваць свае хатнія праблемы, не баяліся даручыць яму пакалыхаць дзіця падчас чарговага начлегу.

Не адзін раз спыняўся шлопак у хаце Пётры Памідорчыка, слесара горада Б*. Не сказаць, каб у багатай хаце, хаця Памідорчык меў залатыя рукі — мог адрамантаваць любую гаспадарчую прыладу, любы самы тонкі механізм — ад музычнай машыны да залатога швейцарскага гадзінніка. Але свае заробкі спускаў Пётра хутка і

бязбольна. А чаго даражыцца тымі грашамі, пакамечанымі смярдзючымі паперкамі ды металёвымі абцерханымі круглячкамі, калі няма нічога даражэй за добры настрой, вясёлую песню ды куфаль густога піва, а месца ў Царстве Нябесным, як вядома, ані золатам, ані срэбрам не купляецца, а толькі праведным жыццём.

І хаця праведнае жыццё Памідорчык прызнаваў за каштоўнасць, жонка ягоная, круглатварая Наста, па мянушцы Клёцка, аніяк мужавай філасофіяй не магла задавальняцца. Бо якое ж праведнае жыццё ў карчомцы? Адно марнатраўства. Не для таго яна замуж выходзіла, каб з гліняных талерак есці. Весялун Пётра падміргне сярдзітай жоначцы: «Эгэ, даражэнькая, хоць і з золата з'ясі, усё ў адно месца выкінеш». Плюне бедная Наста, перахрысціцца, а мужык ужо за шапку — у карчомцы музыка зайграла.

Ды не сказаць, каб былі Пятро з Настай найгоршай у свеце парай. Прынамсі, шлопак Мамонька любіў у іх спыняцца. Гаспадыня заўсёды частавала, пакідала начаваць. Гаспадар жа бясконца распытваўся пра ўсё на свеце, прычым найбольш любіў слухаць не пра кошты на базарах, а пра дзівосы — певень знёс яйка, а з таго вылупіўся маленькі чорны цмок, на кірмашы ў суседнім павеце паказвалі васковых людзей — рыхтык жывыя, і нават варушацца і круцяць вачыма.

Але на гэты раз Мамоньку не сустрэла ў Памідорчыкавай хаце ветлая гаспадыня. Усе дзверы парасчыняныя, куры забягаюць у сенцы і апасліва зазіраюць у пакоі, у шыбы б'юцца, як п'яныя валацугі, тлустыя зялёныя мухі, а на лаўцы пад абразамі сядзіць Пётра Памідорчык, і ягоны чырвоны твар ажно зморшчыўся ад пакут.

— А ці ў пана гаспадара зубы баляць? — спачувальны тонкі галасок Мамонькі падзейнічаў на засмучонага Памідорчыка, як гарчычная прыпарка.

— А братка ж ты мой, а галаванька ж мая прапашчая! Грэшны, грэшны быў, вось і пакараў Божанька!

Памідорчык павіс на танклявым шлопаку з усёй сілай свайго гора, так што Мамонька захістаўся, не столькі ад цяжару, колькі ад моцнага перагарнага паху. Душа ў шлопака была чуллівая і даверлівая і хутка гэтаксама разрывалася ад раздзеленага з гаспадаром хаты гора.

Два тыдні таму ў дом паважанай удавы Крысі прыйшлі незвычайныя госці: шэсць жанчын, пераважна сталага ўзросту, у

цёмных доўгіх сукенках і белых хустках, шчыльна абвязаных вакол галавы, адзін кульгавы старэча і высокі барадач у белай хламідзе з таўсценнай кнігай, якую ён пяшчотна прыціскаў абедзвюма рукамі да грудзей. Дзіўная кампанія цэлы дзень не паказвалася на вуліцы, толькі з вокнаў цёткі Крысі даносіліся працяглыя, але меладычныя песняспевы, упрыгожаныя магутным басам — відаць, мажнога барадача. Суседзі ад цікаўнасці млелі. Але хутка змаглі цалкам задаволіць сваю цікаўнасць — барадач запрасіў усіх жадаючых на духоўную бяседу. Гэта сапраўды аказаўся нешараговы чалавек. Можа быць, нават прарок. Прынамсі, сам сябе ён так і называў. І прапаведваў ён рэчы цалкам зразумелыя, хаця і складаныя для ўвасаблення: каб патрапіць у Царства Нябеснае, трэба тут, на зямлі, прыпадобніцца Госпаду нашаму і Ягоным апосталам, а для гэтага неадкладна распрадаць усю сваю маёмасць, выручку аддаць яму, барадачу, які ўдастоіўся спасцігнуць нябесную мудрасць, і рушыць па грэшнай зямлі з пропаведзямі згаданай мудрасці. Прыхільніцы ў белых хусцінках слухалі свайго прарока з такім замілаваннем і адданасцю, што здавалася, вакол таго сапраўды распаўсюджваецца незямное святло. Прарок шчодра цытаваў выказванні са сваёй тоўстай кнігі наконт канца свету, і слухачы (у асноўным, праўда, слухачкі) заліваліся слязьмі ад усведамлення грахоўнасці і немінучай пагібелі.

Праўда, паплакаўшы і ахвяраваўшы святому чалавеку пэўную колькасць сямейных грошай, жыхаркі горада Б* пакорліва вярталіся ў сямейнае ярмо.

Усе, акрамя цёткі Насты.

Мусіць, кантраст між развясёлым п’яненькім Памідорчыкам і ўзнёслым суровым прарокам быў надта ўражлівы для ейнае жаноцкае натуры.

Памідорчык вярнууся з карчмы і пабачыў на стале пусты куфэрак, дзе Наста захоўвала рэшткі пасагу — жменьку срэбных рублёў, два залатыя пярсцёнкі і залатыя маністы. Пры кароткім аглядзе высветлілася, што зніклі і прыхаваныя ў скарбонцы грошы. На спалоханы роў Памідорчыка прыйшла суседка і паведаміла, што Наста-Клёцка падалася ў святыя сёстры да барадатага прарока. Усе памкненні Пётры, вярнуць жонку да сямейнага агменю ці хаця б перагаварыць з ёю, разбіваюцца аб жалезную сцяну духоўнай еднасці барадача, кульгавага і белых хустак.

— Слухай, дружа, капейку дам, схадзі ў той пракляты дом, прывядзі ты маю дурную кабету з грашыма назад!

Праз паўгадзіны шлопак Мамонька з Памідорчыкавай, яшчэ не заробленай капейкай у кішэні, стаяў перад дыхтоўным домам пані Крысі, шаноўнай ветэрынарскай удавы. Праз зачыненыя вокны чулася алілуя. Шлопак ветліва пастукаў у шыбу. Алілуя не сціхла, але рыпнулі дзверы, і Мамонька пабачыў барадатага мага, які ў мінулым годзе на кірмашы наймаў яго сядзець у васковай фігуры і тузаць за нітачкі, каб фігура магла варушыцца. Маг плаціў Мамоньку пяць капеек у дзень і строга наказаў захоўваць таямніцу жывой фігуры. А шлопаку што? Раз сказана — ён так і зробіць.

— Добры дзень, пан Маг! — ад шчырай Мамонькавай усмешкі барадача ажно перасмыкнула.— А я вось даручэнне маю...

У хаце цёткі Крысі гарэлі свечкі. Восем кабет, сярод якіх гаспадыня са строга падцятымі вуснамі і мажная Памідорчыкава Наста, сядзелі на лавах уздоўж сцяны і свідравалі вачыма шлопака. Шчыльна навязаныя белыя хусткі нагадвалі не столькі пра кляштар, колькі пра бальніцу. Старэча пагрозна расхаджваў за спінай госця, і яго кульгавая нага надавала крокам рытм пахавальнага маршу. Барадаты прарок, вядомы Мамоньку пад імем Мага, узвышаўся перад шчуплай постаццю шлопака, як Самсон перад філісцімлянамі.

— Раба Божая Наста абрала сабе праведны шлях! — басіў прарок.— Ніякія зямныя грэшныя клопаты не могуць звярнуць яе! Як Гасподзь наш і апосталы Яго, мусім мы пакідаць бліжніх нашых з любові да іх жа і ісці па аблудным свеце са Словам Божым...

Мамонька згодна ківаў галавой. Прыгожа гаварыў пан Маг, гучна! Але доўга...

— Выбачайце, можа, мы з пані Настай ужо пойдзем?

Белыя хусткі злосна зашыпелі, барадач пачырванеў. А шлопак ветла працягваў:

— І маніста сваё, пані Наста, не забудзьцеся... Пан Пётра прасіў... І грошы...

Гучныя абвінавачванні цёткі Насты на адрас бязбожнага мужа зліліся з абурэннем усіх прысутных.

— Гэта цяпер божыя грошы! — гарлаў барадач.— Грэшнік Пётра мусіў не патрабаваць іх назад, а прадаць усё, што мае, і ахвяраваць! Кожны, хто прынясе сюды ўсе свае грошы, выратуецца! Толькі ахвяраваннем грошай можна здабыць месца ў Царстве Нябесным. А я — пасрэднік у гэтай справе. Так і перадай усім, валацуга.

Шлопак мімаволі захваляваўся. Барадач гаварыў гучна і даходліва, але нешта не тое. У шлопакавым выданні Святога Пісання не было такой высновы пра грошы... Пра любоў да бліжняга — было... Пра тое, што не скрадзі,— было. Не зажадай жонкі бліжняга свайго, маёмасці і гэтак далей... Мамонька шчыра пра гэта і распавёў. Са святарамі, шкалярамі ды іншымі абазнанымі людзямі прарок і не збіраўся дыскутаваць, але ж тут — нейкі недаробак... Гучнагалосыя аргументы прарока адляталі ад маленькай постаці шлопака, як дажджавыя кроплі ад зялёных лістоў сціплага агрэсту. Патроху вісклівыя галасы жанчын у белых хустках і кульгавага пракакавага памочніка сціхлі, чуваць толькі было раз'юшаны роў барадача ды ветлівы тонкі голас госця.

— Але ж ён праўду гаворыць, жанкі,— нарэшце зазначыла найстарэйшая з кабет, у мінулым свецкім жыцці — гандлярка зелянінай.— Што гэта за святасць, калі да пальцаў грошы прыліпаюць? Хіба Хрыстос з апосталамі грошы збіралі?

Барадаты прарок адчуў, што страчвае ўладу над сваімі рахманымі авечкамі, і ўзвысіў голас. Бедны Мамонька заўсёды пакутваў, калі нехта пры ім сердаваў, злаваўся, лаяўся. А тут сам — прычына лаянкі! Але барадач, відавочна, казаў нешта насуперак запаветнай шэрай кніжачцы са шлопакавай торбы, кожнае слова якой — кніжачкі, а не торбы, вядома,— адбілася на шлопакавым сэрцы, як дзесяць запаветаў на Майсеевых скрыжалях. Дарэчы, габрэйскі Майсей таксама не быў гаваркім, папросту — дык сказалі б, што ў яго каша ў роце... Але не можа зямля быць без прарока! І горад Б* не мог. Тонкі голас Мамонькі ўзвысіўся да вяршыні гары Сінай... Вядома, у ваколіцах горада Б* няма гары Сінай, але каб была — там Мамонькавы прамовы абавязкова пачулі б!

І знялі прасветленыя кабеты свае белыя хусткі, і выказалі барадатаму правадыру, што ў кожнай назапасілася на яго за дні блуканняў, а ад вока сталай местачковай кабеты нічога не скрыецца! Ні патаемнае спатканне з румянай маладзічкай, ні продаж ліхвяру аддадзеных на пакупку месца ў раю пярсцёнкаў.

Нават кульгавы старэча бразнуў аб стол торбачкай з абшчыннай казною:

— А мне ні разу пахмяліцца не даў!

Мудрацы свету даўно сказалі, што чым вышэйшы стод, тым лягчэй яго абрынуць у друз. Развянчаны з апосталаў барадач знік у восеньскім прыцемку. Абвінавачванні сціхлі. Кабеты маўчалі і разгублена пазіралі адна на адну.

Шлопак, які і на хвілю не страціў рахманай усмешкі, пакланіўся ў бок аблуднай Пётравай жонкі і ўмольна прагаварыў:

— Можа, пойдзеце дахаты, цётачка?

Наста няёмка агледзела сваіх нядаўніх сясцёр:

— Сапраўды ж, у Пісанні сказана...

Ну, вось усё і ўладзілася. Шлопак апынуўся ў абдоймах свежага вераснёўскага ветру. Горад Б* паволі рыхтаваўся да сустрэчы з вечаровым прыцемкам. Меланхалічна брахалі сабакі. Памідорчык будзе задаволены. Капеечку даў недарэмна. Мамонька не збіраўся злоўжываць ягонай гасціннасцю, толькі, ідучы, уяўляў, як цётка Наста зойдзе ў хату, пасядуць яны з мужам на лаўку побач... Абдымуцца...

— Як галубочкі... Чыста галубочкі...— шаптаў расчулены ўяўленымі карцінамі шлопак.

Прадмесце горада Б* скончылася, што пацвердзіў прыдарожны крыж, абвязаны чысцюткім рушніком. За спінай чуліся нечыя крокі. Мамонька азірнуўся і ўбачыў... цётачку Насту. У белай, шчыльна павязанай хустцы, са скрыжаванымі на грудзях рукамі. Шлопак хацеў папытацца, чаму гэта яна не ў сваёй хаце, але словы застралі ў тонкім шлопакавым горле. За цётачкай Настай адна за адной з паўзмроку выплывалі постаці сясцёр у белых хустках. Замыкаў працэсію кульгавы старэча. Цяпер яны спыніліся і неяк дзіўна глядзелі на шлопака. Ну, што ж, можа, людзям куды спатрэбілася... Мамонька сціпла саступіў з дарогі і пакрочыў па бакавой сцежцы. Азірнуўся... Працэсія след у след рушыла за ім. Беднаму шлопаку стала трохі непамысна.

Ён спыніўся:

— А людзі ж мае... А добранькія... Куды ж вы?..

— Ты ідзі, ідзі, бацюшка, не турбуйся...— ласкава-ласкава прагаварыла цётачка Наста і нізка пакланілася.

За ёй пачалі кланяцца іншыя.

— Ідзі, бацюшка... Бог цябе вядзе... І мы ўжо, грэшныя, за табою...

Мамонька разгублена агледзеў нечаканых спадарожнікаў і нарэшце ўбачыў, якія ў іх прасветленыя твары, як шырока яны ўсміхаюцца, як глядзяць на яго, шлопака!

Істэрычныя шэпты прымусілі Мамоньку задрыжэць:

— Сапраўдны... Сапраўдны... Просты духам... Блажэнны... Прарокаваць пачне... Хто будзе запісваць? Ты, Крыся? Аловак, аловак падрыхтуй...

Мамонька на нягнуткіх нагах рушыў па сцежцы і пачуў, як за яго спінай зладжаны хор зацягнуў Алілуя. Замест баса казліным тэнарам выводзіў кульгавы.

Памідорчык так і не дачакаўся сваёй Насты. Горад Б* пагаварыў трохі пра гэта і забыўся — у каменных дамах пра новых апосталаў нічога і не чулі, а ў дамкі прадмесцяў завітвалі новыя і новыя клопаты і жахлівыя чуткі. Тым больш карчомка — найлепшая Памідорчыкава суцешніца і дарадчыца, хутка высушыла ягоныя слёзы, а ў хуткім часе і вынесеныя з хаты аблуднай Настай грошы былі атрыманыя назад паштовым пераводам.

А яшчэ праз нейкі час балагол, праездам з суседняй губерні, перадаў Памідорчыку і зусім дзіўную пасылку — капеечку, загорнутую ў акуратную белую анучку.

Сказаў, ад святога чалавека, якога ў іхняй губерні надта шануюць за прароцтвы і аскетычнае жыццё.

# ШЛЯХЕЦКІЯ АПАВЯДАННІ

## Слова гонару

Пачыналіся цёмныя лістападаўскія ночы — бяззорныя, чорныя, быццам сама безнадзейнасць, перавітыя жалобнымі стужкамі смугі. Андрусь слабеў. Кожны крок даваўся з цяжкасцю — усё-ткі застудзіўся тады, у халоднай, засыпанай срэбнай восеньскай расой лагчавіне. Коні жандараў тупаталі наверсе, на ўзгорку, і нельга было нават паварушыцца, каб адчуць знямелае ад холаду цела — нібыта яно само ўжо з туману і мокрай зямлі. На амаль голых галінках хмызнякоў гайдаліся дзівоснымі ўпрыгожаннямі сініцы, буйныя кроплі сыпаліся з галінак уніз, быццам перліны з парваных караляў, і Андрусю здавалася, што гэты аксамітны шум зараз выдасць яго. Але самі сінічкі нават не ценькнулі. Можа, ім перадаўся страх чалавека?

Яго вышуквалі ўжо другі тыдзень. Ад іх атрада засталося чацвёра — занадта мала, каб адбівацца, але для таго, каб страціць надзею,— замнога. Кола аблогі было шчыльным, але жандар — не тысячавокі Аргус. Яны вырашылі разысціся ў розныя бакі — некага заўважаць, другія выслізнуць. Вядома, каб пасля, у прызначаным месцы, сустрэцца і пачаць усё наноў. Андрусю выпала рушыць у бок родных мясцін — гэта была салодкая пакута. Не хацеў нават у думках згадваць — «уцякаю», «хаваюся»... Калісьці не сумняваўся — прыедзе пераможцам, на чале загартаванага ў бойках атрада, адсалютуе шабляй-маланкай перад ганкам, на які выбяжыць Яна... Анэля... У кароне залатых косаў, з шэрымі вачыма, падобнымі на два чыстыя возеры, у глыбінях якіх, аднак, хаваюцца гарэзлівыя русалкі. І ён пацалуе яе, не сыходзячы з каня, падхопіць з зямлі — гнуткую, лёгкую, такую жаданую... Каб не выпусціць з абдоймаў ніколі-ніколі! Між імі ўсё было вырашана ўжо даўно. Іх маёнткі побач, бацькі сябруюць, і яшчэ тады, на Каляды, калі ён аддаў зарумзанай ружовашчокай дзяўчынцы ў шчодра абсыпаным срэбным пылком касцюме Мятлушкі свайго мігдалавага генерала з вочкамі-разынкамі — і гатовы быў аддаць у кволыя ручкі ўсе свае цацкі,— яшчэ тады ён вырашыў: вырасце і заваюе... Вядома, прыгажунь, Чароўных Дам трэба заваёўваць. Тым больш ён засмучаўся, што зусім не быў падобны да мужнага воя,— валасы светлыя, рост хутчэй сярэдні, не багатырскія плечы — хаця жылаваты і трывушчы. А хіба бывае вой з такімі наіўнымі блакітнымі вачыма! А яна, ужо дзяўчына-падлетак,

смяялася над ягонымі рамантычнымі ўяўленнямі: каханне — гэта ж не вайна, у ім аблога вядзецца толькі поглядамі, словамі, кветкамі... А я не варожая крэпасць, любенькі.

І ён крыўдзіўся і ўцякаў на стромы бераг рэчкі... І зноў вяртаўся — з кветкамі.

Анэля схавала б яго, вядома. Яму так трэба хаця б адну ноч правесці ў цяпле, высушыць адзежу... Выпіць гарачай гарбаты... Ён апошнія дні не мог нават дазволіць сабе распаліць вогнішча — па ўсіх дарогах раз’язджалі вартавыя, відаць, наведзеныя на ягоны след мужыкамі з той вёскі, куды ён зайшоў, каб купіць кавалак хлеба. А мог бы адабраць — у яго, нягледзячы на тое, што гэта была смяротная небяспека і, магчыма, проста глупства,— за поясам пад світкай быў пісталет з адным набоем. Андрусь проста не змог прымусіць сябе застацца бяззбройным — гэта значыла ўсё роўна як прызнаць сябе пераможаным. Пакуль у яго ёсць зброя — ён ваяр і паўстанне жыве.

Андрусь думаў абмінуць дарагія сэрцу мясціны. І нават сам не заўважыў, як скіраваўся менавіта ў той бок — нібыта яго вёў іcтынкт зацкаванага звера. У свой дом? Гэта немагчыма — вядома, ворагі чакаюць менавіта там. Не пакінулі яны без увагі і дом ягонай нявесты. З-за гэтай небяспекі Андрусь апошнія два гады нават не меў ніякага ліставання з блізкімі. Але ёсць, ёсць надзейнае сховішча — там, дзе ніхто не здагадаецца яго шукаць. І нават сам Андрусь раней не падумаў бы, што памкнецца да гэтага чалавека.

Гэта здарылася якраз два гады таму. Магічнае слова «воля» яднала людзей, і перамога, здавалася, вось-вось спусціцца да іх па срэбных аблачынках, і пратрубіць у залатую трубу, і ўзмахне празрыстымі крыламі над іхняй зямлёй, назаўжды вольнай. У Анэлі быў дзень народзінаў. Яго каханая прыйшла ў гэты свет яснай летняй раніцай, калі ўздымаўся белай пенай пад вокны глог і рассыпаліся па ўтравелых сцяжынках саду маргарыткі. І Андрусь не мог не прыйсці павіншаваць яе — з абярэмем лясных духмяных кветак. Гасцей сабралася няшмат — усе добрыя сябры, ніхто б з іх не здрадзіў. Яны зноў гулялі ў фанты і шарады, і нават у зусім дзіцячыя гульні — сляпога ката, залаты пярсцёнак, і тыя, хто прайграў, мусілі пацалавацца праз хустку. З лесу быў толькі адзін Андрусь. І таму зусім недаравальна, што ён не ўчуў, як да дома пад’ехалі ворагі. Страшныя былі не жандары. А той, хто ехаў разам з імі,— сябар па дзіцячых гульнях і сусед. Магчыма, той патрапіў на вечарыну зусім не дзеля таго, каб схапіць інсургента, скуль яму было ведаць, што вораг

імперыі апынецца там? Хутчэй за ўсё проста хацеў павіншаваць Анэлю, прыхапіўшы падначаленых. Нічога дзіўнага — Валянцін таксама кахаў шэравокую суседку. Гэта ведалі ўсе, і найперш яна сама, хаця вельмі часта здараецца, што прадмет кахання даведваецца пра такую акалічнасць апошнім. Але яны пабіліся за Анэлю, яшчэ калі ім было па чатырнаццаць,— і гэта не было падобна на звычайную дзіцячую бойку. Сціснуўшы зубы, моўчкі, зацята... Іх, акрываўленых і паўпрытомных, расцягнулі дарослыя. Тады Анэля, заплаканая, у запэцканай сукенцы — відаць, спрабавала разняць ваяроў,— і выкрыкнула сваё: «Больш не біцеся. Ніколі! Я выбіраю Андруся. Слова гонару!» І Валянцін, апусціўшы вочы, пад якімі «разгараліся» сіне-чырвоныя «ліхтары», паціснуў Андрусю руку. Як пераможаны на сумленным турніры. І Андрусь шчыра дзіваваўся, чаму Анэля прыхінулася да яго, нічым не адметнага, а не да Валянціна, бо той увасабляў усе тыя рысы, якімі Андрусь жадаў бы валодаць. І высокі, і моцны, як камень, і валасы хвалíста-чорныя, а пагляд цёмных вачэй такі ганарлівы...

Убачыўшы, што гэты прыгожы, упэўнены ў сабе чалавек заходзіць у дом, Андрусь зразумеў — гэта ўсё... Цяпер галоўнае — адвесці падазрэнні ад гаспадароў. Схавацца? Першаму пайсці насустрач і здацца, не пакідаючы за сабой няёмкасці вобыску, выкрыцця, арышту?

Анэля сустрэла гасцей у вітальні, відаць, прымала віншаванні, спадзеючыся надаўжэй затрымаць. Урэшце яна вярнулася да кампаніі, дзе кожны спрабаваў захаваць вясёлы выгляд, і ад гэтага гурт выглядаў страшнавата. Дзяўчына трымала ў руках прыгожы пакуначак, перавязаны атласнай ружовай стужкай, але здавалася, пальцы яе здранцвелі і вось-вось выпусцяць ношку на падлогу. Валянцін са шчырай усмешкай прывітаўся з усімі, ніяк не вылучаючы Андруся, прадставіў двух афіцэраў, што прыехалі з ім, пажартаваў, вельмі зграбна і разумна — Андрусь так ніколі не ўмеў, і сышоў, пацалаваўшы Анэлі руку.

Андрусь адчуў гарачую сімпатыю да былога сябра — як бывае заўсёды ў сумленных людзей, калі нехта, пра каго думалася кепска, аказваецца лепшым. Валянцін быў не з тых, хто служыць за грошы ці прывілеі,— ён сапраўды верыў у тое, што абараняў, і ніколі не хаваў сваіх поглядаў, што і паслужыла калісьці канчатковаму ахаладжэнню іх сяброўства. Тое, што ён не выдаў Андруся, быў сапраўды высакародны ўчынак, варты павагі. Асаблівае ўражанне на хлопца

зрабіла ўмоўніцкая вясёлая ўсмешка, якую Валянцін адрасаваў яму на развітанне. Бедная Анэля тады перапякалася мацней за ўсіх — Андрусь дарэмна спрабаваў яе суцешыць. На развітанне яна горача прашаптала яму: «Як запаліцца першая зорка, чакай мяне ў нашай альтанцы, на беразе рэчкі...»

І ён чакаў, хвалюючыся, як быццам ад гэтага спаткання залежала яго вечнае жыццё. А зоркі запальваліся адна за адной, а яна ўсё не ішла... Нарэшце гнуткая постаць, уся захутаная ў белае, ірванулася да яго з чаромхавага прыцемку, і горка-салодкімі, як ягады чаромхі, былі яе пацалункі, бо слёзы каціліся па яе шчоках, так што яму было нават няёмка — ён жа яшчэ жывы... А яна нібыта развітвалася назаўсёды. Бо толькі адчай, напэўна, змусіў яго шэравокую каралеўну шапнуць яму: «Няхай гэта будзе наша шлюбная ноч!» Вядома, было б з яго боку высакародна і разумна — супакоіць яе, сысці самому, утрымацца на той мяжы, за якой пачынаецца незваротнасць і вар'яцтва... Але ён быў усяго толькі чалавек, і ён так кахаў, што яго рукі дрыжэлі ад нясцерпнага жалю і цягі да яе. І калі гэта было вар'яцтва — ён быў гатовы назаўсёды адпрэчыць розум.

А потым яны плавалі ў месяцовай вадзе, і нават вада не магла астудзіць агню пацалункаў, і сысці было горш, чым памерці... Але ён не збіраўся паміраць — ён мусіў перамагчы і вярнуцца.

Вярнуўся... Кашаль разрываў грудзі. Але Андрусь ужо вырашыў, пад чыім дахам правядзе наступную ноч,— ён пойдзе да Валянціна. Не можа быць, каб чалавек за два гады зусім змяніўся,— не выдаў тады, не павінен і цяпер. Тым больш Андрусь хворы, змучаны, а Валянцін — высакародны чалавек. І нічым не рызыкуе — бо па-за ўсялякімі падазрэннямі.

Запіска, перададзеная праз хлопчыка з дворні, не доўга заставалася без адказу. Прыблізна праз гадзіну Андрусь ужо ляжаў у цёплым сухім ложку і правальваўся ў глыбокі, як магіла, сон. Яму не давялося выслухваць пытанні, нешта тлумачыць, не сустрэў ён ні насцярогі, ні варожасці. Вядома, на гасціннасць разлічваць таксама не выпадала. Валянцін нібыта не здзівіўся, успрыняў з'яўленне аброслага, змэнчанага ўцекача годна, па-мужчынску. І Андрусь быў рады, што прыйшоў сюды. Апошняя яго думка, перад тым як заснуць, была пра Анэлю. Яна недзе побач — ён адчувае. Раніцай ён абавязкова даведаецца пра яе, магчыма — перашле вестку... А можа — убачыць?! Гэта было б проста неверагодным шчасцем!

Калі ён адплюшчыў вочы і ўбачыў над сабой мілы твар у залатой кароне кос, то падумаў — трызненне... Толькі дотык прахалоднай вузкай далонькі да ягонага лба пацвердзіў: не сон... Андрусь схапіў дзівосны прывід за плечы: Анэля... Ён быў такі шчаслівы, што нават не ўсвядоміў, як яна змянілася, як схуднела, нібыта згасла.

— Зараз тут будуць жандары.

Ён не мог уразумець сэнсу слоў.

Яна цярпліва, глухаватым ад безнадзейнасці голасам паўтарыла:

— Цябе зараз арыштуюць. Нашто ты сюды прыйшоў?

Андрусь хацеў прытуліць яе да сябе, але яна адхінулася. Мілая баязліўка!

— Анэля! Не бойся, Валянцін не такі... Ён не выдасць. Які ж ён малайчына, што паслаў па цябе!

Анэля неяк дзіўна засмяялася:

— Па мяне не пасылалі. Я тут жыву.

— Жывеш? Чаму?

Прадчуванне чагосьці непапраўнага варухнулася болем, але Андрусь адагнаў здрадлівае адчуванне — яшчэ крыху падоўжыць шчасце...

— Памятаеш, тады, калі ты прыйшоў на мой дзень народзінаў... Валянцін ведаў, што ты мусіш наведаць мяне. Жандары прыходзілі па тваю душу.

— Але ж Валянцін...

Анэля спыніла яго:

— Ён затрымаў мяне ў вітальні і сказаў, што мае загад цябе арыштаваць. І ёсць толькі адзіны спосаб цябе выратаваць — я павінна даць слова гонару, што стану ягонай жонкай.

Андрусь схаладнеў, а думаў, што халадней, чым у той лагчавіне, яму ўжо ніколі не будзе.

— І ты...

— Я — жонка Валянціна. Ён стрымаў сваё слова. Я — сваё...

Як балюча... Андрусь зайшоўся ў прыступе кашлю, і Анэля кінулася падаць яму цёплае пітво на зёлках, што стаяла на тумбачцы ў галавах ложка. Эгаістычнае пытанне пакінутага мужчыны, ад якога самому стала сорамна.

— Ты... шчаслівая?

— Паглядзі на мяне.— Андрусь зірнуў у яе шэрыя вочы, абведзеныя чорнымі ценямі, і аж скалануўся ад вострага жалю.

Ён схапіў жанчыну ў абдоймы, цалаваў яе валасы, бровы, мілы, каханы тварык — і яна нібы прачыналася ад страшнага сну.

— Ты павінна сысці ад яго! Не думай больш пра мой лёс! Мая воля і жыццё не вартыя тваёй пакуты, любая, бо яна — і мая стакроць! І не забывай, я — вой!

Анэля захінула твар рукамі, і Андрусь пачаў цалаваць яе тонкія пальцы, асушваць вуснамі слёзы, што каціліся па іх...

— Сысці... Не было дня, каб я не марыла пра гэта... Бацькі з радасцю прынялі б мяне назад. Не падумай, што ён мяне мучыць. Ён па-свойму добры чалавек і кахае мяне... Па-свойму... «Сцерпіцца-злюбіцца...» Якая лухта! Гэткі прыгажун, асілак, павятовыя паненкі млеюць, а пагладзіць па скуры — дрыжыкі агіды. Быццам датыкаецца жаба. Але я дала слова гонару.

Андрусь адчайна пакруціў галавою:

— Ты дала слова гонару, што будзеш яго жонкай узамен за маю волю. Але ж тут жандары, мяне арыштуюць, і ты вольная! Хіба не так?

— Не так, дарагі сябра!

Дзверы расчыніліся, і ў пакой увайшоў Валянцін. Як заўсёды, упэўнены, мужны. Андрусь усхапіўся і стаў насупраць — прыгорблены, аброслы, намагаючыся здушыць кашаль... Двубой позіркаў скончыўся нічым — Валянцін відавочна не адчуваў за сабой ніякага граху. Гэтак жа ён калісьці адбіраў упадабаныя цацкі ў сябрукоў, адбіраў — сілаю, моўчкі, зацята і ніколі не прасіў даць пагуляць.

— Андрэй, табе лепш прылегчы. Сёння ўвечары прыйдзе лекар, чалавек надзейны. А ты, Ангеліна, ідзі ў свой пакой.

— Я застануся з ім,— голас жанчыны гучаў выклікам.

Валянцін сціснуў зубы, памаўчаў, відаць, каб суняць гнеў.

— Вы дарэмна хвалюецеся. Ніхто не арыштуе цябе, Андрэй. Ты ў бяспецы. Вылечышся і з’едзеш — я дапамагу табе выбрацца за мяжу.

Андрусь глядзеў у твар Анэлі, у якім лучыліся радасць і пакута, і адчуваў сябе нягоднікам.

Жанчына недаверліва перапытала мужа:

— Але чаму тут жандары?

— Ім данеслі, што падазроны чалавек рушыў у бок маёнтка. Ты не быў надта асцярожны, Андрэй,— голас Валянціна гучаў халодным дакорам.— Але зараз я выйду да іх і скірую ў іншы бок. Там паручнік, мой добры знаёмца... Ніякай рызыкі, ніхто не паверыць, што я — здраднік,— у голасе гаспадара адчувалася сапраўдная горыч.

Валянцін мякка ўзяў жонку за плечы: — Пойдзем... Хвораму трэба супакой.

Анэля пакорліва апусціла галаву:

— Добра... Як скажаш...

Голас яе прашалясцеў, як сухое лісце. Яна павольна рушыла да дзвярэй. Андрусь сціснуў кулакі. Закладніца... Ён змагаўся, каб здабыць свайму народу волю — і зрабіў каханую жанчыну рабыняй ворага. І яна будзе цярпець і зміряцца, яна — такая гордая, жыццярадасная калісьці! Хто ж ён сам пасля гэтага?

За акном чуліся грубыя галасы, смех, тупатанне коней. Андрусь падабраўся да акна. Сапраўды, конны атрад... Два афіцэры... Якраз як два гады таму. Вось упэўнены голас Валянціна. Андрусь памацаў пад падушкай. Пісталет у яго не адабралі — ён жа не быў палоннікам. І само сабой зразумела, што ён не мог страляць у гаспадара дома, які даў яму прытулак.

Андрусь расчыніў акно і зваліўся на прэлую лістоту. Адпоўз, хаваючыся за кустамі. Няхай думаюць, што ён блукаў недзе ля дому. Рука здрадліва дрыжэла, і ён стрэліў амаль не цэлячыся. Адзін з жандараў схапіўся за плячо...

Бунтаўшчык быў знясілены і меў усяго адзін набой. Далёка не ўцёк. Інсургента звязалі і паклалі на калёсы, пазычаныя ў гаспадара. Гаспадар быў нібыта зусім пераляканы — відаць, не чакаў, што такі госць бадзяецца проста пад вокнамі. Пані, добрая душа, вынесла для арыштаванага цёплую адзежу. Няхай... Мусіць жа злыдзень дажыць да вісельні.

— Нашто ты гэта зрабіў?

Яна не плакала — вочы былі зусім сухія, з гарачым бляскам.

— Цяпер ты вольная... Сыходзь ад яго. Абяцаеш?

— Любы...— Яна пацалавала яго збіты твар.— Ты мусіш ведаць... У цябе ёсць сын.

— Што?!!

— Так. Твой сын. Падобны на цябе, бялявенькі і вясёлы. Завуць — Кастусь.

— Любая...— Андрусь, звязаны, хворы, збіты, захлынаўся ад шчасця. Колькі ў ім, аказваецца, яшчэ сілы, дзякуй, Госпадзе!

— Я сыду. Але Валянцін не аддасць мне сына.

— Я вярнуся,— Андрусь сказаў гэта нечакана цвёрда.— Я вярнуся па яго і па цябе.

Дождж лінуў на чорную зямлю, быццам аплакваючы яе зімовае паміранне. І раптам у нізкіх, пахавальна змрочных хмарах бліснула позняя маланка — нібы вышчарбленая ў слаўных бойках шабля, і адлюстравалася ў шэрых вачах жанчыны, што нерухома стаяла ля брамы і глядзела на пустэльную дарогу.

У пансіёне для хлопчыкаў, дзе сярод іншых вучыўся дванаццацігадовы сын стацкага саветніка Валянціна Р. Канстанцін, панавала строгая дысцыпліна. Частка навучэнцаў утрымлівалася за казённы кошт, і амаль для ўсіх вымалёўвалася адна перспектыва — папоўніць рады царскага войска. Таму асаблівая ўвага ўдзялялася выхаванню вернападданніцкага духу і цялеснай моцы. Паўночна-Заходні край, які толькі што перажыў бунт, меў патрэбу ў здаровых маладых сілах, што будуць спрыяць грамадзянскай згодзе.

Па праўдзе кажучы, стацкі саветнік мог бы для свайго адзінага сына выбраць лепшы пансіён. Тым больш Кастусь Р., бялявы разумны хлопчык, асаблівыя поспехі рабіў у вывучэнні моў, а за парушэнні дысцыпліны досыць часта трапляў у карцар. Бацька рэдка клікаў сына на вакацыі дадому. Дзіва што — аўдавеўшы, ажаніўся другі раз. Хлопчык зрэдку наведваў толькі матчыных бацькоў — за сцены пансіёна выходзіць не дазвалялася. Шмат часу Кастусь праводзіў у бібліятэцы. Новы настаўнік нямецкай мовы, паважаны чалавек з зусім сівымі валасамі і жылістай фігурай бывалага падарожніка, асабліва адзначаў здольнасці Кастуся, нават дадаткова з ім займаўся. Таму нікога не здзівіла, што ён вызваўся праводзіць вучня да ягоных сваякоў.

Кастусь Р. і настаўнік-немец больш у пансіёне не з'явіліся. Следства выявіла, што мужчына і хлопчык, паводле пашпартоў — бацька і сын, перасяклі мяжу Расейскай імперыі на мяжы з Прусіяй. Пайшлі чуткі, што немец быў зусім не немец, а італьянец, адзін з галаварэзаў Гарыбальдзі, і ў свой час насіў славутую чырвоную кашулю. Казалі яшчэ, што ён ці то карбанарый, ці то масон і хлопчыка звабіў для нейкіх магнетычных вопытаў, і незразумела, адкуль у яго бліскучыя рэкамендацыі і неаспрэчна высокая адукаванасць.

Стацкі саветнік Валянцін Р. не праявіў зацікаўленасці ў вышуку сына. Падрабязнасці справы былі строга засакрэчаныя.

## Кветка вераніка

Сцябло кветкі было такім кволым, што здавалася, яму не ўтрымаць бутона. Той хіліўся долу, нібыта ў цяжкім задуменні — ці варта аддаваць апошнія сілы, каб падарыць свету яшчэ адну драбніцу чыстае красы. Але аднойчы, на досвітку, развінуліся маленечкія сінія-сінія пялёсткі з танюткай белай аблямоўкай — нібыта ўсміхнулася дзіця.

Вінцэсь нават ведаў, як называецца гэтая кветачка,— вераніка дуброўная. У вільготным прыцемку пад старой віхлой у іхнім парку, дзе яны з Алесем і Валянцінам гулялі ў высакародных разбойнікаў, такіх кветак расло шмат... Але тут, між камянёў турэмнага акна, у выбоіне ля жалезнага прута рашоткі...

Сінявокае цуда! Тым больш бясконцыя чатыры месяцы, пакуль доўжылася следства, Вінцэсь правёў у цёмнай падвальнай камеры. Святла было адмерана — абы вязень не аслеп. Нясмелы промень на якую гадзіну прабіраўся ў каменны мяшок праз маленечкую адтуліну наверсе, якая аніяк не заслугоўвала наймення акна.

Шчасце — гэта калі ў адной кветцы табе адкрыецца багацце ўсіх кветак свету.

Вінцэсь крануў зялёны круглы лісцік з далікатнымі зубчыкамі, і падалося, што той у адказ ласкава пагладзіў палец чалавека.

Віхлу ў парку новыя гаспадары маёнтка, напэўна, загадалі спілаваць — скурчаная, сівая ад часу, з чорным дуплом, у якім яны хавалі самаробныя лукі. А галінкі схіляюцца да самай зямлі, утвараючы сапраўдны будан. Неяк на летніх вакацыях — яму было гадоў дзесяць, братам крыху больш — нават зладзілі пад той віхлою, начытаўшыся прыгодніцкіх раманаў, «таемнае брацтва» «Чырвонай рукі» і пакляліся змагацца з несправядлівасцю і абараняць бязвінна пакрыўджаных, асабліва прыгожых жанчын.

Няма больш таго брацтва. Алесь загінуў яшчэ на пачатку паўстання, калі купку інсургентаў абкружылі на ўскрайку пушчы жандары. Валянцін прысуджаны да смяротнага пакарання як кіраўнік атрада. Ён, Вінцэсь, самы малодшы з братоў, пойдзе ў Сібір.

Вінцэсь здагадваўся, каму цяпер належыць іх маёнтак. Вернападданаму, які асабліва выявіўся ў справе задушэння правінцыйнага «бунту». І ў абясшкоджванні былых гаспадароў — дзяржаўных злачынцаў.

Так што віхлы хутчэй за ўсё няма...

Звіняць званы... Быццам з неба сыплецца золата. Учора быў Вялікдзень. Хрыстос уваскрос... Вінцэсь мімаволі ўсміхаецца — і ў Сібіры ёсць сонца... І не загінула Радзіма, у якой яшчэ шмат сінявокіх веранік і старых віхлаў.

Загрукаў замок на дзвярах, нібыта цяжка ўставаў з магілы прывідны рыцар у ржавых латах.

— Анталевіч, да вас нявеста. Дзеля свята дазволена спатканне. Збірайцеся...

Хоць ніякай нявесты і нават знаёмай дзяўчыны, якая магла б прыйсці пад гэтым званнем, у Вінцэся не было, хлопец не здзівіўся. Ён ведаў: так робіцца досыць часта. Жанчыны з сем'яў, дзе падзялялі ідэалы разбітага паўстання, наведвалі зняволеных, да якіх не было каму прыйсці, называючыся нявестамі. Былі нават выпадкі — Вінцэсь ведаў дакладна,— што такія наведванні канчаліся сапраўдным каханнем і шлюбам і маладая прыгажуня ехала за мужам у высылку.

Калісьці і яму ўсміхаліся прыгажуні...

Вінцэсь успомніў балі ў Віленскім універсітэце, гасцёўню пані М*, дзвюх паненак-блізнючак, што жылі ў суседскім маёнтку, дзе ён з братамі былі частымі гасцямі... Госпадзе, як гэта далёка! Нібыта іншы чалавек — прыгожы, спрытны, элегантны — смяяўся, жартаваў, запрашаў на вальс, гуляў у фанты...

Калі ў пакоі для спатканняў Вінцэсь пабачыў скрозь краты постаць дзяўчыны ў цёмна-зялёнай сукенцы з бялюткім каўнерыкам і капелюшыку з густым вэлюмам, стала горача. Вось дзіва... Ён ніколі раней так не губляўся перад дзяўчатамі. А тут яшчэ ўпершыню падумаў пра ўласны выгляд... Вядома, яму дзеля спаткання прынеслі касцюм, кашулю, далі магчымасць пагаліцца — турэмнаму начальству зусім не даспадобы паказваць шаноўнай публіцы сваіх падапечных у аблiччы здзічэлага Рабінзона Круза. Але год турмы нікога не красіць... А да гэтага яшчэ два гады жыцця па лясных лагерах, бойкі — шаблі супраць ружжаў, выпадковыя начлегі, уцёкі — хмызнякі, якія балюча б'юцца пругкімі галінкамі па твары, быццам папракаюць, што ўцякаеш; дрыгва, якая, магчыма, хавае ў сваёй бездані бурштынавы палац або нованароджаную крыніцу, а можа схаваць і цябе; сумёты па грудзі — нібыта ты памёр і ідзеш праз аблокі да Брамы на той свет...

Дзяўчына адкінула з твару вэлюм, і Вінцэсь ледзь стрымаў уздых расчаравання. Вядома, ён не спадзяваўся, што прыйдзе прынцэса з юначых сноў... Але ўсё-ткі...

Нявеста была непрыгожай. Рудыя валасы, тонкія рысы невыразнага, у рабацінках, твару, вочы апушчаныя — быццам баіцца на яго і глянуць... Ды яшчэ адчайна чырванее — аж рабацінкі зліваюцца са скурай. Не, гэта не прынцэса, гэта ў найлепшым выпадку фрэйліна прынцэсы — стаіць са срэбным імбрычкам для кавы па левую руку пані, чакаючы загаду.

Але ж і ён, Вінцэсь, знайшоў час быць пераборлівым!

Вязень як мага больш ветла ўсміхнуўся наведніцы:

— Ну, дарагая нявеста, давайце ж пазнаёмімся бліжэй!

Рудая дзяўчына падняла вочы... І быццам заззялі дзве сінія зоркі... Ці сінія кветкі. І валасы ў яе не рудыя... Яны залатыя, як у ірландскай Ізольды.

— Гэта вам...— Госця працягнула праз рашотку акуратны скрутак у падаруначнай паперы з залацістымі херувімчыкамі, перавязаны белай атласнай стужкай.

Жандар, які сумаваў у дальнім куце пакоя, не зварухнуўся. Вінцэсь зразумеў, што змесціва скрутка ўжо правяралі.

— Дзякуй... Але як вас усё-ткі зваць?

— Вераніка... І... я, пан Вінцэсь, шмат пра вас ведаю. Вы нават не здагадваецеся, як шмат...

— Ад каго, калі не сакрэт?

Дзяўчына зноў зачырванелася:

— Ад... ад агульных знаёмых...

Вінцэсь не перапытваў. Яму, вязню, не пра ўсё могуць распавядаць, што дзеецца на волі. Ён глядзеў на дзяўчыну, і яна ўсё больш і больш падабалася яму. Можа, сястра кагось з паплечнікаў? Хто з яго знаёмых быў такі руды? А можа, яна ведала яго, Вінцэся, ужо даўно, употайкі здаля назірала за ім, бліскучым маладым чалавекам. Але хіба тады ён звярнуў бы ўвагу на гэтую сінявокую рудую мышку?

— Зараз праверым, ці праўда вы шмат пра мяне ведаеце... Чулі пра брацтва «Чырвонай рукі»? — таямнічым шэптам запытаўся Вінцэсь.

У рудзенькай аж вочы скругліліся ад спалоху.

— Пятнаццаць год таму, пад старой віхлой...

Ён умеў расказваць. А яна ўмела слухаць. Хутка ім здалося, што яны знаёмыя ўжо даўно-даўно, і свет турмы з яе катавальнямі і каменнымі мяшкамі, вошамі і гнілымі сеннікамі падаваўся нерэальным і недатычным іх.

На развітанне яна працягнула яму яшчэ нешта, загорнутае ў хустачку...

Велікоднае яйка... Чырвонае, з краналыным папяровым зайчыкам, прыклееным збоку...

— Хрыстос уваскрос.

— Сапраўды ўваскрос.

Яны тройчы пацалаваліся праз рашотку. Яе вусны былі цёплыя і пяшчотныя, як сагрэтыя сонцам пялёсткі шыпшыны.

Вінцэсь схамянуўся:

— У мяне таксама ёсць для вас падарунак...

І дастаў з кішэні сурдута маленькую сінюю кветку.

— Яна ваша цёзка... Вераніка дуброўная... Дзякуючы вам, яна патрапіць на волю.

Дзяўчына паглядзела на вязня роспачнымі вачыма, якія ад слёз зрабіліся яшчэ сінейшымі, і схавала кветку ў складзеных далонях — нібы кволае птушаня.

— Спатканне закончана!

Якое, аднак, мёртвае паветра ў яго камеры... Здавалася б, акно незашклёнае, холад часам сабачы, а турэмны пах невынішчальны.

Вінцэсь задумліва глядзеў у сіняе неба, перакрэсленае рашоткай. А калі б ён прапанаваў госці стаць сапраўднай нявестай? Ці адмовілася б? Прынамсі, верыцца, што не пасмяялася б над дзёрзкасцю амаль незнаёмага маладога чалавека без будучыні.

Вядома, гэта глупства... Мары... Але калі яна прыйдзе наступны раз... На катаргу яго адправяць толькі праз месяц...

Яна больш не прыйшла.

Рудзенькая дзяўчына, сцягваючы з рук пальчаткі колеру французскай зеляніны, забегла ў кабінет не пастукаўшыся — быццам ветрык заляцеў. Паважанага выгляду сівавалосы чалавек у модным персідскім халаце адклаў на столік кніжку, прыўзняўся з фатэля насустрач гарэзліваму стварэнню.

— Веранічка! Прыехала! Ну, як у цёткі гасцявалася?

Дзяўчына ўсхвалявана засакатала:

— Тата, цяпер светлая Сядміца! У гонар свята паабяцай, што выканаеш маю просьбу! Паабяцай, калі ласка!

Сівагаловы пан жартоўна ўздыхнуў:

— Ну, ты ведаеш, я не магу табе адмовіць.

— Не знішчай старую віхлу там, у парку, ля сажалкі, дзе ты хацеў пабудаваць альтанку!

Бацька здзіўлена падняў бровы:

— Сапраўды, нечаканая просьба!

Вочы дзяўчыны бліснулі, як дзве сінія маланкі.

— Ты даў слова... Лічы, што гэта мой капрыз. Тое дрэва абуджае ўва мне рамантычныя згадкі.

Стары пан камічна развёў рукамі:

— Ну, раз абяцаў...

— Дзякуй, татачка!

Дзяўчына імкліва пацалавала бацьку ў шчаку і гэтак жа імкліва рушыла ў свой пакой. Там яшчэ было не зусім утульна — пасля засялення давялося мяняць абіўку на сценах, закупляць мэблю. Папраўдзе, цяперашнім гаспадарам хацелася змяніць тут усё да драбніц.

Але віхла няхай будзе...

Дзяўчына дастала з рыдыкюля насоўку, разгарнула... Кволая кветка зусім звяла. Яе пялёсткі пабляклі і больш не нагадвалі нічые вочы. Хіба выцвілыя вочы старога...

Дзяўчына нейкі час моўчкі глядзела на кветку. Потым падышла да кніжных паліц, узяла кнігу з надпісам на французскай мове: «Аляксандр Дзюма. Граф Монтэ-Крыста», уклала між старонак вераніку дуброўную і зноў паставіла важкі том на месца.

## Лікантроп

Ствалы высокіх карабельных соснаў — зверху бурштынавыя ад сонца, а пачынаючы з сярэдзіны цёмныя, быццам пастарэлыя — і ля самай зямлі кантрасна да юнай пяшчотнай скуры вяршыні пакрыты сівым змрочным мохам. Нават пры невялікім ветры дрэвы пагойдваюцца, сутыкаючыся шырока раскінутым голлем. Таму, хто глядзіць на іх з акна маёнтка Варгуны, здаецца, што сосны ідуць проста на яго, нязграбныя і адначасова страшныя, ідуць на нягнуткіх сваіх нагах, нахіляючыся з боку на бок, і вось-вось праб'юць тонкае шкло, упраўленае ў свінцовыя рамы, жорсткім, як дзіды, голлем...

Але чалавек у маёнтку расчыняе акно тонкай рукой у пярсцёнках і крычыць, перагінаючыся ўніз з вышыні трэцяга паверха:

— Грынь! Сёння палявання не будзе! Замкні сабак! І не выпускай, пакуль не скажу...

Унізе адклікаюцца грубым незадаволеным голасам:

— Як сабе хочаш, пане...

Сабачы абураны віскат сціхае.

Чалавек рэзка адыходзіць ад акна, захінае на грудзях аксамітны халат, быццам ад холаду, і ўсё ходзіць па пакоі, і стогне, і горка пасмейваецца, і не зачыняе акно... Ізноў, ну чаму ізноў... Божа мой, Божа літасцівы...

Багата, нязвыкла багата жывуць у гэтай вёсцы мужыкі. Хаты крытыя не саломай, не гонтаю — ладнай манастырскай дахоўкаю, стрэхі — «у закот», і ў кожным двары — буслянка... Пан паручнік аглядаецца і назірае свой паныла атрад — дзесяць натомленых жандараў на запырсканых гразёю конях... Прынамсі, дарогі тут такія ж, як і ў Расеі. Але — не Расея... Ліцвіны, беларусы, цёмны, забабонны люд. Яны хаваюць у каморах драўляных каталіцкіх святых і ў «чырвоныя» дні мажуць іх вусны мёдам. За праваслаўнымі абразамі ў іх схаваны пук святаянніку, сабранага на паганскае Купалле, і абавязкова вісіць вянок часнаку — ад нячыстай сілы. А пад вянцом кожнай хаты, які скіраваны на ўсход, быў некалі закапаны жыўцом певень — няшчасны сонечны вястун...

Пан паручнік грэбліва крывіць вусны. Чужое... Але ж усё навокал можа ў будучым належаць яму, вернападданаму рускаму дварaніну...

Апошняе восеньскае сонца шчодра залоціць Паўночна-Заходні край імперыі. Над дарогай самкнуліся шаты соснаў, карункавыя мігатлівыя цені ляглі пад ногі коней. І гэты шум — быццам хвалі... Крыху ўяўлення — і поўнае адчуванне, што едзеш па дне ракі з празрыстай, працятай сонцам вадою...

Вось, напэўна, і мяжа маёнтка. Двое мужыкоў у маленькіх ваўняных шапках — здаецца, яны называюцца магеркі — паварочваюць бервяно, што перагарадзіла дарогу, на дзвюх падпорках-рагулях... Напэўна, і самі гэтыя Варгуны — звычайны недагледжаны старасвецкі дом, крыху лепшы за хату заможнага селяніна... А ўладальнік — неадменна тыповы засцянковы шляхцюк, чыя пыха большая за дзіркі, што праела моль у яго век не вытрасаных прадзедаўскіх кілімах...

Сосны падступаюць, здаецца, да самых сцен дома... Але можна разгледзець, што будыніна вялікая, на тры паверхі, з урачыстай каланадай пры ўваходзе. Хаця, вядома, крыху запушчаная... Конь паручніка ўпарціцца, падымаючы цэлы фантан гразі капытамі, і дрыжыць... Што за морак напаў на коней? А тут яшчэ жудаснае сабачае скавытанне аднекуль з гаспадарчых прыбудоў сядзібы...

У вокнах вялікага пакоя для гасцей гасне чырвонае сонца (няўжо такі позні час?). Ля сцен нязграбная, аздобленая разьбою мэбля чорнага колеру, у якой нешта ёсць ад труны. І гэтая дружная завядзёнка мясцовых жыхароў ставіць печку ў бліжэйшым да ўвахода куце... Паручнік касавурыцца на абкладзеную бліскучай зеленаватай кафляй печку, і яму здаецца, што пузатыя голенькія херувімчыкі з куфлямі піва з кожнай кафлі пазіраюць на яго, павярнуўшы хітраватыя тлустыя тварыкі, і падміргваюць самым ганебным чынам. Паручнік чуе, як жандары за яго спінаю ўголас захапляюцца звярынымі галовамі, якія ўпрыгожваюць пакой. Зубры, туры, алені, ласі, мядзведзі, дзікі шчэрацца са сцен, пабліскваюць амаль жывымі, налітымі крывёю вачыма, здаецца, нават пагойдваюць вялізнымі рагамі...

Вяртаецца слуга — у сурдуце, з бакенбардамі і абразлівай важнасцю:

— Пан Леанард просіць прабачэння ў вельмішаноўнага панства, што па прычыне кепскага здароўя не можа спусціцца, каб сустрэць вас асабіста. Пан чакае вельмішаноўнае панства ў бібліятэцы...

Паручнік хмыкае: гаспадар, відавочна, перапалохаўся. Нічога. Падымемся самі, не цяжка...

Паручнік і трое жандараў ідуць за слугою наверх па драўлянай адпаліраванай лесвіцы. З двара далятае абрыдлае сабачае выццё і спалоханае ржанне коней.

У вальтэр’янскім утульным крэсле сядзіць вытанчаны, з кранутымі сівізною скронямі пан. На ім пунсовы аксамітны халат, аблямаваны цёмна-фіялетавай тафцяной палоскай, на нагах — турэцкія расшытыя пантофлі з задранымі насамі. Далікатная, у пярсцёнках рука адкладае пульхны томік... А казалі, што знакаміты паляўнічы...

— Даруйце, шаноўныя, што не ўстаю — раматуз.

Ад гэтага ветліва-раўнадушнага голасу і цвёрдага позірку шэрых насмешлівых вачэй чырвань кідаецца ў твар паручніку. Праклятыя напышлівыя шляхцюкі... Але пачакай, даражэнькі, паслухай

імператарскі загад: «За садзейнічанне мяцежнікам... Неданясенне на змоўшчыкаў... Падлягае арышту... Вобыск... Канфіскацыя маёмасці...»

Пан Леанард задумліва перабірае пышны чырвоны кутас на канцы свайго пояса... Што ж, госці прыехалі дакладна ў час...

— Мой дом і я ў вашым распараджэнні... Дазвольце толькі хвораму чалавеку застацца ў крэсле...

Тонкая рука зноў бярэ кніжку. Паручнік крыкліва аддае загады — аж голас зрываецца на хлапечы дыскант ад неўсвядомленай злосці на вытанчанага арыстакрата, які ўсё жыццё піў вунь з тых пераліўчатых парцэлянавых кубкаў — паручнік бачыў такія толькі ў тых сямействах, дзе на яго ніколі не глядзелі як на магчымага жаніха... Кволая на выгляд рука ў пярсцёнках сціскала гэтую стрэльбу з цудоўнай срэбнай гравіроўкай, і каралеўская здабыча — зубр — падыхала ля ног, што цяпер грэюцца ў расшытых сапраўднымі перлінамі пантофлях... Такі і на віселыню пойдзе з лёгкай пагардлівай усмешкай... На хвілю афіцэр адчувае сябе бездапаможным, загубленым разам з купкаю жаўнераў у чужых лясах і балотах, адкуль цэлы дзень хуткай язды да бліжэйшага мястэчка.

«Усё будзе маё!» — з'яўляецца з падсвядомасці радасная думка, і паручнік зноў набывае ранейшую ўпэўненасць і, пакінуўшы жандараў сцерагчы арыштаванага, ідзе камандаваць дзеяннямі астатняй часткі атрада.

У бібліятэку разам з сабачым скавытаннем пачынае далятаць гук разбітага посуду і жаночы віск.

Цямнее. У маёнтку запальваюць свечкі. Паручнік, спяшаючыся, складае пратакол вобыску. Заўтра зноў гразкія вераснёўскія дарогі, тужлівыя крыкі балотных птушак і на кожнай развілцы — страшны драўляны Ісус, раскрыжаваны на пахіленым негабляваным крыжы... А сёння ёсць нарэшце магчымасць пераначаваць у людскіх умовах, на пуховай пярыне, у велізарным панскім ложку пад казачным балдахінам... Пан Леанард сказаў, што праседзіць да раніцы ў бібліятэцы — з улюбёнымі кніжкамі... інтэлігентны чалавек. Дастаткова аднаго вартавога перад дзвярыма і двух — пад вокнамі...

Прынамсі, кухня тут вышэй ухвалы... Кухара ні ў якім разе не трэба звальняць.

Пан Леанард сядзіць у сваім утульным крэсле. За вокнамі хістаюцца цёмныя постаці соснаў. Калі вецер узмацняецца, яны сутыкаюцца не толькі галлём, але і ствaламі, і тады чуваць сухое

пастукванне дрэва аб дрэва. Раптам да звыклага паху старых кніжак далучаюцца тысячы розных пахаў і іх адценняў, нібыта да аднаго нягучнага інструмента — цэлы аркестр. Пан Варгун улоўлівае нават горкі пах пажарышча на месцы суседняга маёнтка.

Амаль адразу ж абвастраецца гукавое ўспрыняцце — мільёны гукаў — шоргаты, драпанні, стогны, шэпты, крокі — урываюцца ў адвыклы мозг, так што патрабуецца нейкі час, каб зноў авалодаць свядомасцю...

Пара... Пан Леанард бязгучна ўстае і дзьме на свечкі, што гарацы на круглым мармуровым століку. Запаноўвае цемра, але вочы набываюць нечаканую вастрыню зроку — усё навакольнае бачна зусім выразна, быццам у нейкай шэрай падсветцы. Цяпер пачынае страшэнна свярбець скура... Пан, спяшаючыся, развязвае пояс і скідае халат. Чырвоны колер аксаміту выклікае неадольнае раздражненне, і Варгун запіхвае скінутую адзежу ў ніжнюю шуфляду шафы.

Цела працінаюць нябачныя струмені энергіі, якая, здаецца, зыходзіць з поўні, што зазірае ў акно. Уся істота чалавека вібрыруе, напаўняецца моцай і вясёлым шалам. Неадольна хочацца ўстаць на карачкі... Магутны звярыны рык ірвецца скрозь сціснутыя зубы — ці іклы? Шыбы акна ціха разыходзяцца, упускаючы ноч. Унізе, у зарасніку язміну, відаць дзве ненавісныя белыя фуражкі...

З акна другога паверха маёнтка Варгуны на зямлю, укрытую кілімам першага лістабою, бязгучна саскоквае вялізны воўк з шэрымі вачыма, у цэнтры якіх гараць два жоўтыя агеньчыкі — як пялёсткі свечак...

Жудасна выюць сабакі, на стайні рвуць аброці ўспененыя коні, дворныя людзі, не кажучы ні слова, устаюць з ложкаў, пазяхаючы, вешаюць на дзверы і вокны сваіх пакояў звязкі часнаку і чартапалоху — цяпер ні ведзьма, ні ваўкалак не ўвойдзе; жагнаюцца і зноў кладуцца спаць, забабонныя, цёмныя, спакойныя...

На раніцу прыслуга доўга прыбірае дом, зусім не дзівячыся начному знікненню прыхадняў.

У бібліятэцы, ва ўтульным вальтэр'янскім крэсле, сядзіць пан Леанард Варгун. Чырвоны аксамітны халат перавязаны поясам з вялікімі бухматымі кутасамі, вытанчаная рука ў пярсцёнках перагортвае старонкі томіка лацінскіх вершаў, а за акном хістаюцца,

пагойдваюцца сосны, што ідуць да маёнтка і ніяк не наблізяцца да яго ўшчыльную...

— Грынь, рыхтуй сабак! Сёння ідзём на паляванне!

### Гайвароны

У парку вакол маёнтка Гайвароны даўно не гняздзіліся тыя крыклівыя чорныя птушкі, што калісь далі назву і маёнтку і навакольнай вёсцы.

Расказвалі, што колішні ўладар маёнтка, знелюбіўшы крылатых вяшчунак няшчасця, учыніў на іх такое спусташальнае паляванне, што нават іхнія нашчадкі захавалі насцярогу да праклятага месца.

Невядома, ці так яно было, бо пані, якой належаў маёнтак цяпер, не магла б пакрыўдзіць птушку.

Яна забараніла нават знішчаць кратоў — гэтых агідных сляпых звяркоў, што здольныя папсаваць найпрыгажэйшую клумбу, а яе — у форме складанага вензеля, падобную на кошык з кветкамі — так доўга ладзіў перад уваходам у дом стары немец-садоўнік. І доўга лаяўся на сваёй гергецкай мове, калі пані не дала спатоліць справядлівую прагу помсты. Падумаеш, «стварэнні божыя»!

Праўда, і клумба тая была не зусім дарэчы ў парку, па змрочных прысадах якога даўно не прахаджваліся вясёлыя госці, а цёмныя ліпы былі такімі старымі, што здавалася, вось-вось са стогнам сагнуцца, абапіраючыся аб чорную зямлю нязграбна выцягнутымі лапамі. Галене, дачцэ гаспадыні, часам думалася, што вароны не селяцца на гэтых дрэвах менавіта таму, што пабойваюцца ненадзейнасці такога апірышча для гнёздаў. Але не — безумоўна, усе знакі бяды былі звязаныя з тым днём, калі прыйшла страшная вестка пра братоў...

Галене было тады дзесяць год. Яна мала што памятала — галасы чужых людзей, гучныя, як удары пугай. Строгі твар маці, такі збялелы — што здаваўся незнаёмым. Нават голас — не пазнаць:

— Мужчыны ў нашым родзе не баяцца паміраць за радзіму.

І самавіты мужчына з чорнымі бакенбардамі, у ваенным мундзіры, вельмі важны і сярдзіты, чамусьці апускае вочы.

О, Галена ганарыцца сваёй маці! Самы яркі ўспамін — як яны разам апускаюцца на калені перад маленькім столікам з палаючымі свечкамі ў колішнім бацькавым кабінеце, і маці, паказваючы дагератыпы, гаворыць:

— Твой брат Генусь Вайтылаў... Харунжы... Расстраляны. Твой брат Янук Вайтылаў... Забіты ў бойцы пад Варкавічамі. Твой брат Алесь Вайтылаў...— Тут голас маці заўсёды ледзь адчувальна ўздрыгвае: — Сасланы ў Сібір, знік без вестак... Ніколі не забывай, яны — героі.

Так, і заўсёды дадавала пра бацьку — хаця памёр у сваім ложку, ад сардэчнай хваробы, каб меў найменшую магчымасць — таксама пайшоў бы ў бойку за сынамі.

Маці здавалася ў гэтыя моманты Галене незвычайна прыгожай. Сетка дробных зморшчын скрадваецца прыцемкам, і вочы таямнічыя, бы дно студні, у якую ўпала зорка. Яркія маленькія вусны горка падцятыя, бровы як зламаныя крылы... Смуглявая скура, дасканалы авал твару, цёмныя, перавітыя сівізной, быццам вытанчаным упрыгожаннем, валасы гладка зачасаныя пад чорны каптур... Сама Галена была зусім не такой. Праўда, цемнавокая і стройная, як маці, але... Нават прыслуга лічыла ейны загад як бы не канчатковым, пакуль не пацвердзіць пані. Галене споўнілася ўжо дваццаць чатыры — па мясцовых паняццях старая дзеўка. Нібыта маці і не была супраць таго, каб дачка займела сям’ю,— сама ж бясконца гаварыла пра Галеніных будучых дзяцей, якія мусяць захаваць памяць роду. Але і нічога дзеля ўладкавання лёсу дачкі не рабіла — здавалася, у маёнтку Гайвароны ўсталяваўся час, незалежны ад знешняга, і паважаліся толькі свае законы і свае прывіды. Абедзве гаспадыні хадзілі выключна ў жалобе. Вядома, што баляванняў — неабходных у доме з паненкай на выданне — і не прадбачылася. Дый і сціплыя сродкі не надта гэта дазвалялі. Шчасце, не канфіскавалі сам маёнтак і стары парк. У глыбіні душы Галена была перакананая, што прычынай гэткай паблажлівасці — павага, якую маці выклікала нават у заклятых ворагаў. Не, госці ў доме бывалі — але яны таксама жылі мінулым. Будучае ўвязвалася толькі з надзеяй на справядлівую помсту.

Галена не задумвалася пра свой лёс. Вядома, калі так здарыцца, што трэба будзе пакінуць Гайвароны — прычынай гэтаму стане толькі герой і пакутнік. Такі ж, як яе браты. А пакуль спраў хапала. Хаця б — клапаціцца пра тых, у каго няма нават абрабаванага маёнтка. У Гайвароны, не баючыся, заходзіў і сляпы лірнік, і гаманлівая цыганская чарада, і паломнікі, што крочылі па святых мясцінах, знаходзілі тут начлег і хлеб. Вось і цяпер... Дзяўчына заспяшалася да дома па цёмнай прысадзе, раскідваючы лёгкімі крокамі апалую

лістоту, ужо не залатую, а ржавую, быццам высахлая кроў,— перад ганкам бачыліся дзве шэрыя постаці, і нават здалёк у іх адчувалася асаблівае змірэнне, уласцівае тым, хто жыве з чужой літасці.

Маці ўжо стаяла на ганку. Дакорліва зірнула на дачку. Чаму Галена так і не перастала адчуваць ад такіх позіркаў пякучую хвалю сораму — рыхтык як у дзяцінстве, нават калі правіна была зусім нязначная?

Паломнікі ішлі з Жыровічаў, ад цудатворнага абраза Маці Божае. Сівенькі дзядок увесь свяціўся нядаўнім далучэннем да цуда — здавалася, што кавенька ў яго руцэ дрыжыць таксама ад узрушэння. Стары бясконца прамаўляў словы ўдзячнасці і малітвы слабым, бы кепска нацягнутая струна, голасам, і здавалася, нібыта ён размаўляе на птушынай мове. Дзед Галене спадабаўся — у яго змірэнні не было ні прыніжанасці, ні сялянскай хітрынкі. Не было іх і ў другога госця. Галена вырашыла чамусьці, што той былы жаўнер — нават жахлівая худзізна не папсавала дарэшты высокую плячыстую паставу, а праз левую палову твару цягнуўся пачварны шнар — падобна, што ад шаблі, ад чаго куточак вока быў адцягнуты ўніз. І рукі ў яго былі не сялянскія — з тонкімі пальцамі. Хоць паломнік яшчэ малады, але доўгія валасы і барада напалову сівыя. Вочы цёмныя, але гэткія ж празрыстыя, дабрэнныя, як у дзеда. Як і належыць паломнікам, абодва ўвешаныя абразкамі і ладанкамі. Маладзейшы госць маўчаў. Толькі калі сядаў за стол у пакоі для чэлядзі, пад яго вопраткай нешта грукнула... Зброя?! Але каўнер кашулі трохі расхінуўся, Галена ўбачыла ланцуг, цёмныя шнары... І зразумела, што госць носіць вярыгі. Чамусьці ёй зрабілася непрыемна ад гэтага адкрыцця, і дзяўчына сышла ў свой пакой.

Восеньскія цёмныя вечары цягнуцца доўга, вельмі доўга... Нават калі запаліць камін і разгарнуць дасланы з апошняй поштай раман — шчымлівае пачуццё закінутасці, загубленасці ў бясконцай восеньскай цемры апаноўвае душу невымоўным жалем. І калі ў доме запальвалі свечкі, маці запрашала ў свой пакой гасцей — кім бы яны ні былі... І ўважліва выслухоўвала сто разоў чутыя навіны ці малітоўныя песняспевы... Так, і яшчэ абавязкова пыталася, што госці ведаюць пра братоў Вайтылавых. Звычайна пахаджане былі папярэджаныя пра такі інтарэс і адказвалі нешта накшталт: «О, гэта героі! Волаты!» — і пані ўцірала шчаслівую слязу. Калі ж нехта не ведаў пра братоў-герояў, гаспадыня сурова падціскала вусны і трацiла інтарэс да

прыхадня. І ейная маўклівая пагарда была горшай за крык ці аплявуху.

Высокае груваісткае крэсла, у якім сядзела пані Вайтылава, належала яшчэ іх продку, легендарнаму Вайтылу, мечніку князя Вітаўта, які і заснаваў маёнтак на землях, падараваных за верную службу. Дрэва ад часу зрабілася зусім чорнае, абіўку мянялі некалькі разоў — цяпер гэта быў зеленкавата-залацісты габелен. Але мядзведжая галава, частка герба Вайтылавых, усё гэтак жа пагрозна шчэрылася са спінкі. Сённяшнія госці стаялі нават не на сярэдзіне пакоя, а ў парозе — недарэчныя постаці ў шэрым радне на фоне паліраваных драўляных панэляў сцен. «А маці пастарэла...» — нечакана падумала Галена, якая сядзела справа ад матчынага крэсла на зэдліку са сваім вышываннем,— чырвоныя гронкі арабіны на залацістым шоўку. Так, маці пастарэла — дадалося сівізны, і авал твару ўжо не такі дасканалы, і паглыбіліся горкія зморшчыны ад крылля носа да куточкаў вуснаў.

Старэйшы з гасцей прамаўляў менавіта так, як чакала гаспадыня.

— Прытулі, Госпадзі, чыстыя душачкі загінулых воінаў у сваіх лепшых церамах завоблачных, бо былі яны воямі магутнымі і жыцця не шкадавалі дзеля бліжніх сваіх... І кроў іхняя на святым-белым Алатыр-камені, а слава іхняя на ўсіх пляцах звонам-гудам...

Другі госць упарта маўчаў, і Галене рабілася ўсё больш і больш няёмка ад позіркаў яго цёмных, глыбокіх, як студня, вачэй. Праўда, збольшага паломнік глядзеў у старанна наваскаваную, як было прынята ў гэтым доме на працягу стагоддзяў, падлогу.

— А ты, чалавеча, што можаш сказаць пра вояў з гэтага дома?

Паломнік падняў галаву:

— Вашы сыны верылі ў тое, за што змагаліся. Вера многае выкупляе.

Пані неўразумела прыўзняла бровы:

— Выкупляе? Што ты вярзеш, мужык?

Госць, аднак, не апусціў вачэй і працягваў тым жа спакойным, нават адсланёным голасам:

— Калі вядзецца вайна, гінуць не толькі воі... І не толькі вінаватыя. Той, хто ўзяў меч, мусіць быць гатовы адказваць за пралітую кроў. Асабліва калі гінуць тыя, хто верыў табе.

Голас пані быў халаднейшы за мокры вецер, які стукаўся ў шыбы.

— Якое права маеш ты гаварыць такое?

Паломнік нахіліў галаву:

— Я ваяваў.

Голас пані памякчэў:

— Ты, відаць, моцна пакутаваў. Але хіба ты збіраўся аддаць жыццё за нешта благое? Або цябе гвалтам прымусілі ўзяць зброю?

Паломнік ледзь заўважна ўсміхнуўся ў бараду:

— Ніхто не змог бы прымусіць мяне стаць воем, як нельга прымусіць пакахаць. Я верыў у тое, за што пайшоў на смерць. Але я занадта мала ведаў пра жыццё і смерць. І нічога не ведаў пра Таго, хто ўладарыць над жыццём і смерцю, бо Яго не было ў маім сэрцы, апантаным юнацкай прагай славы.

— Цяпер ты паразумнеў? — у пытанні была не шкадоба, а лёгкая пагарда.

Вочы госця былі зусім ясныя.

— Розум — ненадзейны правадыр таму, хто шукае шлях да Госпада. Гэта гардыня, ланцуг, які прывязвае чалавека да ягоных мерцвякоў і не дае ўзыходзіць любові да ўсяго Божага свету. У Бібліі сказана — няхай мёртвыя хароняць сваіх мерцвякоў. Малітва мацней ведаў і зброі. Я проста навучыўся маліцца. За памерлых герояў. І за ворагаў.

Пані амаль зласліва адвярнулася:

— Як хрысціянка, я не магу адпрэчыць сілу малітвы.

Галена адчула, што патрэбна ўмяшацца,— маці магла зазлаваць усур'ёз.

— Раскажыце пра свае падарожжы.

Дзядок удзячна пачаў гаманіць пра святыя мясціны, дзе давялося пабываць, пра добрых людзей, што паспрыялі ў дарозе, як і яе мосць пані Вайтылава. Вось мінулай ноччу іх прытулілі ў доме шаноўнага пана Гаеўскага, што за некалькі вёрст адсюль, і дачка пана Гаеўскага перадала ахвяру на свечку да абраза Смаленскай Маці Божае, і, вядома, яны гэтую свечку пастаяць і памоляцца за маленькага паніча, які пакутуе на хваробу горла...

Пані, не слухаючы далей, узнялася і моўчкі пайшла ў апачывальню.

Пакаёўка, скіроўваючыся за гаспадыняй, злосна прашыпела паломнікам:

— Гэць адгэтуль. Разбалабоніліся. Ідзіце ў гасцявую, і каб раніцай духу вашага не было, гіцлі.

Дзядок разгублена пераступіў з нагі на нагу, не разумеючы, з чаго ўгнявалася пані, перахрысціўся і сышоў. Малады паломнік нейкі час

глядзеў на дзверы, за якімі знікла гаспадыня, потым зноў неяк асабліва ўсміхнуўся і, не выказваючы ні здзіўлення, ні прыкрасці, таксама павярнуўся, каб сысці.

— Пачакайце!

Галена чамусьці сказала гэта па-французску. Але госць спыніўся, на імгненне застыў у дзвярах, нахіліўшы галаву. Потым зірнуў у твар дзяўчыне.

Галена зноў адчула нязвыклую няёмкасць:

— Слухай... Ты... вы не павінны крыўдзіцца на маці. Проста той пан, у якога вы спыняліся, нядобры чалавек. Ён... ягоная частка віны ў тым, што мае браты загінулі.

— Я ведаю пра гэта,— ціха прамовіў госць.— Не турбуйцеся. Мяне нельга пакрыўдзіць. Ноччу я буду маліцца за гаспадыню гэтага дома.

Ён яшчэ раз дзіўна зірнуў на яе, быццам жадаючы запомніць нешта важнае. Дзяўчына раптам усвядоміла, які ён гожы — нават з гэтым пачварным шнарам і ссівелымі доўгімі валасамі, са сваёй худзізнай і ў лахманах... Прыгожы, як вызубраная, пазбаўленая аздабленняў зброя,— бо прыгажосць улітая ў сталь, з якой яе скавалі.

Галена глядзела, як ён спускаецца па лесвіцы, лёгка кратаючы драўляныя парэнчы тонкай рукой. Яна бачыць яго апошні раз...

Лампада ледзь асвятляла невялікі пакойчык, падобны на келлю. Перад абразамі ўкленчыла постаць...

— Прабачце, я хацела толькі запытаць...

Галене давялося паўтарыць свой зварот яшчэ раз, гучней, рызыкуючы пабудзіць дзеда, які пахропваў дзесьці за сцяной, у сумежным з малельняй пакоі для падарожных. Госць падняўся, перахрысціўшыся, нетаропка падышоў.

— Я вас слухаю...

Нават не здзівіўся! Нібыта жыве ў нейкім іншым свеце, і падзеі гэтага не могуць узрушыць яго.

Дзяўчыне з цяжкасцю ўдалося падабраць словы. Яна здагадваецца, што госць мае незвычайную біяграфію, ён не з мужыкоў — гэта відаць, прабачце. У тым, што ён сёння гаварыў, ёсць нейкая дзіўная, незразумелая ёй праўда, адрозная ад той праўды, на якой выхоўвалі яе самую. На жаль, ёй няма з кім размаўляць пра такія... філасофскія, не пасуючыя дзяўчыне матэрыі.

— Вы сказалі, што мёртвыя павінны хаваць сваіх мерцвякоў. А ў гэтым доме толькі мерцвякі — сапраўды жывуць... А жывыя — цені, каштоўныя толькі сваёй памяццю аб памерлых.

Галена сама не верыла, што можа гаварыць такое,— маці, пачуўшы, не даравала б ніколі. І з кім гаворыць? З бадзягам, выпадковым госцем. А той уважліва слухаў, злёгку нахіліўшы галаву, і яго доўгія валасы звісалі гладкімі пасмамі паўзверх запалых шчок, і ў цьмяным святле вочы здаваліся ненатуральна вялікімі — як дзве азярыны.

— Давайце прысядзем, ваша міласць... Вось тут, на лаўцы... Зручна? — Ён прыладкаваўся насупраць яе на невялікім зэдліку.— Мне шкада чуць ад вас такія горкія словы. Бо вы маеце рацыю — мёртвыя не мусяць уладарыць над чалавекам. Але так здараецца амаль заўсёды. Так, гэта цяжка... Але хто сказаў, што нам павінна ў гэтым жыцці быць лёгка? Праўда і ў тым, што нельга, каб магільныя камяні засланялі неба. Мінулае, з якога не пракладзеныя сцяжынкі ў будучыню, перастае існаваць. Бо для Госпада няма мінулага і будучыні. І няма іх для душаў.— Памаўчаў, неяк вельмі пранікнёна прамовіў: — Прабачце мяне за дзёрзкае пытанне, але... Чаму вы не выйшлі замуж? Гэта быў бы ратунак — і для вас, і для ўсяго гэтага дому. Новае жыццё... Дзеці... Працяг роду...

Галена пачырванела, радуючыся, што ў цемры гэтага непрыметна. Чаму яна наважылася быць шчырай?

— Вы можаце сабе ўявіць, каб у гэтым доме-труне з'явіліся жаніхі? Дый нават калі б было не так — наўрад ці я змагла б звязаць свой лёс з чалавекам...— Галена хацела дадаць — «звычайным», але гэта было як прызнаць незвычайнай сябе. І, каб згладзіць няёмкасць, яна проста папрасіла госця, як і тады, у зале, расказаць пра свае падарожжы.

І той загаварыў... Безумоўна, ён калісь атрымаў выдатную адукацыю — добра валодаў словам і тым, што называецца «паэтычным мысленнем». Але была яшчэ адна неацэнная якасць — ён не баяўся сказаць нешта не так, недастаткова прыгожа ці разумна, не думаў пра ўражанне, якое робіць на суразмоўцу. У расповедзе паўставалі бясконцыя дарогі, то засыпаныя сумётамі, то ўсланыя восеньскай лістотай, то пыльныя, спякотныя, на якіх босая нага пакідае такі след, быццам узляцела птушка.

...Скіт з пачарнелага ад часу дрэва, на выспе пасярод зарослага лілеямі возера, і манах-чарнец корміць з рукі лебедзяў... Манастыр са сценамі, абпаленымі пажарам вайны, з вышчарбінамі ў сценах ад куль, і абраз у правым нефе міраточыць... І кожная аблачынка здаецца ўвасобленай малітвай, пазалочанай сонцам — Боскай увагай.

— Я пайду з вамі.
Паломнік упершыню нібыта ўзрушыўся:
— Гэта немагчыма...
Галена да болю сціснула свае далоні, быццам рыхтавалася скочыць з абрыву.
— Не лічыце гэта дамскім капрызам. Я больш не магу так — пахаванай жыўцом. Я не спешчаная, бездапаможная засцянковая паненка. Паверце, я дастаткова моцная і непатрабавальная, магу шмат прайсці пешшу, і згатаваць ежу, і ўвогуле зрабіць любую чорную работу. Шмат жанчын ходзяць гэтак жа, як вы, па святых мясцінах,— і прагаварыла хутка, нібыта баючыся сваіх слоў: — І... я пайду за вамі, куды б вы ні пайшлі.
Госць нахіліў галаву:
— Паўтару — гэта немагчыма. Я разумею, што вы атрымалі незвычайнае выхаванне. Можна сказаць, спартанскае. Але вы ўспрымаеце мяне праз свае рамантычныя ўяўленні. Я не той, кім вы мяне палічылі. Я ўсяго толькі варты жалю грэшнік.
Галена нават усміхнулася:
— Гэта не тыя словы, якімі можна мяне адпудзіць. Праз гадзіну я буду сядзець ля прыдарожнага крыжа, там, на павароце за сядзібай. Нікому не ўдасца мяне затрымаць ці адгаварыць. І я не буду прэтэндаваць на асаблівую ўвагу. Я разумею, вы — святы чалавек і жаночыя вабнасці вас не кранаюць. Тым больш,— горка ўсміхнулася,— я не магу асабліва чымсьці ў гэтым плане пахваліцца. Бачыце, маці не навучыла мяне нават прыстойнай дзявоцкай сарамяжнасці.
Госць глядзеў на яе, і ў цёмных вачах ягоных люстравалася яе пакута.
— Ты вельмі прыгожая, Галена. Павер. І я мог бы закахацца ў цябе — смяротна, на ўсё жыццё закахацца. Каб не быў... тваім братам.
Апошнія словы госць прашаптаў так ціха, што Галена хутчэй здагадалася, чым пачула.
— Алесь!
Як жа яна не пазнала сама... Такія ж гордыя бровы, як у маці... Рысы твару... Ён пяшчотна гладзіў сястру па валасах. Яе ніколі ніхто так не гладзіў! Які ж ён, аднак, схуднелы... Нешта абдрапала яе руку...
— Алесь! Навошта ты носіш вярыгі?!
— Можа быць, таму, што некалі лічыў гэта незразумелым дзікунствам. Бог літасцівы, і не кожнага спасцігае ўсведамленне, што

цялесная пакута робіць палёгку душы... Не, не глядзі на мяне так, нібыта я насамрэч святы пакутнік. Была і цалкам празаічная прычына... Глядзі...

Алесь сцягнуў з пляча кашулю. Па скуры ішлі накрыж цёмныя палосы.

— Гэта не ўсе ад вярыгаў... Катаржаніна лёгка пазнаць па слядах ад бізуна. А так — менш падазрэнняў.

— Як жа ты мучыўся...— Галена ледзь стрымлівала слёзы.— Але цяпер — цяпер усё будзе добра! Ну чаму, чаму ты адразу не сказаў? Як ты мог не адкрыцца маці? Яна абагаўляе цябе! Няўжо ты падумаў, што мы збаімся схаваць цябе ці проста не здолеем дапамагчы? У маці засталіся ўплывовыя сябры, якія таксама лічаць цябе героем...

— Героем...— Алесь горка ўздыхнуў.— У мяне было часу, каб падумаць над сэнсам гэтага слова. Супакойся, прысядзь... Не варта турбаваць маці. Ведаеш, я даўно мог прыйсці ў Гайвароны.

— Але... чаму ты гэтага не зрабіў?!

— Галена, не спяшайся, падумай, хіба я — той, каго чакае маці? І цяпер я зайшоў сюды, толькі каб... развітацца.

— Не разумею...

Відаць, ад таго, што агеньчык лампады рабіў цені такімі глыбокімі і дрыготкімі, Галене падалося, быццам пакой кудысьці плыве ў гэтай мігатлівай цемры і голас Алеся гучыць аднекуль з іншага берага.

— Я іду ў Опціну Пустынь, прыму пострыг.

Галену захліснула хваля горкага гневу:

— Ты не думаеш, што гэта жорстка ў адносінах да нас? Ты можаш падараваць жыццё гэтаму дому,ператворанаму ва ўсыпальніцу!

Алесь прысеў побач на лаўку:

— Гэта было чатырнаццаць гадоў таму. У перамогу паўстання яшчэ верылі толькі тыя, хто быў гатовы аддаць за яго жыццё. Генусь, наш старэйшы брат, кіраваў атрадам. У нас засталася толькі пара дзясяткаў чалавек. Былі атрыманыя звесткі, што вось-вось прыбудуць карнікі. І мне даручылі сабраць атрад у нашых Гайваронах і ўдарыць у спіну прыхадняў. Мы ўсе былі маладыя і дзёрзкія і лічылі сябе напалеонамі. Мне было васямнаццаць, але я, мабыць, быў самым дзёрзкім з усіх. Я з’явіўся ў вёсцы, і людзі пайшлі за мной. Я быў іх добры паніч, і мужыкі верылі мне. Добраахвотнікаў сабралася шаснаццаць чалавек. Лепшыя людзі — вядома ж, бо на смерць першымі выклікаюцца ісці лепшыя. Я не мог дасканала ўзброіць іх — на ўсіх выпадала дзесяць стрэльбаў. Але гэта мяне не засмучала —

мужыкі ператварылі косы ў дзіды, а гэта таксама страшная зброя. І мне бачылася, як мы налятаем знянацку на жандараў і пад ударамі мужыцкіх касаў чырванеюць ненавісныя мундзіры. І мы ехалі і спявалі старыя ваярскія гімны, а я ледзь не смяяўся ад шчасця баявога азарту.

Вядома, я прывёў іх пад кулі. Мае палымяныя прамовы з ганка царквы не засталіся незаўважанымі. Іх забілі ўсіх. Шаснаццаць дужых мужчын, гаспадароў. Ніхто не паспеў нават выстраліць у адказ. Мяне толькі паранілі. Я ачуняў у нетрах Бабруйскай крэпасці. Вядома, я чакаў, што мяне расстраляюць. Я хацеў гэтага — тады б я зноў апынуўся са сваім атрадам, мною паднятым у бойку. Але я быў малодшым, і браты ў чарговы раз захінулі мяне, нават сваёй смерцю. Страту замянілі пажыццёвай катаргай. І не было такой ночы, калі б я не думаў пра тых шаснаццаць.

Галена ўзяла рукі брата ў свае:

— Ты невінаваты. Яны ўсе мелі выбар, і загінулі за святую справу.

Алесь паківаў галавою:

— Я паўтараў гэта сабе кожны дзень. Але ў іх засталіся бацькі, жонкі, дзеці... Ты ведаеш, што зрабілі ў Гайваронах з родзічамі бунтаўшчыкоў?

Галена сцішана ўздыхнула:

— Гэта тым больш не твая віна. І, зрэшты, палкаводцы вядуць на гібель тысячы жаўнераў — і ніхто з іх не надзявае пасля вярыгі...

— Гэта так...— пагадзіўся Алесь.— І да гэтага выпадку — я ж біўся побач з Генусем і Януком, і вакол нас дзясяткамі гінулі людзі, і мне было горка. Але гэта было, як ні кашчунна такое гаварыць, звычайнай справай. Але тут... Разумееш, сонечная восеньская раніца... І я адчуваў сваё адзінства з тымі, хто ехаў за мною, і нейкі асаблівы ўздым... Гэта — мае людзі, з маёй радавой зямлі... Я быў юны, але гэта былі як бы мае дзеці. Даверлівыя і паслухмяныя. І загінулі толькі таму, што паверылі мне,— вера ў «святую справу» не паспела ў іх выспець.

— Ты занадта многа ўзяў на сябе, брат,— трывожна прамовіла Галена.

— Не хвалюйся, гэта ўжо перажыта,— зноў спакойна сказаў Алесь.— Гэтыя, апошнія, гады блуканняў і малітвы не прамінулі дарэмна. Я знайшоў супакой. Але каб захаваць яго — мне не варта вяртацца ў гэты дом. Зразумей, я не магу гэтага зрабіць. Я не шкадую, што калісьці ўзяў зброю, каб адваяваць волю для айчыны — я і цяпер памёр бы за тое, каб яна была вольная. Але я ніколі больш не

змагу забіць. І не змагу не даравацъ. Фактычна — той, юны і дзёрзкі, Алесь Вайтылаў памёр. Мне няма пра што гаварыць з тымі, хто жадае помсты. У мяне свой шлях, і я прайду яго да канца. Не шкадуй мяне, мілая. Я шчаслівы.

Галена павольна вярталася ў пакой. Заўтра ўсё будзе як і раней... Не, ён не мае права так абысціся з імі!

Маці адчыніла амаль адразу — нібыта і не спала. Дзіўна было бачыць яе ў белым.

— Алесь вярнуўся!.. Мама, чуеш? Той малады паломнік — гэта ён, Алесь! Ён сыходзіць на досвітку. Хоча пастрыгчыся ў манахі. Мама, калі ты з ім пагаворыш...

Пані Вайтылава ўзялася рукою за касяк дзвярэй. Рука дробна дрыжэла.

— Што ты гаворыш, дурнічка? Табе прыснілася.

Галена горача схапіла маці за дрыжачую руку — зусім халодная...

— Павер, мамачка! Гэта Алесь... Ён уцёк з катаргі. Яму трэба дапамагчы. Ён змэнчаны, спакутаваны... Можа быць, і душа ў яго надарвалася ад пакуты. Пагавары з ім! Затрымай!

Цяпер у пані дрыжэлі нават вусны. На хвілю Галене падалося, што маці ўголас заплача. Але тая моцна адштурхнула ад сябе дзяўчыну.

— Ты гаворыш абы-што. Мой сын ніколі не заначаваў бы ў доме здрадніка і забойцы братоў. Я больш не хачу пра гэта размаўляць.

Дзверы зачыніліся. Бразгнуў замок. Потым зашаргаталі шуфлядкі камоды. Галена зразумела — маці дастае дагератыпы і старыя лісты... І зноў хвалі мінулага паглынаюць гэты праклятыя дом.

Перад клумбай у форме вычварнага вензеля, на якой апошнія восеньскія кветкі зіхацелі барвай і беллю, дзядок дробна кланяўся і шаптаў словы ўдзячнае малітвы. Так што здавалася, быццам ягоныя паклоны адрасаваныя не дому, што прытуліў на ноч, а менавіта гэтай пышнай клумбе, нібыта паганскаму алтару. Галена з Алесем адышліся да варотаў. Ні абняць, ні прыціснуць да сябе на развітанне... Убачаць, данясуць... Грудзі дзяўчыны разрываліся ад стоенага плачу.

— Не журыся, мілая.— Алесь ласкава крануў яе валасы. Галена заплюшчыла вочы, каб дарэшты запомніць адчуванне апошняе ласкі роднага чалавека.— Не журыся,— паўтарыў той.— Знайдзі сабе мужа. Не трэба героя, проста — сумленнага чалавека. Я буду маліцца за цябе.

Апошні братаў падарунак — ладанка. Бязлітасна грукнулі вароты. Быццам вечка труны. Галена ў прыпадку гневу азірнулася на ненавісны дом. У акне на другім паверсе ўпалі фіранкі.

Маці ведала...

Галена больш не магла стрымліваць плачу. І раптам адгукнуўся варонін крык. Дзяўчына паглядзела ўверх — сапраўды, над паркам кружлялі вароны. Вярнуліся... Зноў засяляць месца, дзе вынішчылі іх продкаў.

У наступным годзе паненка Вайтылава пабралася з настаўнікам Гайваронскай земскай школы. Гэта быў страшэнны мезальянс — Гайвароны не так даўно належалі Вайтылавым. І настаўнік быў галадранец, нават не дваранін. Маладыя пасяліліся ў вёсцы, у сціплым настаўнікавым доме.

Пані Вайтылава на ганебны ўчынак дачкі аніяк не адрэагавала. Праўда, казалі, што яна пашкодзілася ў розуме. Не дзіўна — столькі пакутавала па трох загінулых сынах.

## Хлебазоры

Ён ніколі не адшукае патрэбных слоў!

Агеньчык свечкі падбіраўся ўсё бліжэй да дзюбы срэбнага грыфона-падсвечніка. Вось ужо чорны пасак кнота скурчыўся, скруціўся, падобна маленькай змейцы, у лужыне воску, зашыпеў, як сапраўды жывая змяя... Цені выпаўзлі з кутоў, імгненна запаланіўшы ўвесь пакой.

Вінцэнт, аслеплены раптоўнай цемрай, з прыкрасцю кінуў асадку на стол, відаць, запэцкаўшы атрамантам напалову спісаны аркуш. Трэба гукнуць, каб прынеслі агню, запалілі новую свечку...

Але ён чамусьці гэтага не зрабіў. Сядзеў і глядзеў у цёмнае акно, на неба, па якім прадрапвалася яркая плямка — быццам за чорным задымленым шклом-небасхілам хаваўся свет бляску і святла. Знічка... Вінцэсь ужо даўно не загадваў жаданняў на знічкі. Ніводнае ж са загаданых дасюль не спраўдзілася. Можа быць, ён проста не ведаў, чаго пажадаць? Напрыклад, спакойнага, усталяванага жыцця... Бо гэтага яму адмерана — хоць задушыся тым спакоем... Сорак гадоў — а яму ўсё спакойна... Быццам карабель, замест таго каб адпусціць у мора, адразу паставілі ў сухі док, і дошкі ягоныя ўжо патрэскаліся ад тугі па хвалях... А за акном між тым палыхнула чырванаватае святло,

нібы той, прыўкрасны, сусвет падаў знак аб сваім існаванні — не ўсё яшчэ згублена ў цемры часу.

Сухія навальніцы? На пачатку лістапада?

У дзверы настойліва пастукалі. Ну, так, час вячэры. Роўна а шостай вечара. Не раней і не пазней. Колькі дзяцей у гэтым доме заставаліся без салодкага за тое, што спазняліся да ўрачыстага сямейнага стала! А сёння вячэра асаблівая — Асяніны, Змітраўскія Дзяды. Продкі сядуць разам з жывымі нашчадкамі за стол, і ён ізноў уявіць — ці сапраўды ўбачыць — прывідныя вочы, што паглядаюць з паблажлівым дакорам.

Вінцэсь намацаў рукой кульбачку, што звалілася на падлогу, абапёрся, рыўком падняў з крэсла сваё дужае цела. Так, усё яшчэ дужае — яны з братам абодва былі плячыстыя, высокія, хваліставалосыя. За буйную грыву валасоў ім нават далі мянушку Львяняты.

Цяпер кудзеры Вінцэся зусім сівыя... Але целу ён не даў саслабець, спесціцца, заплысці тлушчам. Як бывалы ваяр нават падчас доўгага зацішша трымае напагатове зброю.

Хаця ён, Вінцэсь, не ваяр...

За сталом сабралася ўжо ўся сям’я — чакалі толькі яго. І бацька, як і некалі, сурова зірнуў з-пад насупленых броваў — цяпер ужо зусім белых. Што ж, Вінцэсь не супраць саступіць сваё салодкае... Ну хаця б малодшай сваёй дачушцы, гарэзе Янінцы. Вунь як яна па-змоўніцку пазірае на бацьку і ўсміхаецца краёчкам ружовага роціка. Відаць, паспела выхапіць з куцці кавалачак празрыста-мядовага цукату і зжаваць, маленькая блюзнерка. Гэтаксама міла ўсміхалася калісьці Марыя, яе маці і Вінцэсева жонка. Яна сядзіць злева ад свёкра, па-ранейшаму стройная і прыгожая, толькі рысы твару сталі больш рэзкімі, між броваў пралягла зморшчына, а вусны ўжо даўно не кранае ўсмешка. Апошні раз яна бесклапотна ўсміхалася, мабыць, яшчэ калі была нявестай старэйшага Вінцэсевага брата, Славаміра.

У іх добрая сям’я — у Вінцэся і Марыі. І цудоўныя дзеткі, і згода, і... Але вось жа не ўсміхаецца Марыя чамусьці так, як калісь... Бацька, старэйшы з роду, цяжка абапіраючыся рукамі аб старажытны дубовы стол, за якім сядзела мо з дваццаць пакаленняў роду Севярынічаў, падняўся і надтрэснутым, але ўсё яшчэ гучным голасам прачытаў малітву. Потым кінуў пад стол рытуальны кавалак хлеба.

— Стаўры, Гаўры, ідзіце куццю есці...

Сын Габрусь, ужо падлетак, падобны на жвавае галчаня, гэткі ж калматагаловы, як Вінцэсь, нешта шапнуў сястрычцы Янінцы, і тая ледзь чутна віскнула і падабрала ножкі. Відаць, пагразіў, вісус, што прывідныя паляўнічыя сабакі Дзядоў — Стаўры і Гаўры — зараз укусяць пад сталом.

Так, прывіды наносяць раны больш балючыя і незагойныя, чым рэальная зброя. Вінцэсь глядзіць на дальні кут стала, дзе перад пустым крэслам — міска, у якую адкладзена па лыжцы ад кожнай стравы, і чарка гарэлкі, з якой ніхто не адап’е. Цікава... Славамір быў старэйшы ўсяго на год, але ён ужо мае права заняць месца на гэтым пустым крэсле, як Вінцэсеў продак, і судзіць яго сваёй прывіднай уладай... А за што, Божа мілы?

Прайшло ўжо дваццаць гадоў. На папялішчах, што засталіся ад многіх сядзіб, выраслі маладыя дрэўцы. Бацька не хацеў, каб ад роду Севярынічаў засталося толькі папялішча і — няхай слаўная — памяць. А яны абодва — і Славамір, і Вінцэсь — збіраліся далучыцца да інсургентаў, як і амаль усе іх сябры па Віленскім універсітэце. Столькі разам марылі, складалі ўзнёслыя вершы, а яшчэ вучыліся трапна страляць і добра валодаць шабляй... Але бацька вырашыў іначай. Вядома, Севярынічы ніколі не ўнікалі бойкі, асабліва калі гэта — бойка за волю. Таму няхай адзін з сыноў падтрымае гонар роду. А другі мусіць падтрымаць ягоны працяг — і застацца, бо калі загінуць абодва, герб разаб’юць на магіле таго, хто з іх трох памрэ апошнім. Не засталося ў свеце больш ніводнага Севярыніча, а ў жылах іхніх цячэ кроў вялікіх князёў, і занадта вялікая раскоша — касаваць такі род.

Па традыцыі, што існавала ў іх краях, заставацца на дзедаўшчыне мусіў малодшы.

Слова бацькі для іх заўсёды было законам. Але Вінцэсь збіраўся аслухацца. І ён бы паехаў за Славамірам, калі б не прыкрае здарэнне. Раніцай ён звычайна наведваў свайго Аякса, белага, з шэрымі падпалінамі каня, падоранага яму яшчэ жарабём. Чамусьці менавіта ў тую раніцу, што была прызначаная для ад’езду, бервяно, цераз якое ён няўважна пераступаў столькі год, сарвалася з падпорак і прыціснула нагу. Добра, што побач аказаўся конюх Базыль, іначай пракаветная сасна — таўшчынёй у паўабхвата — нарабіла б яшчэ большай бяды, бо Вінцэсь паваліўся і амаль страціў прытомнасць ад болю. Пералом аказаўся цяжкі, ступак ледзь не раструшчыў, Вінцэсь кульгае дасюль. Бацька тады сказаў: «Божая воля... Знак лёсу». А Славамір суцешыў: «Мы ўсё роўна будзем змагацца разам, браце!»

І з'ехаў, каб праз год загінуць самай слаўнай для мужчыны з рыцарскага роду смерцю — у бойцы, пад штандарам выбітнага вайскаводцы, адабраўшы жыцці многіх ворагаў.

Вінцэсь пасля таго, як вымушаны быў застацца, па загаду бацькі кінуў універсітэт. І — ніякіх зносін з інсургентамі. Іх сям'я і так пад падазрэннем. Вядома, Вінцэся і бацьку таксама цягалі на допыты. Але абышлося. Хаця небяспека была большай, чым ведаў бацька,— Вінцэсь не раз дапамагаў сябрам, чым мог, і не раз у яго пакоі начаваў госць з лесу, каб яшчэ перад досвіткам сысці рамантычным шляхам — праз акно.

Ніхто не здрадзіў, не выдаў.

Вінцэсь выйшаў з крывавае сячкарні чысценькім. А столькі разоў марыў загінуць...

А галоўнае — Марыя...

Так, вядома, ён кахаў яе. Яны са Славамірам былі надта падобныя, каб мець розныя густы наконт ідэалу жанчыны. Горкае імя, у якім з'ядналіся пыл біблейскай пустэльні і дыяменты горада Магдалы. На тонкіх запясцях Марыі бранзалеты пазвоньвалі, як сігналы аб прыбыцці нябеснага чоўна — пераправы на іншы бераг, дзе можна толькі ўдыхнуць пах валасоў каханае жанчыны — і спазнаць сэнс жыцця. Марыя — Ева... Смак яблыка звязвае ў роце, быццам няшчырыя словы, і ты ўжо загінуў і не хочаш ратавання ад салодкай атруты.

Яна па начах вышывала штандар для іхняга атрада. І, вядома, Славамір быў яе героем, якога сустракаюць раз у жыцці.

Віна з'явілася даўно. Яшчэ тады, калі Вінцэсь выпадкова падгледзеў іх спатканне ў квітнеючым садзе — Марыі і Славаміра. Дзяўчына, у белай простай сукенцы, гнуткая і вясёлая, слізгала між дрэваў русалкай, квецень уплятался ў яе цёмныя косы, і Славамір лавіў сваё шчасце між шурпатых яблыневых стваалоў, у духмяным дажджы пялёсткаў. І смех іхні стаіць дасюль увушшу ў Вінцэся — быццам разбіваюцца яго ўласныя крышталёвыя замкі... І ён дасюль не можа дараваць сабе, што не адвёў вачэй, калі іх вусны — магчыма, першы раз — злучыліся... І зусім недаравальны боль, які працяў тады душу, змусіў сціснуць кулакі так, што востры аловак, заціснуты ў правай руцэ, глыбока ўвайшоў у даланю,— Вінцэсь прыладкаваўся з запаветным сшыткам-чарнавіком у сваім улюбёным схованішчы, у разгалінаванні старой яблыні. Боль ад раны адчуўся толькі тады, калі

Марыя і Славамір сышлі кудысьці ў бок рэчкі, трымаючыся за рукі, як дзеці, і іхні смех рассеяўся ў веснавым паветры.

Вінцэсь толькі спадзяецца, што ніколі — ні словам, ні позіркам, ні ўздыхам — не даў зразумець дарагім людзям свае нізкія — ён шчыра так лічыў — пачуцці.

Марыя мусіла ўвайсці ў сям'ю Севярынічаў.

Гэта было абгаворана яшчэ да ейнага нараджэння. І калі загінуў Славамір — Вінцэсю давялося заняць месца брата. Стаць ценем яго кахання, адабраць у мёртвага адзінае, што ў таго засталося на зямлі,— памяць і слёзы. Ведаць, што ноччу яна цягнецца да вуснаў — не ягоных... І, раптам усведамляючы прысутнасць іншага, жывога — кожны раз скаланаецца і змушае сябе да пакоры... І ён, як лясны бог Пан, абдымае замест каханай толькі сухі журлівы трыснёг...

Вершнік на белым кані, з узнятай угару шабляй... Чаго варты перад ім кульгавы дэзерцір, які адседзеўся ад слаўных боек пад жончыным бокам?

Свечка, пастаўленая ў місу з бурштынавым зернем, асвятляла шлях нябожчыкаў да памінальнага стала. Марыя моўчкі ўзіралася ў вясёлы агеньчык, быццам заварожаная ягоным спагадлівым бляскам, а Вінцэсю здавалася, святло ўтварае вакол стала кола, якое толькі і абараняе ад зліцця жывога і мёртвага, віны і пакарання, праўды і маны...

— Тата,— шапнуў Габрусь, раптам пасур'ёзнеўшы.— А я сёння чуў цікавае слова...

— Кажы,— Вінцэнт цёпла ўсміхнуўся сыну.

— На кухні старая Анця гаварыла: «Бачыла сёння хлебазор над Цівуновай пушчай. Мусіць, зіма сцюдзёная будзе». Я перапытаўся, хлебазор, відаць, тое, што па-руску зарніца, сухая маланка. Чаму такое дзіўнае слова, тата,— «хлебазор»?

— Пасля паразважаем разам. Дзякуй, сынок, гэта сапраўды каштоўныя звесткі, я занясу тваё слова ў картатэку,— прамовіў Вінцэсь, і Габрусь прасвятлеў тварам.

Марыя адно зірнула раўнадушна-паблажліва. А дзед з'едліва выказаўся:

— Яшчэ не кінуў свае штудыі? Мужыкі табе нагавораць, за дзесяць жыццяў не пазапісваеш. Антоні Вырвіч, між іншым, мануфактуру збіраецца адчыняць па вырабу габеленаў. Выпісаў з Нямеччыны машыны і майстра-мастака...

— Прагрэсіст пан Антоні вядомы,— спакойна зазначыў Вінцэнт.— Памятаю, мне яшчэ гадоў дзесяць было, ездзілі да яго ў госці. І мы са Славамірам прыбеглі да вас у залу з рэвам, што ў сенцах сядзіць мужык-казёл, і прасілі, каб гэткае страхоцце адправілі назад у вёску. А пан Антоні і кажа з мілай усмешкай: «Дурню, гэта ж мужык пакараны, яму рагаціну надзелі, а ногі яго ў крэслах». І на мануфактуры ягонай будуць працаваць няшчасныя дзеўкі, адабраныя ад сям'і, і траціць вочы і здароўе на падробкі французскіх габеленаў, хаця маглі б у сваіх хатах, спяваючы, выткаць непаўторныя, з тонкім арнаментам і каларыстыкай посцілкі.

— Спрачацца не буду. Ты ў нас вядомы знаўца мужыцкіх вырабаў.— Бацька замаўчаў, і нават маленькая Янінка не наважылася больш перапыніць суровае маўчанне, быццам гэта было як разарваць павуту гіганцкае Арахны, што запляла, знерухоміла ўсё навокал, і выклікаць тым з'яўленне багіні зла.

Агеньчык свечкі крыху ўздрыгваў, і ад гэтага цені ў пакоі варушыліся, плылі карагодам вакол жывых.

Так, трэба яшчэ папрацаваць сёння... Колькі часу? Сем? Пачатак восьмай? Часу заўсёды не хапала. Вунь іх колькі, рукапісаў, картак з сабранымі моўнымі самацветамі — Вінцэсь усур'ёз узяўся за даследаванні адразу пасля таго, як усвядоміў, што ваярская доля ад яго забраная. Інтарэс да мясцовай гаворкі ўзнік яшчэ ва ўніверсітэце. Тады найбольш прагрэсіўныя, разумныя выкладчыкі самі заклікалі да гэтага. Належала вывучыць, так бы мовіць, чым жыве душа насельніцтва далучаных да імперыі новых губерніяў. На гэта даваліся, няхай небагатыя, сродкі. І расійскія філолагі нават не чакалі, што напаткаюць такі скарб, што на іх вачах узнімецца з цемры няведання цэлая Атлантыда самабытнай культуры. Курганы, на якія па начах выходзяць прывідныя рыцары і лірнікі, азёры, на дне якіх — патанулыя гарады, пракаветны свет русалак, жытнікаў, лесуноў, свет ваярскіх песень і чысцюткай славянскай мовы... Інтарэс у спецыялістаў да гэтага не згасаў. Таму была магчымасць зрабіць хоць нешта для сваёй краіны, адкрыць яе свету.

Вінцэсь не шкадаваў сябе, не зважаючы на нараканні, неразуменне, пагарду, на хворую нагу. Ён абхадзіў і аб'ездзіў усе навакольныя вёскі і вёскі далейшыя, згубленыя ў пушчах і балотах. Знаходзіў у закінутых уніяцкіх цэркаўках старадрукі, паедзеныя мышамі, са старонак якіх ззялі вясёлкамі мініяцюры даўно памерлых мастакоў. За дваццаць гадоў зроблена нямала — зборнік легенд і

паданняў, кароткі слоўнік беларускай гаворкі, артыкулы ў навуковых выданнях Масквы і Санкт-Пецярбурга, Кракава і Прагі… А колькі яшчэ чакае ў рукапісах! Ёсць імя, аўтарытэт… Але — там, у вузкіх інтэлігенцкіх колах. Тут у яго няма нічога, акрамя права насіць прозвішча, праслаўленае героямі, што загінулі за радзіму.

Добра, хоць Габрусь падзяляе бацькава захапленне… Нават не захапленне ўжо — апантанасць. Недарэмна расказваліся ў дзіцячым пакоі дзівосныя казкі пра вужыную каралеву і асілка Машэку, пра Багародзіцу, якая хадзіла па гэтай зямлі і пабіла нагу аб камень, і пра цмока, які закахаўся ў сялянскую дзяўчыну і прыходзіў да яе панічам у чырвоным жупане… У гімназіі, дзе вучыцца Габрусь, добрыя выкладчыкі па моўных дысцыплінах. І здольнасці ў хлопца маюцца…

Вінцэсь акуратна напісаў на чыстай картцы слова — тое, што вычуў Габрусь. Але гэта было апошняе, што ўдалося ў гэты дзень зрабіць… І, магчыма, апошняе ягонае даследаванне ўвогуле.

Тое, што напрарокавалі чырвоныя хлебазоры, не было нечаканасцю для Вінцэся.

Чаму прыхадні абралі менавіта вечар Асянін для свае нядобрае справы? Напэўна, непакоіліся, што ён, некім папярэджаны, уцячэ, з’едзе. Ды і не лічылі, што робяць нешта нядобрае. Пан Вінцэсь Севярыніч мусіў неадкладна паехаць з імі, у губернскі горад, дзе праводзіцца следства з нагоды выяўлення ў выдадзеных ім кніжках крамольных, непачцівых да імператарскай улады выказванняў… Ёсць і яшчэ адна брашурка. Хадзіла па руках студэнтаў. Аўтар схаваўся пад псеўданімам — але такія-сякія здагадкі ў следства маюцца.

На гэты раз пакой быў асветлены ярка — свечкі гарэлі ва ўсіх падсвечніках, быццам на балі ці пахаванні. Вінцэсь сядзеў у крэсле з кнігай у руках і зрэдку кідаў позірк на тое, як жандары звальваюць у вялікі мех ягоныя рукапісы, ссыпаюць карткі з картатэкі. Дзіўна, але ён адчуваў сапраўды толькі спакой і стому. Зразумела, многае загіне. Але — не ўсё. Ён недарэмна спяшаўся. Адзіная турбота — падвёў выдаўцоў. Але іх выратуе яго маўчанне. Прынамсі, ён зробіць для гэтага ўсё, што ў чалавечых сілах — і нават крыху больш.

— Гэта нейкая памылка,— голас бацькі гучаў так разгублена, што Вінцэся працяў востры жаль.— Мой сын не мог ні ў чым правініцца.

Вінцэсь горка ўсміхнуўся. Вядома, бацька лічыў яго зусім бясшкодным, дакладней — бескарысным дзіваком.

— Ён проста вывучае мовы,— гэта загаварыла Марыя, таксама разгублена, аж голас трымціць.— Ён вучоны… Яго друкавалі ў

часопісе імператарскай Акадэміі... Палавінная Дзямідаўская прэмія за «Параўнаўчы слоўнік геаграфічных назваў славянскіх»... Ягоныя доследы ўхваляў сам Надзеждзін!

Гэта ж трэба! А Вінцэсь лічыў, што Марыя ніколі не цікавілася яго справамі!

— Мовазнаўства, шаноўная пані, можа быць страшнейшым за ўзброенае паўстанне,— голас гучаў, як на лекцыі, бач, якога інтэлігентнага Харона прыслалі па ягоную душу...— Вы ведаеце, што ваш муж і ваш, пан Севярыніч, сын сцвярджае ў сваіх ксёнжачках? — цяпер голас дрыжэў ад абурэння.— Што расійска-крывіцкі дыялект, на якім гавораць мясцовыя хлопы, гэтая брудная, грубая, неўразумелая хамская гаворка ёсць асобная мова! Якая стаіць упаравень з вялікай рускай ці той жа нямецкай! І доказна, трэба заўважыць, сцвярджае. Прынамсі, маладыя розумы такое чытанне можа збянтэжыць. А што з гэтага вынікае? Новы бунт? А якія прыклады прыводзіць — схізмацкія песні пра бойкі з маскалямі! Куды толькі глядзелі ўсе гэтыя акадэмікі!

І яшчэ дадаў, ужо зусім не па-лектарску, што каб служыў ён тут дваццаць год таму, выкараніў бы ўсю заразу бунту дашчэнту.

Грозны прамоўца зайшоў у пакой, дзе знаходзіўся арыштаваны. Малады, прыгожы, вусы заліхвацкія — як у гусарскага кавалергарда, ноздры ваяўніча раздзімаюцца. Відаць, незадаволены, што арышт пазбаўлены баявітасці,— бунтаўшчык не адстрэльваецца, не хаваецца, нават не каецца. Відаць, Вінцэсеў спакой, ды яшчэ тое, што дзяржаўны злачынца чытае кнігу, змусілі госця страціць раўнавагу. Ён груба выхапіў з рук гаспадара невялікі томік.

— Байран... «Шыльёнскі вязень»...— насмешна тыцнуў кнігу ўладальніку.— Што ж, гэта — чытайце... Рыхтуйцеся, так бы мовіць, тэарэтычна.

Жандары збіралі з падлогі апошнія карткі, рассыпаныя, быццам загадкавы пасьянс, які ў выпадку, калі сыдзецца, адчыніў бы чарадзейнымі словамі дзверы ў дзівосны свет. Але госці не верылі ў чарадзейнасць слоў.

У ліхтары, падвешаным на бронзавым гаку над ганкам, гарэла свечка, і агеньчык трымцеў яркай хусткай, якой хтосьці адчайна махае, развітваючыся. Бацька стаяў у вітальні перад расчыненымі на вуліцу дзвярыма і... неверагодна, але так! — плакаў. Ён не глядзеў на Вінцэся, толькі плечы ўздрыгвалі. А вось — Габрусь. Закусіў вусны, стараецца не ўраніць слязы. Адно вочы гараць. Дай, Божа, каб гэтаму

Севярынічу не давялося даводзіць сваю годнасць, сыходзячы ў лес ці турму. Затое Янінка плача — ёй, вядома, не патлумачылі, што адбываецца, але хіба можна падмануць яе чуйнае сэрцайка? Вунь як яно калоціцца — Вінцэсь расцалаваў залітыя слязьмі ружовыя шчочкі малой, што кінулася да яго, абшчаперыла з усіх сіл слабымі ручкамі... Шаптаў нешта суцяшальнае... Вядома, ён вернецца, хутка, і з прыгожай лялькай, ведаеш, у такой пышнай каралеўскай сукенцы. Ідзі, маленькая, укладвайся ў ложак... Нянька павяла дзяўчынку на другі паверх, у дзіцячы пакой, туды, дзе на століку — змайстраваны Вінцэсем палац з ліпавых трэсачак, аздоблены кавалачкамі бурштыну — жытло вужынай каралевы.

Прыслуга тоўпіцца... Спалоханыя, цікаўныя — не ўсе памятаюць, як яно было дваццаць год таму...

Марыя выйшла за ім на ганак. Вядома, ім дазволяць развітацца... Тут, у святле прыадчыненых дзвярэй, на скразняку, у час, калі вецер залятае ў цёплае чэрава дома, выстуджвае жытло.

Як яна пазірае... Быццам хоча разгледзець адбітак ў старым люстэрку з адслоенай амальгамай.

— Што з табой зробяць?

А ён думаў пачуць: «Што ты зрабіў?»

— Не хвалюйся, не думаю, што чакае страта. Найгоршае, што можа быць — высылка. З гаспадаркай ты зладзіш без мяне — у цябе гэта атрымліваецца лепей. Даруй...

Вінцэсь ведаў, што высылка — занадта мякка. Наўрад ці абыдзецца без заключэння ў якісь каменны лёх, без допытаў. У салдаты — наўрад, ён жа кульгавы... А на катаргу — цалкам магчыма. Але не, такіх, як ён, звычайна хаваюць жыўцом у крэпасці. Ды навошта Марыі пра гэта ведаць? Усе пакуты, якія наперадзе,— нішто перад дваццаццю гадамі адзіноты і самакатавання.

— Калі цябе сашлюць, я буду прасіць, каб паехаць за табою.

Вінцэсь нахіліў ссівелую калматую галаву:

— Не трэба, дарагая. Твае клопаты павінны быць пра дзяцей, бацьку... Я спраўлюся сам.

Жанчына неяк дзіўна рассмяялася:

— Ты заўсёды быў такі... Ганарлівы да дурасці. Вырашыў пакараць сябе адзінотай, а пакараў і мяне.

— Прабач...— Вінцэсь, намаганнем волі здушыўшы боль (гэта ён умее), пацалаваў яе — лёгка-лёгка — у лоб.

Марыя нечакана абхапіла ягоную галаву, і ён адчуў, якія гарачыя яе вусны,— упершыню яна цалавала не прывід, а менавіта яго, Вінцэся. А можа, сапраўды ўсе гэтыя гады толькі ён сам выклікаў з’яўленне прывідаў? А ён мог бы быць шчаслівым... Але шчаслівым нечакана пачуўся толькі цяпер — як жаўнер, які пасля пакутлівых блуканняў дагнаў свой полк, нават ведаючы, што той мусіць ісці ў апошнюю бойку.

Ужо ля фурманкі, у якую ўсеўся, чакаючы арыштаванага, малады афіцэр, Вінцэся дагнаў конюх Базыль, ужо зусім старэнькі, сагнуўся, цалуючы пану руку.

— Думаў сказаць пану перад сваёй смерцю... Ды, відаць, Бог цяпер загадвае. Мая віна, пане... Бервяно, што на нагу вашую звалілася... Гэта ж я ноччу падпілаваў апоры. Ведаў, куды вы кожны дзень ступаеце.

Вінцэсь быў агаломшаны.

— Навошта ты гэта зрабіў?

Базыль троссяад плачу:

— Прабачце, пане... Стары пан загадаў. Каб толькі трохі пакалечыць... Казаў, іначай заб’юць вас... Даруйце, пане. Грэх на душы маёй.

Перад тым як фурманка выехала за браму, Вінцэсь апошні раз азірнуўся на свой дом. Над дахам палыхнула чырвонае святло — хлебазор. Сухая маланка.

...І Славамір паклаў нябачную руку Вінцэсю на плячо: «Ну што, браце, я ж сказаў, што мы будзем біцца разам!»

## Цені забытага карнавалу

Пазалочаная фольга склейвалася кепска, і ад гэтага латы здаваліся бязлітасна пасечанымі варожым мячом. Аднак Анцік не хацеў і чуць пра іншы карнавальны касцюм. Ён будзе толькі срэбным рыцарам! Такім жа, як на іхнім гербе. Старэйшая сястра, шэравокая Настасся, ужо зусім зазлавала, перапэцканая клеем, аблепленая срэбнымі ашмёткамі,— вось выдумкі малечы!

Але ў сям’і Карвароў Каляды святкаваліся з асаблівым размахам. Нават бацька, такі звычайна заклапочаны і сур’ёзны, не лічыў ганебным упрыгожваць ялінку, дапамагаць у прыдумцы карнавальных жартаў і гульняў.

На гэтыя Каляды таксама чакалася шмат сюрпрызаў. Дарослыя блукалі па доме з таямнічым выглядам. Калматая котка Заіра, матчына ўлюбёнка, уцякала з віскам з кутняга пакойчыка, дзе адбываліся рэпетыцыі. І, вядома, па шафках і шуфлядках хаваліся скрыначкі і пакуначкі з падарункамі. У іхняй сям'і быў звычай, акрамя куплёнага, дарыць адно аднаму нешта, зробленае сваімі рукамі. Ну хаця б аксамітны вацок, вышыты незабудкамі, або выразанага з ліпавай драўніны конніка, нехлямяжага, але вельмі баявітага.

Анцік, прадстаўнік найноўшага, прагматычнага, пакалення, вырашыў пытанне вельмі проста: склаў спіс таго, што б ён жадаў атрымаць ад кожнага з сямейнікаў. Не дзіўна — усё, пра што ён марыў, тычылася доследаў у прыродазнаўчых навуках, а набываць у якасці каляднага падарунка кварту фармаліну, далібог, нікому б і ў галаву не прыйшло. Хаця Анцікава калекцыя заспіртаваных апалонікаў, жабак, яшчарак ды іншых малапрывабных істот карысталася вялікім поспехам у Настассіных сяброўак — Анцік спецыяльна завабліваў неспрактыкаваных дзяўчатак у свой пакой, каб пачуць прыемнае хлапечаму вуху верашчанне. Акуратныя шэрагі расстаўленых па паліцах слоікаў, у якіх плавала ўсялякае страхоцце, рабілі ўражанне не толькі на гімназістак. Адзіны, у кім калекцыя выклікае замілаванне,— сусед Стась. Ён ужо вучыцца на першым курсе медыцынскага ўніверсітэта, адрасціў доўгія валасы і нават спрабуе адпусціць бараду, хаця пакуль яна не вельмі самавітая і, сказаць па праўдзе, на званне барады нават не цягне.

Стасік вельмі разумны і смелы. І пазнаёміліся яны з ім, калі тры гады таму чарнавокі сарамлівы падлетак даў нырца ў страшны Баламутаў вір, каб дастаць Настассін саламяны капялюшык. Гувернантка-францужанка тады ад жаху самлела, і давялося пырскаць ёй у твар вадою і пасля доўга ўпрошваць, каб не расказвала нікому пра неразумны ўчынак «сэра Ланцэлота» — так мадэмуазэль Алін празвала Стася. Анціку было ўсяго восем год, але новы знаёмца размаўляў з ім, як з дарослым, і пра вельмі сур'ёзныя рэчы — напрыклад, як зладжана дыхальная сістэма жабы, або пра жывёльны магнетызм ці тэорыю эвалюцыі Дарвіна.

Анцік шчыра дзівіўся, чаму яны раней ніколі не бачыліся са Стасікам? Маёнткі ж побач — Залессе, адкуль родам Стась, і іхнія Рэчыцы, і ў доме Карвароў заўсёды любілі гасцей. Прынамсі, пасля таго выпадку над вірам Стасік пачаў заходзіць падчас кожных

вакацый. Пра Стасевых бацькоў Анцік не ведаў нічога, акрамя таго, што залескі пан — палкоўнік у адстаўцы і мае сувязі ў Санкт-Пецярбурзе, адкуль і прыехаў. Ніякіх спробаў зблізіцца з кімсьці з суседзяў залескія паны не рабілі. Ды якое гэта мела значэнне, калі са Стасевай лёгкай рукі калекцыі птушыных пёраў і яек і шмат чаго іншага папаўняліся, а жывёльны свет маёнтка Рэчыцы ўзбагаціўся дзвюма парамі дзівосных галубоў — белых, як малако, і пухнатых, быццам растрапаліся, прадзіраючыся скрозь аблокі.

Але паступова Анцік пачаў з прыкрасцю падазраваць, што заходзіць старэйшы сябар не столькі для таго, каб прынесці яму новую кніжку пра жывёл, а каб пабачыцца з капрызуляй Настассяй і завесці з ёй нецікавыя гаворкі пра нейкага Дастаеўскага, Славацкага, Заля і ўвогуле пра незразумелыя Анціку рэчы, тыпу жаночай эмансіпацыі. Прычым яны заўсёды спрачаліся — Стасік паблажліва, захоўваючы мужчынскую годнасць, Наста — горача, аж да слёз. І яе шэрыя вочы так гарэлі, а голас гняўліва дрыжэў, што Анцік, напэўна, уцёк бы ад гэткай шалёнай. Нават мадэмуазэль Алін, якая не раз была сведкай падобных звадак, не вытрымлівала і бегла па нюхацельную соль — для сябе, вядома. А Стась адно ўсміхаўся. І Анцік кожны раз думаў з патаемным задавальненнем, што цяпер яго сястрыца не захоча больш сустракацца з чарнавокім задзіракам. Але, калі госць сыходзіў, хлопчык са здзіўленнем заўважаў на твары Насты дзіўную мяккую ўсмешку, а позірк сястры пралятаў, не затрымліваючыся, праз нецікавыя прадметы інтэр’ера ў нейкія нетутэйшыя далячыні.

З’явілася тая ўсмешка на ейных вуснах і цяпер, калі пакаёўка прыбегла з паведамленнем, што прыйшоў залескі паніч. Анцік кінуўся на лесвіцу, перавесіўся ўніз. Стась з’явіўся ў неверагодна шыкоўным выглядзе: паўзверх доўгай чорнай бравэркі — плед у краткі, на доўгіх валасах — капялюш з шырокімі брыламі, з якіх зараз страсаліся цэлыя снегавыя сумёты. А ў руках — два прыгожанькія пакуначкі!

— А, наш юны сусед! Гэта ваш карнавальны касцюм?

Бацька, пан Міхал Карвар, заўсёды чамусьці размаўляў са Стасікам жартаўліва. Але малады чалавек адказаў годна, з прыхаваным выклікам:

— Так апранаюцца студэнты, пан Міхал.

— Ну-ну... А як жа шынель, мундзір, фуражка з гербам, пальчаткі?

— Мы пратэстуем супраць нашэння формы,— голас Стасеў гучаў урачыста.— Бяднейшыя студэнты не могуць яе набыць, таму ім

пагражае выключэнне. Гэта дыскрымінацыя! Мы вырашылі ўсе хадзіць на заняткі ў цывільным!

— Што ж, ухваляю,— бацька сказаў гэта ўжо сур’ёзна.— Але сённяшнім вечарам, юнача, жадаю вам толькі шчыра весяліцца.

Гасцей, як заўсёды, было шмат. Прыехала пані Марыся, удава дзядзькі Анатоля, брата пана Міхала. Шмат гадоў пані Марысю бачылі толькі ў чорным, хаця сёння на ёй серабрыста-шэры раброн. З паняй Марысяй дочкі, смяшлівыя рудзенькія Ганка і Гапка. Вось пан Міхал сустракае сям’ю з маёнтка Гаркавічы: пан Вітольд, хударлявы, з каротка стрыжанымі сівымі валасамі і кавенькай, падобны на рымскага легіянера, таўсманная і дабрэнная пані Ядвіга, іх сын Радусь, будучы юрыст, элегантны і ўраўнаважаны да сумоты. Вясёлая святочная мітусня напоўніла дом даверху, як рознакаляровыя каменьчыкі напаўняюць куфэрак прыгажуні.

— Карнавал! Карнавал! Маскі, рыхтуйцеся!

Анцік кінуўся ў свой пакой. Латы выглядаюць як сапраўдныя... А меч — дык і ўвогуле сапраўдны: старажытны, ваярскі, вышчарблены ў многіх бойках — таму і дазволілі ўзяць, што страціў былую вастрыню. Вядома, не зусім рыцарскі — такі кароткі меч называўся корд і выкарыстоўваўся для бліжняга бою. Хлопчык не ўтрымаўся, каб не ўзмахнуць сваёй зброяй, направа, налева, рэзкі выпад — і цмок падыхае на рудой ад атрутнай крыві траве.

У зале ўжо збіраліся маскі. Старэйшыя госці, што не бралі ўдзел у пераапрананні, уладкаваліся на крэслах ля сцен. Пані Ядвіга, вядома, пасунулася да століка з пачастункам — цукаты ў маёнтку Рэчыцы былі адметныя.

Маці ў светла-зялёнай сукенцы, ветлая і прыгожая, з гэткімі ж вялізнымі шэрымі вачыма, як у Насты, падыходзіла то да аднаго, то да другога госця, і ад яе слоў, пагляда, усмешкі прасвятляліся твары — быццам сонечны прамень слізгаў па хвалях ручая.

Наста зайздросціла матчынаму ўменню прымусіць самага сур’ёзнага чалавека усміхнуцца, прыадчыніць душу насустрач. Здавалася, пані Карвар правяла жыццё ў казачным свеце, дзе проста няма благіх людзей і вялікіх няшчасцяў,— такая яна была ўся светлая, даверлівая, ніколі не павышала голасу. Як сапраўдная фея.

А вось мадэмуазэль Алін, іх строгая, уражлівая мадэмуазэль Алін нечакана апранула яркі ўбор гарэзлівай Каламбіны. Радусь захінаўся ў белы плашч з нашытым крыжам. Ганка і Гапка — у неверагоднай шырыні крыналінах і ў каронах, але якіх каралеў сёстры мусілі

ўвасабляць — ведалі дакладна толькі яны самі. Сярод стракатага натоўпу вылучаўся Стасік у простым чорным пінжаку, з каўняром пад горла. Але ён прымаў такія гордыя позы, спрабуючы годна адказаць на жарты рудзенькіх сясцёр, што ягоны касцюм цалкам мог сысці за карнавальны — рамантычны герой, высакародны змагар. А вось пан Міхал выйшаў у легкадумным строі тамбурмажора, у велізарным ківеры і з велізарным жа бліскучым жазлом, якім з усяе сілы стукнуў у падлогу.

— Карнавал пачынаецца!

Вусы ў пана Міхала былі пышныя свае, і ўсміхаўся ён у іх так весела, што ўсе засмяяліся у адказ, запляскалі ў ладкі. Але Гапка закрычала:

— Пачакайце, яшчэ Настассі няма!

Некалькі вясёлых галасоў гукнулі дзяўчыну. Раптам з галерэі другога паверха пачулася працяглая ўсходняя мелодыя дзівоснай прыгажосці. Нехта сыпануў блішчынкі, і над лесвіцай закружыўся фантастычны лёгкі снегапад. На верхняй прыступцы замерла прывідная фігура. На дзяўчыне, грацыёзнай, бы крынічны струменьчык, была смарагдавая, расшытая камянямі і залатой біццю доўгая шаўковая кашуля, падпяразаная шырокім залацістым пасам, з-пад кашулі выглядалі шальвары з белага атласу, з бякла-зялёнымі раслiннымі ўзорамі. Ножкі — у залатых чаравіках з загнутымі насамі, на турбане з белага шоўку уздрыгваюць дзівосныя пёры, а твар прыкрывае празрысты вэлюм, быццам кавалак русалчынага сну. Нават Анцік не адразу пазнаў сястру — вось чаго яна так падоўгу зачынялася ў сваім пакоі і вось куды знікла матчына цюлевая палярына! Толькі вялізныя шэрыя вочы схаваць немагчыма — адразу пазнаеш.

Дзяўчына павольна спускалася па лесвіцы, ступаючы ў такт пераліўістай мелодыі. Праз вэлюм праглядвала ўсмешка. Нарэшце агульнае ашаламленне прайшло, усе зноў запляскалі, прыветна закрычалі. Да ўсходняй прынцэсы з двух бакоў кінуліся, прапаноўваючы руку, элегантны Радусь у белым касцюме паладзіна і Стась у чорным. Прынцэса крыху памарудзіла, а пасля звонка рассмяялася і працягнула абедзве рукі палкім рыцарам.

— Танцы! — закрычаў пан Міхал на правах кіраўніка.

І танцы пачаліся… І закруцілі галовы, і прымусілі сэрцы біцца шалёна, быццам ад знясільваючых уцёкаў ад прозы заўтрашняга дня. Вядома, з’явіліся калядоўшчыкі — з казою, мядзведзем,

цыганом і цыбатым буслам, які страшна шчоўкаў драўлянай вострай дзюбай. А якія былі падарункі! Анцік асабліва ўзрушыўся атрыманым ад бацькі мікраскопам з дваццацікратным павелічэннем і Стасевым шыкоўным наборам для стварэння этымалагічнай калекцыі (бедныя будуць кузуркі ў наваколлі карвараўскага дома!).

А ў давяршэнне — прагулка на санках.

Вядома, беднага Анціка адправілі спаць.

Які несправядлівы свет!

Дзяўчына ў смарагдава-бела-залацістым пералівістым уборы ціха ішла па паўцёмных калідорах маёнтка, смех і гуд свята заціхалі недзе далёка. Урэшце, там, дзе канец калідора расшыраўся ў пакой эркера — круглую залу з вялікімі вокнамі, што выступала перад фасадам дома, быццам волатаў ліхтар, на фоне заснежанага акна ўбачылася нечая постаць.

— Стась! Чаму ты ўцёк?

Юнак змрочна сузіраў асветленыя дрыготкім агеньчыкам лампады яслі — васковы Хрыстос цягнецца ручкамі да схіленай над ім маці з васковым жа прыўкрасна-сумным тварам, авечачкі — як жывыя, пухнатыя, забаўныя, бычок, здаецца, так бы і замыкаў ад радасна-дурнаватага здзіўлення...

— Ста-ась!

У голасе дзяўчыны гучаў дакор, нібыта на адрас непаслухмянага дзіцяці. Сумотнік нарэшце прыўзняў галаву як мага больш ганарліва.

— Не хвалюйцеся за мяне, спадарыня Настасся. Я прывык да адзіноты. Падумаць захацелася сам-насам, паразважаць.

— Ды ты проста пакрыўдзіўся, што я з Радусем танчу.

Добра, што ў цемры не відаць, калі чырванееш. Стась з усіх сіл намагаўся зрабіць голас спакойным. Выглядаць смешным перад гэтым дзяўчом! Невыносна.

— Я, прабачце, не заўважыў, з кім вы танчылі, і лічу ваш выбар вашай жа асабістай справай. Мой настрой не залежыць ад... ад дзявочых капрызаў.

Усё-ткі выдаў сябе, сказаўшы пра капрызы. Цяпер — толькі сысці... Змагар за сацыяльную справядлівасць, называецца... Бедны Вертэр...

Пакуль юнак, утаропіўшыся ў кут, шчыра асыпаў сябе ў думках крыўднымі мянушкамі, Настасся ціха паклала руку яму на плячо.

— Дурненькі... Радусь проста мой сябар дзяцінства, самаўпэўнены дэндзі. Мне такі спадабацца не можа. Ну, перастань дзьмуцца...

Стась не вытрываў, павярнуўся да дзяўчыны, схапіў яе прахалодныя далонькі, як два пялёсткі, у свае рукі, прыпаў да іх гарачымі вуснамі.

— Прабач... Я паводзіўся, як дзіцё...

— А ты і ёсць дзіцё,— засмяялася Настасся,— хоць і лічыш сябе тургенеўскім Базаравым.

— Але Тургенеў у многім меў рацыю.— Стась зноў пасумнеў.— Нават твае бацькі — якія б ні былі разумныя, прыстойныя людзі, застаюцца панамі, людзьмі свайго класа. Ім нікуды не падзецца ад віны перад простым народам. Паглядзі, колькі сёння страчана грошай на забавы — можна было б накарміць цэлую вёску! Дарэмнае, заганнае спальванне часу!

Настасся паківала галавой:

— Мне цяжка спрачацца з табой — вядома, ты больш за мяне ведаеш, ты старэйшы... Але хіба не варта траціцца проста для таго, каб чалавек парадаваўся? Хіба ты не бачыў, што сёння ў Рэчыцы прыходзілі сяляне і іх дзеці і таксама атрымалі свята — і падарункі, вядома. Людзі цягнуцца да прыгажосці. Гэты хлопец, што граў сёння на флейце... У дзяцінстве ў яго адбіралі дудачку і білі ёю па вуснах — каб не займаўся дарэмнай справай. А ён выразаў новую — і граў... Цяпер ён вучыцца ў кансерваторыі — наш бацька дапамог. А вось гэтыя яслі... Іх майстравалі не паны — прыслуга. Паглядзі, з якой любоўю тут зроблена кожная дэталь. Людзей ніхто не змушаў, ніхто не загадваў гэта рабіць. Знішчы гэтую прыгажосць, калі можаш!

— Мяшчанства...

Стась нахіліўся, узяў у рукі маленькага Хрыста... Пальцы скלаліся, каб шчоўкнуць у васковы лобік... Расціснуліся... Стась асцярожна паклаў ляльку на месца, нібыта жывое немаўля. Уздыхнуў... І загаварыў іншым тонам, мякка і даверліва:

— Напэўна, твая праўда... Нават у тым свеце, які калі-небудзь пабудуюць нашыя нашчадкі, не знікнуць прыгажосць і каханне. Але... я не хачу, каб ты ператварылася ў спешчаную паненку, загубіла сваю жывую душу ў павятовым «свецкім жыцці». Вядома, твае бацькі не зразумеюць... Як не разумеюць мае, хаця яны таксама добрыя, сумленныя людзі, а бацька паспеў і слаўна паваяваць. Дык вось... Пры нашым універсітэце адкрыліся курсы для жанчын... Табе спаўняецца васямнаццаць...

— І мне давядзецца коратка пастрыгчыся? — рассмяялася Наста.

— Чаму? — разгубіўся Стась.

— Ну як жа, усе курсісткі — каротка стрыжаныя. А ў мяне — вунь якія косы...— Наста гарэзліва прыўзняла рукамі пышныя русыя пасмачкі, перавітыя тонкімі залатымі ніцямі з перлінамі.

І Стась не вытрымаў, каб не дакрануцца — асцярожна-асцярожна, быццам баяўся пашкодзіць — да гэтага духмянага вадаспада.

— Ну, я думаю, можна абысціся і без стрыжкі... Але... Ты згодная?!!

— Хіба ты сумняваўся?

— Дарагая...

Дзве постаці наблізіліся адна да адной, замерлі...

Потым хлопец прашаптаў:

— Я мог бы за цябе памерці... З радасцю.

Яна закрыла яго вусны даланёй:

— Нашто гаварыць пра смерць!

Юнак шчасліва рассмяяўся:

— Сапраўды... Перад намі — жыццё, дарога з балота — на шырокі прастор. Мы можам фіктыўна пажаніцца — і ты атрымаеш волю і зможаш сама распараджацца сваім лёсам. Так многія курсісткі зрабілі.

— Фіктыўна? — Наста сказала гэта так холадна, з такой адчужанасцю і крыўдай, што Стась упаў на калені, адчуваючы сябе нягоднікам.

— Любая! Я толькі хацеў сказаць, што ты — вольная і ад мяне. Я ніколі, чуеш — ніколі — не буду навязваць табе свае рашэнні. Ты — асоба, ты — чалавек, роўны мне...

Настасся коратка ўздыхнула:

— А хто табе сказаў, што я хачу быць вольнай ад цябе?

— Мілая...

Постаці зноў зліліся ў прывідным водблеску месячнага святла, што выпраменьваў снег за шырокімі вокнамі. Дзесьці пачуліся вясёлыя крыкі тых, хто выпраўляўся на санную прагулку. Звінелі, аддаляючыся, бомы... Раптам па калідоры паплыў агеньчык свечкі, пачуліся галасы.

Хлопец і дзяўчына інстынктыўна прыціснуліся адно да аднаго, прыселі, стаіліся ў цёмным куце — як у гульні ў жмуркі. Галасы набліжаліся.

— Навошта ты прымаеш у доме гэтага залескага паніча? — маці гаварыла не злосна, хутчэй горка-стомлена.

— Дарагая, ён добры хлопчык... I ні ў чым не вінаваты,— гэта адказваў бацька.

— А ў чым былі вінаватыя твае браты? Ты сам? У тым, што хацелі волі для свайго народу? Забывацца на пакуты тых, хто ахвяраваў сабою дзеля справядлівасці,— ганебна.— Маці была нечувана рэзкай.— Вось сёння... пад час карнавалу... Я проста не магла глядзець, як дзве няшчасныя сіраты — Ганулька і Агапка — жартуюць з сынам ката і забойцы іх бацькі. Твайго брата, між іншым.

Бацька памаўчаў, чуваць былі толькі яго цяжкія крокі — пан Міхал меў звычку падчас цяжкіх роздумаў хадзіць...

— Наўрад ці хлопец ведае пра справы дваццацігадовай даўнасці. Ён, як мне падаецца, чалавек сумленны і таксама хоча справядлівасці для народа...

Маці горка рассмяялася:

— Даравацьі забываць — гэта мы, беларусы, умеем. Ты ўжо забыўся, што Залессе належала тваім продкам на працягу пяці стагоддзяў? Ты забыўся, што трыццаць сем'яў з Залесся панам палкоўнікам, цяперашнім гаспадаром, былі высланыя ў Сібір, за дапамогу бунтаўшчыкам — былым іхнім панам? А мужчыны перад гэтым пакаштавалі бізуна. I ніхто з сасланых не вярнуўся. А цяпер на грошы, сабраныя з залескіх сялян, вучыцца гэты высакародны паніч. Які таксама збіраецца сялян вызваляць... Няхай бы вызваліў хоць аднаго з тых, сасланых ягоным бацькам!

— Магда, ты несправядлівая... Дзеці мусяць быць вольныя ад жаху мінулага.

— I ты дапусціш, каб твая дачка, а ў мяне ёсць такія падазрэнні, пакахала сына падлюгі і ката, чалавека, які калісь гнаіў цябе ў каменным лёху і загадваў карміць сялёдкай і не даваць вады, каб змусіць прадаць братоў? А табе было ўсяго васямнаццаць, і яны не мелі ніякіх доказаў, што ты быў інсургентам... I калі я дабілася спаткання, ты быў увесь спухлы і скусаны пацукамі і вошамі, і не мог трымацца на нагах... А калі цябе пацягнулі назад, я бачыла, як гэты... чалавек... ударыў цябе па твары, папярэдне надзеўшы скураную пальчатку. Як быццам выконваў непрыемную, але карысную і патрэбную працу. Я не магу гэтага забыць, Міхал...

Жанчына заплакала. Бацька загаварыў нешта суцяшальнае, дзверы грукнулі, і галасы сціхлі.

Дзве постаці засталіся ў прыцемку залы з вялікімі вокнамі. Цяпер яны ўжо не прыціскаліся адна да адной. Стаялі побач, але так нерухома, быццам між імі ўзнік нябачны архангел з вогненным мячом.

Раптам адна постаць сарвалася з месца і пабегла.

— Стась! — у Насты не было сіл нават закрычаць, з яе вуснаў вылецеў нейкі хрыплы шэпт.

З вуліцы зноў даносіліся вясёлыя галасы, перагукваліся бомы, ляпалі дзверы — святочная ноч заканчвалася.

Залескага паніча знайшлі пад вечар наступнага дня на дарозе ў Залессе. Чаму ён пайшоў пешкі ў самую сцюжу, ды яшчэ не па бальшаку, а праз лес, дзе самыя сумёты?

Пасля гэтага здарэння залескі маёнтак быў прададзены нейкаму немцу, які спакусіўся ўчасткам лесу з гонкімі карабельнымі соснамі, што прадаваўся разам з маёнткам. Хутка там застукалі сякеры, зашоргалі пілы, і Залессе ператварылася ў высечку, зарослую панылым асіннікам, пасярод якой цямнеў, як помнік былому жыццю, занядбаны дом з забітымі аканіцамі — новы гаспадар там не жыў.

Настасся Карвар пасля заканчэння гімназіі паступіла на жаночыя курсы пры Санкт-Пецярбургскай медыцынскай акадэміі. Асабліва быў у захапленні ад гэтага яе малодшы брат Антон — цяпер сястра прывозіла яму ў падарунак новыя кнігі па біялогіі і заспіртаваных яшчарак.

На Каляды ў маёнтку Рэчыцы больш не ладзіліся пышныя карнавалы.

## Дом з драўлянымі львамі

Яны прыйшлі якраз на праваслаўнае Вадохрышча, калі зорны Вознік спыніў сваю калясніцу над цёмным сілуэтам капліцы. Яе добра было відаць з вокнаў сядзібы, чый ганак вартавалі два драўляныя львы, замеценыя снегам аж па разяўленыя пашчы.

Гэта была ненадзейная ахова. Адзін маленькі, але жывы сабачка быў бы карысней за тыя вялікія, нязграбныя, пашчапаныя часам і непагаддзю страшыдлы. І адзін з нечаканых гасцей пастукаў у шыбу...

Іх было трое. Два — зусім юнакі, са змучанымі інтэлігентнымі тварамі, апранутыя ў, відаць, нязвыклае для іх сялянскае адзенне.

Трэці, гадоў пад трыццаць, бялявы і светлавокі, быў у салдацкім шынялі, з кішэні якога тырчэў стары пісталет. Бялявы час ад часу браўся за яго неўсвядомленым рухам. «Нібыта састарэлая паненка за пудраніцу з люстэркавай накрыўкай»,— з недарэчнай іроніяй падумалася гаспадару сядзібы. Сам гаспадар, сівы хударлявы старэча ў выцертым на локцях, але акуратным старасвецкім пінжаку, стаяў, абапершыся на кульбачку, пасярод вітальні, асветленай чырванаватым агеньчыкам газоўкі, і спакойна глядзеў на прыхадняў крыху выцвілымі сінімі вачыма.

— Вы адчынілі нам,— старэйшы госць намагаўся гаварыць гэтак жа спакойна.— Вы адчынілі, хаця ведалі, што нас шукаюць. Гэта добра, што вы не змусілі нас да гвалту. Ходзяць чуткі, што калісьці вы гэтаксама былі выгнаннікам. Нам трэба толькі трохі ежы і пару гадзін адпачынку... Цёплай парою нас хаваў бы і карміў лес. А цяпер...

Гаспадар схіліў сівую, як снег, галаву:

— На гэтай зямлі ўвесьчасна нехта ўцякае ад пагоні, а нехта даганяе... Калі б іх сляды заставаліся на паверхні зямлі вечна, наш край нагадваў бы вычварныя карункі з незлічонымі абарванымі ніткамі-лёсамі. Я адпусціў пакаёўку на святы да яе сваякоў. Ніхто староннi вас не ўбачыць і не пачуе... Так што можаце нават пераначаваць. Распранайцеся і пойдзем у гасцёўню.

...У каміне скакалі чырвоныя Вогнікі ў вастраверхіх капялюшыках. Здавалася, што яны зацята будуюць маленькі гатычны сабор з многімі вежамі. Але іх будоўля рассыпалася іскрамі-цаглінкамі на чорныя вуглі... І праз імгненне адбудоўвалася ізноў.

...Дзіўны гэта быў дом. Нават таму, што меўся камін, хаця сапраўдныя цяпло і карысць несумненна давала вялікая грубка ў правым ад дзвярэй куце. Мусіць, нехта з ранейшых уладальнікаў сядзібы знаходзіўся пад уплывам рамантызму. А чаго толькі не было на сценах, на паліцах высокіх этажэрак, на каржакаватых камодах! Гравюры на біблейскія тэмы з наіўным сярэднявечным маралізатарствам і прадметным бачаннем надсвядомага. Тыя мастакі дакладна ведалі, як выглядае Меланхолія, Боль, Пошасць, Смерць... А таго, чыё аблічча вядомае да драбніц — чаго ж баяцца? На парцэлянавым посудзе лёталі сінія райскія птушкі, драўляныя грубаватыя скульптуры мясцовай работы, падобныя да львоў ля ганка, суседнічалі з вытанчанымі бронзавымі статуэткамі. З высокай шафы мармуровы Гамер пазіраў невідушчымі вачыма на жахлівую афрыканскую маску. Але галоўнымі ў доме былі кнігі. Паветра гэтак

насыцілася папяровым пылам, што здавалася, яго можна было гартаць. Адразу казытала ў носе...

Госці сядзелі перад камінам у плеценых з лазы фатэлях. Юнакі не маглі стрымаць цікаўнасці і крадма кідалі позіркі па баках... Крадма, бо ім зусім не хацелася выглядаць менш годна за свайго бялявага правадыра. А той піў сваю гарбату з гэткім цудоўным суровым выглядам, і інкруставаны пісталет, старасвецкі дуэльны пісталет без пары, ляжаў на ягоных каленях.

Гаспадар адкінуўся на высокую спінку крэсла, абабітага чорнай скурай.

— Як мне ўсё-ткі да вас звяртацца?

Бялявы кінуў папераджальны позірк на таварышаў:

— Можаце зваць мяне Сцяпанам... Вядома, гэта не сапраўднае імя.

Маладзён з кароткімі цёмнымі валасамі, трохі хвалістымі, і ледзь заўважнымі вусікамі, чымсьці вельмі падобны да месяцатварых юнакоў з карцін Караваджа, прадставіўся Кастусём. Другі, танклявы і, відаць, ад прыроды ціхмяны, са змрочнай задзірыстасцю назваўся Робертам.

«Роберт-д’ябал»... Та-та-та — ці-та-та... Рамантыкі, халера. Гэтай зямлі шанцуе на рамантыкаў... Мусіць, рамантычны светапогляд спараджаецца менавіта безнадзейнасцю?»

— Я не буду ні пра што распытваць, не хвалюйцеся... Давайце лепш сам нешта распавяду, раз вы сталіся наведнікамі майго хатняга музея.

Гаспадар, цяжка абапёршыся на кавеньку, устаў і падышоў да паліц. Ён здымаў адну за адной старыя кнігі, гартаў і тлумачыў, што напісаныя яны на старабеларускай мове. А яшчэ называлася яна літоўскай, хаця цяпер тую назву звязваюць зусім з іншай мовай... А Літвой калісьці называўся ўвесь гэты край. І на мове, на якой цяпер тут гаворыць толькі просты люд, размаўлялі князі і каралі і пісаліся дзяржаўныя дакументы. І паслы вялікіх дзяржаў вучылі гэтую мову, таму што тут таксама была вялікая дзяржава. Са сваімі філосафамі і паэтамі, блюзнерамі і святымі пакутнікамі, палкаводцамі і чароўнымі дамамі...

— Дык што, назад, да залатога веку? — Вочы Сцяпана гарэлі незразумелай гаспадару пагардай.— Можна падумаць, тады не існавала прыгоннага права, не прыпадабнялася людское жыццё нікчэмнай сцяблінцы... Не пасыпалі вашы ўлюбёныя князі дарогі

соллю, у той час як іх падданыя мерлі з голаду... І не палілі вашых улюбёных філосафаў на вогнішчах інквізіцыі... Мінулае трэба хаваць разам з тыранамі, якія ў ім ўладарылі.

Гаспадар крыху разгубіўся ад запалу гэтых слоў.

— Гісторыя ў кожнай нацыі крывавая. Веліч і злачынства заўсёды побач... І злачынства заўсёды больш... Але трэба ведаць сваю гісторыю, менавіта сваю, і ганарыцца ёю. Паважаць самога сябе, сваю культуру, сваю мову...

Сцяпан паблажліва ўсміхнуўся:

— Прыгожыя словы. Народу патрэбная справядлівасць. Галодны і непісьменны не можа ганарыцца тым, што нейкі князь, які калісь лупцаваў ягонага прадзеда, перамог другога князя, які лупцаваў гэткага ж раба...

— Толькі той, хто паважае гісторыю і мову свайго народа, мае гонар чалавека. І ён ніколі не стане рабом.

Сцяпан нязграбна сунуў пісталет у кішэню сурдута, усхапіўся з крэсла, ірвануў з рук танклявага Роберта важкі том і шпурнуў на падлогу — ажно вылецела некалькі пажаўцелых старонак, нібыта лісты да памерлага адрасата.

— Вось ваша «гісторыя»! Парахно, якое рассыпаецца на вачах. Вы занадта былі знітаваныя з ім. Таму ваша справа не перамагла. А наша — пераможа! Бо мы абтрасём гэтае парахно са сваіх ног. У свеце справядлівасці і роўнасці, які мы збудуем, ва ўсіх будзе адна гісторыя — без войнаў і тыранаў, і адна мова — бо зікнуць межы і варажнеча...

Гаспадар сумна глядзеў на кінутую кнігу.

— Тыя, што гоняцца за вамі, таксама сцвярджаюць, што ўвесь свет мусіць размаўляць на адной мове... Праўда, яны дакладна ведаюць, на якой — на мове іх імперыі...

Чарнявы юнак, які назваўся Кастусём, пакрыўдзіўся:

— Вы, напэўна, з тых, што за плакальшчыкам Дастаеўскім паўтараюць наконт слязінкі дзіцяці, гвалту баяцца... Што, па-вашаму, усе мы мусім сядзець, як вы, уткнуўшы насы ў старыя кнігі?

Гаспадар уздыхнуў:

— Калісьці я таксама быў упэўнены ў сваёй праваце. Быў гатовы забіваць тых, хто абараняў няпраўду. Трыццаць гадоў таму... Свет, на жаль, не змяніўся... Але цяпер я ўпэўнены хаця б у тым, што ніхто не ведае дакладнага рэцэпта яго пераўтварэння.

Усе трое гасцей паблажліва ўсміхнуліся. Стары дзівак! Бездапаможны і разгублены... Нават шкада яго і хочацца нешта патлумачыць. Але ці зразумее?

Гаспадар узяў з камоды невялікі куфэрак з чырвонага дрэва, асцярожна, двума пальцамі, дастаў адтуль пяро незвычайнага сіняга колеру.

— Усе палююць за сіняй птушкай шчасця... Агульнага шчасця, для ўсіх і для кожнага. І мала хто ведае, што сіняя птушка жыве ў сапраўднасці. Я калісьці знайшоў яе пяро. Сіняя птушка жыве высока ў гарах, яна падобная да нашага голуба. І на яе палююць зусім не алегарычна. Хутка гэты від зусім знікне. Калі чалавек не можа абараніць ад уласнай сквапнасці і жорсткасці гэтую кволую істоту, ці дасца яму ў рукі тая, міфічная?

Шыбы заінелі. Але навокал было так ціха, што ў доме з драўлянымі львамі пачулі далёкі пошчак капытоў, прыглушаны снегам.

Старэйшы госць зноў выхапіў пісталет і адрывіста спытаў гаспадара:

— У вас ёсць зброя?

Стары не азваўся на пытанне, сказаў цвёрда і хутка:

— За камінам — хованка. Задняя сценка адчыняецца, калі націснуць на ручку там, справа, з унутранага боку паліцы... Вось так... Прыйдзецца скакаць цераз агонь. Як на Купалле... Скакалі, мусіць, з дзяўчатамі? Ці гэта ніжэй вашай рэвалюцыйнай годнасці? Вось так... Зачыніце дзверцы знутры...

Вогнікі працягвалі будаваць свае гатычныя вежы, але, здавалася, у іх працы з'явіўся большы імпэт, бо яна сталася яшчэ больш значнай — ратавала чалавечыя жыцці.

Нават пан жандарскі ротмістр, які працягнуў да чужога агменю азяблыя падчас доўгай пагоні рукі, працягнуў, не здымаючы пальчатак, ні на хвілю не западозрыў, што мэта яго доўгай вандроўкі аддзеленая ад яго ўсяго гэтай мігатлівай завесай агню.

Жандары не былі ўпэўненыя, што злачынцы хаваюцца менавіта ў гэтым доме. Завіруха старанна зраўняла сляды, змяшала з іншымі. Але верагоднасць была вялікая. Прынамсі, што злачынцы заходзілі сюды. Гаспадар дома з драўлянымі львамі лічыўся нядобранадзейным. Пан ротмістр так і нагадаў яму. І што за дзіўная звычка піць гарбату з некалькіх кубкаў?

Тры кубкі з рэшткамі недапітай гарбаты, пакінутыя на маленькім століку пасярод пакоя, сапраўды глядзеліся недарэчы ў гэтым самотным доме.

— Вы пойдзеце з намі,— змрочна сказаў ротмістр. Ён узвышаўся над прыгорбленай постаццю гаспадара, як цёмная Бабруйская крэпасць над ціхмянай рачулкай Бабруйкай.— Нават павага да вашага ўзросту (дарэчы, за такі час можна было б і паразумнець), не змусіць мяне адмовіцца ад выканання свайго доўгу. Мы знайшлі ў вас дастаткова заганнага...

Там, дзе ля кніжных паліц, дружна чхаючы ад пылу, завіхаліся жандары, адчайна шаргаталі старонкі і глуха падалі на падлогу кнігі. Адна з іх, адшпурнутая асабліва злосна, упала пад ногі гаспадару, нібыта параненая птушка. На шмуцтытуле значылася: «Багагласьнік. Канты, псальмы, лацінскія гімны і пастаралькі для пачцівого і богаўгоднаго сьпевання і прадстаўленьня». Ротмістр грэбліва крануў кнігу наском бруднага бота.

— Уніяцкая? Схізматыкаў? Ну-ну! Толькі шчырая дапамога следству можа прымусіць нас забыцца на гэтыя агідныя сапраўднаму хрысціяніну рэчы.

Гаспадар глядзеў проста ў вочы жандару:

— Я нічым не магу дапамагчы следству.

Ротмістр з блазенскім здзіўленнем развёў рукамі:

— Вы дзівак! Вам, мусіць, здаецца, што паўтараюцца падзеі вашай маладосці. Але, запэўніваю, тыя маладыя людзі, якіх вы абараняеце, зусім не ў вашым гусце. Тэрарысты, фанатыкі... Яны не лятуць з аголенай шабляй наперадзе мужнага атрада. Іх стыль — кінуць бомбу, стрэліць у спіну. Чулі пра забойства генерала Мяскова з сям’ёй? Іхняя справа. Паверце, ваша шляхецкая годнасць застанецца незаплямленай, калі вы падкажаце, у які бок рушылі злачынцы. Маўчанне вам задорага абыдзецца... І, паверце, экзатычнай вандроўкай па Афрыцы на гэты раз для вас не скончыцца.

Стары паківаў галавою:

— Я жыў цікава і доўга. Мабыць, больш доўга, чым спадзяваўся і чым заслужыў. Калісьці я здзіўляўся ўсяму і шмат чаму абураўся. Вастрыня пачуццяў, на жаль, з узростам прытупляецца. Магчыма, таму не магу падзяліць вашае абурэнне ці пашкадаваць сябе. Выбачайце.

Ён стаяў, такі кволы, худы і прыгорблены, у сінім старым пінжаку, зашпіленым на ўсе гузікі да горла, і чымсьці страшэнна нагадваў

хворую птушку... Птушку на выбоіне скалы, якая ўсё роўна не дасца ў рукі паляўнічаму — хутчэй кіне саслабелае цела, якое больш не трымаюць крылы, у прорву.

Ротмістр штурхнуў нагой кінутую кнігу. Жоўтыя старонкі разляцеліся па і без таго засмечаным пакоі. Жандарскі правадыр некалькі разоў запар чхнуў. Халера, ну і пылішча... Як гэты стары тут жыве? Не чалавек, а нейкі шашаль. Куды яго везці? Памрэ па дарозе.

Нехта з жандараў, відаць, надзвычай дасціпная ў жандарскім асяроддзі асоба, на развітанне строс снег з галавы драўлянага льва і сунуў яму ў пашчу шматок сена. Пачвара адразу зрабілася нейкай жаласнай і камічна бяскрыўднай.

Гаспадар моўчкі сядзеў у крэсле з высокай спінкай перад камінам, у якім дагаралі счарнелыя старонкі. Яны курчыліся на вуголлі, як жывыя. Вогнікі рупліва пераварочвалі іх, скакалі па іх, каб хутчэй рассыпаць на тло.

Тыя, што хаваліся за агнём, ужо апранутыя, з невялікімі вузельчыкамі, рыхтаваліся сыходзіць.

Светлавокі Сцяпан, у шынелі і шапцы-аблавушцы, вымавіў:

— Дзякуем вам. Вы дапамаглі рэвалюцыйнай справе.

— Я зрабіў тое, што мусіў зрабіць...— ціха прагаварыў стары.

— Можа, і вы з намі пойдзеце? — выявіў недарэчны энтузіязм чарнявы Кастусь. І сумеўся пад з’едлівым позіркам Сцяпана.

Стары мімаволі ўсміхнуўся:

— Дзякуй, юнача, што так высока ацаніў мае магчымасці.... На жаль, я сапраўды стары. І нават каб меў сілы — у мяне няма ўпэўненасці, што ўдасца разблытаць карункі шляхоў... Калісьці я спрабаваў гэта зрабіць з вашым бацькам, Кастусь... Дакладней, калі не памыляюся, Вінцэнт...— Стары не заўважыў, як ад гэтых слоў тузануўся Сцяпан і сунуў руку ў кішэню.— Вы ўжо не крыўдуйце, што я трохі парушыў вашу канспірацыю. Вы так на яго падобны... Як цікава... Калісьці ён таксама хаваўся тут, за камінам. Мы і цяпер часам згадваем...

Гаспадар відавочна расчуліўся. Напэўна, ён яшчэ доўжыў бы свае ўспаміны. Але Сцяпан зрабіў крок наперад. Голас яго гучаў цвёрда — як бой вежавага гадзінніка.

— Нам час ісці. Мы сапраўды вам удзячныя. Мы згадаем вас у новай гісторыі, якую напішам. Гэтая гісторыя засведчыць нашую непахіснасць і вялікія ахвяры, якімі здабываецца воля.

Дуэльны пісталет пазбавіўся ад сваёй адзінай кулі. Вакол чорнай недарэчнай дзіркі ў ілбе старога гаспадара амаль не паказалася крыві. Тонкі чырвоны струменьчык чамусьці выцек з кутка рота, калі цела нязграбна звесілася з крэсла набок.

— Навошта?! Ён выратаваў нам жыццё! — Танклявы Роберт аж тросся ад узрушэння.

Кастусь-Вінцэнт аслупянела глядзеў перад сабой і нешта шаптаў.

Сцяпан пастараўся надаць голасу важкасці:

— Гэта было неабходна. Ён пазнаў Вінцэнта... А ён стары, слабы, даўно адышоў ад барацьбы і нічога не разумее. Нават калі б не выдаў нас жандарам, абавязкова распавёў бы Вінцэнтаваму бацьку... Пакаёўцы... Святару... У ягонай жа хованцы — памятаеце? — Біблія ляжала! Ды яшчэ з закладкамі. Мы не можам рызыкаваць.— Сцяпан спрытна зараджаў пісталет, любуючыся ім, нібы дзіця сваёй цацкай. Нават голас яго зрабіўся амаль ласкавы: — Ну што б гэты стары небарака рабіў у новым свеце? Ды і не дажыў бы да яго перамогі. Усё роўна скора памёр бы. Рушылі...

Кастусь, стараючыся не глядзець на чорнае крэсла, павольна пасунуўся да дзвярэй. Сцяпан азірнуўся на таго, хто назваўся гаспадару Робертам.

— Юраська, ачуняй! Наша справа слабых не церпіць.

Танклявы юнак стаяў, апусціўшы вочы, з падціснутымі — аж збялелі — вуснамі.

— Я не пайду з табой.

Сцяпан ад нечаканасці тузануўся:

— Такімі словамі не кідаюцца.

— А я не жартую.— Юнак падняў на правадыра вочы, спакойныя, глыбокія вочы...

— Ты ведаеш, як мы абыходзімся са здраднікамі? — металёва прагаварыў Сцяпан і скіраваў пісталет на юнака.

Роберт-Юрась не варухнуўся. Сцяпан кінуў хуткі позірк на Кастуся, які напяўся і сціснуў кулакі, і зразумеў, што рызыкуе згубіць і гэтага... Малакасосы праклятыя... Пісталет паволі апусціўся.

— Баязлівец! Слюнцяй! Няўжо з-за смерці старога шашаля ты адрачэшся ад сваіх таварышаў?

Юрась прагаварыў павольна:

— Проста я таксама згубіў упэўненасць у тым, што ведаю правільны рэцэпт пераўтварэння свету.

— Пашкадуеш...

Дзверы злосна груканулі, але ў цішы зімовай ночы іх злосць мела не большую сілу, чымсьці трэск палена ў грубцы.

...Зорны Вознік адвёз сваю калясніцу некуды за край кладоў. Драўляныя львы ля ганка старой сядзібы глядзелі проста перад сабой вырачанымі ад незразумелага гневу вачыма. А ў каміне апошнія вогнікі падскоквалі на чорных вугольях. Іх пышны бліскучы сабор рассыпаўся дарэшты, і цаглінкі бездапаможна гублялі бляск. Юнак у сялянскім кажусе і студэнцкай фуражцы падняў з падлогі знявечаную кнігу, акуратна зраўняў адарваныя старонкі і паклаў яе ў свой хатуль. Потым падышоў да камоды, адчыніў куфэрачак з чырвонага дрэва і дастаў адтуль сіняе пяро. Паглядзеў скрозь яго на цьмяны агеньчык газоўкі, схаваў за пазухай. Ужо стоячы ў дзвярах, павярнуўся ў бок чорнага крэсла. Напэўна, трэба было б накрыць твар нябожчыка якой хусткай... Закрыць яму вочы... Але юнак баяўся зрабіць штосьці не так, не па звычаі, і яшчэ больш абразіць гэты дом. Таму проста перахрысціўся — а ён даўно гэтага не рабіў! — і здушаным ад хвалявання голасам вымавіў:

— Даруйце... Даруйце, калі ласка...

...Ад ганка з драўлянымі львамі па бялюткім, бялюткім снезе цягнуліся тры ланцугі слядоў. Адзін, напалову замецены, след ад цэлага коннага атрада кіраваўся на захад, да бліжэйшага мястэчка. Другі ланцуг, намнога танейшы — на поўнач, у бок цёмнай крэпасці лесу. І адзін самотны след цягнуўся туды, дзе хутка мусіла ўзысці барвовае зімовае сонца.

## Экскурсавод

Палкаводзец нічога не ведаў пра Паэта.

Не дзіўна — у часе яны амаль не сутыкнуліся. Паэт нарадзіўся ў старажытным радавым маёнтку на «заходніх крэсах» вялікай імперыі тады, калі састарэлы Палкаводзец, амаль аглухлы ад некалькіх кантузій, скручаны раматусам і цяжарам царскіх узнагарод, яшчэ наведваў вялікасвецкія балі, але ўжо не для таго, каб танчыць. Палкаводзец уладкоўваўся ў ганаровым фатэлі, паблажліва прымаў лісьлівыя кампліменты, якіх усё роўна не чуў, і доўга сядзеў так, сівы, няўклюдны пугач у яркім святле соцень свечак, усё яшчэ пагрозны і магутны... Ён спазнаў шмат славутых, амаль неверагодных перамог, і аднойчы пратрубілі яму залатыя трубы Нікі ў той мясціне, дзе суджана было нарадзіцца Паэту. Палкаводзец заняў пад свой штаб маёнтак недабітых ворагаў — дзеда і бацькі Паэта, і некалькі дзён яго

дзябёлыя ад'ютанты забаўляліся стралянінай па залатых галоўках купідонаў на столі...

І гэта мінулася...

Уладары маёнтка вымалілі дараванне ва ўлад, і Паэт нарадзіўся і жыў у радавым гняздзе. Тут спазнаў першае нешчаслівае каханне, адсюль з'ехаў у вялікі свет, які не песціць ні паэтаў, ні палкаводцаў, але толькі — Імя. Паэт любіў сваю зямлю; дзівак — ён ажыўляў яе мову, яе абылганую гісторыю. І калі Айчына паклікала яго — пайшоў за яе ў безнадзейную, загадзя прайграную бойку. І загінуў. І імя яго засталося амаль невядомым.

Прынамсі, для мяне, калі я трапіла ў дом адпачынку, галоўны корпус якога месціўся ў старым маёнтку. Як маладому спецыялісту, на працы мне не маглі прапанаваць нічога больш шыкоўнага. Аднак і гэта было цудоўна — двухпавярховы доўгі будынак з беленымі калонамі хаваўся ў прысадах векавых ліп, пад вокнамі буяў бэз, за рэшткамі кованай агароджы пачынаўся адхон да рэчкі — некалі яна па выкапаных ірвах мусіла аббягаць маёнтак. Але сядзіба, даўно аддадзеная на літасць усіх, не мае больш патрэбы ў стыхійных вартавых. Сцены пакояў пакрывала невыразная крэйдавая фарба, ляпніну на столі замазалі пабелкай так густа, што замест анёльскіх тварыкаў выяўляліся бясформенныя шэрыя камякі. Нас, новых «адпачываючых», папярэдзілі, што дом — помнік архітэктуры. А таксама, што ў галоўным корпусе працуе музей, прысвечаны асобе Паэта, які калісьці тут нарадзіўся.

Уваход у музей быў з асобнага ганка з калонамі, амаль схаванага ў бэзавых зарасцях. Паўцёмны пакойчык нібы з мінулага стагоддзя... Сціплая арыстакратычная мэбля, карункавыя сурвэткі, клавесін. З пажоўклых фотаздымкаў глядзяць светлыя, строгія твары: жанчыны ў цёмных сукенках з белымі каўнерыкамі і манжэтамі, мужчыны ў паляўнічых капелюшах і ў «канфедэратках»...

Якія тады былі твары!

І паўсюль — партрэты сумнага цемнавокага юнака.

Я здагадалася, што гэта і ёсць Паэт... Раптам падалося, што ён, гаспадар пакоя, вось-вось павінен зайсці сюды...

— Так, ён тут прысутнічае,— прагучаў голас аднекуль з цемры, і я ледзь не падскочыла ад нечаканасці.

Да мяне набліжалася хударлявая дзяўчына ў светлым шалі паўзверх зялёнай доўгай сукенкі — нібыта сама са старога фотаздымка.

— Я часта адчуваю яго прысутнасць тут... Ведаеце, ён любіў сядзець тут, ля акна. Глядзеў на бэз, пісаў лісты да каханай, вершы, прысвечаныя ёй... Вы ж, напэўна, чулі гэтую дзівосную гісторыю?

Я не чула. І ў аповедзе маёй нечаканай экскурсаводкі ажыў малады таленавіты нашчадак збяднелага, няўгоднага ўладам роду, безнадзейна закаханы ў багатую суседку. Мройлівы, хваравіты, але такі прыгожы і адчайна смелы. У яго былі далікатныя тонкія пальцы і лёгкая хада патомнага паляўнічага. Ён любіў кветкі касачы і мог гадзінамі — можа, пад уплывам нямецкіх рамантыкаў? — трымаць у руках сінюю кветку і ўглядацца ў яе...

Дзяўчына цытавала вершы — нязграбныя на сучасны слых, з нейкім ламаным рытмам і доўгімі, як павольны ўзмах антычнага вясла, радкамі.

— Ад яго засталося няшмат твораў. Але гэта быў Паэт.

Апавядальніца запаліла свечку ў маленькім жалезным падсвечніку, паднесла да партрэта, які хаваўся ў самым неасветленым куце. З паўзмроку ясна зірнулі цёмныя вочы... Не, не чорныя — цёмна-цёмна-сінія, як прадонне. Мая Радзіма — неспазнаная, неўсвядомленая — глядзела на мяне, у мяне.

Задаволеная эфектам, дзяўчына загасіла свечку, паставіла падсвечнік на высокі столік з вітой ножкай. Толькі тут я заўважыла, што ў экскурсаводкі моцна скошанае вока. Але гэта нібы і не псавала яе шырокі ў выліцах, мілы тварык.

— Запрашайце ўсіх астатніх у наш музей, калі ласка...

Я хадзіла туды кожны дзень. Дзяўчыну звалі Марына. Яна адна выхоўвала сына, трапіла сюды па размеркаванні з бібліятэчнага факультэта. Але ў бібліятэцы ёй цяпер маглі прапанаваць толькі палову стаўкі, і Марына ўхапілася за ідэю музея. Экспазіцыя ў гэтым пакойчыку створаная яе рукамі, многае адстоена ў жорсткіх «баталіях» з адміністрацыяй... Здавалася, для Марыны Паэт быў жывым, блізкім ёй чалавекам, так многа яна ведала пра яго і пра гісторыю краю, так натхнёна распавядала...

Непагоднымі начамі бэз цяжкімі гронкамі біўся ў шыбы майго часовага пакойчыка, і мроілася, што сам Паэт — там, у цёмнай пене лістоты і кветак, глядзіць на мяне глыбокімі, як прадонні азёр, вачыма.

Перад ад'ездам мы ўсе, «адпачываючыя», зайшлі ў музей да Марыны і напісалі шмат добрых слоў у кнігу водгукаў, і пакінулі для яе сыночка няхітрыя пачастункі — у каго што было.

І ад душы наламалі ў дарогу пышнага бэзу — дагані, суровая адміністрацыя!

І гэта прамінула.

Я доўга і пакутліва адкрывала для сябе сваю Радзіму. Загаварыла на яе мове, даведалася пра яе славутых палкаводцаў і паэтаў, памяць пра якіх згубленая ў цёмных пакоях закінутых маёнткаў і палацаў.

І заўсёды з прыемнасцю ўспамінала дні, праведзеныя ў доме адпачынку, паўцёмны музейны пакой і ўзнёслую дзяўчыну-экскурсаводку.

Лёс даў мне магчымасць зноў паехаць туды. На гэта раз — з сям'ёй. Вядома, у першы ж дзень мы накіраваліся ў музей. Знаёмы голас, дзверы расчынены, і — о цуд! — чуваць голас Марыны:

— Так, ён тут прысутнічае! Я часта адчуваю гэта. Па сведчаннях сучаснікаў, ён любіў сядзець перад гэтым акном, глядзець на бэз, на стройныя ліпавыя прысады — тады яны былі яшчэ зусім маладзенькія... Напэўна, староннi глядач ніколі б не падумаў, што гэты самотны мройнік можа быць мужным ваяром, бездакорным рыцарам свае Айчыны...

Мы ўвайшлі ў пакой. Перад невялікай купкай наведнікаў стаяла Марына. Распаўнелая, але гэткая ж узнёслая, у светлым шалі і цёмнай сукенцы, толькі валасы набылі парфумна-белы колер... Але... Хаця і мэбля, і клавесін, і сурвэткі засталіся на ранейшых месцах, усё не спазнавальна змянілася. На стэндах жаўцелі фатаграфіі з выявамі шыракатварых мужчын у гусарскай форме, у рамках пазалочанага багету красаваўся яркі батальны жывапіс, а з партрэтаў паглядаў не цемнавокі Паэт, а таўсматы сівы стары ў напудраным парыку і мундзіры, спрэс увешаны ордэнамі. І сталёвы пагляд з-пад кусцістых броваў...

— Што гэта?!

Марына пачула, перарвала натхнёны аповед і — зразумела, яна мяне не пазнала — адказала з лёгкім дакорам:

— Тут — музей Палкаводца. Вы, напэўна ж, чулі, што гэты вялікі чалавек нейкі час тут жыў?

— А як жа Паэт?

Марына спакойна патлумачыла:

— Некаторыя звесткі пра яго ёсць у мясцовым краязнаўчым музеі, у райцэнтры. На жаль, памяшканне не дазваляе нам пашырыць экспазіцыю.

Я паназірала за ёй — яна не прыкідвалася. Яна сапраўды была ўзнёслая і натхнёная. І ёй сапраўды было ўсё адно, ці захапляцца мясцовым Паэтам-інсургентам, ці Палкаводцам — утаймавальнікам паўстання. Вядома, другі пераўзыходзіў славаю першага...

У куце сядзеў светлавалосы падлетак і меланхалічна грыз чырвоны яблык. У хлопца былі гэткія ж блізка пасаджаныя вочы і шырокія выліцы, як у Марыны.

Нечакана падумалася, што, можа быць, Радзіма мая глядзіць на мяне не праз цёмныя вочы памерлага Паэта, а вось цяпер, праз шэрыя, блізка пасаджаныя вочы сына эксурсаводкі?

Мы больш не наведвалі музей. За вокнамі нашага пакоя, як і калісьці, віраваў бэзавы туман, цяжкія гронкі стукаліся ў вокны, асыпалі на падваконне духмяную расу, і можна было навыбіраць з іх на ўдачу колькі заўгодна пяціпялёсткавых кветачак...

І, зірнуўшы раптам у начную бездань лістоты, сустрэць нечы цёмны пагляд...

# ГІСТОРЫІ ПАНІ

*Нявыдуманыя аповеды*

Ці шмат са мной здаралася незвычайнага? Гэта гледзячы як ацэньваць... Часам выпіты кубак кавы можа стацца падзеяй большай, чым землятрус.

Нашае жыццё — гэта наша памяць. А нічога больш няпэўнага за памяць няма. Што мы бачым, азірнуўшыся? Бляск разбітых шкельцаў? Раскіданыя там-сям рэдкія дыяменты? Але і яны з цягам часу трацяць бляск, пакуль не знікнуць пад пылам...

Занатаваць хоць нешта, стварыць самую сябе з мазаікі слоў... І таго досыць.

## Як у мяне была швейная машынка «Зінгер»

Не скажу, каб я была такой ужо швачкай... Як спатрэбіцца — дык нешта пашыю, падумаеш, біном Ньютана. Але асаблівага фанатызму да вырабу адзежы за сабою не заўважаю.

А вось мая стрыечная бабуля Воля была швачкай найвыдатнай. Хаця нідзе адмыслова не вучылася, магла пашыць усё, што заўгодна, прыдумляла фасоны — з дэкальтэ, з фальбонамі, спадніцы «гадэ», рукавы «ліхтарык» і «матылёк»... Менавіта дзякуючы бабулі Волі ў нашай кватэры калісьці з'явілася машынка «Зінгер». Яшчэ дарэвалюцыйная, чорная, бліскучая, з залатым гербам з арлом... Машынка працавала амаль бязгучна. Яе дэталі рухаліся, нібыта самі па сабе, варта было крануць нагой кованую педаль... Але хутка я зразумела, якая мая машынка старая... Дужа старая... Бо ў школьным кабінеце працоўнага навучання — а настаўніцай працы ў мяне была, між іншым, маці Адама Глобуса — машынкі былі зусім іншыя. З белымі пластыкавымі карпусамі, электрычныя... І я пачала саромецца сваёй машынкі «Зінгер» і марыла, каб замест яе ў нашай беднай кватэры з'явілася сучаснае электрычнае дзіва... Ці хаця б нажная машынка «Подолье» з роспісам пад хахламу, у адмысловай тумбачцы. Але грошай на новую машынку ў нас не было, і я здавольвалася «Зінгерам». Паслухмяным, пакорлівым, дакладным, як састарэлы майстар. Машынка бабулі Волі шыла ўсё — танюткі шоўк і тоўстую скуру, джынсавую тканіну і аксаміт...

Потым я даведалася што гэтую машынку падчас вайны бабуля Воля валакла на сабе пешкі ажно з Ленінграда. Туды яна з маёй роднай бабуляй і яшчэ адной іхняй сястрой з'ехалі са свайго Ігуменскага павету пасля рэвалюцыі, у заробкі, а як пачалася вайна, вярнуліся з малымі дзецьмі на радзіму. У самае пекла. Як бабуля Воля даперла гэтую машынку ў вёску Люцi — не ведаю... Як тая машынка перажыла ваеннае ліхалецце — уяўляю з цяжкасцю... Але зразумела, што гэта быў ратунак усёй сям'і — гарантаваны заробак, чорна-залаты выкаваны скарб...

Праз год пасля вяселля мы з мужам зразумелі, што машынка «Зінгер» займае надта шмат месца ў нашым пакоі. Быў час талонаў на адзежу і гарэлку. Шыць не было чаго. Мы з палёгкай разабралі «Зінгер» і вынеслі ў падвал. Хутка ўдалося па аб'яве купіць машынку «Подолье» ў парэпанай тумбачцы. «Подолье» пачало капрызіць ледзь не адразу, але гэта быў важкі набытак для маладой сям'і, сведчанне дабрабыту. Мы накрылі тумбачку махровым рушніком з памаранчавымі кветкамі, якія муж прывёз з Грузіі, куды ездзіў атрымліваць Літаратурную прэмію Маякоўскага, і лічылі сябе спраўджанымі багацеямі.

Прайшло яшчэ колькі гадоў... Калі мы атрымалі сваю ўласную кватэру, «хрушчоўку-падменку», у якой жывем і дасюль, Віця наведаў падвал... Але машынкі «Зінгер» там ужо не было. Нехта ўзламаў хліпкія дзверы з дошчачак і скраў спадчыну бабулі Волі... Мы тады не надта і засмуціліся. Так, трохі прыкра на душы...

Гэта пасля адзін паэт нам патлумачыў, якія мы дурні. І якія шалёныя грошы каштаваў такі антыкварыят... Паэт па такую машынку ездзіў да сваякоў у вёску, выпрошваў. І загнаў у горадзе за даляры...

Але я б нізавошта не прадала тую здраджаную мною машынку «Зінгер». Няма бабулі Волі... І ніколі мне не ўдавалася рабіць такія роўныя шыўкі, як на той старой машынцы — ні на «Подолье», распісанай пад хахламу, ні на цяперашняй камп'ютарызаванай «Бразерс». Я і цяпер уяўляю, як кранаю нагой каваную педаль, вытанчаную па-дэкаданцку, і лёгка зрушваюцца механізмы, і машынка шаргоча гісторыю майго роду, і залаты арол распроствае крылы над прамінулым стагоддзем.

## Як я была прывідам

Слова «шмоткі» для мяне з маленства было лаянкай. Але ўсялякія пераапрананні, старасвецкія строі і маскарады люблю страшэнна. І вядуся на гэта пажыццёва.

Напрыканцы 1990-х пазванілі з тэлебачання, папрасілі запісацца для перадачы да ўгодкаў Адама Міцкевіча. Верш у мяне пра яго быў надрукаваны ў тэматычным зборніку. Ну, чаму не... Кастрычнік ззяў залатой лістотай, неба было класічна сіняе, паветра прахалодна-празрыстае, не дзень, а суцэльная пастараль.

Здымкі прызначылі ў парку Чалюскінцаў — і прырода, і перці далёка не трэба. Заехалі за мной на казённай машыне, а па дарозе малады рэжысёр, пульхны хлопец, знуджаны белллітаратурнай тэматыкай, угаварыў мяне ўзяць удзел у яшчэ адным праекце. Яны паралельна здымалі перадачу аб рамане Івана Шамякіна «Вялікая княгіня», пра лёс дачкі маскоўскага цара Івана Трэцяга Алены, якая стала жонкай польскага караля Аляксандра. Мне належала сыграць ролю тае Вялікай княгіні. Вось я і павялася, каб спрасціць жыццё тэлевізійнікам.

Заехалі на тэлебачанне, дзе тады была добрая касцюмерная (цяпер, кажуць, няма — «растрэслася» падчас унутраных рэформаў).

Мы доўга корпаліся ў гурбе старажытных строяў. Нарэшце я выбрала сабе доўгую сукенку з чорнага аксаміту, з белай шаўковай устаўкай спераду, а за няйменнем кароны прыхапілі сярэднявечную шапку з чорнага аксаміту, перавітую ніткамі перлінаў, і доўгі белы вэлюм.

Вось і парк Чалюскінцаў, гераічных савецкіх палярнікаў. Напачатку я павінна была шпацыраваць па прысадзе, па шорсткіх гурбах лісця, і пранікнёна чытаць верш пра Адама Міцкевіча. Але якраз у нейкіх сувораўцаў тут быў урок фізкультуры. Яны, стрыжаныя і ў аднолькавых спартовых касцюмах, наразалі кругі па засыпанай лісцём асфальтавай дарожцы. Іду сабе на камеру, чытаю верш — на апошняй страфе сувораўцы выбягаюць мне насустрач стрыжаным ланцужком, кадр сапсаваны. Я па новай — тое самае...

Нарэшце пасля некалькіх дубляў верш пра Міцкевіча запісалі.

Цяпер мне належала пераўвасобіцца ў Вялікую княгіню.

Рэжысёр з аператарам доўга не мудрылі з месцам здымкаў — знайсці б толькі тоўстае дрэва, на фоне якога паставіць кнігу Шамякіна, а тады з-за дрэва пакажацца постаць гераіні. Непадалёк

ля ўвахода ў парк, за кустоўямі ля дарожкі хавалася палянка, а на ёй якраз расло некалькі прыстойных соснаў.

Пераапранацца мне давялося ў «рафіку», які паставілі ля самай дарогі, метраў за дзвесце ад месца здымкаў. Я залезла ў машыну, старанна заторгнула ўсе фіранкі, так-сяк апранула сваю каралеўскую сукенку з чорнага аксаміту (самой зашпіляць аплікі на спіне — гэта цыркавы нумар!), уздзела шапку, перавітую каралямі з перлінаў, паўзверх закруціла вэлюм...

І пайшла здымацца.

Мая роля палягала ў тым, каб «выплыць» з-за дрэва, да якога прытулілася кніга, і меланхалічна хадзіць між трох соснаў, кідаючы задуменныя позіркі. Для разнастайнасці час ад часу трэба было кратаць галінкі і ўздыхаць. А яшчэ паабяцалі, што ў фільме паўзверх маёй выявы пойдуць спецэфекты, так што ніхто мяне не пазнае. Напэўна, гэта павінна было мяне супакоіць.

Нарэшце рэжысёр здаволіўся маімі рамантычнымі перасоўваннямі і адправіў мяне пераапранацца, каб не блыталася пад нагамі. А тэлевізійнікі яшчэ на палянцы нешта дазнімуць.

Я засталася сам-насам з княгіняй Аленай.

Залатая восень. Сонечны дзень. Парк Чалюскінцаў. Паўсюль соўгаюцца людзі. Да машыны далекавата. А я на фоне жоўтай лістоты — у сярэднявечным строі, пышная сукенка з чорнага аксаміту, белы вэлюм развяваецца... Трэба ўлічваць, што ролевыя гульні тады не былі так папулярныя, як цяпер.

Можна было хуценька прабегчыся... Можна было надаць касцюму менш урачыстасці — зняць шапку з вэлюмам, падабраць падол...

Не ўжо, княгіня дык княгіня! І з кустоў ля цэнтральнай дарожкі парку Чалюскінцаў павольнай хадой, задуменна гледзячы перад сабой, выйшла дама ў чорным аксамітным строі. Белы вэлюм развяваецца, чорны аксаміт ціха шаргаціць па сухой траве... Каб не выходзіць з вобразу, я ішла вельмі ціха, ганарыста ўзняўшы галаву, па баках не азіраючыся...

Стаіць купка маладзёнаў, пабачылі мяне... Прыцісналіся адзін да аднаго... Дзяўчына спалохана завішчэла: «Ой, мамачка! Толькі гэтага мне не хапала!» Хлопец усвядоміў, што павінен «нешта зрабіць», і выкрыкнуў у мой бок: «Згінь, нячыстая сіла!»

У хлапечым голасе чуўся спалох.

Чорная Дама парку Чалюскінцаў, вядома, не адрэагавала.

Людзі спыняліся, азіраліся... З’ява не мела тлумачэння. Музыкі не чуваць, нічога незвычайнага вакол, будні дзень... Адкуль? Хто гэта? Мужычонка п’яны ішоў, таксама заазіраўся, ногі падвалакваючы. А потым адвярнуўся і як пабег да брамы! Магчыма, кінуў піць...

Што яшчэ вакол адбывалася, не ведаю, бо прывіды па баках не глядзяць!

Я слізнула ўнутр «рафіка» і са шкадобай сцягнула вэлюм...

У перадачы ніякіх спецэфектаў па мне не пусцілі. Ну хіба што відарысы палацу, здаецца, кракаўскага. Але бачна мяне ўсё адно выдатна. Вядучая Вольга Іпатава распавядае, якой няшчаснай была Вялікая княгіня Алена, як занядбаў яе муж, кароль Аляксандр, як яна сумавала ў самотным палацы... А я лунаю сабе пад музыку, кратаю галінкі...

Дзесьці і цяпер ляжыць плёнка з запісам тае перадачы.

А я веру, што жыве ў мінскім гарадскім фальклоры легенда пра Чорную Пані парку Чалюскінцаў. Я ж люблю міфы. І пераапрананні ў старасвецкія строі.

## Як я вазіла транзістары і рэзістары

Па першай адукацыі я архітэктар — дакладней, тэхнік-архітэктар. Так хацела вырвацца з сярэдняй школы каля турмы і чыгункі, што начхала на перспектыву залатога медалю і паступіла пасля васьмі класаў на найменш брыдкую спецыяльнасць, тым болей займалася ў ізастудыі. І па размеркаванні, дзякуючы стрыечнаму дзядзьку, трапіла на вытворчае аб’яднанне «Гарызонт». Яно выпускала тэлевізары і радыёпрыймачы для ўсяго Савецкага Саюза. Але да тэлевізараў я дачынення мела не болей, чым касметолаг да тынкоўкі. Такіх, як я, сплаўлялі ў спецыфічнае праектна-канструктарскае бюро. Займаліся ў гэтай «шараш-мантаж-канторы шырокага профілю» аздабленнем працоўных інтэр’ераў — ад убудаваных шафаў і малюнкаў абліцоўкі да магільных агароджаў і насценгазетаў. А яшчэ час ад часу на аддзел прыходзіла разнарадка — з’ездзіць на братняе прадпрыемства па дэталі для радыёпрыёмнікаў-тэлевізараў. Дастаўка ўручную, праз выкарыстанне не дужа патрэбных работнікаў кшталту мастакоў-афарміцеляў, напэўна, абыходзілася дзешавей, чым іншы спосаб.

Асабліва баяліся кабеты, што іх пашлюць у Арменію, у горад Раздан. Адна наша архітэктарша цэлы год распавядала, як у

ведамасным гатэлі барыкадзіравала дзверы сталом і тумбачкамі ад палкіх мясцовых мужчын, а на тамтэйшым складзе шчыра не разумелі, чаму павінны выдаваць дэталі чужой бабе без належнага бартэру ў якасці інтымных паслугаў.

Мяне паслалі ў ціхі, прыстойны горад Шаўляй. Я павінна была прывезці адтуль нейкія транзістары-рэзістары. Мне паабяцалі, што дэтальки дробныя, лёгкія... Ну і матывавалі па-камсамольску: калі я не дастаўлю пазаўтраму гэтыя скарбы на «Гарызонт», вытворчасць спыніцца!

Мне было дзевятнаццаць гадоў. Білеты давялося выпрошваць маёй маці ў касе для вайскоўцаў, ехаць — ноч, у агульным вагоне...

Шэры горад, мокры снег, супрацоўнікі роднаснага прадпрыемства лаюцца па-расейску, між сабою размаўляюць па-літоўску... Гатэль пад назвай «Тры салдаты» і бетонны помнік тым тром салдатам... І, нарэшце, мае транзістары... І рэзістары.

Я з жахам глядзела на кучу пакункаў у мой рост. Малады летувіс Эдмундас, здохлы і бялявы, як сушаная рыба, няшчыра супакойваў, што ён дэтальки з асобных маленькіх пушачак дастане, у адну вялікую скрынку ссыпе, і будзе файна! Якраз па маіх дзявочых сілах!

Атрымалася два кардонныя пакункі, памерам са складзеныя раскладушкі... Эдмундас выклікаў таксі, закінуў маё заданне ў багажнік і адправіў мяне на вакзал.

Плаціць за таксі давялося самой.

На вакзале я зразумела, што падняць абодва пакункі разам няздольная. Дый адзін праблематычна. Я па чарзе соўгала іх па мокрай і бруднай снежнай калатушы, больш за ўсё баючыся, каб ніводзін не сперлі — бо мяне папярэдзілі, што каштуюць гэтыя транзістары-рэзістары столькі, колькі я за год у сваёй шараш-мантаж-канторы не зараблю. І я ж памятала, што калі назаўтра не прывязу гэтую радасць на завод, ён спыніцца!

У Мінск я прыехала ўночы. Цяпер згодна інструкцыі мусіла пакінуць прывезенае ў камеры захоўвання. Мабільных тэлефонаў не існавала, давялося самой соўгаць пакункі, кардон размок, я таксама ўся была мокрая... Нейкі мужык, не ў змозе назіраць за маімі пакутамі, узяўся дапамагчы... Завалок мае транзістары ў сутарэнне, да камер аўтаматычнага захоўвання... І пачаў уплішчваць у адну з тых камер. А яны не змяшчаюцца! Небарака намагаўся, як мог... Яго балоневая куртка чапляецца за нешта, тканіна рвецца са злавесным трэскам, у доўгай дзірцы відаць белая падкладка. Энтузіязм у

добраахвотнага памочніка некуды знік, і ён знік таксама. У мяне не было моцы нават падзякаваць.

Я плачучы выцягнула пакункі наверх і павалакла ранейшым спосабам — перабягаючы ад адной да другой, пхаючы па снезе — у іншую камеру захоўвання. Калі здаровы, як прафесійны барэц, прыёмшчык пабачыў мае пакункі, яго трохі пераклініла. Варта было іх прыўзняць — мокры кардон разышоўся, і пасыпаліся маленькія цэлафанавыя мяшэчкі з дэталькамі.

— Што гэта? — разгублена папытаўся дзядзька.

— Транзістары. І рэзістары,— сумленна адказала я скрозь рыданні.

Праз некалькі дзён мы з калегам пайшлі абмяраць гарызонтаўскія вокны, на якіх меркавалася спраектаваць рашоткі ў стылі арт-нуво (начальства, вядома, не падазравала, што гэта арт-нуво). Па левы бок даўжэзнага калідора знаходзіліся шкляныя перагародкі, і можна было зверху назіраць канвеер, за які пасадзілі, відаць, нейкіх практыкантаў. Хлопцы і дзеўкі ў белых халатах, як кланаваныя Папялушкі, паныла сядзелі па абодва бакі спыненага канвеера і лена перабіралі насыпаныя на гумавую чорную паверхню рознакаляровыя дэталькі, быццам гарох і грэчку. Грэбліва ссоўвалі іх у розныя кучкі, безнадзейна перагаворваліся пра сваё... Гара неразабраных дэталек гарантавала плённы занятак да канца практыкі. «А за сцяной смяецца поле, зіяе неба з-за акна...» Я не хацела б, каб хтосьці з Папялушак тады даведаўся, хто прывёз гэтую гару.

У наступным годзе я паступіла ў Літаратурны інстытут. Колькі тэлевізараў і радыёпрыймачоў займелі прывезеныя мною з Шаўляю дэталькі — не ведаю... Але і цяпер мне часам здаецца, што я ў чарговы раз гераічна прывезла, здабыла ў экзатычнае далечыні гару рознакаляровых незразумелых і дужа дарагіх дэталек, а небаракі школьнікі і студэнты, сагнаныя выкладчыкамі, корпаюцца ў іх, разбіраюць па вобразах і цытатах, адбываючы панылую практыку... Застаецца спадзявацца, што ў нейкага ўсё-ткі дзякуючы майму здабытку — верш, аповед, радок — запрацуе прыймач, настроены на беларускую літаратуру.

## Я, Літінстытут і Кальварыя

Люблю дэкаданс.

Не ў сэнсе манерных салонаў, а — закінутыя капліцы, расколатыя мармуровыя статуі, каваная магільная агароджа... Гатычная дэпрэснюга.

Я ж і вырасла побач з Кальварыйскімі могілкамі. І часам жартую, што вось — у каго якая малая радзіма, а ў мяне — могілкі...

У дваццаць гадоў, з другой спробы, я прайшла творчы конкурс у Літаратурны інстытут імя Горкага і атрымала позву на іспыты. Пачуўшы пра гэта, адны знаёмыя пачыналі кісла прызнавацца, што самі пішуць вершы, і маглі б таксама паступіць у той інстытут, калі б толькі зажадалі... Але вось прынцыпова не жадаюць. Другія зацята пераконвалі, што такая сціплая і добрая дзяўчынка, як я, абавязкова загіне ў маскоўскім вяртэпе...

Не для таго я з чатырнаццаці гадоў кожны вечар заседжвалася да гадзіны ночы за пісьмовым сталом, каб слухаць зычліўцаў. З мяне было досыць двух гадоў на вытворчым аб'яднанні «Гарызонт».

Зразумела, перад ад'ездам у Маскву я пайшла на Кальварыю. Цэлую ноч праблукала з сябрам між магілаў за медытатыўнымі размовамі. Жоўты льняны пінжачок грэў слаба.

Застуда выявілася ўжо ў Маскве. Напачатку забалелі зубы, і гэта ўвагнала мяне ў дэпрэсію капітальна. Я замагільным голасам апавядала іншым абітурыенткам, як мне не падабаецца гэты брудны тлумны інтэрнат, і гэты афіцыёзны інстытут, і як мне не хочацца ў ім вучыцца... Дзяўчаты з Удмуртыі, Украіны і Сібіры дзіка паглядалі на мяне і адыходзіліся як далей. Я зачынялася ў пакоі з жоўтымі сценамі, спрэс у багемным графіці, даставала раман Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць», дзеянне якога адбывалася менавіта ў гэтым інтэрнаце, і спрабавала забыцца на зубны боль ды іншыя сімптомы застуды...

Забыцца было нельга.

І гарачай вады ў інтэрнаце не было. Я прыдумала геніяльнае выйсце: пайсці ў маскоўскую цырульню (тут жа неадменна ўсе майстры суперкласа, не тое што ў Мінску), зрабіць прычоску. А заадно — і галоўнае — вымыць валасы.

Маскоўская цырульня знайшлася на другім паверсе панылага саўковага дому над капеечнай сталоўкай. Народу чакала процьма...

Трэба было ўцячы адразу пасля таго, калі на маіх вачах незадаволеная цётка-цырульніца ператварыла цудоўную дзяўчынку з пушыстымі хвалістымі валасамі, падобную да Асолі, у стрыжаную дзетдомаўку... Але тут была гарачая вада!

І неўзабаве я стала таксама падобная да падрослай дзетдомаўкі з недарэчнай грыўкай і напалову аголенымі вушамі. Не ведаю, як называлася гэтая стрыжка, але да маёй дэпрэсіі яна якраз пасавала. Я сустракалася з патэнцыйнымі аднакурснікамі і з сарказмам абвяшчала: «Так, так, вы не памыліліся, гэта я».

А чаго ім было здзіўляцца: адзін хлопец з нашае групы ўвогуле налыса пастрыгся — дэкляраваў, што гэтак зробіць пасля ўдалай здачы іспыту.

У інтэрнаце мне сталася зусім кепска. Удмуртка з групы перакладчыкаў, па прафесіі медсястра, абмалявала мяне «ёднымі сеткамі»... Не дапамагло.

Уночы, гарачая, як забыты на патэльні імбрык, я спаўзла да вахцёркі і пачала прасіць пігулак ад тэмпературы. Вахцёрка паглядзела на мяне і выклікала «хуткую дапамогу».

Прыехала брыгада з двух дужых хлапцоў-практыкантаў. Ім было цікава апынуцца ў легендарным літінстытутаўскім інтэрнаце. Хлопцы пабалбаталі, ушпілілі мне ўкол і параілі, з нястачы ў пакоі цёплай коўдры, накрыцца матрацам з другога ложка.

Так я і праляжала да раніцы між двума смярдзючымі, у плямах, паласатымі матрацамі, як у сапсаваным сэндвічы.

Назаўтра тэмпература знізілася, але я ўсвядоміла, што на далікатным месцы, куды зрабілі мне ўкол вясёлыя хлопцы-дактары, утварыўся канкрэтны гузак.

Мая іпахондрыя абвастрылася да сусветных межаў, думкі было толькі пра смерць, гузак балеў, і я пабрыла ў паліклініку... Напрасілася на прыём — бедная паэтка з Беларусі. Доктар прапісаў прыкладаць бычыную жоўць.

Калі мяне спыталі, якія паэты падабаюцца, сказала першае, што згадалася. У галаве было адно, ці не моцна патыхае ад мяне жоўцю.

Сумоўе я прайшла. А вось аднаго мужыка, дырэктара цырка ліліпутаў са стэпавага рэгіёна, прадстаўнік камсамольскай арганізацыі спытаўся: «Вось, вы ўжо выйшлі з камсамольскага ўзросту... А што даў вам камсамол?» А той, простая душа, толькі пацiснуў пячыма: «Што даў? Ды нічога не даў!»

Адзінка па сумоўі — і наперад, у стэпы.

А я ў перапынках змагання за жыццё здала ўсе іспыты на выдатна. Масква была заваяваная неяк мімаходзь і без асаблівай ахвоты.

Я вярнулася дадому з абстрыжанымі валасамі, з бутэлечкай бычынай жоўці ў сумцы і томікам Караткевіча пад пахай.

І найперш пасунулася на Кальварыю. Прайшлася між магілаў... І нарэшце адчула сябе жывой.

## Як мы з мамай мяжу парушалі

Дужа люблю падарожнічаць. І вельмі зайздросціла маме, якая ў пяцідзясятых паспела папрацаваць медсястрой у вайсковай частцы ў Карл-Маркс-Штадце. Калі я вучылася ў школе, мы з аднакласніцамі кідалі ў паштовыя скрынкі прыгожыя лісты з адрасам «Любой дзяўчынцы ў ГДР» альбо «Балгарыя. Дзяўчынцы 10 гадоў» і верылі ў легенду, што хтосьці атрымаў адказ на такі ліст, пазнаёміўся з замежнай равесніцай, і пайшлі пасылкі з жуйкамі і джынсамі, а тады і ў госці ўдалося з'ездзіць...

Аднойчы паводле матчынай парады я паслала ліст у газету «Зорька» з просьбай пераслаць яго за мяжу, і атрымала адказ з Баранавіч. Баранавіцкая равесніца таксама вырашыла пазнаёміцца з «дзяўчынкай з ГДР», вось нас і звялі добрыя журналісты. Праўда, перапіска доўга не трывала на тле ўзаемнага расчаравання.

Затое частка маміных сваякоў пасля вайны апынулася ў Малдове, на саменькай мяжы з Румыніяй, у горадзе Кагул, які на той час быў вядомы як месца подзвігаў расейскага вайскаводцы Суворава. Мужа мамінай стрыечнай сястры Тамары Ляпіч, партызанскага камандзіра Сяргея Чарвінскага, паслалі туды з Беларусі ўмацоўваць ідэалагічна складаны раён.

Мая мама нават скончыла ў Кагуле медыцынскую вучэльню. Малдаўскія сваякі слалі нам пасылкі з вінаградам, абрыкосамі, чарэшняй і айвой. Што рабіць з айвой, бабуля і маці так і не здагадаліся, бо на смак яна аказалася зусім нясмачнай і цвёрдай, як недаспелая груша.

За Кагулам зямля была ў белых ракавінках — цэлых, патрушчаных... Дно мора, на якім цяпер раслі вінаграднікі. Між вінаграднікаў цямнелі каналы, вада ў якіх хавалася пад шчыльным слоем зялёнай раскі — жабін рай. За вінаграднікамі сінелі ўзгоркі Румыніі.

Але самая галоўная прынада ў Кагуле — незвычайнае возера з мінеральнай вады. Вада выпраменьвала моцны ёдзісты пах і была настолькі салёная, што калі патрапіць у вочы — хоць крычы... А яшчэ на той вадзе можна было ляжаць — як у Мёртвым моры. Гразь на дне нагадвала смалу, ёю абавязкова абмазваліся ў лекавых мэтах, і пляж

набываў зусім экзатычны выгляд ад прысутнасці шматлікіх часовых мурынаў. З'язджаліся на тое возера хворыя з усяго свету... Румынкі ў наматаных на галаву белых хустках заходзілі ў ваду проста ў панталонах. Інваліды падоўгу стаялі на мыліцах ў салёных хвалях. Жудка худзючых дзяцей вадзілі пад пахі бацькі.

Мясцовая моладзь лічыла нявартым бавіцца на салёным возеры. Хадзілі на прэснае, яно было большым, туды не цягаліся хворыя.

Але ў Кагул, памежжа з Румыніяй, прыязджалі толькі па адмысловых запрашэннях. Зона! Часам мы дабіраліся туды з Кішынёва на маленькім самалёце-«кукурузніку». Неяк патрапілі на ім у навальніцу — самалёт кідае, як на атракцыёне ў парку, гуд такі, што галасоў не чуваць. А ў салоне — малдаване, авечкі і кавуны.

Аднойчы ўлетку мы з мамай зноў зазбіраліся ў Кагул. Але сваякі на гэты раз прамаруджвалі з запрашэннем. Мама мая, рашучы чалавек і вечны абаронца сваёй незалежнасці, пастанавіла: не хочуць запрашаць — усё роўна паедзем. Трэба пралячыцца на цуд-возеры. Прарвемся. А на ўсялякі выпадак узяла са свайго страхавога агенцтва камандзіроўку ў Кагул. Ясная рэч, фіктыўную — каго яна магла там застрахаваць?

Да горада ішоў маленькі аўтобусік, звычайны вясковы, такія і ў нас дасюль целяпаюцца па разбітых правінцыйных дарогах і цярпліва валакуць пенсіянераў на лецішчы. За вокнамі праплывала пыльная зеляніна. Менавіта так запомнілася мне Малдова — зялёнай і пыльнай.

Пад вечар здарылася тое, чаго мы з бояззю чакалі. Аўтобусік спынілі памежнікі. Хлапцы ў камуфляжы, з аўтаматамі і аўчаркай пільна аглядалі пасажыраў на прадмет выяўлення шпіёнаў, ну і правяралі дакументы...

Мы сядзелі на самым апошнім сядзенні, каля нас прытуліліся два малдаўскія чарнагаловыя смуглявыя хлопчыкі... Адзін нават прыдрамаў у мяне на плячы. Я вырашыла, што гэта дужа добра для маскіроўкі, і таксама прыплюшчыла вочы.

Вакол грувасціліся кошыкі і вёдры, надрываліся дуэтам курыца і маленькі сабачка... Памежнік слізгануў вокам па нашай жывапіснай групе і павярнуўся спінай.

Пад вечар мы прыехалі ў Кагул. Пыл знік, зеляніна сталася лазуркавай. Паўднёвая ноч, аксамітна-сіняе неба, буйныя, як не бывае, зоры... Цяпер, паводле планаў мамы, мы мусілі зняць кватэру.

І атрымаўся аблом.

Ніхто не хацеў пускаць нас у дом ні за якія грошы.

Ці насельніцтва запалохалі перманентнымі пошукамі шпіёнаў і дыверсантаў, ці проста мы выглядалі занадта іншароднымі. Але пасля марнага цягання з валізамі і роспытаў тубыльцаў, далёка не ўсе з якіх нас разумелі, давялося ісці ў гатэль. Гэткі барак з прыбіральняй на вуліцы. Краны з халоднай вадой таксама на вуліцы. Але і ў гэтую раскошу нас адмовіліся засяляць без адпаведнага дазволу на ўезд у памежную зону.

Дарэмна маці паказвала адміністратарцы камандзіроўку страхавога агента з Мінска ў слаўны малдаўскі горад. Адміністратарка была няўмольнай: ідзіце ў міліцыю, бярыце паперу на засяленне...

І мы пайшлі ў міліцыю.

Ноч. Малдова. Мянтоўка.

Мясцовыя міліцыянты злосна сычаць на маміну «камандзіроўку» і патрабуюць, каб мы вымяталіся з Кагула, а то арыштуюць за парушэнне мяжы. Бо незразумела, як мы сюды прабраліся?

Мама даводзіць, што прывезла хвораනькую дачку падлячыцца на цуд-возеры... І вяртацца мы не можам. Я раблю трагічную фізіяномію... Што няцяжка, бо страшэнна хочацца спаць і ўвогуле нейкай пэўнасці. І падобна, начаваць давядзецца ў камеры.

Урэшце міліцыянты злітасціваліся, далі даведку — але толькі на адну ноч. З умовай, што назаўтра нас тут не будзе.

Як мы начавалі ў тым гатэлі — не памятаю... Памятаю, што назаўтра мама здушыла гонар і патэлефанавала сваякам. І праз колькі хвіляў ейная пляменніца, цудоўная, прыгожая і дабрэнная цётка Наташа, якая была, як выявілася, на апошнім месяцы цяжарнасці ад другога мужа-грузіна (першы быў кітайцам), прыбегла за намі, і яшчэ парывалася сама цягнуць нашы валізы.

А запрашэнне сваякі нам усё-ткі выслалі — толькі прыйшло яно ў Мінск, калі мы ўжо былі ў Малдове.

Гэта быў апошні раз, калі мне давялося пабываць на цуд-возеры. Пасля, кажуць, яго прыватызавалі, збудавалі навакол пансіянат... І нават калі я зноў прыеду да тых вінаграднікаў і ўзгоркаў, наўрад удасца паляжаць на пякуча-салёных хвалях. Цяпер я проста праязджаю праз Румынію, якая калісьці здавалася таямніча-недасяжнай, па дарозе на балгарскія курорты.

А яшчэ страшэнна лянуюся адказваць на лісты сяброў з Нямеччыны ды Ангельшчыны — адвыкла пісаць папяровыя лісты.

## Як я святкавала ў Празе Дзень палення ведзьмака

Колькі разоў я напачатку апісвала мясціну, стварала для сябе міф аб ёй — і толькі пасля трапляла туды насамрэч...

Так здарылася з Прагай. Містычным горадам чарнакніжнікаў і алхімікаў, філосафаў і паэтаў... Горадам Скарыны і Кафкі, Майрынка і Забэйды-Суміцкага... Напачатку я апісала яго ў рамане «Скокі смерці», і толькі на наступны год мы з дачкой Веранікай адправіліся туды на экскурсію. Гэта было ў апошнія дні красавіка. А першага траўня у Чэхіі святкуюць Дзень палення ведзьмака — нешта падобнае да Масленіцы, толькі з ухілам у готыку.

Вядома, мы адарваліся ад нашай турыстычнай групы — што нам рабіць з абывацелямі, якіх не цікавіць Кафка і Скарына, і з усведамленнем уласнай эксклюзіўнасці пачалі шукаць містыкі... Містыкі было навалам. Мы блукалі па востраве, куды адусюль сыходзіліся ведзьмакі і вядзьмачкі ў чорных капелюшах і мантыях, блукалі па Залатым Горадзе, чые вузкія брукаваныя вулкі хутка затапляў прыцемак, зазіралі ў сляпыя вокны сінагогі, на гарышчы якой, паводле падання, дасюль дрэмле Галем, злеплены раві Бен-Бецалелем, і чакае таго, хто ўкладзе ў ашчэраны гліняны рот паперку з імем Бога. Мы нават павячэралі ў кавярні Вядзьмачкі, у злавесным сутарэнні, упрыгожаным чучаламі чорных катоў і мётламі, дзе падавалі смажаныя пальцы мерцвяка і біфштэкс з сабакі Баскервіляў.

За гульні ў містыку трэба расплочвацца. Мы мусілі ад'язджаць з аўтастанцыі, якая знаходзілася непадалёк ад станцыі метро «Фларaліс». Але Прага вырашыла пагуляць з намі ў свае містычныя гульні — гэтак Лясун зводзіць заблукалых у лесе гараджанаў, і мы з дачкой прыехалі на станцыю «Флора». Хто ж ведаў, што іх дзве, з падобнымі назвамі — «Флора» і «Фларaліс»?

На станцыі «Флора» знаходзіліся супермаркет і габрэйскія могілкі. Нашага аўтобуса не было.

Увогуле ніякіх турыстычных аўтобусаў не бачылася.

Час ад часу сам сабе гаворыш: «Гэтага ніколі са мной не здарыцца». А якраз яно з табой і здараецца.

Надышоў час адпраўлення. Дарэмна мы бегалі паміж супермаркетам і могілкамі.

З рэчаў у нас была сумка з печывам і некалькімі бляшанкамі чэшскага піва, купленымі ў дарогу, дзве чорныя майкі з выявай Кафкі і блакітныя замшавыя красоўкі фірмы «Баця» для Веранікі.

Добра, пашпарты пры сабе.

Мы пачалі пытацца, як прайсці ў паліцыю. Месцічы незадаволена паглядалі на перапалоханых замежніц. Параілі звярнуцца да дзяжурнага паліцыянта ў метро.

Той выслухаў і задумліва прамовіў, што аўтобусная станцыя, здаецца, ёсць на станцыі «Фларaліс»... Гэта на іншай лініі...

Мы рванулі туды.

Сапраўды, там аказалася міжнародная аўтобусная станцыя. Але наш аўтобус, зразумела, даўно ад’ехаў.

Давялося зноў шукаць паліцыю.

А ў паліцыі таксама святкавалі першага траўня.

Руды паліцыянт у трэніках з іроніяй слухаў мае нервовыя тлумачэнні і просьбы звязацца з беларускім пасольствам. У яго былі светлыя вейкі, прыпухлыя блакітныя вочы, чырвоны твар і аніякага жадання напружвацца дзеля двух замежніц. Ён быў падобны не да ведзьмака, а да таго, хто іх паліць. Паліцыянт паклікаў маладзейшага калегу, які валодаў расейскай мовай. Пра беларускую амбасаду, якая знаходзілася дзесьці каля заапарку, паліцыянты нічога не чулі. У іх было піва і Дзень палення ведзьмака.

Урэшце мне далі патэлефанаваць у амбасаду Расіі. Але, падобна, і ў тамтэйшых супрацоўнікаў быў святочны настрой, і мне патлумачылі, што нічым дапамагчы не могуць.

Каб пазбавіцца істэрычнай кабеты, паліцыянты адправілі нас у нейкую іншую, асабліва важную паліцыю... Віза наша заканчвалася заўтра. З сабою заставалася сто дзесяць еўра. Дым ад вогнішчаў спаленых ведзьмакоў асядаў над Залатым Горадам. Мы з дачкой выйшлі на вуліцу, абняліся... І пайшлі ў невядомасць.

Насустрач нам ад аўтастанцыі бег мужык.

— Гэта вы згубіліся?

— Мы!!!

— Пойдзем хутчэй, вас чакаюць...

У адчыненай кабіне нечай аўтафуры сядзеў наш экскурсавод і меланхалічна еў з кардоннай упакоўкі расчынальнае бульбяное пюрэ. Ён не асабліва здзівіўся нашаму з’яўленню.

— А, знайшліся...

Небараку давялося адправіць аўтобус з нашымі рэчамі ды іншымі турыстамі і застацца да высвятлення лёсу згубленых пасажырак. Іншыя беларускія кіроўцы, якія аказаліся на «Фларaлісе», дапамагалі нас адшукваць.

Экскурсавод бегма праводзіў нас на чыгуначны вакзал, купіў нам білеты да Мінска, дадаўшы грошай, прасачыў, каб мы селі ў цягнік, і з палёгкай уздыхнуў. Яго самога мусілі адвезці на Беларусь кіроўцы-землякі з «Фларыліса».

Мы ўладкаваліся ў шыкоўным купэ на дваіх, не верачы, што нашыя прыгоды скончаныя.

Калі прыйшлі мытнікі, усё, што мы маглі ім паказаць — гэта некалькі бляшанак піва, дзве майкі з выявай Кафкі і блакітныя замшавыя красоўкі фірмы «Баця».

## Як я ў кіно з манахамі хадзіла

Гэта здарылася ў эпоху, калі квіток у кіно каштаваў трыццаць капеек, а на вячэрні сеанс — пяцьдзясят.

Як мы любілі індыйскае кіно! Не тое, каб я не разумела ягонага мастацкага ўзроўню — нават напісала ў вялікім сінім агульным сшытку, адведзеным пад уласныя філасофскія артыкулы, урачысты тэкст пад назовам «Штампы індыйскага кіно». Але на фоне бясконцага шэрагу савецкіх фільмаў пра вытворчасць і вайну гэта было акно ў іншасвет, дзе тканіны яркія, бы кветкі, тонкія смуглявыя рукі жанчын знізаныя бранзалетамі, шаблі ззяюць, як маладзік, і героі гатовыя аддаць жыццё, абы не сцярпець і найменшай плямы гонару...

Індыйскія фільмы паказвалі зазвычай у кінатэатрах «другога раду», але і там залі былі паўнюткія.

Але вось што я і дасюль не люблю — хадзіць у кіно самой.

Гэта ўсё роўна як сядзець самой увечары за рэстаранным столікам. Нібыта ўсе глядзяць на цябе і шкадуюць, што ты нікому не патрэбная, няма з кім правесці вечар...

Летнія вакацыі... Мама некуды паехала, я засталася з бабуляй, сяброўкі занятыя... А ў кінатэатры «Беларусь» (яшчэ не мультыплексным) паказвалі індыйскі фільм «Помста і закон». Вядома, двухсерыйны — мы яшчэ больш любілі індыйскія фільмы за тое, што яны былі доўгія. Мне заставаўся апошні сеанс, на дзевяць гадзінаў вечара. Я вырашыла, што ў прыцемку мая сціплая персона не будзе надта заўважная...

А вось з білетамі аказалася цяжка. Дакладней, іх не было. Расчараваныя людзі тоўпіліся ля касы ў спадзеве на таямнічую «бронь», а шчаслівчыкі кіраваліся ў кіназал з загадзя набытымі брудна-сінімі квіточкамі ў руках...

Я трохі патапталася ў вестыбюлі, разумеючы, што індыйскіх уражанняў гэтым вечарам мне не свеціць...

— Дзяўчына, хочаце ў кіно?

Двое барадатых, таўставатых, нейкіх падобных між сабою мужыкоў запытальна глядзелі на мяне.

Я няўпэўнена хітнула галавою.

— Ну тады пойдзем!

Мужыкі, у якіх аказаўся лішні білецік, пайшлі да білецёркі, і я пасунулася за імі, рыхтуючыся ўцячы... Але прынада была надзвычайнай! «Помста і закон»! Ужо ў вестыбюлі я разгледзела, чым мужыкі так падобныя... На іх былі аднолькавыя чорныя кашулі пад горла, з доўгімі рукавамі, запраўленыя ў старамодныя чорныя нагавіцы... А занадта доўгія ў іх, відаць, кашулі... Вунь як выпіраюць... Я зірнула на маладыя барадатыя твары, інтэлігентна-сарамлівыя... І раптам зразумела, што на маіх мецэнатах не кашулі, а расы! Яны іх, каб замаскіравацца, заправілі ў штаны. І ёсць яны найхутчэй служыцелямі культа!

«Манахі!» — мільганула панічная думка.

Сёння, вядома, цяжка ўявіць, якой небяспекай, якім выклікам успрымалася таннае пластыкавае распяцце на сцяне кватэры альбо прынесенае ў школу фарбаванае яйка... А святар, ды любы, хто меў непасрэдныя адносіны да рэлігіі — гэта ж была ўвасобленая небяспека!

Маці маёй аднакласніцы працавала на тэлеграфе і часам прыносіла дадому найбольш цікавыя тэксты... У адной з тэлеграмаў віншавалі святара з чынам біскупа. Вядома, нам было страшэнна цікава ўбачыць жывога біскупа!

Царкоўнік жыў у прыватным сектары... Перад вылазкай мы замаскіраваліся, як у шпіёнскіх фільмах. Апранулі нейкую старызну. Гэтага падалося мала, і я выяўляла з сябе кульгавую, а мая сяброўка — гарбатую. Супермаскіроўка на бязлюднай зялёнай вулачцы! Да таго ж мы нервова пасмейваліся і азіраліся па баках. Нават святар (калі гэта быў ён), сімпатычны руды барадач у юлёвым панскім халаце, які размаўляў з сябрам у дзвярах патрэбнага дома, праводзіў нас зацікаўленым позіркам.

А мы пасля яшчэ доўга чакалі наступстваў свайго дысідэнцкага подзвігу: пайсці паглядзець на біскупа!

І цяпер, у кіно, мне было страшнавата. Я, вядома, абсалютова не разбіралася, да якой канфесіі належалі мае дабрадзеі, ці былі яны

семінарыстамі, ці кім яшчэ... На мае нясмелыя спробы вярнуць грошы за квіток «манахі» толькі весела махнулі рукамі...

Між тым сеанс пачынаўся. І, ужо заходзячы ў залу, я ўсвядоміла, што сядзець мушу побач з гэтымі страшнымі асобамі!

На экране добрыя героі адчайна змагаліся з бандытамі, бандыты неміласэрна шчэрылі белыя зубы і вырачалі вочы. Бойкі суправаджаліся ненатуральнымі гукамі ўдараў, нібыта гарбузы секлі. Гераіня ў бліскучым сары танчыла басанож па бітым шкле, каб выратаваць свайго каханага... А я краем вока назірала два барадатыя профілі.

Галоўнае — паспець уцячы!

Чаго я так баялася? Што маглі са мною ўчыніць двое барадатых аматараў індыйскага кіно? Загіпнатызаваць і завесці ў секту, якую я ўяўляла па аповесці Герчыка «Вецер ірве павуціну»? Але як толькі на экране замільгалі цітры, я ўскочыла з месца, быццам яно мяне апякала, і кінулася да выхаду.

Прайшоў час, індыйскае кіно страціла сваю прывабнасць, як плюшавыя дыванкі з аленямі і мода абклейваць сцены прыбіральняў кардонкамі з упаковак цыгарэт «Космас».

А вось за дзвярамі царквы мне адкрыўся свет, якога бракавала душы. І я зусім не ўспамінала, як два, магчыма, семінарысты звадзілі мяне на індыйскае кіно «Помста і закон». Толькі цяпер вось успомніла...

## Я і Матлюба

Калі мяне засялялі ў інтэрнат Літаратурнага інстытута, хлопец, які выконваў абавязкі кшталту каменданта, спытаўся, з кім бы я хацела жыць, бо першакурснікаў сялілі па двое. Сяброўстваў у мяне пакуль не склалася, і я, напалоханая чуткамі пра тутэйшыя багемныя норавы, запатрабавала: хачу жыць з ціхай, спакойнай дзяўчынай.

— О! Тады гэта Матлюба! Яна дужа, дужа спакойная!

Мяне трохі «драпануў» іранічны тон суразмоўцы — ці няма тут падазронай падбіўкі? Але камендант горача пацвердзіў, што дзяўчына вельмі, вельмі прыстойная. І хуценька выдаў мне ключ, нібыта баяўся, што я перадумаю.

Матлюба аказалася ўзбечкай. Першае, што мне належала запомніць — націск у яе імені толькі на другі склад.

Другое, што мне належала ведаць — што Матлюба любіць акуратнасць. І мае намер змагацца за тое, каб нашаму пакою было прысвоена званне «Узорнага».

Сярод маіх шматлікіх вартасцяў акуратнасць ашываецца дзесьці на апошніх пазіцыях, амаль дэградуючы ў сваю супрацьлегласць. Але я гераічна згадзілася мыць падлогу праз дзень, у чаргу з аднапакойніцай, прабачце за некрафільскі новатвор.

Калі суровая Матлюба даведалася, што я з Беларусі, і да таго ж пішу па-беларуску, яна палагаднела. І нават дастала са сваёй валізы сукенку, каб параіцца, як можна яе адмыць. Я са здзіўленнем убачыла, што да моднай летняй сукеначкі са светлага трыкатажу прышытыя кароткія неахайныя рукавы са штучнага шоўку, якія, калі сукенку мылі, зафарбавалі частку светлай тканіны. У тонкасцях дамаводства я разбіралася кепска, парадзіць нічога талковага не магла, але не вытрымала, каб не папытацца: навошта было псаваць прыгожую сукенку, прышываючы недарэчныя рукавы? Аказваецца, узбекская дзяўчына не можа хадзіць у сукенцы без рукавоў. Так для мяне канчаткова з'ясавалася, што нават у Савецкім Саюзе, дзе дружба народаў была манументальнай, як металёвая Радзіма-Маці на беразе Дняпра, існуе заўважная рознасць менталітэтаў. Дарэчы, і манумент Радзімы-Маці ўнутры пусты, а зусім не з маналіту, і там поўна розных памяшканняў.

Так мы сталі жыць з Матлюбай.

Яна была дачкой узбекскага начальніка, але ў Літаратурны інстытут патрапіла насуперак бацькоўскае волі. Пісала дужа сур'ёзную прозу на сацыяльныя матывы, і любіла гэта рабіць па начах. Узятая напракат машынка-друкарка «Масква» грымела, як якісь штампавальны станок, я дарэмна спрабавала затыкаць вушы...

А аднойчы раніцай нас пабудзіў стук у дзверы — за нечым-нейкім прыйшоў узбекскі паэт, наш аднакурснік, які дагэтуль ніяк не аб'яўляўся...

Як Матлюба перанялася! Я ніколі не бачыла яе такой усхваляванай. У маёй заўсёды ўраўнаважанай, упарта-зацятай суседкі ажно рукі трэсліся... «Ганьба! Ганьба!» — паўтарала яна, кідаючыся па пакоі ў пошуках адзення.

Аказваецца, для узбекскай жанчыны ганьба — калі мужчына прачнуўся раней за яе. Дарэмна я даводзіла, што сёння выходны, а ейны зямляк прыйшоў так рана, што яшчэ ўвесь інтэрнат спіць... Мне не было дадзена зразумець тонкасцяў усходняга этыкету.

А калі да Матлюбы прыйшоў яшчэ нейкі зямляк, яна папрасіла мяне, пакуль будзе займаць яго размовамі, падрыхтаваць пачастунак. А менавіта бульбу. Матлюба, безумоўна, свята верыла, што ў беларусак проста ў генах закладзена ўменне гатаваць бульбу, як у чукчаў — уменне лавіць рыбу і шыць адзежу са скураў. І мы з дзяцінства, як апісваў Яўген Еўтушэнка ў сваёй паэме, яшчэ хадзіць не ўмеючы, поўзаем у баразнах з заціснутымі ў кулачках бульбінамі...

Як мая суседка памылілася! Я, вядома, бадзёра пацвердзіла чуткі пра рытуальнае бульбяное ўменне беларусаў, так-сяк начысціла і парэзала Матлюбіну бульбу і кінула на патэльню.

Бульба згарэла, як ангельскі каланіст на афрыканскім сонцы. Мяне гэта зусім не засмуціла, я не бачыла нічога заганнага ў падгарэлай бульбе, таму прынесла патэльню, над якой віўся шызы смярдзючы дымок, у пакой і ўрачыста паставіла на стол.

Усходні госць і Матлюба падазрона пакалупалі няроўныя лусцікі з чорнымі бакамі і вярнуліся да талеркі з курагой... А я — нічога, адклала сваю долю ды з’ела.

Пасля гэтага Матлюба западозрыла, што я ці няправільная беларуска, ці зусім не беларуска, а так, пыл у вочы пускаю. Асабліва абвастрыліся ейныя падазрэнні пасля таго, як я абвесціла, што і да мяне прыйдзе зямляк-паэт, і мы будзем размаўляць з ім па-беларуску. Матлюба спецыяльна засталася, каб паслухаць экзатычную беларускую мову.

Мы з госцем, маім будучым мужам паэтам Віктарам Шніпом, пілі завараную ў імбрыку дзясяты раз гарбату і сапраўды размаўлялі на беларускай мове. Я была шчаслівая: варта прыехаць у Маскву, каб знайсці, з кім паразмаўляць па-беларуску! Матлюба сядзела і ўважліва слухала.

Калі мой госць пайшоў, суседка пагардліва спытала, чаго ж гэта мы гаварылі па-руску, а не па-беларуску?

На жаль, Матлюба не вельмі добра ведала рускую мову, і, падобна, асаблівасці беларускай былі для яе няўлоўныя. Давялося нешта мармытаць пра падабенства славянскіх моваў... Але яшчэ ніхто і ні ў чым не змог пераканаць маю суседку.

Я прапускала сваю чаргу мыць падлогу (навошта кожны дзень?), і наш пакой ніяк не заваёўваў званне «Узорнага». Я абы-як кідала свае рэчы, бегала па тэатрах і выставах... Ключ у нас быў адзін на дваіх, Матлюба злавалася, што я яе буджу, позна вяртаючыся.

А пасля Матлюба знікла.

Прыйшла я з чарговага тэатра, а дзверы нашага пакоя замкнёныя.

Стукала я, стукалі іншыя... Дарэмна. У поўным адчаі я бегала па інтэрнаце і шукала Матлюбу — на дыскатэцы ў актавай залі, у землякоў, у аднакурснікаў... Бачылі, кажуць, была...

Урэшце я пераначавала ў грузінскай паэткі, далікатнай арыстакратычнай прыгажуні, якая жыла адна і, пабуджаная ў гадзіну ночы, без ваганняў ўпусціла мяне.

Раніцай у нашым пакоі мяне сустрэла Матлюба строгім пытаннем: «Дзе ты была?»

Дзе была сама Матлюба ў тую ноч, я так і не даведалася — магчыма, у мэтах майго перавыхавання яна пераначавала менавіта ў той сваёй сяброўкі, дзе мне таксама не адчынілі.

У хуткім часе мы з Матлюбай да агульнага задавальнення раз’ехаліся.

## Як мая сяброўка тапілася ў Свіслачы

Пісьменнік павінен назіраць за людзьмі, як паэт Купрэеў за жыццём мурашніка. Ісці ў самыя небяспечныя і недалікатныя месцы, як Эміль Заля хадзіў у бардэль і там, хаваючыся за парцьерамі, рабіў зацемкі... Галоўнае памятаць, што, каб апісаць лужыну, неабавязкова ў ёй выкачацца.

Гэта я засвоіла з юнацтва. Таму і старалася назапашваць уражанняў дзеля будучых твораў, калекцыянаваць «тыпы» і «характары», і сярод маіх сяброў з’яўляліся зусім не чаканыя персоны. Мая аднакласніца паступіла ў ПТВ, аднойчы я выпадкова сустрэлася з ейнай аднагрупніцай, і абрала яе чарговым «аб’ектам», бо з такімі раней не сябравала. Ала прыехала з далёкага гарадскога пасёлка. У яе быў крамяны круглы твар і шырокая сялянская костка. Пры кожным зручным выпадку Ала прамаўляла: «Скрупулёзно подмечено!», называла мяне «Харошая ты баба!» і шчыра захаплялася гарадскімі рэаліямі. Прымала за праўду ўсё, што заўгодна, і я магла адпрацоўваць на «аб’екце» ўласна сачынёныя міфы і беспакаранна сцябацца. Вядома, Ала пакорліва хадзіла са мной, куды б я не павяла.

Аднойчы пэтэвэшнікам задалі рабіць курсавую з чарцяжом нейкай дэталі, а чарціць пэтэвушнікі не ўмелі. Я вучылася ў архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, і Ала звярнулася да мяне.

Вядома, я мусіла працаваць не за так — у ПТВ мелася пэўная «такса». А менавіта — бутэлька віна.

Я накрэсліла дэталь у патрэбнай перспектыве, і Ала прыйшла расплочвацца. Яна купіла бутэльку «чарніла» пад назвай «Солнечное». Мы селі на кухні і, закусваючы рыбай гарачага вэнджання, вельмі хутка «чарнілка» дапілі.

Болей ніколі ў жыцці мне не ўдавалася заліць у сябе столькі «чарніла», і дзякуй Богу.

Чаму б не працягнуць далейшае заглыбленне ў нетры прафаннага жыцця? Мы пайшлі ў краму і купілі яшчэ адну бутэльку. З цяжкасцю цяпер верыцца, але гэта быў партвейн. І я пацягнула Алу на Кальварыйскія могілкі з тым самым пачуццём, відаць, як Рэмбо ці Бадлер ішлі ў курыльні опіуму ў парыжскіх трушчобах.

Тады могілкі былі зусім не дагледжаныя, зарослыя, мы выбралі магілу, дзе стаяла лаўка ў атачэнні кустоў, і... Мой дзявочы арганізм болей алкаголю не прымаў. Ала, як і чакалася, была больш трывушчай... Я ж вылівала сваю порцыю на магілку з самымі лепшымі пачуццямі да незнаёмага нябожчыка.

Вечарэла... Не пытайцеся, якімі шляхамі мы апынуліся ў парку імя Горкага, я не памятаю. Травеньская ноч падміргвала скрозь цёмную лістоту ўсімі ліхтарамі. Чорныя хвалі Свіслачы здаваліся таямніча глыбокімі... У такую пару да мяне звычайна прыходзілі вершы, але рамантычны настрой псавала Ала. Мая сяброўка зусім усхадзілася, у ёй прачнулася гэткая сялянская зухаватасць, яна пачынала то гайдацца ў бакі, то крычаць нешта захопленае. Асабліва ёй спадабаўся мост цераз Свіслач, там, дзе гэткі невялічкі вадаспад.

— А вось я зараз туды скочу! — гарлала пэтэвэшніца.

Я назірала і пасмейвалася. А яна раптам схапілася за парэнчы і давай перагінацца ўніз.

Я зразумела, што жарты скончыліся. Ала з дзікім рогатам ірвалася ўніз, цягнула рукі да шумлівага віру... Ніякія словы ўжо не даходзілі. Пачала адпіхваць яе назад... Але Ала была крапчэйшай за мяне. Я ў роспачы азіралася: паблізу нікога... Цёмна... Упадзём у ваду — ніхто і не заўважыць. А я плаваць не ўмею... Назаўтра толькі знойдуць целы... Да таго ж вярэдзіла пачуццё віны — наэксперыментавалася. Я схапіла Алу за пояс джынсаў і проста павісла на ёй усім сваім цяжарам, колькі яго там ува мне было.

Колькі доўжылася тая тузаніна, не памятаю... Але адпускаць Алу я не збіралася. Урэшце мы абедзве паваліліся на асфальт.

Ала рагатала і абсалютова не ўяўляла, што з ёй магло толькі што здарыцца. Я нечым звабіла яе падалей ад моста, ад ракі, так-сяк

вывела на праспект і пасадзіла на тралейбус. Здаецца, яна трохі працверазела, таму што да інтэрната дабралася.

Але болей я з ёй не сустракалася. І «чарніла» піць не магу. І выкарыстаць назапашаныя ў зносінах з Алай назіранні так і не давялося. Вось гэта — першы раз як нешта згадала.

## Я і дачка сібірскага злодзея

Пасля ўзбечкі Матлюбы маёй суседкай па пакоі інтэрната Літаратурнага інстытута стала сібірачка Ларыска. Яна была дробная, як дзіця, з кароткай хлапечай стрыжкай, у вялікіх акулярах, сёння сказалі б — як у Гары Потэра. Затое Ларыска нібыта ўся была зробленая з нейкага напятага, цвёрдага матэрыялу, здавалася, варта дакрануцца да яе — атрымаеш у адказ бязлітасны ўдар распрастанай спружыны. Родам мая суседка была з горада Курган і вельмі ганарылася сваімі землякамі. Адзін — знакаміты доктар-артапед, які прыдумаў адмысловыя прыборы для выпраўлення костак, даволі жудкія з выгляду — косткі пратыкаюць спіцамі. Другі — вядомы сцэнарыст, сябра Уладзіміра Высоцкага. Трэці — пісьменнік-русафіл. Пра сябе Ларыска з гонарам гаварыла: «Я — дочь вора!» Паколькі яна дужа картавіла, сцверджанне гучала зусім пераканаўча. Бацька Ларысы быў сапраўды згублены дзесьці ў сібірскіх лагерах, маці працавала прыбіральшчыцай. Сама Ларыска, пакуль не скончыла бібліятэчны тэхнікум, нейкі час падпрацоўвала са швабрай і з гордасцю заяўляла выкладчыкам: «Я чужыя харчкі падцірала!» Пралетарскае паходжанне ў стылі Максіма Горкага ўхвалялася, і прадугледжвалася, што выкладчыкі, як прадстаўнікі «буржуйскага» класа, павінны прысаромецца і адзнакі выставіць ледзь не аўтаматам...

З расповедаў Ларыскі пра родны горад паўставаў зусім іншы свет, нават у параўнанні з рабочымі кварталамі майго роднага Мінска. Бязвінным жартам лічылася, калі ўночы між ручкамі дзвярэй кватэр, што знаходзяцца насупраць на лесвічнай пляцоўцы, туга нацягваецца вяроўка, і жыхары не могуць раніцой выйсці. Спрабавала Ларыска і наркотыкі — у іхняй кампаніі далі неяк «малой» укольчык... Яшчэ запомнілася, як нейкая дзеўка з іх раёна па патрабаванні каханага хлапца прынесла даведку, што цнатліўка — тады ажаніўся, бо проста так дзеўка яму не давала, спасылаючыся на сваю некранутасць.

Ларыска, якая знаходзілася ў стане партызанскай вайны з усім светам, захацела, каб мы абавязкова выпрабавалі нешта з арсеналу

жартаў курганскай шпаны на насельніках інтэрната. І аднойчы я паддалася свайму містэру Хайду (урэшце, я ніколі і не сцвярджала, што я белая і пухнатая). Шкодніцкаму набегу падлягалі кухні. Найперш кухня на паверсе, дзе сяліліся завочнікі — там не дзяжурылі каля пліт усходнія жонкі ўсходніх пісьменнікаў, ахутаныя вохкімі выпарэннямі з казаноў і рондаляў. У завочнікаў заўсёды было пуста і непрытульна, перакотваліся ў каструльках бледныя крамныя яйкі ці дыетычныя сасіскі... Пуставала кухня і цяпер. У імбрык, які закіпаў на пліце, адправіўся кавалак зжаўцелага сала, у другі — падгнілая цыбуліна...

Мы са здушаным рогатам вярнуліся ў пакой... Але мой «партызанскі азарт» выветрыўся, я вельмі ясна ўявіла, як бы я сама пачувалася, каб у маім імбрыку вынайшаўся такі «падарунак»... Той пякучы сорам адчуваю і дасюль. Я адмовілася ад далейшых «подзвігаў», нягледзячы на Ларысчыны ўгаворы, і не ведаю, ці ўтварала яна яшчэ нешта падобнае.

Яшчэ Ларыска ўмела завязваць карысныя знаёмствы. Выгляд у яе быў жаласны: замораны дзіцёнак-самародак з глыбінкі... Як не падтрымаць? Знайшла ў Маскве земляка-сцэнарыста, той нават вадзіў яе на «халасцяцкую маліну», дзе часта бываў Высоцкі. У чачэнца, які жыў за нашай сцяной, выпрасіла кінжал (паабяцаў, але не прывёз). Зацягнула ў наш пакой маладога ціхмянага індуса Анеля (Літінстытут — гэта ж сапраўдны Бабілён!), каб паваражыў. Анеля ажаніла на сабе руская дзеўка, а сам ён належаў да касты брахманаў, у ягонай радні ўсе ўмелі варажыць, вось і нам з Ларыскай нешта напрадказваў (прынамсі, са мной усё спраўдзілася).

У чым мы сыходзіліся з Ларыскай — дык у нянавісці да «сістэмы». Да адчування сябе шрубчыкам, які шчыльна завінчаны ў агульны механізм. Школа — толькі тая, што каля дому, прыём у піянеры — па спіску, тады прыём у камсамол, інстытут, праца па размеркаванні, прахадная, сходы, абавязковыя медагляды (іх Ларыска асабліва ненавідзела)... Выйсце мая суседка бачыла толькі тры, дакладней, адзін: выйсці замуж. Розніца была толькі ў варыянтах жаніхоў: за дыпламата, за святара альбо за пісьменніка. Пісьменнікаў у інтэрнаце хапала, але былі яны, як і мы, пачаткоўцамі, без членскіх білетаў МАССАЛІТу, пардон, Саюза пісьменікаў СССР. «Учлененыя» пісьменнікі таксама меліся — на Вышэйшых літаратурных курсах. Але былі яны амаль спрэс лысаватыя, п’янаватыя і жанатыя. Варыянт са студэнтам інстытута міжнародных зносінаў альбо семінарыстам

Ларыска «прабіла», і не раз упрошвала мяне прагуляцца ля ўстановы, дзе рыхтуюць дыпламатаў, альбо з’едзіць у Загорск, дзе знаходзіцца знакамітая семінарыя. Не ведаю, як справілася б Ларыска з роллю «матушкі», але мне ейныя матрыманіяльныя планы былі абыякавыя — калі выходзіць з «сістэмы», дык на «ўласных рэсурсах». Да таго ж я сустрэлася ў Літінстытуце з земляком паэтам Віктарам Шніпом, ягоныя матрыманіяльныя планы ў мой бок вызначыліся вокамгенна, і мае шпацыры па Маскве і ў беларушчыну не адбываліся на самоце… Відаць, Ларыска вырашыла, што я такім чынам ператвараю ў жыццё падказаны ёю план, і вырашыла паспрабаваць свайго шчасця. Як мяне не было, стукалася ў дзверы Шніпа, прыдумаўшы бяскрыўдную падставу (солі-хлеба пазычце).

Шніп дачкі сібірскага злодзея палохаўся і дзверы не адчыняў.

Між тым у Ларыскі накапілася «хвастоў» па ўсіх прадметах, асабліва па французскай мове, бо мудрагелістае гарлавое вымаўленне ёй ніяк не давалася. Мая суседка пачала бегаць да знакамітых землякоў, да нейкіх чыноўнікаў з Саюза пісьменнікаў, распавядала пра падціранне чужых харчкоў… Нічога не дапамагло.

А тут яшчэ і здароўе Ларыскі пагоршылася. Яна пачала кашляць з крывёй і дэманстратыўна паказвала мне насоўку. Да доктара, зразумела, не ішла. А пару разоў я пабачыла, як яна, ведаючы, што прачынаюся пазней за яе і дужа неахвотна, пераводзіла будзільнік, каб я спазнілася… Віктар сказаў, што з гэтым трэба заканчваць — мы падалі заяву ў загс, і я пераехала да яго.

Што далей з Ларыскай сталася, не ведаю, бо з Літінстытута я перавялася на родны беларускі філфак, стварыўшы патрыятычны прэцэдэнт. Здаецца, маю былую суседку адлічылі… Прынамсі, твораў ейных я ў сецiве не бачыла.

## Я і штучныя кветкі

Вядома, я не люблю штучныя кветкі.

Гэта ж кіч, безгустоўнасць, якая не пасуе паэтцы — самая някідкая жывая раслінка вытанчаней за самую яркую штучную…

Але за сваё жыццё я паспела іх нарабіць не адзін чамадан.

Кожную вясну мая бабуля з сястрой выбіраліся ў вёску Люцi на Пухаўшчыне. Побач, у вёсцы Бор, могілкі, на якіх пахаваныя мае продкі па бабулінай лініі — у тым ліку ў агульнай магіле попел

адзінаццаці Часлаўскіх, сям'я маёй бабулі, спаленая фашыстамі. На Дзень Перамогі належала ўскласці туды вянкі...

Бабуля Паліна з сястрой Вольгай рабілі кветкі для вянкоў самі. Для гэтага закуплялася гафрыраваная папера розных колераў, дрот, парафінавыя свечкі... З шорсткай паперы, складзенай шмат разоў, выразаліся пялёсткі розных памераў — для ружаў белыя, крэмавыя, ружовыя, у форме падоўжаных сардэчак, для званочкаў — сінія «зубчыкі», для цюльпанаў — круглыя, чырвоныя і жоўтыя... Кончыкі пялёсткаў для ружаў накручваліся на вязальную спіцу, потым з дапамогай лыжкі сярэдзіна пялёстка расцягвалася чоўнікам... На кончык дрота накручвалася жоўтая папера, каб утварыць сарцавіну, затым адзін за адным накладаліся пялёсткі, звязваліся ніткай... Потым дрот хавалі пад зялёнай паперай...

Наш вянок павінен быў быць лепшым за вянкі іншых, няхай яны і куплёныя! Мы працавалі ўсёй сям'ёй, вечар за вечарам, каляровыя ашмёткі разляталіся па пакоі, быццам у «хрушчобе» адгуў пышны карнавал... Часам я стварала кветку-гібрыд, аналагаў якой у прыродзе не мелася — бабуля такую вольнасць збракоўвала... Калі кветкі былі гатовыя, у рондалі растапліваліся парафінавыя свечкі, у паўпразрыстае рэчыва акуналіся бязважкія ружы, цюльпаны, званочкі — пры гэтым яны, як я лічыла, гаршэлі, трацілі вытанчанасць, лёгкасць, затое набывалі трывушчасць — сумны абмен, як адбываецца і з усім жывым...

Кветкі абсыхалі на рассцеленых газетах, як маленькія муміі. Гатовыя мы складалі ў шэры дэрмацінавы чамадан і ехалі ў вёску. Бабуля жартавала: «Вось, нехта падумае, багатыя, колькі гасцінцаў вязуць!»

На гэтым рытуал не заканчваўся. У вёсцы мы ішлі ў лес, які называўся «Белая Лужа». Там ірвалі дзеразу — не ведаю, як яна па-навуковаму завецца, яе светла-зялёныя пухнатыя гірлянды слаліся па зямлі, чапляліся карэньчыкамі за глебу... Дзераза і ядловец павінны былі служыць фонам для кветак.

Успомніла адзін з апаведаў з блакітна-бэзавага нумара часопіса «Новый мир», а можа, з часопіса «Москва» — іх у нас была цэлая падшыўка, уся адліга — канец 1950-х— 1960-я. Гэтая падшыўка — пра што не перастану шкадаваць ніколі — аднойчы была здадзеная ў макулатуру ў абмен на талончык на атрыманне страшэнна дэфіцытнай кнігі Аляксандра Дзюма-старэйшага «Графіня дэ Мансаро». Дык вось, у адным з апаведаў расказвалася, як

рэпрэсаваны пасля рэабілітацыі вяртаецца да былога жыцця, у Максву, ягоныя сябры ўчыняюць урачыстую сустрэчу... І нядаўні зэк дорыць свецкай красуні, у якую быў закаханы доўгія гады і якой заўсёды дарыў ружы, букет... Дама з жахам усведамяе, што кветкі — штучныя... Для яе гэта знак, як дэградаваў яе былы бліскучы, далікатны кавалер, страціў густ... Яна хавае бязважкія кветкі ў шафу, спрабуе схаваць расчараванне... Развітваючыся, госць пытаецца, няўжо ёй не спадабаліся кветкі? Дама не вытрымлівае і амаль са слязьмі кажа: ну як жа, яны ж... штучныя... папяровыя... А госць узрушана тлумачыць: не, яны не папяровыя, яны са стружак, з таго лесапавалу, дзе адбываў пакаранне... Майстраваў у перапынках між знясільваючай працай, думаючы пра сваё далёкае каханне...

Усе ружы свету не былі вартыя таго букета, які яшчэ захаваў пах сібірскай драўніны...

Не ведаю, ці мог быць які вянок з пластыкавых елачак даражэйшы за тыя, нашыя, самаробныя? Хаця ведаю, што бабуля саромелася «самаробнага». Неяк вельмі ўзрушылася, што я сама сабе пашыла лялькі — як паказвалі ў перадачы «Зрабі сам». А раптам хто пабачыць і вырашыць, што па беднасці не могуць дзіцёнку ў краме ляльку купіць! І вянкі яна б, напэўна, ахвотней набывала куплёныя — але ж не на пенсію ў дваццаць восем рублёў...

А вось на пахаванне бабулі я не патрапіла.

Радня наша нешматлікая і няблізкая, усе паехалі забіраць памерлую бабулю з бальніцы. Мама ніякіх сяброўак і сардэчных суседак не мела, і мяне пакінулі адну рыхтаваць пахавальны стол. У дзевятнаццаць гаспадарчыя мае здольнасці абмяжоўваліся падзабытымі школьнымі ўрокамі працы і ўменнем адкрыць бляшанку кансерваў. Тым не менш салаты я падрыхтавала, нарэзала, што трэба было нарэзаць, вось толькі з катлетамі — асноўным блюдам стала — атрымаўся аблом. Пакуль бабуля магла, кухня была на ёй... І катлеты ў яе атрымліваліся адмысловыя — і не падгарэлыя, мяккія, і чорнага колеру. Вось і я, плачучы, пякла катлеты і чакала, пакуль яны стануць чорнага колеру, як у бабулі... Але яны толькі змяншаліся ў памерах... Пакуль не сталі з грэцкі арэх. Затое амаль чорныя.

І вось скажыце — трагічны які эпізод жыцця, а памятаюцца перш за ўсё тыя няшчасныя катлеты...

А вянок з уласна зробленых кветак я так для бабулі і не падрыхтавала. І цяпер на Радаўніцу, на Дзяды купляем стандартныя шыкоўныя вянкі...

## Як мы ў Кіеве начавалі

У маім савецкім дзяцінстве асабліва карыснымі лічыліся кнігі, якія загартоўвалі волю і выхоўвалі альтруізм. Напрыклад, пра піянераў-падпольшчыкаў, якія моўчкі пераносілі страшэнныя катаванні, а потым іх імёнамі называлі вуліцы. У звязку з ваеннымі кнігамі былі тыя, што распавядалі пра дзяцей, якія пераадольвалі цяжкія хваробы ў спецбальніцах, інтэрнатах і санаторыях. Помню аповеды пра санаторый для туберкулёзнікаў у Крыме, пра інтэрнат для дзяцей, хворых на раматуз, пра палату дзяўчынак, што лечацца апаратам Елізар'ева, які выпроствае косткі... Маленькія пацыенты змагаліся з болем, у іх былі свае гульні і моцнае сяброўства, так што мне нават хацелася патрапіць на іх месца. Гэта вам не «Чароўная гара» Томаса Мана з філасофскім нагрувашчваннем, а ідэалагічнае выхаванне, даходлівае, як дзягай па азадку... Галоўнае, я ж сама ў дзяцінстве пакаштавала бальніц, і нічога добрага там не бачыла... Розніца паміж рэальнымі бальніцамі і апісанымі ў мастацкіх творах была такой жа, як між кадрамі «Кубанскіх казакаў» і рэальнай калгаснай украінскай вёскай, што зведала Галадамор.

Цяжка паверыць, але здараецца, што і рэальныя бальніцы дораць перажыванні карнавальна-літаратурныя... Клас маёй дачкі адпраўляўся на травенькія святы на экскурсію ў Кіеў... Паехалі і многія бацькі. Перад адпраўленнем наша настаўніца папрасіла праверыць, ці ва ўсіх з сабой дакументы. І выявілася, што я замест свайго пашпарта прыхапіла сынаў... Я пакорліва выйшла з аўтобуса. Але наша цудоўная настаўніца Зінаіда Кірылаўна тут жа арганізавала ратунак: маці аднакласніцы маёй дачкі была на машыне, мы хуценька зматаліся за пашпартам, і я зноў апынулася ў аўтобусе...

Гэта быў лёс.

Ноч прайшла пад бадзёрае гарланне падрастаючага пакалення.

На раніцу вабноты Кіева ўспрымаліся трохі паралельна свядомасці, і марылася пра той гатэль у самым цэнтры горада, які нам абяцала турфірма.

Але прадстаўніца турфірмы патлумачыла, што вось прыкрасць, святочныя накладкі, шыкоўны гатэль пакуль не падрыхтаваны, трэба адразу на шпацыр, а заселімся потым...

Пaглядзелі Сафійскі сабор, палазілі па пячорах Кіева-Пячэрскай лаўры, прыкладаліся да труны з машчамі Іллі Мурамца, падзівіліся на металёвую Радзіму-Маці, з ажыўленым варыянтам якой, нават у

чалавечай прапорцыі, страшна было б сустрэцца на людней вуліцы, а не тое што на пустэльным беразе...

Вазілі нас па горадзе, пакуль не сцямнела, і нават самыя шустрыя шкаляры цяпер гатовыя былі ўлегчыся хоць у бронзавым чоўне Шчэка, Харыва і сястры іхняй Лыбедзі, паклаўшы пад галаву шматлікія вясельныя вянкі, якія па традыцыі туды шпурляюць украінскія маладажоны. Таму вестка, што замест шыкоўнага гатэлю нас прымуць у таксама шыкоўным, але можа не настолькі, успрынялася з палёгкай.

Праз густую ўкраінскую ноч, якую там-сям прабівалі прывідныя свечкі каштанаў, аўтобус пад'ехаў да нейкага парку, лесу, карацей — «зялёнай зоны»... У святле фараў вымаляваліся дыхтоўныя жалезныя вароты і бетонная агароджа. Наверсе агароджы ў некалькі радоў працягваўся калючы дрот. З-заваротаў выломваўся сур'ёзны сабачы брэх. Ахоўнікі выглядалі не менш сур'ёзна. Нават узброеныя, як спецназаўцы.

Вароты з жудкім лязгатам не адчыніліся, а ад'ехалі ўбок. За імі бачыліся толькі дрэвы, падсвечаныя рэдкімі ліхтарамі.

Калі пад хрыплы лямант аўчаркі вароты зачыніліся за намі, узнікла панічнае пачуццё, відаць, родам з генетычнай памяці, што выйсці назад не ўдасца. Аўтобус ціха ехаў па прысадах, вакол панавала цемра. Нарэшце спыніўся перад двухпавярховым будынкам, які разгледзець цалкам было немагчыма.

Сустракалі нас кабеты ў белых халатах. Рэцэпшэна не прадугледжвалася. Не было і ключоў ад нумароў. Як, уласна кажучы, і саміх нумароў. Нам гасцінна прапанавалі займаць тыя месцы, якія падабаюцца.

Месцаў хапала. Будыніна, відаць, калісьці была панскай сядзібай, з анфіладамі, гасцёўнямі, будуарамі... Цяпер усё гэта было застаўленае двух'яруснымі металёвымі ложкамі, казённа засцеленымі. Некаторыя ложкі былі дзіцячымі, меліся там жа і скрыні з цацкамі, таннымі і гігіенічнымі, якія лёгка мыюцца ў расчынні соды.

— Дзіцячы садок санаторнага тыпу! — жыццярадасна патлумачыла адна з кабетаў. А прадстаўніца турфірмы дадала, што маем проста шчаслівы выпадак — людзі на выходныя засталіся працаваць дзеля нас, заезджанцаў, згадзіліся прыняць...

Але гэта нагадвала блёкат. Бясконцыя анфілады паўцёмных пустых пакояў, бляклыя сцены, металёвыя панцырныя ложкі, пафарбаваныя ў белы колер з чорнымі плямамі аблезлінаў,

спецыфічны незразумелы пах… А вакол дзесьці там калючы дрот… Мы з дачкой і яе сяброўкай спыніліся ў адным з вялізных пакояў — акрамя нас, сюды ніхто не дайшоў. Занялі месцы на ніжнім ярусе… Дзяўчаты, якія ледзь не млелі ад стомы, улягліся. Мне неяк не спадабалася, што пад прасцінамі была падкладзеная цырата. Я вырашыла даследаваць дзіўнае месца. Над драўлянымі дзвярыма, фарбаванымі зялёнай алейнай фарбай, драмала лямпачка ў шкляным авальным футарале з чырвоным надпісам «Пост № 2»… У куце — абцерханы пісьмовы стол, з якога старанна былі прыбраныя ўсе «доказы»… Затое пад празрыстым пластыкам ляжалі спісаныя лісткі са слупкамі прозвішчаў і лячэбнымі прызначэннямі… І я даведалася, што мы знаходзімся ў адным з карпусоў псіханеўралагічнага дыспансеру, а менавіта ў тым, дзе лечаць дзяцей з энурэзам. Тых, што ноччу мочаць пад сабой ложак і каго на рэчыцкім Палессі, калі верыць этнографу Чэславу Пяткевічу, лячылі выключна збіццём.

Так, тут маглі б адбывацца падзеі адной з кніжак майго дзяцінства.

Пераначуеш — болей пачуеш… Але на раніцу новага мы не пачулі, а я не стала агучваць сваё адкрыццё… Нас пагрузілі ў аўтобус і павезлі далей любавацца краявідамі. Спецыфічны пах пераследваў мяне яшчэ некалькі дзён, нават па вяртанні ў Мінск.

Я здагадвалася, што шыкоўнага гатэлю, хутчэй за ўсё нам і не прадназначалася, а гэты быццам бы «выпадковы» начлег — добрая магчымасць падзарабіць для беднай медыцынскай установы і ўвішнай турфірмы.

Але сёння я ўспамінаю тое падарожжа, начлег у кіеўскай псіхушцы, старую сядзібу за калючым дротам, у засені вялізных дрэваў без злосці… І ўсё здаецца толькі трохі смешным і нават настальгічна-рамантычным.

## Я, ангельская каралева і белыя пальчаткі

Стрыечны брат маёй маці, інжынер, на некалькі гадоў быў пасланы разам з сям'ёй у Англію «па абмене», працаваць на вытворчасці. Гэта было проста неверагоднае шанцаванне, і час ад часу мы атрымлівалі лісты з нетутэйшымі маркамі і паштоўкі, усыпаныя блішчынкамі, з замежнымі надпісамі. А аднойчы ў лісце сваякі прыслалі каляровы фотаздымак — парадны партрэт каралевы. У яе быў зусім не лялечны, разумны і добры твар, дасканалая пастава,

зацягнутая ў белую пералівістую сукенку, на сіняй стужцы цераз плячо зіхацелі вялізныя дыяментавыя сняжынкі ордэнаў... І, вядома, на галаве красавалася самая сапраўдная каралеўская карона!

Каралева сталася маёй улюбёнай субяседніцай. Я разумела, што ёй не вельмі ўтульна ў нашай «хрушчоўцы», таму старалася абкружыць належнай раскошай. Са срэбнай і залатой фальгі нарабіла цэлыя сервізы — талерачкі, кубкі, чаркі, лыжкі... Посуд складала ў «залаты» куфэрачак з алюмінію, набыты ў цацачнай краме «Бураціна». І час ад часу каралева мела магчымасць узначальваць сапраўднае каралеўскае застолле... Праўда, я так і не знайшла цацкі, вартай сесці разам з ёй за стол, так што даводзілася мне замяняць каралеве ўсю прыдворную публіку...

Потым нашы сваякі вярнуліся. Мая стрыечная бабуля Воля бясконца з гонарам распавядала пра новыя манеры, якія ейны сын, нявестка ды ўнучка прывезлі з замежжа. Выключальнікі перарабілі, каб былі на ўзроўні апушчанай рукі, цукру не ўжываюць... Мая сястра паспела павучыцца ў ангельскай школе, і бабуля Воля па ейнай просьбе звязала ёй з тонкіх белых баваўняных нітак летнія пальчаткі — бо менавіта ў такіх у Англіі яна хадзіла ў сваю школу...

У якасці падарунка бедным сваякам, які мусіў далучыць і нас да арыстакратычных звычак, такія ж пальчаткі былі звязаныя і мне.

У маім уяўленні яны былі цалкам матэрыяльным прывітаннем ад ангельскай каралевы.

Я, напэўна, дзесьці ў глыбінях свядомасці разумела, што ісці ў звычайную савецкую школу ў такіх пальчатках не зусім бяспечна, але ж я была паслухмянай дзяўчынкай, да таго ж свет рэальны кранаў мяне куды менш, чым кніжна-фантазійны. Ад застрашлівага і нуднага побыту я заўсёды адгароджвалася мроямі, высноўваючы ў галаве сюжэты, сюжэты, сюжэты... І першага верасня мяне ўрачыста выправілі ў школу з арыстакратычным аксесуарам. Якраз было вельмі цёпла, ангельскія белыя пальчаткі дзіўнавата спалучаліся з форменным фартушком з акцябрацкім значком і сціплымі паношанымі сандалікамі фабрыкі «Прамень».

Раён быў працоўны, школа знаходзілася ля завода ацяплявальнага абсталявання, станцыі «Радыятарная» і турмы. Многія «хрушчоўкі» былі заселеныя нядаўнімі вяскоўцамі ды жыхарамі працоўных інтэрнатаў. Вучні кучкаваліся перад будынкам школы, заціснутым паміж «хрушчовак», спрабуючы ў адчайнай беганіне і штурханіне здабыць яшчэ хоць крыху волі...

На мяне заазіраліся... Пасля пачалі паказваць пальцамі... Нехта выкрыкнуў: «Зіма-лета-папугай, наша лета не пугай!», але я ніяк не адгукнулася, паглынутая ўспамінамі пра апошні чытаны прыгодніцкі раман кшталту трох мушкецёраў. Нехта з хлопчыкаў паўстаў на маю абарону: «У яе проста рукі баляць! Праўда?» Я холадна адпрэчыла гэты варыянт. «Значыць, гэта каб зручней партфель насіць?» — падумаўшы, высунуў гіпотэзу мой абаронца. «Так ходзяць у школу ў Англіі!» — спакойна прамовіла я і адвярнулася. Некалькі дзяўчатак, што сімпатызавалі мне, падыходзілі па адной і шэптам раілі зняць пальчаткі, бо «так будзе лепей»... Я пацiскала плячыма: «Так носяць у Англіі!» — і працягвала лунаць у мроях, дзе дзейнічалі каралеўскія асобы.

Між тым школьны натоўп віраваў, вакол мяне ўтварылася кола пустэчы — нават сяброўкі не наважваліся стаць побач. Асабліва пільны хлопчык паспяшаўся паведаміць настаўнікам аб крамольнай падзеі крыкамі: «Ала Пятроўна, а яна ў белых пальчатках!» А вакол ужо чуўся шэпт «буржуйка!».

Настаўнікі зразумелі, што трэба ўмешвацца.

— Людачка, а чаму ты ў пальчатках? — папыталася адна.

— Так носяць у ангельскай школе! — сціпла адказала я, не прыўносячы ў адказ ані каліва снабізму.

— Адкуль ты ведаеш?

— У мяне сястра там вучылася! — зноў сціпла адказала я, шчыра не разумеючы, у чым, уласна, праблема?

Настаўніцы разгублена пашапталіся, пасля чаго мне было загадана пальчаткі зняць.

— А чаму? — наіўна папыталася я. Уцямнага адказу не атрымала, але паслухалася, тым больш што пальчаткі страшэнна мне абрыдзелі, у іх было горача, яны мулялі рукі... Зняла, схавала ў партфель... І так і не ўсвядоміла, наколькі парушыла нейкія няпісаныя правілы гульні. Маю маму выклікалі ў школу адмыслова, каб папярэдзіць — больш ніякіх белых пальчатак, і ўвогуле ніякіх «замашак»!

Фотаздымак ангельскай каралевы дасюль стаіць на маёй кніжнай паліцы. Аднойчы пабываў у Ангельшчыне мой сын, які прывёз адтуль два светлавыя мячы «Зоркавых войнаў», якія свецяцца і гудуць дасюль, калі націснуць на кнопачкі...

А яшчэ бывае ў мяне час ад часу адчуванне, што я зноў стаю сярод натоўпу ў белых карункавых пальчатках... Але я ніколі больш не схаваю іх у школьны партфель.

## АПАВЯДАННІ

### Кветка малайскага лёну

Атрамантавая пляма на белай паверхні парты нагадвала профіль Гогаля. Нізкая грыўка, востры дзюбаты нос, вусы...

Міхась столькі сёння глядзеў на гэтую плямку, што калі б зараз заплюшчыў вочы — усё роўна працягваў бы яе бачыць.

Каб ён быў дзяжурным, дык зараз жа прыйшлося б узяць сцізорык і сашкрабаць аўтара Вія з фарбаванай дошкі.

Але невядома, ці давядзецца яму, Міхасю Саколічу, толькі што выключанаму з піянераў, калі-небудзь навязаць на руку чырвоную павязку з надпісам «Дзяжурны». Чырвоная павязка — гэта ж давер, а ён даверу не варты.

Аднакласнікі разыходзіліся, нязвыкла прыціхлыя. Ніводзін, нават лепшы сябрук Грышка Жамокін, не зірнуў на развітанне на Міхася, нібыта такі позірк засведчыў бы пра іхнюю нетрываласць у змаганні з варожымі элементамі. Дырэктрыса, строга падцяўшы і без таго вузкія і бляклыя вусны, прайшла паўз Міхася ў дзверы класа... Нібыта яшчэ ўчора не ўсміхалася яму пры сустрэчах, не даравала шматлікія прагулы і паламаны на заднім двары школы бэз (ну, паваліліся туды падчас барукання з Грышкам).

Яшчэ б — як не паважаць сына адказнага супрацоўніка з Наркамата ўнутраных спраў! Ды ён, Міхась, і сам па сабе ладны, нібыта ажыў гіпсавы піянер з прысадаў гарадскога парку — круглы твар, буйныя светлыя кудзеры, шырока расстаўленыя нахабныя блакітныя вочы, трохі кірпаты нос, задзірыстая пастава... Усе яму ўсміхаліся, усе хацелі з ім сябраваць... І за гэтым хавалася не проста любоў — а страх. Міхась з п’янкім задавальненнем адчуваў гэты страх і ў поглядзе дырэктрысы, і на дне гарэзных вачэй дзяўчынкі за суседняй партай, і ў тым, як Грышка стрымлівае свой кулак, каб не ўдарыць на поўную сілу... Таму Саколічу на хвілю падалося, што падчас сходу прывідная рука тузанула нейкі рубільнік, і твары ўсіх прысутных згаслі знутры, як вокны, за якімі больш не гарац лямпачкі Ільіча. Адзін настаўнік геаграфіі Сігізмунд Станіслававіч Тарвецкі (за адно імя можна знелюбіць) і пасля сходу не змяніўся — ягоная фанабэрыстая надзьмутая фізіяномія, напэўна, увогуле змяніцца не можа. Вось хто аскалёпак старога рэжыму... Невысокі, але падцягнуты, сівыя валасы і вусы ўкладзеныя валасінка да

валасінкі, як прыклееныя, і ўвесь такі акуратны, нібыта парушынкі разлятаюцца ў бакі ад адной думкі, каб прызямліцца на ягоны выпрасаваны касцюмчык. І да таго ж гэты сівы дадатак да пенснэ ў адрозненне ад іншых выкладчыкаў яго, Міхася, шчыра ўзненавідзеў з першага ўрока. Міхась на ягоны расповед пра славутых беларусаў, якія рабілі геаграфічныя адкрыцці, гучна прамовіў, што буржуйскія падарожнікі займаліся паняволеннем неграў і індзейцаў, і іх расстрэльваць трэба, а не вучыць пра іх.

Сігізмунд Станіслававіч тады злосна ўпёрся позіркам у Міхася і працадзіў скрозь зубы нешта пра самаўпэўненых невукаў... А тады пачалося: на кожным уроку «буржуй» (гэтак з Міхасёвай падачы прazвалі настаўніка ў класе) чапляўся, задаваў дурныя пытанні — усё, каб давесці, што ён, Міхась, нічога не кеміць у геаграфіі... А колькі разоў пакідаў пасля ўрокаў! Саколіч дасюль без нянавісці не можа ўспомніць: пусты клас, вясёлыя галасы аднакласнікаў за вокнамі, схіленая над кнігамі сівая галава «буржуя»... Шоргат старонак, якія той перагортвае тонкімі пальцамі так часта, што Міхась напачатку не мог даць веры, што чалавек здольны так хутка чытаць. Але варта загледзецца, адарваўшыся ад вывучэння раздзела падручніка — занудны голас:

— Няўжо вам нецікава, Саколіч? Не хацелася ні разу пабываць у прэрыях? Хаця б дзеля таго, каб дапамагчы працоўным мексіканцам?

Вось шашаль папяровы... І нічогенька ж не баіцца. Усе настаўнікі школы ў гэтым годзе пачалі выкладаць на мове вялікага Леніна, каб наблізіць час зліцця ўсіх народаў СССР у адну магутную нацыю, а ён упарта размаўляе па-беларуску. Гэта ён, ён павінен быў быць сёння на Міхасёвым месцы, і слухаць пра варожыя вылазкі, і паныла маўчаць, не знаходзячы апраўданняў...

Праўда, аднакласнікі ўрокі геаграфіі любілі. Міхась часам таксама заслухоўваўся «буржуйскімі» байкамі пра пампасы-лампасы, канквістадораў і індзейскіх правадыроў... Да таго ж Сігізмунд Станіслававіч заўсёды прыносіў з сабой на ўрок нешта цікавае — якую-небудзь масайскую маску, з дапамогай якой добра было б удаваць вобраз Сусветнага Імперыялізму падчас выступлення агітбрыгады, альбо выцвілы егіпецкі пергамент з выявамі пляскатых шыракаплечых фараонаў, альбо кавалак вулканічнай лавы — падобны да бруднага вясновага лёду, пабітага воспай сонечных промняў.

Часам і Міхась нават забываўся на тое, што ўрок вядзе пракляты «буржуй»... Але ўспамінаў, і тады... Асабліва добра ўдалася задумка з

чучалам браняносца, гэтак удала пачэпленага на матузкі, што выскачыў проста ў абдоймы Сігізмунда Станіслававіча, калі той адчыніў шафу ў кабінеце геаграфіі.

Атрамантавы Гогаль пачаў падазрона раздвойвацца, расплывацца ў вясёлкавым тумане... З выратавальнага забыцця вярталіся толькі што пражытыя хвіліны — адна за адной... Гэтак чалавек хаваецца ад дажджу пад навес, а калі дождж ужо скончыўся, палатно раптам прарываецца, і назапашаная на ім халодная вільгаць абрыньваецца на галаву небаракі — адразу па кроплі, тады жменямі, а тады — вадаспадам.

Яго бацька — вораг народа! Добра замаскаваны, хітры, але яго выкрылі... Трацкіст, польскі шпіён, ангельскі выведца... Сабатажнік і тэрарыст. Як піянер мог жыць з такім у адной кватэры — і не раскусіць? Ну хоць цяпер, калі ўжо позна, трэба цвёрда адрачыся ад такога сваяцтва. Павініцца перад таварышамі. Прызнацца ў сваім пасобніцтве ворагу.

«Ну што ты маўчыш, Саколіч?»

Чырвоны гальштук з яго амаль сарвалі — так што мяккая тканіна нечакана балюча шаргатнула па шыі.

А яшчэ — і гэта зусім невытумачальна, як блёкат — нечы зласлівы шэпт: «Насіў воўк, панеслі і ваўка...»

Правільна, не хапала яшчэ расплакацца! Міхась злосна пацёр вочы шорсткім рукавом пінжака. Добра, што застаўся насамоце.

Нехта з-за спіны крануў яго за плячук. Хлопец спалохана зірнуў назад... «Буржуй» Тарвецкі! Гэткі ж фанабэрысты, як заўсёды.

— У вас ёсць якія-небудзь сваякі ў Менску?

Міхась неўразумела маўчаў. Настаўнік зрабіў колькі крокаў і стаў перад нелюбімым вучнем чорным слупом, шыльдачкі не хапала — «Абыходзіць за сто крокаў».

— Вам... нельга дахаты.

Міхась разляпіў вусны (трэба ж — ён, аказваецца, не вымавіў ні слова цягам усяго дня).

— Чаму? Мама...

— Вашай маці дома няма. І прыслугі таксама.

Тарвецкі вымаўляў словы, як на ўроку, спакойна, важка, нібыта складаў з цяжкіх, дасканала адшліфаваных каменняў піраміду — так, што ляза ў зазоры не ўсунуць.

Міхась з нянавісцю зірнуў у шэрыя, нібы сакавіцкае неба, вочы настаўніка геаграфіі, схаваныя здрадліва празрыстымі шкельцамі пенснэ.

— Я пайду дадому...

Тарвецкі цярпліва паўтарыў:

— Там нікога няма. Кватэра апячатана. Вашу маці... забралі. Яна, вядома, хутка вернецца. Але пакуль што вам трэба дзесьці перабыць. Вам ёсць да каго пайсці? Сябры? Сваякі?

Міхась, зусім агаломшаны, глядзеў на запэцканую парту. Свет рассыпаўся, як разбітае люстра, засталася адна шыкоўная бронзавая рамка. У кожным аскалёпачку друзу крывіўся твар «буржуя». Куды ісці, калі замест твайго адбітку — кавалак сцяны ў пустой рамцы?

Настаўнік геаграфіі ўздыхнуў і зноў крануў інтэлігенцкай рукой плячо былога піянера.

— Уставайце...

Міхась не адразу асэнсаваў, куды яны кіруюцца. Папраўдзе, яму было ўсё роўна. Толькі калі пачалі падымацца па шырокіх прыступках пад'езда каменнага дома на рагу Савецкай, успомніў: гэта ж дом «буржуя». Яны з сябрукамі колькі разоў сачылі за ім, рыхтуючы сюрпрызы кшталту рассыпанага па бруkаванцы гароху (старэчу Тарвецкага, аднак, не так лёгка аказалася зваліць з ног — спрытны, гад).

Дзверы на другім паверсе расчыніліся цяжка, з металёвым рыпеннем, бы ў склеп. І з кватэры пацягнула нейкім застарэлым пахам... І цёмна там было, як у склепе. Некалькі імгненняў Міхась увогуле нічога не мог разгледзець і застыў недарэчнай лялькай, выставіўшы наперад рукі. Рэзкі шоргат — і святло ўдарыла па вачах... Гэта Сігізмунд Станіслававіч рассунуў на вокнах у зале цяжкія парцьеры. Міхась заплюшчыў вочы, а калі вярнулася здольнасць бачыць... Навошта чалавеку столькі кніг? Паліцы ўздымаліся ад падлогі да высокай столі, кнігі стракацелі вокладкамі і выпраменьвалі пыл... Парушынкі скакалі ў светлавых слупах, нібыта радаваліся прыходу новага чалавека — можа, не будзе такім аматарам акуратнасці, як гаспадар, скончыцца гэтая вечная вайна з мокрымі анучамі?

...Буржуй, як ёсць буржуй. Але, падобна жыве адзін: ні сям'і, ні прыслугі... Няўжо сам прыбіраецца ды гатуе?

— Есці хочаце, малады чалавек?

Пытанне настаўніка змусіла Саколіча асэнсаваць, што — так, сапраўды... Свет зруйнаваўся, а есці ўсё роўна хочацца. І піць, аказваецца, таксама страшэнна хочацца...

Вядома, тое, што падавала на стол Фаня, домработніца Саколічаў, было куды лепей... У настаўніка геаграфіі не аказалася ўвогуле нічога смачнага. Сітны хлеб, тварог, колькі скрылёчкаў сала... Верх «раскошы» — абаранкі. Гарбату Тарвецкі заварваў з сушаных зёлак. Міхась быў бы не супраць, пакуль гаспадар важдаўся на кухні, палазіць па кватэры, дзе акрамя кніг на паліцах груваслілася яшчэ шмат цікавостак — ад чучалаў птахаў да агромністых ракавін, але Тарвецкі загадаў госцю сядзець і не варушыцца... У другі час так бы Міхась і паслухаўся... Ды цяпер самому хацелася стаіцца, заціхнуць, нібыта тады бяда пройдзе міма, не заўважыўшы...

Але яна дакладна ведае, дзе цябе шукаць, як спрактыкаваны злодзей вылічвае ўсе хітрыя хованкі гаспадароў, беспамылкова вытрэсваючы грошы з вышыванай падушкі на канапе альбо з развінчанага карнізу.

Міхась асцярожна пацягваў гарбату з зёлкамі, пазіраючы спадылба на Тарвецкага, які ў белай кашулі і камізэльцы выглядаў яшчэ больш па-буржуйску.

— Пераначуеце ў мяне, а заўтра пасля заняткаў вырашым, куды вас падзець,— усё тым жа сухім голасам адказаў на непрамоўленае пытанне гаспадар.

— Я не пайду ў школу,— зацяўся Міхась.— Я... я ў Камсамольск-на-Амуры паеду!

«Буржуй» зрабіў ласку пасміхнуцца:

— Хоць на Чукотку, малады чалавек. Але толькі пасля атрымання сярэдняй адукацыі.

— Нашто мне цяпер ваша адукацыя?

Сігізмунд Станіслававіч паставіў на белы абрус парцалянавую філіжанку з намаляванай на ёй сіняй птушкай з неверагодна доўгім хвастом.

— Веды — адзінае, што мы можам забраць з сабою ў любых жыццёвых варунках. Адзінае, што не здрадзіць. Жыццё для вас не закончана, Саколіч. І давайце з'ясуем. Калі вы чакаеце, што я буду вас шкадаваць ды выціраць вам соплі, памыляецеся. Калі вы — няварты ўвагі шматок анучы, не здольны вытрываць спасланых Богам выпрабаванняў, дык не трэба дзівіцца, што вамі будуць

выцірацъ падлогу. Калі вы — мужчына, дык трывайце і ўпарта выбірайцеся з яміны, куды вас будуць раз за разам саштурхоўваць.

Настаўнік гаварыў невыносна жорстка, нібыта біў па шчоках істэрыка. Міхась ускінуў калматую светлавалосую галаву.

— Я не ануча! І Бога няма!

— І першае, і другое пытанне чалавек мусіць вырашыць для сябе сам, не зважаючы на меркаванні іншых. Хапіла ж у вас сілы не адрачыся на сходзе ад свайго бацькі.

Дзіўна, але разам з усплёскам нянавісці да географа Міхась адчуў дзіўную палёгку: нібыта яго, зняможанага і зняверанага, нехта моцны падняў за каўнер, адвалок убок і страсянуў: «Вочы расплюшчы, недарэка! Вось жа дарога! Чаго ты папёр у дрыгву?»

Жыццё падалося нечым асобным ад яго самога, празрыстай, прасякнутай святлом субстанцыяй. Яна віравала вакол, як папяровыя парушынкі, вольна праходзіла скрозь цела, якое ўсё стваралася з гэткіх жа сонечных парушынак, і ўсе яны маглі аднойчы некуды адляцець, як пылок з кветкі, і з'яднацца са светлымі аблокамі...

Але нашто яму аблокі, калі ў яго больш няма чырвонага гальштука?

«Ворагі вельмі хітрыя, сынок,— павучаў бацька.— Ты мусіш верыць толькі таварышу Сталіну!»

Бацька вельмі не любіў такіх «інтэлігенцікаў», як Тарвецкі, казаў, што варта любога з іх прыціснуць — і вылезе гнілое буржуйскае нутро.

Можа, гэта тыя, каго ён «прыціскаў», інтэлігенцікі з гнілым нутром, і ачарнілі бацьку, агаварылі яго? Ці... заразілі сваёй гніллю, пошасцю? І... маці таксама?

— Мой бацька — не вораг!

Міхась адчуў, што слёзы наварочваюцца на вочы... Нізавошта не паказаць сваёй слабасці перад гэтым!..

Тарвецкі, аднак, відаць, заўважыў... Кінуў фанабэрыста:

— Лішніх насовак у мяне няма! І прыслугі таксама. Спадзяюся, вы ўмееце мыць посуд, Саколіч?

А потым Міхась сядзеў на цвёрдай скуранай канапе — скура была прыбіта цвікамі з масянжовымі круглымі капялюшыкамі, і канапа здавалася апранутай у сярэдневечны даспех, і чытаў узяты наўгад з паліцы дарэвалюцыйны падручнік па геаграфіі — у вокладцы, якая нагадвала зялёны мармур, з крохкімі жоўтымі старонкамі і штампам «Аптекарскій магазинъ А. И. Федоровъ»... Тарвецкі за шырозазным, як маленькі карабель, сталом правяраў сшыткі. Здавалася б, геаграфія —

не матэматыка, але «буржуй» увесь час задаваў то сачыненні, то выпісваць цікавыя звесткі пра краіны... Апошняе, пра што давялося пісаць Міхасю, была Малайзія. Але што там наконт яе — забіце, не памятаў. Хіба два словы «пальмавы алей».

У старым падручніку ён таксама знайшоў Малайзію: «Население Ост-Индскаго архипелага состоитъ преимущественно из Малайскихъ племен, которыя на востоке смешиваются съ Папуасами. Многие островитяне утратили уже нравы и веру своихъ отцов и приняли подъ влиянием колонистовъ европейский образъ жизни».

Вось бы з'ехаць туды... Вызваляць малайцаў ад каланістаў, вяртаць ім іхнюю мову ды норавы... А тут няхай самі разбіраюцца...

— Цікавіцеся экзатычнымі краінамі? — Міхась ледзь не падскочыў ад голасу Тарвецкага проста над сабой.— Што, з'ехаць ад праблемаў хочацца?

— Нічога не хочацца...— прабурчэў Міхась, трохі зніякавелы ад таго, што ягоныя думкі нібы прачыталі.

Тарвецкі таксама прысеў на канапу і задумна глядзеў перад сабой.

— Адзін мой... знаёмы таксама вельмі паважаў і любіў свайго бацьку. Той быў калісьці ўдзельнікам паўстання... Прайшоў катаргу, вярнуўся, ажаніўся... А калі нарадзіўся сын, неўзабаве памёр ад перажытага. Чалавек, які здаў яго царскім уладам, былы сябра, універсітэцкі аднакурснік, жыў таксама — але ў сталіцы... Зрабіў кар'еру, стаў вялікім чыноўнікам. Жонка паўстанца была высакароднай, патрыятычнай кабетай, і лічыла пачэсным звязаць лёс з героем-пакутнікам, нашмат старэйшым ад сябе. Яна з гонарам насіла сваю жалобу. І калі сын падрос, вырашыў адпомсціць за бацьку.

— Забіць таго белагвардзейца? — Вочы Саколіча заблішчэлі.

— Так... Але таго не проста было забіць, бо яго ахоўвалі. Ён нідзе не паказваўся сам. Тады мой знаёмы звязаўся з групай адчайных, якія не баяліся караць катаў. Гады пайшлі на падрыхтоўку... Хлопец стаў студэнтам універсітэта ў тым горадзе, дзе жыў здраднік. Ён вывучыў усе ягоныя звычкі і яго дзеянні. Ён намагаўся рабіць поспехі ў сваёй навуцы, каб стацца сябрам Геаграфічнага таварыства, праславіцца, атрымаць магчымасць наведваць афіцыйныя мерапрыемствы, дзе бывалі вышэйшыя чыноўнікі... Лічыце, гэта яму ўдалося. І прысуд быў выкананы.

— Як?

— На жаль, не стрэл... Бомба... Самая папулярная на той час зброя. Маладыя змагары звыклі спаць на дынаміце, снедаць за

сталом, на якім стаялі колбы з нітрагліцэрынам... Майго знаёмага схапілі.

— І павесілі? — Саколіч нават з нагамі залез на канапу, страціўшы пострах перад гаспадаром.

— Не... Дваццаць гадоў катаргі.— Тарвецкі задумна пагладжваў свае запясці.— Ён адбыў тры... Як ён ганарыўся сабою! З якой лёгкасцю насіў кайданы! А тады сустрэўся з былымі таварышамі бацькі. Даведаўся, што жывуць там, у тайзе, некалькі інсургентаў — пасля катаргі іх пакінулі на вечнае пасяленне. І што яны ваявалі ў тым самым атрадзе, дзе і бацька... Малады катаржанін адразу паспрабаваў паведаміць пра сябе, сустрэцца... Але ніводзін не захацеў да яго прыйсці. Мой знаёмы вырашыў, што яны проста вельмі старыя... Нарэшце яму ўдалося спаткацца з адным з іх... Як хацелася пачуць захопленых успамінаў пра бацьку! Не пачуў. Паступова — усе шкадавалі яго, не хацелі гаварыць наўпрост — зразумеў: усё мана... Ягоны бацька не быў для іх героем. Некаторыя лічылі яго проста за баязліўца. Былі і ўпэўненыя, быццам ён — здраднік. Забіты юнаком чалавек сапраўды ўціхамірваў паўстанне — але рабіў гэта па пераканანні, выконваючы сваю працу... Ім пагарджалі менш, чым юнаковым бацькам, які — варта было арыштаваць — зламаўся, як сцябло льну пад ударамі біла церніцы... А потым, адпушчаны пасля суда, які стаў для многіх смяротным прысудам, да канца жыцця ўдаваў з сябе мужную ахвяру... Затлуміў мазгі маладзенькай суседцы... Усё жыццё зайздросціў універсітэцкаму сябру, які рабіў кар’еру ў Піцеры... Пасля гэтага мой знаёмы з катаргі ўцёк.

— Як?

— Доўга расказваць. Калі душа ахопленая пякельным агнём, цела прапаліць сабе шлях. Ішоў праз тайгу, да мора. Наняўся матросам на маленькую рыбацкую шхуну з Ганконга — у іх трое памерла ад жаўтухі. Японія, Карэя, Інданэзія, паўвостраў Малака... Ён блукаў па такіх экзатычных месцах, што экзотыка навязала на зубах. І марыў вярнуцца на Беларусь. Тым болей ён не ездзіў у зручных калясках пад парасонам, у пробкавым шлеме і белым пінжаку... Хадзіў пешкі, наймаючыся на самую чорную працу, каб зарабіць грошай на далейшы шлях. Аднойчы яго нанялі пераапранаць нябожчыкаў — ніжэй у той краіне апусціцца немагчыма. Насіў цюкі з шоўкам. Збіраў пальмавы алей. Нават нейкі час змей вучыўся лавіць. Больш за ўсё яму не хапала... Ведаеш, чаго? Лёну. Беларускага лёну. Сіняга пяшчотнага поля, праз якое так любіў бегаць у дзяцінстве. Але

аказалася, лён ёсць і на паўвостраве Малака — новазеландскі лён, зусім не падобны да нашага. З шорсткімі лістамі веерам, з жоўтымі кветкамі... Зараз пакажу...

Тарвецкі падышоў да шафы, з-за шкла якой так і мецілі выскачыць засушаныя яшчаркі.

— Вось...

На далані географа ляжала сухая кветка, нібыта зробленая з выцвілага егіпецкага пергаменту.

— Нічога асаблівага, на тытунь падобна,— прабурчэў Міхась.

— Яна была яркай, як дзьмухавец,— сумна прамовіў географ.

— А што з вашым сябрам здарылася далей? — пытанне прагучэла глухавата, бо Міхася паволі пачало хіліць у сон. Тарвецкі зразумеў гэта і загаварыў сушэй, кароткімі, як насечанымі, фразамі:

— Усялякае было. Паміраў. Выжываў. Аднойчы зарабіў татуіровак ледзь не на ўсім целе — што зробіш, гасціннасць тубыльцаў... Прыстроіўся качагарам на ангельскае судна. І ўрэшце патрапіў у Еўропу... Ахопленую вайной. Але ён даў сабе слова — больш ніколі нікога не заб’е. Ірваўся на Беларусь, як апантаны. Беларусь сустрэла папялішчамі. Са сваякоў — нікога. Немцы... Беларускі ўрад... Палякі... Зноў Саветы... Самае цікавае, што пры кожнай уладзе яго садзілі.

— За што? — адкінуўшы сон, натапырыў вушы Саколіч.

— Не шанцавала, відаць,— з’едліва пракаментаваў географ.— Ад немцаў беларусы выкупілі — ён згадзіўся працаваць у сакратарыяце новага ўрада... А палякі дык ледзь не расстралялі — палічылі савецкім шпіёнам. Прыйшла савецкая ўлада — зноў забралі, ужо як польскага шпіёна. Добра, у кіраўніцтве аказаўся чалавек з групы, што калісь рыхтавала замах у Піцеры. Калі ўспомніць, што мой знаёмы паспытаў пару дзясяткаў каталажак падчас сваіх блуканняў па Азіі-Еўропе, і з кожнай вызваляўся, дык ён нейкі... улюбёнец духу вязніцаў.

— І што цяпер з гэтым чалавекам? — зноў санліва пацікавіўся Саколіч.

— Мяркую, з ім усё някепска. Але што ён не зрабіў для свайго народа і часткі таго, што мог бы — гэта таксама дакладна. Ці ненавідзеў ён свайго бацьку? Ведаеш, з цягам часу зразумеў, што мусіць быць яму ўдзячны. Кім бы ён вырас, ведаючы, што сын здрадніка і баязліўца? А так ён — сын героя.

Ужо правальваючыся ў сон, Саколіч чуў сярдзітыя словы Тарвецкага:

— Ну зусім ніякага выхавання ў гэтых савецкіх барчукоў... Хоць бы распрануўся, ці што.

А тады пад яго галаву прасунулася падушка.

Сон прыйшоў стракатымі птахамі і пачварнымі ліянамі, якія варушыліся, быццам шчупальцы... І яшчэ ўсплыў голас бацькі — аднекуль далёка, з дзіцячай памяці: «Не, ты чуеш, Зойка, якую контру давялося дапытваць... Кашулю сцягнулі — а пад ёй татуіроўкі на ўсю спіну! Ды яшчэ каляровыя — як твая хустка ў птушкі. Кажа, дзікуны распісалі... Ну, мы таксама яму распішам!»

...Назаўтра сын ворага народа Міхась Саколіч у кабінеце дырэктара кляўся перад суворымі людзьмі ў штацкім, што надалей будзе пільным, што гэта інтэлігенцік з гнілым нутром Тарвецкі, замаскаваны шпіён, загубіў ягонага бацьку, каб адпомсціць за свой арышт. Ён і яго, Міхася, спрабаваў заразіць буржуйскай пошасцю: гаварыў, што Бог ёсць, што бальшавікі памыляюцца...

Варожае адроддзе, канешне, хлапец... Але са здольнасцямі. Да настаўніка варта прыгледзецца.

...У кабінет да цэнзара зайшоў высокі худы чалавек у акулярах. Было відаць, што чалавеку больш за ўсё хочацца ў гэты момант апынуцца ў іншым месцы, але абавязак мацней за непамыснасць, і чалавек з усяе моцы ўдае дзелавы пазітыў.

— Вось, зірніце, калі ласка... Аўтара дзесяць гадоў як рэабілітавалі, а рукапіс дасюль не выдадзены. Наша выдавецтва хоць сёння гатовае. Цудоўныя пазнавальныя аповесці для дзяцей старэйшага школьнага ўзросту. Вы ж ведаеце, як не хапае нам такой літаратуры... Але ў план ніяк не можам паставіць. Паўплывайце вы на перастрахоўшчыкаў!

Цэнзар, сівагаловы мажны чалавек з паважнасцю, якая зрабілася ўжо ягонай другой абалонкай, утаропіў шырока расстаўленыя блакітныя вочы на тэчку.

— Сігізмунд Станіслававіч Тарвецкі... Гэта хто?

— Гэта беларускі пісьменнік! — заспяшаўся выдавец.— Шмат падарожнічаў... Выкладаў у мінскіх школах геаграфію. Некалькі апавяданняў надрукаваў у сярэдзіне трыццатых гадоў. Нашы спецыялісты лічаць — не горш, чым Янка Маўр, пісаў! Дый сам Маўр яго памятае, добра адзываецца...

Твар цэнзара, застылы, як мерзлае цеста, не змяніўся ніводнай рысачкай.

— І дзе гэты ваш... Тарвецкі быў у часы акупацыі?

Хударлявае цела выдаўца напружылася: а чаго яшчэ чакаў, тут усё вядома...

— Быў на акупаванай тэрыторыі... Але ж вы самі падумайце: які трагічны лёс! У трыццаць сёмым арыштавалі па нейкіх недарэчных абвінавачваннях... Чатыры гады адседзеў у Карагандзе, а перад самай вайной прыехаў на Беларусь. А тут — бамбёжкі, немцы... Так, ён уладкаваўся працаваць у школу — але ж супрацоўнічаў з падпольшчыкамі. Яго немцы забралі, дапытвалі, потым адправілі ў лагер смяротнікаў Калдычава... Адтуль у сорак чацвёртым вызвалілі партызаны. А ў сорак шостым яго зноў арыштавалі — як нямецкага паслугача. Дзе ён загінуў, нікому не вядома. Але ж — рэабілітаваны цалкам!

Гаспадар кабінета лена пабарабаніў моцнымі, неінтэлігенцкімі, пальцамі па стале, нібыта маленькі барабаншчык сігналізаваў пачатак атакі.

— Нейкі слізкі ваш Тарвецкі. Такое ўражанне, што ён і дасюль дзесьці блукае па свеце, ад турмы да турмы. Пільней трэба быць, таварыш, асабліва на фоне халоднай вайны. Ну, пакідайце, пагляджу.

Выдавец здушыў дурное жаданне пакланіцца і выйшаў, назнарок стараючыся захаваць спіну выпрастанай.

Старонкі ціха шаргаталі, выпраменьваючы папяровы пыл.

«А цікава напісана, жывенька,— думаў цэнзар, прабягаючы вачыма радкі.— Пампасы-лампасы, прэрыі-шмерыі... Пра Малайзію гэтак... кранальна. Бач, артыст які аказаўся ў душы ўлюбёнец духу вязніцаў...»

Зачакаўся гэты рукапіс... Бач, папера жоўтая, крохкая — нібы засушаная кветка малайскага лёну... Дакладней, новазеландскага.

Шырокая рука з сівымі валаскамі пацягнулася да хваста аднаго са штампаў, якія сядзелі на стале ў чаканні, як птушкі-падлаеды, вусны пяшчотна пахукалі на ўрачыстую гуму... Гума моцна прыціснулася да паперы, быццам прысмакталася ў п’яным пацалунку...

На першым лісце засталіся роўныя, як шыбеніца, сінія літары «У архіў».

І подпіс цэнзара: «М. Саколіч».

*2009*

## Шклянка цемры з прысмакам крыві

Хто сказаў, што ноч — сляпая? У яе — тысячы вачэй. І ўсе бязлітасныя, быццам прыцэл нагана.

Можа, так проста здавалася ад таго, што ў горадзе панавала чорная восень, якая бессаромна скінула з сябе апошні сентыментальна залаты лісток, што пад вокнамі туляўся позні вечар, калі сумленныя тубыльцы нават гарбату ўжо выпілі, а халодны дождж біў, біў, біў нябачнымі ў цемры бізунамі паўмёртвую зямлю ў ганебных гнілых лахманах травы і лістоты. Карацей, дасканалыя дэкарацыі для гатычнага рамана...

Хведар не надта любіў гатычныя раманы. Калі папраўдзе, дык ён прачытаў іх усяго два — у старым выданні, яшчэ з яцямі, на пажаўцелай паперы... Знайшоў на гарышчы, у куфры, у якім бабуля захоўвала праедзеныя моллю старарэжымныя салопы ды капялюшыкі, якія, відаць, Хведаравы сваякі проста не змаглі ў свой час вымяняць і на акраец жытняга хлеба. Кнігі, цяжкія, прапахлыя плесняй, нібыта ўвільготненыя слязамі павятовай паненкі, называліся «Замак Атранта» і «Франкенштэйн».

Толькі павятовых паненак палохаць... Прывідныя мніхі, пустыя рыцарскія латы, якія ходзяць па замкавых сценах, жывыя трупы і замураваныя мнішкі... Той, хто прайшоў вайну, наўрад спалохаецца прывіда, а той, хто пабываў у... сучасных сутарэннях, наўрад жахнецца, уявіўшы ржавыя ланцугі на голых цагляных сценах...

Дождж гэтак моцна ўдарыў у шыбу мокрай лапай, што Хведар нібыта адчуў на твары дробныя мокрыя кроплі. Нават электрычнае святло лямпачкі здрыганулася, як агеньчык класічна-гатычнай свечкі.

Трэба загаргнуць фіранкі... Калісьці бялюткія, туга накрухмаленыя, цяпер яны нагадвалі адначасова апалую квецень і павуцінне. Дзіва што — паўгода без гаспадыні... І паветра ў хаце мёртвае, нежылое — як ні праветрываў, як ні прапальваў грубку.

А хадзіць яшчэ цяжка. І рукі дрыжаць. На правай усё яшчэ час ад часу агнём гарыць мезенец, пазбаўлены пазногця. Вось халера. Нічога, цела моцнае, цела вытрымае. Адновіцца, набудзе былую жвавасць, як рыбіна, што сарвалася з кручка.

А што да душы... Савецкі афіцэр у душу не верыць.

Таму тое, што невыносна вярэдзіць, спараджаючы начныя жахі, смела можна назваць сапсаванымі нервамі.

Хведар горка ўсміхаецца, ягонае шыракаватае, з буйнымі рысамі аблічча, на імгненне цямнее. Пры поглядзе на такога, як ён, і думкі пра нервовасць і чуллівасць не павінна ўзнікаць. Напэўна, так калісьці выглядаў прафесійны паяўнічы на зубраў — каржакаваты, дужы, з пільнымі, нібыта прыжмуранымі вачыма пад густымі бровамі.

Нэ-эрвы...

Дзякуй Богу, што не вар'яцтва.

Хаця савецкаму афіцэру, нават за паўкрока да адстаўкі, не належыць згадваць Бога...

Быць унукам буржуазнага нацыяналіста і цемрашала яму таксама не належыць, няхай косткі ніколі не бачанага дзеда ўжо гадоў семдзесят, відаць, як гніюць у ненажэрнай сібірскай глебе. Але на фронце пагоны даюць не за паходжанне.

Яго біяграфію ператрэслі за гэтыя дні, напэўна, да сёмага калена...

І навошта яму заманулася ў тым клятым мястэчку выскачыць з цягніка, каб збегаць у вакзальны буфет! Цяпер любая гарбата для яго будзе аддаваць прысмакам крыві.

Чарговы мокры ўдар дажджу ў шыбы, і — сінхронна — стук у дзверы.

Прывід не мог бы выбраць лепшага моманту для свайго з'яўлення.

Герой гатычнага рамана сцішыўся б і скрозь дрыжыкі пачаў услухоўвацца ў таямнічыя гукі і змушаць сябе да дзеяння... Хведар проста падкульгаў да дзвярэй і адчыніў іх.

Лепей бы гэта быў прывід.

Светлавалосая круглатварая дзяўчына з блакітнымі шырока расстаўленымі вачыма, з упартым носікам з ледзь заўважнымі рабацінкамі, у шэрым шынялі, наскрозь прамоклым, глядзела на гаспадара, як чорная восень. Проста і бязлітасна.

Хаця, уласна кажучы, нічога страшнага ў дзяўчыне не было. Наадварот — калі б ён упершыню сустрэў яе на танцпляцоўцы, мог бы запрасіць на вальс. Гэтай крамянай дзяўчыне хацелася даць у рукі серп (альбо, з увагі на жаночае раўнапраўе, молат) і сфатаграфаваць для першамайскага плаката. Каб не струмені вады, якія жаласна сцякалі са светлых кос, і не застылы выраз круглага аблічча.

Але Хведар аддаў бы ўсё на свеце, каб болей ніколі не бачыць гэтых блакітных вачэй. Мімаволі ўскалыхнуўся тужлівы спалох: няўжо яшчэ не ўсё? Ён болей не можа... Не хоча... Звярыны, ганебны

пострах... Хведар здушыў яго. Як там казала бабуля... Нікому не будзе дадзены крыж цяжэйшы за той, які ён можа панесці.

Госця холадна прамовіла:

— Дазвольце ўвайсці, таварыш Сапяжынскі.

Вось як, «таварыш»... Можа, не так усё дрэнна? Дадаў у голас воцату і жоўці:

— Як я магу вам адмовіць, таварыш Рабко...

Хведар адступіў у пакой, позірк ягоны мімаволі слізгануў у дождж і цемру — колькі прывідаў з нядаўняга мінулага яшчэ выплывуць?

Дзяўчына заўважыла позірк гаспадара:

— Я прыйшла адна.

Гаспадар пастараўся не паказаць здзіўлення і палёгкі. Ён прычыніў дзверы, намагаючыся нават выпадкова не дакрануцца да постаці ў мокрым шынялі... Бо было дурное адчуванне — ад гэтага дотыку званітуе, як нервовую паненку ад дотыку да старой грыбастай рапухі.

Дождж, ноч і восень чакалі за дзвярыма. Смерць пазірала блакітнымі, шырока расстаўленымі камсамольскімі вачыма.

— Я адна. Я прыйшла без зброі. І... ніхто не ведае, што я ў вас. І... вось...

Яна працягнула спісаны круглым школьным почыркам аркушык.

Хведар моўчкі ўзяў:

«Я, Валянціна Рабко, сыходжу з жыцця па ўласнай волі. Прашу нікога не вініць у маёй...»

Што за блёкат?!! Хведар разгублена падняў вочы на госцю. Тая глядзела некуды за ягонае плячо, у нежылую цішу выстылай хаты.

— Пасля таго, што я... з вамі рабіла... Я...— выдыхнула, нібы даючы нырца ў халодную ваду.— Карацей, я зраблю ўсё, што вы хочаце.

І глядзіць, ледзь не з выклікам.

Вось як... Хведар не ведаў, ці смяяцца яму, ці плакаць. Павятовыя паненкі не змяніліся за апошнія дзесяць стагоддзяў. Хаця ім уручылі па камсамольскім білеце, навучылі прыёмам самба і прэзентавалі наганы. Сумленне маладога спецыяліста КДБ замучыла. Дзівосы. І што, ён, Хведар, павінен гэтае ейнае хворае сумленне лекаваць? Чым? Загадаць павесіцца? Ці ўласнаручна прыдушыць?

Сапраўды, цягам бясконцых дзесяці дзён марыў пра гэта, лічы, штохвілі.

...Пасля двух гадоў у пераможанай Германіі (служыў у вайсковай частцы ў Патсдаме) ён атрымаў накіраванне ў Вялікія Лукі, у артылерыйскую брыгаду. Марыў дэмабілізавацца — урэшце два гады як скончылася вайна. Вярнуцца ва ўніверсітэт, узяцца за дысертацыю, заглыбіцца ва ўлюбёныя лічбы-формулы... У штабе велікалуцкай брыгады апынуўся былы аднапалчанін, скандаліст, але добры мужык, таму мелася ўпэўненасць, што паспрыяе. А пакуль выпрасіў у яго авансам незаконную паслугу — затрымацца на колькі дзён, каб заехаць у родную хату. Бабуля паўгода як памерла, дачакаўшыся Перамогі, але не дачакаўшыся яго, унука. Хаця яму так неабходна было нешта паспець сказаць ёй... Маці загінула яшчэ ў вайну — патрапіла пад бамбёжку, калі вярталася з барахолкі, дзе выменьвала нейкія транты на ежу.

Так што ён ехаў на радзіму, шчаслівчык, абранец лёсу, і яго ніхто не чакаў. Рукі-ногі цэлыя, на грудзях — тры медалі і ордэн, на пагонах новенькія капітанскія зорачкі...

Калі да роднага горада заставалася ехаць гадзінаў пяць, цягнік спыніўся на станцыі абласнога цэнтра, і пайшла пагалоска, што прастаяць тут не менш гадзіны. Людзі абурана загулі. Хтосьці працягваў драмаць, некаторыя пацягнуліся на спакусныя агні станцыі. І ён таксама...

Гэтыя хвілі ён пракручваў у памяці бясконца. Вось буфетчыца ў накрухмаленай белай шапачцы, і нібыта прыклеены да лба каштанавы кудзерчык, працявае шклянку з гарбатай, усміхаецца. Вось ён стаіць адзін ля маленькага століка — драўляны грыбок на тонкай-тонкай ножцы... Непадалёк, за такім жа «грыбком», сямейная пара — маладыя, ён у ватоўцы, яна — у выцертым паліто і белым платочку. Дзіўны стары ў шапцы-аблавушцы, аблезлай так, што немагчыма вызначыць, са скуры якога звера яна была выраблена, у гэткім жа аблезлым футры, з торбачкай у руках, са страшэнна худым тварам, зрэзаным глыбокімі зморшчынамі і зарослым чорна-сівым шчаціннем, ходзіць між столікаў, нічога не просячы, але, вядома, яму даюць — хто сухар, хто — вараную бульбіну. Позірк светлых, як рачныя каменьчыкі, вачэй старога не мог і на імгненне запыніцца ні на чым — гэтак пераступаюць босымі нагамі па гарачым вуголлі, дзе кожнае прамаруджванне адгукнецца болем.

Раптам вочы старога ўтаропіліся ў Хведара — нібыта наторкнуліся на нешта вострае. На дне іх ускалыхнуўся вар'яцкі жах, стары выгнуўся, як ад болю, і загарлаў:

— Гэта ты! Ты страляў! Я пазнаў цябе, фашысцкі гад! Ты!

Далейшае нагадвала дурны сон.

Вар'яту верылі. Яму, Хведару — не. Вар'ят быў свой, ён застаўся апошнім сведкам страшнага расстрэлу, пасля чаго і паехаў у небаракі дах. Народ усё яшчэ хварэў вайной, часам здавалася, што людзей на мыліцах, на вазочках — дошка на калёсіках, на вуліцах гарадоў болей, чым здаровых. Паўсюль лавілі шпіёнаў, паліцаяў, замаскаваных фашысцкіх недабіткаў. А ў Хведара аказаўся нямецкі гадзіннік, прыгожы скураны нататнічак з нямецкімі словамі, выціснутымі на вокладцы, а ў нататнічку — формулы, лічбачкі... І яшчэ — патрапаная кніжка кішэннага фармату на нямецкай мове. Мэры Шэлі, «Франкенштэйн».

І па дакументах выходзіла, што зараз ён мусіць быць не тут, на гэтай чыгуначнай станцыі, а ў вайсковай частцы Вялікіх Лук.

Усё давяршыла тэлефанаванне ў Вялікія Лукі. На пытанне, ці прыбыў на месца службы капітан Фёдар Станіслававіч Сапяжынскі, бадзёры голас адказаў, што няхай пільнае начальства не хвалюецца залішне, бо франтавікі ў адрозненне ад тылавых пацукоў ніколі не позняцца. Аднапалчанін, як абяцаў, «адмазваў», нахабна (і звыкла) парушаючы вайсковы статут дзеля франтавога братэрства...

Для Хведара гэтае сяброўскае геройства азначала прысуд.

Ён мог зразумець сілу нянавісці месцічаў. У ім ужо многія «пазнавалі» забойцу свайго бацькі, ката сястры, згубцу дзяцей... Інстынктыўная патрэба — убачыць вінаватага ў тым, што абрушылася тваё жыццё, і хай ён сплоціць...

Чамусьці ярчэй за ўсё запомнілася, як з яго здзіралі медалі...

Вядома, ён ведаў, што памылка рана ці позна высветліцца.

Але вельмі хутка пачало здавацца, што гэта назаўсёды, і надзеі няма. Так, ён спрабаваў быць спакойным, і тлумачыць, і ставіў сябе на іх месца — сам жа, калі трэба было, выстраліў здрадніку ў патыліцу, не вагаючыся, і ніякага шкадавання не меў да маладзенькага бялявага хлапца, лічы, падлетка. Нібыта той і чалавекам перастаў быць пасля таго, як, узняўшы рукі і нягегла прыгнуўшыся, рушыў у бок немцаў, усхліпваючы, молячы, благаючы...

А потым з'явілася яна, штодзень (ці штоночы?) на колькі гадзінаў падмяняючы спрактыкаваных барацьбітоў са шпіянажам. Як ён зразумеў, даверылі «збіваць з яго фанабэрыю» таварышу Валянціне менавіта таму, што палічылі, гэта асабліва крыўдна — дарослы дужы мужык цалкам ва ўладзе сцервознай дзеўкі. Толькі-толькі скончыла

курсы, амбіцыйная, страшэнна перажывае, што не паспела паваяваць на фронце...

Сваё першае заданне таварыш Рабко выконвала са стаханаўскім імпэтам.

Хведара зноў тузанула ад успамінаў.

А цяпер яна стаіць перад ім, і кажа, што выканае ўсё...

Хведар сціснуў сківіцы, памаўчаў. І прагаварыў халодна:

— Ну давай распранайся.

Госця, не змяніўшыся ў твары, расшпіліла гузікі мокрага шыняля, ледзь не абламаўшы караткаватыя моцныя пальцы. Пашукала, куды пакласці шынель... Зірнула на нерухомага гаспадара... кінула на падлогу. Узялася расшпільваць кофтачку, на хвілю замарудзілася:

— Толькі... Я мала што ўмею. Ну... Такога...

Хведар ледзь не застагнаў ад агіды — да яе, да сябе, да сітуацыі.

— Адставіць! Ідыётка!

Ад яго рэву яна ледзь не павалілася. Вочы — аж круглыя ад спалоху.

Што ж, яму трэба было перакрыкваць гарматы, калі камандаваў гарматным разлікам.

— Зашпіліцеся, мадам.

На яе шчоках запунсавелі плямы. Як у гераіні першамайскага плаката. Мёртвае паветра хаты, здавалася, згушчаецца, як перад навальніцай. Хведар цадзіў скрозь зубы:

— Значыць, хочаш, каб я з табой штосьці ўтварыў — на знак прабачэння? Дык што з табой зрабіць — згвалціць? Набіць пысу? Паставіць на калені гадзінак на дзесяць? Ці прыстрэліць? Га?

Валянціна зглытнула, утаропіўшыся ў падлогу з пісягамі няўмела вымытага бруду.

— Што, цяжка адчуваць сябе навалаччу?

Яна прыкусіла губу.

Хведар жорстка працягваў:

— Я не дам табе палёгкі, выявіўшыся навалаччу сам.

— І... як мне далей... жыць з гэтым?

І глядзіць яснымі блакітнымі вачыма. Хто ведаў, што ў паненкі такая тонкасць пачуццяў.

— Як жыць? — Хведар пасміхнуўся.— А як жывуць твае старэйшыя калегі, якія мяне дапытвалі? Чамусьці лейтэнант Кравец альбо маёр Тусклы не прыехалі да мяне з просьбай набіць ім пысы.

Спяць па начах спакойна. Што яны табе сказалі? Што вы ўсе проста выконвалі сваю працу, так?

— Так...— Валянціна круціла гузік на кофтачцы, нібыта гэты касцяны кругляшок смяротна правінаваціўся перад ёю.— Сказалі, што лепей, калі пацерпяць дзесяць невінаватых, чым прапусціць аднаго сапраўднага дыверсанта ці здрадніка.

— А ты, значыць, так не лічыш? Ці верыш, што да мяне не арыштавалі ніводнага невіноўнага? І што я — апошні, каго забралі памылкова?

Таварыш Рабко стаяла, унурыўшыся.

— Не ведаю...

Вецер за вокнамі зноў пачаў шалець, кідацца ў вокны, быццам галодны птах. Людзі таксама ў пошуках ратунку лятуць на святло прыгожай ідэі, і не разумеюць, што за нябачная сцяна раптам вырастае перад іх шчырым парывам, чаму аб яе ў кроў разбіваюцца іхнія лёсы.

Зямля пад сценамі кожнай утопіі ўсыпана пер'ямі і заліта крывёй. А ў цёплай хаце, ля агменю цешацца сваёй справядлівасцю выбраныя... Якім не дадзена шкадаваць тых, што сляпа б'юцца ў вокны.

Дзяўчына пераступіла з нагі на нагу, Хведар зразумеў, як яна стамілася. Што ж... Трэба завяршаць размову. Запрашаць прысесці неяк не хацелася. Вось жа не пашанцавала дзеўцы — першае заданне, і трапіла на памылкова арыштаванага героя вайны.

— Спадзяюся, вы зразумелі, што мне ад вас нічога не трэба?

Валянціна прыгладзіла мокрыя косы. Словы застравалі ў яе горле. Нарэшце яна прамовіла:

— Мне... мне... страшна сябе самой. Гэта аказалася так... проста. Рабіць іншаму балюча. Прыніжаць.

— Вам яшчэ неаднойчы давядзецца гэта рабіць,— абыякава прамовіў Хведар.— Гэта, прабачце, праца, якую вы абралі. Не адчуваеце ў сабе дастаткова моцы — сыходзьце.

Дзяўчына ўпарта затрэсла галавой:

— Я ворагаў ненавіджу. Фашыстаў шкадаваць не збіраюся.

Хведар глядзеў у правы дальні кут, туды, дзе яшчэ на яго памяці калісьці вісеў абраз, і яму, зусім маленькаму, бабуля тлумачыла: «Гэта Божанька, Хведзечка. Ён добры, ён усіх прабачае».

— Я нарадзіўся ў год рэвалюцыі,— павольна прамовіў Хведар, адчуваючы, як прагна Валянціна ловіць ягоныя словы — першыя без здзеку і гневу.— Я вельмі ганарыўся тым, што я равеснік Вялікага

Кастрычніка. Калі мне было шаснаццаць, нам у піянерскім атрадзе распавялі пра Паўліка Марозава, замардаванага кулакамі. Мы ўсе захацелі таксама ўчыніць нешта гераічнае, стаць падобнымі да Паўліка. На наступны дзень кожны павінен быў на агульным сходзе выкрыць якія-небудзь правіны перад савецкай уладай сваякоў альбо суседзяў, асабліва калі хто з іх хавае ў хаце абразы, ці іншыя прадметы культу, ці антысавецкую літаратуру альбо зброю. Я рыхтаваўся, аж на месцы падскокваў ад нецярпення. І калі надышла мая чарга, спяшаючыся, паведаміў, што на гарышчы нашага дому стаяць вялікія куфры, у адным старая адзежа, а ў другім бабуля хавае падазроныя паперы, напісаныя на замежнай мове. Я неяк туды крадма лазіў, бачыў...

Мяне пахвалілі. Таварыш у ваеннай форме доўга трос руку і казаў пра піянерскую сумленнасць... Я быў шчаслівы. А ўвечары таго ж дня ў нас пачаўся ператрус.

Куфар з паперамі звалаклі ўніз. Пажаўцелыя аркушы, спісаныя няроўным почыркам. Калі скласці ў адзін стос, былі б, напэўна, вышынёй з мяне.

— Польскія дакуменцікі! — задаволена абвесціў адзін з тых, хто рабіў вобыск.

Бабуля голасам, якога я ў яе ніколі не чуў, пачала тлумачыць, што гэта напісана не па-польску, а па-беларуску, што гэта архіў яе мужа, майго дзеда. Беларуская мова была забароненая, і таму пісалі лацінскімі літарамі і не мелі магчымасці друкаваць. А дзед быў хаця і дужа веруючы, але змагар за народную волю, яго саслалі ў Сібір, дзе ён і памёр, а маёнтак канфіскавалі, і яны з маленькай дачкой, маёй маці, пераехалі сюды, у горад, у маленькую хату... І паперы маюць вялікую каштоўнасць для Беларусі... І... калі іх зараз забяруць, гэта будзе для яе ўсё роўна, што другі раз забіраюць яе мужа...

І бабуля пачала душыцца слязьмі. Гэта трохі зменшыла маю ганарлівую радасць — бо я ні разу не бачыў, каб бабуля плакала.

Таварыш, які кіраваў вобыскам, пагартаў паперы і сказаў, што яны ўсе — на рэлігійную тэматыку. Усе прапагандуюць хрысціянскія перажыткі. А калі ў майго дзеда быў маёнтак, значыць, ён прадстаўнік эксплуататарскага класа. І нічога каштоўнага ў гэтых спарахнелых стосах быць не можа.

Паперы звезлі, і мы пра іх больш ніколі нічога не чулі. А бабуля больш ніколі са мной не размаўляла. Яна... прынцыповая была. Неяк я разгаварыўся з калегам па ўніверсітэце, з філфаку... Той,

даведаўшыся гісторыю пра зніклыя паперы, ледзь сівыя валасы на сабе не рваў. Такія каштоўныя гістарычныя дакументы зніклі.

І я, толькі пасталеўшы, зразумеў, што зрабіў. Але ўжо няма ў каго прасіць прабачэння.

Валянціна неўразумела глядзела на гаспадара.

— Але... вы ж проста выконвалі свой доўг. Вы зрабілі правільна.

Хведар горка пасміхнуўся:

— У такім выпадку і ты ўсё рабіла правільна. Фашысты таксама былі перакананыя, што ўсё робяць правільна. Што нас можна знішчаць, бо мы не людзі. Я хадзіў па тэрыторыі канцлагера, там, у Нямеччыне... Больш за ўсё мяне ўразіла ведаеш, што? Парадак. Чысціня. Сартаваныя ў асобныя кучы паліто, кофты, абрэзаныя валасы, дзіцячы абутак... Іх уладальнікаў спалілі ў акуратных крэматорыях — строга па спісах. Увечары пасля «экскурсіі» мы змусілі пажылога немца, гаспадара хаты, дзе часова кватаравалі, вычысціць нашы боты. Мы не білі яго, не абражалі, не стралялі над вухам з пісталета, як, напэўна, рабіў ягоны сын на захопленай славянскай зямлі. Проста стаялі моўчкі і глядзелі, як чыстакроўны арыец, завіхаючыся, пацеючы ад страху, начышчае, начышчае, начышчае брудную кірзу.

Хведар рыпнуў зубамі ад раптоўнага прыліву нянавісці:

— І ні ён, ні ягоныя бюргеры-суседзі не жадалі ведаць, што робіцца за ўпрыгожанымі калючым дротам сценамі за пару соцень метраў ад іхніх дамоў. Чалавек вельмі лёгка ператвараецца ў звера. І вельмі лёгка пераконвае сябе, што праўда — на ягоным баку. Вось мая маці... Яна загінула, калі ішла на базар, нешта выменьваць... Гэта значыць жыла пры немцах, нешта спрабавала зарабіць, гандлявала... Што ж яна, здрадніца была? Калі мераць строга — то так... А калі не па-гэбісцку, а па-чалавечы?

Раптам дзяўчына нібыта перамянілася. Падняла з падлогі мокры цяжкі шынель, усцягнула на сябе — без нервовасці, хутка, але ўпэўнена. Зашпілілася, змрочна выпрасталася. Хведар скалануўся... Ён пазнаў ранейшую супрацоўніцу КДБ, без полу і ўзросту — чалавек-функцыя, якая глядзела з грэблівай нянавісцю і чырванела ад насалоды, калі яму рабілася нясцерпна балюча.

— Я сапраўды ўсё рабіла правільна. Засумнявалася, дурніца. А ты... ты параўноўваеш супрацоўнікаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі з фашыстамі?!! А яшчэ франтавік... Панская парода, адно слова!

Яна выхапіла з ягоных рук сваю «перадсмяротную» цыдулку.

— Паслухай, ты няправільна зразумела...

У адказ ляснулі дзверы.

Хведар, зняможаны, апуціўся на венскае крэсла са спінкай у выглядзе драўлянага вензеля, прытуліў забінтаваную руку да грудзей, як дзіцёнка. Нават пачаў гушкаць — каб супакоіць пульсуючы боль. Разбалбатаўся, дурань... Знайшоў каму душу адкрываць. Самота, браце, да дабра не даводзіць... Пашкадаваў гадзюку. На фронце было прасцей... Думка падалася такой крамольнай, што Хведар нават галавой патрос, каб адагнаць гэты блёкат.

За ім прыйшлі назаўтра. На гэты раз памылка выключалася. Ён мусіў адказваць за сябе. Спыталі з яго па поўнай. Не лёс быў трапіць капітану Сапяжынскаму ў Вялікія Лукі. Прынамсі, у бліжэйшыя пятнаццаць гадоў, на якія яго асудзілі. З Валянцінай Рабко ён падчас следства не сустракаўся — толькі пазнаваў у цытатах з даносу яе голас.

...У цягніку Мінск — Масква дружна пазвоньвалі казённыя лыжачкі ў гранёных шклянках з гарбатай. Нехта з нешматлікіх пасажыраў, можа, каб адагнаць тугу, што непазбежна ўзнікае пры поглядзе на восеньскую цемру, што згушчаецца за вокнамі вагона, і прадчуванне бяссоннай ночы, разварочваў хатнія прыпасы — бутэрброды з кілбасой, запечаную курыцу, успетую ў якасці дарожнай ежы яшчэ Ільфам і Пятровым... Ну і тое-сёе, каб не есці сухама...

Немалады каржакаваты пасажыр, які апынуўся адзін у купэ, здавольваўся жытнёвай кавай. Па-першае, натуральнай кавы ў цягніку не аказалася, па-другое, ён не любіў гарбаты. Калі ён памешваў лыжачкай у шклянцы, можна было заўважыць, што на мезенцы няма пазногця. Што ж, па ўзросце пасажыр павінен быў прайсці вайну, таму ніякія шнары і сляды раненняў не здзівілі б назіральнікаў, але мужчына ў купэ знаходзіўся на самоце. Каротка стрыжаныя валасы амаль сівыя, але ад усёй постаці сыходзіць спакойная сіла: моцныя плечы, шырокі ў выліцах твар, пільныя цёмныя вочы. Дужы склад цела было добра відаць таму, што пасажыр павесіў свой пінжак у кут купэ, на драўляныя плечыкі, і застаўся ў шэрай вадалазцы — стыльным тонкім швэдары з каўняром пад горла (такія ў Савецкім Саюзе яшчэ не рабілі). Мужчына адпіў кавы і кінуў сумны позірк на стос тэчак, які ляжаў тут жа, на століку. Ну не было калі як след рыхтавацца да канферэнцыі. Значыць, давядзецца праглядаць цяпер. Зноў не ўдасца выспацца...

У дзверы купэ нехта пастукаў, хутчэй сімвалічна, чым пытаючыся даволу ўвайсці, бо дзверы зараз жа расчыніліся. Праваднiца, таўсманая, уся нібыта вылітая з нейкага цвёрдага матэрыялу, з невыразным пляскатым тварам і светлымі, шырока расстаўленымі і таксама невыразнымі вачыма, гучна спыталася:

— Бялізну браць будзеце?

Адзіны насельнік купэ чамусьці маўчаў, гледзячы на гаспадыню вагона, як спрактыкаваны мастацтвазнаўца на выдатна вядомую яму карціну выбітнога майстра, якую толькі што абвесцілі падробкай.

— Мужчына, не затрымлівайце мяне! Калі будзеце браць, адзін рубель пяцьдзясят капеек.

Пасажыр, страсянуўшы з сябе аслупяненне, пацягнуўся ў кут, да пінжака, дастаў з яго кішэні партманэ.

— А грошы, мужчына, у грамадскіх месцах пры сабе трыймайце. А то знікне якая трасца, на праваднiка адразу насядаюць. Нехта ў іх заўсёды вінаваты...

Звяглівы голас праваднiцы гучэў ужо ў калідоры, было чуваць, як яна стукае ў дзверы наступнага купэ...

Хведар закрыў твар рукамі.

Не пазнала... Ці зрабіла выгляд, што не пазнала? Хіба па ёй зразумееш...

Дый і пра што ім размаўляць? Ці таварыш Рабко зноў захоча пакаяцца перад ім, цяпер ужо за шэсць гадоў лагераў, куды патрапіў пасля яе даносу, у Сібір, як калісьці ягоны дзед? Не, каяцца дама не будзе. Хутчэй, дасюль шкадуе аб сваёй юнацкай часовай слабасці, калі прыехала ў хату былога паддоследнага са смешнай цыдулкай: «Прашу нікога не вініць у маёй смерці», гатовая нават быць забітай, абы пазбавіцца пакутаў сумлення.

А можа, захоча і сёння давесці, што... органы не памыляюцца?

Гідкі халодны пострах заварушыўся пад сэрцам, як смоўж. Вось жа — заўважыла, напэўна, што на ім замежныя рэчы. А падчас апошняй камандзіроўкі ў Браціславу была тая зусім не патрэбная і занадта шчырая размова з суайчыннікам-эмігрантам... І Сапяжынскі, калі пісаў закрытую справаздачу пра іхнюю навуковую групу — а што вы думалі, выпусцiў бы яго хто за мяжу, каб не згадзіўся «адчытацца» перад органамі?— пра ўсіх калег сумленна напісаў, а пра сваю гэтую размову — не. А потым яму перадалі ад таго эмігранта настальгічны падарунак — гатычны раман «Франкенштэйн» у перакладзе на беларускую мову. І ён з радасцю прыняў. А яшчэ ёсць запісаныя па

просьбе сябрука-гісторыка ўспаміны — усё, што ведаў пра дзеда, тэолага і паўстанца. Зусім мала, абрыўкі падслуханых бабуліных размоў, тое, што засталося ў памяці з прагледжаных дзедавых папер — зноў асобныя фразы, назвы твораў... Сябрук сказаў — пакуль, вядома, гэта не пойдзе, але калі-небудзь... Абяцаў нікому не паказваць...

Ёсць і яшчэ грашкі... Зараз данос, няхай ад звычайнай правадніцы — і накрыецца паездка ў Люблін...

Урэшце, для яго ўсё скончылася добра. У лагерах патрапіў у спецыяльнае тэхнічнае бюро — выручылі навуковыя веды, артылерыйскі вопыт і ўдача: якраз тэрмінова спатрэбіўся спецыяліст ягонага профілю. Потым — вызваленне ў пераломным пяцьдзясят трэцім, пасля смерці Сталіна. Рэабілітацыя, універсітэт...

А вось у таварыш Рабко, здаецца, кар'ера не пайшла... А ён думаў, што яна ўжо прынамсі маёр альбо падпалкоўнік.

Цягнік працягваў сваю манатонную песню, ці то жальбу, ці то безнадзейны праклён, нібыта металёвы Франкенштэйн, ажыўлены для рабскай працы. І нікому не было справы да ягоных механічных высілак, да таго, ці правільна б'ецца яго жалезнае сэрца, і да машыніста, які ўглядаецца ў ноч, у якую ляціць нібыта сам па сабе часовы дом для некалькіх соцень людзей, што так лёгка можа стаць іх апошнім домам, ператварыцца ў човен Харона.

...Цягнік па адной выплёўваў заспаныя душы на змрочны, як бераг Леты, перон Беларускага вакзала. Хведар Сапяжынскі, у плашчы, з партфелем, з насунутым нізка на вочы капелюшам прасунуўся міма правадніцы... Але позірк нібыта сам па сабе слізгануў убок. На мезенцы кароткапалай рукі, што трымала чырвоны флажок, не было пазногця.

Калі Хведар, ужо аддаліўшыся ад ярка асветленага вакзала, праходзіў міма сметніцы, то, асцярожліва азірнуўшыся, выкінуў у яе загорнуты ў газету «Правда» патрапаны кішэнны томік з гатычнымі літарамі на вокладцы.

*2008*

## Дыярыуш пані

*Адзінарог*

Перасыпаю хвіліны з далані на даланю. Яны блішчаць і пяшчотна шаргочуць, быццам перліны. У паўпразрыстым цэнтры кожнай — вострая зрэнка вечнасці. Можа быць, гэта сапраўды толькі перліны.

Сёння зноў перад замкам праязджалі *гэтыя*. Нешта крычалі, ці то клікалі з сабою, ці то пагражалі. Страусавыя пёры ківаліся на іх капелюшах бела-ружовымі аблачынкамі, а на скураных пальчатках здалёк паблісквалі жалезныя заклёпкі. Я ніколі не звяртаю ўвагі на тых, хто праязджае паўз парк. Гэта непрыстойна.

Хвіліны ссыпаюцца на аксаміт зусім бязгучна. Але часам яны саслізгваюць з маіх каленяў і б'юць па каменных плітах падлогі звонкім дажджом. Я не люблю дождж. Калі пад маім акном згасаюць апошнія кветкі шыпшыны, дождж пачынае ісці кожны дзень. Праз яго шэры вэлюм праглядаюцца толькі цёмныя абрысы дрэў. Яны роспачна ломяць голле ў лахманах парадзелага лісця, і хістаюцца, і ківаюцца ў вечным маленні жывога аб жыцці. Шыпшына яшчэ не адцвіла.

— Пані, у вашым лесе з'явіўся белы адзінарог.

Чалавек нізка схіліўся перада мной, і я не бачу ягонага твару. Можа, ён і ўсміхаецца — гэтак з'едліва, куточкамі вуснаў, як умеюць усміхацца толькі верныя слугі.

— Ніхто пакуль яго не спалохаў?

— Не, пані. Яго бачылі толькі здаля, каля старой віхлы, па дарозе да возера. Але гэта дакладна адзінарог. Белы, вельмі прыгожы звер.

— Загадай сядлаць майго каня...

— Слухаюся, пані...— І зноў я не паспяваю злавіць выраз яго твару.

Чамусьці я больш уяўляю, якія выразы твараў павінны быць у тых, хто побач са мной, чым сапраўды бачу гэта. Асабліва не люблю зазіраць у чужыя вочы. Мне здаецца, што тыя пляскатыя пачуцці і думкі, якія я там магу прачытаць, пяройдуць да мяне і прыліпнуць да маёй кволай душы, так што забудуся, якая я — на самай справе, дзе — маё адчуванне, а дзе — чужое.

Падымаюся з фатэля, і перліны ссыпаюцца з маіх каленяў на камень. Адна з іх коціцца доўга-доўга, я чую яе, аж пакуль не выходжу з залы.

Адзінарог сапраўды ля старой віхлы. Ён белы, як туман. Нагадвае невялікага каня з недарэчна кароткімі нагамі. Вочы ў яго вялізныя, чорныя і вільготныя, а рог над імі выглядае зусім не пагрозна. На яго наліплі травінкі.

Я гладжу адзінарога па схіленай шыі, і ён пакорліва ківае галавой. Дрэвы паціху шумяць, поўныя жыцця і лістоты.

— Ідзі адсюль,— ціха кажу я адзінарогу.— Я не магу ўзяць цябе ў свой замак. Разумееш, там — людзі. Ім уласціва глядзець міма вачэй і ўпотай усміхацца. І тут ты не можаш застацца. Сюды рана ці позна прыедуць *тыя*. І я не абараню цябе. Я нават не заўважу, калі яны цябе пакрыўдзяць. Гэта было б непрыстойна, прабач.

Адзінарог нібыта разумее мяне, ён няўклюдна паварочваецца і бяжыць у гушчар, і я заўважаю, што на дрэвах ужо ёсць першае ссохлае лісце — адзінарог абтрасае яго з галін.

Мае перліны, сабраныя нечымі руплівымі рукамі, ляжаць у адчыненым куфэрку. Я не буду пералічваць, ці ўсе яны на месцы.

— Пані бачыла адзінарога?

Цяпер я, здаецца, паспяваю злавіць выраз яго твару. Чамусьці дакорлівы.

— Пані пакінула яго ў лесе?

Хіба я павінна апраўдвацца перад кімсьці? Ён разумее, што я абураная, і з нізкім паклонам выходзіць. Але я ніколі не выкажу свайго абурэння. Гэта непрыстойна.

Паўз замак зноў праязджалі гэтыя. Я сядзела перад акном, хвіліны з сухім шоргатам перасыпаліся з далані на даланю і былі халодныя, як кавалачкі лёду. Гэтыя праехалі асабліва блізка, ледзь не зачапілі кусты шыпшыны, з рогатам махалі мне і клікалі некуды — ці проста пасміхаліся. Конь першага з іх быў пакрыты белай, як туман, скурай...

А шыпшына амаль адцвіла... Трэба сказаць, каб з каморы прынеслі зялёны кілім. Калі перліны падаюць на яго, іх вельмі цяжка адшукваць у бухматай поўсці, прапахлай стогадовым пылам. Затое не чуваць, як разбіваецца мой час аб халодны камень.

### *Вядзьмарка*

Сёння забаўлялася са срэбнай сальнічкай працы Бенвенута Чэліні. Цудоўная рэч у выглядзе ракавінкі, якую абшчаперыў маленькі хлопчык. Ракавінка прыўкрашаная буйнымі перлінамі, быццам пырскамі марской вады. Калі націснуць на сярэднюю перліну, створкі ракавіны прыадчыняюць хвалістыя краі — ледзь-ледзь, каб між

вытанчанымі зубчыкамі маглі прасыпацца крупінкі солі. Калі ж націснуць на перліну тры разы запар, ракавінка адчыняецца ўся, і можна насыпаць туды соль. Але ніхто за апошнія сто гадоў не насыпаў солі ў гэтую прыгожанькую забаўку — яе проста прыемна трымаць у руках, глядзець на яе. Шалёны Бенвенута заўсёды пераўзыходзіў сам сябе, калі рабіў такія рэчы,— у падарунак асобам, якіх моцна пакрыўдзіў. За кожным яго грэхам ці прамым злачынствам узнікаў ювелірны шэдэўр, якім майстар адкупляўся ад справядлівага гневу і духоўных, і свецкіх улад, і прыватных асоб. Я часта думаю, які менавіта грэх спарадзіў гэтую сальнічку,— яе першай уладальніцай была жанчына. Наўрад ці гэта быў грэх кахання — інакш сальнічкай валодалі б нашчадкі тае італьянскай арыстакраткі, а не я.

— Пані, на ваш літасцівы суд прывялі вядзьмарку.

І зноў я не паспяваю злавіць выраз твару чалавека, які звяртаецца да мяне. Бачу толькі нізка нахіленую спіну.

Вядзьмарку прывезлі гэтыя. Яны не насмеліліся зайсці ў замак, але я чую іхнія непрыстойна вясёлыя галасы і смех пад сваім акном. Нехта з іх пачынае нават насвістваць нейкую валацужную песеньку. Гэта занадта! Пастараюся разабрацца са справаю хутчэй.

Вядзьмарка стаіць сярод залы на маім зялёным кіліме. Яе босыя ногі па шчыкалацць патанаюць у ваўнянай пыльнай траве. Вядзьмарка адразу падалася мне падлеткам. Але я прыгледзелася і зразумела, што памылілася. Гэта дарослая жанчына прыблізна маіх гадоў, толькі невысокая і худая. Яна глядзела на мяне спадылба вузкімі зялёнымі вачыма. Я зразумела, што яе пагляд скіраваны на мае пальцы, якія націскаюць на перліны срэбнай сальнічкі, то адчыняючы, то зачыняючы яе ракавінку. Мне зрабілася непрыемна. Я паставіла забаўку на столік і строга сашчапіла рукі на каленях. Увесь гэты час нехта ледзь не плаксівым голасам расказваў пра злачынствы маленькай жанчыны, што стаіць перада мной. Не памятаю дакладна, здаецца, мясцовыя сяляне вінавацілі яе ў тым, што яна ўмела лётаць, выклікала вецер і дождж і выпівала чужое жыццё. Раптам я ўсвядоміла, што вядзьмарка настойліва зазірае мне ў вочы. Мяне перасмыкнула, быццам давялося пераступіць цераз жабу. Я моўчкі глядзела на свае сашчэпленыя рукі і старалася думаць пра тое, якія ў мяне прыгожыя тонкія пальцы, як неверагодна пяшчотна прасвечваюць скрозь бледную скуру блакітныя жылкі. Я сціснула

пальцы трохі мацней, і жылкі набраклі, выступілі над паверхняй скуры. Не, здаецца, гэтак непрыстойна...

Я падымаю правую руку ўверх, затым рэзка апускаю яе, нібыта хачу забіць нешта дробнае. Плаксівы голас змаўкае, вядзьмарку выводзяць з залы. Кілім паглынае гукі крокаў.

Цікава, у мяне таксама вузкія зялёныя вочы. Я бяру са століка сальнічку і спрабую ў бліскучай срэбнай паверхні разгледзець свой адбітак. Сустракаю позірк вядзьмаркі і зноў стаўлю сальнічку на столік. Пад акном загалёкалі тыя. Хутка тупат іх коней змоўк. Вядзьмарку яны, канешне, забралі з сабой. Але што яны з ёй могуць зрабіць, вясёлыя, злыя, бездапаможныя, і што яна захоча зрабіць з імі, тая, што выпівае жыцці?

У зале нікога няма, і я яшчэ раз паўтараю свой велічны жэст: рука — уверх і рэзка ўніз, як быццам у гэтым руху ёсць нейкі сэнс і непазбежнасць.

Хто ведае, можа, і ёсць.

— Можа, пані жадае запаліць у зале свечкі?

Сапраўды, ужо сцямнела. На століку з’яўляецца падсвечнік з чатырма жоўтымі свечкамі. Яны разганяюць куточак цемры вакол мяне. Павольна падношу далонь да аранжавага, з сінім пасачкам унутры агеньчыка. Балюча. Але я не адразу прымаю руку. Цяпер на ёй доўга застанецца пацалунак агню.

За акном таксама цёмна, але недзе далёка з боку вёскі бачыцца цьмянае святло, нібыта запалілі вялізную свечку.

У кожнай перліне сальнічкі гарыць маленькі жоўты агеньчык і хаваецца пагляд вузкага зялёнага вока.

Бадай што, я насыплю ў гэтую штуковіну солі.

*Баль*

Калі маё акно завешваюць шэрым вэлюмам дажджы, я ведаю, што хутка адбудзецца баль. Кожны год, у адзін і той жа дзень, заўсёды сумны і дажджлівы. У вялікую залу ўносяцца пазалочаныя кандэлябры, каб святло разлівалася ў кожным куце. Мяне апранаюць у сукенку з такой шчыльнай, пругкай тканіны, што калі я саджуся, тканіна згінаецца з лёгкім трэскам, нібыта ламаецца. Затое трымаешся ў такім строі незвычайна прама і годна. Гэта кампенсуе некаторыя нязручнасці.

Госці кожны год таксама адны і тыя ж. Іх няшмат, але ніхто ні разу не прапусціў дзень балю. Да таго ж далучаць да свайго кола новых людзей непрыстойна.

Абавязкова прыедзе Мадам. Мне не вельмі падабаецца яе манера звяртацца да мяне, як да маленькай дзяўчынкі. Яна лічыць, што можа даваць мне парады, і робіць гэта з задавальненнем. На жаль, я не магу перапыняць яе і вымушана адказваць: «Так, Мадам... Дзякую за клопат, Мадам». Хаця калі б я мела такія тоўстыя пальцы з кароткімі тупымі пазногцямі, пукатыя травяністыя вочы і заўсёды безгустоўна падабранае яркае адзенне, я сядзела б ціхенька і слухала іншых. Але Мадам ніколі нікога не слухае. Нават Доктара. Зразумела, ён не просты кровапушчальнік. Іначай ніколі не трапіў бы ў наша кола. Ён нават з выгляду высакародны і вытанчаны. Яго вусны строга падціснутыя, а пагляд вачэй балотнага колеру востры, як ланцэт. Доктар гаворыць рэдка, але кожнае яго слова — як удар залатога дынарыя аб каменны стол. Я не заўсёды разумею яго словы, але хутчэй памру, чым прызнаюся ў гэтым. Калі Доктар гаворыць, ён ніколі ні на каго не глядзіць, нібыта лічыць роўным сабе суразмоўцам толькі сябе самога. Але мне здаецца, што ён звяртаецца менавіта да мяне, што ўва мне ён угледзеў востры нежаноцкі розум, і мне калісьці перадасць асновы сваёй таемнай навукі. У што апрануты Доктар, я нават не магу ўспомніць. Ён заўсёды ў нечым цёмным.

Зразумела, прыедзе і Кузіна. Яна сапраўдная дурніца. Шараговая прыгожанькая ідыётка з вялізнымі смарагдавымі вачыма і маленькім ружовым ратком. Кузіна мяне абагаўляе. Вось ужо ў чыёй любові не адчуваю патрэбы. Яна б вельмі хацела са мной паразмаўляць, вось толькі, небарака, не ведае, пра што. Лупіцца на мяне сваімі смарагдавымі вачыма, міла ўсміхаецца, часам вымаўляе птушыным галаскам нейкія банальнасці. Яе асоба не цікавіць нікога, акрамя Блазна і Брэцёра. Гэта я прыдумала ім такія мянушкі. Блазан і Брэцёр — два браты. Блазан, нязграбны і кірпаносы, перапоўнены нейкай шчанюковай верай у добраўпарадкаванасць свету і богападобнасць яго насельнікаў. Ён страшэнна хоча быць усім карысным, усім падняць настрой, зазірае кожнаму ў вочы, без канца жартуе — вельмі тупа, дарэчы,— і, здаецца, ад замілавання круціць нябачным хвастом. Кузіне ён падабаецца, бо яго жарты ёй зразумелыя. Але хаця Блазан траціць найбольш свае досціпы перад Кузінаю, я ведаю, што яго ўвага скіравана ў іншы бок, і каб я хоць раз усміхнулася ў адказ на яго

намаганні, ён, мабыць, памёр бы ад шчасця на месцы, як згублены сабака, якога нарэшце прылашчыла рука доўгачаканага гаспадара.

Брэцёр — поўная супрацьлегласць брату. Яго цёмна-зялёныя вочы заўсёды насмешна прыжмураны, чорныя валасы зачасаны назад гладка-гладка, ад гэтага твар набывае проста разбойніцкі выраз. Брэцёр падмячае кожнае недарэчна сказанае іншым слова, у адказ на любую фразу ў яго загатоўлена з'едлівая рэпліка. Найвялікшая насалода для Брэцёра — вывесці субяседніка з раўнавагі, выклікаць раптоўную нянавісць да сваё персоны, і ў крытычны момант зрабіцца мілым нявінным прасцячком — а чаго вы раптам гэтак раззлаваліся, панства? Адзіныя, каго Брэцёр не здольны зачапіць, гэта Блазан — той проста не заўважае крыўднага, лічыць, што брат ласкава апякуецца ім,— і Кузіна. Нягледзячы на ўвесь знешні цынізм Брэцёра, нельга не заўважыць, што ён закаханы ў гэтую дурніцу, выбачайце за каламбур, як апошні дурань. Але яна, як і належыць асобе з яе разумовымі здольнасцямі, анічога не заўважае і баіцца Брэцёра, як звяглівага сабакі.

Яны з'едуцца ў адзін час, хвіліна ў хвіліну. Я нават ведаю, якія размовы будуць весціся за доўгім сталом. І ведаю, што нехта абавязкова скажа паўшэптам: «Панове, а ці чулі, што *гэтыя* зноў пад'язджаюць зусім блізка…»

Размова на хвілю сцішыцца, а пасля ўсе пачнуць расказваць, хто што пачуў апошнім часам пра *гэтых*. Такія размовы непрыемна хвалююць мяне. Гэта непрыстойна.

Раз'едуцца ўсе таксама ў адзін час, дождж паглыне цьмяныя сілуэты іх экіпажаў, у расчыненыя вокны ўварвецца восеньская раніца і выветрыць рэшткі няшчырых усмешак, гучных слоў і зласлівага шэпту. І раптам падасца, што нікога тут і не было.

Я не ведаю, для чаго кожны год учыняецца гэты баль. Не думаю, што камусьці ён прыносіць асалоду. На ім не гучыць музыка, не рыхтуюцца дзівосныя стравы. Па праўдзе кажучы, нават не памятаю, з чаго складаецца ўрачысты пачастунак. Бо калі ёсць стол, павінен быць і пачастунак. Але я ніколі нічога за гэтым сталом не ем.

Пасля балю з падсвечнікаў дастаюць недагарэлыя свечкі, старанна саскрабаюць воск з пазалочанай бронзы і падлогі і ўсё гэта зляпліваюць у вялікі васковы брудны шар, каб скарыстаць для нейкіх гаспадарчых патрэб.

Хутка будзе баль.

*Пошасць*

Увесь замак прапах гаркавым пахам зёлак. Іх паляць у маленькіх свяцільніках, жмутамі кідаюць у каміны, падвешваюць снапкамі пад столлю. Кабеты носяць на грудзях паркалёвыя мяшэчкі, напханыя тымі ж зёлкамі. Часам разам з зёлкамі ў мяшэчкі кладуцца свяшчэнныя рэліквіі — частачкі мошчаў якогась Божага Угодніка, трэсачкі ад Крыжа Господняга ці пёрка Святога Духу. Але я заўважаю, што адчай прымушае людзей шанаваць зусім іншыя прадметы, і нярэдка побач з кіпарысавым крыжам і мяшэчкам з зёлкамі на грудзях прыгожанькай маладзіцы можна пабачыць высушаную лапку жабы ці кажана ці яшчэ нешта падазронае, цёмнае, зморшчанае, падобнае на сухі грыб.

Я, акрамя Святога Крыжа, не надзяваю нічога, нават упрыгожанняў. Падчас пошасці гэта непрыстойна.

Звычайна пошасць прыходзіць летам, калі ад балот падымаюцца атрутныя выпарэнні, ці ўвосень, калі халодныя дажджы ператвараюць глебу ў суцэльную смярдзючую калатушу. Цяпер зіма. Людзі кажуць, вельмі кепска, калі пошасць прыходзіць гэткаю парою. Значыць, яна такая моцная, што не баіцца самых лютых маразоў.

Напэўна, вельмі цяжка паміраць пад скавытанне завірухі, у задушлівай хаце, а потым нехта мусіць дзяўбці каменную прамерзлую зямлю, каб схаваць у яе тваё адубянелае цела, і не станецца ў яго сілы на добрае слова аб няўчасным нябожчыку.

Праўда, падчас пошасці людзі вяртаюцца да паганскіх звычаяў, сцягваюць сваіх памерлых у кучу і спальваюць. Я бачу праз акно далёкі дым ад гэтых пачварных вогнішчаў.

Я не баюся пошасці. Я добра ведаю яе. Яна не злосная, толькі вельмі галодная. Цяжка кагосьці вінаваціць за тое, што ён спатольвае свой голад. Чалавек, які растаптаў мурашнік, вінаваты нашмат больш. Калі б пошасць мела такую прагу разбурэння і неміласэрнасць, як чалавек, яна даўно знішчыла б апошняга прадстаўніка людскога роду.

Але пошасць заўсёды канчаецца. І апусцелыя мястэчкі і вёскі зноў напаўняюцца вясёлымі і звяглівымі галасамі.

Добра ўжо тое, што падчас пошасці ніколі не прыязджаюць *гэтыя*. Наўрад ці яны баяцца. Мусіць, ім проста робіцца тут сумна.

Час ад часу з боку вёскі далятае жалобны гук званоў. Ім адклікаецца ўрачыстым басам звон нашага замкавага храма. Ад яго

голасу дробна дрыжаць крышталёвыя кубкі і звініць пакладзены на край талеркі нож.

Я кладу на сябе знак крыжа. Дзве кабеты, што стаяць за маёй спінай, робяць тое самае. Пасля адна з іх падыходзіць да каміна і сыпле ў агонь прыгаршчы зёлак. З'едлівы пах расцякаецца па пакоі. Звон усё б'е, недзе падгалошвае яму звон на вясковай званіцы, і не чуваць ні людскога голасу, ні плачу.

Са стала прыбіраюць посуд, і я застаюся адна. У маіх пальцах — сухая кветка. Яна ўпала са снапка, падвешанага пад столлю. Напэўна, калісьці яе пялёсткі былі сінія. Зараз яны бледныя, як папера, толькі на самых кончыках захаваўся бляклы сіні колер. Кветка лёгкая і цвёрдая. Я сціскаю яе ў пальцах, але яна чамусьці не крышыцца. Толькі пераломваецца напалам тонкае сцябло. Я адчуваю, што пакалола пальцы, і кідаю кветку на падлогу. Мёртвае заўсёды варожае жывому. Нават калі гэта кветка. Няўжо людзі думаюць, што забітыя імі ж расліны будуць ратаваць сваіх забойцаў?

Званы сціхаюць. Чуваць спеў завірухі. Ён то ўздымаецца да непрыемнага скавытання, то амаль сціхае, быццам нехта ходзіць пад вокнамі замка і не наважваецца пастукаць. Але сцішылася. Снегавая мітульга асела на зямлю, і чорны аксаміт неба працялі вострыя зрэнкі зор. Гэта добра, што зоры глядзяць на зямлю. Няхай іхні пагляд халодны да болю, гэта ўсё-ткі вочы анёлаў. І я ведаю, што хутка пошасць спатоліць свой голад і засне. На нейкі, не тут вызначаны, час. Загалёкаюць на лясных дарогах дзікія паляўнічыя, і з-пад капытоў іхніх коней будуць уздымацца снежныя фантаны. Вандроўныя музыкі зноў будуць прасіцца у замак — павесяліць пані і адагрэцца, ад'есціся пасля зімовай дарогі (на жаль, лепшыя з іх зімой не вандруюць — ім ахвотна даюць прытулак да вясны ў любым замку, з увагі на доўгую чараду цёмных вечароў, да якіх так пасуюць старажытныя балады).

Зёлкі дагараюць у каміне, іх колкія сцяблiны курчацца і згінаюцца ў агні. Заўтра загадаю дастаць куфэрак з маімі ўлюбёнымі перлінамі.

*Хрэсьбіны*

Калі блізу дня маіх народзінаў у вёсцы нараджаецца дзяўчынка, мяне просяць быць хроснай маткаю. Я не павінна адмаўляцца. Такі звычай.

Хрышчэнне адбываецца ў замкавым храме. Я прыходжу туды ў белай сукенцы з вялікім карункавым каўнярам, які падымаецца за

маімі плячыма, падобна накрухмаленым крылам. Мне даюць трымаць невялікі паркалёвы скрутак, у якім можна разгледзець толькі маленечкае чырвонае падабенства чалавечага твару. Я трымаю на руках чалавечае дзіця і, як магу, зычу яму ў думках шчасця, прашу ў Госпада, каб надзяліў Ён гэтае сваё стварэнне здольнасцю радавацца прыгажосці свету, уменнем бачыць і смеласцю бараніць гэтую прыгажосць.

Дзяўчынка будзе насіць імя маёй святой заступніцы. У якасці падарунка я надзяваю на хросніцу каралі з перлін. Наўрад ці болей я пабачу гэтае дзіця. Яно вырасце і перажыве не адну пошасць, і не адно дзікае паляванне сарве з вясковай дзяўчынкі вянок. І ўвесь свой век будзе гэтая дзяўчынка, пасля кабета, назапашваць палотны і каралі, словы кахання і зайздросныя позіркі суседак, і ніколі не назапасіць, і калі-небудзь загорне дрыжачымі рукамі сваё нованароджанае дзіця ў беражоны бялюткі павойнік, і вырашыць, што лепей запрасіць хроснай маткай не пані, а суседку, у якой ніколі не здыхаюць свінні. Будзе больш удачы. І пацямнеюць мае перліны разам з дзясяткам срэбных манет у гліняным гаршку, закапаным пад усходнім кутом хаты.

Я перадаю ахрышчанае дзіця на рукі маці. Што я магу змяніць? Толькі дадаць яшчэ адну нізку перлін.

За акном шэрае веснавое неба. Кусты шыпшыны цягнуць да яго аголеныя галіны. Нібыта просяць хутчэй запаліць на іх ружовыя агні, хутчэй вызваліць іх з чорна-белага мёртвага свету. Звон на замкавай вежы б’е адзін раз. Я бяру з чорнага куфэрка перліну і акуратна нанізваю на навошчаную шоўкавую нітку. Учора гэтыя прыгаршчы перлін прасвідравалі па маім загадзе. Зразумела, знізваць іх у каралі маглі б і прыслужніцы, але я заўсёды раблю гэта сама.

Звон б’е яшчэ раз. Сёння дзень маіх народзінаў. Нічога не адбудзецца. Усе ведаюць, што я не святкую гэты дзень. Я, прызнацца, баюся яго. Смешна, але я нават не гляджуся ў гэты дзень у люстэрка.

Люстэркі толькі прыкідваюцца, што пакорліва пераймаюць наш свет. На самай справе за халоднай цвёрдай абалонкай знаходзіцца нешта іншае, куды большае за тонкі слой амальгамы. Не варта лішні раз дазваляць таму зазіраць сюды.

Нізка перлін павялічваецца. Вось яна ўжо скручваецца петлямі на маіх каленях. Не ведаю, ці стануцца гэтыя каралі падарункам.

Нітка канчаецца. Я бяру яе пачатак, злучаю з канцом і звязваю ў моцны вузел. Цяпер гэтыя перліны ніколі не ўдарацць звонкім градам

па каменнай падлозе. Хаця — хто ведае? Іх злучае ўсяго толькі наваскаваная нітка...

У куфэрку засталіся яшчэ перліны. Я зачэрпваю іх, перасыпаю з далані на даланю. Але — прасвідраваныя — яны маўклівыя і цьмяныя, кожная нібыта з плямай таемнага грэху, пазбаўленая чысціні і ўнутранага спакою.

Ссыпаю перліны назад, у куфэрак, туды ж кладу толькі што знізаныя каралі і зачыняю цяжкую накрыўку. Цяпер куфэрак стаіць на століку, як маленькая труна. Адварочваюся ад акна. Зноў галёканне *гэтых*. Яны пад'язджаюць да самых кустоў шыпшыны, нешта крычаць. Так, сапраўды, клічуць з сабою. Цікава, што было б, калі б я аднойчы выйшла да іх. Магчыма, яны проста з'ехалі б ад мяне, маўклівыя і прыгаломшаныя.

Але я ніколі не выйду да *гэтых*. Непрыстойна.

Сёння не будзе хрэсьбін. Не будзе белай сукенкі з высокім карункавым каўняром. Перліны застануцца пахаванымі ў куфэрку.

Галёканне сцішылася. Чуваць толькі, як у вечаровым прыцемку з голля падаюць буйныя кроплі. Быццам ходзяць на звонкіх абцасіках маленькія чалавечкі.

У такія хвіліны мне здаецца, што мой сапраўдны дзень народзінаў яшчэ не настаў.

Але я і не ведаю, ці варта мне нараджацца.

## Жаніх панны Данусі

*Жахлівае апавяданне*

За месяцам месяц мінае,
Вось вершнік у шыбу грукае
Увосень парой начною:
«Ты помніш ці не, дарагая,
Як калісь мяне кахала?
Сядай на каня са мною!» —
«Мой любы, заўжды з табою!»
*Старажытная нямецкая балада*

Парцэлянавыя пастух і пастушка прайшліся ў танцы пад пяшчотную мелодыйку «Ах, мой мілы Аўгусцін!», і бялюткія парцэлянавыя ж галубкі над імі далікатна сутыкнуліся ружовымі дзюбкамі. Гадзіннік прабіў дзевяць вечара.

Панна Дануся, пекная выпускніца Марыінскай жаночай гімназіі горада М*, закінула ў сакаўны раток чарговую порцыю разынак. Ах, як сумна... Татуся і мамуся сышлі ў госці, на дварэ сеецца дробны кастрычніцкі дождж, занудлівы, як настаўнік лаціны, і няма як развеяцца беднай паненцы, бо прыстойная заручоная дзяўчына не мусіць цягацца па сцямнелым мястэчку ў пошуках прыгод... Адно суцяшае — заўтра Дануся будзе спяваць у хоры Апякунства аматараў цвярозасці, а пасля — танцы! Дабрачынны кірмаш, і шляхетны Генусь з акцызнага банка падносіць вазачку з цукеркамі...

Пад уплывам салодкіх мрояў панна Дануся ўкінула ў раток яшчэ прыгаршчу разынак і закруцілася на абабітай сінім, у ружовыя кветкі аксамітам канапе, ад чаго тая жаласна ўскрыкнула ўсімі спружынамі. «Дануся, Вы сапраўдная рубенсаўская кабета»,— казаў выкладчык гімнастыкі Марыінскай жаночай гімназіі пан Саміч, калі гімназістка Данута Таптэвіч ніяк не патрапляла ў такт з аднакласніцамі ў справе даставання далонямі наскоў туфлікаў...

Не, нямногага дабіліся жанчыны на шляху эмансіпацыі! Толькі што падчас французскай рэвалюцыі дамагліся права насіць трусікі...

Прагрэсіўныя роздумы панны Данусі перарваў стук у шыбу.

— Дануся! Адчыні! Гэта я, Габрусь!

Пекная дзяўчына падляцела да акна пад рыпучы ўздых палёгкі вызваленай канапы. Сапраўды — за мокрай шыбай бялеў выцягнуты твар Данусінага нарачонага Габруся. Твар гэты чамусьці заўсёды нагадваў Данусі рабочую паверхню прэс-пап’е, хаця якая тут магла б быць асацыяцыя — хіба прэс-пап’е мае круглыя акуляры з пазалочанымі дужкамі і чырвоныя прышчыкі?

Аднак — чаму гэткі нечаканы візіт?

— Ты ж павінен быць на інспекцыі чыгункі! — пракрычала Дануся.

— Я прыехаў да цябе, маёй даражэнькай нявесты,— трохі глухавата, але цалкам разборліва прагаварыў Габрусь.— Выходзь хутчэй, пакатаешся на маім аўтамабілі...

Аўтамабіль! Белы выцягнуты твар Габруся раптам падаўся Данусі вельмі сімпатычным і інтэлігентным. Аўтамабіляў у горадзе М* было пяць — жыхары ведалі кожны і кожнага з іх уладальнікаў. Праехацца ў шыкоўным увасабленні прагрэсу — запаветная мара месцачковай паненкі... Дануся бегма кінулася адчыняць дзверы дарагому госцю, на хаду выдзіраючы з буйных кудзераў папільеткі.

Габрусь быў у сваёй строгай форме службоўца чыгуначнай управы. Паўзверх фуражкі ён нацягнуў башлык, так што з усяго твару відаць былі толькі бліскучыя акуляры.

— Я прыйшоў па цябе, Данута... Ці помніш ты словы кахання...

Але Дануся не слухала сентыментальнае мармытанне жаніха. На вуліцы, перад варотцамі, сапраўды стаяў аўтамабіль! Ён быў бліскучы, як калядная ёлка, і ўрачысты, як духавы аркестр.

«Хутка сцямнее! — мільганула ў Данусінай завітай галоўцы.— Ніхто не пабачыць! Трэба тэрмінова ехаць!»

Габрусь адмовіўся зайсці ў дом і пачакаць, пакуль нявеста апранецца. Ён, як слуп, стаяў перад дзвярыма, і Дануся нават праз сенцы чула ўпартыя разважанні пра незямное каханне.

Дождж, напэўна, ад усведамлення ўрачыстасці моманту, прыпыніўся. Габрусёва нявеста пераможна апусцілася на мяккае скураное сядзенне аўто. Машына трохі прысела на ўсе чатыры колы, але гэта была моцная імпартовая машына.

Бяроза каля варотцаў Данусінага двара зашумела-загаласіла пажаўцелай лістотаю: «Не ездзі, Дануся, затрымайся!» Ды магчымасць праехацца ў аўтамабілі пераважала нават меркаванні пра прыстойныя паводзіны паненкі.

(Ах, як рэдка прыслухоўваемся мы да прарочага голасу прыроды і да якіх сумных наступстваў прыводзіць наша непапраўная няўважлівасць!)

Дануся загадала жаніху апусціць скураны верх машыны і ганарова ўзняла над сабой карункавы парасон. Вечаровае сонца здагадалася прасунуць між хмарамі свой нясмелы прамень, каб высвеціць выбітнае відовішча: па вуліцы Балотнай горада М*, звычайнай местачковай (гэта значыць месцамі прыдатнай для праезду) вуліцы, на якой гарадскія ўлады так і не наважыліся паставіць ліхтары, ехаў «Лорэн-Дзітрых» колеру губернскага шчасця. Данусі здавалася, быццам за яе спінаю на буферах аўто, як на запятках карэты, стаяць лёкаі ў напудраных парыках.

— А не страшна табе ехаць са мною, Дануся? — зусім недарэчна глухім голасам запытаў Габрусь нявесту. Але патанулі словы яго ў магутным крыку салісткі хору Апякунства аматараў цвярозасці.

— Габрусік! Спыніся тут, перад Зосьчыным домам! Зося! Зося!

Аўтамабіль спалохана прытармазіў. За плотам стаяла рудая Зося, былая аднакласніца Данусі, і паядала вачыма трыумф сяброўкі.

— Зося паедзе з намі! — загадала нявеста Габрусю.

Той трохі знервавана пачаў супрацiўляцца нечаканай акалічнасці, зноў спасылаючыся на незямное каханне і іншую рамантычную блытаніну. Зося ўжо сядзела побач з Данусяю, прыгожа распраўляючы складкі сваёй неабдымнай параднай спадніцы з фальбонамі.

Аўто рушыла наперад. Пекныя паненкі сакаталі і ўвесьчасна прымушалі апатычнага Габруся націскаць на гумавую грушу гукавога сігналу. Але ўпарты Габрусь не паехаў па людных вуліцах, дзе жылі знаёмыя, а кіраваў у бок Кальварыйскіх могілак паўз хутар Нядзведжына, дзе сапраўды было глуха і цёмна, як у мядзведжай бярлозе.

У вечаровым паўзмроку паказалася белая брама могілак. Па версе брамы, над выявамі жудасных эмблем смерці, красаваўся ўрачысты надпіс па-польску з арфаграфічнай памылкай у слове «Spokoj». Нягледзячы на пратэсты паненак, Габрусь пакіраваў туды, на брукаваную дарожку між магіл. Дарога вяла да суровага псеўдагатычнага будынка касцёла. Змрочныя старыя ліпы сашчапілі над дарогай свае кашчавыя чорныя шаты, быццам мёртвыя пальцы. Злавесна хрыпелі крумкачы. Над уваходам у зачынены касцёл цьмяна свяцілася лампадка — далёкае-далёкае акенца ў той свет, куды нам, грэшным, ісці не дайсці...

Запыніў Габрусь аўтамабіль, павярнуўся да пекных паненак. Пагрозна бліснулі акуляры на выцягнутым белым-белым Габрусёвым твары.

— І чаго ты прыпёр нас сюды? — гучна абурылася Дануся.

— Знайшлі час, пан Габрусь! Касцёл жа зачынены! — падтрымлівала сяброўку рудая панна Зося, у якой ад злосці ледзь не абсыпаліся рабацінкі.

— Мы прыехалі на месца! — нязвыкла цвёрда і ўрачыста сказаў Габрусь і ўскінуў доўгія рукі ў знямелае неба, як ускідвае крылы чорны жораў, збіраючыся ўзляцець ад бязлітаснай паляўнічай стрэльбы.— Пазнай жа, нявеста мая, верная Данута, што...

— Ой, тут жа новую прыбіральню нядаўна зладзілі! — здагадалася панна Дануся.— Габрусік, бедны, у прыбіральню хоча, вось і заехаў сюды,— далікатным шэптам растлумачыла яна сяброўцы.— Ён такі інтэлігентны... Ён не ходзіць за рог, як звычайны мужык... Ідзі, Габрусік! Мы пачакаем...

— Не, у такім разе, давай адразу мы сходзім! Пане Габрусь будзе такім добранькім..— какетліва звярнулася панна Зося да ўладальніка аўтамабіля.

— Спыніцеся, няшчасныя! Вы не разумееце...— благаў Габрусь, смешна размахваючы худымі рукамі, але паненкі ўжо схаваліся ў маленькім зграбным будыначку ля могілкавай агароджы.

Нязграбная Габрусёва постаць сноўдалася ўзад-уперад ля «Лорэн-Дзітрыха» так роспачна, што выпадкова пралятаючы над могілкамі анёл выраніў на небараку сваю бясцэнную слязу і палунаў далей, за хмары, у высокае-высокае сіняе неба, запальваць першую свечку-зорку на славу Гасподнюю дзеля заблукалых сляпых нашых душ... Але не адчуў дабрадзейства чыстае анёльскае слязы бедны Габрусь, а мо падумаў, грэшнай справаю, на гракоў...

Над могілкамі разнеслася вельмі меладычная і павучальная песня з рэпертуару хору Апякунства аматараў цвярозасці горада М*.

Насустрач ідучым, узяўшыся пад рукі «жаўроначкам», кінуўся Габрусь у апошнім намаганні выказацца:

— Данута! Пахавальную песню заспявай! Бо цягнік, на якім ехаў я на інспекцыю чыгуначнай станцыі Н*, ляжыць пад адхонам, спушчаны туды падступнымі рукамі эсэраўскай арганізацыі. І сярод тых вартых жалю абломкаў пахаванае маё беднае цела... А тое, што цяпер перад вамі,— спакутаваны закаханы дух... О, Данусе мая...

Дзіўны маналог перарваўся вясёлым пранізлівым гукам клаксафона, на які націснула жартаўлівая ручка панны Данусі. Абедзве дзяўчыны ўжо сядзелі на мяккім скураным сядзенні аўто, і першая зорка праглядала скрозь карункавы Данусін парасон...

Юзэфа Шыкулевіч, годная, але бедная ўдава, зарабляла на жыццё самай пабожнай справай — мыла падлогу ў касцёле. Аднойчы восеньскім вечарам скончыла пані Шыкулевіч сваю працу, задзьмула апошнія свечкі, старанна ачысціла ад воску падсвечнікі... А на могілках гарэзавала бязбожная моладзь. Чуўся бесклапотны смех (і гэта ў месцы, якое само нагадвала чалавеку пра яго смяротнасць!), пасля анархісткі спявалі песню, нарэшце вечны спакой могілак парушыў пранізлівы, сапраўды д’ябальскі гук. Пані Юзэфа, спадзеючыся на вышэйшую абарону, выскачыла з касцёла і ў няпэўным вечаровым святле ўбачыла гэта... Чортава павозка!

На жаль, Юзэфа Шыкулевіч не была прагрэсіўнай жанчынай. Яна з чыстым сумленнем падкідвала б галлё ў вогнішча, на якім цемрашалы спальвалі Яна Гуса. І з’яўленне перад святым храмам прывіду наступаючага аўтамабільнага веку ўспрыняла належным чынам, перажагнала яго і загадала:

— Vade retro, satanas![1]

Дануся і Зося, пекныя прыстойныя паненкі і выпускніцы Марыінскай жаночай гімназіі, сядзелі самым ганебным чынам на голых мокрых камянях Кальварыйскіх могілак, прычым Дануся трымала над сабою карункавы парасон.

Паўз ашалелых дзяўчат прайшла маленькая сухенькая бабулька ў чорным і здзівіла іх пераможным здзеклівым рогатам. Габрусь — ды Бог з ім, Габрусём,— аўтамабіль маркі «Лорэн-Дзітрых», бліскучы, як калядная ёлка, і ўрачысты, як духавы аркестр,— абодва зніклі бясследна...

«Sic transit gloria mundi[2] — так магла б сказаць панна Дануся, вяртаючыся дадому тым страшным восеньскім надвячоркам. Магла б, каб мела за гімназічны курс лаціны адзнаку «выдатна» альбо хаця б «добра»... Але насупраць графы «лаціна» у Данусіным атэстаце стаяла каліграфічнае «здавальняюча». І Дануся не сказала нічога... Асабліва татусю і мамусі, калі тыя вярнуліся з гасцей...

На другі дзень прыйшла вестка, што Габрусь-небарака сапраўды загінуў у чыгуначнай катастрофе ў выніку антыўрадавай дыверсіі.

Але Дануся мела формы рубенсаўскіх мадэляў, а Генусь з акцызнага банка, хаця і не меў аўтамабіля, цалкам давяраў густу вядомага мастака Рубенса.

Таму і няма ў нашым апавяданні нічога сапраўды жахлівага, акрамя таго, што ў горадзе М* цяпер вельмі многа аўтамабіляў і практычна няма настолькі адданых жаніхоў.

## Жалезная Кнопка

У тыя часы я захаплялася постімпрэсіяністамі. Не тое каб я цалкам разумела іх мастацтва — хутчэй, падабаліся яны самі: маладыя, дзёрзкія, бедныя...

Я таксама была маладая, дзёрзкая і бедная. Як, прынамсі, палова маіх аднакурснікаў.

Што можа параўнацца па вастрыні перажыванняў з першымі днямі ў вялікім горадзе, калі ты, яшчэ ўчора выпускнік правінцыйнай школы, далучыўся да творчай эліты сталіцы?

Твой студэнцкі білет ззяе золатам ціснёных літар, і ты падаеш яго ў акенцы тэатральных адміністратараў з непараўнальна годнай

---

[1] 1 Ізыдзі, сатана! *(лац.)*

[2] 2 Так мінае зямная слава *(лац.)*.

сціпласцю... Табе чытаюць лекцыі знакамітыя прафесары, а кіраўнік твайго курса, барадаты неахайны мужчына ў зрэбным швэдары,— той самы мастак, на палотны якога ты глядзеў гадзінамі, спрабуючы разгадаць такі просты сакрэт іх прывабнасці...

І наперадзе — цудоўныя пяць гадоў у гэтым цудоўным горадзе!

Я доўга не магла знайсці добрую суседку па інтэрнацкім пакоі. Для кагосьці я была занадта негаспадарлівая, для кагосьці — занадта «правільная». Нарэшце пасялілася са мной адна дзіўная істота — Рытка Качар. Маленькая, як дзіцянё, худзюшчая, у акулярах, з хлапечай стрыжкаю і заўсёды ў доўгай шырокай спадніцы, на прыполе якой вечна заставаліся адбіткі нечых падэшваў, прынамсі, пасля кожнага занятку па малюнку, дзе ўсе сядзелі, збіўшыся ў невялікім кабінеце, і не кожны быў настолькі далікатны, каб пераступаць цераз край Рытчынай спадніцы.

У адным з дзіцячых фільмаў пра савецкую школу фігураваў персанаж — дзяўчынка па мянушцы Жалезная Кнопка. Калі б мне давялося прыдумляць мянушку для новай суседкі, лепшай не прыдумала б. Рытка была ў вялікай крыўдзе на жыццё. Асабліва напірала Рытка на той факт, што пасля школы мусіла з год працаваць прыбіральшчыцай.

— Я чужыя пляўкі падцірала! — горда заяўляла Жалезная Кнопка выкладчыкам-экзаменатарам.

Некаторыя з іх, пэўна, адчувалі пры гэтым сваю віну і пакорліва распісваліся ў Рытчынай залікоўцы. А іншыя, хто таксама прыйшоў на свае пасады не з палацаў, толькі смяяліся ці абураліся — у залежнасці ад характару. І таму за Рыткай з першай сесіі пацягнуліся хвасты. Яна вярталася з не здадзенага экзамену і скардзілася мне на жыццёвую несправядлівасць, абяцаючы, што крыўдзіцелям гэта не папусціцца. Бо мела Рытка талент знаходзіць уплывовых «апекуноў» — пажылых чыноўнікаў ад мастацтва. Яна прыходзіла ў іх кабінеты, расчульвала аповедамі пра чужыя пляўкі, і пасля наш дэкан бегаў па інстытуцкіх калідорах чырвоны ад шаленства і гучна расказваў, як нейкі «пень» з міністэрства тэлефанаваў, каб «смаркачцы» з першага курса паставілі станоўчую адзнаку па гісторыі КПСС.

Малявала Рытка ўсё ў бляклых зеленавата-брунатных колерах. Кожны твар у яе выкананні здаваўся апухлым і пабітым, нібыта яблык-ападак. Магчыма, можна ўваходзіць у мастацтва і з гэтым, але ў Рытчыных карцінах заўсёды адчувалася залішняя стараннасць і поўная адсутнасць фантазіі. Ад таго ўсё здавалася ненатуральным і

нецікавым. Тым болей што майстэрства, па сутнасці, яшчэ не было — дый хто з нас, учарашніх школьнікаў, яго меў? Але ж Рытка адлюстроўвала «праўду». І гэта была яшчэ адна падстава патрабаваць да сябе асаблівай увагі.

Радніла нас з Рыткай ненармальная абыякавасць да матэрыяльнага боку жыцця. Дый не мелі мы, бязбацькавічы, сродкаў на нейкія аздобы. Вышэйшым нашым кулінарным дасягненнем былі вараныя буракі, а найшыкоўным адзеннем — купленыя да выпускнога балю сукенкі.

Я любіла маляваць па начах. Проста сядзець у цішыні і пры святле настольнай лямпы рабіць маленькія «пачаркушкі» — на пакрытым васковай фарбай кавалачку кардону прадрапваць малюнак танюткай іголкай. Мне здавалася, што, пакідаючы ў шчыльным каляровым фоне белыя ці чорныя рыскі, я прадрапваюся ў іншы, лепшы свет, куды калісьці сыду... Але Рытка спала вельмі чуйна і не цярпела абсалютна ніякага шоргату. Таму час ад часу мае начныя «экзерсісы» перарываліся яе пранізлівымі мацюкамі сапраўды майстэрскага выканання.

Тая зіма была надзвычай суровая. І ў самыя маразы здарылася непазбежнае — латаныя-пералатаныя трубы інтэрнатаўскай сістэмы ацяплення палопаліся, і ў пакоях запанаваў бессаромны Зюзя — старажытнае славянскае бажаство холаду. Ён мацаў настылымі рукамі вытанчаныя целы інтэрнатавак, і ніяк немагчыма было яго выгнаць. Мы з Рыткай абагравальнік мелі адзін на дзвюх, самы танны: увагнутую бліскучую талерку, у цэнтры якой, як закаханае сэрца, пунсавела спіраль... І, зусім як тое сэрца, яна згасла без дай прычыны і назаўсёды. Наперадзе чакала доўгая зімовая ноч...

Я беражліва падняла наш пагаслы агонь і пайшла па доўгіх калідорах, разважаючы, да каго можна звярнуцца па дапамогу. Блізкіх сяброў у нас з Рыткаю не было. Дражнілі нас манашкамі, гордымі самотніцамі ды яшчэ чамусьці бабізонцамі, пэўна, згадваючы адначасова Рабінзона, аматараў французскай прыроды барбізонцаў ды нашу жаночую — бабскую — натуру. Па вузкім загрувашчаным пераходзе я перайшла ў той корпус інтэрната, дзе жылі хлопцы. Тут заўсёды было шумна, смярдзела фарбамі і танным вінам і сустракаліся самыя неверагодныя асобы... Вось як гэты тып з паголенай галавою і завушніцаю... Ці вунь тыя двое, доўгавалосыя і перапэцканыя фарбамі, што валакуць у свой пакой гіпсавую Венеру.

Да аднаго знаёмага я проста пабаялася заходзіць, бо з-за яго дзвярэй чуўся п’яны гул. Другога ў пакоі не было — ці не адчыняў?

— У чым праблема, ясная паненка?

Я рэзка абярнулася, рыхтуючыся бараніцца. Але ў хлапчыне, што загаварыў са мною, не было нічога страшнага: вядома, ён меў традыцыйна доўгія валасы і драную джынсовую апратку, але з твару — тыповы акулярык, хлопчык-інтэлектуал, выхаваны строгімі бацькамі ў строгіх маральных нормах. Я нават не адразу ўцяміла, чым яшчэ ўразіў незнаёмец: ён звяртаўся да мяне на добрай беларускай мове. Тады гэта яшчэ не было ні модай, ні палітыкай, а так — незразумелым дзівацтвам ці адзнакай простасці. Бо нават у маім родным мястэчку на «мове» гаварылі адны старыя, а мама — яна гадавала мяне адна — працавала фельчарам, па тутэйшых мерках, начальніцай, і нібыта ўжо не мела права размаўляць папросту. Так што я нават разгубілася, не ведаючы, як адказаць.

— Дык што здарылася? Ці магу дапамагчы?

— Абагравальнік зламаўся,— мармытнула я і схавала змерзлы нос у каўнер свайго штучнага футра.

— І толькі? — Хлапчына ўладна ўзяў сапсаваную тэхніку ў мяне з-пад пахі.— Нічога страшнага, адрапаруем!

Пасля гэтага выпадку Ігар пачаў заходзіць у наш пакой. Звычайна ён прыносіў з сабою ўсялякія смачныя рэчы: хатнюю каўбасу, сала, а то гарачую яешню ці дранікі, схаваныя між дзвюх місаў. Ён ніколі не патрабаваў і не рабіў нічога, што магло б напалохаць мяне, якую маці і цёткі перад ад’ездам на вучобу падрабязна праінструктавалі наконт д’ябальскіх гарадскіх хлапцоў. Не выключана, што такія ж інструкцыі наконт блатных інтэрнатавак атрымаў і Ігар. Таму знаёмства наша было не заваёвай адно аднаго, а шчаслівай сустрэчай надзейных саюзнікаў у супрацьстаянні ненармальнаму свету, які акружаў нас.

Ігар вучыўся на перадапошнім курсе і ўжо ўдзельнічаў у некалькіх агульных выставах, а яго, як ён сам называў, алейныя «вольныя партрэты» куплялі нават іншаземцы ля мастацкага салона. Нечым нагадваў мне Ігар маіх улюбёных постімпрэсіяністаў, хаця сам не быў іх прыхільнікам.

— Я — чалавек старамодны,— часта паўтараў ён.— Жывапіс Леанарда — найвышэйшая ступень развіцця мастацтва, і я не хацеў бы, каб над ложкам майго будучага дзіцяці красавалася рэпрадукцыя «Чорнага квадрата».

Далучыў мяне Ігар і да беларушчыны — тое, што здавалася дзівацтвам, зрабілася натуральнай часткай майго жыцця. Асабліва нялёгка далося прывучыць сябе думаць на роднай мове: не размаўляць — гэта не так складана, нават калі перакладаеш у думках, а думаць. Часам мае мазгі ўяўляліся мне палімпсестам — старажытным рукапісам, на якім сцерлі стары запіс і скарысталі для іншага тэксту. Але сляды старога запісу ўсё-ткі захаваліся, і цяпер, паступова і неадольна, ён праступаў з-пад пазнейшага.

Рытка Жалезная Кнопка напачатку ставілася да майго новага знаёмства іранічна. Калі ж наша з Ігарам сяброўства пачало набываць манументальныя рысы, выказалася:

— Ён табе не пара. Глядзець смешна: высокі, худзюшчы, а ты кругленькая, беленькая... Штэпсель і Тарапунька!

Я толькі пасмейвалася. Заўсёды такая датклівая і падазроная, зрабілася абсалютна незалежнай ад меркаванняў усяго свету. Мелі значэнне толькі мае адносіны з Ігарам. А Рытка планавала сваё. Варта было мне з’ехаць на выхадныя дадому, яна стукалася ў дзверы Ігарава пакоя, просячы то нешта адрамантаваць, то даць творчую параду, то «тры скарыначкі хлеба для беднага Бураціна». Напэўна, каб была Рытка хоць крыху больш прывабнай, я са сваім інтравертным характарам добра-такі псіхавала б... Але мне былі ў нейкай ступені нават прыемныя няўмелыя Рытчыны заляцанні (вось яна, праявілася,— зайздросная жаночая натура). А Ігар стараўся заходзіць, калі я была адна — абы не круціцца на крэсле пад пякучым Рытчыным паглядам.

— Прыходзь да мяне сама,— аб’явіў Ігар.— Усе ведаюць, што мы пажэнімся, дык чаго саромецца?

Сусед Ігара больш прападаў недзе на кватэры ў горадзе, і вечары мы праводзілі разам. Гэта ўспрымалася як належнае, хіба што інтэрнатаўская выхавацелька, з якой час ад часу мы сутыкаліся на калідоры, адпускала абавязковую рэпліку наконт таго, што «швэндаюцца тут усякія» ды тлумачэнні, хто канкрэтна швэндаецца...

У сакавіку Ігар сказаў:

— Прапаноўваюць мне добры заробак, у залік практыкі. Але трэба з’ехаць на два месяцы за свет — аднаўляць фрэскі трынаццатага стагоддзя. Там закінутую царкву ў «святле апошніх пастаноў» тэрмінова ператвараюць у помнік сусветнага значэння... Будуць грошы на вяселле,— пераконваў мяне, а болей сам сябе Ігар.—

Падумаеш, два месяцы! Я табе кожны дзень буду пісаць. А там і ў вас практыка, а да летняй сесіі я вярнуся!

Грошы патрэбныя ўсім: жабракам і мільянерам, гандлярам і паэтам, невылечным алкаголікам і вытанчаным дамам (апошнім, напэўна, болей за астатніх). Ігар паехаў, і пацягнуліся сумныя дні без яго. Звычайна я была ў захапленні ад надыходу вясны, радавалася кожнай лапіне адталай зямлі, ні з чым не параўнальнаму веснавому паветру, калі няма яшчэ ні лісця, ні травы, але з'яўляецца ўжо безназоўны водар абуджанай прыроды, які кружыць галовы і прымушае чакаць і спадзявацца нават тых, хто перастаў чакаць і спадзявацца!.. Але тая вясна была проста фонам майго чакання. Я нават не думала, што паміж мною і Ігарам узнікла такая моцная сувязь і такім болем адгукнецца расстанне...

Прыйшоў ліст, ад якога чамусьці пахла табакай, хоць Ігар не курыў. А ў стандартным канверце з выявай кактуса — цудоўныя Ігаравы малюнкі... Вось гэтая дама, захутаная ў шаль і поўная млявага чакання — неадменна я, а гэты няшчасны менестрэль з прабітым сэрцам — Ігар...

Я перачытвала ліст, разглядала малюнкі, уладкаваўшыся ў непрыбраным ложку, а насупраць мяне сядзела з кніжкай Рытка, але, відаць па ўсім, не столькі чытала, колькі згарала ад жадання зазірнуць у Ігарава пасланне. Апошнім часам мы з суседкай не зусім ладзілі. Праўда, яна перастала пераконваць мяне, што мы з Ігарам не пара, затое ўсё часцей захаплялася маім незвычайным талентам, прарочыла мне вялікую будучыню ў мастацтве, дзеля якой, вядома, мне належала ахвяраваць прымітыўнымі жыццёвымі памкненнямі і цалкам прысвяціць сябе творчасці.

— Ты толькі ўяві,— даверлівым тонам казала Рытка,— у цябе ў галаве — выдатная карціна, неверагодная гармонія фарбаў. А ў ваннай — гара брудных пялюшак, на пліце суп з каструлі выкіпае, дзеці равуць, а муж сядзіць з газеткай і чакае, каб ты на падносіку абед прынесла! Такая доля — не для цябе!

Напэўна, мая непрабівальная абыякавасць да такіх душэўных гутарак дадавала горычы ў без таго горкае Рытчына жыццё. Ёй ніяк не давалася французская мова. Рытка па парадзе выкладчыцы-францужанкі, вытанчанай нервовай пані, насіла ў кішэні лыжку і час ад часу, засунуўшы яе глыбока ў горла, спрабавала вымавіць нетутэйшыя «оі-уі». Але нішто не дапамагала, францужанка ледзь не шалела падчас кожнага Рытчынага адказу, а Рытка пачала бегаць па

кабінетах высокапастаўленых знаёмых і плакацца на бюракратызм выкладчыкаў, згадваючы ўласнаручна падцёртыя чужыя пляўкі. Вынікам быў званок да дэкана, але на гэты раз нават той, хто тэлефанаваў, пачуваўся няёмка і, відавочна, разумеў беспадстаўнасць просьбы аб вызваленні студэнткі Маргарыты Качар ад экзамену па французскай мове...

На практыку Рытка ехала з яшчэ большай крыўдай на ўвесь свет, чым звычайна, а веснавы свет быў цудоўны! Мы апынуліся ў старым мястэчку, дзе касцёл і царква стаялі па розныя бакі гандлёвага пляца, а жыхары не страцілі старасвецкай шляхетнасці. Так атрымалася, што мы зноў пасяліліся ўдзвюх з Рыткаю — у маленькім катушку, прыбудаваным да вялікай хаты... Хата была шляхецкая — на два канцы, і пасярэдзіне — ганак з двума слупамі-калонамі. Дзверы нашай прыбудовы і адзінае акно адчыняліся ў густы сад, які рыхтаваўся да квецені. Я напісала Ігару і паведаміла новы адрас, але адказу доўга не было. Я не хвалявалася з гэтае прычыны — настолькі моцная была мая вера ў Ігара. А вось Рытка атрымала ліст і, відавочна, не з дому. Дэманстратыўна села насупраць мяне, урачыста раскрыла канверт і паклала так, каб я магла бачыць. Адно слова ў зваротным адрасе прыцягнула маю ўвагу: гэта ж той горад, дзе зараз Ігар! Позірк спыніўся на прозвішчы адпраўніка: Сурын! Віктар Сурын, які і прапанаваў Ігару ехаць у гэтыя заробкі! Калі Рытка паспела з ім пазнаёміцца?

Вядома, мне карцела даведацца, што піша Віктар і ці згадвае Ігара. Але пытацца было няёмка: занадта ўжо з'едлівыя позіркі кідала на мяне Рытка падчас чытання. Праз тыдзень прыйшоў ліст і ад Ігара — у той дзень, калі на тонкіх галінках вішань загайдаліся першыя бялюткія кветкі-матылькі. Я нецярпліва разарвала канверт, заўважыўшы краем вока, што ў руках Рыткі таксама з'явіўся ліст, і вось ужо нібыта чую любімы голас... Маю ўвагу адцягнуў Рытчын ускрык: яна, відавочна, вычытала ў сваім лісце нешта ўразлівае. Некаторы час Жалезная Кнопка моўчкі глядзела на мяне, нібыта вагаючыся, а пасля працягнула мне свой ліст, паказваючы пальцам месца, якое належала прачытаць: «Ведаеш, Рытуля, надакучылі мне гэтыя Ігаравы гульні. Тое, што зараз прачытаеш, не расказвай нікому — бо ніхто не ведае, нават Ігаравы бацькі. Але ж ты ў мяне малайчына, можаш трымаць рот на замку, калі трэба... Дык вось, Ігар са мною не паехаў, а ляжыць у скурвендыспансеры. А мне, як ад'язджаў, даў цэлы стос лістоў да бацькоў і да сваёй дзяўчыны, каб я адсюль іх адпраўляў, нібыта ён са

мной працуе. Казаў, што ў яго нейкая алергія. Але я выпадкова знайшоў сярод папер, што ён мне пакінуў, накіраванне з таго дыспансера. А там чорным па белым напісана, што ў нашага Ігарка — пранцы, што мяне асабіста не здзіўляе. Ты ведаеш тую дзяўчыну, да якой я лісты перасылаю,— Олю Каралевіч, і дзяўчына, здаецца, прыстойная... дык пагавары з ёю далікатна, каб не надта за Ігарам упадала...»

Я перагарнула старонку, і на мае калені зляцела невялікая паперка са штампам ганебнай лячэбнай установы...

Бач ты, які прыхільнік ісціны, і дакумент прыклаў...

Сказаць, што я была агаломшаная, значыць сказаць вельмі мала. Я адчувала, што ніколі ў жыцці не атрымлівала ўдару такой моцы... Рытка са спагадлівай усмешкай узяла ліст з маіх здранцвелых пальцаў і пацягнулася па даведку. Маланкай бліснула думка: не трэба, каб гэта бачыў яшчэ хтось! Мае пальцы самі сабою сціснуліся.

— Я пакіну гэта сабе... на памяць.

Рытка была чамусьці незадаволеная, але, сустрэўшыся з маім позіркам, адвярнулася і прабурчэла:

— Як сабе хочаш... На тваім месцы я ніякай памяці не захацела б...

Ноч прайшла для мяне без сну. Зноў і зноў успамінала я бязлітасныя радкі. Усё — падман... І лісты, і словы... Да горла падступаў халодны камяк страху — а калі я таксама... Праўда, блізкасці між намі яшчэ не было... Але ўсё ж... Я пакутліва ўспамінала вычытаныя недзе сімптомы гэтай хваробы, здаецца, не... А калі прыслухацца...

Паступова мае думкі скіраваліся на самога Ігара. Пасля бурнай хвалі мысленных абвінавачванняў прыйшлі ўспаміны: як сустракалі Каляды, як ездзілі ў Вільню і прапаўзлі пад Вострай Брамай на каленях, каб Матка Боска Вастрабрамска выканала нашы жаданні... І як мы малявалі адначасна адно аднаго, а пасля склалі свае карціны ў двайны партрэт... І як Ігар прыносіў мне гарачыя дранікі між дзвюх місачак і паіў мяне малаком з мёдам, калі я хварэла... Падушка мая была ўжо наскрозь мокрая. Тут міжволі ўявілася, як Ігар таксама ляжыць зараз на падушцы, бальнічнай, прапахлай карболкай, і, можа, таксама не спіць, і няма каля яго ніводнага чалавека, які б яму паспачуваў, і галодны ён, пэўна ж, бо перадачы яму ніхто не носіць... Гнеў і крыўда адхлыналі ад мяне, як гразкая балотная жыжа. Няўжо я сапраўды такая бесхарактарная, не маю ўласнай годнасці, як кажа Рытка?

Але злосці больш не было. Шкадоба да Ігара, такая недарэчная, выратавала мяне, выцягнула з дрыгвы адчаю… Мала што з чалавекам можа здарыцца! Я назнарок уяўляла сабе Ігара з агіднымі праявамі хваробы, заняпалага, няголенага… І пераконвалася, што кахаю яго, кахаю ўсякім!

…І ложа, і пошасць, і смерць — адны на дваіх…

Раніцай, пад мірнае пасопванне Рыткі (так незвычайна моцна і салодка яна спала!) я ціхутка апранулася і пабегла на аўтобусную станцыю. З усіх рэчаў прыхапіла толькі сумачку з грашыма.

І вось ізноў вакол мяне гудзе тлумная сталіца, «блудніца вавілонская», здольная сапсаваць самага чыстага і шчырага чалавека. Я пералічыла грошы… Не так многа, але хопіць! Накупляла залацістых апельсінаў, буйных грузінскіх яблыкаў, смуглява-чырвоных… Але ж гэта не ежа для хворага чалавека… Апошняе патраціла на курыцу і паехала ў інтэрнат. Там было ціха і пуста — толькі студэнты апошняга курса яшчэ не з’ехалі на практыку. У інтэрнацкай кухні я першы раз у жыцці зварыла курыны булён, пераліла яго ў тэрмас, а кавалкі курыцы па метадзе Ігара схавала між дзвюх місачак…

Ну вось, можна ехаць…

Скурвендыспансер у горадзе адзіны. Вуліцы, на якой ён знаходзіцца, людзі цураюцца. Даехала я да яе без прыгод, а вось сам будынак давялося пашукаць — бо я не асмельвалася папытацца пра яго…

Нарэшце я стаю перад замазанымі фарбай шклянымі дзвярыма і не наважваюся ўзяцца за ручку. Толькі цяпер прыйшло ў галаву, што сёння можа быць непрыёмны дзень, што ў гэты час перадачы могуць не браць, што Ігар увогуле мог ужо выпісацца…

Але стаяць у такім месцы, калі здаецца, што на цябе скіраваны пагардлівыя позіркі, яшчэ горай… І я асцярожна, двума пальцамі ўзялася за ручку (страшна ўявіць, хто да яе дакранаўся!). Дзверы бязгучна адчыніліся.

У холе я адразу нагледзела шыльдачку, якая чырвоным па белым паведамляла, што прыём перадач для стацыянарных хворых штодзённа з 11.00 да 13.00 і з 17.00 да 19.00. Гадзіннік над шыльдай паказваў палову пятай… Давядзецца пачакаць.

Я, адчуваючы, што шчокі мае палаюць, пасунулася да драўляных адкідных, як у старых кінатэатрах, крэслаў…

— Оля?!

З другога канца калідора да мяне дыбаў Ігар. Нейкі разгублены, з няпэўнаю ўсмешкаю на вуснах, а ў руцэ — поўная авоська.

Слёзы непераадольнай крыўды падступілі да вачэй...

— Ты, аказваецца, ужо выпісаўся?

— Адкуль?

— Не прыкідвайся, я ўсё ведаю... Адсюль!

Мы глядзелі адно на аднаго, і недзе на ўзроўні падсвядомасці з'явілася шалёная радасць. Ігар працягнуў мне авоську і ўсхваляваным ад раптоўнай здагадкі голасам прагаварыў:

— Я табе перадачу прывёз. Як атрымаў ад Рыткі ліст, што ты тут лечышся, адразу ўсё кінуў, на самалёт — і сюды...

Я зазірнула ў яго авоську: залацістыя апельсіны, чырванашчокія яблыкі і — дзве знаёмыя місачкі, ад якіх пахне дранікамі... Ды яшчэ — мае любімыя цукеркі, цэлая шыкоўная каробка...

Я дрыжачымі рукамі дастала з сумачкі даведку, адабраную ў Рыткі, і працягнула Ігару. Ён працягнуў мне такую ж — толькі з маім прозвішчам.

Божа, будзь благаслаўлёны Ты і той цудоўны свет, які Ты стварыў! Жалезную Кнопку падвяла, як заўсёды, залішняя стараннасць і адсутнасць фантазіі. Яна ўдала прыдумала напісаць Віктару і «выдурыць» ліст ад яго пад нейкую прыстойную прычыну — здаецца, папрасіла даслаць ёй замалёўку тамтэйшай архітэктурнай дэталі. Удала падрабіла і штамп скурвендыспансера. А далей вырашыла дзейнічаць адразу ў двух напрамках і адначасова: як толькі паслала «выкрывальны» ліст Ігару, аналагічным чынам паведаміла «ўсю праўду» мне. І ўжо, зразумела, не магло ёй прыйсці ў галаву, што мы адразу кінемся адно аднаму на дапамогу.

У холе скурвендыспансера пад падазронымі позіркамі пахмурнай рэгістратаркі і знерваваных наведнікаў мы абдымаліся, як шалёныя, плакалі ад шчасця, нібыта ўратаваліся ад смяротнай небяспекі, нібыта ўбачыліся пасля доўгага-доўгага і безнадзейнага расстання...

Ніякай злосці на Жалезную Кнопку не было — гэта ж дзякуючы ёй мы перажылі такія цудоўныя хвіліны!

З бальніцы мы пайшлі ў інтэрнат і там шыкоўна павячэралі «перадачамі».

А назаўтра раніцай падалі дакументы ў загс.

Пасля летняй сесіі Рытку адлічылі з інстытута за непаспяховасць і прафесійную неадпаведнасць. Больш я ніколі нічога пра яе не чула.

Наша з Ігарам вяселле адбылося ў ваенным гарадку, дзе жыў ягоны бацька-палкоўнік і маці — настаўніца беларускай мовы. На вяселлі гулялі многія з нашых аднакурснікаў, а злашчасны Віктар быў Ігаравым шаферам. З тае пары мінула не так ужо мала гадоў, і дзеці нашы з захапленнем лазяць па вялікай бацькавай майстэрні, на светлай сцяне якой, пад самай столлю — непрадажная карціна: хлапец і дзяўчына, шчаслівa-разгубленыя, ідуць адно да аднаго, трымаючы авоські з залацістымі апельсінамі, а на пярэднім плане чамусьці намаляваная нацэлена вастрыём у прастору звычайная чарцёжная кнопка...

**Масоўка**

*Людзі масоўкі*

Можна ставіцца да іх скептычна — яшчэ адно «калямастацкае кола».

Масоўка... Фон для дзеяння на кіназдымачнай пляцоўцы.

Некаторыя трапляюць сюды выпадкова, на дзень-два, каб пасля ўсё жыццё расказваць, як здымаліся ў кіно. Некаторыя, што маюць сталыя прафесіі ў «рэальным» жыцці, прыходзяць сюды зноў і зноў, далучацца да таямнічага кіношнага свету.

І, нарэшце, там ёсць людзі, для якіх масоўка — асноўная прафесія. Калі яны і падпрацоўваюць недзе яшчэ, дык менавіта «падпрацоўваюць». А сапраўднае і галоўнае для іх пачынаецца пры святле юпітараў. Гэтыя людзі ведаюць, што здымалася і што будзе здымацца. Ведаюць у твар і па імені ўсіх рэжысёраў, акцёраў, аператараў, асістэнтаў рэжысёра і адзін аднаго. Іх мара — атрымаць «эпізод», эпізадычную ролю. І часам яна збываецца.

Масоўка... Якая насалода, здаўшы пашпарт або паштоўку з акуратна перапісанымі пашпартнымі дадзенымі, адчуць сябе канчаткова і беззваротна завербаваным у армію мастацтва. Да канца здымачнага дня ты — бяспраўны пакорлівы раб кожнага штатнага кіношніка. У цябе адбіраюць адзенне і выдаюць узамен смярдзючы кажух, шэрую кашулю з саматканай тканіны і страшныя чаравікі з рудой, цвёрдай, як бляха, скуры — тыповы строй беларускага партызана. Можаш займець какетлівы берэцік і рыдыкюль у стылі 30-х або шыкоўнае футра рускай баярыні... А можаш ператварыцца ў жабрака ці гітлераўскага афіцэра. Рэчы будуць старыя і не па памеры, разлічаныя на «фон», але гэта будзе ўсё-ткі здымачны касцюм

і звязаны з ім вобраз. Цябе прымусяць змыць лак з пазногцяў, абматаюць бінтамі і тут жа пэрапэцкаюць гразёй і чырвонай фарбай, а ў давяршэнне намалююць пад вокам сіняк... Ты сядзеш у дрыготкі, пыльны студыйны аўтобус і паедзеш невядома куды, у ноч, на «натуру». Ты будзеш цярпліва чакаць шэсць гадзін на начным працінаючым вятры ці пад сляпучым ліпеньскім сонцам, пакуль на дзесяць хвілін запусцяць кінакамеру, дачакаўшыся вядомага толькі галоўным кіношнікам асвятлення, прычым твой «тыпаж» так і не спатрэбіцца.

Не кожны можа прыжыцца ў гэтым свеце. Але той, хто зрабіўся масоўшчыкам-прафесіяналам, як правіла, асоба нешараговая. І самаахвярным імкненнем да мастацтва, і стоеным самалюбствам, і кляйном няўдачніка, што мімаволі нясе з сабою роля «фона».

*Цыганка*

Дзе яна працавала ў рэальным жыцці — ніхто не ведаў. Дзябёлая дзеўка з пукатымі светла-брунатнымі вачыма і пухльнымі яркімі вуснамі была такой жа звыклай прыналежнасцю здымачнай пляцоўкі, як і пражэктар. Запапрашалі яе на здымкі даволі часта, бо кіношнікам імпанавала яе каларытная знешнасць. Але Цыганка нярэдка прыходзіла і тады, калі не запрашалі, і з дурнаватай усмешкай на тлустых вуснах тыцкала свой пашпарт бабульцы-«божаму дзьмухаўцу», што загадвала масоўкай.

— Сёння здымаюць толькі мужчын,— сярдзіта гаварыла інтэлігентная бабулька, а Цыганка, скарыстоўваючы багатую фантазію, усё прапаноўвала, як можна ў сённяшнім эпізодзе выкарыстаць яе, Цыганку. Гладка зачасаныя валасы Цыганкі блішчэлі, нізкі голас гучаў так пераканаўча, што звычайна бабулька брала пашпарт і ўпісвала дадзеныя з яго ў адзін са сваіх шматлікіх табеляў.

Мела Цыганка вялікае добрае сэрца, заўсёды важдалася з дзецьмі-«масоўшчыкамі», частавала іх лядзенчыкамі і расказвала сваю цудоўную казку — як на здымках фільма пра дзекабрыстаў яе, Цыганку, упадабаў рэжысёр і паставіў на першым плане — у натоўпе, які сустракаў гусар. І вядомы артыст, малады і прыгожы, што ехаў у шыкоўнай гусарскай форме на белым кані, паглядзеў на Цыганку і ўсміхнуўся ёй, і пасля, на працягу здымак, шукаў вачыма і ўсміхаўся. І ўвогуле, кожныя кіназдымкі былі для Цыганкі тым, чым для састарэлай павятовай паненкі чарговы баль — Вялікай Надзеяй...

Аднойчы здымалі сцэну пахавання з фільма пра савецкую пасляваенную вёску. У павільёне выбудавалі тры фанерныя сцяны, размалявалі іх і прыкрасілі, як маглі, у стылі «а-ля пейзан». На стол паставілі сапраўдную труну — бо труна заўсёды сапраўдная, як і смерць.

Заставалася толькі знайсці жанчыну на ролю нябожчыцы. Памрэж доўга размаўляў з гуртам масоўшчыц у жалобных балахонах, абяцаючы добраахвотніцы аформіць ролю нябожчыцы як эпізадычную. За яе плацілі ўдвая болей, чым за ўдзел у масоўцы. Але жанчыны чамусьці адводзілі вочы ўбок, пасмейваліся і ўпарта адмаўляліся. Згадзілася Цыганка. Ёй далі надзець чорныя лакіраваныя туфлі з тупымі насамі і тоўстыя старэчыя панчохі, растлумачыўшы, што на экране будзе відаць толькі частка труны — там, дзе ногі. Але ўсё роўна трэба ляжаць, заплюшчыўшы вочы, і старацца не варушыцца.

Труна, абабітая чорным паркалем звонку і бурачковым — знутры, аказалася трохі цеснаватай для мажнога цела Цыганкі. Але ляжалася там нечакана ўтульна. У сашчэпленых на грудзях руках Цыганка трымала тонкую васковую свечку. Свечку запалілі, і Цыганка захвалявалася, што на пальцы пацячэ гарачы воск. Тут рэжысёр пракрычаў свае цудадзейныя каманды, і жанчыны-плакальшчыцы загаласілі над трунай. Цыганка помніла, што яе здымаюць ніжэй пояса, і ад гэтага ўсведамлення і намагання не дапусціць найменшага руху адпаведная частка цела ў яе нібы знямела, аднялася. Паступова пачуццё цікавасці і нават радасці, што яна, Цыганка, у цэнтры ўвагі ўсіх гэтых людзей, змянілася нейкай няёмкасцю. Сцэна ўсё цягнулася і цягнулася, жанчыны галасілі, асабліва адна, артыстка. Нечакана Цыганка адчула невядомы раней яе жыццялюбнай натуры страх. Захацелася неадкладна паварушыцца, глыбока ўздыхнуць, прыадкрыць вочы... Нарэшце сцэну адзнялі, але рэжысёр тут жа сказаў, што патрэбны другі дубль. Цыганка хацела вылезці з труны, але ёй загадалі ляжаць, каб не папсаваць кадр. Яна глядзела на ўсіх сваімі пукатымі вачыма, тлустыя вусны спрабавалі ўсміхнуцца, але ўсмешка атрымалася нейкая жаласная. Жанчыны-плакальшчыцы перагаворваліся між сабою і пазіралі на «нябожчыцу» з насмешкай і лёгкай пагардай, а можа, зайздросцілі, што вось у гэтай каровы хапіла смеласці і цяпер яна атрымае ўдвая болей, чым яны...

Цыганцы далі другую свечку, і здымкі пачаліся зноў. Плакальшчыцы, адна перад адной, галасілі ўсё жалобней і адчайней. Цыганкай апанаваў сапраўдны жах. Раптам ёй здалося, што яна не

зможа ўстаць. Прыадкрыла вочы — проста ў зрэнкі ўдарыў сляпучы нежыццёвы прамень юпітара. «Хутчэй бы, хутчэй...» — паўтарала сама сабе «нябожчыца».

Пасля другога дубля здымалі трэці. Цыганка аблівалася потам і часта глытала сліну. Устала з труны пастарэлая і паблажэлая, але ўсё роўна спрабавала ўсміхнуцца. Цяпер з'явілася ў яе іншае адчуванне — быццам бы пераадолела цяжкую хваробу. Быццам здзейсніла нешта вялікае і годнае шляхам самаахвяравання, і ўсе гэтыя людзі праз яе, Цыганкі, пакуту атрымалі нешта добрае і вечнае... Наўрад ці старая дзеўка з масоўкі магла выкрышталізаваць свае цьмяныя пачуцці так прыгожа і канкрэтна, але падобныя пачуцці, несумненна, прысутнічалі ў яе шырокай, рамантычнай душы...

Эпізод у фільм не ўвайшоў.

*Студэнт*

Ён прыйшоў на кіназдымачную пляцоўку яшчэ першакурснікам тэатральнага інстытута. Будучыня малявалася яму то ў тонкіх пастэльных колерах элітарнай творчасці, то з імпрэсіяністычнай яркасцю замежных кінафестываляў і карнавальнай багемы. У масоўку Студэнт трапіў па намове сябрука — падзарабіць і «вывучыць натуры» — спазнаць будучую прафесію з нізоў.

Для таго каб уступіць у брацтва масоўкі, не трэба валодаць асаблівымі талентамі ці адметнай знешнасцю. Чорны ход у мастацтва аднолькава даступны ўсім, але вядзе не далей кухні... Студэнт прафесійна не зажмураўся на святло юпітараў, стараўся пазнаёміцца з кіношнікамі, але пасябраваў толькі з бабулькай-загадчыцай масоўкі. Байкі пра вядомых артыстаў і рэжысёраў, жывых і памерлых, нейкім чынам прыўзнімалі слухача да ўзроўню сваіх герояў. Час ішоў. Студэнт пакінуў сваю «правінцыйную» навучальную ўстанову і паступіў у адпаведны маскоўскі інстытут. Але і там правучыўся толькі адзін курс. Напэўна, нечага не хапала гэтаму прыгорбленаму, з вечнай няпэўнай усмешкай на твары юнаку, каб у сваю чаргу «нечым» зрабіцца. Але «нешта» ў ім было — бо прымалі яго ў творчыя ўстановы яшчэ двойчы, і двойчы адлічвалі... Мастацтва ўцякала ад яго, збягала, як залаты пясок скрозь пальцы. Заставалася адно — масоўка. Здымачная пляцоўка, дзе на цябе, як і на галоўнага героя, свеціць пражэктар і табе таксама адрасаваны каманды рэжысёра... Студэнт ужо даўно нідзе не вучыўся, але па-ранейшаму пляткарыў пра былых дэканаў і марыў пра свае кінастужкі...

Адзін з першых фільмаў, у якім зняўся Студэнт, быў фільм пра героя Айчыннай вайны. Галоўнае месца ў сцэнарыі займаў аналіз вытокаў гераізму вышэйпамянёнага героя. Гледачоў павінен быў расчуліць падрабязны аповед пра даваеннае жыццё юнака-камсамольца, крышталёва чыстае, з першым каханнем і строгімі маральнымі нормамі. Каханая героя, згодна сцэнарыя, была скрыпачкай з інтэлігенцкай сям'і. Іграла гераіню нікому не вядомая маладзенькая актрыска. Калі Студэнт з масоўкі ўпершыню пабачыў яе ў студыйным павільёне, нечакана ўзрушыўся: круглатварая, з блакітнымі вачыма, акуратненькім кірпатым носікам з рабацінкамі і каратка падстрыжанымі мядовымі валасамі дзяўчына ўвасабляла сабою цноту і чысціню. Да таго ж яе здымачны касцюм ідэальна садзейнічаў такому ўражанню: блакітны берэцік, белая блузка-матроска, строгая сіняя спадніца, белыя шкарпэткі і парусінавыя туфлікі ў колер берэціка, нарэшце скрыпічны футарал. Уся гераіня была такая ладненькая, вясёленькая, крыху наіўная... Студэнту прыначылі разам з іншай масоўкай увасабляць удзячных слухачоў чароўнай скрыпачкі.

Граць на скрыпцы актрыска не ўмела. Кашэчыя гукі, якія яна здабывала з беднага інструмента, цяжка было назваць музыкай. Але Студэнт пляскаў у ладкі на поўным сур'ёзе. Спадабалася яму і тое, як незалежна кіўнула гераіня рэжысёру пасля заканчэння здымак і лёгкай хадою накіравалася ў пакойчык для артыстаў. Студэнт, як свой чалавек, пашыбаваў следам.

У пакойчыку, як заўсёды, было страшэнна накурана. Чалавек дзесяць, мужчыны і жанчыны, размаўлялі перабольшана гучнымі галасамі, залівіста смяяліся, прычым вочы іх заставаліся сур'ёзнымі і холадна назіралі рэакцыю субяседніка. Студэнт прысеў на падваконне, нехта адразу папрасіў у яго прыкурыць. Але ўвага студэнта была цалкам скіраваная на яго Даму. Бо яна была тут: напаўляжала ў крэсле, прыстроіўшы гладкія стройныя ножкі ў белых шкарпэтках на спінку другога крэсла. Прычым на гэтым другім крэсле сядзеў сярэдніх гадоў кіношнік у джынсавым строі і час ад часу пагладжваў ножкі артыстачкі, адпускаючы даволі салёныя кампліменты. Артыстачка рагатала, задзірліва адкідаючы галаву з блакітным берэцікам — трымаўся, як прыклееены, і паміж моцнымі зацяжкамі адказвала патокам найбруднейшай лаянкі. Словы, якіх Студэнт з прычыны недасканалага выхавання нават не ўсе ведаў, зляталі з ружовых вуснаў лёгка і нязмушана, быццам гімназістка

пачатку стагоддзя цытавала Ігара Севяраніна. Чамусьці Студэнту захацелася заплакаць. Хаця якая на тое магла б быць прычына? Няўжо дзеці і пасербы сучаснага мастацтва здольныя расчароўвацца і плакаць?..

Перапынак скончыўся. Гераіня апусціла бліскучыя ножкі на зашмальцаваную падлогу, раздушыла недакурак у сіняй шкляной попельніцы, падобнай на расплясканую чарніліцу, і пайшла мучыць скрыпку.

Студэнт ведаў на кінастудыі ўсе ходы-выхады, і непрыкметна сышоў пад травеньскае сонца, не такое яркае, як пражэктары ў павільёне, затое яго ніхто не мог уключаць, выключаць, прыгашваць або захінаць фільтрамі, каб атрымаць «светлавыя эфекты»...

Праз месяц Студэнта ў першы раз адлічылі з інстытута. Фільм выйшаў на экраны, узяў належную колькасць прызоў на ўнутрысістэмных дзялёжках і сышоў у небыццё.

*Іван Сяргеевіч*

Запаў у памяць зусім нязначны эпізод. Здымалі фільм пра падзеі 20-х гадоў. Недзе ў Вілейскім раёне знайшлі чыгуначную станцыю са старым даваенным вакзальчыкам, прыгналі туды музейны паравоз, некалькі вагонаў і — дабіты студыйны аўтобус з масоўкай (кіношнікі ездзяць толькі на «рафіках»).

Цягнік пад’язджаў да станцыі са страшэнным скрыгатам і дымам, як паранены цмок, а масоўка павінна была хадзіць па пероне і ўвасабляць сустракаючых, праваджаючых і ад’язджаючых. Рэжысёр паклікаў мажнага, з бабскім азызлым тварам пажылога мужчыну:

— Іван Сяргеевіч, прайдзіся!

Мужчына падхапіў рэквізітны клуначак, дачакаўся каманды і пайшоў па пероне няспешнай, у развалку, хадою немаладога стамлёнага селяніна. Ён выглядаў настолькі натуральна, што астатнія ўдзельнікі масоўкі выглядалі як заведзеныя лялькі з механічнымі рухамі і дзіка напружанымі тварамі.

Але Іван Сяргеевіч акцёрам не быў. І нават ніколі «на акцёра» не вучыўся. А быў ён капітанам у адстаўцы і ўсё жыццё праслужыў у інтэнданцкіх часцях. Цяпер жа зрабіўся Іван Сяргеевіч заслужаным масоўшчыкам. У кожных здымках ён не проста «ўдзельнічаў», а іграў ролю. Калі яму не даручалі нічога канкрэтнага, сам прыдумляў сабе вобраз і па-майстэрску ўвасабляў. Усе кіношнікі, ад рэжысёра да памрэжа, ведалі Івана Сяргеевіча і любілі «натуралізаваць» ім кадр.

Нездарма Іван Сяргеевіч прыкіпеў да кіношнай справы. Быў у яго натуры дагэтуль прыціснуты вайсковым уставам, а цяпер выпушчаны на волю чорцік. Не прапускаў Іван Сяргеевіч ніводнай дзяўчынкі з масоўкі, частаваў цукерачкамі, ціскаў і цалаваў на правах «дзядулі». Любіў падкаціцца і да жанчын старэйшых. А з сабою, між іншым, заўсёды меў ладны харчовы запас, падрыхтаваць які можа толькі добрая жонка — запечаную ў фальзе курыцу, гарачыя бутэрброды-тарталеткі, хатнія булачкі...

Неяк здымалі на «Партызанфільме» (такую мянушку далі мясцовай кінастудыі ў блізкім замежжы) чарговы фільм пра вайну. У касцюмернай размяркоўвалі «ролі» сярод масоўкі. Хтосьці мусіў быць партызанам, хтось — савецкім салдатам-акружэнцам, хтось — нямецкім салдатам... Івану Сяргеевічу, як віднаму мужчыну з ваеннай выпраўкай, надалі званне афіцэра СС. Ён звыкла зацягнуў папругу, зашпіліў пад тлустым адвіслым падбароддзем жорсткі, як кардон, каўнер і бадзёрым крокам пашыбаваў па калідорах студыі...

Здымкі адбываліся «на натуры». Непадалёк ад горада выбудавалі цэлы партызанскі гарадок — зямлянкі, акопы, а таксама «папялішчы і руіны». Прыгналі туды і сапраўдны танк з бліжэйшай вайсковай часці. Танк замаскавалі пад нямецкі, а трох худзенькіх бялявых хлопчыкаў, што абслугоўвалі яго, пад нямецкіх салдат. Жаласныя такія немцы атрымаліся... Іван Сяргеевіч, як чалавек ваенны, адразу пацягнуўся да танкістаў, узяў іх, так бы мовіць, пад сваю аўтарытэтную каманду. Між тым час ішоў, здымкі не пачыналіся, а рэжысёр нешта гаварыў пра цудоўнае вячаровае асвятленне і заходзячае сонца.

Надышоў палудзень спякотнага ліпеньскага дня. І трэба ж было такому здарыцца, што менавіта ў гэты дзень Іван Сяргеевіч прыйшоў на здымкі без заўсёднай «сабойкі». Уважлівы назіральнік мог бы таксама заўважыць нешта новае ў аблічны заслужанага масоўшчыка — некалькі паралельных драпін каля парослага сівым воласам вуха. Масоўка блукала па бліжэйшых лясочках, кіношнікі часткова замкнуліся ў маленькім павільёне, часткова загаралі... Будан, у якім павінна была працаваць паходная студыйная сталоўка, стаяла замкнёная на бліскучы новенькі замок. Салдацікі пры танку, зразумела ж, маглі толькі коўтаць сліну і не насмельваліся нават адысціся ад сваёй баявой машыны, каб сарваць якую ягадзіну. Калі Івана Сяргеевіча пачала пакідаць звычайная жыццярадаснасць, ён, як чалавек ваенны і да таго ж фактычны кіношнік, вырашыў

дзейнічаць і хуценька шляхам размоў з тутэйшымі непаўналетнімі жыхарамі, што звыкла пазбягаліся глядзець, як здымаюць кіно, зрабіў рэкагнасцыроўку на мясцовасці. Танк сціпла хаваўся на ўскрайку лясочка, у цені дрэў. Іван Сяргеевіч на бягу раўнуў распранутым да пояса танкістам-дахадзягам, што панылa абселі размаляваную браню:

— Гатоўнасць нумар адзін! Па машынах!

Хлопцы, пасля невялікага тлумачэння баявога задання, хуценька апранулі агідную варожую форму і занялі адпаведныя месцы ў танку. Іван Сяргеевіч прыстроіўся збоку, на брані, адной рукой трымаючыся за нагрэтае жалеза, а другой прытрымліваючы велікаватую фуражку з чэрапам і арлом.

— Паехалі!

Да невялічкага хутара на ўскрайку радавой савецкай вёскі пачатку васьмідзясятых гадоў са страшэнным рэвам падкаціў танк са свастыкай на баку і фашысцкім афіцэрам на брані. Афіцэр саскочыў на зямлю, адным ударам бліскучага бота адчыніў варотцы і вальяжным крокам увайшоў на двор. На акне хаты матануліся фіранкі, і на ганак выскачыла прыгорбленая бабулька, якая адразу пачала аддаваць зямныя паклоны. Эсэсавец у хату, аднак, не пайшоў, але загэргэкаў да болю знаёмае:

— Матка! Яйка, сала, шнэль!

Паўтараць не давялося. Сітуацыя была адназначнай. Бабулька, не ўдаючыся ў філасофскія роздумы пра паралельнасць сусветаў і ўзаемапранікненне часавых зрэзаў напакавала ладны клунак і з паклонам падала праклятаму акупанту. Афіцэр схапіў здабычу і са словамі «Гут, гут, аўфідэрзэйн, фрау!» ускочыў на танк, які адразу ж рушыў з месца.

Толькі калі на дарозе аселі апошнія клубы пылу, бабулька кінулася бегчы ў вёску да сваёй найвышэйшай інстанцыі — старшыні калгаса.

Прыкры выпадак удалося замяць. У ахвяры папрасілі прабачэння, заплацілі ўжо не ведаю з чыёй кішэні — за канфіскаванае. З Іванам Сяргеевічам пагаварыў сам рэжысёр — праўда, размова атрымалася нейкая несур’ёзная... А што зрабілі з галоднымі танкістамі — ведае толькі вайсковае кіраўніцтва. А тое, што датычыць вайсковага кіраўніцтва, як вядома, ваенная тайна...

### *Лапуля*

Такія прыгожыя дзяўчаты сустракаюцца толькі ў калідорах кінастудый. Іх немагчыма ўявіць з банальнай хімічнай завіўкай або ў

чарзе за каўбасой. Здаецца, дзьмухнеш на такую, і яна паляціць у расчыненае акно, як празрыстая шаргатлівая папера для кветак... Жанчыны пры першым поглядзе на падобную прыгажуню інстынктыўна думаюць «Дурніца», а мужчыны гэтак жа інстынктыўна — «Распусніца».

Можа быць, Ліліяна і не была дурніцай — па яе агромністых, напалову лялечнага тварыку, вачах немагчыма было вызначыць узровень яе інтэлекту. На здымачнай пляцоўцы Ліліяна апынулася адразу пасля заканчэння школы. У інстытут або якую вучэльню прыгажуня і не спрабавала паступаць — навошта? Перад вачыма заўсёды быў прыклад рэжысёрскіх жонак і каханак, якія атрымлівалі галоўныя ролі, якіх улагоджвалі, як каралеў, і якім відавочна не спатрэбілася праходзіць творчыя конкурсы... Бацькі ўладкавалі Ліліяну некуды лабаранткай, але, зразумела, яе асноўнай прафесіяй і марай было кіно. Ліліяну часта запрашалі быць памрэжам — дапамагаць бабульцы-загадчыцы масоўкі. Дзяўчына збірала ў ахвочых рамантычнага заробку пашпарты, перапісвала дадзеныя адтуль у спецыяльныя табелі, пасля выдавала квіткі на аплату за ўдзел у масоўцы... Масцітыя кіношнікі ласкава ўсміхаліся Ліліяне, але спакусных прапаноў чамусьці не рабілі...

Нарэшце на здымках сатырычна-фантастычнага фільма Лапулі пашанцавала: ёй прапанавалі эпізадычную ролю. У павільёне збудавалі з квадратных упаковак ад яек «лабараторыю сусветна вядомага вучонага», які вынайшаў эліксір бессмяротнасці. Праз увесь павільён у «лабараторыю» стаяла «чарга» за названым эліксірам. Ліліяна павінна была сыграць сучасную піжонку, якая ў абдымку са сваім піжонам падыходзіць да чаргі і кажа: «А можа і нам стаць?», на што хлопец адпускаў сваю сацыяльна завостраную рэпліку, зместам «на што нам гэта трэба». Вось, у прынцыпе, і ўся роля. Партнёрам Ліліяны мусіў быць малады высокі кіношнік у белых штанах. Ён нейкі час папалохаў Ліліяну спецыяльнымі акцёрскімі практыкаваннямі для голасу, гучна прамаўляючы над яе ружовым вушкам свае «уі-оі», «бо-бэ-бі-бе», так што Ліліяне было страшэнна няёмка. Пасля кіношнік па-гаспадарску абняў масовачную Лапулю, і пачалася невялічкая рэпетыцыя. Лапуля страшэнна хвалявалася, хаця яе вялізныя вочы па-ранейшаму нічога не адлюстроўвалі, да таго ж іх прыкрывалі выдадзеныя касцюмершай цёмныя акуляры. Джынсікі спакусна абцягвалі адпаведныя Лапуліны месцы, аднак вымаўленне адзінага даверанага сказа ніяк не ладзілася. Рэжысёр зноў і зноў прымушаў

Лапулю паўтараць сакральнае: «А можа і нам стаць?» Лапуля старалася, як магла. То падвышала голас у канцы фразы да хлапечага дысканта, то вымаўляла словы з млявым прыдыханнем, то міла расцягвала іх, але рэжысёр чамусьці нерваваўся і ўздыхаў, а партнёр пагладжваў Лапулю па плечуку і лагодна прыгаворваў:

— Нічога, Лапуленька, у тваім выпадку словы — не галоўнае...

Нарэшце рэжысёр махнуў рукой:

— Сыдзе... Не такое сыходзіла...

Вымавіўшы сваю рэпліку перад камерай, Ліліяна адчула незвычайную палёгку і радаснае ўзрушэнне. Усе наступныя дні здымак праляцелі ў ружовым тумане. Ліліяна адчувала сябе зусім «сваёй», прынятай у вузкае кіношнае кола. Адзін з асістэнтаў рэжысёра нават двойчы праводзіў яе дадому, але, пачуўшы, што Лапулі яшчэ няма васямнаццаці, неяк засумаваў і аддаліўся.

Ліліяна выпісвала квіткі або проста блыталася па студыі, стараючыся найчасцей сутыкацца з рэжысёрам. Касцюмершы, грымёршы ды іншыя кіношныя жанчыны ўпотай ненавідзелі Лапулю і ніколі не запрашалі ў перапынках на каву ці гарбату, хаця самі заўсёды збіраліся гаманлівымі купкамі вакол тэрмасаў і кававарак. Асвятляльнікі ды іншыя рабацягі выяўлялі да Лапулі інтарэс, але не маглі разлічваць на аналагічнае пачуццё з яе боку. Лапуля мецціла вышэй! Пачатак кар'еры быў бліскучы, і рэжысёр ужо два разы ўшчыкнуў яе пры «выпадковых» сустрэчах.

Але здымкі закончыліся, а ў жыцці Лапулі нічога не змянілася. На агучванне яе нават не запрасілі, а ў цітрах пераблыталі першую літару прозвішча. Да таго ж рэжысёр аказаўся жанатым язвеннікам.

Колькі Лапуля болей ні хадзіла на здымкі, «на эпізод» яе не запрашалі. Чарговы асістэнт рэжысёра праводзіў яе да дому, каб пасля шматзначна апавядаць у студыйнай курылцы пра тое, чаго не было. А Ліліяна любіла заставацца адна ў касцюмернай і ўсё прымервала на сябе чужыя касцюмы і парыкі, надаючы свайму вытанчанаму тварыку тыя выразы, якія маглі б на ім з'явіцца ў тых сітуацыях, якія з Ліліянай ніколі не адбываліся...

Ах, мастацтва, мастацтва... Ты ў жыцці не што іншае, як белыя пялёсткі вакол брудна-зялёнай кветкавай сарцавіны з будучым насеннем. Па сутнасці, значэнне мае толькі гэтая някідкая сарцавіна. А пялёсткі — што яны? Забава для дурных матылёў і летуценных дзяцей чалавечых... Аздоба жыцця... І як рэдка — твайго...

*Эпілог*

Жыццё складаецца са статыстаў. «Зоркі», воляю лёсу або сілай уласнага таленту выштурхнутыя з агульнай масы наверх, як бурбалкі ў вары, належаць ужо не гэтаму жыццю. Яны, хто адразу, хто — пакрысе, хто — лёгка, хто — праз перашкоды, усплываюць да светлага праёму наверсе і — порх! — іх ужо няма, толькі срэбны след на паверхні ды лёгкія хвалі... А астатнія — дробныя малекулы, розныя па сваіх вартасцях, моцна счэпленыя няўмольным узаемным прыцягненнем і назаўжды пакараныя ўтрапёным ўзаемным адштурхоўваннем? Хіба ім не хочацца ў тое светлае, што наверсе? Але вар жыцця кіпіць, шпурляе кожнага то ўверх, то ўніз, балюча стукае аб цвёрдыя грані рэальнасці, прыціскае да самага распаленага дна... А яны ўсё роўна прабіраюцца наверх — маленькія людзі з неўсвядомленай прагай душы, складваюцца ў віры, адштурхоўваюць адзін аднаго, прылепліваюцца адзін да аднаго, і мараць, і пішуць па начах нязграбныя вершы, і купаюцца ў гарадскіх фантанах, таму што там — нельга, і нараджаюць дзяцей, каб навучыць іх таму, што не ўмеюць самі — усплываць да святла...

Мігціць экран, створаны з маленькіх цёмных і светлых кропачак, быццам таксама віруе...

Я люблю вас, людзі масоўкі!

*1995*

## Адзінка

*Фантастычнае апавяданне*

Вядзьмак сядзіць на лаўцы каля свайго пад’езда. У руках — кульбачка, твар — у цені вялізнага капелюша, ногі — у залапленых валёнках з галёшамі. Нават пад’ездныя п’яніцы даўно страцілі надзею займець ад гэтага глухога жабрака нейкую капейчыну — хоць выпрошвалі на «апахмелку» і ў скупечы-пракурора з першага паверха, і ў высокамаральнай піянерважатай з пятага. Вядзьмак адсутным позіркам глядзіць у сціснутую шматпавярховікамі далеч, і бліскучыя зялёныя мухі грэюцца на ягоным шырокім капелюшы.

Хоць Вядзьмак можа вокамгнена зрабіцца падобным вось да таго бізнесмена, што вылазіць з перламутравага «Мерсэдэса» ў швейцарскім плашчы, белай кашулі і гальштуку за сорак «баксаў»... Нічога не варта Ведзьмаку нарабіць сабе цэлы мех гэтых «баксаў» — як некалі

рабіў залатыя дынары... Дык то ж было золата! А гэтыя паперкі... Цьху! Збяднеў свет, здрабнеў... І не адчувае больш Вядзьмак тае дзёрзкай, п’янкой прагі жыцця, якая штурхала яго на самыя неверагодныя ўчынкі і здзяйсненні і аднойчы аддала ва ўладу таго, чыё імя неназыванае... Але гэты той, Уладар Цемры, нічога дарэмна не дае... Ён падзяліўся з Ведзьмаком сваёю ўладаю, але ўзамен пасяліў у яго душы пустэчу, страшную, халодную, безнадзейную... Якая ўсё пашыралася і пашыралася... І ўрэшце затапіла ўсю ведзьмакову істоту... Улада заставалася. Але Вядзьмак ведаў — варта яму ўжыць яе — і ўзрасце смяротны холад у душы. І наблізіцца на адпаведную адлегласць Яна... Смерць...

Да смерці Вядзьмак ставіцца, як чалавек з зубным болем да дантыста. З аднаго боку, ён ведае, што з візітам да доктара скончацца яго пакуты, але з другога боку, як мага далей адцягвае гэты візіт, баючыся новага непазбежнага і вострага болю... Як позна разумееш, што ў жыцці ўсё звязанае і за ўсё трэба расплачвацца. Свет — сістэма спалучаных сасудаў. Калі адвяргаеш дабро, яго месца займае зло... А пасля, калі зло адступае, дабро, якое вернецца на сваё месца, будзе, як палючы агонь. І будзе паліць, пракаляць грэшную душу, пакуль не выпаліць дарэшты праказу зла, усе язвы і пухліны. А калі хвароба сталася невылечнай, і метастазы зла працялі ўсю душу? Вечны агонь...

Вядзьмак прыплюшчвае выцвілыя вочы. Не, лепш сядзець пад ласкавым сонейкам на аблупленай лаўцы і адчуваць сябе жывым...

Да суседняга пад’езда зноў пад’язджае «іншамарка». Стары павольна пераводзіць позірк на машыны, што выстраіліся ўзбоч дарогі. Поскудзь... Вядзьмак з бяссільнай злосцю і бясконцай нудою глядзіць на нумарную шыльдачку бліжэйшай машыны: «МІГ 99-99». Дзевяноста дзевяць — дзевяноста дзевяць... Нумар недастатковасці. Ведзьмаку страшэнна хочацца дадаць да яго адзінку. Ну што б ад гэтага змянілася ў свеце? Пракляты свет... Пракляты двор... Праклятая машына... Пракляты нумар... Як быццам нехта не прычыніў дзверы, і з вузкай шчыліны б’е агідны ледзяны скразняк і вярэдзіць, і не дае адпачыць...

І Вядзьмак рашаецца. Намаганне волі нязначнае, як змірг — нават зялёныя мухі не ўзлятаюць з капелюша. І вось чорныя дзявяткі бліскучымі тлустымі п’яўкамі распростваюцца, змыкаюць галовы з хвастамі... Першая сціскаецца, скарачаецца... На акуратнай шыльдачцы — урачыстае і дасканалае 10-00. Але сіла, якая сышла ад

Ведзьмака, застаялая, цёмная, няўрымсная сіла, не можа сканцэнтравацца і закончыцца ў адной — гэтай — кропцы... Як кругі ад кінутага ў ваду каменя, разыходзіцца яна па свеце і — да лічбаў нумароў усіх аўтамабіляў у свеце дадаецца адзінка... Усяго толькі адзінка... І ўсяго толькі на нумарах аўтамабіляў.

Ускраіна горада. Стандартны шматпавярховы мікрараён. Два міліцыянты спыняюць перламутравыя «мерсэдэсы». Дзень спякотны, і даішнікі выбралі месца непадалёк ад кіёска з квасам. Машыны праязджаюць рэдка, асабліва «мерсэдэсы». Нарэшце паказваецца адзін... Праўда, зусім не перламутравы.

— Ану, тармазнём...

Уладальнік машыны, лысаваты дзядзька ў сіняй майцы з надпісам «Мустанг» працягвае ўладарам дарогі адпаведныя дакументы.

— Звычайная праверка... Не хвалюйцеся.— Малады даішнік абыякава разглядае дакументы, машыну... Раптам позірк яго ўсвідроўваецца ў тэхпашпарт так, што шафёр, яшчэ не ведаючы, што здарылася, напружваецца, як перад ударам.

— Не ваша машына.

— Прабачце... Тут нейкая памылка... Я на гэтай машыне ўжо чатыры гады езджу. Усе ведаюць... і дакументы...

— Вось-вось, дакументы... У тэхпашпарце стаіць нумар сорак дзевяць — дзевятнаццаць, а на машыне які?

Шафёр выскоквае з машыны і няўцямна аглядае сваё ўладанне: 49-20. Ён працірае вочы, кратае рукой нумар, аббягае вакол машыны... Але хіба можна паверыць у ягонае мармытанне пра хуліганаў, якія толькі што, на хаду, памянялі шыльды?

— Спадар міліцыянт! На маёй машыне толькі што хуліганы памянялі нумар! — а гэта ўжо голас збоку. Чырванатвары дзядзька ў кашулі-«каўбойцы», сапраўдны «шафяруга» з выгляду, ляціць да дарожных уладаў з-за кіёска з квасам... Старэйшы з даішнікаў інстынктыўна паварочваецца да службовай «тачкі»...

— Стась! Глянь на нумар нашай машыны! — міліцыянт чамусьці гаворыць шэптам, нібы баіцца наклікаць большыя няшчасці.

Праз паўгадзіны органы ахову правапарадку віруюць. Процьма затрыманых з-за падазрэння ва ўгоне, бясконцая колькасць заяў і тэлефонных званкоў пра хуліганскую змену нумароў... У атмасферы агульнай разгубленасці заўважаецца заканамернасць — цяперашнія лічбы нумароў на адзінку большыя за тыя, што былі на скрадзеных...

Навіна збунтоўвае вуліцы. Аўтааматары кідаюцца да гаражоў. Вартаўнікі аўтастаянак зачыняюцца ў службовых памяшканнях пад аховай сабак. Шафёры адмаўляюцца выязджаць з падмененымі нумарамі. Адразу некалькі рэлігійных сектаў аб'яўляюць, што таямнічая з'ява — знак канца свету, а дзве секты абвяшчаюць аўтамабілі інструментамі д'ябла, што вядуць да пагібелі ўсё чалавецтва. Ва ўлётках, якія раздаюцца на аўтобусных прыпынках і ў падземных пераходах, прыводзяцца жахлівыя факты пра аварыі на дарогах і страхотлівыя лічбы загінуўшых людзей... Там-сям успыхваюць вогнішчы, чуваць выбухі... Гэта самадзейныя інквізітары паляць «спараджэнні д'ябла». Транспартная сувязь перарываецца. Бо нянавісць, народжаная страхам і невядомасцю, перакідваецца на ні ў чым не павінныя тралейбусы, аўтобусы і трамваі... Уваходы ў метро кропяць свянцонай вадой і загароджваюць збітымі з дошак крыжамі.

Людзі кідаюцца ў крамы, на апошняе скупляюць прадукты, запалкі, мыла... Пасля ніхто нічога не купляе — а проста бярэ, што зможа. Уздоўж вуліц зеўраюць пабітыя вітрыны, сцелецца смярдзючы дым, чуюцца выбухі... Пад нагамі самотных прахожых храбусціць пабітае шкло, рассыпаныя крупы, нечыя акуляры... Урэшце ўвасабленнем зла лічыцца і падлягае знішчэнню само кола, і ўвогуле любы механізм...

Тое ж адбываецца ў іншых краінах. Больш-менш пазбеглі ўсеагульнага вар'яцтва толькі блаславёныя месцы, дзе тубыльцы звыклі перасоўвацца з дапамогай аленяў, вярблюдаў ды тым жа спосабам, што і прабацька Адам...

Але той час, якога ніхто не павінен ведаць, як сказана ў Бібліі, яшчэ не настаў. Складаны механізм быў сапсаваны недарэчным скрананнем аднаго шрубчыка... Вялікі Механік і Канструктар Сусвету прыбраў драбніцу, і зноў закруціліся ўсе колцы і спіралі, і Час Даданай Адзінкі быў адрэзаны і выкінуты з жыцця Сусвету, як выразаюць з магнітафоннай стужкі змяты кавалак. Стужка склейваецца, касета ўкладваецца ў магнітафон, націскаецца адпаведная клавіша...

Зло вярнулася ў кропку сыходу, як джын у бутэльку, непамерна памножанае, сканцэнтраванае і смертаноснае...

У двары шэрага пяціпавярховіка стаяць некалькі аўтамабіляў. Дзеці бегаюць каля іх, зазіраюць у бакавыя люстэркі... Маленькая дзяўчынка ў паласатых шортах выносіць з пад'езда вялікае вядро

смецця, трымаючы абедзвюма рукамі чорнае пластмасавае вусілка, дыбае ў бок смеццевых кантэйнераў... Высокі хударлявы алкаголік у пінжаку на голае цела спыняецца перад старым, які сядзіць на лаўцы перад пад'ездам у вялікім капелюшы, у валёнках з галёшамі...

— Слухай, стары, ну будзь ты хоць раз чалавекам...— бубніць п'яніца.— Ну дай хоць на піва... Я табе заўтра вярну, чуеш ты, пень стары?

П'яніца пхае старога ў плячо. Стары, як лялька, бокам валіцца на лаўку, капялюш коціцца па зямлі, і зялёныя мухі абурана кружацца над ім.

— Ё-мае...— перапалохана мармыча п'яніца, адступае назад, спатыкаецца аб кульбачку, якая выпала з рук старога, і таксама падае, разумеючы адно — гэты ўжо яму не пазычыць...

## Ісачскія імпрэсіі

*1. На самай высокай галінцы сасны...*

На самай высокай галінцы сасны сядзіць Лесавічок.

Ля вяршаліны ігліца мяккая, маладзенькая, нібыта пакрытая воскам... І сама вяршаліна, як загарэлая дзявочая шчака — бурштынавая, гладкая... Лесавік пагойдваецца на сваёй галінцы ў свеце аблачынна-сонечным, хвойна-карункавым, і глядзіць на мяне праз квадратнае шкло стандартнага акна Дома творчасці пісьменнікаў. У «нумары» — задуха, а там, дзе сядзіць Лесавічок, ветрык...

Лясны дух выглядае незвычайна. На ім не жывапісныя лахманы, не простая кашуля — а зграбны фрак, і дзве чорныя фалды звісаюць з галінкі, як падвоены пірацкі сцяжок...

Што прымусіла Лесавіка так змяніць свой воблік? Хіба суседства з гэтым Домам творчасці? Чорныя фалды пагрозна тапырацца, як вусы чорных сярэднеазіяцкіх жукоў з калекцыі аднаго нашага знаёмага біёлага. Гаспадар калекцыі — бялявы анемічны інтэлігент, а яго ўлюбёнцы — сапраўдныя пачварыны з растапыранымі калючымі лапкамі. Экспанаты смярдзяць фармалінам, іх чорныя рыцарскія латы працяты бязлітаснымі дзідамі-шпількамі. Але гэта воі — нават мёртвыя, закліканыя ў вялікі крыжовы паход Маці-Прыроды супраць паганцаў-людзей і іх паганай цывілізацыі...

Мусібыць, чорны фрак Лесавіка на сасне — таксама аб'яўленне вайны нам, пыхлівым слепакам? Бо рэзкая змена знешняга вобліку, прадпісанага прыродай і «сацыяльным становішчам» — ці не ёсць гэта знак аб'яўлення вайны свету? Так падманутая жанчына бяжыць у цырульню з крыкам «Падстрыгчы, завіць, пафарбаваць»... Так мамчын сынок-вундэркінд, вырасшы з аксамітных касцюмчыкаў, улазіць у драны джынсовы строй, перастае стрыгчыся і запіхвае у самы далёкі кут антрэсоляў скрыпачку і ангельскі слоўнік... Дый кожны, перш чым несці ў «высокія» кабінеты прашэнне-хадайніцтва-заяву, апранае касцюмчык, гальштук, новыя шкарпэткі і, магчыма, нават ужывае новую парфуму...

Лесавічок у фраку! З кім ты збіраешся ваяваць? Са мной? Хіба я парушыла твой спакой, ссекла сонечныя дрэвы, што раслі на месцы гэтай будыніны, прыдушыла духмяную траву плітамі бетонных дарожак і кожны вечар перашкаджаю зязюлям падкладаць яйкі ў чужыя гнёзды дыскатэчным «Прилетай скорей, пташечка моя...».

Лесавічок пагойдваецца на самай высокай галінцы сасны. У промнях вечаровага сонца паблісквае яго белая манішка. Даражэнькі, я б таксама з большым задавальненнем пагойдвалася б з табой у сонечна-карункавай вышыні, чым сядзець у душным «нумары» (не пакоі), за сталом, абшарпаным сотнямі локцяў, у шуфлядзе якога папярэднія жыхары забыліся выпацканую змятую цыгарэту... А можа, ты не Лесавічок, а Дамавік гэтага Дома творчасці? Што ж прымусіла цябе, небараку, пакінуць яго муры? Ці ты проста вырашыў падыхаць свежым лясным паветрам?

Галінка, як дырыжорская палачка, адмервае мудрагелісты такт Вечнай сімфоніі. Аблачынка зачапілася за юныя хваінкі, спрабуючы вырвацца на прастору, адчайна круціцца на месцы, звіваецца бязважкім ззяючым целам, расцягваецца ў небе... Ну, вось, адчапілася, паляцела з ветрыкам у абдоймах... А чорна-белы Лесавік хоць бы варухнуўся... Але — не — хістануліся фалды шыкоўнага фрака, узняліся шырокія рукавы...

Фр-р-р-р...

Сарока, сарока... Дзе была? Далёка...

Дарэчы, той аматар жукоў яшчэ і арнітолаг... А перад жаніцьбай на маёй сяброўцы прабіў сабе нагу, наступіўшы на ласіныя рогі, зваленыя у вітальні...

Сасна пагойдвае карункавай вершалінай, хапае дурненькія аблачынкі за доўгія залацістыя спадніцы.

Па бетонных дарожках прагульваюцца бізнесмены ў шортах. Яны ідуць з лазні, схадзіць у якую я не магу з прычыны «адсутнасці наяўнасці» грошай. І ўсё ў акаляючым свеце мае адпаведную шпільку з адпаведнай шыльдачкай: «Від такі-гэткі... Жыць мусіць тамака і тамака... І больш нідзе». Сарока лётае з дрэва на дрэва і нават плётак не носіць на сваім доўгім хвасце... І не патрэбная тут ні я, ні тое, што я пішу, ні тое, што буду пісаць...

І ўсё-ткі — я пакідаю за сабой «права на эмоцыю», як аднойчы сказала з трыбуны адна энергічная паэтка.

Я маю права на эмоцыю. І на гэты пісьмовы стол. І на гэты лес, і на гэтае неба. І на Лесавічка на самай высокай галінцы сасны.

І — Бог ведае — можа, гэтае маё права і ёсць адзіная вартая каштоўнасць у гэтых сценах?

*2. Ку-ку*

*Казка, расказаная днём у Доме творчасці пісьменнікаў «Іслач».*

Князь быў хуткі на расправу.

Апошняе дрыжачае «ку-ку» яшчэ згасала між бухматых лап яліны, а няшчасны ляснік, што мусіў па загадзе ўладара імітаваць зязюлю, зваліўся на пышныя папаратнікі з гаспадарскай куляй у халопскім сэрцы... Сэрца тое сціснулася ад жаху амаль да кропкі, але князь патрапіў усё роўна — бо страх прыцягвае смерць...

Не забяспечыў паляванне дзічынай — рабіся дзічынай сам... Лагічна.

Князь не быў злы. У князя была хворая пячонка і каменні ў мачавым пузыры. Канешне, гэта яшчэ не падставы, каб забіваць, хто ні трапіўся, але, калі баліць пячонка, націскаць на курок нашмат лягчэй...

Ніводзін з княжацкае світы не здзівіўся і не абурыўся. Цела забітага ўзвалілі на каня, гэтак жа, як сам ляснік узвальваў забітых ім казуль і лісіц... Паляванне з’ехала, і ніхто не заўважыў, што пад сасной, на прымятай папараці, засталася бессмяротная існасць нябожчыка, у прастамоўі называемая душой. Сэрца небаракі, якое падчас мусовага кування сціснулася ад смяротнага жаху да памераў кулі, выбілася стрэлам з фізічнага цела. І цяпер ляснік быў ні жывы ні мёртвы. Спалоханая кропка пульсавала ў нябачнай плоці, як шэры начны матыль, не даючы душы канчаткова развітацца з гэтым непрыветным светам.

Да істоты, што яшчэ нядаўна была княжацкім лесніком, вярталася свядомасць. Найперш ён (для зручнасці будзем па-ранейшаму называць «гэта» лесніком) паспрабаваў заплюшчыць вочы — сляпіла сонца, сеючы праменні праз скрыжаванні яловых лапак... Але зразумеў, што вочы ўвесь час былі заплюшчаныя — проста вейкі зрабіліся празрыстыя... Ляснік варухнуўся. Рукі і ногі, несумненна, былі, але нязвыкла лёгкія — нібы з кудзелі... Небарака паспрабаваў нешта вымавіць, азвацца, як азываюцца людзі да рэальнасці падчас начных жахаў, каб прачнуцца... Але з празрыстых вуснаў вылецела толькі хрыплае дрыжачае «ку-ку»...

Прабегла лісічка, маладзенькая, сонечна-рудзенькая, паглядзела праз лесніка вочкамі-чарнічкамі... Праляцеў матылёк-лімоннік, за ім — яшчэ адзін, закружыліся разам у таямнічым вальсе кахання... Дзяцел застукаў у ствол яліны, цярушачы на цёмныя папараці пылападобнае пілавінне... Божы свет быў прыўкрасны. Але ўсю істоту лесніка напаўняў застылы жах — трапятаў недзе ў грудзях, расплываўся хвалямі...

«Ку-ку! Ку-ку! — Калі б у гэтым лесе існавалі прывіды, яны па другому разу паўміралі б са смеху, назіраючы, як празрыстая істота, недарэчна і адчайна махаючы рукамі, узнялася над папараццю і паплыла-пайшла, ківаючыся ў розныя бакі — не раўнуючы, муха у малаку... — Ку-ку!»

І лес быў бы пазбаўлены прывідаў, што, несумненна, паспрыяла б усталёўванню традыцый Асветніцтва ў тутэйшых паселішчах...

Але і прывідаў тут не было, і традыцыі Асветніцтва ў тутэйшых сялян не прыжываліся. Мусібыць, таму, што ў мясцовага князя была хворая пячонка?

А князь адпачываў на ўтульнай канапе ў ружова-сінія палосы. Як чалавек, па сутнасці, незлы, ён распарадзіўся добра забяспечыць сям'ю забітага лесніка і ўзяць яго старэйшага сына ў дом для навучання на прыслугу. Цяпер сумленне князя спакойна спала... Затое заварушыліся каменьчыкі ў мачавым пузыры... Князь пацягнуўся за шклянкай з лекавым адварам...

— Ку-ку!

За расчыненым акном — ні дрэўца на паўвярсты (князь страшэнна баяўся, замахаў на сваю асобу і загадаў высекчы ўсё вышэй травы на тэрыторыі палаца, каб праглядаўся кожны вяршок). Тым не менш «ку-ку» гучала зусім блізка, вось тут, перад акном...

— Ку-ку!

Хіба зязюля можа так куваць?

— Ку-ку!

«Пане Езус!» Князь перастаў намацваць босымі нагамі пантофлі і выскачыў у калідор як быў — басаnож, у непадвязаным халаце, а ўжо выраз твару... Слугі, што пільнавалі княжацкіх загадаў ля дзвярэй апачывальні, у жаху пападалі на калені...

Так, не лёс быў адпачыць у той дзень княжацкаму сумленню. Дый на наступны дзень — таксама... Дзе б ні хаваўся князь — яго даганяла хрыплае «ку-ку». Слугі жагналіся, сабакі вылі, нават спешчаны падушкападобны мопс княгіні...

Апошняй кропляй, пасля якой знесла хваляй жаху княжацкую вытрымку, быў сняданак. Ніхто з сям'і не сеў за стол з гаспадаром, адзін бедны родзіч, здаецца, стрыечны дзядзька, які заўсёды аддана глядзеў у вочы кармільцу, і цяпер рабіў гэтак жа, і нават не моргаў падчас прывідных «ку-ку»...

«Падла, на спадчыну спадзяецца...» Князь гнеўна абвёў вачыма рад чыстых талерак і пустых крэслаў, адшпурнуў сурвэтку і ўскочыў з-за стала...

Лекар-немец доўга даследаваў цела лесніка. Нарэшце, выціраючы чыстай анучкаю скальпель, пан лекар выйшаў да паважна чакаючых яго аўтарытэтнага меркавання асоб і абʼявіў дзіўную рэч. У целе нябожчыка адсутнічала сэрца! Усё начынне, патрэбнае для яго працы, было на месцы, але само сэрца таямніча знікла! Праўда, там, дзе яно звычайна функцыянуе, даследчык знайшоў кулю, якую вызначыў прычынай гвалтоўнай смерці, але гэта не магло вытлумачыць паталогію...

«Ку-ку!»

Князь зʼехаў за мяжу і прадаў маёнтак. Ці чулі тыя, хто жыў там пасля, нешта незвычайнае і звышнатуральнае, невядома...

Пасля надышоў час, калі фізіёлагі і натуралісты выявілі, што ўсе нашы пачуцці спараджаюцца вібрацыямі нервовых канчаткаў і двума-трыма асноўнымі інстынктамі, сэрца ёсць мышцавы мяшок для перагонкі крыві, а душа — шкодная выдумка эксплуататарскіх класаў...

Маёнтак згарэў. Лес наблізіўся ушчыльную да папялішча, але гэта быў ужо здрабнелы, змізарнелы лес, без казуль і лісіц, не кажучы ўжо пра зуброў ды балотных рысяў. Але ўсё гэтак жа сыпаў дзяцел на цёмныя карункі папараці белую драўняную муку, а на Купалле расцвітала на імгненне і гасла пунсовая папараць-кветка, якую ніхто не шукаў... А зязюлі, беларускія багіні лёсу, лічылі і лічылі гады захопленых пабудовай цывілізацыі новага кшталту людзей...

І людзі прыйшлі сюды. Але яны не верылі ў забабоны, атрымлівалі зарплату і прэміяльныя і спадзяваліся дажыць да пенсіі. І лес ссеклі зноў. Будынак, што паўстаў на месцы панскага маёнтка, былы пан прыняў бы за вялікую стайню... Ці, зважаючы на вежу з вялікімі вітражнымі вокнамі, усыпальніцу з капліцай...

А прызначэнне будынка было самае рамантычнае. Сюды мусілі прыязджаць творчыя людзі, каб на ўлонні прыроды (дальбог, сапраўднай самадайкі, бо пускае на гэтае ўлонне ўсіх жадаючых) ствараць бессмяротныя (ці смяротныя), але цалкам літаратурныя творы.

Напачатку так і было. Пасля творчы люд змізарнеў і парадзеў, як той лес, і ў дом пачалі прыязджаць людзі творчыя адносна тых грошай, што ўмелі зарабляць...

У шыкоўным нумары з мансардай і вялізным пісьмовым сталом пасялілася тыповая сям'я новага часу — мама-цырульніца, тата — уладальнік шапіка з жавальнымі гумкамі і гумкамі іншага прызначэння, і іхні сын, які быў проста пяцігадовым дзіцянём.

Цырульніца прасавала на шырокім пісьмовым стале свае шматлікія строі, татулька-гумкавы дабрадзей хадзіў у бар па каньяк, а мілае дзіцянё душыла на шыбе вялікага акна, за якім адкрывалася цудоўная панарама сасновага лесу, розных кузюрак...

«Ку-ку!»

— Зноў гэтая ненармальная зязюля! І лётае ж пад самымі вокнамі! — абурылася цырульніца. Яна не ведала, як выглядае зязюля, і шчыра лічыла, што хрыплае «ку-ку» далятае ад бяскрыўдных шпакоў, якія сапраўды лёталі проста перад вокнамі.

«Ку-ку» жаласна гойдалася ў паветры. Паўпразрысты шэры матыль пульсаваў перад самай шыбай... Цырульніца дастала з дамскага несэсэра прыгожы балон з дэзадарантам. «Пш-ш-ш-ш...»

«Ку-к-к-ку... к-к-ку...»

Трапяткі матыль прыцiснуўся да самай шыбы...

«Кій-йа! А-а!» — Пругкі кулачок пяцігадовага жэўжыка абрынуўся на чарговую кузюрку. Матыль таргануўся раз, другі — і зваліўся ў шчыліну паміж падваконнем і пісьмовым сталом. Ледзь чутны ўздых палёгкі пранёсся па пакоі... Душа лесніка-зязюлі беспераШкодна ўзнеслася туды, дзе ёй даўно ўжо належала быць.

Так скончылася гэтая фантастычная гісторыя, распачатая шмат гадоў таму. Канешне, ніхто гэтага не заўважыў і ніхто б у гэта не паверыў. І хаця б можна было яшчэ паразважаць над сутнасцю і недахопамі гэтага сюжэта, пашукаць аналогій і расшыфраваць сістэму яго сімвалаў, але цырульніца ўжо вядзе сваё сямейства абедаць у рэстарацыю, і фрызура на яе галаве пераліваецца ад перакісвадародна-белай да звычанай брунетна-чорнай...

*1995*

## Сяброўкі

### *1. Элачка*

Не ведаю, як у цябе, паважаны чытач, а са мной нярэдка здараецца ў хвілю задумення — злятаюць з вуснаў словы, нібыта не мной сказаныя, прынамсі, не ўсвядомленыя.

Зазвычай гэта глабальныя высновы, кшталту: «Жыццё цудоўнае» ці «Абрыдла ўсё». А бывае і ўвогуле нешта фантастычнае, але дужа экспрэсіўнае... Тады паспрабуй растлумачыць сваім бліжнім, чым выкліканы той ці іншы эмацыйны ўскрык...

На Усходзе ёсць прымха, што беспрытульныя духі падпільноўваюць час роздуму і мар чалавека, каб прамаўляць яго вуснамі...

Калі гэта так, то ля нашай суседкі Элачкі ўвесь час круціўся адзін нахабны дух, бо з яе вуснаў зрывалася аднатыпнае: «Хачу на мора... На мора б, на сонца...» Адзінаццаць з дванаццаці месяцаў года Элачка нудзілася па сонцы, моры і садавіне, нетутэйшых, яркіх, спакусных. Можна было падумаць, што наша суседка нарадзілася недзе на поўдні, і люстравалі ейныя цёмныя вочы сузор'е Паўднёвага Крыжа. Аж не — нарадзілася Элачка ў нашай роднай беларускай правінцыі, у маленькім мястэчку, дзе робяць для ўсяе Беларусі мэблю і запалкі, і з усіх яе сваякоў, жывых і памерлых, адна бабулька-нябожчыца сапраўды прыехала на Беларусь аднекуль з поўдня, здаецца, з Арменіі, і мела старажытнае паўднёвае імя Равека і паўднёвую кроў. Праўда, акрамя імені, Элачка нічога пра сваю бабулю не ведала, але ж сваяцтва ў нашым цывілізаваным грамадстве заўсёды можна пацвердзіць дакументальна...

Гэтая акалічнасць і вызначыла лёс Элчынай сям'і. Элчын муж, Міця, тоўсты і дабрэнны нашчадак беларускага сялянскага роду, заліваўся слязьмі на нашай кухні: Элачка вырашыла, што яму, Міцю, іхняй васьмігадовай дачцэ і асабіста ёй, Элачцы, будзе куды лепей жыць не тут, на атручанай радыенуклідамі і нітратамі глебе, а там, дзе вечнае сонца, цёплае мора і нябачаная тут садавіна, і ўвогуле ўсё інакш.

А значыць — лепш.

І гэта проста шчасце, што ёсць у Элчыным радаводзе бабуля са старажытнай паўднёвай крывёю, і гэта дае ім усім права на месца пад тым гарачым сонцам, на той благаславёнай зямлі, дзе лунаюць над зялёнымі вінаграднікамі словы Саламонавай песні, а ў Сцяне між небам і зямлёю, Сцяне Плачу Вечнага горада знойдзецца шчылінка і для іхніх малітваў...

Элачка заўсёды мела рацыю. Увесь дом ведаў, як на дзень нараджэння Элачкі Міця прыпазніўся — у ягонай архітэктурнай майстэрні здавалі чарговы праект, а гэтую справу належыць адзначаць. Міця прыйшоў позна, але з букетам гваздзікоў. І мініяцюрная вірлавокая Элачка, якая ўвесь вечар прасядзела на самоце за накрытым сталом,

хвастала Міцю па твары тымі гваздзікамі, і вочы яе гарэлі сапраўдным паўднёвым тэмпераментам... А Міця пакорліва паўтараў:

— Як добра, Элачка, што я не купіў табе ружы...

Назаўтра яны разам з вясёлымі каментарамі апісвалі гэтую сцэну суседзям і знаёмым...

Міця быў вялікае дзіця. А Элачка была вечным падлеткам, з вечнымі спадзяваннямі і рамантычнымі памкненнямі. Нездарма ніхто не зваў яе Элай — толькі Элачкай, як згаварыўшыся. Яна нідзе не працавала ад самага сканчэння мастацкай вучэльні, але была ўпэўнена, што магла б зрабіць нешта незвычайнае... Напрыклад, намаляваць такую карціну, што ўсе ахнуць і ўзрушацца і адразу стануць лепшымі... А пакуль што Элачка малявала на маленькіх кавалачках ДВП яркія, амаль цацачныя пейзажыкі і шыла лялькі, якія развешвала ў кватэры па сценах. Твары і рукі лялек яна ляпіла з цеста, а на ўборы збірала шматкі прыгожых тканін па ўсім доме. Хаця без ваганняў магла адхапіць на ляльчын каўнер кавалак уласнай парадной блузкі. Ды і лялькамі ў звыклым уяўленні Элаччыны фантасмагарычныя фігуркі не былі — дамы, кабальера, блазны, феі, вядзьмаркі, каралі... У мяне дасюль ёсць Элаччын выраб — Пані ў чорным: белы бязвокі твар-маска, высокі капялюш-караблік, карункі, расшытыя шклянымі перламі... Сама Элачка такіх убораў ніколі не мела. Дый увогуле мала што мела — за дзесяць год сумеснага жыцця яны з Міцем абставілі сваю хрушчоўскую аднапакаёўку раскладушкай, канапай і жалезнымі паліцамі. Гонарам Элачкі была купленая ў камісійцы шафа для вітальні — з вялікай люстэркавай нішай пасярэдзіне. Шафу ўрачыста паставілі ў залу. Ды пасля смерці Элаччынай маці з маленькага мэблева-запалкавага мястэчка (трохпакаёўка яе так і адышла дзяржаве, бо не паклапаціліся ні пра прыватызацыю, ні пра абмен) Элаччыну кватэру прыўкрасілі стары сервант, дыван у чырвона-чорныя шашачкі і трохі пацямнелага парцэлянавага посуду.

Але — што тыя рэчы? Каму яны на гэтым свеце дадалі шчасця і нашто яны на тым?

Затое адзін месяц у годзе Элачка з сям'ёй абавязкова праводзіла на моры. За год строгай эканоміі збіралася сума, дастатковая для таго, каб набыць білеты на цягнік і зняць катух дзе-небудзь у Ялце, Алупцы ці Гаграх.

Там, дзе мора, сонца і садавіна.

«Хачу на мора»,— зрывалася з вуснаў Элачкі, калі мы стаялі ў чарзе ў дзіцячай краме ці гулялі з дзецьмі па рэдкіх прысадах гарадскога сквера.

Між тым час быў неспакойны. Развальваліся адны дзяржавы і ўзнікалі другія, людзі вырашалі, як жыць далей. Паступова пачыналі ўсведамляць, што зямля, на якой ім выпала жыць, не проста кавалак зямной паверхні, а прыўкрасны і таямнічы свет, поўны легендаў і памяці пра крывавыя і рамантычныя падзеі. Свет непаўторны, і, для каго адкрыецца, адзіны. Загучала напоўніцу старажытная славянская мова гэтай зямлі — неўміручая, як трыпутнік, і прыгожая, як валошка. Элаччына дачка пачала вучыцца ў класе з беларускамоўным навучаннем.

— Трэба ведаць сваё, трэба,— згаджалася Элачка.— А нас ужо не перавучыш. Не навучылі гаварыць па-беларуску, а цяпер позна. Мы ж усе думаем па-руску, нават дзеці...— і з вуснаў яе зноў злятала задумлівае: «Хачу на мора... Хачу да сонца...»

А сонца якраз і не было. Выдалася халоднае дажджлівае лета. На сценах Элаччынай кватэры прыбаўляліся новыя Пані і мушкецёры з цеставымі бязвокімі тварамі, дачка ўвесь час шморгала носам і перхала, і Элачка часта стаяла ля акна, тужліва глядзела на шэры краявід і плакала. І, напэўна, пацяху ненавідзела гэты дождж, гэтае шэрае неба, вечныя чэргі і сваю маленькую кватэру без балкона, памяняць якую на большую не было ніякай надзеі.

Дарога мае тую неадольную прывабнасць, што здаецца вырашэннем любых праблем. Рушыцца з месца, пакінуць усё, забыцца на ўсё — і ты вольны, чысты, адроджаны. Нездарма падарожжа спакон веку лічылася справай святой і не кожнаму па сілах...

Тым дажджлівым летам Элачка, відаць, і вырашыла: трэба ехаць. Дакладней, ад’язджаць...

Мы доўга не ведалі пра Элаччыны намеры. Элачка і Міця — на зямлі абетаванай?! Хіба што тэма анекдота. Тым больш што ў Міці «пайшла» праца, іх майстэрню забрала сабе прыватная фірма, і Міця пачаў больш-менш прыстойна зарабляць на праектаванні лецішчаў для «новых беларусаў». Да ўсяго нашы суседзі завялі сабаку, падобнага да рудой тумбачкі, басэтхаунда, здаровага і няўклюднага: ножкі кароценькія, тулава даўжэзнае, вушы валакуцца па зямлі, вочы чырвоныя, бо павекі вывернутыя, і пашча вечна слінявая... Пародзістага сабаку займелі задарма — ён нарадзіўся з дэфектам ніжняй сківіцы, і гаспадары аддалі яго Элачцы.

Бедны Міця, дарэчы, вельмі баяўся сабак. Не тое каб ён уцякаў ад кожнай шаўкі, але ў прысутнасці чацвераногіх сяброў увесь напружваўся і стараўся не рабіць рэзкіх рухаў. Таму наяўнасць у кватэры слінявай тумбападобнай пачвары была для Міці, як мне здаецца, сапраўдным выпрабаваннем. Кожны раз, калі мы заходзілі да суседзяў, Міця дэманстратыўна браў свайго сабачку за тупую морду, цалаваў у нос, трапаў за вушы, загрывак і паўтараў:

— Я цяпер сабак зусім не баюся! Не разумею, як я мог іх баяцца! Ну хіба гэта можа настрашыць? Гэта ж не сабака, а кот! Чыста кот! Рабі з ім, што хочаш!

Але круглыя блакітныя Міцевы вочы глядзелі спалохана, як вочы стараннага троечніка, які пераконвае выкладчыцу матэматыкі, што больш за мульцікі любіць рашаць задачкі...

Сабаку Элачка вырашыла ўзяць з сабой. Міця збіў будку з мяккай абіўкай унутры. Пры відовішчы будкі, часова выстаўленай на лесвічную пляцоўку, увесь дом зразумеў: гэтыя не жартуюць, едуць...

Куды? Да каго? Навошта?

Адны ухвалялі рызыкоўны ўчынак: сапраўды, што тут губляць? А там хоць нашчадкам будзе добра. Другія круцілі пальцам ля скроні: ехаць на чужыну, не маючы там ні сваякоў, ні знаёмых, ні вялікага запасу грошай, ні прафесійных навыкаў, на якія ёсць попыт?

Я глядзела на Элачку з трывожнай цікавасцю і — што ўтойваць — з крыўдаю...

Здаецца, Брэдберы напісаў, што калі чалавек адыходзіць, мы сумуем не па ім, а па тым, што страцілі з ягоным адыходам.

Так, была крыўда — проста на тое, што ніколі ўжо не пасядзім мы на маленькай кухні Элачкі і Міці. А сядзелі мы там часта — гадзін да трох, чатырох ночы, пакуль дзеці спалі. І гаварылі, гаварылі, гаварылі... Гэта былі класічныя кухонныя інтэлігенцкія размовы — не за пляшкай, а дзеля самой размовы: пра тэатр, кіно, літаратуру, палітыку...

Ніколі не будзе сумесных паездак у лес, у парк, на вадасховішча, у лазню: Элачка па першым слове ўскідвалася, збіралася — і ў паход!

Ніхто ўжо не запросіць нас на дзіцячыя карнавалы на Новы год і дні нараджэння...

Не будзе да каго ў любы час — як толькі наспее — схадзіць са сваімі «бабскімі» праблемамі, выгаварыцца, паскардзіцца...

Не будзе каму арганізоўваць сумесную ранішнюю гімнастыку, прабежкі вакол дома. Не будзе ў чый адрас круціць пальцам каля скроні: «Ну, чудзікі...»

Хаця крыху пазней я ўпэўнілася, што ўсё вышэйпералічанае не знікла, усё паўтарылася, толькі з іншымі людзьмі і ў іншых абставінах. І тым больш не бывае вакантным месца дваровых «чудзікаў».

У апошні дзень перад ад'ездам Міця спазніўся на развітальную вячэру: таможня не афармляла дакументы, бо Міця хацеў узяць з сабой падарунак супрацоўнікаў — карціну, на якой былі адлюстраваны Элачка і Міця ў лаўровых вяночках і белых хітонах пад пышнай пальмай на фоне сіняга-сіняга мора. Карціну вырашылі пакінуць у кватэры — усё роўна пакуль што будуць яе здаваць знаёмым. А раптам давядзецца вяртацца...

— Мора! Сонца! Садавіна! — ускрыквала Элачка, накладваючы гасцям салаты.— Прыедзеце да нас — разам паплаваем у салёненькіх хвалях!

Не, настрою на вечнае развітанне не было. Затое прысутнічала адчуванне нейкай абсурднасці.

— Ну што ты там збіраешся рабіць? — нарэшце звярнулася я да Элачкі.— Ты ж увесь час казала, што не можаш без духоўнага жыцця, без нашых пасядзелак, без тэатраў, музыкі, выстаў. А якія мела напалеонаўскія планы — і наконт уласнай выставы, і наконт таго, каб заснаваць сваю архітэктурную фірму...

— А мы там фірму заснуем! — весела адказала Элачка, і пытанне прыліпла ў мяне да языка. Можа, у Элачкі на зямлі абетаванай усё-ткі багатае сваяцтва, ці патаемныя запасы грошай? Чаго я лезу не ў сваю справу?

Элаччына і мая дочкі натхнёна гулялі ў лялькі, і ім не было ніякай справы да хуткага расстання. Басэтхаунд хадзіў вакол стала і дружалюбна лупіў паленападобным хвастом па нагах гасцей. Я шукала нейкіх слоў, якія б і мяне самую прымірылі з тым, што адбываецца:

— Урэшце, там вельмі цікава жыць...

Элачка, якая з уласцівай ёй хуткасцю электравеніка сноўдала між кухняй і залай з салатніцамі і бутэлькамі, няўважна адказала:

— Так, канешне, нам будзе цікава.

Я, насмеліўшыся, працягвала думку:

— Там свая культура, традыцыі, звычаі. Старажытная мова, літаратура. На тваім месцы я пачала б сур'ёзна з гэтым знаёміцца, каб увайсці ў гістарычную атмасферу, зліцца з народам...

— А навошта нам тыя звычаі? — Элачка нарэшце прысела з намі за стол.— Гэта не для нас. Дый якія з нас габрэі? Там шмат такіх, як мы, што адсюль прыехалі, так што паразумеемся!

І яны ад'ехалі.

Апошняя лялька, якую зрабіла Элачка, быў... кактус. Вялізны кактус з пап'е-машэ, унутры — пустыя пластыкавыя бутэлькі. Расфарбаваны гуашшу, з пышнымі папяровымі кветкамі. Кактус Элачка «пасадзіла» ў сапраўдны гліняны гаршчок і паставіла на падваконнік, засыпаны каменьчыкамі, ракавінкамі і аскалёпкамі керамічнага посуду. Суседкі, што выгульвалі ў двары дзяцей і ўнукаў, тры дні спрачаліся пад Элаччыным акном: сапраўдны кактус ці не? Калі сапраўдны — дык дзе такі ўзяла? Калі несапраўдны — нашто выставіла?

Вырашыла спрэчку тое, што па тэхналогіі вырабу размаляваны кактус двое сутак сох, а на трэція Элачка наклеіла на яго кветкі.

— О, кветачкі распусціліся! — радаваліся суседкі.— Сапраўдны!

І доўга яшчэ кактус на акне Элаччынай кватэры нагадваў мне пра суседзяў, і здавалася, што яны вось-вось вернуцца.

Праз год прыйшлі весткі з зямлі абетаванай: Элачка працуе пасудамыйкай, Міця прыбірае смецце на будоўлі, дачка вучыцца ў школе. Жывуць нашы былыя суседзі на беразе мора, у катэджы (з земляной падлогай і без кухні), у Міці алергія на клімат, але ж няма ніякай радыяцыі, і садавіны — хоць задушыся.

Пра сабачку ніхто нічога не ведаў.

Адзіны раз Элачка нам патэлефанавала. «Сонца», «мора» і «садавіна» перасыпалі яе энергічную гаворку. Але я заўважыла, што гэтыя паняцці перайшлі ў яе з падсвядомага ў рацыянальнае — яна называла іх, як мы называем «дождж», «зарплата», «прастуда». Элачка ні пра што не пыталася, і мае пытанні згасалі без адказаў...

— Усё добра. Я шчаслівая.

А пасля далёкая Элаччына сваячка прадала па даверанасці іх кватэру. Апошні раз я пабачыла Элаччыных лялек з белымі сляпымі тварамі ў шыкоўных матыльковых строях — сваячка выносіла іх зваленымі ў скрыню. Напрыканцы з кватэры вынеслі карціну, на якой былі Міця з Элачкай пад пальмай.

Кактус з пап'е-машэ, абадраны, палінялы, стаяў на лесвічнай пляцоўцы. І я падабрала яго.

...За акном лье наш традыцыйны дождж, праз сценку чуваць, як па тэлевізары перадаюць апошнія паведамленні, я гляджу на велізарны кактус, на яго новыя прыклееныя папяровыя кветкі і думаю пра Элачку, якая грэецца на паўднёвым сонцы, кожны дзень уваходзіць у салёныя цёплыя хвалі мора, і, напэўна, шчаслівая...

Таму што не можа быць праўдай благая вестка, якая дайшла да суседзяў, што быццам Элачка ўтапілася ў сваім цёплым родным моры... Тым больш што суседка не ўпэўнена, ці то наша Элачка загінула, ці то ейная цёзка...

*2. Антошка*

Не люблю вялікіх і яркіх карцін.

У мастацкім музеі я ўпадабала невялічкае палатно расійскага мастака Ге «Пацалунак Юды». Хутчэй за ўсё не карціну, а эцюд. Пэўна, і спадабалася мне менавіта недагаворанасць, незавершанасць... Леанарда да Вінчы нездарма раіў маладым мастакам разглядаць узоры плесні на сцяне. Гадзінамі стаяла я і глядзела на прывіднае месячнае святло Гефсіманскага саду, залацістую лёгкую постаць Ісуса і прыпаўшую да яе халодна-зеленаватую фігуру Юды — быццам светлая палаючая свечка, і спаўзае з яе змяшаны з попелам нагар... Гэта была мая таямніца. Насуперак нуднай працы, вечнаму недахопу грошай, модным вясёлым кампаніям, у якія ці то мяне не прымалі, ці то ад «гонару бедных» не ішла сама... Кожную суботу я прыязджала ў музей, на спатканне з Ге, з мастацтвам, з Вечнасцю... Божа, як я хвалявалася! Як гарэлі шчокі! Хіба гэта можна было параўнаць з дыскатэчным каханнем маіх равесніц? Аднойчы стаяла я перад сваёй улюбёнай карцінай і цешылася ўласнай выключнасцю. Побач са мною спынілася худзенькая рудая дзяўчынка з вострым носікам у рабацінках і вялікім усмешлівым ротам. Адзенне, як і ў мяне, «з прэтэнзіяй на мастацкасць»: пастэльныя колеры, вязаны шалік, самаробная біжутэрыя — скура, дрэва, макрамэ... Незнаёмка захоплена пазірала на здрадны пацалунак Юды — пасля я даведалася, што гэтак жа захоплена яна ўмее пазіраць на ўсе з'явы жыцця.

— Якая таямнічая карціна!

Я скасавурылася на рудую энтузіястку. Слоўца за слоўца, разгаварыліся... Родная душа! А як завуць?

— Антошка!

Убачыўшы маё здзіўленне, засмяялася і растлумачыла:

— Ну, на самай справе — Антаніна... Але ўсё-ткі Антошка!

І зноў звонкі смех, і рабацінкі, здаецца, таксама рассмяяліся, рассыпаліся звонкім золатам...

Лёс Антошкі быў падобны на мой. Гэтаксама спрабавала сёлета паступіць у інстытут, не паступіла — і цяпер працавала «на вытворчасці» ці то лабаранткай, ці то чарцёжніцай... Праца была не больш, чым «службай», а дом — не больш, чым месцам пражывання: бацькі прысвяцілі жыццё хворай старэйшай сястры Антошкі. Але задзірыстая, абаяльная энергія маёй новай знаёмай знаходзіла сабе выйсце ў наведванні не толькі мастацкага музея, але ўсіх імпрэз, што адбываліся ў горадзе, а таксама гурткоў макрамэ, фларыстыкі, вязання, курсаў ангельскай мовы і студыі бальных танцаў... І ўсё — з усмешкай і захопленасцю...

Дзе мы толькі не пабывалі з Антошкай! У цырку яна пацягнула мяне ў службовы ўваход і за пятнаццаць хвілін антракту пазнаёмілася з джыгітамі і іх коньмі, атрымала ад маленькага чарнявага наездніка яблык і скарміла беламу каню сваё марозіва... Праз знаёмых знаёмых даставала Антошка запрашэнні на прэзентацыі тэатральных спектакляў і выстаў, у мастакоўскія майстэрні і дыскусійныя клубы. Мы пачалі хадзіць у турпаходы і спазналі свет людзей, паглынутых стыхіяй Здаровага Ладу Жыцця — там богам быў Поль Брэг, а евангельскімі запаветамі — раздзельнае харчаванне і галаданне.

Званіў тэлефон, я падымала трубку і чула аптымістычны заклік:

— Сустракаемся каля «Пацалунка Юды»! У пяць гадзін!

Колькі ўсяго напісана і нагаворана пра жаночае сяброўства! Помніцца, у адным савецкім дэтэктыве на гэтую тэму выказваецца ўладальніца прыватнай крамы капелюшоў. Маўляў, дваццаць год прадае капялюшы дамам, і ніводная жанчына не выбірала капялюшык без сяброўкі, і ніводная сяброўка не дала правільнай парады. А сур'ёзна? Калі ў жанчыны з'яўляецца сям'я — муж, дзеці, усе яе знаёмствы аўтаматычна адыходзяць (павінны адыходзіць) на другі план. Пэўна, тут дзейнічае інстынкт, які і робіць жанчыну захавальніцай і выратавальніцай чалавецтва. А вось мужчыны так любяць і пасля жаніцьбы падтрымліваць «сапраўдную мужчынскую дружбу» і даказваць верным сябрукам, што жонка яго не «акруціла» і не «ўзяла пад абцас», і ўвогуле ён — гаспадар свайго жыцця... І няхай

«яна» хоць лопне са злосці са сваімі сумнымі хатнімі справамі, а рушыць святое не дамо! (А святое, між тым, і рушыцца...)

Я паступіла ў той інстытут, які хацела, у чужым вялікім горадзе. Антошку ў яе запаветны тэатральна-мастацкі не прынялі, і бацькі «паступілі» яе ў малацікавую навучальную ўстанову вытворчага профілю. Усё радзей я чула ў свае таксама нячастыя наезды звонкагалосыя запрашэнні сустрэцца, і спатканні ля Ге амаль перарваліся... Нарэшце я патэлефанавала Антошцы, каб запрасіць яе на сваё вяселле...

— Ведаеш,— прамовіла Антошка такім разгубленым і вінаватым голасам,— а я замужам... Ужо тыдзень... Тут такія абставіны... Не ведаю, ці атрымаецца прыйсці... Прабач.

Недзе праз паўгода Антошка пазваніла і коратка паведаміла, што нарадзіла сына, якога назвалі Вітаўтам, што жывуць яны то ў яе бацькоў, то ў бацькоў мужа — былога аднакурсніка. А калі адбывалася чарговае непаразуменне між старэйшым і малодшым пакаленнямі, і рэчы маладых аказваліся выстаўленымі на лесвічную пляцоўку, Антошка казала: «Пэўна, так трэба...» — і перадыслацыроўвалася са сваёй сям’ёй да тых бацькоў, якія выганялі іх мінулы раз. Мусіць, на адносіны пакаленняў уплывала і тая акалічнасць, што Антошка з мужам ніяк не маглі ўладкавацца на працу. Але самае галоўнае — яны ўдваіх іграюць у народным тэатры, і ў іх маса творчых планаў, і ўвогуле — жыццё цудоўнае! Сустрэнемся каля Ге!

Прайшло гады два. Антошка зусім знікла з майго жыцця. Раптам я ўбачыла яе ў адной выпадковай для мяне кампаніі, як я іх называю, «будыстаў-ёгістаў». З Антошкай быў яе муж, Хведар, як высветлілася, дакладная яе копія, толькі на паўметра вышэйшы. Абое «рыжыкі» з захоплена-ўзнёслымі тварамі пагойдваліся ў рытме медытатыўнай музыкі і спявалі мантры. Антошка пазнала мяне і зараз жа, прысеўшы на бакавіну майго фатэля, абрынула сваю «інфармацыю». Яны з Хведарам толькі цяпер знайшлі сэнс жыцця, пазнаёміліся з касмічнымі пасрэднікамі і кожны вечар праводзяць сеансы сувязі з вышэйшым настаўнікам (як я зразумела, чамусьці з дапамогай звычайнай спірытычнай дошкі). Прычым гэты настаўнік загадаў усёй іхняй кампаніі неадкладна адпраўляцца на натуральнае жыццё ў сакральнае месца, каб выканаць касмічную Місію. Месца, адведзенае для выканання Місіі, было на Алтаі.

— Мы ад’язджаем праз два тыдні! Будзем там жыць у намётах, вырошчваць сабе ежу і здабываць агонь! — захлыналася Антошка.— Федзя пачне пісаць вершы, Аксана, галоўная наша сувязная, складзе кнігу прадказанняў. Мы бяром з сабою музычныя інструменты, будзем сачыняць музыку! Дзеці паедуць з намі! Вітаўт наш вырасце гарманічным чалавекам!

Антошка шчабятала, а я з жахам глядзела на яе круглы жывоцік: месяцаў шэсць будзе, пэўна... Перахапіўшы мой позірк, Антошка жыццярадасна паведаміла, што яе Хведар чытае спецыяльную літаратуру, каб прыняць роды ў намёце...

Пра Ге і «Пацалунак Юды» я нават не рэкнула.

Недзе праз год Антошка аб’явілася зноў.

— Ну, з кім цябе віншаваць — хлопчык? Дзяўчынка?

— А, ведаеш, нічога не атрымалася... Пэўна, так трэба...

Голас крыху здрыгануўся, і зноў — інфармацыя, інфармацыя... Уладкаваліся ў прыватны лялечны тэатр, ездзяць па школах, дзіцячых садках... Антошка атрымала ролі Бабы Ягі і Лісічкі, усё цудоўна, толькі з лялькамі цяжка ўпраўляцца... Далей высветлілася, што жывуць пакуль на дачы сяброў — свякруха са свёкрам выгналі «прыпыленую» нявестку, а Антошкіны бацькі з такой жа насалодай спусцілі з лесвіцы «вальтанутага» зяця.

— Збіраемся ехаць жыць у вёску,— «парадавала» мяне Антошка.— Праўда, мы ніколі раней не жылі ў вёсцы, але я адчуваю, наша карма — працаваць на зямлі...

Прайшоў яшчэ год. За гэты час прыватны лялечны тэатр, у якім працавалі «рыжыкі», прагарэў, і яны сапраўды паехалі на вёску і некалькі месяцаў спрабавалі нешта вырасціць на запушчаным агародзе пакінутай хаты і нават завялі курэй. Малы Вітаўт гадаваўся ў адной з бабуль. Пасля, як я даведвалася з рэдкіх званкоў Антошкі, спрабавалі яны жыць з мужам паасобку — кожны ў сваіх бацькоў. Але, пэўна, звёў іх лёс назаўжды — не змаглі... Спрабавалі працаваць па сваіх інжынерскіх спецыяльнасцях — ды ўсё ненадоўга. Ездзілі ў Сібір збіраць кедравыя арэшкі — на дарогу патрацілі болей, чым зарабілі... Закупілі «тавару» і павезлі за мяжу — у памежжы нарваліся на банду рэкецціраў, якія тавар «сканфіскавалі», заплаціўшы кухталямі ды мацюкамі. Спрабавалі нават праз ваенкамат завербавацца ў якуюсь «гарачую кропку»... Але ж і ў ваенкамаце ёсць недурныя людзі... Атабарыліся нарэшце ў бедным палескім калгасе.

— Ты абавязкова павінна да нас прыехаць! — захоплена крычала Антошка на тым канцы тэлефоннага провада.— Якія тут мясціны! Адчуваеш прысутнасць Бога! У нас ёсць свой Дом! Хопіць месца ўсім!

І — як заўсёды: творчыя планы — збіраюцца ставіць спектакль, сачыняюць музыку, пішуць вершы...

Маладосць аблятае, як лісты з дрэва. Вось, здаецца, яно ўсё яшчэ зялёнае і трапяткое, а лісты зрабіліся жорсткімі і запыленымі, а вось першая жаўцізна кранула вершаліну... Зляцеў ліст, другі... Шамаціць восеньскае золата... Здаецца, нічога не мяняецца, а шаты з кожнай раніцай усё празрысцей, усё цішэй, і вось паказаўся голы пруток галінкі... Аднойчы зірнеш за акно — а там на месцы прыгажуні бярозкі толькі голы чорны каркас, такі безабаронны і непрывабны...

Неўзабаве пасля таго, як мы з мужам і дзецьмі пераехалі на новую кватэру, пазваніла Антошка.

— Ну, прывітанне! Ледзь знайшла твой новы тэлефон! А мы ўжо тут!

Як высветлілася, «рыжыкі» зноў туляліся па розных гарадскіх кутах. «Свой дом» давялося пакінуць. Старшыня беднага палескага калгаса нездарма прыняў на працу «жаўтадзюбікаў». Усё, што Антошцы з мужам удалося зарабіць на «цёплых» пасадах, давялося папрадаваць, каб пагасіць невядома скуль узніклую недастачу. А пасля іх яшчэ ледзь не «ўпяклі» ў турму за нечыя фінансавыя фокусы, што рабіліся за іх спінамі (можа, такія разявакі і заслугоўвалі). Хведар паспрабаваў з уласцівай яму грунтоўнасцю дабіцца «праўды»: збіраў нейкія паперкі, ездзіў па раённым і абласным начальстве, у рэдакцыі і г. д. Нарэшце сустрэўся ў цёмным месцы з купкай прафесійна «накачаных» хуліганаў і атрымаў сваю «праўду», ды так, што ледзь дадому дапоўз... Хуліганаў, вядома, не знайшлі. І ўвогуле, міліцыянт сказаў Антошцы: «А можа, гэта ты сама мужыка пабіла з рэўнасці...»

Карацей, цяпер Антошка пляла макрамэ і вязала дыванкі для аднаго прыватнага прадпрыемства. А Хведар, уздзеўшы апошні прыстойны касцюм, хадзіў па фірмах у пошуках працы... Вітаўта выхоўвала Антошкіна маці, якая раз і назаўсёды забараніла зяцю з'яўляцца на парозе яе кватэры і нават тэлефанаваць... І побач з гэтым — народны тэатр, фларыстыка, астралогія... І клуб беларуска-індыйскага сяброўства.

— Давай сустрэнемся ля Ге! Сто гадоў не бачыліся...

У суботу я пакінула дзяцей на мужа і паехала ў мастацкі музей. Чамусьці захацелася апрануцца асабліва добра і «па-мастацку». Мой

макіяж, колеравая гармонія адзення, парфума былі... ну, не бездакорныя, але на вышэйшым узроўні маіх сціплых інтэлігенцкіх магчымасцяў. Я надзела нават адзіны залаты пярсцёнак з аквамарынам, які надзявала ўсяго два ці тры разы ў асабліва ўрачыстых выпадках. І вось яно, хваляванне прамінулага юнацтва, чырвань кідаецца ў шчокі, вочы, напэўна ж, праменяцца... Зараз, як пятнаццаць гадоў назад, спатканне з Ге... Месячны пацалунак Юды і — Антошка...

На версе лесвіцы да асноўнай экспазіцыі, каля тоўстай мармуровай калоны, шарэла худзенькая постаць — Антошка? Рудыя валасы ў неахайным вузельчыку, вочы — у сетцы дробных маршчынак, самавязаная светла-зялёная сукенка, а каб не відаць, што заношаная — зверху шаль, звязаны з тоўстых бэжавых нітак...

А голас — як і раней, звонкі і захоплены.

— Ну, прывітанне! Як цудоўна, што мы сустрэліся! Сёння спрыяльны дзень для аддачы кармічных даўгоў! Рушым хутчэй на наша месца! Я без цябе вырашыла не ісці — перажывём разам момант пазнавання!

Мы пайшлі па залах. Але чамусьці на месцы нашай таямніцы вісела яркая жанравая карцінка з жыцця рускіх тракціраў. Я разгубілася, а Антошка начала бегаць па зале, пасля падышла да бабулькі-наглядчыцы... І — вось ён, Ге... Ці не? Карціну, якая раней знаходзілася ў прыцемку, перавесілі ў цэнтр ярка асветленага планшэта. У дадатак яе, як і астатнія, пакрылі тоўстым слоем лаку. Фарбы заззялі, бессаромна раскрыліся, знікла назаўсёды таямнічае месячнае святло і прывіднасць постацяў, і больш не перахоплівала горла ад таго, што вось Ён, такі светлы і крыху сумны, аддаецца на пакуты, і прыліп да Яго пляча з пацалункам-укусам зялёны Юда, а Пятро апускае меч, таму што нельга аддаляць такую смерць...

Рама была шырокая і шчодра вызалачаная. Сціскала яна ў сваіх прамакутных абдоймах звычайны эцюд, неахайны мастакоўскі накід... На вочы ўсё-ткі навярнуліся слёзы, але не ад узрушэння, а ад крыўды... Забойцы!

Я нічога не сказала Антошцы. Мне здалося, што такі ўдар лепей перанесці моўчкі... Але Антошка загаварыла сама, усё тым жа звонкім, захопленым голасам:

— А карціна яшчэ прыгажэй зрабілася! Паглядзі, фарбы якія яркія! І святла тут больш! Блішчыць як!.. Ну, пойдзем уніз, там выстава нямецкай гравюры...

*1995*

## ЗМЕСТ

**Рублеўская, Л. І.**

Ночы на Плябанскіх млынах : раман, аповесць, апавяданні / Людміла Рублеўская.— Мінск : Маст. літ., 2013.— 526 с.

ISBN 978-985-02-1428-7.

У кнігу вядомай пісьменніцы Людмілы Рублеўскай увайшлі гатычны раман «Скокі смерці», у якім журналістка Ганна Барэцкая і рэстаўратар Юрась Дамагурскі разгадваюць таямніцу сярэдневечных гадзіннікаў, аповесць «Ночы на Плябанскіх млынах», дзе міфы і легенды Мінска пераплятаюцца ў запамінальную містычна-рамантычную карціну, цыкл «Старасвецкія міфы горада Б*», што спалучае антычныя міфы і рэаліі старасвецкага беларускага мястэчка, а таксама апавяданні, у якіх дзейнічаюць і паўстанцы Каліноўскага і Касцюшкі, і нашы сучаснікі. Героі Людмілы Рублеўскай вырашаюць адвечныя праблемы выбару паміж годнасцю і бяспекай, каханнем і здрадай, захаваннем гістарычнай памяці і абыякавасцю. У кнізе ёсць і прыгоды, і містыка, і гумар, і псіхалагізм, і развагі над лёсам Беларушчыны.

**УДК 821.161.31/32**

**ББК 84(4Беи)-44**